# Крапіва



# 2

АПАВЯДАННІ
ФЕЛЬЕТОНЫ
ПАМФЛЕТЫ
АРТЫКУЛЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1997

## ЗДАЎ «АКЗАМІНТ»

Васілька і сам добра не ведаў, калі і адкуль ён з'явіўся на свет, але мама яму казала, што яго прынёс бусел. Той, што зрабіў сабе гняздо на Цімохавай сушні.

Ну і сярдзіты ж быў Васілька на гэтага бусла!

— Каб ты здох праз ноч! Каб табе дзюба адсохла! — бывала кляне ён, як толькі бусел залякоча.

Не за тое сярдзіты быў на бусла, што ён прынёс самога Васільку, але за тое, што за Васількам бусел прынёс яшчэ і Петрыка і Тадорку, якіх Васільку прыходзілася калыхаць і няньчыць.

А Тадорка ж была гэткая нягодная! Як толькі Васілька з Гарбузовых Тацянаю пачнуць гуляць у вяселле, напякуць пірагоў з пяску, накупляюць піва ды гарэлкі, дык Тадорка ніколі не чакае, пакуль яе пазавуць як сваццю ці як дружку, але падпаўзе неспадзеўкі ды заграбе і пірагі, і гарэлку. Яшчэ не такі быў бы жаль, каб яна зрабіла гэта як людзі, а то раней з'есць пірог, а потым зап'е гарэлкаю.

Ну, хто ж бы сцярпеў гэтакі непарадак? Не цярпеў яго і Васілька, але на яго няшчасце ў Тадоркі было горла, як у добрага пастуха, а слёз, дык, мусіць, па цэлай конаўцы пад кожнай вейкай, і маці заўсёды чула, калі Васілька яе крыўдзіў.

Тады часта здаралася, што разам з Тадоркаю галасіў і Васілька, і можна было падумаць, што там скарэй спраўляюць хаўтуры, а не вяселле.

Акрамя няньчання дзяцей у Васількі быў яшчэ адзін цяжкі абавязак — штодзень маліцца богу.

— «Рошчую... сушчую... багародзіцу... чавель... і чаем»,— цягнуў ён штодзень за маткаю, стоячы на каленках і не разумеючы ні аднаго слова з таго, што гаварыў.

Прабаваў ён дапытвацца ў маткі, што гэта за «рошчая з сушчаю» і «чавель з чаем», але і яна не ўмела растлума-

чыць яму як след і толькі адказвала, што гэта бог хоча, каб яму так маліліся.

З усіх слоў малітвы яму найболей падабаліся гэтыя незразумелыя «чавель і чаем», бо імі звычайна канчалася яго штодзённая пакута.

Калі Васільку пайшоў шосты год, дык яму прыбавіўся яшчэ адзін абавязак — вучыць азбуку. Тут ён меў справу ўжо з бацькам, які вучыў па-старасвецку і часта ўганяў яму веды зусім не з таго канца, з якога належала.

Не раз тут Васілька ўспамянуў нядобрым словам бусла, які прынёс яго на гэтакую пакуту...

— Татка! Я хачу ў школку,— часта прасіў Васілька.

— Ты яшчэ малы,— звычайна адказваў на гэта бацька.

Тады Васілька хуценька падбягаў да стала і, мераючыся, даводзіў, што ён не малы і што стол яму ўжо толькі па вочы. Разумеецца, бацька супроць гэтага доваду не мог нічога сказаць, але ж яшчэ была маці...

— Сыночак! — гаварыла яна.— Я ж яшчэ табе портачак не пашыла. Пачакай, вось я натку шарачку ды пашыю табе новенькія портачкі, дык тады сабе пойдзеш у школку.

І прыходзілася чакаць, бо ісці ў школку ў адной кашулі, хоць і доўгай, неяк не выпадала.

Так і не пайшоў Васілька тую зіму ў школу.

Летам Васілька пасвіў гусей, бегаў штодня на рэчку купацца, часамі лазіў у Тарасавых бручку і не ўгледзеў, як і тая восень надышла.

Аднаго ранку Васілька толькі што скончыў свае малітвы і сеў за стол есці цалкушкі з кіслым малаком, а бацькі збіраліся ехаць на поле капаць бульбу, як да іх у акно пастукаў Міхась Кураводчын (ён тады старастам быў).

— Кастусь,— гукнуў ён,— мо будзеш сына ў школу выпраўляць, дык няхай ідзе запісвацца — настаўнік прыехаў.

Васільку нібы віхор падхапіў з-за стала, і ён раптам апынуўся ў маткі на шыі.

— Мамачка! Мілая, дарагая, залатая, пусці мяне ў школку! — прасіў ён.— Я ўсё, усё буду рабіць. Што ты ні скажаш, буду цябе слухаць — і з Тадоркаю буду гуляць, і парсючку мяшаць, і на гару па макаўкі не палезу — адно пусці мяне ў школку.

— Ну, як, бацька, пусцім Васіля ў школку? — звярнулася маці да Кастуся.

— Няхай ідзе, калі хоча; няхай пападзірае яго там настаўнік за вушы,— адказаў Кастусь.

Пры гэтых словах Васілька чуць не пад столь падскочыў, нібы ён надта рад быў, што яго настаўнік за вушы пападзірае.

Матка пачала рыхтаваць Васільку ў школу. Яна прынесла яму новыя портачкі і чыстую белую кашульку, валасы расчасала і прыгладзіла, як у нядзельку, нават намазала масла на хлеб і ўсё прыганяла Васільку есці; але яму не наўме была яда.

— Глядзі ж, сынок,— навучала яго маці,— калі настаўнік запытае, як цябе зваць, дык ты скажы — Васіль; калі запытае, як айцец завецца, дык ты скажы — Кастусь; можа, і пра матку будзе пытацца, дык скажаш — Марыля, а прозвішча Асцюк.

— Вось нашла што сказаць! Я гэта яшчэ летась ведаў,— адказаў рызыкоўна Васілька і праз хвіліну стаяў ужо ў Габрусёвых пад акном і чакаў іхняга Паўліка, каб разам ісці запісвацца.

Калі яны з Паўлікам ішлі па вуліцы, дык Васілька ўвесь час голасна гутарыў, смяяўся і выглядаў надта храбрым. Але як толькі яны сталі падымацца на ганак школы, дык у яго сэрца пачало моцна тахкаць і ногі зрабіліся нейкімі млявымі.

Са школы чуцён быў гуд, нібы там пчол раздражнілі. Яшчэ ў сенцах Васілька сцягнуў з галавы шапку і, трымаючыся за Паўлікаву апранаху, увайшоў за ім у клас.

Нейкі час Васілька стаяў і баяўся зварухнуцца,— надта ж незвычайна было ўсё ў гэтай хаце: каля сцен у некалькі радоў стаялі чорныя, вузкія не то сталы, не то скрынкі; пасярэдзіне стаяў жоўты стол, а за ім сядзеў нейкі пан у чорным ды нешта пісаў у вялізнай рабой кнізе. Да яго па чарзе падыходзілі дзеці ды нешта яму гаварылі. Каля самага настаўніка (Васілька здагадаўся, што пан у чорным быў настаўнік) на трох нагах стаяла чорная дошка, нібы і яна прыйшла запісвацца ды чакала свае чаргі.

Баючыся адарвацца ад Паўліка, Васілька неўзаметку для самога сябе падышоў да самага настаўніка.

— Як цябе зваць? — запытаў настаўнік.

— Васіль,— ледзь чутна адказаў Васілька.

— А айцец?

— Кастусь...

— А як фамілія?

— Марыля...

Ззаду пачуўся рогат. Засмяяўся і настаўнік.

Васілька здагадаўся, што ён сказаў нешта нядобрае. Ён зачырванеўся, як бурак, і стаў аглядацца па баках, ці няма як уцячы...

— Яго фамілія — Асцюк,— гукнуў бойка Паўлік.

Настаўнік нешта стаў пісаць, а Васілька ўдзячна паглядзеў на Паўліка і прыхіліўся бліжэй да яго.

Прайшло некалькі дзён.

Васілька ўжо зусім асвойтаўся са школаю і нават раз на каленях стаяў за тое, што парабіў сабе чарнілам вусы.

Аднаго разу большыя вучні нешта пісалі, а з меншымі настаўнік перакладаў малітву «Отчэ наш» з незразумелай славянскай мовы.

— «Отче наш, иже еси на небесех» гэта азначае — айцец наш, які ёсць на небе. Айцец гэты, дзеткі, стварыў неба і зямлю і ўсіх нас,— гэта сам бог,— тлумачыў настаўнік.

Але Васілька дрэнна чуў тлумачэнні настаўніка, бо ён у той час заняты быў важнаю гандлёваю справаю — ён з стражнікавым Юзікам мяняўся грыфлямі і браў бліщчасты гузік прыдатку.

— Асцюк Васіль! Скажы, хто цябе стварыў? — раптам запытаўся настаўнік.

«Бусел прынёс»,— мільганула ў галаве Васількі. Але тут жа ён успомніў, як праз сон, словы настаўніка — «айцец стварыў усіх нас...».

— Мяне стварыў айцец,— нясмела адказаў ён.

— Які айцец і дзе ён знаходзіцца? — дапытваўся настаўнік.

— Мой бацька, ён у гумне малоціць...

Пры гэтых словах увесь клас паехаў з рогату, а кніжка, якая была ў руках настаўніка, паляцела ў галаву Васількі. Чырвоны як рак настаўнік падышоў да Васількі і са словамі «Вон, балван!!!» вывеў яго з-за парты. «Не смей больш прыходзіць! Скажы бацьку, што ты ўжо здаў экзамен»,— дабавіў ён.

«За што?! — думаў, ідучы з плачам дадому, Васілька.— Ён жа і сам казаў, што ўсіх нас стварыў айцец. А мне ж мама гаварыла, што айцец, дык гэта значыць — бацька. Але, напэўна, лепш бы было, каб я сказаў, што мяне прынёс бусел,— можа б, я тады і не здаў гэтага праклятага «акзаміnту».

Праз нейкі час Васільку зноў прынялі ў школу, але цяпер і вялікія і малыя не давалі яму праходу, просячы, каб

ён расказаў, як здаваў «акзамінт», ці проста пыталіся: «Хто цябе стварыў?!»

Цяпер Васіль Асцюк ужо дарослы хлопец і служыць палiткiраўнiком у Чырвонай Арміі, але, пэўна, ён яшчэ не забыўся, як здаваў «акзамінт».

*1923*

## ВЯСНА

*(Малюнак)*

Чырвоная вясна павяла рашучы наступ. Белая зіма здае свае пазіцыі на ўсім фронце, толькі дзе-нідзе, у самых глухіх закутках, замацаваліся яе белыя атрады, але і тыя, бачачы немінучую сваю пагібель, праліваюць раўчукі слёз.

Сонца з самага ранку пачало атаку і прасоўваецца наперад, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй. Пад поўдзень яно зойме камандную вышыню і тады — трымайся, белыя атрады!

Пеўні, узрадаваныя прыходам вясны, паднялі такі лямант, што калі заплюшчыць вочы, дык здаецца, што знаходзішся не ў вёсцы, а ў курэчай рэспубліцы. Вось двое з грамадзян гэтай рэспублікі распачалі барацьбу не на жыццё, а на смерць з-за чубатай красуні. Яны абшчыпалі да крыві адзін другому грабяні, і хвасты іх нагадваюць мокрую хвашчанку, але ў абодвух відаць рашучасць — перамога або смерць. А тая, за якую яны біліся,— чарнявая, з высокай моднай зачоскай і з чырвоным, як жар, тва... ці то-бок, грэбенем,— ужо зусім забылася аб дурнях-дуэлянтах. Яна захапілася новым паклоннікам і дарыла яму свае ласкі. Дый было кім захапіцца: гэта быў маладзец у поўным сэнсе гэтага слова — плечы і крылы яго адлівалі золатам, хвост складаўся з выгнутых палосак чорнай варанёнай сталі, а на нагах красаваліся шпоры. Ён падышоў да яе, расшаркаўся, як самы далікатны кавалер, і стаў мармытаць кампліменты.

І не вытрымала жаночае сэрца. Не вытрымала тут жа, на вуліцы, на вачах у публікі.

Нявольнікі зімы — каровы і авечкі — сваім рыканнем і бляяннем таксама даюць знаць вясне аб сваім жаданні вырвацца на волю.

Прыляцелі аб'яднаныя ў прафсаюзы гракі і распачалі гаспадарчае будаўніцтва, дзеля чаго наладжваюць мнагалікія сходы і вядуць на іх гарачыя спрэчкі.

Дробнабуржуазная варона зусім абалдзела ад іх ляманту і валтузні і не ведае, якую платформу заняць ёй у адносінах да суседзяў.

Жаваранак з паднебнай высі перадае на зямлю па радыё весткі аб хітрыках нябеснай дыпламатыі.

Працаўнікі зямлі — вераб'і, начытаўшыся за зіму «Беларускай вёскі» і ўявіўшы сабе ўсю важнасць угнаення, горача ўзяліся за веснавую кампанію і старанна разграбаюць гной. А кот Цімох прытаіўся за вуглом і толькі чакае зручнага моманту, каб напасці на іх — сапраўдны Чэмберлен.

Група дзяцей захапілася планам штучнага абваднення: яны адводзяць ваду з ручая на больш высокія пясчаныя месцы. Вынікі не прымушаюць сябе доўга чакаць: зараз жа з'яўляюцца пірагі, бліны і аладкі. Пяцігадовыя і шасцігадовыя грамадзяне на радасці зараз жа пачынаюць гуляць вяселлі. Толькі такія скараспелыя шлюбы рэдка бываюць шчаслівымі: звычайна сямейныя сцэны пачынаюцца зараз жа пасля вяселля, а то часамі і ў самы разгар вяселля, пры гэтым пускаюцца ў ход і пірагі, і аладкі, і ўсе іншыя вынікі меліярацыі. Тут, разумеецца, мацяркі не прапускаюць зручнага выпадку, каб паднесці добры вясельны гасцінец у выглядзе плескачоў па мяккім месцы і маладому, і маладой, і самаму старшаму механіку — свату.

На прызбе Трахімавай хаты адбываецца чарговы жаночы сход. З прычыны добрай пагоды і святочнага дня сход асабліва мнагалюдны і шумны. Таварыш Матрона ўжо прачытала лекцыю аб тым, як трэба саджаць курыцу на яйцы, пры гэтым падкрэсліла, што для таго, каб курыца сядзела акуратна і каб кураняты былі чубатыя, неабходна саджаць курыцу на захадзе сонца, скубці яе за чуб і паказваць ёй фігі. Упамінанне аб фігах навяло таварыша Дароту на думку аб яе двухгадовым Паўлючку. Яна тут жа зрабіла даклад аб тым, які яе Паўлючок разумны і якія хвацкія фігі падносіць ён свайму татку. Павестка дня вялікая і разнастайная, і сход абяцае зацягнуцца да самага вечара.

А вось і сам гаспадар гэтай хаты — Трахім. Дзякуючы святу, ён да звычайнай порцыі сну дабавіў яшчэ гадзін пяць-шэсць, і дзеля гэтага твар яго не вызначаецца асаблівай свежасцю і прыгажосцю, а па галаве і па барадзе нібы віхор прагуляўся. Яго няхітры гарнітур складаецца са

зрэбнай кашулі і шарачковых портак, якія нейкім цудам трымаюцца на адным толькі гузіку. Падцяжкі або большы лік гузікаў у портках лічыцца ў вёсцы «буржуазнымі забабонамі».

Сонца, убачыўшы Трахіма, засаромелася і, як вясковая маладзіца хвартухом, закрылася невялічкай хмаркай. Дый было, напэўна, чаго саромецца, бо калі Трахім павярнуўся тварам да жанок, то дружны рогат быў яму прывітаннем. Ён зразу змікіціў, у чым справа, і, папраўляючы на хаду свой гарнітур, накіраваўся ў хату. Яму таксама прыйдзецца сёння быць на сходзе, але сходы барадатых прадстаўнікоў пачынаюцца шмат пазней, і пытанні на іх абмяркоўваюцца больш сур'ёзныя.

Наогул, з прыходам вясны грамадскае жыццё і барадатых, і безбародых, і двухногіх, і чатырохногіх, і крылатых, і бяскрылых тубыльцаў вёскі надта ажывілася.

*1922*

## НА ПАСЁЛКІ

Нібы ў патрывожаным чмяліным гняздзе стаяў гул у хаце Антося Драча. За сінімі хмарамі дыму цяжка было разгледзець рысы твараў. Шапкі і касматыя каўняры кажухоў ды дзе-нідзе яшчэ чорная або рыжая шчотка барады — вось і ўсё, што зразу можна было разгледзець.

— Антось! Гэта ж твая лямпа тухне. Ці ёсць у ёй газа?

— Газы я толькі што наліў; гэта духу сабралася, дык яна і тухне. Палажы там на шкло шчэпку, а я прычыню трохі дзверы.

— А вы, жэўжыкі, чаго тут боўтаецеся, як у палонцы,— не пара спаць?

— Але, ліханька ім, і сну на іх няма. Скарэй за сталага дапнуць усюды.

— І дзе іх настаўнік, чаму ён іх за вушы не круціць?

— О! Цяпер біцца няможна. Наш настаўнік добры, ён так нас навучае, не б'ючы.

— Навучае... Наўчыў вось цябе на сабак брахаць.

— Глядзі хаця, каб твой Васіль, што «дабро» мясіў, не брахаў, а я-то не брашу.

— А што, вось і займіся з брыдою! Гэта ж такі шарахвост — ён жа табе з-пад сучкі яйцо ўкрадзе.

— Мусіць, гэтак, як ты пасак у Сроліка.

Кругом зарагаталі.

— Ах ты, сукін сын! Дык ты будзеш яшчэ аскізацца!

Але пакуль Пятрусь расперазаў папружку, дык хлапец, як уюн, прашыўся між дарослых і зарагатаў аж ля парога.

У другім кутку чуўся голас Міколы Маркача, якога, кругом акучыўшы, слухала чалавек дзесяць мужчын.

— Едзем мы гэта сабе — яны паперадзе, а я за імі. Пад'язджаем мы гэта пад рэчку, аж бачым — конь у аглоблях ляжыць на лёдзе і чалавек каля яго тупае. «Браткі, кажа, памажыце! Гэта ж, ліха на яго, падковы тупыя, дык ён ніяк астояцца не можа». Я ўжо вылез, хацеў ісці — што ж, бяда чалавеку. «Ну й чалавек з цябе! — адказалі з пярэдняга воза.— Не ведаеш, што рабіць? Вазьмі распранiся ды пасцялі кажух — ён абапрэцца, астоіцца і пойдзе». «А можа, й праўда!» — прагаварыў той і, доўга не чакаючы, кажух з плеч дый падкінуў яго пад перад каню. Конь, як бы здагадаўшыся, што трэба рабіць, паставіў абедзве пярэднія нагі на кажух ды давай гэта папяцца, каб устаць...

— А можа, й памагло? — запытаўся адзін з слухачоў.

— Дзе ты бачыў! Ногі як пакаўзнуліся, дык кажух аж да самага каўняра...

— Мужчыны! Дык мы ўжо пачнём? Больш, бадай, мала хто і прыйдзе? — запытаўся старшыня сельсавета.

— Ды ўжо, хто меўся, то прыйшоў.

— Можна пачынаць, а то пакуль мы збяромся, дык людзі й ноч разбяруць,— адказалі некалькі галасоў.

— Дык, значца, дазвольце сход лічыць адчыненым. Цяпер нам трэба выбраць прэзідыум для вядзення сходу.

— Ды які там яшчэ празідым! Вось ты й кіруй... табе больш вядома.

— Пратакол пісаць вось Кастусь Грыбоў можа, ён добра граматны,— запрапанаваў нехта.

— Кастусь! Кастусь! Вы ўдвох, дый будзе, чаго там яшчэ! — падхапілі разам некалькі галасоў.

— Супроць ніхто не мае?

— Ды не! Не!

— Якое там «супроць», гэта ж мо не дзяліць штонебудзь выбіраем або не ў чаркі гуляць.

— Дык вось слухайце — я зачытаю парадак дня.

— Ужо зараз і ноч пройдзе, а ён яшчэ парадак дня збіраецца чытаць,— пачуўся асцярожны голас ад печы.

— Першае пытанне гэта, знацца, аб выхадзе на пасёлкі,— прагаварыў старшыня.

— Яшчэ якую хваробу выдумаюць! Мала яшчэ гэтага, дык хочуць, каб апошнія порткі скінулі.

— Бач, не падабаецца! Чаму ж — табе й так раскошна. Кадук цябе не бярэ...

Загулі, загаманілі, закрычалі, а што — нельга было распазнаць.

— Дык ціха ж! Чаго вас так узнасіла? — крычаў старшыня.— Гэта ж яшчэ толькі парадак дня.

— Які гэта, чорта матары, парадак! Ніякага парадку няма,— кіпеў Сцяпан Крываножка.

— Ціха! Слухайце далей!

Гоман патроху сціх.

— Другое пытанне — гэта аб начной варце, трэцяе — бягучыя справы. Дабаўленняў ніякіх не будзе?

Усе маўчалі.

— А што гэта за стравы такія бягучыя? — запытаўся стары Мацей.

Некаторыя засмяяліся.

— Ды ўжо ж, калі бягучыя, дык не іначай — рэдкія: можа, крупнік ці зацірка,— жартавалі другія.

— Справы, а не стравы. Гэта, знацца, тое, што мы будзем абгаварваць — разумееш? — растлумачыў старшыня.

— Ды ўжо цяпер буду, мусіць, разумець,— адказаў стары.

— Дык дабаўленняў, пытаюся, ніякіх не будзе?

— Ды не! Якія там дабаўленні.

— Дык дазвольце павестку лічыць прынятаю.

— Дазваляем,— адазваўся зноў адзін голас сярод агульнага маўчання.

— Дык вось я хачу, знацца, некалькі слоў пра гэта пытанне. Зямлі ў нас, як вам вядома,— кот наплакаў. Дый зямля не надта што: дзе пясок, дзе мылец, а дзе й сам не разбярэш, што яно такое. Не тое, што вунь у Кармалёх, што каб дзіця пасадзіў на раллі, як кажуць, то й яно б расло. Яшчэ б не такая бяда, каб гэта зямля ды ў адным куску, вобрубам, знацца, а то глядзіце вы: гэта ж толькі аднаго поля шаснаццаць палосак ды сенажаці сем, вось і лічы, колькі ўсяго будзе. Вядома, што пры гэтакай шматпольнай цераспалосіцы гаспадарку падняць нельга. А тут яшчэ некаторыя палосы вунь у чортавых зубах. Гэта ж пакуль ты ў Калюшкі завязеш воз гною, дык у гарод бы

сем-восем вывез — і каню лягчэй, і ў працы спарней. Вось савецкая ўлада, знацца, і павярнулася гэтым самым тварам да вёскі. А як павярнулася, дык і ўбачыла, што ў нас непарадкі. Дапамагчы ж гэтым непарадкам можна, толькі выйшаўшы на пасёлкі. Тым, хто выходзіць на пасёлкі, савецкая ўлада дае палёгку: прысылае, знацца, каморнікаў, аграномаў і шмат яшчэ чаго. Вось нам сёння таксама трэба пагаварыць пра гэта, каб, значыцца, выпісаць каморніка і ўсякія там штукі і з вясны ўжо пачаць рэзаць.

Старшыня скончыў. Некаторыя, насупіўшыся, нешта мармыталі сабе пад нос, другія маўчалі і аглядаліся на бакі, чакаючы, хто пачне першы.

— Хто хоча выказацца па гэтым пытанні? — запытаў старшыня.

— Якое там выказацца — не хочам, дый толькі. Яшчэ нейкую трасцу выдумалі. Нашы бацькі жылі без гэтакіх штук, дый не горш за нас, і нам не патрэбна.

— Не трэба! На чорта! Ім не якая трасца выдумляць, а нам — згуба! — Загаманілі, замахалі рукамі, бліжэй да стала пасунуліся.

Зачырванеўшыся, раструханая, наперад праціснулася ўдава Сталярыха.

— Старшыня! Братка! Саколік! Даражэнькі! Не пайду я на гэтыя пасёлкі! Забі, зарэж! Застрэль! Дык усё роўна не пайду. Няхай хоць самы большы прысядацель прыедзе з Менску, дык не пайду. Мужчынкі! Браточкі! Падумайце ж вы самі — адна з пяцярыма дзяцьмі — што ж я буду рабіць? Будынак той, хата тая — верацяном растрасеш. Пакуль на месцы, яшчэ сяк-так ліпіць, а разбяры, дык і выбіраць нечага будзе.

— Ціха, цётка! Яшчэ не пераходзім.

— Чаго там ціха? Сталярыха праўду кажа.

— Ціха! Супакойцеся, мужчыны! Давайце толкам пагаворым! Супакойцеся, мужчыны! Давайце толкам пагаворым! Супакойцеся!

Гул патроху стаў уціхаць.

— Дык хто хоча яшчэ выказацца? — запытаў старшыня.

— Дарэмная гэта ўсё выдумка,— падняўся Антось Хрыпун, паўвалочны гаспадар.— Дапамогу, кажа, дадуць. Дадуць, а як жа! Дагоняць ды яшчэ й прыбавяць. Вунь сакалоўцы выйшлі летась, дык далі ім дапамогу! Трасцу ў бок. Ніводнага рубля з налогу не скінулі; і лесу нават не далі колькі трэба — вунь яшчэ ў зямлянках сядзяць...

Я прасіў вунь, каб далі пеньчукоў дзесяць хату скончыць, дык і то не далі, а то яны дапамогуць на пасёлкі пераходзіць, лесу ўсім дадуць.

— Не далі, то добра й зрабілі. У цябе ж ёсць хата, ды яшчэ й добрая. Хаця б таму даць, у каго зусім развальваецца,— загамаціў Вінцэсь Каленікаў.

— Дык табе, мусіць, трэ было даць? Ты вунь і тое пагнаіў, што табе летась далі.

— Ды не — табе ўсё аддадзім, бо ў цябе горла шырокае ды кішэнь тоўстая.

— На, во! брадзяга! Бачыў ці не? Можа ж, не ты мне ў кішэнь наскладаў. Скача, як чорт на дроце. Нібы яго хто й баіцца.

— Ну, ты савай, ды паволі, бо калі суну, дык і яндоўку гэту распару, не пабаюся, што ў цябе морда тоўстая.

— Да дай ты яму, Вінцэс, поўху! Гэта ж гэтак ён цябе збэсціў. Я ўсё роўна б не сцярпеў.

— Біць — закон не вяліць, але — пхнуў, каб не дыхнуў,— жартавалі мужчыны.

— Можа б, ты пхнуў? — накінуўся Антось на жартаўніка.— Не, не дажджэ твая лытка, покуль ты мяне пхнеш.

— Наліха ты мне здаўся! Няхай цябе чэрці ў балота пхаюць.

— Ну, вы пасварыцеся ў нядзелю, час маючы, а цяпер давайце канчаць,— стаў супакойваць старшыня.

— Да сціхніце ж! Вадою вас трэба разліваць ці якое ліха? — крыкнуў ён яшчэ раз.

— Хто яшчэ хоча слова?

— Дазвольце мне! — устаў малады хлапец, што сядзеў ля стала.

— Што казаў Антось Хрыпун — гэта ўсё няпраўда. Савецкая ўлада не крыўдзіць сялян, бо яна тварам да вёскі, таварышы. Антось гэта знарок гаварыў, каб адбіць людзей ад пасёлка, бо яму, таварышы, і так добра — ён паўвалочны кулак. А савецкая ўлада дапамагае, бо каб яшчэ не змычка, а то цяпер жа, як вы самі ведаеце, змычка.

— Адкуль ты ўзяўся гэтакі разумны? Ці даўно я цябе путам лупіў, застаўшы ў гаросе? — абазваўся Антось.

— Бо ён жа, мусіць, у камсамолы запісаўся, дык і розуму набраўся.

— За бацькаваю галавою ўсякі разумны. Нябось як свая вош укусіць, то тагды не будзе гэтакі разумны,— падтрымалі некаторыя Антося.

— А што, мо няпраўду ён кажа? Але, бач, як цягнуць адзін за другога,— сталі супярэчыць другія.

— Дык ідзі пацалуйся з ім, калі ён табе мілы...

Зноў загаманілі, закрычалі, замахалі рукамі...

— Мужчынкі-браточкі, зарэжце! Забіце! Няхай самы найбольшы прысядацель...— сярод агульнага гоману выдзяляўся высокі голас Сталярыхі.

Сход прыкметна падзяляўся на дзве часткі, але каторая з іх была мацнейшаю, разабраць не было магчымасці.

На гэты раз старшыні не скора ўдалося супакоіць мужчын. Чырвоныя, потныя, яны так горача ўзяліся бараніць свае пазіцыі, што многія забыліся ўжо, з чаго пачалі, і, выкопваючы розныя здарэнні з мінулага, клапаціліся толькі аб адным — каб як наймацней укалоць адзін другога.

— Хто яшчэ хоча слова? — пракрычаў нарэшце старшыня, калі гоман трохі ўціх.

— Вось тут Міхась нешта хоча сказаць,— адгукнуліся з грамады.

— Гавары, Міхась!

— Ды што ж тут казаць. Яно праўда, што й працы лішняй многа, і палоскі вузкія — як ляжа сабака, дык на чужых хвост і ногі, як тыя людзі кажуць. Але ж і на пасёлкі, мусіць... нічога не будзе. Вось і зямля няроўная, а кожны скажа: дай мне хоць меней, але лепшай. Дый рыштунку многа, што-та гаварыць — з хаткі ў хатку, дык на рубель упадку, а тут не рублём пахне. Яшчэ ж як хто з сілаю дый будынак нішто, дык таму сяк-так, але вось што рабіць гэтакім, як Сталярыха? Ды яшчэ ж, каб прыбавілі які кусок зямлі або сенакосу, дык бы можна й на пасёлкі ісці, а калі толькі гэту рэзаць, дык, бадай што, ніякай карысці не будзе.

— Карысць будзе, і нават вялікая,— сказаў яго сусед,— і працы менш, і вырабіць лепш можна, і ад агню няма такое апаскі, а толькі згоды вось у нас няма.

— Няма і не будзе. Які гэта дурань згодзіцца? — загаманілі зноў мужчыны.

— Забіце! Зарэжце! Хай самы большы прысядацель! — закрычала Сталярыха, але, бачачы, што гоман мужчын уціх, зараз жа спынілася.

— Я думаю, што ўжо досыць выказаліся па гэтым пытанні. Больш жадаючых няма? — запытаў старшыня.

— Ды няма. Ужо не толькі выказаліся, але й выкрычаліся,— адказалі мужчыны.

— Дык я стаўлю на галасаванне. Хто за тое, каб выйсці на пасёлкі, падыміце рукі!

Пяць-шэсць рук паднялося, а рэшта мужчын — хто аглядаўся на бакі, не ведаючы, што яму рабіць, а хто стаяў і маўчаў, унурыўшыся ў апуху свайго кажуха.

— А хто процiў?

Зноў толькі пяць рук, а рэшта — як стаялі, так і засталіся.

— Дык што ж вы, знацца, ні «за», ні «процiў» — мусіць, і самі не ведаеце, чаго хочаце? — упікнуў старшыня.

— Бо й не ведаем. Гэтага адразу нельга рашыць. Трэба парадзіцца, пагаварыць,— пачуліся ў адказ галасы.

— Дык што ж будзем рабіць?

— Я вось што радзіў бы,— падняўся Кастусь, які пісаў пратакол,— сёння не галасаваць — няхай кожны парадзіцца з жонкаю, адзін з другім, але трэба выбраць камісію, якая заўтра ці паслязаўтра пройдзе па сяле, апытае ўсіх, хто хоча на пасёлкі, а на другім сходзе нам скажа.

Прапанова ўсім спадабалася.

У камісію выбралі Кастуся і яшчэ двух маладых мужчын.

— Дык у нас яшчэ адно пытанне засталося,— сказаў старшыня.

— Якое там ужо пытанне! Вунь певень пад печчу ўжо два разы падымаў пытанне — трэба ж і яго паслухаць,— сказаў Маркач.

Тым часам мужчыны, якія стаялі бліжэй да дзвярэй, сталі па адным выходзіць з хаты.

Бачачы, што ўжо справа прапашчая, старшыня таксама пачаў збіраць паперы і з грамадою рэшты мужчын выйшаў на вуліцу.

На вёсцы сям-там ужо ззялі залатыя чатырохкутнікі вакон, і шырокія светлыя палосы бляску лажыліся на сцены хлявоў на другім баку вуліцы. Кабеты ўставалі прасці.

Нядаўна я праязджаў праз тую самую вёску, у якой адбыўся апісаны мною сход, і заўважыў, што ніякай працы па землебудаўніцтву там не вядзецца. Невядома — ці то яны паслухалі паўвалочнага Антося Хрыпуна, ці, можа, не адважыліся «зарэзаць» або «забіць» удаву Сталярыху. А скарэй за ўсё — яны проста чакаюць «самага найбольшага прысядацеля» з Менску.

*1925*

## СПОВЕДЗЬ

У царкве сыра, цьмяна і холадна. Дзячок, толькі пачынаючы словы і не канчаючы іх, чытае нешта бясконца доўгае і нуднае, і здаецца, што гэта не дзячок, а чмель жаласна-нудна гудзе ўжо вось каторую гадзіну, б'ецца ў шыбу акна і ніяк не можа выбіцца на волю.

Час-часом яго перабівае густы бас папа Цімоха.

У царкве з правага боку тарчыць шэсць ці сем жоўтых кажухоў, а з іх касматых каўняроў выглядаюць чорныя і сівыя галовы і адна, як вулічны ліхтар, бліщчастая лысіна.

Затое з левага боку шапацяць, як прусакі на печы. Мітусяцца ўваччу markdownрознакаляровыя тарнатоўкі, улачкоўкі, касьміроўкі, а між імі дзе-нідзе мільгаюць ільняныя галоўкі дзяцей.

Час-часом якая-небудзь з кабет, адбіваючы паклоны, прыпадае лбом да самай падлогі, і тады ад кабеты застаецца адзін узгорак, а з яго на абодва бакі ўніз, нібы загоны збожжа, збягаюць зялёныя, жоўтыя і белыя палоскі саматканкі.

Святыя з чорнымі, нібы загарэлымі і па месяцу нямытымі, тварамі глядзяць на веруючых нездаволена, сярдзіта,— так, як бы ім перашкодзілі выканаць нейкую змову.

Адзін з святых, мусіць, баючыся асмаліцца, падняў падол свае адзежыны і скоса паглядае на свечку, якая гарыць каля яго ног.

Сярод святых — адна толькі кабета, якая, сарамліва спусціўшы вочы, прытульвае да грудзей малое дзіця.

Настулька шапнула нешта на вуха суседцы, і, закрыўшыся насоўкамі, яны пачалі пацiху смяяцца.

Настулька з Надзяю — дзяўчаты пісьменныя, знаёмы з настаўнікам, калі-нікалі чытаюць кнігі і газеты і ўжо даўно не вераць у бога, але ўсё-такі прыйшлі спавядацца, бо не хацелі гнявіць бацькоў. Прыемна ім было падражніцца і з папом — саракагадовым удаўцом, які не прамінӑў на споведзі ніводнай дзяўчыны, каб не папытацца ў яе такое, ад чаго яна чырванела, як мак, і не ведала, што адказаць.

Любіў ён таксама яшчэ праверыць, ці добра б'ецца ў дзяўчыны сэрца (хоць праз світку) і нават ці лёгка расшпіляюцца ў світцы гузікі.

Спаведнікі і спаведніцы з жытам у торбачках і з яйкамі ў хустках ішлі перш за ўсё на правы бок, дзе было нешта падобнае да загатканторы — тут стаяла вялікая лубяная каробка і некалькі мяшкоў, куды грэшныя прыхаджане

ссыпалі плату за ачышчэнне ад грахоў, узамен чаго атрымоўвалі квіткі.

Не ва ўсіх, мусіць, спаведнікаў было грахоў пароўну, бо з адных поп знімаў іх за адну хвіліну, а з другімі кешкаўся чуць не гадзіну. Найболей грахоў, як відаць, было ў маладых прыгожых дзяўчат і найменей у мужчын ды ў бяззубых бабулек.

Здаўшы свой «харчпадатак» — па чатыры яйкі,— Настулька з Надзяю гэтаксама пайшлі з квіткамі да папа, каб здаць і грахі.

Першаю падышла Настулька. Гэтай спаведніцы поп надта абрадаваўся, і, накрыўшы яе бліщчастым ручніком ці шалікам, ён так блізка прыхіліўся да яе, што яго чорная барада нясцерпна казытала яе каля вуха.

— Чым грэшная? — пачаў пытацца поп.

— Усім, бацюшка.

— Хлопцаў любіш?

А сам усё бліжэй і бліжэй туліўся да ружовай шчочкі.

— Люблю. Асабліва нашага Міхаську. Ён такі пацешны — ужо гаварыць пачынае.

Шчокі ў папа гараць. Вочкі зрабіліся маленькія, пацямнелі і нібы маслам памазаны. Левая рука ўжо лічыць такты Настульчынага сэрца.

Не ведаючы, як прыняць адказ Настулькі, баця зашаптаў далей:

— Блудзіла з хлопцамі?

— Раз блудзіла, бацюшка.

— З кім жа ж ты?.. Не бойся, дзіця. Прызнайся чыстасардэчна ва ўсім, пакайся — і бог даруе табе, як дараваў Хрыстос блудніцы, якую хацелі пабіць каменнямі...

— З Галавачовых Петрусём,— адказала тым часам Настулька.— Мы хадзілі з ім у грыбы ды заблудзілі — замест сваіх загумёнак выйшлі на леснікоў пацяроб...

Ад такой наіўнасці баця прыйшоў, як кажуць, у цялячае захапленне, і рука яго чуць не з усяе сілы прыціснулася да сэрца дзяўчыны. Але ён тут жа выхапіў гэту руку і на далоні і на сярэднім пальцы ўбачыў дзве чырвоненькія кропелькі — у Настулькі ў пазусе тарчалі іголкі.

— Бог пакарае,— сказаў ён, зачырванеўшыся, і скоранька стаў мармытаць малітву аб адпушчэнні грахоў.

А ў Настулькі на губах бегаў смех — яна ледзьве стрымлівалася.

*1923*

## ЯК ЁН СТАЎ БЯЗБОЖНІКАМ

— Вам дзіва, што я не хрышчуся? — сказаў, вылазячы з-за стала, гаспадар, у якога мы спыніліся начаваць.— Гэта цяпер не дзіва. Я ўжо не першы год бязбожнік. А як я ім зрабіўся, дык вось паслухайце.

Мае нябожчыкі бацькі былі людзі надта набожныя. Яны з усіх жыл стараліся, каб і мяне зрабіць такім: «Можа, чалавекам будзе»,— гаварылі яны.

Бывала, у нядзелю, як толькі забразгае маці скаварода-мі, усхопішся кулём з пасцелі ды скарэй за конаўку мыцца, а адным вокам усё на блін пазіраеш.

— Ідзі ж, станавіся на калені ды гавары пацеры,— кажа бацька.

Не хацелася мне маліцца, як каню ў аглоблі, але нічога зрабіць нельга было. Станавіўся я на калені, і пачыналіся пацеры доўгія-доўгія, як вяроўка. Бывала, як пачнеш з «Госпадзі Ісусе» ды да «дастойнай» пакуль даедзеш, дык аж у горле перасохне, а жывот да самай спіны прыцягне. А тут яшчэ бяда — шапяляў я надта, сюсюкаў. Яшчэ ўсе словы сюды-туды, а як дапаўзеш да «херувім», дык хоць сядзь дый плач — надта ж брыдка ў мяне гэта слова выходзіла. А маці ўжо й дзежку аскрабае.

Тут я ўжо не мог вытрымаць.

— Дальбог, не буду гаварыць! Згараць яны няхай з пацерамі! На чорта яны мне! — крычаў я праз плач. Але тут бацька браўся за сваю папружку...

Ну і балючая ж яна была, каб яе агні! — аж, здаецца, цяпер яшчэ шчыміць.

Тады ў мяне былі два найбольшыя страхі — вось гэта бацькава папружка ды бог, які заўсёды мог кінуць мяне ў пекла, дзе я буду кіпець па вушы ў смале.

Калі я трохі падрос ды пайшоў у школу, дык бацькаву папружку замяніла настаўнікава лінейка, а бог астаўся такім жа страшным, як і быў. Бывала, як стане расказваць настаўнік пра «страшны суд» ды пра «пекла», дык аж мурашкі па целе папаўзуць і валасы стануць дубка.

Вось і выйшаў, такім чынам, з мяне хлапец набожны, такі ж, як і мае бацькі.

Ну, і перадавалі ж мы ў той час богу нямала ўсякай усячыны. Кожны год — не цялё, дык парасё, не парасё, дык цялё пусцім у царкву, хаця каб бог жывёлу гадаваў, а ў саміх дык усяго і жывёлы было — адна кароўка ды адна свінка.

Самі, бывала, зрэбныя кашулі ды порткі насілі, а кужаль маці ўвесь богу аддавала: то на абраз, як носяць па вёсцы, то на абраз у царкву ці ў капліцу, то проста на «мшу».

Вось гэтак яно вялося, аж пакуль не памёр мой бацька. У якім гэта годзе было, я не памятаю, помню толькі, што гэта было неяк скора па калядах у пятніцу.

Паехаў я па папа. Прыехаў на двор ды і ў дом баюся заходзіць, бо я ж тады лічыў, што поп траха што роўны з богам.

Увайшоў я ў кухню, бачу — ля печы стаіць нейкая дзяўчына, а ў печы пячэцца кілбаса і яшчэ нейкія прысмакі.

— Ці можна папрасіць бацюшку, каб ехаў чалавека пахаваць? — запытаў я. Яна пайшла ў суседні пакой і праз хвіліну вярнулася.

— Бацюшка казаў, каб ты пачакаў. Бачыш, у яго сёння госці ды толькі што пачалі ў карты гуляць, дык няма часу,— сказала яна і, узяўшы з услону перапечку, пачала рэзаць яе ў ражку. І трэба ж здарыцца, што гэта была якраз тая перапечка, якую я даў папу, калі ён хадзіў па калядзе. Пазнаў я яе па крыжы на верхняй скарынцы, які маці заўсёды рабіла пальцам на перапечках, калі саджала іх у печ.

«Вось яно чаму богу так многа трэба»,— прыйшла мне ў галаву грэшная думка. Падумаў я і пра кілбасы, якія поп збіраецца есці ў пятніцу, і пра карты, у якія ён у той час гуляў.

«А дзе ж бог? Ці бачыць ён усё гэта?» — запытаў я сам сябе, але тут жа схамянуўся і тры разы перахрысціўся, каб адагнаць ад сябе грэшныя думкі.

Прасядзеў я тады чуць не дацямна ды так і не дачакаўся. Выйшаўшы, поп сказаў мне, каб я ехаў дадому ды прыязджаў заўтра.

Прывёз я назаўтра папа, пахаваў бацьку. Пачаставаўшы папа, запытаў, колькі яму трэба.

— Тры рублі,— адказаў ён.

— Бацюшка! Беднасць... сіроты раздзетыя асталіся... Можа б, было рубліка? — кажу.

— Грэх таргавацца. Супроць бога ідзеш, дый бацька на тым свеце гневацца будзе,— адрэзаў мне поп.

Злосць мяне ўзяла і на папа і на бога. Пазычыў я ў суседа тры рублі і кінуў іх папу на стол.

З тае пары мяне заўсёды нудзіла, калі я слухаў папоўскі казань.

З'яўляліся розныя думкі і пра бога, але ўсё ж такі адрачыся ад яго зусім я баяўся. Вазьму ды згавару калі-небудзь пацеры, хоць не цэлыя, скарочаныя. Няхай, думаю, будзе на ўсякі выпадак, можа, і спатрэбіцца.

Вось так, можа б, яно і дагэтуль цягнулася, але прыехаў на тую пару ў нашу вёску з горада студэнт — сын аднаго нашага селяніна. Ён ніколі не маліўся і не хрысціўся, не святкаваў свят і не пасціў пастоў. Нашы вясковыя звалі яго нехрысцем і бязбожнікам і трохі баяліся яго.

Вось і прыйшла мне ў галаву думка пайсці пагутарыць з ім. Прыйшоў я дый кажу яму: «Чалавек вы разумны і з вялікай адукацыяй. Мусіць, кажу, разумнейшы нават за папа, калі і яго не слухаеце, дык памажыце мне, калі ласка, разабрацца ў маіх думках пра бога, пра чорта і пра папа».

Ён неяк аж зарадаваўся, пасадзіў мяне і давай тлумачыць. Вылажыў ён мне ўсё як на далоні: адкуль і зямля ўзялася, як на ёй розныя жывёліны, а пасля і чалавек з'явіўся і як людзі сталі выдумляць розных багоў і кланяцца ім. У мяне нібы заслона спала з вачэй.

З тае пары я з богам ужо зусім расквітаўся. Жаніўся — дык абышоўся без папа, а цяпер вось скора і малое будзе, дык гэтаксама не думаю хрысціць. Што за карысць, што поп паплюхае яго ды яшчэ ў халоднай вадзе. Гатоў, чаго добрага, прастудзіць яшчэ. Я лепш сам пакупаю яго ў цёплай вадзіцы.

Гаспадыня тым часам паслала нам пасцель, і мы, разважаючы пра боскія справы, паспяшылі легчы, бо назаўтра трэба было заранеў уставаць, каб папасці ў Койданаў, пакуль адчыніцца загаткантора.

*1924*

## КАРОВІН МУЖЫК

Гэтак у нашай вёсцы дражняць аднаго чалавека.

Не падумайце, людцы, што ён сапраўды пажаніўся з кароваю. Калі не верыце мне, дык паглядзіце ў метрыкі, і там напісана, што ён «жанаты на дзяўчыне 22-х гадоў Антолі Васілёвай Скрыль».

А чаму яго так прадражнілі, зараз раскажу.

Тодар Гракоў быў сабе дзяцюк, ды і ўсё, нічым, здаецца, ад іншых хлопцаў не вызначаўся: і вочы, і вушы, і нос былі ў яго на тым жа самым месцы, як і ў іншых, толькі драў ён гэты свой нос угору дык надта, мусіць, высока, бо я не раз чуў, як дзяўчаты гаварылі:

— Вось у Тодара нос дык і фігай не дастанеш.

— А нос жа... Каб што людскае — табакерка дзеда шаўца,— жартавала весялуха Алеська.

— Каму ж і драць нос, як не Тодару,— гаварыла звычайна цётка Тацяна, да якой дзяўчаты збіраліся на вячоркі.— Тодар жа адзін у бацькі, паўвалокі поля, пяць кароў...

— І сам жа — жывёла,— дабаўляла якая-небудзь з дзяўчат, і доўга смяяліся з рызыкоўнага Тодара.

Не смяялася адна Стэфка Базылёва, бо яна знала Тодара інакшым і зусім не такім рызыкоўным, якім ён быў звычайна. Ён умеў так моцна абнімаць, і яго вусы так прыемна казыталі ў Стэфкі пад носікам, што яна лічыла яго чуць не лепшым за ўсіх у свеце.

Быў, аднак, час, калі Тодар хадзіў, спусціўшы свой задзірасты нос. Гэта было ў той час, калі, прагнаўшы з Беларусі паноў, савецкая ўлада папрасіла ў Тодара дапамагчы біць буржуяў. Тодар маркоціўся, але мусіў ісці, бо савецкая ўлада «прасіла»-такі не жартуючы.

Праслужыўшы нейкі з месяц у Ельні ці ў Дарагабужы, Тодар атрымаў ліст ад бацькі.

«Тодарка, сынок! — пісаў бацька.— Я ж як уздумаю, што ты там пакутуеш, дык у мяне аж сэрца крывёю абліваецца. Каго ты бароніш? За каго ты пакутуеш? За камунію? За гэтых рабаўнікоў, якія ў твайго бацькі апошні шанак жыта з засека выцягнулі і аддалі басяку Рыгору? Як мага, сынок, старайся вырвацца з войска, бяжы дадому. Тут ходзяць чуткі, што паны зноў хутка вернуцца, а пакуль што схавацца будзе дзе».

Атрымаўшы такі ліст, Тодар не стаў доўга думаць і дзён праз дзесяць быў ужо ў нашым лесе на Воўчай гары, куды маці чуць не штодзень насіла яму есці.

Так Тодар больш за паўгода туляўся па лесе ды па розных закутачках; толькі ў чэрвені тысяча дзевяцьсот дваццаць першага года, калі на дэзерціраў нашай вёскі зрабілі аблаву, чырвонаармейцы выцягнулі яго з падпечка, дзе ён сядзеў разам з курамі.

— Вось у вас тут якія птушкі вядуцца,— дзівіўся старшы.— Гэта, мусіць, нейкага заграпічнага заводу, а яец дык

яна нанесла, пэўна, цэлы падпечак — вось будзеце яечню есці.

— Ды ён і цяпер ці не знёс яйцо з вялікага жаху,— жартавалі чырвонаармейцы,— бо нешта...— і круцілі выразна носам.

Аднак Граковым было не да жартаў: бацька і пшанічнай мукі, і сала, і масла патыкаў старшому, але за гэта быў аблаян, а Тодара з «гонарам» адвялі ў ваенкамат.

Прасядзеўшы месяца з паўтара ў турме і праслужыўшы некалькі месяцаў у часці, Тодар быў зволены ў бестэрміновы водпуск.

Цяпер ужо Тодаравы бацька з маткаю парашылі, што яго пара жаніць. Весці перагаворы падручылася маці.

Аднаго разу ў нядзелю Тодар прыйшоў з гульні і сеў палуднаваць адзін, бо бацька з маткаю ўжо былі папалуднаваўшы. Тут маці і павяла на яго сваю атаку.

— Дзе ты прападаў да гэтай пары? — запытала яна.

— Гуляў,— адказаў Тодар.

— Вось за дзяўчатамі дык і пад'есці няма часу... Жаніўся б нечага, усё ж роўна работнік у хату трэба. Ты ж сам бачыш, што я ўжо нядужая і адна са ўсім управіцца не магу...

— Я і сам думаў аб гэтым,— прагаварыў Тодар, спусціўшы нос у міску, бо ён хоць быў ужо сталы дзяцюк, але яму сорам неяк было прызнавацца, што хочацца жаніцца.

— Ну, дык чаму ж? — узрадавалася маці.— Цяпер жа самая пара: і час вольны, і скаромнае ёсць — парсюка закалолі, а вясною ж ці ўлетку і вяселле не будзе часу гуляць... А каго ж ты думаеш браць? — запытала яна, памаўчаўшы.

— Я думаю Стэфку Базылёву...

— Тодарка!!! Ці ты звар'яцеў?! У каго гэта ты ўкляпаўся,— зацягнула маці.— Ён жа голы як бізун гэты Алесь Базылёў. Што яна табе прынясе? Думаеш, можа, апошнюю карову ад бацькі забярэ? У яе ж нават ні куфра, ні ў куфар няма. І што ты на ёй гэтакае ўбачыў? Колькі тае дзяўчыны — з фігу.

Тодар хацеў нешта адказаць, але на гэты час у хату ўвайшоў бацька, дык ён зноў нагнуўся над міскаю.

— Ці ты чуў, Міхась? — звярнулася маці да бацькі.— Гэта ж наш Тодар хоча з Стэфкаю Базылёваю жаніцца.

— З Стэфкаю? Хіба ж ён збіраецца з ёю на вуліцы жыць ці мо Алесь да сябе возьме, а мне ў хаце не трэба гэтага галыша,— адрэзаў бацька.

— І я яму ўжо гэта казала,— падтрымала маці.— Ты ж падумай, сынок, аб тым, што людзі будуць пальцамі паказваць. Гэта ж ганьба будзе ўсёй нашай радні, калі ты яе возьмеш.

— Ну, дык чаго ж вы гэтак на мяне навалiлiся, я ж з ёю мо яшчэ не павянчаўся,— стаў абараняцца Тодар.

— А я казаў бы,— пачаў бацька, як бы не чуючы, што сказаў Тодар,— што ёсць шмат дзяўчат і лепшых за Стэфку і багацейшых. Вось хоць бы і Антоля Скрылёва — чым не дзяўчына? І здаровая і багатая; прыйдзе, то і ў хату нешта прынясе...

— А бацька ж Антолін казаў,— падхапiла маці,— што калі Антоля пойдзе за добрага хлопца, дык ён дасць самую лепшую карову, свінню, дзве авечкі і пяцьдзесят рублёў золатам. А іх жа каровы-каро-о-вы! Надта ж гэта гнядая — яна адна дае вядро малака за раз...

— За няўдачу заўсёды даюць прыдачу,— буркнуў Тодар.

— Вось Стэфка ўдача! Ты дык цацку знайшоў. Цьфу! Каб цябе людзі добрыя не знaлі разам з ёю,— пачынаў злавацца бацька.

— Дурны ты, дурны, Тодар! — пачала зноў маці.— Ты думаеш, усяго і свету, што ў акне. Ты ж ажэнішся, ды будзе ўсяго ставаць, дык і прывыкнеш і палюбіш, а як не будзе ні ўцяць, ні ўзяць, дык і любошчы твае пойдуць марна. Вось паглядзіш, сынок, будзеш каяцца, але не вернецца.

Тодар тым часам папалуднаваў і вылез з-за стала. Яму не хацелася далей весці гэту гутарку.

— Вось будзем бачыць, няма чаго загадзя бедаваць,— прагаварыў ён і, апрануўшыся, выйшаў за дзверы.

«Можа, і праўду кажуць бацькі,— думаў Тодар.— Такі ж яны век пражылі, дык, можа, лепш ведаюць пра гэтыя самыя любошчы. Шкада мне Стэфкі, надта шкада, але ж і супроць бацькоў ісці неяк не выпадае, бо бацька можа і папраўдзе прагнаць нас з хаты, а калі і не, дык ці прыемна ж грызціся з бацькамі?»

У наступную суботу ў Скрылёвых пад акном было поўна народу, а найбольш кабет.

Усе яны штодня бачылі па некалькі разоў і Тодара і Антолю, але неяк не надта і цікавіліся імі, а цяпер дык чуць не біліся за месца пад акном і сачылі за кожным іх рухам — надта ж цікавая рэч ужо гэтыя сваты.

Свату нядоўга прыйшлося таргавацца: Антолін бацька без спрэчак згадзіўся даць за дачкою ўсё тое, аб чым гаварыла Тодару маці.

Самую Антолю і пытаць не трэ было, бо яна хоць і не мела нікога ў асобку, але наогул хлопцы ёй надта падабаліся, і яна даўно ўжо хацела замуж.

Тодар быў нейкі маркотны і мала гаварыў. Ён у сваіх думках прыраўноўваў Антолю да Стэфкі і бачыў, што гэтай далёка да тае і з харáством і з размовáю. Асабліва непакоіла Тодара, як гэта ён будзе цалаваць Антоліны губы, гэткія тоўстыя, кіслыя і падчас засліненыя. І выраз твару быў у яе такі, нібы яна збіралася плакаць, а слова як скажа, дык як у лужыну боўтне...

«Але дарма,— разважаў Тодар,— матка ж казала, што можна прывыкнуць і палюбіць...»

Аб тым, як Граковы гулялі вяселле, гаварыць не варта, бо хто ж не ведае, як яно рабілася ў нас, на Беларусі, да гэтага часу.

Былі на вяселлі, як вядзецца, сваты, браты, дзядзькі, хрышчоныя бацькі, цёткі, свацці, дружкі, суседзі і так знаёмыя. Усе яны шмат елі, яшчэ болей пілі, многа гаманілі ды часам гукалі «горка!» — і тады маладыя павінны былі цалавацца.

Падвыпіўшы, Антоля выпаўняла свой абавязак са смакам і здавальненнем, але Тодару дык заўсёды здавалася, што ён выпіў лыжку рыцыны, як толькі ён датыкаўся сваімі губамі да губ Антолі.

З першых жа дзён пасля вяселля маладая прыйшлася не да густу Граковым — надта ж была яна нейкая нездагадлівая і няспрытная: там зачэпіць, там аберне, там разаб'е або зробіць зусім не тое, што ёй загадвалі.

Раз неяк збіраліся абедаць, і Антоля, наліўшы міску гарачых буракоў, несла іх на стол, а сярод хаты ды ляжала сучка. Ну і трэба ж кабеціне, не ўгледзеўшы, наступіць сучцы на хвост.

— Гыр-гыр! — запратэставала сучка, і міска з гарачымі буракамі паляцела ёй на галаву. Апараная сучка заскавытала на ўсю хату, а перапуджаная кабеціна схапіла ў кожную руку па чарапку і пазірала то таму, то таму ў вочы, не ведаючы, што рабіць далей.

— Вось зграбнота! Ах, каб табе засляпіла! Трэба ж на сучку ўзбіцца. З'еш вось цяпер трасцу з хваробаю,— лаяла свякруха, а свёкар са злосці стаў перыць і гнаць вон няшчасную сучку.

Тодар нічога не абазваўся. Ён сердаваў на бацькоў і наогул гаварыў мала, бо да маладой жонкі ніяк не мог прывыкнуць, а Стэфка неадступна стаяла ўваччу.

Нейк адзін раз пасля здарэння, падобнага да таго, якое было з сучкаю, бацька стаў выгаворваць Тодару, чаму ён не вучыць жонкі, каб яна ўважлівей адносілася да таго, што робіць.

— Не буду я яе, тата, вучыць, і не мая яна жонка,— адказаў Тодар.—Ты ж узяў за мяне замуж Скрылёвых гнядую карову, а гэту кабету ўзяў так толькі, нібы пасагу, дык і цацкайся цяпер з ёю...

Размова гэта вялася ў гумне і, здэцца, сам-насам, але ж праўду, мусіць, людзі кажуць, што і сцены маюць вушы.

З тае пары бацька ніколі не ўпікаў Тодара жонкаю, дык затое людзі сталі зваць яго не іначай, як каровіным мужыком.

— Вунь,— кажа,— пайшоў той, што з караваю ажаніўся, а дзеўку пасагу ўзяў...

Дык вось чаму ў нашай вёсцы чалавека каровіным мужыком дражняць.

*1923*

## НЕДАРЭЧНАЯ ШТУКА

І на якое яна ліха патрэбна? І які яе чорт выдумаў гэту вёску? Па-мойму, дык зусім гэта лішняя выдумка — «буржуазные предрассудки». Нашто, калі і без яе можна абысціся. Трэба табе есці — ёсць у горадзе «Фрыц». Выпіць для разнастайнасці можна і ў «Венгжэцкага». Трэба адзенне — ёсць «Белшвэй». А больш што? Ды больш, бадай што, нічога і не трэба. Кабеціна часам — дык і гэта знойдзеш. Уга! Колькі хочаш. Дык на чорта ж, скажыце вы мне, тая вёска патрэбна?

Але ж патрэбна ці не патрэбна, а ўсё-такі яна ёсць. Лозунг «Тварам да вёскі» таксама ёсць. Вось і ляпнулі мяне раз гэтым самым тварам ды ў гэту самую вёску. «Наладзь, кажуць, змычку. Ты чалавек з галавою дый з языком, дык табе гэта — раз плюнуць».

Вы думаеце, мне надта хацелася ехаць? Каб майму непрыяцелю так жыць на свеце хацелася. Але ж хоць калі, дык трэба.

«Адбуду, думаю, дык нечага рупіць не будзе». Палажыў гэта я ў партфель «Сялянскую бібліятэчку», ручнічок, шчотку, што адзежу чысціць, пушачку ваксы, бутэлек са тры піва і яшчэ што самае патрэбнейшае, сеў і паехаў.

Не ўспеў я гэта, прыехаўшы, добра павярнуцца да яе, як яна ўжо павярнулася да мяне ўсім сваім тварам, дый не адным, а цэлаю сотняю. Глядзіць, дзівіцца. Але ж куды той твар! — адзін смех толькі: не раўнуючы, як фіга. Я б свайго аднаго на гэтакіх дваццаць не памяняў. У мяне ж дык хоць ёсць што й людзям паказаць і самому паглядзець, а то дуля некая сушаная, а не твар.

Вось калі сабралі сход, дык я й пачаў наладжваць гэту самую змычку.

— Вы ўжо, кажу, напэўна чулі прыказку «Тварам да вёскі»?

— Чуць, кажуць, то чулі, аж абрыдла ўжо слухаючы, але бачыць то ні разу не бачылі.

— Дык вось, кажу я,— гэты самы твар і ёсць.

Паўставалі, хто сядзеў, аж раты паразяўлялі — глядзяць.

— Гэта гэты самы, значыцца? Дык вось ён які! А мы, кажуць, думалі, што гэта нават і не твар. Дзякуй вам, што сказалі!

— Спажывайце, кажу, здаровенькі, а твар самы сапраўдны.

Пасля гэтага прачытаў я ім даклад аб міжнародным, аб унутраным і наогул аб палажэнні.

— Вось самае горшае палажэнне, што налог вялікі, а ўзяць няма адкуль,— абазваўся тут некі дурань.— Карову прадаваць не хочацца, бо яна ўсяго адна і ёсць.

— Сам, кажу, вінаваты — гадаваць не ўмееш. Вось гэта ты чытаў? — Ды тыц яму «Быдлам» у нос.

— Гадаваць-то мы б патрапілі,— кажа другі,— ды вось на полі слаба родзіць.

А я яму «Угнаеннем глебы» ў зубы.

— Вось табе, кажу, адказ на гэта.

— Як жа яно будзе радзіць? Спачатку спёка, а цяпер вось дажджы шкодзяць.

— Ёсць, кажу, і ад гэтага лякарства. Вось вам «Барацьба са шкоднікамі». Працуйце, кажу, не лянуйцеся, рабіце, як вас вучаць, дык усё добра будзе.

— Зрабілі б, кажа, усё, але сілы не хапае.

А я ім «Сялянскім бытам і фізкультурай» у храпу.

— А гэта, кажу, што?

Бачу, тут некая кабеціна расхадзілася — крычыць, рукамі махае, наперад тышчыцца. Сама худая, а жывот вялізны, вялізны — ну, мо хіба трошкі меншы, як у мяне. Вось я, доўга не чакаючы,— саўгель ёй «Парадамі цяжарным».

— На, кажу, пачытай. З гэтакім жыватом не можна гэтак ціснуцца. Я вунь свой, як вока, шаную.

За таею кабетаю палезла яшчэ адна, але ў мяне ўжо не было чым ёй саўгануць.

Зараз падняўся крык, лямант, але што мне да таго? Я сваю справу зрабіў — змычку наладзіў.

«Ну й дурні ж!— думаў я назаўтра, едучы назад у горад.— Зусім не знаюцца на смаку ў жыцці — гібеюць у гэтай вёсцы. Ці не лепей жа было б у горадзе? Тут сабе служы шэсць гадзін у дзень — дый не знайся. Надакучыць, седзячы ў канцылярыі,— можна для разнастайнасці наганяй даць каму-небудзь, можна з машыніcткаю шуры-муры завесці дый ці мала што карыснага яшчэ можна выдумаць за шэсць гадзін. Вечарком можна ў «Сквер», у Губернатарскі, у ... дый многа куды яшчэ можна... Вось заводаў ды фабрык у нашым горадзе нямнога, але гэта, можа, й лепей — яны толькі паветра псуюць. Парк або сад — вось гэта рэч іншая. Вунь цяпер, кажуць, на старым яўрэйскім могільніку таксама робяць «сквер»: выварочваюць каменне, раўнуюць, праводзяць дарожкі, канаўкі, насаджваюць дрэвы. Працы, праўда, шмат затраціцца, грошай таксама, але ж затое і карысць! Дый неабходна, бо цесна гуляць стала: колькі ў дваццатым, скажам, годзе пяць чалавек займала месца, там цяпер адзін не стоўпіцца. Дык вось так, значыцца.

Калі абрыдла табе так працаваць у горадзе,— бяры водпуск і ідзі ў дом адпачынку. Мала — захварэць можна. А як жа! Цяпер адзін дурань толькі не хварэе. А захварэўшы — у Крым. Кажуць, што ў Крым ездзяць сухотныя. Дурань гэта выдумаў, бо ў каго ў грудзях сухоты, дык у таго яны і ў кішэні, а Крым гэтага не любіць. Крым — старонка цёплая і публіку любіць цёплую...»

Дык вось я тады рашыў, што вёска гэта саўсім недарэчная штука і патрэбна яна хіба што дзеля змычкі.

---

Ну і набрахаў, скажаце вы. Хлусіць — дык, не падсеючы, і нічога гэтага не было.

Няхай сабе, абы гладка. Як улежыцца, то мо й праўда будзе.

*1925*

## КЛАС

Праўду людзі кажуць, што стараешся-вучышся, а дурнем паміраеш. Вось і я — ужо ж не маладзенькі. Ёсць стварэнні, якія і татам завуць. Як маладзейшы быў, дык сякія-такія й класы праходзіў, а вось наце ж вам: у першым класе зрэзаўся. Так-такі начыстую зрэзаўся.

А было гэта вось як.

Паехаў я раз у Магілёў.

Чаго?

А вам не ўсё роўна? Патрэба была. Вядома, без патрэбы не паехаў бы, бо ў мяне нават лішняй грыўні няма, каб на концы праехаць, а не тое што ў Магілёў без патрэбы.

Дык вось і паехаў я цераз Воршу. А Ворша ж, як вам вядома, не пад носам.

Але нашто ж бы была машына?

Як сеў я вечарам у Мінску на «транзіцельны», дык за суткі ў Воршу — як перуном спаліў.

Увайшоў я ў вакзал: направа — зал і налева — зал. Тут — першы клас, а там трэці.

У які ж мне клас ісці?

— А ці няма тут, дзядзюшка, нулявога класа?

— Не, такога няма,— адказаў мне нейкі з бляхай на грудзях.— Ёсць, кажа, тут адзін з нулямі, але ж, мусіць, не гэты вам патрэбен.

«Што будзе, то будзе — пайду, думаю, у першы». У трэці я ўсё ж такі не адважыўся.

Увайшоў я ў клас. Кругом каля сцен — лаўкі, а на лаўках — людзі. Мужчыны, кабеты, хлопцы, дзяўчаты — адно пры адным сядзяць: носа недзе ўбіць. І пасажыры ўсё не абы-якія — найболей у капелюшах.

Ну й публіка тут, думаю я, важная! Але дзе ж мне прыткнуцца?

Глянуў я ўлева — стол даўжэзны стаіць, а ля стала — некалькі парожных крэслаў, як бы знарок чакаюць мяне. Я — пуц! Дый сеў на адно з іх.

— Што загадаеце? — падбег да мяне нейкі ў белым фартуху.

— Нічога, кажу, чалавеча, я табе загадваць не збіраюся. Дый наогул, кажу, я ніколі нікому не загадваю — заўсёды ўсё мне загадваюць.

— Дык, калі ласка, звольніце крэсла! — кажа мне белы фартух.

— Чаму?

— Ды таму, што не хочаце нічога загадаць.

— Чалавеча, кажу, ці не ўпіўся ты? Што ж я маю табе загадаць?

— Ды што вам будзе да густу. Ёсць шчы лянівыя.

— Ах, вось ты аб чым! Не, кажу, не трэба — я гультаёў не паважаю.

— Дык што ж вам?

— Давай, кажу, што-небудзь іншае.

Прынёс ён талерачку буракоў з мясам. А мне гэта — усё роўна як сабаку муха,— толькі кішкі раздражніў.

— На другое што загадаеце?— пытаецца фартух.— Ёсць разбіў.

— Дык што ж, кажу, нейкі чорт там разбіў, и ты хочаш, каб я заплаціў за гэта? Не, пашукай, кажу, сабе другога дурня, а мяне не падашукаеш.

— Дык мо зразы?

— Ну, гэтакага дабра, кажу, дык і ў Мінску колькі хочаш, асабліва на Савецкай а 12-й гадзіне. Мае два землякі дык у Воршу не ездзілі, а заразы дасталі: да доктара вось ужо каторы час ходзяць.

— Ну, дык што ж? Яшчэ шніцель ёсць.

— Слухайце, пытаюся, а гэта не сабачае што-небудзь? Надта ж ужо падобна на «гіцаль».

— Не, кажа, у нас усё гавяджае.

— У вас не іначай і язык гавяджы? Нешта, кажу, я тут мала разумею з вашай гутаркі.

— Языка гавяджага, кажа, якраз цяпер няма, але, калі загадаеце, можна прыгатаваць.

— Давай, кажу, што хочаш, толькі скарэй, бо есці хочацца.

З'еў я тое, што ён падаў, сяджу дый аблізваюся. Нутро яшчэ просіць, але на кішэнь малая надзея.

Падбягае зноў той самы фартух:

— Загадаеце атрымаць?

— Прыказваць, кажу, я табе не думаю. Атрымаеш, дык атрымаеш, а не — дык і прасіць не надта буду.

— З вас, кажа, паўтара рубліка.

— Што ты, кажу, сшалеў ці яшчэ шалець думаеш? Мой бацька за тыдзень з сям'ёю не праядае паўтара рубля, а ты з мяне за дзве талерачкі нейкай «заразы» хочаш злупіць гэтакія грошы.

— У нас, кажа, такса такая.

— Можаш, кажу, згатаваць сабе з свае таксы вось гэты самы сабачы шніцаль, а аб грошах мы яшчэ паспрачаемся.

— Дык мо прыкажаце старшога пазваць?

— Заві, кажу, хоць чорта з балота.

«Ці не цельны ён?» — падумаў я, убачыўшы хутка «старшога». Ну, адным словам — жывот.

— Вы мяне звалі? Што прыкажаце? — звярнуўся ён да мяне.

— Адчапецеся, кажу, вы, жывадзёры! Шкуры лупяць ды яшчэ пытаюцца, што я прыкажу. Скажэце вось, за што я павінен паўтара рубля плаціць?

— За абед з дзвёх страў.

— Усяго за гэта ды паўтара рубля?

— Дык не забудзьцеся ж, кажа, грамадзянін, што, папершае — нэп, а па другое — у першым класе.

— Дык скажы ты, кажу, мне, тоўсты дзядзя, колькі будзе каштаваць абед з дзвёх страў, калі гэты самы «нэп» пройдзе ўсе сем класаў?

— Будзеце плаціць? А не — я зараз пазаву...

— На! На! Бяры! Няхай цябе за ныркі возьме, толькі не заві, бо ўжо ведаю, чым гэта пахне,— прагаварыў я, бразнуўшы на стол тры паўрублі.

А вакол стаяла «важная публіка», паказвала пальцам, смяялася.

— Магілёў, Жлобін, Кіеў, другі званок!— прагукаў нехта.

«Пачакайце, ліха вашым капялюшам,— пасмяюся й я з вас некалі»,— падумаў я, выходзячы за дзверы.

Увайшоўшы ў вагон, я знайшоў сабе зацішны куточак і сеў. З галавы не выходзіў «клас», а тут яшчэ вагоны, нібы знарок дражнячы мяне, лякаталі па рэйках «клас-клас, клас-клас» і, слухаючы іх, бег і душыўся смехам паравік.

*1925*

## ПАД ГРУКАТ КОЛАЎ

Дык вам, кажаце, не падабаецца ездзіць па чыгунцы?

А я люблю.

Люблю дзелавую гутарку вагонных колаў, калі яны толькі — гэр-гэр-гэр, гэр-гэр-гэр, нібы тыя камерсанты.

Люблю глядзець, як паабапал дарогі, закілзаныя дротам, бягуць, даганяюць адзін другога слупы, нібы гэта дзеці ў коні гуляюць.

А ў вагоне свой вагонны быт, непадобны ні да быту горада, ні да быту вёскі, асаблівы быт.

Знаёмяцца тут людзі лёгка і проста, без лішніх цырымоній. Спрэчкі заўсёды гарачыя, тэмы заўсёды цікавыя.

Маладыя кабеты спяшаюцца скарыстаць тут рэдкі выпадак поўнай свабоды, калі за імі не сочыць зайздроснае вока мужа.

Думка аб тым, што свайго выпадковага спадарожніка яны бачаць першы і, напэўна, апошні раз, надае ім энергіі.

Што бывае вынікам гэтага — ведаюць адны змрочныя купэ, а мы з вамі можам толькі дагадвацца.

Што мне толькі не падабаецца ў вагоне, дык гэта:

— Граждане! Прад'явіце вашы білецікі!

Толькі гэта ўкалышашся пад аднатонны грукат колаў і пачнеш сніць, што ты прывёз у млын,— грукаціць камень, дрыгаціць сцяна і падлога, а ты ляжыш на мулкім палку і чакаеш свае чаргі малоць. Тут цябе й пачнуць за ногу катурхаць.

«Няўжо гэта ўжо мая чарга? — думаеш сабе.—Яшчэ ж у Рыгора два мяшкі жыта было малоць ды ў Антося мех кашнага пудоў сем».

А за нагу яшчэ мацней катурхаюць.

— Гражданін! Ваш білецік!

Прахопішся і глядзіш вакол непрытомнымі вачыма, пасля, скеміўшы, у чым рэч, хапаешся за адну кішэнь, за другую і, знайшоўшы білет, сунеш яго скарэй у чыюсьці кляшню, каб адчапіцца ад назолы.

Пры гэтым бывае іншы раз, што заспаны пасажыр не знаходзіць не толькі «білеціка», а нават паліта і чамадана. У такіх выпадках пацярпеўшаму належыць падняць гвалт на ўвесь вагон, а разбуджаным пасажырам падтрымаць яго ў гэтай карыснай справе.

Складзены пасля гэтага пратакол ні пацярпеўшаму, ні злодзею ніякай шкоды не зробіць. Першаму дзеля таго, што ён і так пацярпеў ужо, а з другім выходзіць справа — шукай ветру ў полі.

На гэты раз, аднак, не кантроль быў прычынаю майго абуджэння.

— Лавіце яго! Біце! Біце! — пачуў я праз сон нечалавечы крык.

Я са скамечанымі кулакамі саскочыў з другой лаўкі і стаў на падлозе.

— Дзе ён? — спытаўся я, гатовы кінуцца на нягодніка.

— Вунь там! Ратуйце, памажыце яму! — адказала мне змярцвелая кабета, якая стаяла, прытуліўшыся ў куток купэ. Глянуў я ў другі куток, куды яна паказвала пальцам, а там доўгі і тонкі, як частаколіна, чалавек стаяў, сагнуўшыся над лаўкаю і б'ючы ўважна і старанна папкаю па лаўцы, за кожным разам прагаварваў — г-гэх!

Не ведаючы, у чым там справа, я стаяў і глядзеў на тонкага чалавека.

Той нагнуўся яшчэ ніжэй, прыгледзеўся да нечага, памацаў пальцам і раптам засмяяўся.

— А ведаеце, мадам,— гэта нават і не прусак, а зерне з яблыка.

— Ох, як жа вы мяне напужалі, дзядзюшка! — уздыхнула яна з палёгкаю.

Шчокі яе зараз запунсавелі, і вясёлая ўсмешка асвяціла прыгожы твар.

Злосны, што мне з-за глупства перарвалі смачны сон, я зноў палез на сваё месца.

— Выбачайце! — прамовіў тым часам тонкі чалавек.— Я прыгледзеўся, бачу — прусак. Здэцца, і паўзе нават. Я ўсхапіўся дый давай яго гаптэжыць.

— Эх, храбрасць бабская! — абазваўся зверху галагубы твар.— Сляпому прусак здаўся, дык кабета чуць са скуры не вылезла. Такі гвалт падняла, я думаў — бандыты напалі.

— А я гэтай гадасці горш, як бандытаў, баюся,— адказала кабеціна.

— Ну, у майго бацькі дома такіх бандытаў поўна печ. Бывала, як узойдзеш ноччу ў хату ды як запаліш сярнічку, дык яны дажджом са столі сыплюцца.

— Дык яны ж, мусіць, кусаюцца?

— Малым часамі трохі паабгрызаюць рукі ды галёнкі, але нічога — скора зажывае. Старых яны зусім не чапаюць. Хоць праўду трэба сказаць, што старога вяскоўца скуры і сабака не ўгрызе, а не то што прусак.

— А ў яду яны не пападаюць?

— Чаму не. Як налье гэта гаспадыня капусты ў міску, пара як пойдзе ўгару, дык ён — гоп! Плячыма ў гарачую. Але ж гэтым ён толькі сабе і сагрозіць, а больш нікому — зразу капут небараку, ніякі доктар не адратуе.

— А страва?

— А страву ядуць, вядома. Што ж, вы думалі, з-за прусака ды затоўчаную або забеленую капусту выльюць у карыта?

— Фэ, якая гадасць! — скаланулася кабета.— Чаму ж іх не выводзяць як-небудзь?

— Не так гэта лёгка, як вам здаецца,— адказаў галагубы твар.— Я пробаваў. І бурак з бульбяною кашаю даваў, і парашку некага зялёнага ў шчыліны насыпаў, дык іх троха паменшае, але дарэшты звесці цяжка. А тут яшчэ і бацька лаецца. Бачыце, на вёсцы думаюць, што калі звядзеш прусакоў, дык у гадоўлі жывёлы не будзе шанцаваць.

— Ах, якія забабоны!

— Ці гэтакія забабоны там яшчэ ёсць,— прагаварыў доўгі тонкі чалавек.— Я сам у вёсцы гадаваўся, помню.

— Ну, як вы ні кажыце, а вёска цяпер ужо не тая, як была шэсць-сем гадоў назад,— загаварыў вайсковы, падышоўшы з суседняга аддзялення вагона.— Я вось таксама з вёскі еду, у водпуску быў, дык там ужо шмат новага: газеты, напрыклад, завяліся, у царкву толькі старыя ходзяць, пастоў амаль не посцяць. Ужо двое дзяцей ёсць няхрышчаных, а вяселляў, мусіць, з пяць без папа адбылося.

— Не ведаю, што ў вас там за вёска такая,— сказаў тонкі чалавек.— У мяне ёсць адзін знаёмы, таксама вайсковы, дык ён надта закахаўся ў адну вясковую дзяўчыну і стаў яе сватаць. Яна яго таксама любіла, але ўперлася — не хачу без вянца. А знаёмы-то камуністам быў. Ён і сёе, ён і тое — не, не бярэ. Дык што ж вы думаеце? — Павянчаўся. Вечарам гэта рабілася і цішком, а ўсё роўна даведаліся і выкінулі майго знаёмага з партыі.

— Ну, гэта яна не дзеля таго, што шчыра верыла, а толькі каб паказаць сваю перамогу. А ён — ануча, а не чалавек. Такім у партыі не месца,— сказаў вайсковы.

— Ці месца, ці не месца, але такія анучы ёсць,— адказаў тонкі чалавек.— Жонка-мяшчанка ўплывае часта не толькі на сямейны быт, але нават на службу мужа. Вось вам і прыклад. Тры дні таму назад я ехаў у Полацак. У адным вагоне са мною ехала кабеціна. Маладая, ружо-

вая — скарэй за дзяўчыну можна палічыць. Калі мы з ёю пачалі гутарыць, дык выходзіць, што яна ўжо не дзяўчына, а маладзіца і нават двое дзяцей мае. Але калі зайшла гутарка пра мужа, бачу — спахмурнела кабета, вочы апусціла, а пасля і прызналася, што муж яе сядзіць. Чаму ды за што, пытаюся. Тут яна і давай расказваць. «Ды ўсё, кажа, няўдзячнасць людская. Свае ж, камуністы, пасадзілі за тое, што на кароткі час казённых грошай узяў трохі, ну, як бы пазычыў. Мой муж — камуніст з 18-га года. На фронце быў, колькі цяжару перанёс,— усё дзеля ідэі, а цяпер ні на што не паглядзелі, за пусцяковіну пасадзілі. А здарылася гэта вось як. Вясною я стала трохі недамагаць. Парашылі, што мне трэба на курорт паехаць, у Крым ці там на Каўказ. Муж стаў прасіць, каб гэта мяне на казённы кошт, а яны — ані блізка. Сваіх грошай у нас толькі рублёў паўтараста было, дык што на іх зробіш? А я мужу катэгарычна сказала: дзе хочаш бяры, а на курорт адпраўляй, бо ўсё роўна жыць з табою не буду. Што ты, кажу, без пары хочаш мяне ў магілу палажыць? Доўга ён не здаваўся, а нарэшце рашыўся: прыходзіць раз са службы і прыносіць семсот рублёў. Казённых узяў. Вядома, ён бы іх праз нейкі час вярнуў. Пабыла я ў Ялце, аддыхнула, папраўлілася. Прыяжджаю дамоў, а тут зараз рэвізія. У касе, вядома, нястача. Вось тут яго і ўзялі, беднага. А яшчэ свае — людзі, знаёмыя камуністы. Ім бы пакрыць свайго чалавека, а яны вунь як. З таго часу, кажа, я цярпець не магу камуністаў. І мужа, калі вернецца, буду ўгаварваць, каб выпісаўся з партыі». Дык вось як бывае, а вы кажаце...— скончыў тонкі чалавек.

— Так ёй і трэба,— горача загаварыла кабеціна.— Бач, арыстакратка якая — ёй на курорт семсот рублёў трэба, паўтараста ёй мала. Мой муж таксама вунь каторы год без адпачынку працуе, а я прасіла сёлета хоць у дом адпачынку, дык і то месца не далі. Нябось, каб яе муж браў пяцьдзесят рублёў у месяц, гэтак як мой, дык бы не вытварала курортаў.

— Дык ваш муж хоць пяцьдзесят бярэ, а ёсць і такія, якія толькі за васемнаццаць або за пятнаццаць служаць, а другія па дзвесце, па трыста,— сказаў тонкі чалавек.

— Ну, з гэтым покуль што нічога не зробіш,— адказаў яму вайсковы.— Мы ў дваццатым годзе пробавалі і інжынеру плаціць столькі, колькі й сторажу, дык што ж выйшла? Кожны лепей хацеў быць сторажам, як інжынерам. Вось каб купіць нам гэтых спецаў, мы і павінны плаціць ім шалёныя грошы.

— Няхай спецы, але чаму ж...

«Ну, так можна і пустога канца дагаварыцца,— падумаў я.— Пачалі з яблыкавага зерняці, а дайшлі вунь аж да чаго».

Што адказаў вайсковы тонкаму чалавеку, я ўжо не чуў, але думаю, што ён адказаў якраз тое самае, што і патрэбна было ў такім выпадку.

Зараз я зноў апынуўся ў млыне, зноў загрукацеў камень, зноў задрыгацела сцяна і падлога. Там, дзесь ніжэй, пада мною валтузіўся і моцна соп Рыгор, няйначай усцягваючы па ўсходах мяшок жыта, каб засыпаць яго на кош. Скрозь аднатонны грукат да маіх вушэй час-часом даносіліся, нібы асцярожныя пацалункі, ціхія ўсплёскі вады пад махавым колам. А мо гэта й сапраўды былі пацалункі? Але ж не — ён такі тонкі, сухі, нязграбны...

А яна, якая так любіць мужа, што нават гатова ў дом адпачынку пайсці за яго, хіба ж яна дазволіць...

А ўрэшце — чаго ні бывае ў змрочных купэ?

*1926*

## ПАДАРОЖНАЕ

Тррр! Тррр! Тррр!

Чэк, чэк — па-нёс, толькі вітрыны мільгаюць.

Эх, слаўна! Куды твой конь проці аўтамабіля! Тут табе, перш за ўсё, пугі не трэба. Фурману не трэба стаяць на колінках у перадку і шалыгаць каню і пад чэрава, і пад лыткі, выбіраючы больш балючае месца.

Другое — аўтамабіль не прыпыняецца праз кожныя дзесяць крокаў, нібы за маленькаю патрэбаю, як гэта любяць рабіць ляныя коні, ды не аглядаецца назад, каб паглядзець, які ў фурмана настрой і як пуга служыць.

Трэцяе — аўтамабіль не пудзіцца. Няхай табе сто паяздоў зараз ідзе, няхай шыпіць, няхай гудзе — ён не рване і не панясе цябе без памяці на вуліцы і не расквасіць табе галаву аб вугал або аб слуп.

Чацвёртае — аўтамабіль ніколі не ржэ, калі ты яму есці не даў. І хоць ты яму месяц не давай, дык не здохне, а будзе сабе ціхенька стаяць.

Ды ці мала аўтамабіль мае пераваг у параўнанні з канём ці з кабылаю; ніколі, напрыклад, аўтамабілі не брыкаюцца, калі збяруцца некалькі разам, ніколі ў яго жывот не забаліць, ніколі ён да жарабца не захоча, ніколі жарэбным не ходзіць, і не трэба асцерагацца, каб не перасіліць; ніколі ён табе ў чужую канюшыну, віку, авёс або капусту не ўваб'ецца, і не трэба за яго з суседзямі грызціся ды па судах цягацца за патраву.

Эх, слаўная жывёліна! Гэта ж яшчэ мо паўгадзіны толькі й едзем, а ўжо вёрст дванаццаць укацілі. Каб каня з гэткаю шпаркасцю прагнаў, дык ён бы і захропся, і засопся, і пад хамутом мокра ў яго было б. А каб на каня села 18 чалавек, гэтак, як на аўтамабіль, дык ён бы і з месца не крануў.

Але вось — тырк! тырк! — і стаў. Яшчэ разоў са два папяўся — нічога, не бярэ.

Нічога не зробіш, трэба злазіць. Ды ў самай жа гразі, ліха яму.

А можа, папхнем трохі?

— Ану — паднапніся!

Пнуцца, крэхчуць мужчын з дванаццаць, пхнуць яму ўзад, а ён і вухам не вядзе. Вось зараза жывёліна! Шафёр кажа, што некая там шрубка ці мутэрка згубілася і прыйдзецца гадзін са дзве пастаяць, пакуль ён зноў усё наладзіць.

Гадзін са дзве! На якое ж ліха стаяць, калі можна сесці.

Добра, што пагутарыць ёсць з кім,— селянін коні пасе. А ў аўтамабілі такая публіка надзіманая едзе: сядзяць, губы пазамыльваўшы,—хоць бы табе слова. Сапраўдныя ангельцы!

— Дзень добры, дзядзька!

— Добры дзень!

— Што, коні пасеш?

— Але, пасу.

— А нашто ты іх пасеш?

— Бо яны ж есці хочуць.

— А нашто ты іх наогул трымаеш?

— А што ж — я жонку запрагу, ці што?

— А ты аўтамабіль купі: як я паглядзеў, дык гэта жывёліна лепшая за каня, выгаднейшая.

— Для вас, можа, яно і так, а ў нашым палажэнні яно не падходзіць.

— А чаму?

— Ды вось чаму: перш за ўсё — як ты яго купіш? Ён жа некалькі тысяч каштуе, а я тысячы рублёў і ў руках не трымаў, і ў сне не бачыў. Другое — коні я вось вывеў на паплавец, яны й шчыплюць. А калі ў хляве, дык я ім сена залажу, сечкі замяшаю, ім больш нічога і не трэба. А аўтамабіль ты на пашу не выганіш, і сечкі ён не будзе есці — падавай яму бензіну. А бензін грошы каштуе. А грошай у мяне кот наплакаў. Зноў жа — вунь я кабылу трымаю, дык яна мне штогод па жарабяці водзіць; праз гадоў два-тры глядзіш — і запрагаць можна. А аўтамабіль ніякага прыплоду не дае і даваць не думае. Таксама са мною ніколі не здаралася, каб у каня якая-небудзь шрубка адкруцілася ці мутэрка згубілася, і праз гэта ніколі не стаяў я тры гадзіны на дарозе так, як вы вось цяпер. А гною хіба ваш аўтамабіль настоіць хоць воз за зіму? А мая кабыла, хоць, здэцца, не вялікая штука, а патом вазоў дзесяць за зіму дасць. Зноў жа — на кабыле, калі дома я, то еду я; няма мяне — едзе сын, а часам і жонка. І ўсе ўмеюць кіраваць ёю, і ўсіх яна слухае. А тут — купіў ты аўтамабіль, то купляй разам і фурмана. А сам возьмешся кіраваць, дык яна або саўсім не пойдзе, а не — паімчыць цябе, куды сама захоча, пакуль не будзе капут і ёй і табе разам з ёю. Дык вось чаму гэта жывёліна не падходзіць у нашым палажэнні.

Як вылажыў мне дзядзька ўсё гэта, дык мяне і думкі ўзялі. Думаў я, думаў... Часу для гэтага ў мяне хапіла, бо аўтамабіль яшчэ не скора пайшоў. Дык вось думаў я, думаў, а калі селі зноў у аўтамабіль, дык я і расказаў свайму суседу, надзіманаму «ангельцу» ўсё, што я думаў пра аўтамабіль і што сказаў мне наконт яго дзядзька. Мой сусед падумаў трохі ды кажа:

— Так, тут пэўная няўвязка ёсць. Нам трэба ўдасканаліць або каня, або аўтамабіль. Разумеецца, мы маглі б загадаць нашым конскім заводам, каб яны выпускалі ўдасканаленых коней, напрыклад, з маторам: трэба табе куды-небудзь недалёка — можаш на траве ехаць або на сечцы, а калі трэба далёка дый скора надта, дык наліў бензіну, закруціў ззаду дый няхай пухкае. Але ў наш век індустрыі, па-мойму, лепш трэба ўдасканаліць аўтамабіль. Для гэтага трэба пабудаваць такі аўтамабіль, каб ён траву і сечку еў. А калі будзе сечку есці, то, нябось, нідзе не дзенецца — і гной будзе настойваць. А яшчэ калі ўставіць яму такую прыладу, каб ён і аўтамабілянят раджаў, дык тагды нічога больш і не трэба, тагды й кожны селянін яго ахвотна купіць, бо яны шмат таннейшыя будуць. Па-

мойму, гэта саўсім не цяжка зрабіць пры нашых дасягненнях у тэхніцы.

Адказ майго суседа мяне ўзрадаваў і заспакоіў. Я аддаўся марам, і мая фантазія стала далей развіваць план «ангельца». Праз некалькі хвілін у мяне самога ўжо быў прыладжан ззаду матор і я са шпаркасцю кулі імчаўся з аднаго раёна ў другі, выконваючы свае інструктарскія абавязкі.

Тым больш непрыемна было мне злазіць з аўтобуса і сваімі ўласнымі галёшамі чэрпаць местачковую гразь.

*1926*

## СМЕРЦЬ

Сяргей Пятровіч — гэта мой добры знаёмы. Вы, напэўна, таксама знаеце Сяргея Пятровіча. Толькі гэта не той Сяргей Пятровіч.

Мой Сяргей Пятровіч — чалавек сталы, паважны, самавіты; адным словам — чалавек судзейскі, даўнейшага гарту.

— Зубы з'еў на гэтым дзеле,— хваліцца сам Сяргей Пятровіч.

Ды гэта й праўда,— я сам бачыў, што ў яго з зубамі не зусім ладна.

— Хіба цяпер судзейскія? — наракае часта Сяргей Пятровіч.— Чалавека па-людску засудзіць не ўмеюць. Другі раскол заб'е або аграбіць добрага чалавека — сама меней павесіць яго трэба, а яны, «прымаючы пад увагу», ды так, калі пачнуць «прымаць пад увагу», дык забудуцца нават прыняць пад увагу і тое, што гэты нягоднік зрабіў. Глядзіш — замест таго каб на шыбеніцы гойдацца, праз паўгода, праз год які-небудзь па вуліцы гуляе. Не, па-мойму,— будзь ты хоць якога паходжання, калі папаўся, дык няма чаго з табою цацкацца.

Вы можаце сказаць, што мой Сяргей Пятровіч надта жорсткі чалавек. Вось тут якраз вы і памыляецеся. Ён толькі парадак любіць, а так чалавек надта чулы і заўсёды другому ў бядзе добрым словам паможа.

Прыйшлі гэта надоечы да яго на двор два беспрытульныя хлапчукі. Брудныя, вядома, абшарпаныя, худыя, і вочкі

блішчаць — есці просяць. Дык вы думаеце, Сяргей Пятровіч адразу прагнаў іх? Зусім не. Ён спачатку ім цэлую прамову сказаў:

— Эх вы, блазнота-дурнота. Чаго вам было на гэты свет з'яўляцца? Ці ж вы не ведалі, што цяпер так цяжка пражыць? Вялікае глупства вы зрабілі, маладыя людзі. А тут у кодэксе і параграфа такога няма, пад які б можна было вас падвесці за гэту справу. Вось і рабі з вамі, што хочаш...

А мне дык Сяргей Пятровіч не толькі добрым словам памог, але і на справе. У яго кватэрка нішто сабе: камгасаўская, пяць пакоікаў і кухня, пятнаццаць рублёў плаціць. І вось калі я быў без кватэры, дык ён мне за дваццаць рублёў адзін пакоік выпусціў. За гэту яго дабрату я і паважаю Сяргея Пятровіча.

І жонка ёсць у Сяргея Пятровіча. Трохі ганарлівая, але таксама добрая кабета. Яна сваёй работніцы, якая прыходзіць толькі на дзень, заўсёды дазваляе пераначаваць у дрывотні, калі тая ўвечары баіцца ісці дадому за пяць вёрст на край горада.

І дзеткі ёсць у Сяргея Пятровіча — двойка. Дачка — тварык дробненькі, невыразны, носік цыбулькаю. Са сшыткамі ходзіць на нейкія курсы, вучыцца. Сын гадоў трынаццаці, чырвоны гальштук на шыі.

Але ж я абяцаў пра смерць нешта сказаць.

Вы спужаліся за Сяргея Пятровіча?

Ды не — смелы будзьце. Нават тая смерць, якая ў хаўрусе з тыфусам сотні чырвонаармейцаў клала ў дзень, якая цэлае Паволжа выкасіла, і тая баіцца падступіцца да Сяргея Пятровіча. Не то яна з пашаны да яго саліднай камплекцыі, не то баіцца, каб «пад параграф не падвёў», але яшчэ ні разу не рабіла спробы прыступіцца да яго.

Лёг гэта я спаць надоечы. Сплю, а сам сню: ляжу ў труне, увесь у белым, вочы заплюшчаны, але бачу: сястра ў галавах сядзіць, плача, нехта прамову гаворыць. Я хачу зварухнуцца, сказаць што-небудзь, пальцам кіўнуць, каб паказаць, што жывы, але не магу. Вось мацней загаласілі. Бяруць века, каб зачыніць труну. Я тут сабраў усю сілу, зварухнуўся і прачнуўся. Чую — усхліпвае нехта за сцяною. Гаспадыня, чуваць, да некага жаласна-ласкава гаворыць.

Стук у сцяну:

— Вы спіце, малады чалавек?

— Не,— кажу,— не сплю.

— Ішлі б хоць нашага пакойнічка даведаліся.

— А што ў вас там за бяда здарылася?

— Наш Вася памёр, бедны. Ідзіце развітайцеся,— усё ж такі вы сябры былі, можна сказаць.

Узаткнуў я чаравікі набасанож, апранаху накінуў, прыйшоў.

Усе ў жалобе. Твары заплаканы.

Сяргей Пятровіч аж схуднеў, бедны. А ён ляжыць сабе пад белаю прасцінкаю (знарок гаспадыня кавалак паркалю адрэзала), і нічога больш яму не трэба. Вочкі мёртва глядзяць, зубкі выскалены... Гаспадар пачаў успаміны гаварыць:

— Вы не ведаеце, малады чалавек, якое гэта для мяне гора. Я ж яго, можна сказаць, на сваіх руках вынасіў, малачком сам выпаіў. А што гэта за стварэнне мілае было, каб вы ведалі. Ніколі, бывала, нікога ён не зачэпіць, каб не запытацца. А які ж ахайны быў! Каб гэта ён дзе ў хаце калі што — барані божа! Падыдзе, бывала, прытуліцца, у вочы гляне і пойдзе да дзвярэй. Гэта ведай, што яго ўжо на двор трэба пусціць. На шпацыр ён у нас хадзіў кожную раніцу. Выйдзе, пагуляе гадзін са дзве, а потым — снедаць. А які ж спакойны быў! Другія за паненкамі ўганяюцца, часамі цэлую ноч пад вокнамі лямантуюць, заснуць не даюць, а ён дык нават і ў той бок, бывала, саромеецца глянуць.

Толькі вось учора, раніцою, бачу я — вочкі ў яго хмурныя і вялы нейкі ён увесь.

Я спачатку думаў доктара пазваць, а потым сабе думаю: «Эт, мала што, ці не бывае ж. Можа, думаю, на жывоціку што нядобра — няхай ідзе пагуляе троха». Ды ўзяў выправіў яго: сілаю, можна сказаць, гуляць на двор выправіў. Вось як прыйшоў ён, дык і лёг.

Ляжыць і есці нічога не бярэ, ды так, бедны, цяжка сапе! Я думаў, пераначаваўшы, доктара пазваць, а ён і не дачакаўся, бедны, у дванаццаць гадзін і богу душу аддаў. Вечная памяць яму!

Тут Сяргей Пятровіч дастаў хустачку і выцер дзве буйныя слязы. Дзеці пачалі моцна смаркацца і ўсхліпваць, а маці іх, нагнуўшыся над нябожчыкам, зноў пачала гаварыць яму нешта жаласна-пяшчотнае. Мне так цяжка стала глядзець на вялікае гора людское, што я больш не мог там сядзець.

Правёўшы мяне да дзвярэй, Сяргей Пятровіч прытрымаў маю руку і ласкава глянуў мне ў вочы:

— Вы, здаецца, папісваеце, малады чалавек? Будзьце так добры, уцешце нас у нашым горы: калі шануеце памяць нябожчыка, напішыце аб ім успаміны. Мы прачытаем

у журнальчыку ці ў газетцы, і ўсё нам будзе весялей на душы.

І я напішу. Я абавязкова напішу вялікае апавяданне аб тым, як жыў адзін добры судзейскі чалавек з жонкаю і з дзеткамі і які ў іх быў слаўны коцік Васька. Васька памёр, а судзейскія людзі ўчацвярых цэлую ноч сядзелі і плакалі над нябожчыкам.

Я напішу — няхай увесь свет ведае аб тым, якія добрыя судзейскія людзі ёсць на свеце і як яны любяць і шкадуюць бедных коцікаў.

*1927*

## ГАРЭЛІК І ЯГО ЖОНКА

Калі вы любіце ружовае,
калі вы любіце белае,
калі вы любіце круглае, мяккае, салодкае, цёплае, то вы бярэце гэтакую жонку, як у Гарэліка.

Ох, што ў яго за жонка!

Гэта не жонка, а... Я ўжо й сам не ведаю, што гэта такое.

Вочкі ў яе блішчаць, як мацыцовыя гузікі; губкі, дык гэта, я вам скажу,— монпасье. І ўся яна вабіць, цягне да сябе, як бакалейная крамка.

Няма ў Гарэліка нічога мілейшага на свеце, як яго крамка ды яго жонка. Толькі абедзве яны наадварот: крамка з кожным годам пусцее, а жонка з кожным днём паўнее.

Чаму паўнее? Чаго паўнее?

Калі вы чалавек недагадлівы, то вы яшчэ не дагадаліся, то вам прыйдзецца пачакаць.

А жонка ходзіць, а жонку нудзіць, а жонцы хочацца.

Чаго ёй хочацца?

Калі вы чалавек недагадлівы, то вы яшчэ не дагадаліся. Калі вы чалавек недагадлівы, то... ёй хочацца селядца, ёй хочацца кіслага, ёй хочацца вострага, ёй хочацца салёнага.

Ох, чаго ёй хочацца! Ёй хочацца нават таго, чаго ў краме Гарэліка няма.

А чаму ёй хочацца вострага?

Калі вы чалавек дагадлівы...

Кожны дзень жонка Гарэліка то шые кашулькі, то кроіць шапачкі; то шые шапачкі, то рыхтуе пялёначкі. Кожны дзень яна баіцца, каб не прыйшлося памерці, як прыйдзе тая пара.

Ох, як не хочацца яшчэ паміраць! Ой, як гэта страшна. Ёй ні разу ў жыцці яшчэ не даводзілася паміраць.

Гарэлік кожны дзень ёй гаворыць:

— Мілая, ты мне даражэй за ўсё на свеце. Ты мне дарага, як патэнт, але тваё хныканне праціўна мне, як фінаддзел. Ой гэты фінаддзел! Ён з мяне вантробы выцягне! Ён мне краму зачыніць!

Праз гадзіну Гарэлік супакойваецца. Ён задуменна глядзіць недзе далёка ўперад, як бы прыслухоўваючыся да таго, што робіцца ў яго ўсярэдзіне, і нешта паціху мармыча, нібыката пяе.

Потым яны лічаць. Жонка лічыць, калі ёй прыйдзецца паміраць, а Гарэлік лічыць, калі яму прыйдзецца заплаціць паўтара рубля за фурманку. Жонка кажа — пятнаццатага, а Гарэлік кажа — трынаццатага.

Тагды спрачаюцца.

Ох, як яны спрачаюцца!

— Гэта было ў той дзень,— кажа Гарэлік,— калі мне нейкі паскуда ўпёр за дзвесце грам цукру мікалаеўскую залатоўку.

— Не,— кажа жонка,— гэта было якраз у пятніцу перад суботаю. Я помню гэта ўсё роўна як на далоні.

— Я ўжо не ведаю, што ты помніш,— кажа Гарэлік.— Ты, мусіць, помніш адно, а я другое.

— Я помню тое, што павінна помніць кожная жанчына, а ты, можа, што іншае — я ж не ведаю,— адказвае жонка.

— Ты помніш? Дык няўжо ж людзі брэшуць, што ў бабы волас доўгі, а памяць кароткая?

— А ў цябе што доўгае? У цябе й волас кароткі, і памяць кароткая, і ўсё тваё кароткае, і сам ты кароткі...

Што б вы сказалі тут на месцы Гарэліка?

Ён таксама маўчаў.

А жонка, каб завяршыць сваю перамогу, казала далей:

— Але слухай — чаго нам спрачацца. Я вылічыла пятнаццатага, то я сабе буду раджаць пятнаццатага, ты вылічыў трынаццатага, ну, то ты сабе раджай трынаццатага.

І чаго ёй сёння так жывот баліць?

Ох, як баліць жывот! Кажуць, калі раджаеш, дык тагды таксама баліць жывот. Значыцца, яна раджае.

— Ой! Ой! Ой, вязі мяне!.. Ой, вязі, бо я не вытрымаю! Вязі, бо я, здэцца, пачынаю паміраць!

Гарэлік спужаўся, Гарэлік павёз.

Прывёз ён. Жонку ў пакой бяруць, а Гарэліка ў калідоры пакідаюць.

— Я таксама хачу з ёю.

— Вы таксама раджаць? Запрасіце акушэрку да хаты — вам тут не можна.

Якое яна мае права смяяцца? Гарэлік грошы заплаціў, а яна кпіны строіць.

Ён так зазлаваў, так зазлаваў, што аж не ведаў, што яму рабіць, і стаяў як мыла з'еўшы. Пасля ён дагадаўся — узяў ды пайшоў дадому. Хацеў са злосці плюнуць на адыходак, але на сцяне было напісана: «Пляваць на падлогу забараняецца».

І што ж вы сабе думалі? Толькі што зачынілі крамы, прыяжджае Гарэлікава жонка дадому, уваходзіць у хату ды плача.

А слёзы па твары так бягуць, так бягуць. Вы ведаеце, як яны бягуць і як гэта шкода? Не, вы гэтага не ведаеце. Вы бачылі, як Гарэлік вязе вялікую бутлю газы, як бутля адаткнецца і па ёй бягуць светлыя рагі? Вось тагды сэрца Гарэліка таксама сціскаецца ад жалю, і ён таксама не можа глядзець на гэтыя светлыя рагі.

Вы мо думалі, што жонка Гарэліка прыехала з дзіцем? Не, саўсім не. Мо дзіця там пакінула? Таксама не. Можа, нежывое мела? О, не — не пры нас казана!

— Ну, дык што ж ты там рабіла? — пытаецца ў яе Гарэлік.

— Хіба ты не ведаеш, што робяць людзі, калі ў іх баліць жывот і калі ім даюць піць ложку рыцыны? — адказала праз плач жонка. «Вы, кажуць, раджаць яшчэ не збіраецеся, дык едзьце дадому, а праз месяц які, як трэба будзе, зноў да нас прыедзьце».

— Ну, то чаго ж ты плачаш?

— Як жа мне не плакаць, калі прыйдзецца яшчэ раз раджаць і яшчэ раз паміраць.

— Ціха, не плач,— цешыць яе Гарэлік.— Не памерла гэты раз, то вытрымаеш і яшчэ раз. Лепш двое радзін, як адна смерць.

І паўнее далей Гарэлікава жонка, і пусцее Гарэлікава крамка. І будзе так цягнуцца, пакуль у гэту справу не ўмяшаецца дыялектыка і не перавядзе колькасць у якасць. Тагды адным Гарэлікам на свеце стане болей і адною крамкаю меней.

*1928*

## ІДЭІ

Чуў я — скардзяцца часамі некаторыя пісьменнікі, што тэмы не могуць знайсці. А як ты яе знойдзеш, калі тэм ніхто не губляе? Зноў жа — тэмы не грыбы, у лесе не растуць, дык і назбіраць іх нельга. Марынаванымі ў слоіках яны таксама не прадаюцца. А ты бяры дый пішы аб тым, што чуў, бачыў або й сам выдумаў, абы яно на праўду было падобна.

Другі кажа — «ёсць тэма, але не актуальная», або — «актуальная, але дробная». А вось дэтэрмінізм нас вучыць, што кожная з'ява выклікаецца якімі-небудзь іншымі з'явамі, што былі для гэтага прычынаю, і сама яна ў сваю чаргу служыць прычынаю для іншых з'яў. Такім чынам, часамі самая дробная з'ява можа паслужыць прычынаю вельмі буйной. Скажам, напрыклад, муха крапнула Остэну Чэмберлену на нос, і гэта мізэрная кропка цяжкою гіраю ўпала на чашку вагі пры вырашэнні пытання аб дыпламатычных зносінах Англіі з іншаю дзяржаваю. Або, напрыклад, блыха ўкусіла паважанага крытыка за што-небудзь кволае, балючае. У крытыка зараз жа з'яўляецца крытычны сверб, а ў выніку гэтага мы маем пагромны артыкул.

І гэта тым больш можа здарыцца, калі кусала яго не звычайная пасцельная блыха, а, скажам, блыха зайздрасці або зачэпленага гонару.

Артыкулы ж у такім разе выходзяць, дык гэта, я вам скажу, проста золата. І колькі ж яго вывезена ўжо на глебу беларускай літаратуры!

Зноў жа гісторыкі перадаюць факт, што Напалеон прайграў бой,— здаецца, пад Ватэрлоо толькі таму, што ў яго быў катар (насмарк). А я на свае вочы бачыў некаторых камандзіраў, якія акуратна хварэлі бягункаю (пано-

сам) кожны раз, як толькі пачынаўся бой. Хварэлі і, вядома, былі біты. Не яны, разумеецца (яны вельмі рэдка). Біты былі тыя салдаты, якімі яны камандавалі. А яны за сваю «доблесть» былі пацешаны «ганнаю», «уладзімірам» або й самім «ягорам» розных ступеней. А разам з гэтым, вядома, і павышэнне па службе. А разам з павышэннем, вядома, і прыбаўка пенсіі, на якую й набываліся новыя споднікі да новага бою.

Я гэта ўсё к таму гавару, што нават і дробная тэма можа паслужыць буйной справе. Тым болей, што буйную тэму — дзе ты яе возьмеш? Калі й ёсць якая-небудзь адна, напрыклад, Асінастрой, дык і тую забралі ўжо буйныя пісьменнікі.

Дык вось я й хачу расказаць тут пра адну дробную з'яву: як у аднаго небаракі завяліся ідэі і як ад гэтага карасі падохлі.

Але што гэта такое, наогул, ідэі, чытачу адразу цяжка й зразумець. Дзеля гэтага я павінен уводзіць яго ў курс справы спакваля і знаёміць на прыкладах.

Ці кусалі вас, напрыклад, калі-небудзь скакуны і ці ведаеце вы, што гэта за смак?

Калі вы былі хоць раз на дачы, то напэўна ведаеце, што гэта за смак. А калі не, дык раю вам паехаць ды паспытаць.

Памятаеце? Толькі вы гэта сцішыцися каля свае супольніцы ды пачалі драмаць, а тут вас раптам — джыг! За самае чулае месца. Вы гэта — цоп! Ну, думаеце, папаў. Але ж дзе там! У руцэ толькі чулае месца засталося, а ён тым часам — джыг! Вас за другое месца. Вы зноў — цоп! — і зноў промах.

І нават калі вы запаліце агонь ды папросіце на дапамогу вашу румяную палавіну з яе спрытнымі манікюрнымі пальчыкамі, дык і тады аблава рэдка калі ўдасца. Скачуць, праклятыя, так, што ніякі інструктар фізкультуры не папravіць. І ўвышкі, і ўдаўжкі, і з перашкодамі, і без перашкод — вось так хоць ты бяры дый выкладай першы прыз кожнаму з іх.

Цяжкая гэта справа — лоўля скакуноў. Шмат шпаркасці ды спрыту патрабуе.

Праўда, што на скакуноў можна купіць парашка. Ёсць, напрыклад, персідскі. (Асабліва памагае, калі, злавіўшы скакуна, падпячы яго на лямпе і тады пасыпаць парашком.)

Не паможа персідскі, дык ёсць яшчэ японскі.

А ўжо калі й гэты не паможа, ну, то тады палын. За пазуху панапіхаў, у пасцель наслаў ды яшчэ, напарыўшы, напіўся нанач, дык быць не можа — павінны павыдыхаць.

Ну, але калі ў вас засталіся ідэі — каюк! Прапашчы вы тады чалавек. Тут ужо ні ваша манікюрная палавіна, ні парашкі, ні нават палын — нішто вам не паможа.

Вось гэтыя самыя ідэі і завяліся ў Міхася Мігуцкага.

Вы, можа, й ведаеце яго: жыве недалёка ад мяне, жоўты дом, напроціў. Такі белы, стрыжаны, сам худы, і чаравікі падраныя.

Дык яны яго, небараку, так апанавалі, што й рады няма. Грызуць, точаць і ўдзень, і ўночы, і зімою, і ўлетку так, што нават і сам ён, і жонка яго (адну толькі й мае) зрабіліся падобнымі на сухія адцятыя ідэі.

Сам ён тутэйшы, мінскі. Нешта некае некалі скончыў; здаецца, нейкі тэхнікум. Прынамсі, ён цяпер лічыць сябе за страшэнна вучонага чалавека, а галоўнаю сваёю спецыяльнасцю лічыць інжынерства.

Кожную раніцу, убачыўшы мяне яшчэ здалёк, ён гукае:

— Маё шанаванне, прафесар! Як ваша здароўе?

— Добры дзень, інжынер! Як вашы работы? — пытаюся я ў сваю чаргу.

Даўно я прывык ужо да свайго прафесарскага звання, якім, па сваёй дзівацкай дабраце, надарыў мяне Мігуцкі. Я вельмі і не спрачаюся, бо даволі ведаю прафесараў, якія набывалі сабе званне такім самым шляхам.

Ён мне зараз жа пачынае расказваць, як у яго пасоўваецца пабудова, распачатая на гэтым тыдні, і абавязкова канчае сваю гутарку тым, што ў яго, каб скончыць распачатую справу, не хапае з паўтысячы рублёў і што добра было б, каб я пазычыў яму гэтыя грошы.

Я заўсёды адказваю, што ўжо хутка скончу сваю навуковую працу «Псіхапаталагічныя асаблівасці Загароднай вуліцы» (гэта наша вуліца), што засталося яшчэ толькі правесці нагляданні над адным вельмі цікавым экземплярам і будзе ўсё. І вось, калі я надрукую гэту працу ды атрымаю тысячы паўтары ганарару, дык тады не толькі магу пазычыць, а нават і кампаньёнам магу быць у якім-небудзь яго прадпрыемстве.

Мігуцкі рад і загадзя дзякуе мне за давер'е і падтрыманне.

Трэба сказаць, што захапляўся ён не толькі інжынерствам. Яго цікавіла ўсё. Бадай не было ніводнай галіны навукі і тэхнікі, якая б яго не цікавіла і ў якую б ён не захацеў унесці нешта новае.

Калісьці ён служыў кіраўніком спраў аднае ўстановы і вызначыўся тым, што пробаваў навучыць машыністак, каб

кожная з іх магла друкаваць на дзвёх машынках разам розныя паперы. Дзеля гэтага ён кожную з іх застаўляў практыкавацца па дзве гадзіны ў дзень пасля заняткаў. Машыністкі плакалі і скардзіліся мясцкому ды адміністрацыі, а ён усё стаяў на сваім, аж пакуль самога не скарацілі.

З таго часу Мігуцкі не служыць, а жыве даходамі з невялічкага свайго гарода. Гарод даглядае жонка. Яна сее трускалкі, маліну, агуркі ды разводзіць розныя кветкі. Гэтым і жывуць.

На непрактычнасць Мігуцкага жонка ніколі не наракае і, здаецца, шчыра любіць яго, хоць і не выказвае асабліва сваіх пачуццяў, мусіць, каб не пашкодзіць яго незлічоным планам.

А ён за што толькі не браўся! Засноўваў таварыствы: па распаўсюджванню гідратэхнічных ведаў, па развядзенню коркавага дрэва на Беларусі і нават, здаецца, таварыства дапамогі бясхвостай жывёле і старым халасцякам.

Самым жа значным было таварыства па эксплуатацыі рыбінай лускі. Таварыства мела намер наладзіць здабыванне перламутру з рыбінай лускі па рэцэпту правізара Скульскага. У таварыства запісалася ўсяго дзевяць членаў. Апрача самога Мігуцкага там былі: адзін супрацоўнік архіва, адзін кандуктар з конкі, адзін загадчык разніцы ды яшчэ нехта з калгаса, а рэшта — невядомай прафесіі. Таварыства нават і адозву выпусціла, каб усе грамадзяне горада Мінска, хто мае луску, не выкідалі яе ў памыйную яму, а па сходнай цане дастаўлялі на адрас таварыства.

Але з гэтага нічога не выйшла — рэцэпт Скульскага патрабаваў сякога-такога абсталявання. А што ты будзеш там абсталёўваць, калі сырцу недахват. Праўдзівей кажучы, зусім няма сырцу, апрача лускі з тае рыбы, якую елі самі члены таварыства. Яно рыбы ў Мінску не так ужо й многа — гэта раз. Дый народ мінскі, як скардзіўся Мігуцкі, стаў такі пражорлівы, што рыбу есць з лускою і, мусіць, нават не патрошчы.

Ва ўсякім разе, гэта добрая справа не ўбачыла свету, і такім чынам чалавецтва пазбаўлена прыемнасці зашпіляцца мацыцовымі (перламутравымі) гузікамі, а найчасцей папяровымі.

Далей на Мігуцкага накацілa захапленне метадалогіяй навук. Ён выказаў гіпотэзу, што для ўсіх навук павінен быць адзін метад дзеля таго, што якую б мы галіну ні ўзялі, там адбываюцца працэсы вельмі падобныя да працэсаў любой іншай галіны. Напрыклад, паводле яго тэорыі, з'явы

памяці ў чалавечай псіхіцы вельмі адпавядаюць акамянеласцям у прыродзе, а нафтавыя фантаны — выдзяленню мачы. Ён нават цэлы трактат напісаў быў дзеля апраўдання свае тэорыі і месяцы са два лазіў з ім па розных рэдакцыях, але не знайшлося ахвотніка надрукаваць.

А па-мойму, ён проста не ўмеў зрабіць. Адзін мой знаёмы дык такім чынам стварыў сабе навуковае імя. Ён напісаў трактат аб уплыве сонечнага зацямнення на плоднасць трусоў і зубных дактароў. Яго таксама спачатку не хацелі нідзе друкаваць. Дык ён падмацаваў кожнае сваё палажэнне чатырма радкамі са зборніка вершаў аднаго рэдактара, і тады пайшло як па масле. Знаёмы заказаў сабе сотню адбіткаў з артыкула і раздаў яго ўсяму вучонаму свету. З тае пары ён стаў салідным вучоным.

Але наш інжынер не здаўмеўся гэтак зрабіць і застаўся ні з чым.

Аднак гэта не перашкодзіла Мігуцкаму і надалей цікавіцца навукамі і ўносіць у іх час-часам розныя змены ды папраўкі. Так, напрыклад, пазнаёміўшыся бліжэй з псіхалогіяй і фізіялогіяй чалавека, ён знайшоў, што прырода зрабіла вялікую памылку, даўшы чалавеку адзін лішні орган, а ўласна — нос.

Па думцы Мігуцкага, нос існуе толькі для таго, каб утыкаць яго, куды не трэба, хварэць катарам ды заставацца заўсёды з носам. А што чырвань носа сведчыць аб падтрыманні яго гаспадаром бровaрнай прамысловасці, дык гэта ніякага практычнага значэння не мае: няхай нос у цябе будзе чырванейшы, як у бусла, дык усё роўна ніхто табе за гэта чаркі не паднясе.

Засталася яшчэ толькі адна функцыя носа — нюхаць. Але вось тут якраз Мігуцкі і бачыць непатрэбны паралелізм у прыродзе.

Справа ў тым, што розныя пахі можна ўспрымаць ротам так жа добра, як і носам. І наадварот — носам можна распазнаваць розныя смакі.

Але рота нельга замяніць носам, бо ім нельга гаварыць дый жаваць таксама нельга — зубоў няма. Нават каб яны й хацелі вырасці, дык для іх у носе патрэбнага пляцу не знойдзецца. А вось нос ротам замяніць цалкам можна: рот згаджаецца ўзяць на сябе адзіны важны носаў абавязак — нюхаць.

Не хочучы быць галаслоўным, Мігуцкі праверыў гэта ўсё на практыцы. Ён заказаў жонцы, каб яна згатавала некалькі страў не з такім смакам, які яны маюць звычайна.

Калі ўсё было гатова, Мігуцкі завязаў рот і пачаў прабаваць стравы носам. І, кажа, распазнаў. Пазнаў, напрыклад, што какао з лімоннаю кіслатою, журавінны кісель з турэцкім перцам, а катлеты моцна перасоленыя.

Пасля гэтага ён заляпіў нос хлебным мякішам, завязаў хусткаю вочы і разявіў рот. Жонка стала падносіць да яго рота розныя пахі: адэкалон, нашатыр, карболь, селядзец, тухлае яйцо. І ён нібы таксама дасканала распазнаваў усе гэтыя пахі.

Вынікам гэтых доследаў з'явіўся новы навуковы трактат, але таксама не падмацаваны вытрымкамі з вершаў ніводнага рэдактара.

Пасля гэтага ў Мігуцкага на нейкі час адпала ахвота займацца навукай, дык затое ён яшчэ з большым запалам ухапіўся за тэхніку і за падняцце ды пашырэнне свае невялічкай гаспадаркі.

Пачалося з вады. Як я ўжо казаў, жонка Мігуцкага падобна да адцягненай ідэі — шчупленькая ды кволенькая, а водаправода няма: па ваду прыходзіцца хадзіць сажняў за пяцьдзесят. Вось яна сюд-туд дый просіць Мігуцкага, каб ён вады прынёс. І якраз трапляе ў той час, калі ў Мігуцкага спеюць самыя дзіўныя праекты, якія могуць ашчаслівіць разам усё чалавецтва ці, прынамсі, насельнікаў Загароднай вуліцы. Як толькі жонка забразгае вядром, дык у Мігуцкага ўсе праекты як памялом вымела з галавы.

Вось ён мучыўся, мучыўся дый стаў думаць — а ці не можна тут чаго-небудзь выдумаць? А якое тут ліха выдумаеш, калі Загародная вуліца за цэлую вярсту ад гарадской водаправоднай сеткі? Але інжынер Мігуцкі выдумаў: ён рашыў устроіць велізарны сіфон. Гэты сіфон будзе выходзіць з калодзежа і, апісаўшы велізарную дугу, праткне страху ды столь Мігуцкага і скончыцца на кухні блішчастым масяндзовым кранікам.

Мігуцкі і кранік нават купіў, а з ім частку труб. Але калі прыйшлося да работы, дык Рыжы Мінька, на двары якога знаходзіўся калодзеж, упёрся і ні з месца.

— Ты мне, кажа, гэтаю трубою ўсю ваду высмакчаш, і самавара не будзе чым наліць. А плаціш за ваду, нябось, толькі паўрубля ў месяц, і то, калі ёсць грошы. А калі яны ў цябе былі?

Мігуцкі, вядома, зазлаваў, а зазлаваўшы, вядома, падаў на суд.

Але пакуль суд судзіў, інжынер не сядзеў злажыўшы рукі. Ён распачаў новую справу, і на гэты раз прычынаю

былі карасі. Справа ў тым, што ён вельмі любіў рыбу, асабліва карасі ў смятане. І Мігуцкі не толькі проста любіў рыбу — ён лічыў сваім абавязкам любіць яе. Ён, бачыце, недзе вычытаў, што ў рыбе многа фосфару і што фосфар — гэта галоўны матэрыял, з якога будуюцца мазгі. Вось, каб зрабіць свае мазгі яшчэ больш геніяльнымі, ён і налягаў на рыбу.

Не прыняў пад увагу ён толькі таго, што на мінскім рынку свежая рыба — рэч даволі-такі рэдкая. Ну, а ў тухлай рыбе якая ўжо к чорту геніяльнасць для мазгоў — адны мікробы злаякасныя. Аднак жа праўда праўдаю — карася ў смятане ён вельмі паважаў.

Але ж карася нават і тухлага не заўсёды знойдзеш на рынку. Дый у цане яны ўсё-такі. Дык вось Мігуцкі і рашыў — развесці сваіх карасёў. А для гэтага варта было толькі сажалку выкапаць, хоць і невялікую. Ваду дажджавую можна сабраць, пракапаўшы да сажалкі канаўкі. Ды на ўсякі выпадак і ад сіфона трубку можна правесці. (Ён спадзяваўся, што суд дазволіць яму ўстроіць гэты сіфон.)

Як надумаўся, так і зрабіў: назаўтра наняў нямога Лёшку капаць сажалку, умовіўшыся плаціць яму па паўрубля на дзень. А Лёшка й гэтаму рад — дзе яму больш зарабіць?

Капае Лёшка ў гародзе Мігуцкага сажалку ды каля самага плота, што абгароджан сад Рыжага Мінькі. Выкапаў-такі й дабраватую яму.

А тут якраз і дождж пайшоў, вады чуць не поўну яму нацякло. Рад Мігуцкі. З дзесятак жывых карасёў купіў ды пусціў у сажалку.

Плаваюць збянтэжаныя карасі ды самі не ведаюць — ці то ім пладзіцца, ці пачакаць.

А грунт у гародзе Мігуцкага слабы,— берагі сажалкі паразмакалі і сталі абвальвацца. Абваліўся і бераг пад плотам Рыжага Мінькі, а разам з берагам абваліўся ў сажалку і кавалак плота.

Цяпер ужо Міньку прыйшла чарга злаваць. Ён і сапраўды зазлаваў ды таксама падаў на суд. Апрача гэтага, ён яшчэ заявіў, што Мігуцкі нямых на работу наймае ды плаціць ім толькі па паўрубля.

Прайшло месяц, можа, болей, а можа, й меней. Суд разгледзеў заяву Мігуцкага і адмовіў. Пасля той жа самы суд разгледзеў заяву Рыжага Мінькі і прысудзіў. Прысудзіў, каб Мігуцкі заплаціў Міньку дваццаць рублёў за зробленыя страты і даплаціў нямому Лёшку па два рублі за

кожны дзень работы. І яшчэ засудзілі Мігуцкага на два месяцы ў дом прымусовай працы за эксплуатацыю інвалідаў.

Тым часам стала на пагодзе. Вада ў сажалцы высахла — засталося толькі на дне. Карасі моцна засумавалі. І смятана ім не наўме — павыпруджваліся дый плаваюць жыватамі дагары.

Інжынер Мігуцкі адбывае свой тэрмін у допры, складае новыя планы ды адкрывае новыя амерыкі.

А жонка яго прадае трускалкі ды маліну і сама ваду носіць. І не толькі ваду — носіць яна час-часам яшчэ ў допр булку ды калбасу. Любіць свайго інжынера, не гледзячы на ўсе яго амерыкі. А можа, й амерыкі любіць. Можа, нават амерыкі больш, як яго,— хто яе ведае.

А карасі так смятаніны й не дачакаліся — павыпруджваліся.

Але ж апісаныя тут з'явы такія дробныя, мізэрныя, асабістыя, што нават і дэтэрмінізм ім не паможа,— ніякіх іншых з'яў яны выклікаць не могуць... Так, напэўна, думаюць некаторыя. Але я зараз давяду, што гэта не так.

Даводжу.

Хто ведае, можа, яшчэ таварыства па эксплуатацыі рыбінай лускі і разгорне сваю дзейнасць. Тады гэта вельмі адаб'ецца на дабрабыце насельніцтва і людзі, якія ўмеюць лавіць рыбку ў мутнай вадзіцы, будуць мець дадатковы прыбытак яшчэ й ад лускі. Нават тыя разнавіднасці, пра якіх кажуць, што яны — ні рыба ні мяса, таксама будуць мець выгаду, калі хоць капельку здолеюць абрасці лускою.

Хто ведае — можа, інжынер Мігуцкі, вярнуўшыся з допра, яшчэ здолее падысці да рэдактара і даць ход свайму трактату аб непатрэбнасці носа. У выніку гэтага ўсе насы стануць беспрацоўнымі і інвалідамі і, напэўна, будуць атрымоўваць дапамогу, хто грашовую, а хто й натураю — фігаву, да якой некаторыя даўно ўжо прывыклі. Гэта, вядома, моцна адаб'ецца на бюджэце, і тады, дзеля захавання рэжыму эканоміі, пачнецца культывацыя людзей бязносых. Гэта ў сваю чаргу адаб'ецца на псіхіцы і ідэалогіі грамады. Тады рымскі нос, як ідэал чалавечага хараства, знікне зусім, стане здабыткам гісторыі. Замест твару з рымскім носам ідэалам хараства стане твар бязносы, гладкі, так што, глянуўшы на такі твар, адразу й не разбярэш, што тут трэба надзяваць,— капялюш ці галіфэ. Такое абсалютнае бязносcе не выгадна будзе для тых, хто заўсёды трымае нос па ветры і з аднакаю прыемнасцю ўцягвае як дым прале-

тарскай фабрыкі, так і дым кадзіла і подых буржуазнага балота, абы гэта было з ветрам.

Што да паэтаў і пісьменнікаў, дык ад пагалоўнай бязносасці яны б нічога не страцілі, а мелі б толькі тую выгаду, што выдавецтва б ужо ніколі больш не вадзіла іх за нос. Зноў жа сярод паэтаў і пісьменнікаў зусім не было б тады такіх, каля якіх нашым крывіцкім крытыкам прыходзіцца так старацца з насоўкаю (хустачкаю да носа) перад тым, як пацалаваць.

Ну, а калі й сапраўды тэма майго апавядання такая ўжо «бледная», дробная і мізэрная, дык яна, прынамсі, хоць, можа, паслужыць тэмаю для тых, каго часта блохі кусаюць.

*1927*

## ДОЎГ

Я чалавек спакойны, ураўнаважаны і, калі хочаце, нават крыху недаверлівы. Калі я бачу новую патэнтаваную з'яву, дык ніколі не захліпаюся ад захаплення, а раней абыду гэту з'яву кругом, пагляджу, памацаю — а ці няма тут чарвінкі дзе або гнілі, ці пажыўны гэты прадукт цяпер і ці доўга ім можна харчавацца. Калі мне паказваюць, напрыклад, чырвонае, дык я не адразу паверу, што гэта чырвонае,— я яшчэ захачу паглядзець, якое яно на другім баку. Калі ж яно памалявана, дык я і ногцем паскрабу — ці моцна трымаецца фарба. Такім чынам мне часамі прыходзілася натыкацца то на генеральскую вопратку падкладкаю наверх, то на тандэтную фарбу, якая трымаецца да першай непагоды.

Сёння шмат чырвані іншага гатунку, шмат руху і гукаў.

Здавалася б, што мне, чалавеку ўраўнаважанаму, да гэтага ўсяго? Дык вось жа не: у носе казыча, і на вачах вільгаць, а ногі самі патрапляюць у такт пад гукі марша.

— Дзесяць гадоў!

Дзесяць гадоў, як мой бацька не цалуе панскай рукі. Убачыўшы важнага савецкага працаўніка, ён і цяпер яшчэ часамі хапаецца за шапку і нагінаецца, каб пацалаваць руку. Я яму тады: «Кінь, тата! Ты ж сам яго выбіраў — ён твой слуга, а не ты яго». Бацька выпрастаецца — і ў пастаці павага да сябе.

Дзесяць гадоў, як я сам свядома будую разам з усімі працоўнымі тое, што хачу будаваць. Праўда — не ўсе дзесяць гадоў будую, быў час, калі трэба было разбураць. І я разбураў так жа свядома, як разбураў мой бацька сёлета стары хлеў, каб збудаваць на гэтым месцы новы. А цяпер каторы год вось я ўжо будую, наколькі хапае сілы і розуму. Калі ж хто і прабуе выбіваць з рук маіх цагліны, дык яны падаюць яму ж на галаву.

Дык вось чаму сягоння ў мяне і стан роўны і крок цвёрды...

Але ў гэтым магутным вялікасным акордзе мне часамі чуецца мізэрная, ледзь чутная, фальшывая нотка. Адкуль гэта? Ага, вось яно! Гэта бляянне ґэтага залатушнага маладога чалавека, «рэвалюцыянера да скону». А як жа! Ён жа калісьці крычаў «ура» і «даёш Варшаву», калі другія ішлі ў атаку; ён хапаўся за спіну і плаксіва моршчыў твар, калі другіх хвасталі шампаламі; ён пацеў, калі другія працавалі, ён ездзіў на курорты, калі другія хварэлі. Такім чынам за дзесяць гадоў з яго выпрацаваўся стопрацэнтны цвердакаменны артадокс (бярозавы).

А вось другі. У яго яшчэ не паадпадалі махры добрасумленнага манархіста, але ён таксама лезе ў артадоксы. Што далей, то часцей падыходзіць ён з «марксісцкага пункту погляду». Не падыходзіць, а, праўдзівей, пад'язджае. Яго ліхвярская душа пражэцца да нажывы. Ён мяркуе: а ці нельга садраць якія-небудзь працэнты і з Марксавага «Капіталу». І здзярэ. Калі і не сто працэнтаў гадавых, як ён бярэ з свайго, дык, ва ўсякім разе, палатаецца. Яго бляянне асабліва рэжа мне вуха. Але не буду псаваць сабе святочнага настрою...

Дзе я бачыў гэтага чалавека, што ідзе поруч са мною злева? Я ледзь пазнаю яго — Сукач. Так, Цімох Сукач. Скураная куртка ды кепка зрабілі яго зусім не падобным да таго Сукача, з якім разам у акопах гнілі.

— Дзе гэта мы з табою разлучыліся?

— Альбатэшты памятаеш?

— А як жа, памятаю. Гэта там, дзе палкоўнік Зякін за адзін дзень увесь свой полк палажыў, выткнуўшы днём пад гарматы ды кулямёты нямецкія.

— Вось-вось. Дык тады ж мне і папала асколкам у бок — рабрыну зламала і кантузіла моцна. Мы пад вечар аж пад самыя акопы нямецкія падпаўзлі былі, а яны гранатамі калі шарахнулі! Дык адна зусім каля майго боку разарвалася, але добра, што лапатка была пры поясе, дык

яна ля лапаткі,— толькі адзін асколак папаў... А з палкоўнікам Зякіным мы яшчэ сустракаліся пасля таго. Доўга я качаўся з гэтаю ранаю. І цара скінулі, а я ўсё ў шпіталі ляжаў. У Мінскім нават шпіталі і ляжаў — папрасіўся, каб накіравалі бліжэй да свае бацькаўшчыны. А калі я паправіўся ды трэба было выпісвацца, дык мяне ў шпіталі і пакінулі: там якраз санітар патрэбен быў. Работа мая была — абед разносіць ды ў пакоях прыбіраць. Уваходжу гэта я раз у афіцэрскую палату, гляджу — Зякін. Ах ты, сукін сын. У халаце, разумееш, і твар такі посны. А вусы таксама стаяць, як у чорта, і позірк воўчы. Я, вядома, ні слова, як бы і не знаю яго. А ён і сапраўды не знае мяне, не памятае. А сыходзіліся мы з ім раз вельмі блізка — на даўжыню рукі. Гэта было тады, як ён мяне па мордзе хвоснуў. Цябе яшчэ не было ў нашай роце. І за пусцяковіну ж выцяў стары чорт. Раз быў наш батальён адведзен на некалькі дзён у рэзерв, стаяў у вёсцы. Вось ён неяк і прываложся ў нашу роту. Убачыў мяне, паківаў пальцам. Я падышоў.

«Пазаві, кажа, мне свайго ротнага камандзіра».

Я гэта павярнуўся ды хацеў ісці, а ён: «Ты што гэта, забыўся, такі ды сякі, як паварочвацца трэба? Карова ты, кажа, цельная, а не абаронца бацькаўшчыны»,— дый бац мяне па мордзе. Аж уваччу кругі чырвоныя пасталі. Злосць мяне апанавала,— каб дзе з рукі, дык бы кулю ў патыліцу пусціў шэльме...

Цікава мне было даведацца, што ў яго за хвароба, што ён у шпіталі ляжыць. На пагляд, здаецца, ніякай хваробы ў яго і няма,— чырвоны, мурлаты. Вось я раз і запытаўся ў сястры. Мушка яе звалі — маленькая, чорненькая, з адным капітанам хворым круцілася. Але такая прыветная была. Яна мне кажа:

«Ён пасля тыфусу, ды яшчэ і неўрастэнія ў яго».

«Не, думаю, тыфус тут вядома які: уцёк, думаю, з палка, не іначай». А ў палку яго, ведаеш жа сам, вельмі не любілі, бо не аднаму мне ён партрэт папраўляў. Прапаршчыкаў і тых, бывала, па-мацярынску лаяў. А тут яшчэ гэта наступленне. Усе ў палку лічылі вар'яцтвам наступаць без усякай артылерыйскай падрыхтоўкі, удзень, калі ў немца дзевяць радоў калючага дроту дый наша драцяная агароджа цэлая, а ён упёрся — наступаць! Ну і наступілі... сабаку на хвост. Вось, мусіць, і даў драла, каб на цугундар не ўзялі... Стаў я прыслухоўвацца да гутарак у афіцэрскай палаце, стаў прыглядацца да хворых. Бачу, што ўсе яны

сядзяць, як зайцы ў гаросе, вушы панатапырвалі. Падыходжу часамі пад дзверы, чую: «Карнілаў, Керанскі, бальшавікі, бальшавікі». А як увайду, сунімаюцца ды касавурацца на мяне. «Што, думаю, тут за трасца? Што ім так абыходзяць Керанскі, Карнілаў ды бальшавікі?» Чуў [redacted] і ў іншых месцах гэтыя словы, а не разумеў нічога: хто каго б'е, за што і праз што. Чуў пра бальшавікоў, што іх Вільгельм падкупіў ды падаслаў у Расію, каб тут беспарадкі ўзнімаць; і вельмі я іх не пахваліў. Адным словам — ва ўсёй гэтай палітыцы я быў як цяля на кірмашы: не ведаў, хто цябе рэзаць збіраецца, а хто гадаваць. Нават калі мяне адзін хворы афіцэрык назваў бальшавіком за тое, што я нібы недалікатна з ім абышоўся, дык я пакрыўдзіўся быў за гэта. А быў у мяне зямляк у Мінску, Максім. У нейкім сапёрным батальёне служыў. Шустры хлапец, разбітны. Прыйшоў ён раз да мяне. Разгаварыліся мы. Пра вёску, пра дом сталі гаварыць, пра гаспадарскія справы ды пра сваіх хатніх.

«Калі ж гэта ўсё скончыцца? — кажу я.— Абрыдла, свет не міл, зусім замучыўся: сам тут гібееш, а жонка там без гаспадара. А што мая дачушка там робіць? Напэўна, кажу, у лялькі гуляе. Нябось і не ведае, які такі яе тата на свеце ёсць — шэсць месяцаў было, як пакінуў, а ўжо вось тры гады з таго часу прайшло. Пабачыць хочацца».

«Пабачыш, кажа. І скора пабачыш, калі захочаш».

«Адкуль ты гэта, кажу, ведаеш?»

«Адкуль ведаю, але ведаю. Вайне зараз капут».

«Кінь ты, кажу. Сасніў хіба — канца вайне яшчэ і не чуваць».

«А ты, пытае, пра бальшавікоў чуў?»

«Чуў, кажу, што яны шкодныя людзі».

«Сам ты, кажа ён, шкодны, хоць ты мой і сябар. Людзі хочуць яго з войска вызваліць ды зямлі даць, а ён — шкодныя».

«Сам, кажу, я з імі не знаёмы,— людзі кажуць, дык і я кажу».

«І людзі твае, кажа, шкодныя. А калі, кажа, не знаёмы, дык пазнаёмся — я сам і ёсць бальшавік. У нас, кажа, і камітэт свой бальшавіцкі ёсць у батальёне, але ніхто пра гэта не ведае. І ты, глядзі, пра гэта нікому ані-ні».

А сам ён тут калі пачаў ды калі пачаў: і хто такія бальшавікі, і адкуль яны ўзяліся, і чаго яны хочуць. Усю іх праграму выклаў мне. Праўда, што я адразу не ўсё ў ёй і зразумеў: вельмі ж усё там было неяк дзіўна і незвычайна. Ну, але пра зямлю і волю я добра-такі ўцяміў.

спадабалася. Стаў я час-часом і да Максіма наведвацца, а там мне ўжо і добра растлумачылі — што гэта за бальшавікі, хто Керанскі, чаго хоча Карнілаў. Вярнуўшыся, я часамі вазьму дый завяду гутарку аб гэтым з нашымі санітарамі. Некаторыя нічаму не верылі, іншыя і не ведалі, ці то верыць, ці то не, а больш за ўсё спадабалася мая гутарка аднаму — сухажыламу, доўгаму — Сідаравым яго звалі. Асабліва яго цікавіла, як гэта будуць паноў праганяць. Ён хоць зараз гатоў быў гэта пачаць.

Не ведаю, як доўга так яно цягнулася, а толькі раз прыбягае да мяне Максім — рад, узбуджаны.

«Гатова! — кажа.— Наша ўзяло! К чортавай мацеры і Керанскага, і ўсё правіцельства».

Я гэта шапнуў сяму-таму з нашых хлопцаў: «Давай, кажу, гасцінец афіцэрам паднясём». А якраз перад абедам справа была. Вось мы зараз да кашавара: «Так і так — давай афіцэрскую яду хворым салдатам, а афіцэрам з салдацкага катла».

Ён — рад старацца. А крупнік для салдат варылі «дубовы», гэта значыць з ячных абганяных круп. З саланінаю нават, здаецца. Панёс я ў абед гэты крупнік. Адну талерку Зякіну стаўлю, другую яго суседу. Паглядаю адным вокам.

Нюхнуў мой Зякін— зморшчыў нос. Потым сербануў: «З якою гэта ты дрэнню прынёс мне суп сёння?» — пытае.

А я яму:

«З бальшавікамі, гаспадзін палкоўнік».

«Што за хамскія жарты? — крыкнуў ён.— Далажы старшаму ўрачу, што ты такі грубіян».

А я:

«Не клапаціцеся, таварыш: старшы ўрач сам на дубовы крупнік пераходзіць».

Збялеў ён ад злосці, але губы прыкусіў, нічога не сказаў: мусіць, дагадаўся, што тут нешта не так.

Праз гадзіны дзве па калідорах захадзілі, зашапталі трывожна, зашушукалі. Відаць, аб усім даведаліся. А зараз бачу — і адзежу Зякіну панеслі. «Э, брат, пачакай, думаю: я ж яшчэ вінаватым табе застаўся». Пайшоў я, маргнуў Сідараву: «Памажы, брат, птушку злавіць».

Сталі мы каля выхадных дзвярэй, чакаем. Бачым — садзіць наш Зякін. Вусы на сто дваццаць — вось, здэцца, і дасць па мордзе. Аж неяк страшна стала. Але я набраўся смеласці, узяў «пад казырок» ды да яго.

«Вінават, кажу, ваша высокаблагароддзе, дазвольце доўг аддаць,— не хачу вінаватым заставацца». Ды — бац!

яму з правай. Ухапіўся ён рукою за шчаку, а другою за кабур мацае.

«Дарэмна турбуецеся, палкоўнік. Рэвальвер — вось ён, у мяне ўжо,— супакоіў яго Сідараў.— Шагам марш! Наперад!» — скамандаваў ён, наставіўшы рэвальвер.

Завялі мы Зякіна ў Максімаў камітэт, а далей...

Тут грымнуў аркестр у галаве нашай калоны і заглушыў словы майго прыяцеля.

Мы выйшлі на плошчу Свабоды.

*1927*

## ВАЙНА

Сяджу я ды думаю... А што думаю, дык і сам добра не разбяру — вось вярзецца нешта.

Ага, злавіў — пра вайну думаю. Кажуць — вайна будзе. Ды будзе-такі. Калі цётка Палуся сказала, што будзе, то, значыць, будзе.

Цётка Палуся — гэта кума мае кватэрнае гаспадыні. Вы не глядзіце, што яна трошкі падслепаватая ды кіслагубая, але бачыць яна на тры сажні пад зямлёю і чуе праз тры мураваныя сцяны. А ведае ж яна дык усё, што толькі ёсць на свеце, і шмат яшчэ з таго, чаго няма, не было і быць не магло.

Дык вось яна і казала, што вайна абавязкова будзе. Была яна, бачыце, у Гніляковых, дык яны палавіну сваіх рэчаў прадалі ўжо — думаюць за Маскву ўцякаць. Кажуць, што Гнілякоў захварэў і яму сушэйшы клімат патрэбен. Брэшуць,— здаровы, як конь: гэта ён вайны ды газаў баіцца.

А Міхась Крываносік дык прыйшоў дадому п'яны як гразь ды ўсе гаршкі паматлашыў. Вельмі ж ён ужо на Чэмберлена раззлаваўся. Пазакасваў рукавы, пакамячыў кулакі:

— Дайце мне, кажа, гэтую акулу, дык я яе вось так! вось так! — ды дубасіць па гаршках. Так буяніў, пакуль аж ніводнага «Чэмберлена» на паліцы не засталося.

Жонка стала плакаць ды лаяць, дык ён і да яе з кулакамі:

— Што, кажа, шкада? Табе Чэмберлен — дзядзька родны? — Чуць не аддубасіў і яе.

А вунь той, з конскаю сківіцаю, што кватаруе ў Спіцы, дык золата сабе намяняў на чырвонцы. Цэлых тысячу рублёў даў чырвонцамі за шэсцьсот золатам.

Дык і Храпкіна на свайго навалілася:

— Усе выменьваюць золата, чаму гэта ты,— кажа,— ні аб чым не дбаеш?

— А што ж я, хіба цябе памяняю на золата,— адказвае ён.— Дык ты ж у мяне,— кажа,— і так — золата.

— Чаму гэта што? Вось выдадуць пенсію, дык ты рублёў колькі пакінь, а то ўсе пяцьдзесят і памяняй. А што Зэліку вінаваты дваццаць, дык ліха яго не возьме — няхай пачакае. Можа, і аддаваць, кажа, не прыйдзецца, бо як вайна ж, дык тады ўсе даўгі прападаюць. Вунь Францыя, не ім будучы, і то пасля не сыскала.

То цётка Палуся і не ведае ўжо, як яны зробяць.

Вось толькі Скнарэцкага кватаранты нікуды не збіраюцца і не рыхтуюцца. Адзін, сухі, як таран, над кнігамі дзень і ноч сядзіць ды ўсё нешта піша. Другі з партфелем лётае,— зранку як пойдзе, дык аж да ночы няма. А рэшта — без партфеляў, але таксама штодзень на нейкую службу ходзяць.

Але пан Скнарэцкі (любіць, калі так завуць) вырашыў ужо, што ён будзе рабіць з сваімі кватарантамі, калі будзе вайна. Бо ён разважае так, што калі будзе вайна, то прыйдуць паны. А калі прыйдуць паны, то не будзе камгасу. А калі не будзе камгасу, то Скнарэцкі — гаспадар свайму дому. А калі гаспадар, то што захоча, тое з сваім домам і зробіць. Дык зробіць ён вось што: сухога тарана прагоніць. Ліха яго ведае, што ён за чалавек,— над кнігамі ўсё сядзіць. Мо чарнакніжнік які, а можа, яшчэ і горш. З партфелем сам уцячэ. А калі не ўцячэ, то тады Скнарэцкі ведае, што з ім рабіць.

Ну, а рэшта няхай жывуць — ліха іх бяры. Толькі плату прыйдзецца набавіць.

А чырвонаармейцы дык прыходзілі да Аўдзея шашкі вастрыць (у яго тачыла ёсць). Утрох прыходзілі. Адзін дык, мусіць, зводны нейкі — вельмі ж ён ужо бойкі ды спрытны.

— Няхай,— кажа,— толькі зачэпяцца, дык мы ім пакажам, колькі мы важым.

А другі дык усё шашку пробаваў.

Уваткне лазіну ў зямлю:

— Вось, кажа, гэта, скажам, буржуяціна стаіць. А гэта, скажам, я — чырвонаармеец Ванькоў. Чырвонаармеец Ванькоў вось так — цяп! — і ад буржуяціны толькі пянёк застаўся ды дух цяжкі пайшоў.

Дык цётка Палуся так напужалася, так напужалася ўсяго гэтага, што аж на рынку апынулася. Купіла два пуды солі, пуд цукру ды яшчэ там усякай усячыны. Мяркуе, што на ўсю вайну хопіць.

А яшчэ будзе вайна вось чаму: надоечы ў мяне спатканне было з адным чалавекам. Сакнуліся мы з ім на рагу Савецкай і Ленінскай.

— Здароў! — крыкнуў ён, вырачыўшы вочы.

— Ды здароў, кажу, а якая ж мне трасца.

А сам уважна разглядаю яго шырокі твар, чырвоныя шчокі і светла-сінія, як бы трохі збляклыя, вочы.

— Ты гэта ці не ты? — пытае ён.

— Не, кажу, гэта, мусіць, не я.

Рысы яго твару мне былі знаёмы, асабліва гэтыя вочы, але я ніяк не мог успомніць — ці гэта мой які даўнейшы знаёмы, ці мо проста я гэтага чалавека бачыў у якой-небудзь краме або на вакзале.

— Ну, дык як жа не ты, калі мы з табою і ў школе разам вучыліся. Я сядзеў на самай задняй лаўцы, а ты на другой адзаду цераз праход.

— Ну, дык гэта, мусіць, я,— адказваў я не зусім пэўным тонам.

— Помніш яшчэ, як я табе закінуў за каўнер камячок снегу, а ты мне кулаком па пераноссі джвугнуў? Ох, і здорава ж загрэў, аж цяпер яшчэ, здаецца, баліць, як уздумаю.

Цяпер я ўспомніў. Гэта быў той самы Васіль Скрылевіч, якога мы дражнілі — Цюхцяй. Успомніў я і тое здарэнне, аб якім ён цяпер гаварыў. Я чытаў на пераменцы «Шэрлака Холмса». Толькі гэта я з сваім знакамітым сышчыкам сабраўся выкрыць нейкае хітра заблытанае злачынства, як мяне раптам жахнула нешта мокрае, надзвычайна халоднае. Мне здалося, што нехта цэлы Ледавіты акіян заліў мне за каўнер. Ён цёк і плыў па маёй спіне ўсё ніжэй і ніжэй, а я з тварам «великомученика» стаяў, выгнуўшы спіну, і не ведаў, адкуль што ўзялося. Калі я агледзеўся назад, дык убачыў, што Цюхцяй не можа выгаварыць слова ад смеху і толькі пальцам паказвае на мяне другім вучням. Кроў рынулася мне ў твар, і, не разважаючы, я пусціў свой кулак у кірунку твару Цюхцяя. Куды мой кулак папаў,

я нават добра і не заўважыў, а толькі ўбачыў, што Цюхцяй хапіўся аберучкі за нос і прыпаў галавою на лаўку.

Дык вось гэта быў той самы Цюхцяй.

— Дык я ўжо ведаю, хто ты, і стаяць тут нам больш няма чаго,— сказаў я.— Хадзем куды-небудзь.

— А куды ты ідзеш?

— Ды вось са службы дахаты паўзу.

— Дык мне таксама ў гэты бок, толькі я хацеў зайсці тут у адну краму. Але ўжо няхай заўтра — пойдзем разам... Ну, дык расказвай — што? як? дзе быў? што рабіў? Бо якніяк, а ўжо трынаццаць гадоў прайшло, як мы разышліся ў розныя бакі.

Я ў кароткіх словах расказаў, дзе я быў і што рабіў за ўвесь гэты час.

— Ну і дурань жа ты! — крыкнуў мой знаёмы такім тонам, што цяжка было яму пярэчыць.

— Слухай, як табе не сорам,— запратэставаў я.— Няхай сабе [redacted] і дурань, але навошта ж, каб пра гэта ведала ўся вуліца.

— Выбачай, братка,— мякчэй трохі сказаў ён,— але як жа цябе не назваць дурнем, калі ты шэсць гадоў служыў на вайсковай службе і з іх больш як тры гады ў Чырвонай Арміі. Што — паеў, нябось, пшанічнай кашы, пакарміў вошай?

— Усяго было,— адказаў я,— але ж нічога не зробіш — што трэба, то трэба.

— Трэба... Эх ты, прастата! — адказаў мне знаёмы.— Ты думаў — калі трэба, дык без цябе ўжо і не абыдуцца. Аднак жа вось без мяне абышліся, і я пра гэтых розных калчакоў, дзянікінаў ды юдзенічаў толькі слыхам чуў. У царскай арміі то, праўда, служыў, але ж гэтак ваяваць дай божа да веку кожнаму добраму: як зашыўся, брат, у інтэнданцтва, дык каму фронт, акопы і ўсякія іншыя прыемнасці, а мне — вайна да пабеднага канца. А як скінулі цара, зашавяліліся салдаты, ды некаторым з нашых крута прыйшлося, дык я, брат,— лататы ды дадому. Сядзеў у вёсцы ціханька і не рыпаўся аж да дваццатага года. Бо ў той час скора можна было галаву скруціць. Але нарэшце і ў вёсцы стала цесна — дастаюць, кажуць: «Ці не будзеце ласкавы ў Чырвонай Арміі паслужыць?» Я, разумеецца, шчыра ім падзякаваў за такі гонар, а сам давай шукаць норкі. І знайшоў: дзякуючы сяму-таму з дужэйшых, улез у Інстытут сельскай гаспадаркі, які тады толькі што адчыніўся. А там, значыцца, адтэрміноўка як студэнту.

Вось так пад шумок правёў я ў зацішку гэтыя неспакойныя гады, і сёння ты можаш вітаць мяне з годнасцю агранома.

«Вось табе і Цюхцяй,— падумаў я,— умее прыстасавацца да мясцовасці».

— Вось, як сам бачыш,— казаў далей Цюхцяй,— я нішто сабе выйшаў з усяе гэтай калатушы, а ўсё таму, што ніколі палітыкам не быў. Прызнацца-сказаць — я нічога не разумею ў гэтай палітыцы. Я не разумею, чаго гэта людзі на ражон лезуць з-за яе. Па-мойму, усякая ўлада добрая, абы пры ёй добра жылося...

Філасофіі яго да канца я не даслухаў — падышлі да мае кватэры.

— Ну што, а цяпер зноў пойдзеш? — запытаў мяне на развітанне Цюхцяй.

— Куды?

— На вайну.

— На якую?

— На такую, якая скора будзе.

— Я, кажу, яшчэ нічога не чуў.

— Не чуў, дык пачуеш, кажа, і пабачыш напэўна. І дай божа табе добры слых і зрок. А я-то чуць, можа, і буду, а бачыць дык не давядзецца. Пераводжуся ў Тульскую губерню. Не думаю, каб вайна мяне там дастала.

Вось я і разважаю аб усім гэтым ды думаю — будзе вайна. Бо — падумайце ж самі — цётка Палуся купіла пуд цукру ды два пуды солі, дык не прадаваць жа іх зноў, і не купляць жа Гнілякову сваіх рэчаў назад, і не пераводзіцца ж Цюхцяю з Тульскай губерні зноў на Беларусь. На такое людзі гэтыя ніколі не згодзяцца.

*1927*

## ПАЛЬЧЫК

— Жэнька! Уставай, дачушка! — будзіць маці.— Што гэта ты сабе думаеш? Вунь Петрык даўно ўжо ўстаў, снедае. Уставай, пазабаўляй яго трохі!

І сапраўды — Петрык ужо ўстаў. Ён сядзіць у калысцы, прывязаны поясам за вяровачкі. У руках у яго вялікая галка камякоў (бульбяной кашы). Ён ужо іх сам пад'еў

і нос накарміў, начапляў на шчокі і на мяккі лён — рэдкія светлыя валосікі. Мухі старанна ўвіхаюцца каля яго і рады, што Петрык не вельмі цярэбіцца. А таму, па праўдзе кажучы, і часу няма: вачаняты яго пільна ўтаропіліся ў акно. Там час ад часу паказваюцца круглыя вушы, а потым рогі, а то і ўся каровіна галава і плыве павольна паўз акно. Петрык рад — у ладкі плешча і крычыць:

— Мама, му!

Але вось часам галава прыпыніцца, у шыбу ўпрэцца вільготная наздратая пыса і зашуміць моцна, нюхнуўшы паветра. Тады ўжо страшна Петрыку — ён зажмурвае вочы, закрываецца ручкаю і крычыць на ўсю хату тонень-кім прарэзлівым галаском.

А Жэнька чуе, што Петрык пішчыць, і чуе, што каровы рыкаюць. І вярзецца ёй, што Петрык сядзіць на бярвеннях пад хлявом. Да яго ідзе Струкавых Падласка, рогі наставіла і галаву ўвагнула, убароць хоча. Петрык крычыць і ножкамі трапеча, а Падласка ўсё бліжэй ды бліжэй, і ўжо адзін рог яе ўпёрся ў Петрыкаў жывоцік. Жэнька і сама хоча крыкнуць, каб адагнаць Падласку, але не можа: праз горла дух праходзіць, як праз дзірку ў капшуку, а голасу няма. Яна хоча падбегчы ды выцяць Падласку дубцом, але ногі не слухаюць. І нават не чуецца яна — ёсць у яе ногі ці няма. Але вось Петрык абхапіў карову ручкамі за шыю, а карова пацалавала яго, Петрыка, у лобік і прыгарнула да сябе. Глядзіць Жэнька — адно ж гэта не карова, а іх мама. Вось яна расце, расце аж пад страху, потым аж пад вілачкі на страсе, а потым аж пад неба, і тады ўсё знікае.

— Ды ўстань жа ты, Жэнька! Вось успалася!

Яна чуе мамчын голас.

— Устаю. Ужо ўстала, ужо,— мармыча яна праз сон, а вачэй ніяк не расплюшчыць. Галаву ахутаў туман і прыціснуў да падушкі. Вось ён зноў закрыў усё. А мухі і ля яе стараюцца — роем гудуць, лезуць у нос, казычуць за павекі, залазяць у куткі губ.

— Уставай, ідзі авечкі выгань, а то пастух перагоніць.

Узадралася сяк-так, працерла вочы.

Выганяць авечкі — гэта яе штодзённы абавязак: тут ужо нічога не зробіш, трэба ўставаць.

Глянула з замілаваннем на сваю ляльку Ганульку, якая спала побач з ёю, абцягнула на ёй сукенку — «спі, спі, малая». Паглядзела пасля і пагладзіла кацянятак, якія ляжалі ў рэшаце на прымурку і над якімі яна прыняла шэфства яшчэ тыдзень таму назад, як толькі нарадзіліся,

выцерла Петрыку носік, які ўжо аж у губу ўпёрся, і пайшла выганяць авечкі.

Пакуль яна сёе ды тое, тое ды гэта — Ганульку да толку прывяла ды сама ўмылася, дык маці ўжо і печ засланіла.

— Ну, слухай, кажа, што я табе буду казаць. Бацька пайшоў касіць і будзе да вечара. Я пайду жаць на Падгор'е і таксама да вечара буду. Дык ты глядзі, каб хто ў хату не ўлез ды не пакраў чаго — не пакідай адамкнёнай. Есці будзеш камякі ў печы, а малако кіслае ў шафе на другой паліцы. Петрыку малако на прыпечку ў гаршчыку. Удзень парсючку ніць занясеш — пад лаваю ў чыгуне стаіць. Ды свінням бульбяніку назбірай. Петрыка пасадзіш ды цацак дасі, дык ён і пагуляе, пакуль ты. Глядзі, Петрыка не пакідай аднаго, а то коні стопчуць, бегучы з выгану.

— А ты ж мне васількоў прынясеш? Прынясі, мамачка! Сіненькіх-сіненькіх. І бярозкі. Я спляту Ганульцы сваёй вяночак. Яна ўжо вялікая ў мяне, жаніцца будзе, дык ёй вяночак трэба.

Жэньцы таксама хочацца на поле жаць ды васількі рваць. Але яна яшчэ не ўмее жаць,— раз прабавала ды палец абрэзала — яшчэ знак ёсць. Ды дома трэба быць — парсючку піць занесці. Бо калі парсючок галодны будзе, дык і сала не нарасце, і скваркі не будзе. А не хочацца адной дома быць. Дзень доўгі, доўгі. Чакай, пакуль сонца стане над дзядзькавым хлявом, потым над Марылінаю хатаю, потым зробіцца чырвонае, вялікае-вялікае, як рэшата, і спусціцца нізенька, што качаргою можна дастаць. Потым стане хавацца вунь за той лясок. І як будзе ўжо толькі трошкі беражок відаць, тады аж мама прыйдзе. А Петрык нягодны такі — не хоча гуляць з цацкамі, а ўсё плача ды на рукі лезе. А насіць яго доўга, дык і рукі млеюць, і спіна баліць, бо ён цяжкі, як гляк.

Пад'ела спяшаючыся — Петрык не даваў. Яму ўжо даўно абрыдла сядзець прывязанаму. Сцерла стол, узяла ляльку Ганульку і выйшла з Петрыкам на руках на вуліцу. Пуста на вуліцы, нікога няма, толькі Міхасёва свіння рабая ляжыць сярод вуліцы. Выцягнулася пад сонцам, а каля яе парасят з дзесяцера мітусяцца. Коўзаюцца па ёй, куцаюць, а яна толькі ляжыць ды стогне з вялікай прыемнасці. Петрык рад — ручкамі махае і пішчыць ад радасці. Ён і сам бы ахвотна пакуцаўся разам з парасятамі, каб яго пусцілі. А Жэньцы маркотна адной. Пайшла, глянула ў Алесіных пад акно — няма нікога, дзеці недзе пайшлі. Толькі калі яна схадзіла ў гарод, назбірала зяленіва і прыйшла зноў на

вуліцу, дык тут ужо былі Аўдоля і Юзік Алесіных, Настулька Трацякова ды Сцёпка Уласавых.

— А мы сёння халаднік елі — ага! З цыбуляю ды з агуркамі. Смачны, смачны,— пахваліўся Сцёпка.

— А ў нас цялусацка маленькая ёсць, а ў вас няма — ага! — пахваліўся ў сваю чаргу Юзік.

— А наш хлеў новы, а ваш сталы.

— А ў нас дзед ёсць, а ў вас няма, а ў вас толькі баба. Дзед за лепс, як баба.

— А ў нас... а ў нас сабака лабы, а ваш чолны, ага! Лабы ж халошы, а чолны гадкі.

— А ў нас... а ў нас... а ў нас... Аўдолька, сказы, сто ў нас, а то я не ведаю,— захныкаў Юзік.

— А наш сабака ды вашага задушыць,— сказала Аўдоля, заступаючыся за брата.— Як схопіць за горла ды — гар-гар-гар! дык вашаму і капут.

Цяпер ужо Сцёпка насупіўся і стаяў, не ведаючы, чым яму пакрыць сваіх апанентаў.

— А мой тата касіць пайшоў,— кажа ён нарэшце.

— І мой тата пайшоў, і дзядзька пайшоў,— сказала Настулька.

— Дык і мой тата пайшоў,— не ўцярпела Жэнька,— бо сягоння ж усе людзі пайшлі касіць. Я нават ведаю, дзе мой тата косіць. Хадзем пад вароты, дык я пакажу.

Пасадзіўшы Петрыка, яна ўзлезла на вароты, узялася адной рукой за шуло, а з другой брыль над вачыма зрабіла. Да Зарэчча, дзе косяць касцы, вёрст са дзве, а можа, і больш, і на зялёнай сенажаці відаць толькі белая чарада не то гусей, не то кароў, больш нічога не разабраць. Але Жэньцы хочацца паказаць, што яна ўсё добра бачыць:

— Вунь там кусцікі, кусцікі, кусцікі, а потым вялікае дрэва. А каля таго дрэва мой тата вунь косіць у белай кашулі і ў шарачковых портках, пояском зялёным падпяразаны...

— І я бачу,— сказаў Сцёпка.— Вунь мой тата сквалкі есць. Плаўда, Настулька?

— Вот ілгун, ці ты ж бачыш з зямлі? — абарвала яго Жэнька.

Але Сцёпка доўга не здаецца і клянецца, што бачыць, як яго тата «сквалкі» есць.

Пасля пайшлі на прыгуменне, каб адтуль паглядзець, дзе жыта жнуць. Але тут зусім ужо нельга было нічога ўбачыць, апрача жытняга мора, па якім час ад часу прабягаў лёгкі ветрык. Толькі дзе-нідзе з гэтага мора вытыркалі,

як падводныя каменні, шапкі мэтлікаў ды, нібы крыло белай птушкі, паказвалася на момант хусцінка жняі.

Тады прыйшлі зноў на вуліцу і распачалі гульню. Сцёпка быў за гаспадара. Ён зрабіў сабе касу з лазовага дубца, які знайшоў каля свінога хлеўчыка, ды пайшоў касіць на Зарэчча. Жэнька была за гаспадыню.

Каб Петрык ёй не перашкаджаў, яна пасадзіла яго ў каляску і дала ў ручку моркву, якую вырвала ў гародзе, як збірала свінням бульбянік. Сама яна стала ўвіхацца каля печы, якую знарок для гэтага зрабіў муляр Юзік у пяску каля прызбы. Не паспела яна ўхадзіцца, як ёй нешта стала нядобра — вельмі ж забалеў жывот. Юзік ужо хацеў па доктара ехаць, каб той прыехаў ды банькі паставіў. Але Юзікаў конь хадзіў на выгане, ніяк не хацеў лавіцца і нават два разы ўбрыкнуў Юзіка (нягледзячы на тое, што ён быў гліняны і што абедзве заднія нагі яго былі адбіты).

Тым часам пакуль Юзік сабраўся па доктара ехаць, дык і без яго ўсё добра абышлося: у Жэнькі нарадзілася дзяўчынка Ганулька.

За бабу была Аўдоля, а за куму Настулька. Яны абедзве прыйшлі на вотведы і прынеслі па вялікім гаршку ўзвару з груш і чарніц ды па місцы аладак. Кума дык яшчэ і на сукеначку прынесла. Вось яны пачаставаліся ды сядзяць сабе, дудукаюць пра сёе, пра тое, а Жэнька дзіця купае.

Толькі гэта яна пакупала ды сабралася грудзей даць, як Петрык дзіка, прарэзліва крыкнуў і зайшоўся з плачу. Каля яго стаяла худая чорная свіння. Першы схамянуўся Сцёпка і, падскочыўшы, сцебануў свінню знячэўку «касою» па спіне. Яна спужалася, віскнула і стала ўцякаць. З яе ляпы выпаў кусочак морквы і разам з ім акрываўлены Петрыкаў пальчык.

Жэнька абхапіла брата і стала крычаць моцна, дзіка, аднатонна. Крычалі абое да хрыпаты, да знямогі.

Прыйшла Сцёпкава бабка Тацяна, прымачыла ручку зёлкамі і перавязала чыстаю анучкаю, а пальчык падняла і абмыла.

Матцы наказалі. Прыбегшы з поля, яна застала Жэньку з дзіцем, прытуліўшыся на палу ў кутку. Хлапец яшчэ плакаў слабенькім ахрыплым галаском, а дзяўчо толькі ўсхліпвала зрэдку ды трэслася ўсім целам. Маці выхапіла ў яе з рук дзіця, а самую яе схапіла за валасы, сцягнула з пола і кінула аб зямлю. Сама яна стала галасіць над дзіцем ды прыказваць.

Жэнька паднялася з зямлі і ўткнулася галавою ў пасцель. Яна не магла моцна плакаць, толькі плечы яе ўздрыгвалі ды збянтэжана трэслася — мышыны хвосцік — тоненькая светлая коска.

А на стале ляжаў беленькі, чысценькі, малюсенькі пальчык. Той самы пальчык, якім Петрык раніцою паказваў у акно і казаў: «Мама, му!»

*1927*

## ПЕВЕНЬ

Прыпёртыя лесам да самай рэчкі схлупіліся ў кучу шэрыя местачковыя хаты, абкружылі ўзгорак, а з ім і цэркаўку, нудна-шэрую, апушчаную. Абступілі і нібы слухаюць казань яе хрыплых, языкастых званоў.

А крокаў за сто ад цэркаўкі — няпоўная сямігодка. Яно сур'ёзна нельга сказаць, што яна няпоўная: кожную зіму яна бывае поўна аж цераз верх, але класаў у яе малавата — пяць усяго. Пяць класаў — пяць настаўнікаў. Але пры школе кватэры толькі на дваіх. Жыве пры ёй загадчык Храновіч — чорны, як камінар, пануры, а жонка яго бялявая, бландзіністая. Пад адною страхою з імі жыве настаўнік Ячны. Гэты сам белы, як смятана, а жонка ціхая і чорненькая, і завуць нават яе — Галачка.

Выйшла гэта раз загадчыха, устаўшы раніцою, у калідор, а там певень ляжыць. Ляжыць і не ўцякае: грэбень белы і вочы белымі павекамі закрыты. Сам ляжыць, а ў дзюбе запіску трымае. Разгарнулі, прачыталі:

«У смерці маёй прашу нікога не вінаваціць. Уміраю, бо не магу болей жыць — замучыла мяне маё курынае сумленне. Не на тое ж дадзены мне шпоры, каб разрываць імі тытунёвае карэнне на градах найбліжэйшага прыяцеля майго гаспадара. Не, не хачу жыць курам на смех! Смерць! Смерць! Смерць!»

Праз дзве гадзіны вестка аб гэтым незвычайным здарэнні хадзіла па ўсім мястэчку.

Вакол здарэння стварылі цэлыя легенды. Пайшоў дзей, што напярэдадні нехта бачыў пеўня разам з рабою курыцаю ў школьнай павеці. Ён нібы трымаў у кіпцях бутэлечку

з воцатам і горка плакаў, а яна клапатліва клыпала і выцірала яму вочы пер'ем свайго крыла. Некаторыя гаварылі, што певень загубіў сябе з прычыны няшчаснага кахання. Другія, наадварот, гаварылі, што ў пеўня выкрылі вялікую растрату гаспадарскага дабра.

Здарэнне гэта, кажуць, вельмі ўзрушыла і некаторыя колы курынага грамадства. Кажуць нават, што адзін певень так расчуліўся ад усяго гэтага, што залопаў крыллямі і, заміж таго, каб пракрычаць ку-ка-рэ-ку, прадэкламаваў:

Маё ўчора — ячменнае мора,
Маё заўтра — пякельны крупнік,—
Хай жа вецер з асінавым веццем
Залацісты пагушкаюць трупік.

Якія б там наогул чуткі ні хадзілі, праўда адно — усе вельмі шкадавалі нябожчыка. Бо трэба-такі праўду сказаць, што гэта быў самы лепшы, самы большы ў мястэчку певень; адзін грэбень яго чаго варты быў. А хвост жа! Дай божа кожнаму добраму такі хвост. А ўжо які ён спрытны быў да песень ды да дзявочага насення, дык пра гэта ведала кожная курыца ў мястэчку. Дык вось і шкадавалі. «Ці такія, казалі, злачынствы робяць людзі, дый то нічагусенька, а ён... Што ён такое мог ужо зрабіць, каб праз гэта жыццё загубіць?»

Але медычны агляд паказаў, што тут самагубства магло яшчэ і не быць. Справа ў тым, што над левым вокам у пеўня знайшлі нейкую крывава-цёмную плямку. Зноў жа была няпэўнасць, ці сапраўды сам певень пісаў перад смерцю запіску, бо почырка пеўня на паперы ніхто раней не бачыў, а на градах ён быў зусім іншакшым. Почырк на запісцы скарэй быў падобен на почырк настаўніка Ячнага. А, між іншым, не відаць было, каб Ячны пеўня калі чыстапісанню навучаў — адкуль жа такое падабенства? Сталі шукаць ды выпытваць. І сабралі вось якія весткі:

1. Адзін хлапец, выганяючы на раніцу каровы пасвіць, бачыў, як Ячны выйшаў у адным споднім на двор і, глянуўшы ў гарод, нагнуўся, узяў колік і шыбнуў туды колікам.

2. Колік, які напярэдадні загадчыха бачыла на панадворку, апынуўся ў гародзе на тытунёвых градах Ячнага. Пайшлі глядзець грады: тытунь добры, зялёны, лапушны: лісці, як свіныя вушы, вісяць, але шмат карэнняў наверсе, а некаторыя каліва зусім павыграбаны.

Вечарам у Храновіча цэлая вайсковая нарада адбылася — ён, жонка і швагер. Гаварылася аб тым, як браць ворага — у лоб ці абходам. Пастанавілі на суд не падаваць: певень жывёліна не такая ўжо і вялікая,— суд прысудзіць толькі страту вярнуць. Колькі там чаго прыйдзецца. Ды тут не ў страце справа, страта — гэта пусцяковіна, а вось крыўда галоўнае, крыўда! За крыўду ўзяўся адплаціць сам загадчык.

— Я ж яму дапяку. Толькі, пакуль што, яму ні слова не гаварыць,— перасцярог ён жонку.

Не ведаю, як яно ўжо далей было, а толькі загадчыку акруговага аддзела асветы прынеслі раз два лісты. Два жудасныя лісты.

У адным з іх пісалася:

«Паважаны таварыш загадчык!

Слёзная просьба да Вас: прыбярыце Вы, будзьце ласкавы, з мае школы гэтага хулігана, гэтага чубараўца Ячнага. Ён не толькі настаўнікам не можа быць, яго ў добрай вёсцы за свінога пастуха не згадзілі б. Дзеці ў яго распушчаны, як парасяты; на заняткі ніколі акуратна не прыходзіць. А самае галоўнае тое, што ён дэзерцір і контррэвалюцыянер, і я, чалавек, аддан ы савецкай уладзе, не магу жыць з ім пад адною страхою. Яго нават усё мястэчка заве «Белы», бо белы ён не толькі зверху, але і ўсярэдзіне. Калі трэ было служыць у Чырвонай Арміі, дык ён уцёк, а тут сябраваў з бандытамі і прымаў у сябе белапольскіх шпіёнаў. Я сам бачыў, як раз ноччу ад яго выходзіў адзін з белым арлом...»

У другім было напісана:

«Таварыш загадчык!

Не магу, не магу і не магу! Прашу пераводу! Або я, або загадчык Храновіч! Душа яго чорная, як і ён сам. А з дзецьмі ён абыходзіцца горай, як з якою жывёлаю. Салдат не катавалі так пры Паўле І, як ён лупцуе сваіх дзяцей. Двое ад яго пабояў ужо ляглі ў труну, трое аглухлі, а пяцёра ляжаць у пасцелі. Апрача гэтага, ён яшчэ і кантрабандай займаецца. Ён перахоўвае кантрабанду, а часамі і сам на граніцу ездзіць. Яго жонка ўся ў кантрабандным шаўку ходзіць...»

— Слухайце, Сцяпан Пятровіч,— сказаў загадчык аддзела назаўтра аднаму з інспектараў.— Вы, здаецца, хутка будзеце ў тых краях. Вазьміце, калі ласка, гэтыя лісты ды паглядзіце, што там такое. Я думаю, што гэта ўсё глупства. А калі што якое, дык прыйдзецца адаслаць лісты каму належыць.

Сцяпан Пятровіч з'явіўся ў мястэчка неяк раптам і незвычайна. Незвычайнага там нічога, праўда, і не было: прыехаў ён са станцыі на сялянскай фурманцы, як ездзіў і заўсёды, але заняткі ў школе яшчэ толькі што пачыналіся, дзяцей і палавіны не было — жывёлу пасвілі. Вось дзеля гэтага і здавалася настаўнікам, што інспектар з'явіўся незвычайна. Усе думалі: «Чаго ж бы яму такою парою прыязджаць? Гэта нешта не так». Яны заглядалі інспектару ў твар, стараючыся што-небудзь разгадаць, але пачало ўжо змяркацца і ўбачыць на твары нічога нельга было. Абыходзіўся ён з настаўнікамі, здаецца, як і заўсёды. Вось толькі калі Храновіч і Ячны сталі запрашаць кожны да сябе павячэраць і пераначаваць, інспектар абодвум падзякаваў.

Ён пайшоў у чайную, перакусіў, а прыйшоўшы, лёг у класе на стале, падлажыўшы пад галаву партфель і накрыўшыся палітом.

У інспектара былі свае меркаванні — ён проста баяўся плётак наконт хабару і ўсё такое, але настаўнікаў гэта вельмі напалохала.

Нельга сказаць, каб інспектару вельмі мякка спалася, і таму прачнуўся ён досыць рана. Яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, ён пачуў у класе галасы. Гаварылі двое. Адзін — нізкі, глухаваты бас, другі — тэнар, даволі мяккі і прыемны.

— Эх, Мікіта Захаравіч,— гаварыў тэнар,— чуе маё сэрца, што не з дабра гэта ўсё. Яшчэ ваша супружніца, калі сварылася са мною, пагражала, што вы мяне дапечаце. Вось я і мяркую, што не іначай вы з сваім пеўнем нарабілі гэтай калатушы.

— Не я з сваім пеўнем, а вы з маім, Сяргей Тодаравіч,— адбубніў яму бас.

— Эх, не памяркоўны вы чалавек, Мікіта Захаравіч,— пеў далей тэнар.— Ну, кокнуў я вашага пеўня, дык чорт з ім. Падумаеш — важнасць якая! Ён жа сам і пятай часці таго не варт, што тытуню мне напсаваў.

— Крыўдна вельмі, Сяргей Тодаравіч.

— Ерунда — крыўдна, глупства — крыўдна... Добра ж, калі ён здаволіцца гэтым праклятым пеўнем, а калі возьме дый у комплексы загляне? Што мы яму пакажам? Комплексаў у нас, як вы самі ведаеце, жук начхаў... А прызнайцеся сумленна, Мікіта Захаравіч,— здорава вы там на мяне напісалі?

— Самую маласць, Сяргей Тодаравіч. Толькі ўпамянуў, што вы ў Чырвонай Арміі не служылі і што ад вас раз чалавек выходзіў з белым арлом.

— Несумленны ж вы чалавек, Мікіта Захаравіч,— такога сусветнага глупства нагарадзілі. Вы ж самі добра ведаеце, што з Чырвонай Арміі мяне па хваробе звольнілі, я ж вам нават і кніжку чырвонаармейскую паказваў. А чалавек з арлом — Сцёпка Стукач. Вы ж і самі былі на спектаклі, як ён жандара белапольскага іграў.

— Ды гэта што... Вы ў даўгу таксама, напэўна, не засталіся — яшчэ мудрэй распісалі мяне.

— Я? Ды я, можна сказаць, нічога і не пісаў. Напісаў толькі, што вы з дзецьмі трохі жорстка абыходзіцеся і што ваша жонка ў шаўку ходзіць, дык невядома, адкуль ён.

— І набрахалі, Сяргей Тодаравіч. Я толькі раз і пасварыўся на Сідорчынага хлопца, а біць — ніколі і пальцам не крануў: вы ж гэта самі добра ведаеце. А ў жонкі — які ж там шоўк? Адзін толькі шаль на галаву я з Мінска прывёз, дык і то не ведаю — ці шоўк нават гэта.

— А ведаеце што, Мікіта Захаравіч? — сцішыў тэнар голас.

— А што?

— Як наш госць наконт чарачкі? Ужывае?

— Ды хто ж яго ведае, можа б, яно і не пашкодзіла.

— Давайце адважымся, Мікіта Захаравіч,— возьмем паўбутэлечкі. Галачка яечню спражыць, а ў вас агуркі слаўныя ёсць,— ваша жонка ўмее саліць. А ўжо на абед дык — так і быць: вока за вока і зуб за зуб — няхай цяпер мой певень прападае. Зарэзаў ужо. Галачка такі крупнік зварыць, што трымай язык... Дык зложымся па двухзлотцы, ды я збегаю прынясу пляшачку. Госцю люба будзе, і самі па чарачцы цюкнем... за мір.

— Дык у мяне тры капейкі не хапае.

— Ну, што ж зробіш? Няхай ужо маё і тут пераходзіць — я далажу тры капейкі.

Снедаючы, інспектар весела паглядаў на Галачку і храбустаў агуркі, якія пасля чаркі ішлі асабліва гладка. У перапынках паміж храбусценнем ён расказаў настаўнікам, што едзе па справе ў суседні раён, а да іх заехаў па дарозе толькі пераначаваць.

Праз гадзіну інспектар выехаў, а пеўня, што гатаваўся яму на абед, з'елі загадчык Храновіч з настаўнікам Ячным. За мір.

*1927*

## ЛІХА ЯГО РАЗБЯРЭ

Смяецца сонца. Плачуць стрэхі. Весела блішчаць, мяняюцца пад сонцам лядашыкі. Не разбярэш — каму весела, а каму сумна.

Промень сонца прабраўся праз акно ў канцылярыю і гуляе-забаўляецца белымі гузічкамі машынкі і markiem рознымі блішчастымі цапстрыкамі. Нагнуўшы русую, злёгку кучаравую галаву над аркушам паперы, машыністка пільна ўглядаецца ў каракулі рукапісу. Яе тонкія бровы сышліся. Між іх ляглі дзве неглыбокія маршчынкі, якія яе трошкі зблякламу міламу твару прыдаюць разумны выраз. Ёй трэба скончыць тэрміновую звышурочную працу.

Дзелаводу тэрміновай працы не трэба канчаць, але ён яшчэ ўсё кешкаецца каля стала, хоць час заняткаў скончыўся. Ён то замыкае столік, то зноў адмыкае яго, бярэ нейкія паперы і гартае іх, а сам украдкаю паглядае на машыністку,— часцяком то ўсміхнецца ёй, то перакінецца вясёлым жартам, але ні разу яшчэ яму не здаралася аставацца толькі ўдваіх, і, мусіць, загэтым ён яшчэ ні разу не ведаў гэтых нутраных дрыжыкаў, якія непакояць яго цяпер.

— Дазвольце, Ганна Андрэеўна, можа, я разбяру,— сказаў ён нарэшце, хаваючы ключ у кішэнь.

Узяўшы за гэтым крэсла, ён сеў побач з машыністкай і нагнуўся над рукапісам.

Валасы яе прыемна заказыталі ў яго каля вуха. Ад гэтага калена яго мацней задрыжала і шчокі пачалі чырванець.

— Але ж ліха яго ведае, як гэты Заранковіч піша: нічога не разабраць,— прагаварыў ён, бліжэй тулячыся да машыністкі.

— Пачакайце! Вось гэта ж здаецца «жэ»,— сказаў ён, паказваючы літару пальцам левай рукі, а праваю, як бы незнарок, асцярожна абняў стан машыністкі.

— Ой, скажу жонцы, Язэп Тодаравіч,— сказала яна напаўсур'ёзна, не адхіляючыся, аднак, ад яго.

— Кіньце вы, Аня! Што там жонка... Хіба ж ёй хто забараняе?! Дый апрыкрала ўсё гэта: сядзі, як сабака на ланцугу. Дзе ні ткніся, дык усюды табе жонка на дарозе. Вы самі павінны ведаць гэта па сабе,— здаецца ж, замужняя. Ды, урэшце, што жонцы станецца, калі дазволіш сабе часам маленькую вольнасць?..

А вочкі паменшалі, замасліліся, просяць.

— Вось які вы верны муж! — дзівіцца яна нарокам.

— А вы дык верная жонка свайму мужу?

— Разумеецца!

А вочкі хітра жмурацца і дражняць: «Паспытай, дык будзеш ведаць».

— Недарэмна ж у вас гэтакія губкі харошанькія, аж мне хочацца пацалаваць іх,— гаворыць ён пяшчотна, прыціскаючы яе да сябе.

— Не можна! — пагразіла яна пальцам.

— А я пацалую.

— А я не дазволю.

— А я пацалую.

— А я не дазволю.

А твар яго ўсё бліжэй і бліжэй нахіляецца да яе твару. Вось прыцягнуў да сябе і ўпіўся губамі ў яе губы. Яшчэ... Яшчэ...

— А я не дазволю... А я не дазволю...— шэпча яна ў перапынках між пацалункамі. А па ўсім целе разлілася салодкая млявасць, адабрала рукі й ногі, затуманіла галаву.

Раптам стукнулі дзверы. Абое чырвоныя, як буракі, нахіліліся над рукапісам. Увайшла прыбіральшчыца, каб вымесці канцылярыю.

— Дзякую, Язэп Тодаравіч, ужо разабрала,— сказала машыністка, каб хоць што-небудзь сказаць.

«Дый добра-такі разабрала,— падумаў іранічна дзелавод.— А яшчэ гэту чэрці прыгналі — заўтра ўсім раззвоніць, што дзелавод з машыністкаю цалаваўся; напэўна ж, змікіціла. Эх, чэрці!» — вылаяў ён, сам не ведаючы добра каго, і, кінуўшы машыністцы «бывайце здаровы», выйшаў.

* * *

Дома дзелаводу Круковічу было ўсё нядобра, усё не пад густ. Пераступіўшы парог, ён перш за ўсё наступіў кату на хвост, а калі кот закрычаў немым голасам, дык так капануў нагою, што той аж у тры кулі перакаціўся. Затым ён даў плескача Паўліку (трохгадоваму сыну), які залез у бацькаву кішэнь і выцягнуў нейкую патрэбную паперку. Хлопец заплакаў, а Круковіч яшчэ не супакоіўся, але злосць спагнаць больш не было на кім, бо ў хаце заставалася яшчэ толькі жонка, якой ён трохі пабайваўся.

Але калі жонка падала на стол талерку капусты, дык ён не ўмоўчаў.

— Чорт яго ведае, што гэта за яда такая! — сказаў ён, сербануўшы лыжку.— Ні акрасы тае не чуваць, ні солі. Замяшае, як свінням, абы чаргу адбыць...

— Дык вунь у ражцы мо смачнейшае будзе,— абсекла яго жонка.

— Душышся, душышся за гэтаю працаю,— бурчаў далей Круковіч,— няма табе ні дня, ні ночы, і прыйдзеш дадому, дык і абеду людскага няма, у памыйніцу пасылаюць.

— Ну, дык не еш, калі нясмачна, якую ж я табе трасцу згатую? — адказала жонка.— Недзе назлаваўся, і на мне прыйшоў злосць спаганяць.

Калі жонка прынесла на другое талерку смажанай бульбы, Круковіч, глянуўшы на яе (не на бульбу, а на жонку) цераз плячо, спытаўся:

— Дзе ж твае калдуны? Ты ж учора хвалілася, што калдуны будуць.

— Эх, сказала б я табе, дзе мае калдуны, але пашаную толькі дзіцяці,— адказала жонка.— А ты ж пакінуў мне грошай на калдуны, каб цябе чэрці калдунілі? Няшчасных пяцьдзесят рублёў бярэ ў месяц ды яшчэ хоча, каб з калдунамі абед быў. Добра таму выдумляць калдуны, хто ўмее грошы зарабляць, бярэ сто або і болей у месяц, а ты маўчаў бы нечага.

— Дык ты б пайшла паслужыла, табе б мо дзвесце далі, калі ты гэтакая работніца.

— Хваробу табе. Ты б мо і хацеў?..

Яны сварыліся, а Паўлік, набраўшы ў рот бульбы, нарыхтаваўся плакаць. Вочы яго былі поўны слёз. Ён паглядаў то на бацьку, то на матку, не ведаючы, каго з іх больш шкадаваць.

Скончыўшы абед і сварку, Круковіч закурыў цыгарку, узяў газету і лёг на ложак. Жонка звяніла на кухні талеркамі і лыжкамі, а ён пачаў чытаць першае, што папалася яму на вочы. А папалася яму інфармацыя аб падзеях у Кітаі. У яго ваччу замітусіліся У-Пей-Фу, Лу-Чын-шан, Ю-Вей-цзюн, Чжан-Цоз-лін, Чэнь-Ч'я-му, Лю-Цэо-лін, а хто каго там біў і каго трэ было біць, ён так і не разабраўся — праз хвіліну заснуў.

* * *

За акном па-асенняму вые вецер. Снег з дажджом ляпае ў шыбы, як бы плюецца хто, схаваўшыся ў начной цемры, і сліна рагамі цячэ па шкле. За сцяною, у суседняй кватэры

нешта не то таўкуць, не то труць і не даюць Круковічу належным чынам спыніць сваю ўвагу на радках лічбаў, над якімі ён сядзіць ужо некалькі гадзін. Святло электрычнай лямпачкі адбіваецца ад белай паперы і рэжа вочы. Ён адарваўся ад паперы, заплюшчыў вочы, прыціснуў іх двума пальцамі, як бы хочучы спыніць рэзь, потым закурыў цыгарку і павярнуўся на крэсле тварам на хату. Жонка спала. Яе цёмна-русыя валасы рассыпаліся на падушцы, рот быў напалову адчынены, шырокі худы твар быў смяртэльна бледны. Адзін рог коўдры з'ехаў аж на падлогу і адкрыў голенькі Паўлікаў азадачак. Круковіч устаў і накрыў хлапца. Калі ён сеў, вочы яго зноў уперліся ў бледны жончын твар. «Якая яна ўсё ж такі... непрыгожая,— падумаў ён.— Вось каб ведала, што я пра яе так думаю, дык бы й пакрыўдзілася. А я таксама не ведаю, што яна пра мяне думае. Восем год жывём ужо разам, а думак аднаго аб другім не ведаем... і ведаць, мусіць, не будзем. Яна іншы раз пытаецца, ці люблю я яе. Дзівачка: хіба ж я гэта ведаю? Я сам сабе часта даю такое пытанне: ці люблю я сваю жонку? І не магу адказаць. А некалі я мог на гэта адказаць. Бывала, жджэш не дажджэшся, каб скарэй вечар. Цягне магнэсам да назначанага месца. А там ловіш кожнае слова, кожны рух. Цяпер няма таго магнэсу. Праўда, як была хворая на тыфус, шкадаваў і, каб памерла, напэўна плакаў бы. Але кажуць, што людзі, нават з турмы выходзячы, плачуць часамі і сумуюць, пакідаючы старую кватэру. Прывычка. А можа, гады ўжо не тыя? Не, не гады тут вінаваты: чаму ж да тае, да Ганны цягне? А каб пажыў, таксама прапаў бы гэты самы магнэс. Ужо, мусіць, такая натура чалавечая, што ён ніколі не здаволен тым, што мае, а заўсёды шукае нечага новага. І я магу смела сказаць, што хлусіць той, хто клянецца дзяўчыне ў вечным каханні... Праўда,— недзе пра некага было напісана:

Всегда доволен сам собою,
Своим обедом и женой,—

але мне здаецца, што тупіца быў гэты самы здаволены, вырадак нейкі. А можа, я вырадак? Можа, другія іначай думаюць і адчуваюць? Ліха яго тут разбярэцца»,— рашыў ён нарэшце і павярнуўся да стала. Гадзіннік паказваў ужо дзесяць мінут першай.

— Няхай назаўтра,— прагаварыў услых Круковіч і, сабраўшы паперы ў папку, палажыў на паліцу. Раздзеўшы-

ся, ён яшчэ пасядзеў хвіліну на ложку, пацёр далонню грудзі, пазяхнуў раз, а потым пагасіў святло і лёг.

Уночы яму снілася прыбіральшчыца Аўдоля, якая ганялася за ім са шчоткаю, баронячы ад яго не то машыністку, не то талерку з калдунамі...

---

Гэта было летась. Вось ужо год прайшоў з таго часу, а ў жыцці дзелавода Круковіча ўсё па-старому. Ён нават, здаецца, да гэтага часу не адказаў яшчэ сабе на пытанне — любіць ён сваю жонку ці не?

Вось толькі што: у яго, апрача Паўліка, ёсць яшчэ маленькая Наталька. Прывычка?

*1926*

## МОЙ СУСЕД

Ахвотна б, добрыя людзі, пазнаёміў я вас з сваім суседам, толькі яму цяпер няма часу — ён вельмі заняты. Вось чуеце, як ён грузна паварочваецца ў крэсле, часамі ўстане, пройдзе з кутка ў куток па пакоі ды зноў садзіцца і ўсё нешта шэпча сам сабе. Гэта ён верш складае. Старыя, нерухавыя і малапаэтычныя мазгі варочаюцца ў галаве грузна і павольна, як і гаспадар у сваім крэсле. З натугаю выціскаецца слова за словам.

Што ж вы думаеце — не так лёгка скласці верш такі, каб ён згадзіўся і ў свята Кастрычніцкай рэвалюцыі, і 1 Мая, і яшчэ ў шмат якія драбнейшыя святы, і гэта ўсё ў той час, калі ўпартыя мазгі, як прывычны конь, заварочваюць на старую дарожку. Але «терпение и труд все перетрут», прыказвае часта мой сусед і працуе не без вынікаў.

Ніхто з вас, я думаю, не пасаромеецца прызнацца, што ў нейкі пэўны час, пры нейкіх пэўных умовах яму даводзілася перарабляць старое на новае. Напрыклад, працерлася ў вас адзежына,— узяў пераніцаваў яе, падлатаў трохі — і зноў новая. Гэта ўсё ж такі лягчэй, чым справіць сапраўды новую.

Вось мой сусед таксама зразумеў выгаднасць гэтай справы, і ён перакройвае і перафарбоўвае старое на новае. Сёння перад ім ляжыць такі матэрыял:

Уж сотни долгих лет прошли,
Величья полные и славы,
А над одной шестой земли
Все тот же он — орел двуглавый —

Парит над царственным венцом,
Как он велик в размахе крыльев!
И шлют враги со всех концов
Поклон ему в немом бессилье.

Под ним Помазанник свою
Диктует волю всему миру.
Ему я нынче гимн пою
И лобызаю край порфиры.

*М. Луковицын*

Дык вось вы самі бачыце, што мой сусед заняты цяпер вельмі важнаю справаю. Калі ж вам ужо так хочацца бліжэй з ім пазнаёміцца, дык — калі ласка! Хоць я з сваім суседам знаём толькі нядаўна і знаёмства ў нас, можна сказаць, шапачнае, але, дзякуючы дапамозе іншых маіх мілых суседзяў, сякія-такія весткі аб ім сабраў.

З'явіўся некалі Лукавіцын у наш горад маладым ды свежым. Пад носам у яго быў цёмны пушок, а на тужурцы — светлыя бліскучыя гузікі. І называлі ўсе яго і за вочы і ў вочы — Міхаіл Іванавіч, а калі гаварылі аб ім з незнаёмым, то дадавалі: «Лукавіцын — настаўнік гімназіі».

Настаўнікам Лукавіцын быў — пашукаць такога: стаDescribe the chart's design, color palette, and readability for someone who is not able to see it.ранны, паслухмяны і заўсёды ў начальства навідавоку. Да вучняў ён адносіўся па-бацькоўску строга і клапаціўся не толькі аб іхніх ведах, але і аб выхаванні, і аб набыцці імі добрага тону. Аднаму, напрыклад, свайму вучню ён паставіў чатыры па паводзінах за тое, што вучань прайшоў па вуліцы з сваёй знаёмай дзяўчынаю. Другога вучня Лукавіцын пяць разоў выклікаў на зіме, дамагаючыся, каб той сказаў «рюмка». Вучань кожны раз гаварыў «румка» і садзіўся з «едзініцаю».

Клопаты Лукавіцына аб чыстаце вымаўлення «рюмкі» скончыліся тым, што вучань у канцы года меў «круглую едзініцу» і канчаткова «сеў» на другі год, а настаўнік быў здаволены, што выпаўніў свой абавязак.

Лукавіцын лічыў сваім абавязкам любіць паэзію. Пераймаючы «певца Фелицы», ён сам нярэдка пісаў оды і розныя іншыя высокапаэтычныя рэчы на ўсялякія выпад-

кі, чым і прымусіў уздыхаць па сабе не адно кісейнае стварэнне.

Жанатым Лукавіцын ніколі не быў. Нягледзячы на свае паэтычныя грашкі, чалавек ён быў разважны, сур'ёзны і практычны. Ён умеў трымаць сэрца сваё на аброці, прыкрываючы яго ў патрэбныя моманты панцырам практычнага розуму ад небяспечных стрэл амура. На словах да жаніцьбы ён адносіўся скептычна, называў гэта «абабіцца» і «надзець хамут». Ён нават нейкі час быў патайным прыхільнікам «свабоднай любві» — ідэі ў той час даволі рэдкай, але для распусных ласуноў больш выгоднай, чым цяпер, бо слабейшая палавіна «вольнага саюзу» абаранялася законам куды слабей, як цяпер; апрача гэтага, на яе лажыўся і ўвесь цяжар грамадскай думкі.

Усе вынікі захаплення Лукавіцына ідэяй «свабоднай любві» першай паспытала на сабе яго хатняя работніца, калі ў іх «вольны саюз» умяшаўся трэці саюзнік, не столькі грозны сваім ростам і фізічнай сілаю, колькі катэгарычнаю заяваю аб сваіх правах на жыццё і на ўвагу да яго з боку двух іншых саюзнікаў.

Такое празаічнае ўмяшанне трэцяй асобы ў «вольны саюз» вельмі не спадабалася Лукавіцыну, і ён павярнуў быў сваю шляхетную спіну. Але дзяўчына, якая была вельмі пакорліваю, пакуль не стала маткаю, раптам зрабілася дзёрзкаю і такою ж упартаю ў сваіх дамаганнях, як і трэці саюзнік. «Нібы чэрці на яе ўсселі»,— дзівіўся Лукавіцын. У адной непрыемнай для Лукавіцына размове яна пешчаную шчаку яго пакрыла гучнаю аплявухаю, а яго паэтычную асобу такою, хоць не паэтычнаю, але адборнаю лаянкаю, што наш славеснік пры ўсёй сваёй прыдзірлівасці не знайшоў ніякіх заган у правільнасці яе рускага вымаўлення.

Апрача ўсяго гэтага, дзяўчына пагразіла яшчэ судом, а трэці саюзнік сваім прарэзлівым «у-ва» выказаў поўную салідарнасць у гэтай справе. Баючыся скандалу ў свеце і большай матэрыяльнай адказнасці, Лукавіцын прымушан быў памірыцца. Даўшы дзяўчыне сто рублёў, ён паставіў умову, каб яна «з сваім байструком і на вочы больш не паказвалася».

Пасля гэтага Лукавіцын стаў больш асцярожным у выяўленні свае прыхільнасці да ідэі «свабоднай любві», хоць нашы тутэйшыя хадзячыя газеты ніяк не хацелі забыцца аб яго існаванні,— праз нейкі час побач з Лукавіцыным упарта сталі называць імя выкладчыцы французскай мовы.

Нягледзячы на такую, здавалася б, відавочную прыхільнасць майго суседа да «свабоднай любві», недзе на дне не то душы, не то сэрца, не то нейкага іншага матэрыяльнага ці нематэрыяльнага органа яго хавалася думка аб сямейным шчасці.

Але Лукавіцын рашыў усебакова падрыхтаваць сябе да гэтай справы. Першая частка падрыхтоўкі была — заваяваць сабе моцнае становішча ў грамадзе, другая — знайсці сабе жанчыну, якая б не столькі вызначалася сваім хараством, розумам, характарам... адным словам, яго цікавіў больш матэрыяльны бок справы.

Але для ўсяго гэтага патрэбен быў час.

Што такое час? Гэта — нішто: яго нельга ўбачыць, пачуць, памацаць, панюхаць, папрабаваць на язык; ім нельга заткнуць дзірку ў страсе або ў бюджэце; яго нельга запрэгчы ў плуг, запрасіць на шклянку гарбаты.

Час — гэта нешта бясконца бясчулае і бессаронняе: якія б ні адбываліся акты найвышэйшай гуманнасці ці нечуванага здзеку над асобаю чалавека, ён застаецца спакойным і безудзельным.

Час — гэта нешта нечувана шпарка-імклівае. Шпаркасць яго прабегу нельга змераць самымі дакладнымі прыладамі. У той жа час нешта нязменнае і нерухомае, бо ўсе тыя адзінкі, якімі мы мераем час, гэта не адзінкі часу, гэта толькі светлавыя, цеплавыя і іншыя з'явы, якія адбываюцца з пэўнай заканамернасцю і якія ніякага дачынення да часу не маюць.

Нягледзячы, аднак, на сваю вечную нерухомасць і безудзельнасць, якую разнастайную афарбоўку прымае час у розных людзей і як па-рознаму скарыстоўваюць час гэтыя розныя людзі! Ёсць час наш і час даўнейшы, час залаты і час пракляты, час доўгі, час кароткі. Адзін у свой час быў вялікім чалавекам, а ў нашы часы нічога не варт. Другі стаў бы вялікім чалавекам, але ён не мае часу, каб заняцца сваёю вялікаю справаю. Адзін не мае часу носа ўцерці за работаю, а другі ные ад таго, што не ведае, куды яму дзець лішні час. Ёсць людзі, якія «ўбіваюць» час, скарыстоўваюць час, нават папярэджваюць час і проста марна трацяць час.

Каб не залічылі нас да людзей апошняй катэгорыі, мы, я думаю, пакінем разважаць аб часе. Я хачу сказаць яшчэ толькі тое, што гэты час моцна падвёў Лукавіцына. Справа ў тым, што яму заняць моцнае становішча так і не ўдалося, як не ўдаецца надоўга замацавацца на рачным лёдзе

вясною. Прыйшла вайна, і ўсякія моцныя становішчы даволі моцна захісталіся. Прыйшла рэвалюцыя, і чым мацней было становішча, тым з большым грукатам яно рухнула і паплыло ў паводцы гісторыі.

Але не будзем забягаць наперад... Лукавіцыну пашчаслівілася не папасці ў сусветную мясарубку — імперыялістычную вайну. Яму не даводзілася бачыць, як смяецца з-пад снегу зямлісты твар мёртвым аскалам зубоў, як вытыркаюць крывавым мясам куксы рук і ног, як павуцінне калючага дроту перавіваецца чалавечымі кішкамі. Яму ў напружанай цішыні акопнай ночы не даводзілася чуць жаласнага далёкага енку і звярынага скавытання смяртэльна параненага. Ён гарэў патрыятызмам і нянавісцю да ворага і з нецярплівасцю чакаў, калі «христолюбивое» павергне супастата. А павергнуць супастата (чужымі, праўда, рукамі) Лукавіцыну вельмі хацелася, трэба было абавязкова, бо вайна парушала ўсе яго планы.

Аднак тое не здарылася, чаго хацеў Лукавіцын,— узнялася рэвалюцыя. Ён адразу скеміў, што справа дрэнь,— прыціх, спароў гузікі і зняў цэшку. Пажары, страляніна па начах у горадзе — недзе некага білі, а хто каго — Лукавіцына гэта не вельмі абыходзіла. Хоць, праўду кажучы, ён хацеў, каб лепш білі бальшавікоў, але трымаў язык за зубамі і не рыпаўся, баючыся, хаця б яго самога ніхто не чапаў. Маленькую актыўнасць Лукавіцын выявіў толькі ў час белапольскай акупацыі. Актыўнасць выявілася ў тым, што ён на сваіх дзвярах прыбіў картку: «Міхал Цыбульскі — шчыры паляк». Затое з надыходам бальшавікоў ён яшчэ глыбей залез у норку, вылазячы часчасом толькі ў вёску, каб памяняць на хлеб якую-небудзь адзежыну. Часамі ішоў з мяшком на ссыпны пункт і збіраў ля вазоў рассыпаныя бульбіны; часамі браў саначкі, ехаў за чатыры вярсты ў лес і цягнуў адтуль саматугам сырыя хваёвыя палены, але часцей стараўся ноччу каля платоў.

Але вось з'явіўся нэп, а разам з ім ажылі і моцна пацёртыя надзеі Лукавіцына. Ён азнаёміўся патрошку з савецкімі законамі, прыгледзеўся да парадку, застаўся на службу і стаў праяўляць актыўнасць. Заміж тужуркі з гузікамі і шапкі з цэшкаю на ім з'явілася скураная куртка і кепка. Тутэйшыя адказныя людзі спачатку толькі заўважвалі яго, адказваючы кіўком на прывітанне, а пасля і руку сталі паціскаць.

Цяпер Лукавіцын зусім «савецкім» чалавекам стаў. Больш таго — ён да ўсякага, нават самага дробнага, пы-

тання падыходзіць не іначай, як з «марксісцкага пункту погляду». Калупае, напрыклад, на лекцыі вучань у носе, а Лукавіцын яму і давядзе, што калупаць у носе — гэта значыць нічога не рабіць, а хто нічога не робіць, той і не есць, і вучню, такім чынам, не трэба было б даваць есці. Раней дык так і рабілі — пакідалі вучня без абеду, але ён, Лукавіцын, на гэты раз даруе вучню, прымаючы пад увагу яго пралетарскае паходжанне.

Тыя, што не зналі Лукавіцына раней, адносяцца да яго з пашанай і нават некаторым страхам, лічачы яго за глыбокага марксіста, а тыя, што і раней яго зналі, пасмейваюцца ў кулак і зайздросцяць яго спрыту, але маўчаць.

Яшчэ адна вялікая перамена сталася з Лукавіцыным — ён стаў шчырым беларусам. Як толькі загаварылі аб беларусізацыі, ён зразу змікіціў, што тут смажаным пахне, і стаў не толькі проста беларусам, але нават адным з выдатных. Ва ўсякім разе ён сам сябе за такога лічыць.

А муза, якая некалі адышла ад Лукавіцына ў шыкоўным убранні прыдворнай дамы, з'явілася цяпер зноў да яго ўжо ў саматканай беларускай спадніцы і з чырвонаю хустачкаю на галаве. Чырвань гэта, пераламляючыся ў практычнай галаве Лукавіцына, перафарбоўвае ранейшыя творы яго зусім у сучасны колер. А што гэта так, дык вось вам верш, які мой сусед апрацаваў, пакуль мы з вамі гутарылі. Ён мо не зусім гладкі і не вельмі мастацкі, але затое зусім сучасны і вельмі характэрны для майго суседа:

Ў змаганні дзесяць год прайшлі
Так поўны велічы і славы:
Над шостай часткаю зямлі
Пунсовы ўецца сцяг яскравы.
Аздобіў голавы вянком
Ён тых, хто быў адвагі поўны,
І шлюць яму з усіх бакоў
Праклёны ворагі працоўных.
Пад ім абраннікі сваю
Дыктуюць волю ўсяму свету...
Я ім сягоння гімн пяю.
Я ўсё аддам за чырвань гэту!

А ў канцы подпіс: *Міхась Цыбулевіч.*

Кажуць, што гэты мой сусед — таварыш Лукавіцын-Цыбульскі-Цыбулевіч — падаў заяву, каб яго ў паэты залічылі і пасведчанне выдалі.

*1927*

## АДНАЕ РАНІЦЫ

Устаў гэта я аднае раніцы яшчэ нацямочку. І патрэбы вялікай не было ўставаць так рана, але прывычка ўжо. Накінуўшы на плечы кажух, я выйшаў на вуліцу глянуць, якое надвор'е. У мяне на Паплаўцы коп са дзве атавы было накошана, дык мне рупіла, каб як прыбраць. Раніца здаровая — мароз на стрэхах і зямля аж пабялела. У ногі так і пячэ. Я гэта завярнуўся ўжо — хацеў у хату йсці, адно ж бачу — на гародзе з-за хлява нейкі дым ідзе. «Што за ліха,— думаю сабе,— каму там прыспела агонь класці? Яшчэ хлеў запаліць».

Выходжу, гляджу, адно ж гэта Рыгор, сусед мой. Ён свінню смаліць, а жонка яму памагае: вады цёплай прынесла, мыць збіраецца.

Я падышоў:

— Дзень добры.

— Дзень добры.

Гляджу — свінчо невялікае дый худаватае: так пуда на паўтраця, можа.

— Што гэта ты, кажу, надумаў? Яшчэ толькі спасаўка, каляды далёка, а ты ўжо кілбас захацеў.

— А дай ты, кажа, рады, чалавеча. Бяда і ў спасаўку навучыць кілбасы есці.

— Ці гэта ж бяда? Гэта ж дурата, а не бяда. Гэта ж трэба такому дурному быць, каб сваю свінню забіць? Ах, каб табе грудзі ўзбіла! — пачала яго лаяць жонка.— Гэта ж адну свінку на племя пусцілі, дык ён і тую з'еў, каб яго чэрві.

— Вось лаецца дурная баба, а й сама ж таксама вінавата: нашто было так рана свіней з хлява выпускаць?.. Лайся — не лайся, то ўсё роўна ўжо не вернецца, не аджыве. Вазьмі вось лепш нож ды паскрабі троха каля лапаткі! — загадаў Рыгор жонцы і пачаў мне расказваць, як усё здарылася: — Гэта ж я скасіў гарох на Палосках. Нямнога там яго й было — ганачкі, але такі ж удалы гарох! Стручны, белы, чысты — ніводнага стручка чарвівага. Вось я яго скасіў дый сыраваты прыбраў: не было калі сушыць на полі — пад жыта трэба было араць. У чацвярціну яго нельга было класці, дык я ўзяў дый злажыў ля гумна пад страхою — няхай, думаю, дасыхае. Дык ого! Дзе ж вы бачылі! Як унадзіліся свінні, дык рады няма. Я й платы кругом прыгумення настроіў, і засоўкі таксама, а ўсё роўна

лезуць, нячыстая сіла. І такія ж хітрыя, каб на іх здыхата: йдуць раненька, нацямочку, як яшчэ на прыгуменні нікога няма, а ўдзень і не паткнуцца. Калі ідзеш рана, дык яны яшчэ здалёк счуюць. Тады цераз засаўкі — гольц-гольц, як сабакі, і — пайшлі. А найбольш усё Янкі Гваздовага свіння, каб яна здохла. Я раз і заняў яе быў ды прыгнаў на двор да яго, кажу: не пускай свінні, а то за гарох заплаціш, а не — на суд падам. Дык дзе там — і слухаць не хоча. «Мая, кажа, свіння цераз высокі парог не пералезе, а не то каб цераз засаўкі пераскочыць. Ты гэта лжэш, кажа. Зноў жа, кажа, мае свінні сумленныя — чужога гароху есці не будуць. Яны не то што якія-небудзь людзі, што займаюць чужую жывёлу на вуліцы ды яшчэ хочуць, каб ім заплацілі за гэта». Гэта ён, каб мяне ўкалоць. Злосць мяне ўзяла, аж чуць біцца не кінуўся. Палаяліся мы з ім на чым свет стаіць. Вось я й надумаўся: пачакай жа, думаю сабе, я ж табе пакажу, умее твая свіння цераз засаўкі скакаць ці не. Устаў гэта я сягоння яшчэ цёмненька, узяў добры дручок ды пайшоў на прыгуменне. Разгарадзіў гэта я верхнюю засаўку, каб лягчэй было свінні пераскочыць (а то, думаю, як не пераскочыць, дык дарэмная ўся работа будзе), а сам сеў за вуглом ля гароху. Пачакаўшы троха, чую — бразнула засаўкамі. Тут я нарыхтаваўся. Зараз свіння з-за вугла — тыц, а я па лычы — трэсь! Яна — вобземлю ды ў піск. А я — яшчэ раз між вушэй, каб не пішчала. Праўда, што яна больш і не дрыгнула. Вось, думаю, няхай ідзе цяпер пацалуе сваю сумленную свінню. Тым часам ужо развідніцца пачало. Калі я прыгледжуся, дык свіння не чорная, а рабая. Я ніжэй нагнуўся — ах, каб цябе воўк! Дык гэта ж мая свіння! Пакляў я трохі Янку, патупаў каля свінні дый павалок смаліць.

Так скончыў Рыгор, а жонка зноў пачала яго лаяць ды клясці.

Я стаю каля іх, памагаю ім бедаваць, а сам думаю. «Няхай ты, думаю, на ражон узбіся — добра, што ты сваю свінню забіў, а не маю». Бо трэба-такі праўду сказаць, што й мая свіння любіла паласавацца Рыгоравым гарохам.

Я трохі яшчэ пастаяў ды пайшоў у хату, бо хоць і каля агню стоячы, а ногі мае парабіліся чырвоныя, як буракі.

*1926*

## СНЕГ ІДЗЕ

Мякка і нячутна сцелецца белы пух.

У бляску вакон відаць, як лётаюць-мітусяцца, нібы скачуць нейкі невядомы танец, белыя мухі — кволыя і пяшчотныя. Нібы ўтаміўшыся, яны прысядаюць на шчокі, на нос, не то колюць, не то казычуць і тут жа паміраюць, пакідаючы халодную вільгаць. Наўкола малочная муць.

У канцы сяла, наводшыбе, пры дарозе прысела старая згорбленая школа і глядзіць, не змігне цьмяна-жоўтымі падслепаватымі вачыма на паломаныя жардзіны плота, што тырчаць з-пад снегу, углядаецца ў малочную далечыню, як бы хочучы ўбачыць прывычную цёмную сцяну лесу. А ўсярэдзіне ў школе якраз ідзе гарачая гутарка аб гэтым самым лесе. Справа ў тым, што цёмная сцяна лесу саўсім не такая цёмная, як яна выглядае здалёк. Шмат цяжкіх хвілін за апошнія гады перажыў стары лес, шмат гора перанёс і палысеў, моцна палысеў. Кожны з тутэйшых сялян, хто памятаў гэты лес іншым, з жалем у сэрцы глядзеў на яго шырокія лысіны. Шкада было лесу, і шкада, галоўным чынам, таму, што нехта пажывіўся, а яму самому нічога не прыйшлося ці прыйшлося надта мала. Часта гулі сяляне на сходзе:

— Усякі чорт лысы з усяго свету палошчацца тут, а ты, у лесе жывучы, палена дроў не маеш. Гэта ж парвацца са злосці!..

І самі ехалі і секлі. Пляжылі, хто меў сілу і смеласць, у першыя гады рэвалюцыі, сякуць і цяпер. Крадучыся, баючыся, але сякуць.

Вось аб гэтым цяпер і гаварылі ў школцы сем маладых хлапцоў — вясковая камсамольская ячэйка. Сакратар ячэйкі, высокі сухарлявы хлапец, звычайна вясёлы, цяпер, разумеючы ўсю важнасць моманту, зрабіў урачысты выраз твару і ўзяў слова.

Пачаў ён з тэорыі і чуць не давёў, што сам Карл Маркс не ўцярпеў бы, гледзячы на такія непарадкі, але, глянуўшы на яго партрэт, засаромеўся і перайшоў да практычнай часткі. Сказаўшы, колькі свежых пнёў налічыў ляснік за апошні тыдзень, ён прапанаваў: падняць гэта пытанне на першым вясковым сходзе, пераканаць мужчын, што яны самі сабе гэтым шкодзяць, дабіцца, каб яны пастанавілі больш не красці лесу і наглядаць адзін за другім. Ніхто не

пярэчыў сакратару, а, наадварот, усе падтрымалі яго,— адны стрымана, а другія больш горача.

Вышэй за ўсіх пры галасаванні падымаў руку бязвусы чарнамазы хлапец Якуб Маркачовых. Ён нядаўна толькі паступіў у камсамол і заўсёды стараўся выказаць сваю камсамольскую вытрыманасць і актыўнасць. Ён ужо цяпер бачыў сябе перад вялікім сялянскім сходам. Уважна слухаюць яго вусатыя дзядзькі, люлькі і цыгаркі з рота павымалі. Слухаюць і згаджаюцца: праўду кажа Якуб. А калі ён унёс прапанову: не красці больш лесу і самім выкрываць самавольцаў,— усе, як адна, падняліся мазолістыя заскарузлыя рукі. Назаўтра, гледзячы ў зямлю ад сораму, ішлі дзядзькі адзін за адным да Якуба і, як папу на споведзі, выкладалі яму, колькі хто ссек хвоек. Яны каяліся, а ён абяцаў нікому пра гэта не гаварыць, калі яны дакляруюць больш гэтага не рабіць.

Ачнуўся ён ад сваіх прыемных думак толькі тагды, калі сакратар сказаў, што пытанні ўжо ўсе, і хлопцы пачалі ўставаць з лавак. Якубу тагды прыйшло на памяць, што яго яшчэ адна прыемная рэч чакае сёння — зайсці да Змітравых.

А ў Змітравых зырка гарыць на камінку смаліна і пужае час ад часу дзяўчат, страляючы ім на прыпол. «Гасцінец будзе»,— цешаць яны адна другую.

Самі скачуць на панажах правыя ногі дзяўчат, зліваюцца ў адзін круг спіцы, жвава смычуць мокрыя пальцы сівую льняную бараду. Вілачак зусім не відаць: яны ў шалёным захапленні круцяцца наўкол свайго шпяня, ледзь спраўляючыся накручваць на шпулю мокрую нітку.

Даўно пераказалі дзяўчаты ўсе вясковыя навіны, перапелі шмат песень і цяпер трохі прыціхлі. Адна з іх, што бліжэй да камінка на зэдліку, раз-пораз паглядае цераз плячо на дзверы. Яе сіняя крамная сукенка і русыя, чуць кучаравыя валасы ёй надта да твару. Левая шчака нагрэлася ад камінка — румяная і пульхная. Гэта той магнэс, які цягнуў Якуба да Змітравых.

Прыйшоў Якуб яшчэ з адным хлапцом. Жартавалі, смяяліся і «памагалі» дзяўчатам прасці, скідаючы з калаўротаў шнуры і закручваючы ў кудзелі вусы.

Але дзяўчатам хутка захацелася спаць. Асабліва той, што ў сіняй сукенцы, ды яшчэ адной, з якой больш за ўсё жартаваў Якубаў сябар. Ім так захацелася раптам спаць і так заўтра зараней трэ было ўставаць, што Якуб хітра

падмаргнуў Вольцы (што ў сіняй сукенцы) і ў думках пахваліў дзяўчат за розум і дагадлівасць.

Ідучы дадому, Якуб узяў Вольчыну «машыну», а яна прасніцу. Весела тапталі белы пух, пакідаючы дзве пары слядоў. Каля варот Вольчынай хаты Якуб паставіў калаўрот на снег. І ён стаяў нерухома, як вартавы на важным пасту, чутка натапырыўшы адзінае скураное вушка. Ціха драмала, прытуліўшыся да вугла, кудзеля, і барада яе з сівай зрабілася белаю. А ім усё яшчэ не хочацца расстацца. У яе сняжынкі на брывах і валасах ціхія і пяшчотныя. Вочы яе, вялікія і цёмныя, у малочным змроку глядзяць на яго знізу, чаруюць і прыцягваюць да сябе.

— Снег ідзе — кудзеля намокне, можа, пойдзем ужо,— непакоіцца яна час ад часу.

Тады ён нахіляецца да яе, прыцягвае да сябе, і цёмныя вочы на мінуту заплюшчваюцца, а губы п'юць хмельную цеплату, якая разліваецца па ўсім целе і туманіць галаву.

— Снег ідзе... — і зноў на мінуту заплюшчваюцца цёмныя вочы...

Кіслы, цяжкі дух даў у нос, калі Якуб пераступіў парог свае хаты. Ён запаліў газоўку і, сеўшы каля печы на палу, пачаў разувацца. На адной пасцелі спала маці з меншым дзіцем, а на другой, бліжэй да печы,— трое большых. Бацька не то спаў, не то так ляжаў на печы, яшчэ не разуваючыся.

— Снег ідзе? — запытаў ён, не паднімаючы галавы.

— Ідзе.

— Пачакай, не разувайся!

Не адымаючы рук ад нагі, Якуб падняў галаву:

— Чаму?

— У лес трэба з'ездзіць... Я адну хвойку сухую нагледзеў, ды такая ж лоўкая. Усмал уверсе — тыдняў на тры смаліны будзе. А з камля слупкі будуць — трэба ў хляве загарады каровам перабіць... Вось якраз добра, што снег ідзе,— след закрые за ноч.

Усе светлыя думкі Якуба разляцеліся, сэрца забілася часта і трывожна. Перад вачыма зразу з'явіліся ўсе сябры ячэйкі з рашучым выглядам і паднятымі рукамі.

— Не паеду я... Я не хачу... Я не магу красці — я камсамолец,— прагаварыў ён і шпарчэй стаў раскручваць абору.

— Я ж ведаю, што ты не паедзеш. Ты ж камсамолец — цаца вялікая, дык я да старасці павінен цябе пялегаваць...

Табе абы самому смачна з'есці ды хораша схадзіць, а бацька — чорт яго бяры — няхай адзін душыцца. Я вось сам лапцей людскіх не маю, каб у свята абуць, а табе боты мусіў потам справіць... Душыўся, начэй недасыпаў за працаю, гадаваў, думаў — хоць пад старасць якая палёгка будзе. Дык не — не дачакацца, мусіць... Ну што ж, не хочаш — сілаю я цябе заставіць не магу,— ты ўжо дужэйшы за мяне. Я ўжо адзін як-небудзь... Пакуль жыў, трэба як-небудзь варушыцца.

Ён злез з печы, апрануўся і ўзяў рукавіцы. Вузкія згорбленыя плечы ў латаным кажушку і шалік на шыі прыдавалі яму нейкі хваравіты выгляд.

Бацька ўзяў з-за лавы сякеру і выйшаў, не сказаўшы больш ні слова, а Якуб усё павальней і павальней раскручваў мокрую анучу. Разуўшы адну нагу, ён спыніўся і стаў задуменна глядзець на проціпечнае акно. Самі пабеглі дзве слязіны, заказыталі каля носа, і адна з іх капнула на руку. Ён патрымаў у руках мокрую анучу, узяў за канцы, распасцёр і чагосьці паглядзеў на яе проці газоўкі і пачаў павольна накручваць яе на нагу. Абуўшы нагу, ён не спяшаючыся апрануўся, змахнуў прусака, які адзінока бегаў па стале, патушыў газоўку і выйшаў.

Конь ужо быў запрэжаны ў простыя сані, і бацька, сабраўшы лейцы, рыхтаваўся сесці на воз. Якуб моўчкі сеў на задні вязок. Сані ціха паплылі па белым моры.

Чым ясней вырысоўвалася ў змроку цёмная сцяна лесу, тым ніжэй прыгінаўся Якуб, седзячы на возе, нібы гэта цёмная сцяна ўсё з большым цяжарам налягала яму на плечы. Калі ўехалі ў лес, ён не ўцярпеў і ўголас прагаварыў:

— Пастойце, тата!

Бацька сутрымаў каня і здзіўлена паглядзеў на Якуба.

— Што там?

— Нехта ішоў, здаецца,— салгаў Якуб, каб як-небудзь растлумачыць бацьку тое, што ў яго нявольна вырвалася. І тут жа раптам яму ясна стала, што гэтае «нехта ішоў» павінна яго выратаваць... хоць на гэты раз, а там будзе відаць.

— Дзе там хто ішоў? — абазваўся бацька, не хочучы верыць словам Якуба.— Табе здалося, можа?

— Не, я добра бачыў, як нехта перайшоў цераз дарогу і стуліўся за хвойкаю.

— Які ж тут чорт можа хадзіць у гэткую пору,— сказаў злосна бацька, але паганяць далей каня потым не асмельваўся.

— Хто яго ведае, можа, знарок хто пільнуе... Але на чорта нам гэта работа — падумайце вы самі. Не толькі тае пажывы, як абняславіш сябе, калі зловяць, дык заплаціць прыйдзецца.

— У лесе — гэта не ганьба. Не дурны чалавек выдумаў: хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.

— Старая прыказка, тата, і старыя людзі яе выдумалі, цяпер яна нам не падходзіць. Самі ў сябе крадзем.

— Людзі патом не глядзяць — хаты вунь сабе пастаўлялі,— не гэтакія справядлівыя, як мы з табою,— прагаварыў бацька, ужо заварочваючы каня.

— Кіньце, тата: слупкі гэтыя самыя мы і з дроў выберам, як будзем сеч, а на газу якую-небудзь залатоўку агораем.

Але больш угаварваць бацьку не трэба было. Цёмная сцяна лесу патроху аддалялася і як бы раставала ў змроку, а разам з гэтым рабілася весялей і на сэрцы Якуба.

Каню таксама весела было. Любіў ён падрамаць, стоячы ў цёплай стайні над ахапкам пахучага сена, і цяпер бадзёра трухаў па мяккай дарозе, весела фыркаючы і паматваючы галавою. Дзівіла яго толькі адно: чаму гэта гаспадары без дай прычыны ўздумалі прагульвацца на ім у лес, ды яшчэ ў такую познюю пору.

*1927*

## ЛЮДЗІ-СУСЕДЗІ

### I

Ціха. Цёпла. А відно-віднюсенька, хоць ты іголкі збірай. І кудысьці цягне, і чагосьці хочацца. Вунь нават месяц і той вандруе па-над вёскай: прыемна і яму пагуляць у такую светлую ноч. Вось ён стуліўся за кучаравую пахучую ліпку і хоча падслухаць, што гавораць на прызбе Мікола з Ганулькаю. Глядзіць між веццяліпы, а сам дзівіцца, а сам смяецца. Што ён убачыў такое цікавае?.. Такі дасціпны гэты месяц, такі ён сквапны падглядзець, дзе што робіцца

ўначы. Вунь утаропіўся ўжо ў акно Рыгоравай хаты, загледзеўся на Рыгораву жонку. А яна спіць і не чуецца. Ён падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Рыгор не спіць, ён бачыць усе месяцавы штукі. І жонку таксама. Бачыць і не думае пра яе — не першыня. Недзе ў мыцельніку загула муха. Не вытрымала мушынае сэрца хараства ночы — запела, аб каханні, напэўна.

Паўлюку ў акно таксама глядзіць месяц, бо і ў Паўлюка ёсць жонка, яшчэ маладзейшая, як у Рыгора. Паўлюк таксама бачыць усе месяцавы штукі, але таксама не думае пра жонку, бо і ў Рыгора ёсць конь, і ў Паўлюка стаіць у хляве кабыла. І Рыгораў есці хоча, і Паўлюкова святым духам не жыве. А выган збіты, а выган зрыты, а выган счэрнены, а запрагаць заўтра трэба.

«Павяду я за Бярэзнік,— думае Рыгор.— У мяне там папарніца, а ў Паўлюка — віка. Я каня спутаю на мураве, а сам незнарок задрамлю. Калі конь увойдзе ў Паўлюкову віку, дык што ж я тут вінават?..»

«Павяду я ў Карчоўе,— думае Паўлюк.— Там у мяне нічога няма, а ў Рыгора — канюшына. Я кабылу спутаю на мураве, а самога мяне зморыць сон. А калі кабыла ўскочыць у Рыгораву канюшыну, дык я ж тут ні пры чым».

А месяц глядзіць у вокны, а месяц смяецца.

Асцярожна, каб не пабудзіць жонкі, злез Рыгор з пасцелі, надзеў порткі, апрануў бравэрку і ціханька выйшаў.

Паўлюк тым часам таксама асцярожна злез, таксама надзеў порткі і, апрануўшы бравэрку, выйшаў.

Рыгор узяў каня і па загуменню павёў яго за Бярэзнік.

Паўлюк таксама ўзяў кабылу і сцежкаю між жыта павёў яе ў Карчоўе.

А месяц дзівіцца, а месяц смяецца.

Вось і Забярэзнішча, вось і Карчоўе, вось і шэрань расы на стоптанай каровамі мураве. І Рыгор путае каня, і Паўлюк простую не пускае.

«Хаця б чэрці Паўлюка не прыгналі»,— думае Рыгор, кладучыся на мураве за Бярэзнікам.

«Хаця б нячыстая сіла Рыгора не прынесла»,— думае Паўлюк, кладучыся на ўзмежку ў Карчоўі.

А месяц дзівіцца, а месяц смяецца.

Вось Рыгор незнарок задрамаў за Бярэзнікам, а Паўлюка змарыў сон у Карчоўі. Цярэбіць Рыгораў конь Паўлюкову віку, жадае свайму гаспадару ўсяго найлепшага і спакой-

най ночы. Латошыць Паўлюкова кабыла Рыгораву канюшыну, хваліць свайго гаспадара і таксама жадае яму спакойнай ночы.

А месяц схаваўся, а месяц не глядзіць. Нашто? Каб яшчэ за сведку запісалі?

Не прыгналі чэрці Рыгора ў Карчоўе, не прынесла нячыстая сіла і Паўлюка за Бярэзнік,— недарэмна пажадалі жывёлы спакойнай ночы сваім гаспадарам.

Вось залямантавалі птушкі, абудзілі сонца. Узадралася яно (няма калі спаць — лета), глянула з-за бору адным вокам і зачырванелася — не то зазлавала, не то засаромелася, убачыўшы непарадкі.

Прачнуўся Рыгор за Бярэзнікам, схамянуўся і Паўлюк у Карчоўі.

«Добра, што ніхто не найшоў»,— падумаў Рыгор, беручы каня.

«Добра, што нікога не прыгнала сюды»,— падумаў Паўлюк, беручы кабылу.

А сонца глядзіць, а сонца дзівіцца.

## II

Але ж як хутка цяпер гэты час бяжыць: вось толькі ўчора была субота, а сёння ўжо і нядзеля... А раз нядзеля, дык і бліны. А раз бліны, дык і мачанка. А раз яна мачанка, дык і мачаць яе павінны. Вось і мачаюць людзі. Рыгор таксама намачаўся. Добра-такі намачаўся, аж паясніца ўелася ў жывот. Намачаўшыся, ён вылез, а вылезшы — перахрысціўся. А калі перахрысціўся, дык ужо ж за стол больш нязручна садзіцца. Вось і рашыў ён пайсці ў Карчоўе паглядзець канюшыны.

Паўлюк таксама намачаўся, у яго таксама паясніца ўелася, і ён таксама рашыў пайсці паглядзець, толькі не ў Карчоўе, а за Бярэзнік, і не канюшыны, а вікі.

Прыйшоў Рыгор у Карчоўе, прыйшоў і Паўлюк за Бярэзнік.

І бачыць Рыгор — паўганок канюшыны яго стаптана — адны капыты ды падсохшыя конскія яблыкі.

І ў Паўлюка паўганок, і ў Паўлюка капыты, і ў Паўлюка конскія яблыкі.

— Ах, каб яго чэрві елі! Ах, каб яго пранцы! Вось народ! Вось заразы! Ну няхай жа б дзе з краю прыпусціў,

дык не — паўганей збіў, каб яму грудзі ўзбіла. Ну-у-у, каб ведаў хто! — лаецца Рыгор, стоячы ў Карчоўі.

— Гэта ж трэба дадумацца! — прывёў у віку каня пасвіць. Ах, каб цябе сляпога вадзілі! Каб ты не дачакаў аглядаць яго! Вось людзі! Вось суседзі! Збіў, стаптаў, з'еў ды яшчэ і напаскудзіў... Ну-у-у, каб ведаў хто! — лаецца Паўлюк, стоячы за Бярэзнікам.

А сонца дзівіцца, а сонца смяецца.

Ды такі было з чаго пасмяяцца.

*1925*

# *Апавяданні, фельетоны, нарысы*

## ХВОСТ

Яшчэ Джэром К. Джэром, калі жыў-быў, заўважыў, што зусім не шкодзіла б, каб у чалавека быў хвост. Але ёсць людзі, якія яшчэ да гэтага часу не разумеюць гэтай выгады. Мне расказвалі пра аднаго чалавека, які меў гэта шчасце ў руках (ці то-бок не ў руках, а на азадку). Але ж ён быў просты, некультурны селянін і таму не мог выкарыстаць гэтага свайго шчасця, а, наадварот, лічыў яго няшчасцем.

Расказваў мне пра гэтага чалавека адзін вясковы настаўнік. Раз гэты настаўнік выцяў вельмі моцна нагу, самую галёнку. Спачатку, здэцца, нічога страшнага й не было, але што далей, то болей, болька пачала гнаіцца, нага апухла, і прыйшлося легчы ў бальніцу. Доктар сказаў, што трэба аперацыю рабіць. Пераадзелі яго, палажылі ў палату. А там ужо ляжыць адзін хворы, чакае аперацыі. На пагляд дык ён настаўніку і не хворым здаецца: ляжыць сабе спакойна, не стогне і не крывіцца; твар загарэлы, чырвоны, здаровы, бародка русенькая. І не стары — гадоў пад трыццаць чалавеку. Сталі гаварыць сёе-тое. Настаўнік расказаў сваю прыгоду з нагою дый пытаецца:

— А ў вас, выбачайце, якая хвароба? Што вам будуць рэзаць?

Спусціў той чалавек вочы дый кажа:

— А дайце ж вы рады. У мяне дык такое, чаго й на свеце нідзе не чуваць. Аж нават і гаварыць сорам... Хвост у мяне вырас...

— Жартуеце, мусіць? — не паверыў настаўнік.

— Не жартую, кажа, чалавеча. І рад бы жартаваць, ды не наўме. Заўтра адразаць будуць. Можа, і вы пабачыце... А ўрэшце, што ж там ужо хаваць,— сказаў ён, памаўчаўшы. Ужо ж усё роўна ведаеце, вось паглядзіце, калі хочаце.

Ён раскрыўся і закасаў калошу споднікаў на правай назе. І настаўнік сапраўды ўбачыў хвост, прывязаны абор-

каю да нагі вышэй калена. Ён увесь абросшы быў рыжаватымі валасамі, а на канцы дык і кутасік быў з цямнейшага воласу. Даўжынёю хвост быў якраз да калена.

Настаўнік, які аж да апошняга часу думаў, што той жартуе, так здзівіўся, убачыўшы хвост, і так збянтэжыўся, што не мог зразу нічога сказаць, і, толькі мацнуўшы, пераканаўся, ці няма і ў яго такой штукі. А хвастаты расказваў тым часам:

— З маленства гэта ў мяне. І нарадзіўся з хвосцікам. Бабка, што пры роду была, першая ўбачыла. Папужаліся ўсе. Маці дык тры дні плакала. Задушыла б, казала, каб не людзі ўведалі. Але бабка была лёгкая на язык і ўсім расказала. А хвосцік невялікі быў спачатку — вось як у маленькага парасяці. Гаравала маці са мною, хавала ад людзей, каб ніхто не бачыў, смерці мне жадала. А я патом рос. Хвосцік таксама рос. Бывала, як разгуляюся ды стану бегаць па хаце, весела мне зробіцца, дык і хвосцік угару падымаецца, аж кашульку падымае. А як падрос трохі ды ўвазнаў, дык сам асцерагаўся, каб хто хваста не ўбачыў. Найбольш усё ў сваёй хаце гуляў ды на сваім панадворку — нікуды не хадзіў. Але ці ўсцеражэшся ж у вёсцы? Гадоў мне дзесяць стала. Пара ўжо й за работу брацца. Пагнаў я каровы пасвіць. А пастушкі ж вясковыя — самі ведаеце, якія распуснікі. Вядома, без нагляду старэйшых цэла лета — што хочуць, тое й робяць. Вось і прысталі яны да мяне з першага дня: «Пакажы хвост». Я бажуся, клянуся, што ў мяне ніякага хваста няма, а яны такі сваё: «Не хочаш паказаць, дык хоць скажы, які ён у цябе. Ці гэтакі, як у Змітравага Мурзы — закручасты, на люльку падобны, ці як у казы, ці гэтакі, як у Тодаравага каня — сівы з доўгаю валаснёю?» Жыць яны мне не давалі. А аднаго разу дурэць завінуліся. Знарок, мусіць, згаварыліся. Зловяць гуртам аднаго, паваляць ды, расшпіліўшы портачкі, напхаюць яму моху ды шышак хваёвых ( у лесе каровы пасвілі). Пасля другому гэтаксама. Бачу я, што й да мяне зараз чарга дойдзе. Устаў я гэта — думаў ісці нібыта каровы завярнуць. Дык дзе ж, ого! Злавілі, павалілі ніцма, двое на плечы ўсселі, а тыя хваста шукаюць. Агалілі азадак дый здзекуюцца: палкамі поруць, за кутасік скубуць. Як вырваўся я ад іх, дык і кароў сваіх адрокся, плачучы, дадому пабег. Вечарам бацька хадзіў сварыцца з бацькамі тых хлопцаў, якія мяне пакрыўдзілі, але ці гэта ж мне памагло? Яшчэ горш па ўсёй вёсцы гаварыць сталі. Сорамна мне й на вуліцу выйсці, не хачу й каровы гнаць пасвіць. Бацьку

прашу, рукі цалую: «Адсячы ты, кажу, мне хвост. Я сам і на калодку палажу, а табе толькі сякераю раз цяпнуць. Паглядзіш, што я і не заплачу нават, а яшчэ падскочу ад радасці». Дык не паслухаў мяне бацька. «Баюся, кажа, яшчэ калекаю зраблю або саўсім памрэш, тагды й цябе шкода будзе, і самога па судох будуць цягаць». А каб да доктара павезці ды рапарацыю зрабіць, да гэтага бацька не дадумаўся. Дый не чуваць было ў нас тагды, каб каму рапарацыю рабілі. Вёска глухая (з Лепельшчыны я): доктар толькі за дваццаць вёрст, у мястэчку. І ездзілі да яго толькі, калі хто моцна хворы. А ён нікому рапарацыі і не рабіў, толькі прымочкі ды парашкоў даваў. Так і давялося мне і надалей з хвастом хадзіць ды каровы пасвіць. Зажыў гора — няма чаго казаць. Палягчэла трохі толькі тагды, як падрасла меншая сястра ды пагнала пасвіць, а я крыху пасталеў. Цяпер хоць у вочы мне нічога не гаварылі, толькі вечарамі дзеці не давалі супакою. Падбягуць чарадою пад вакно: «Косцік, пакажы хвосцік», дый урассыпную. А мяне, як на тое ліха, яшчэ й завуць Кастусём. Але я ўжо цярпеў, зубы сцяўшы, бо стань ганяцца за імі, дык яшчэ горш... Пачалася вайна. Памёр мой бацька. Стаў я сам сабе гаспадар. «Ну, думаю, цяпер я расквітаюся з сваім няшчасцем. Паўгаспадаркі рашу, паеду ў Віцебск, у Мінск. Там цяпер дактары ўсякія рапарацыі робяць раненым. Папрашу, каб яны мой хвост адрэзалі». Як сказаў аб гэтым матцы, дык яна — у плач, у слёзы: «Не пушчу. Зарэжуць цябе там, што я буду рабіць з дзецьмі? А калі й выжывеш, кажа, дык скора прызывацца, у салдаты возьмуць. Заб'юць на вайне. А так мо збракуюць па калецтву. Пачакай трохі». Хацеў я спачатку не паслухаць маткі. А пасля шкода стала. А як падумаў, дык яна трохі й праўду казала. Вось і адлажыў я гэту справу. «Папакутую, думаю, яшчэ год-другі, можа, яно й паспакайнее». Але паспакайнела не скора. Вось так яно й былося аж да гэтага часу, пакуль маці не памерла. А цяпер жа трэба гаспадыня ў хату: сястра, што пада мною, замуж пайшла. Нехаця жаніцца трэба. Шмат ёсць добрых дзяўчат і ў нашай вёсцы, і ў суседніх, але ж не мае,— ведаюць усе пра маю ганьбу. Яшчэ калі дзе за працай або па якой справе загаворыш з катораю, дык нічога — гавораць як з чалавекам, а як толькі на вечарыне дзе папробуеш зачапіць, дык ні прыступу, як чорта, пужаюцца. Бачу я, што нічога не будзе,— блізкая не пойдзе. Узяў я швагра за свата, і сталі мы ездзіць па далёкіх вёсках, вёрст за дваццаць, за трыццаць. Увойдзем гэта

ў хату, прывітаемся, пачнем аб справе загаворваць. «Адкуль жа вы?» — пытаюцца. «Ды з такой вось вёскі,— адкажа сват.—Можа ж, чулі?» «Ды чаму не чулі,— адказваюць.— Гэта ж тая самая вёска, дзе людзі з хвастамі вядуцца. Хоць бы вы нам напаказ аднаго прывезлі». Сват пачне тут гаварыць, што гэта ўсё людзі выдумалі, а я як на вуголлях сяджу. І дзяўчына мне не наўме. Так вось чуць не ў кожнай вёсцы было. Здаралася, што й высватаеш дзе часамі, дык не паспееш дадому прыехаць, як ужо наказ ідзе: «Не прыяжджай, не пайду». Нехта, мусіць, перасцерагаў. Ездзіў я, ездзіў дый годзе сказаў. Усё роўна нічога не выходзіць. Вось я й прыехаў сюды ў Мінск рады шукаць. Сорам было — выказаць вам не магу. Але адважыўся нарэшце, паказваю дактарам. Падзівіліся, праўда, яны. Сказалі, што гэта вельмі рэдка бывае,— мо раз ці два ў паўсотні гадоў на ўсёй зямлі. Але казалі, што страшнага тут нічога няма: калі адрэзаць, дык праз тыдзень-два й зажыве. Заўтра рана рэзаць будуць. Праўда, што маёй справе гэта не надта паможа. Не пакажаш жа кожнай, шануючы вас, што ў мяне ўжо хваста няма. Але я папрашу, каб мне паперку далі такую, што я ўжо чалавек як мае быць. Толькі мне не так гэта важна, як тое, што я нарэшце сорам свой скіну з сябе. Не дачакаюся, каб скарэй заўтрашні дзень...»

Так і адчыкалі хвосцік таму небараку. Няхай сабе ўжо без хваста скача, калі не здолеў чалавек выкарыстаць такой выгады. А мы з вамі, дарагі чытач, давайце трошкі пафантазіруем. Страх, як люблю фантазіраваць.

Іншы раз як зафантазіруюся, дык забудуся, што й раблю. Помню гэта раз, як яшчэ на вёсцы жыў. Пайшоў я ў гумно па трасянку каровам. Наклаў вязку, узяў на плечы ды йду сабе памаленьку. Іду, а сам думаю, ды такое нешта цікавае ды прывабнае. Так задумаўся ■ тагды моцна, што адчыняю, дык мая вязка не лезе за мною. Гляджу — дык я не ў хлеў, а ў хату трасянку прыпёр. Бацька ўбачыў, лаецца, а мне сорам. А то вось і цяпер. Пашле часамі жонка па ваду. Я вазьму вядро дый пайду. Як пайду, дык і зайду, бывае, у суседнюю кватэру. Там глядзяць мне ў вочы, а я ім, пакуль расшалопаем, што тут такое. А тагды я — ходу, а яны — у рогат... Пра што, бок, мы цяпер хацелі? Ага — пра хвост.

Вось вучоныя хоць і гавораць, што хвост у чалавека,— гэта атавізм, перажытак даўно мінулага, зусім у наш час непатрэбная рэч, але гэта таму, што яны прывыклі ідэалізаваць чалавека. Ды яшчэ таму, што вучоны — чалавек мала практычны: закапаецца ў сваю там біялогію, антрапалогію ці іншую якую «логію» і не бачыць, што наўкол яго робіцца. А калі бліжэй прыглядзецца да цяперашняга чалавека, дык хвост яму вельмі патрэбен. Які хвост — вось гэта ўжо другое пытанне, і аднаго адказу на яго быць не можа. Выбірайце сабе па спецыяльнасці, бярыце, які вам больш да твару.

Ну, уявіце сабе на хвілінку, дарагі чытач, што вы, шануючы вас, падхалім. Тут ужо што вы ні кажыце, а без хваста вам вельмі цяжка абыходзіцца. Бо што вы цяпер робіце? Выгінаецеся, выдыгаеце, хіхікаеце, паціраеце ручаняты ды ляпечаце ўсякія прыемнасці. А прыемнасць — гэта штука тонкая, дыпламатычная, шмат такту і нават розуму патрабуе. Можа здарыцца, напрыклад, такая рэч.

Вы «ім»:

— Ах, як вам да твару ваш новы гарнітур! Вы ў ім — ну, сапраўдны ж прынц Іоркшырскі.

А «яны» Вам:

— Самі вы, грамадзянін, падсвінак няскрэбены. І прашу на вочы мне больш не пападацца.

Вы й пайшлі як мыла з'еўшы. І цяпер толькі схамянуліся, што й самі добра не ведаеце, ці ёсць іоркшырскія прынцы, але затое добра ведаеце, што ёсць іоркшырскія парсюкі. Вось вы тут і дагадваецеся... Такім чынам марна прапала і ваша выдыганне, і ваша хіхіканне, а з «прыемнасці» зрабілася вялізнае наадварот. А калі б у вас быў хвост, дык тагды справа зусім іншая. Ніякіх хіхіканькаў тагды зусім не трэ было б, прыемнасцей гаварыць — таксама. Адзінай і дасканалай прыладай вытворчасці ў вас быў бы хвост. Падышлі вы гэта да «іх» ды толькі сабе: віль-віль-віль, а «яны» глянулі на хвост і бачаць, што гэта ён ад паўнаты пачуццяў ды ад вялікай адданасці так і што ніякае мыла вам ужо непатрэбна. Які вам хвост патрэбен быў бы, вы, напэўна, самі дагадаецеся; я з далікатнасці тут памаўчу.

Але калі вы, дарагі чытач, зусім не падхалім, калі вы чалавек салідны, забяспечаны, здаволены заўсёды сам сабою і жыццём (бо вас не мучаць ніякія «праклятыя» пытанні — усе яны ўжо даўно вырашаны аўтарытэтамі), калі ў вас падбародак на тры паверхі, а заміж шчок —

здобныя булкі, калі процілеглыя полюсы вашай асобы вельмі падобны адзін да другога, то тагды — выбачайце — сабачы хвост будзе вам зусім не да твару. Тагды вам патрэбен хвост іншай канструкцыі. Вам тагды да твару будзе хвосцік невялічкі, але зграбны і жыццярадасны; такі, каб ён адным сваім завіткам выказваў усю вашу сутнасць. Па форме ён павінен быць накшталт коскі добрага пісара... Не, гэта параўнанне слабаватае: у ім мала пластычнасці. Можа, скарэй накшталт корбы ад калаўрота, што прасці. Але гэта не перадае яго кволасці і пяшчотнасці. Скарэй, можа, ён падобен быў бы на вусік маладой фасолі. Колер? Лепш за ўсё, калі ён будзе беленькі.

Зусім іншага сорту патрэбен хвост, калі вы, так сказаць, зорка першай велічыні сельсавецкага, раённага ці акруговага маштабу, але калі вы заняты вырашэннем праблем абавязкова сусветнага маштабу. Вы, напрыклад, на памяць ведаеце плошчу балота па ўсім СССР, за колькі год яно можа быць асушана, і колькі мільёнаў дзяржава ад гэтага будзе мець прыбытку, але балота пад вашым уласным носам — дык гэта ж глупства, дробязь; ці варта на яго звярачаць увагу, калі яно і ўсяго якіх-небудзь трыццаць-сорак квадратовых кіламетраў? Вы таксама дасканала ведаеце настроі ўсіх слаёў кітайскага грамадзянства, настроі індусаў, афрыканскіх неграў, палінезійцаў, можаце да капейкі падлічыць бюджэт кожнай іх сям'і і можаце рабіць (і робіце) аб усім гэтым трохгадзінныя даклады. Вядома, што пры такім вашым розуме і шыраце кругазору — што для вас бюджэт кучкі батракоў суседняга саўхоза і іх настроі, якое значэнне яны маюць у сусветным маштабе? Нецікавы для вас і такія дробязі, як нястача апалу ў сялянства, як няправільны падлік аб'ектаў падатковага аблажэння. І вось калі з такімі дробязямі да вас усё-такі лезуць, лезуць, нягледзячы на тое, што вы зачыніліся ў кабінет, што на дзвярах напісана: «Без дакладу не ўваходзіць»,— лезуць у засмальцованых куртках, у кажухах, чаго добрага — у лапцях, дык тут вам і патрэбен хвост. Хвост — адпаведны вашаму палажэнню і маштабу, хвост салідны, як у добрага біцюга, каб адным махам вы маглі адагнаць ад сябе, вымесці з кабінета ўсю гэту назолу, усю драбніцу. Зноў жа асабліва эфектна выходзіць, калі гэтакі хвост трымаць трубою, што таксама адпавядае вашаму палажэнню і поглядам. Толькі глянуўшы на такі хвост, грамадзянін ужо да самых вантроб прасякаўся б павагаю і пашанаю да яго.

Пра зоркі вышэйшага маштабу за акруговы я тут не гавару; і не таму, дарагі чытач, што ім не ўласцівы сусветны маштаб або што ў іх не з'яўляецца жаданне панасіць хвост трубою, а таму, што яны і пісаніны нашай не чытаюць: для іх — гэта занадта дробны маштаб.

А можа, вы, дарагі чытач, зусім нават і не чытач? Можа, вы — чытачка? Можа, вашым ідэалам у жыцці з'яўляецца, напрыклад, грацыя? Тагды з вамі зусім асобная гутарка. Пашукаем хваста, адпаведнага вашаму ідэалу. Перш за ўсё — што з'яўляецца прыкладам грацыёзнасці? Як нам вядома, з даўных часоў самым грацыёзным стварэннем лічаць казу. Самі ж, можа, чулі не раз, калі пра дзяўчыну гавораць: «грацыёзная, як козачка»? Цяпер другое пытанне — дзе гэта грацыя ў казы знаходзіцца? Ногі? — авечыя. Морда? — таксама. Вымя? — нічога асаблівага. Барада? У кожнага, напрыклад, папа ёсць, і ніхто яго за гэта ўзорам грацыі не лічыць. А вось хвост — гэта ўжо нешта асаблівае. У ім вось уся грацыя і знаходзіцца. Значыцца, увесь ваш ідэал як бы ў казіным хвасце змяшчаецца. І, паверце,— гэты хвосцік вам бы вельмі да твару быў. І выгадна: напрыклад, які-небудзь там рэверанс, кніксен (вось слова, ведаеце, некае... нібы кот начхаў, аж цяжка выгаварыць), дык не трэба ўжо ножкамі вырабляць, а толькі хвосцікам — ківель — і гатова.

А калі ў вас іншыя ідэалы, дык і хвасты ж усякія ёсць. Напрыклад — павы, індыка, сарокі. Некаторыя і цяпер ужо ходзяць з птушынымі хвастамі страуса, тае ж павы. Але ж, ведаеце, куды яны гэтыя хвасты ўтыкаюць? Гэта зусім нек ужо дзіка: ні ў аднае ж жывёлы на галаве хвост не расце. А можа, вы такая жанчына, што вам зусім хвост не да твару? Дык, калі ласка,— будзьце сабе без хваста.

Так. Шмат у якой справе хвост мог бы быць вельмі карысным. Апрача вышэй пералічаных выпадкаў, можа, вам трэба калі-небудзь, напрыклад, «сляды замесці». Тут хвост якраз дарэчы... А то, можа, вы пазычылі ў каго-небудзь што-небудзь, ды вам не хочацца аддаваць ці дакляравалі што, ды не думаеце зрабіць; тагды вельмі карысна «хвастом накрыцца». Нарэшце, на хвасце можна і эканомію сякую-такую загнаць. Калі вам, напрыклад, цэла лета няма чаго рабіць і калі вы любіце вісець у гамаку, дык вы б маглі й зусім гамака не купляць, а зачапіцца хвастом за галіну і пакалыхвацца сабе цэлыя дні ў скверы ці гарадскім садзе. Робяць жа так малпы з пароды гультаёў.

Да гэтага часу мы разглядалі хвост як чыннік, значыць, як суб'ект. Але гэтым яго значэнне яшчэ не вычэрпваецца. Не меншае значэнне мае і хвост як аб'ект, як аб'ект розных учынкаў з боку іншых людзей. За хвастом, напрыклад, можна валачыцца. Зноў жа можна: «хвост накруціць», «хвост намыліць».

У хвост можна яшчэ «грэць». Гэты спосаб ужываецца найчасцей у дачыненні да людзей, якія выяўляюць халодны тэмперамент у адносінах да службовых абавязкаў. Пры гэтым для раўнамернага награвання раіцца грэць адначасна ў два канцы: і ў хвост і ў грыву.

Яшчэ ёсць адзін вельмі добры спосаб дачынення да хваста. Гэты спосаб мае вялікае грамадскае значэнне. Яго вельмі не любяць бюракраты, валакітчыкі, растратчыкі і іншае звяр'ё, але затое ім вельмі часта карыстаецца РСІ і пракуратура. Гэта спосаб — «за хвост ды на сонца».

Нарэшце, можна на хвост нават солі насыпаць. Гэты спосаб ужываецца ў тых выпадках, калі ўсе іншыя спосабы недаступны. Хвасту, між іншым, гэта ніякай шкоды не зробіць, але затое таму, хто сыпле, гэты спосаб дае поўнае маральнае задавальненне.

Яшчэ хвасты карысны былі б для таго, каб расцягваць ахвотнікаў «до журнальной драки» і ўсякіх іншых дыскусіянераў. Асабліва калі яны ў захапленні забываюцца нават, за што яны гыркаюцца, і, такім чынам, выходзіць гырканне дзеля гыркання (сваеасаблівае мастацтва для мастацтва). Цяпер за што ты яго каторага ўхопіш? А тагды б за хвост ды сюды, аддыхні трохі, чалавеча.

Але каму найбольшая выгада была б ад хвастоў, дык гэта некаторым «ідэолагам», якія паставілі сабе заданне наглядаць, каб усе людзі былі вясёлыя, і ачышчаць грамаду ад невясёлых. Тут перш за ўсё трэба ж пазнаць, вясёлы гэты чалавек ці не. Для гэтага ім цяпер трэба наглядаць, збіраць, вывучаць і гэтак далей. А каб былі ў грамадзян хвасты, дык нічога гэтага рабіць не прыйшлося б,— хвост быў бы самым найлепшым барометрам. Калі ў грамадзяніна хвост угару служыць,— скажам, хвост кручком, хвост завітком, хвост трубой, хвост дудкай, хвост абаранкам,— дык, значыць, чалавек вясёлы і няхай здаровенек жыве. А калі ў яго хвост наадварот, дык тагды рабі сабе разнастайныя вывады.

Але ці не пара мне скончыць, дарагія чытачы? Я баюся, каб вы, не пазнаўшы жартаў, мне самому не захацелі хвост

прышчаміць. Былі ўжо такія спробы, дабіраліся да майго хваста, толькі пакуль што «оного не оказалось». Але ці я ж упэўнены, што калі хто захоча абавязкова знайсці ў мяне хвост, дык не знойдзе яго? «В писании бо сказано есть: ищите и обрящете».

*1928*

## ВОСЬ ТУТ І ПІШЫ

Куры, шансанеткі, сабакі... І гэта ўсё вось тут жа за фанернай сцяною. Куры ў натуры, шансанеткі ў грамафоне, а сабакі і ў грамафоне, і ў натуры. Мой сусед штук пятнаццаць мае курэй і кожны дзень разоў па два, па тры наладжвае ім рэвізію,— як у іх, значыцца, наконт падняцця вытворчасці, ці шмат з яйцом. Робіцца ўсё гэта саматужным ручным спосабам, і вядома, што тут усе пятнаццаць курэй разам падымаюць самы энергічны пратэст супроць такога бессаромнага з імі абыходжання. Падымаецца такі вэрхал, што хоць ты святых вынось, але дзеля таго, што іх зусім у хаце няма, прыходзіцца паняволі чакаць, пакуль рэвізія скончыцца і пакуль гармідар уціхае сам сабою.

«Ну, думаеш, пачакаўшы, цяпер жа ўжо вазьмуся за работу». Але не паспееш напісаць і пары слоў, як тут зараз у тры галасы:

— Гаў... гаў... гаў...

Што гэта за намёкі? Ацэнка творчасці? Зусім знаёмы мне метад. Толькі стань да ўсіх прыслухоўвацца, то і пісаць не будзе калі.

Ганю далей. Але тут яшчэ адно ліха: крахтанне, шыпенне, хрыпенне і потым:

— Пара гнедых, запряженных с зарею,
Т-р-р-р... Ч-ш-ш-ш...
Тихо плететесь вы мелкой рысцою
И возбуждаете смех у иных...

Які тут чорта смех! Плач наўме. Але нічога не зробіш — прыходзіцца маўчаць. Няхай сабе плятуцца, а інакай гэта пара старых драчоў можа зусім занаравіцца і прахрыпець цэлы дзень на адным месцы.

А пісаць усё-такі трэба, і пісаць іменна сёння, каб да вечара гатова было апавяданне, бо інакай заўтра мяне

рэдактар жыўцом з'есць. Праўда, што з беларускага пісьменніка наедак невялікі: худзізна, зубы можна паламаць. Але такая ўжо традыцыя ўсталявалася, што рэдактары павінны есці пісьменнікаў. Дык вось, каб не здарылася такога людаедства, я зараз пачынаю пісаць апавяданне.

Добра сказаць — пачынаю пісаць, але пра што? Напісаць хіба пра тое, што мая знаёмая, цётка Настуля, учора дваццаць першы аборт сабе зрабіла? (Шосты год працуе ў гэтай галіне.) Але ж не ведаю, ці многа гэта, ці мала. Цяпер навука і тэхніка ідзе наперад такімі шпаркімі крокамі, што... можа, гэта толькі абавязковы мінімум для кожнай жанчыны? Нарэшце мая знаёмая проста запратэставаць нават можа і напісаць мне ультыматум, каб я не ўмешваўся ў яе ўнутраныя справы.

А можа, напісаць пра тое, як адзін бюракрат змагаўся з бюракратызмам? Як ён напісаў дзесяць цыркуляраў аб тым, што за год бюракратызм павінен быць знішчан, і як загадаў усім сваім падначаленым, каб яны штотыдня давалі пісьмовыя справаздачы аб ходзе барацьбы з бюракратызмам? Але ж усім вядома, якая гэта прыемнасць мець справу з бюракратамі,— улезеш у такую кашу, што пасля й сам не рад будзеш. Няхай з імі лепей Рабоча-сялянская інспекцыя знаецца.

Можна б яшчэ пра беларусізацыю напісаць. Тэмы гэтай хопіць для ўсіх гумарыстаў яшчэ на доўгі час. Дык тут зноў жа хіба ў форме далікатных заўваг у тым сэнсе, што не шкодзіла б нарэшце нам усё-такі беларусізавацца. Бо ў мяне, як і ва ўсіх добрых людзей, ёсць непасрэднае начальства, дык яно яшчэ пакрыўдзіцца гатова,— падумае, што пра яго. Яно вельмі не любіць, калі канкрэтна пра беларусізацыю. «Вы зноў? Кіньце! Кіньце! Чулі. Ведаем без вас. Партыя... Нацпалітыка... Ды гэта, я вам скажу, захапленне, як бы мода некая. Яно вядома — партыі працівіцца не можна, але ж... спяшацца таксама няма куды. Гэта нічога, гэта ўсё пройдзе. Вы толькі рабіце так, што, калі паглядзець, дык здаецца, вы беларусізуецеся, а калі добра прыгледзецца, дык яно й на месцы... Жылі ж мы нек раней і без беларусізацыі...»

Не, не буду я гнявіць начальства.

Яшчэ нават пра адно можна было б напісаць. Гэта пра тое, як у адной вёсцы сіламі ўсяго вясковага актыву зліквідавалі непісьменнасць, наўчыўшы чытаць адну шасцідзесяцігадовую бабульку — «тэхнічнага працаўніка школы». Праўда, што ў вёсцы шмат ёсць маладзейшых дзяўчат,

таксама непісьменных, але ж актыў разважае так, што маладых, ліха іх не возьме,— да шасцідзесяці гадоў паспеюць яшчэ зліквідавацца. А бабка ўжо чуць клёвае. Каб не паспяшыліся прыняць меры, яна б так і памерці магла непісьменнаю.

Толькі пісаць мне пра гэта таксама нязручна: яшчэ могуць не так зразумець мяне і абвінаваціць, што я супроць ліквідацыі непісьменнасці выступаю.

Ці не лепей будзе расказаць мне пра аднаго вясковага злодзея?

Тут я ўжо магу разгарнуцца насмелую. Тут ніякая небяспека мне ўжо не пагражае, апрача таго, што злодзей, пакрыўдзіўшыся, можа мяне абакрасці. Але і ад гэтага таксама я застрахаваны, бо, па праўдзе кажучы, яно такі і ўкрасці няма чаго. Па-другое, на мяне тут і крыўдзіцца няма чаго, бо расказваў мне пра гэтага злодзея мой швагер, які нядаўна прыязджаў да мяне з вёскі. Там у іх, каля Узды, не помню, у якой вёсцы (а хоць і помню, дык памаўчу), жыве адзін чалавек. Ну, скажам, Янкам яго заваць. Працуе ён, як і ўсе іншыя людзі: арэ, косіць, малоціць, колькі там ёсць чаго, але спрытней і ахватней за ўсё ён крадзе. Ты яго, як кажуць, хлебам не кармі, але ўкрасці дай. Нават наадварот: чым менш корміш яго хлебам, тым больш ён будзе красці. А дзеля таго, што карміць яго хлебам ніколі ніхто не збіраўся і карміцца ён павінен сам, дык крадзе Янка без канца й без меры. Ужо змалку па гэтай дарозе пайшоў. Кажуць, калі нават яшчэ матчыным малаком карміўся, дык ухітраўся так вылузаць грудзі з-за пазухі, каб маці нават і не пачула. Як трошкі падрос, злізваў смятану з збанкоў і пасля ганяўся з папружкаю за кошкаю, складаючы ўсю віну на яе.

Аднаго разу дык бацькавы порткі, падношаныя, але яшчэ цэлыя, аддаў анучніку ў воз за пяць цукеркаў. Назаўтра маці галаву круціць, шукае — дзе іх чорт ухапіў?

— А дзе яны былі, ці не ў каморы? — пытае Янка.

— Але, у каморы. За скрынкаю ляжалі.

— Ну дык, мусіць, старац узяў. Учора як я быў адзін у хаце, чую — нешта стукае ў сенцах. Адчыніў, дык там старац стаіць, нешта ў торбу пхае, і камора наша адчынена. Ён сказаў, што дзвярэй у хату ніяк знайсці не мог, бо сляпы, і прасіў, каб я падарыў. Я даў яму кусок хлеба, дык ён і пайшоў.

Маці перастала шукаць і пачала клясці старца.

Калі быў пастушком, Янка лазіў у чужыя агуркі ды яблыкі, краў яйцы з-пад чужых курэй ды купляў за іх махорку ды запалкі. А як вырас ды стаў гаспадаром, дык і на буйнейшых рэчах пачаў практыкавацца. Паедзе ў млын, дык пасак з чужога каня сцягне (два рублі каштуе) або мяшок мліва чужога пад свае мяшкі падкіне, едучы дадому. Пойдзе ў мястэчка, дык у яго ў кішэнях зараз цэлы «дробны гандаль» апыніцца. Ніткі, запалкі, гузікі, нажыкі-сцізорыкі — гэтага ён не меў прывычкі купляць. У вёсцы, у блізкіх суседзяў, красці асцерагаўся, апрача хіба дробязі, якую ён заўсёды прымаў, калі дрэнна ляжала, але часта і аддаваў, калі ў яго пра гэта пыталіся. А суседзі ўжо і ведаюць. Прападзе якая-небудзь рэч, адразу ідуць да Янкі.

— Ці не бачыў, Янка, мае пугі? Недзе прапала, ліха яе ведае.

— Пугі, кажаш?

— Але.

— Сырамятная, з ядлоўцавым пугаўём?

— Але.

— Бачыў, чаму не. На сваім двары падняў. Мусіць, дзеці твае прывалаклі.

— Вось ліха іх матары, парасяты! — лаяўся сусед, добра ведаючы, што Янка лжэ.

А Янка сцёбаў некалькі разоў па зямлі, аддаючы пугу, і хваліў:

— Лоўкая пуга. Вось бы мне такую набыць. А то конь — падла, тупіца — не хоча бегчы без пугі.

А залетась у аднаго гаспадара на другім канцы вёскі нехта свіран абакраў. І замок цэлы на дзвярах, і слядоў нідзе ніякіх, а сала пудоў чатыры няма. Зразу ўсе сказалі, што гэта, не іначай, Янкава работа. Міліцыя прыехала, увесь Янкаў будынак першапэсла — няма. Як у ваду ўпала.

А Янка ходзіць з міліцыяй ды не то жартуючы, не то сур'ёзна, апраўдваецца:

— Што вы гэта, людцы мілыя, надумалі? За бязбожніка, мусіць, мяне лічыце. Цяпер жа вялікі пост. Я й да свайго скаромнага баюся дакрануцца, а то гэта я палез бы невядома куды чужым скароміцца.

Не мінаў яго рук часамі і жывы тавар — гусі, авечкі, цяляты. Гэтага ён сам не спажываў, а збываў за паўцаны ўздзенскаму кавалю Янкелю. Жыве Янкель не ў самым мястэчку, а трохі наводшыбе, каля свае кузні. А сын яго мясную крамку мае на Уздзе. Дык Янку вельмі зручна было гешэфт мець з тым кавалём.

Так і ладзілі яны доўгі час, аж пакуль не пасварыліся. А здарылася гэта мінулым летам нек у жніво.

Прывёз Янка сярод ночы Янкелю трое авец. Сышліся яны на дзесяць рублёў.

— Але ведаеш што, Янaчка? — кажа Янкель.— Грошай пры мне няма, грошы ў сына. А будзіць яго сярод ночы ды шукаць грошай нек не выпадае. Дык ты пакінь авечкі, а на грошы пачакай. У нядзелю ўбачымся на мястэчку, дык я табе аддам.

— Добра,— кажа Янка.— Няхай будзе гэтак, як Сора казала. Не першы ж раз я табе напавер пакідаю, не скруціш, можа, і цяпер.

Сустрэліся яны ў нядзелю на Уздзе.

— Ну, грошы маеш, Янкель? Можа, доўг аддасі?

— А чаму ж не? Што вінен, то аддаць павінен,— кажа Янкель. Вымае потым калітку з грашыма і дае Янку дзве траячкі.

— А болей?

— Не варт.

— Дык мы ж на дзесяць рублёў, здаецца, угаварыліся.

— Ашукаўся я тады. Папоцемку здавалася, што яны і тлуставатыя, а як пачаў рэзаць, дык ледзь шкуру ад мяса адлупіў. Ты хочаш, каб я сабе на ўтрату купляў? Добры гешэфт!

— А дзе тваё сумленне, Янкель?

— Яно разам з тваім, Янaчка. Ты крадзенае прадаеш, а я крадзенае купляю.

— Дык не дасі яшчэ чатыры рублі?

— Не магу, Янaчка, сабе на ўтрату.

— Ну пачакай жа, ідалава душа! Я табе ўпамянуся!

— Перш за ўсё, Янка, пакінь ты дурную мужыцкую прывычку лаяцца. А далей — калі я тваё што заняў, дык можна падавацца на суд. Там разбяруць, хто чаго варт.

Прайшло месяцаў са два, і яны не гаварылі, хоць і бачылі адзін аднаго. Нарэшце аднаго разу Янка не вытрымаў і, сустрэўшыся на мястэчку, загаварыў першым:

— Дзень добры, Янкель.

— Здароў, калі не жартуеш.

— Ці не злуеш ты на мяне?

— Я ўжо такі чалавек: не маю прывычкі злаваць тагды, калі за маё сыходзіць.

— А я на цябе — ох, моцна зазлаваў быў. Але ўжо чорт тваю жыдоўскую душу бяры. Вельмі ты ўжо чалавек патрэбны. Давай мірыцца будзем.

— Ну, чаму не? Абы твая кварта.

— За квартаю справа не стане, толькі цяпер у мяне грошай няма. Вось дастаўлю табе тавар, а тагды і кварту вып'ем.

— А тавар маеш?

— Я не маю, дык людзі маюць. А ты ж ведаеш мяне: калі ў людзей ёсць, то і ў мяне будзе. Няхай адно ў вока мне што ўкінецца.

— І добры тавар?

— Ох, тавар! Ахнеш, як рассмакуеш. Ублагатвару цябе, што называецца. Чакай у скорым часе. Толькі ўжо фігу пакіну я табе напавер,— з рук у рукі.

— Ну добра, нек памяркуемся.

Праз сутак двое ці трое, апоўначы, Янка асцярожна стукаў Янкелю ў вакно:

— Янкель, Янкель, ты спіш?

— Сплю.

— А тавар купіш?

— Куплю.

— Ну, то хадзі сюды.

Выйшаў Янкель, пярхаючы паціху ў бараду.

— Ну што ў цябе за тавар?

— Карову прывёў табе.

— Можа, скрэнда якая?

— Хоць сабе скрэнда, але не горшая за тваю.

— Ого! Каб ты гэтак добра краў, як ілжэш, дык бы мы з табою багатымі людзьмі былі.

— А ведаеш ужо што: калі яна будзе горшая за тваю, дык я дарэмна табе яе аддам.

— Пакажы, дзе гэта твая хвалёная.

— Ды вось тут, недалёка, за тваім хлявом у хмызнячку стаіць.

— То пачакай, я сына пабуджу. Усё роўна аднаму не ўправіцца будзе.

Падышлі яны ўтрох да таго месца. Праўда — стаіць карова і ад камароў хвастом бароніцца. Чорная, лысая, з белымі лапінамі на баках, і ногі заднія па калені белыя. Калі падыходзілі, прыветна мікнула,— рахманая. Падышоў Янкель, за пахвіну ўзяўся, каля хваста памацаў.

— Колькі хочаш?

— Давай палавіну твае каровы.

— Вазьмі трыццаць рублёў.

— Заткні іх... ведаеш куды?

— Ну, то як ты думаў?

— Я думаю, што мы падзелім яе папалам, хоць мне тут больш працы. Дасі мне паўсотні? Ды скарэй думай, а то і развідніваецца пачне. А не дасі, дык павяду ды назад пушчу да гаспадара. Не хачу за няшчасныя трыццаць рублёў паскудзіцца ды яшчэ і чалавека калечыць.

Сын тым часам кругом ужо абмацаў карову, торкае бацьку: бяры, тут можна добра зарабіць.

— Але які ты, Янка, не памяркоўны чалавек! Ды што ўжо з табою рабіць? Можа, хоць пачакаеш рублёў з дваццаць?

— Не, [illegible] ўжо раз пачакаў — будзе.

— Ну, то зайдзі ў хату.

Палажыўшы ў кішэнь пяць чырвонцаў, Янка накіраваўся па дарозе да хаты і хутка знік у цемнаце, а Янкель з сынам пачалі ўвіхацца каля каровы. Трэ было ўправіцца так, каб раніцаю мяса было ўжо ў краме, а скура ў вырабе. Карова была цельная і, відаць, малочная,— на мяса шкода было і рэзаць, але нічога не зробіш: не на рынку куплена.

Да сонца яшчэ ўхадзіліся каваль з сынам. Сын мяса ў воз пакуе, а скура ў мяшку ляжыць. Трэба татарыну аднесці, тут недалёка. Ды толькі раней трэба карове сена даць.

Адчыніў Янкель хлеў — не тарчыць у варотах рагатая пыса. Рана яшчэ, спіць недзе ў кутку. Увайшоў у хлеў, глянуў ува ўсе куткі — няма.

— Шмуйл, дзе наша карова?

— У хляве.

— Гэта я ў хляве, а каровы няма.

Прыйшоў і сын, агледзеў куткі, і паглядзелі, збянтэжаныя, адзін на другога.

— А не сваю мы карову зарэзалі?

— Мішугіне! Як жа яна з чорнай пярэстаю зрабілася?

А сын сваё.

Пайшлі глядзець шкуру. Чорная з вялікімі белымі лапінамі, ды толькі лапіны гэтыя за рукі бяруцца.

— Мел!!! Уй, а халеры, ліха матары яго! Не здох ён з сваімі авечкамі.

Устала старая Рыва. Узяла яна даёнку і накіравалася ў хлеў.

— Каго ты пойдзеш даіць?

Паглядзела Рыва здзіўлена — ці не звар'яцеў на старасць яе Янкель?

— Пастаў даёнку! Карова зламала нагу, і мы яе дарэзалі.

Доўга Рыва не забывалася пра сваю карову і, выціраючы рукавом чырвоныя вочы, расказвала ўсім сваім знаёмым, што іх карова ўшчаміла ў загараду нагу і зламала і што яе прыйшлося дарэзаць.

Гэта было летась. Сёлета Янкель купіў сабе другую карову, таксама чорную, а Янка сядзіць арыштаваны. Ён абакраў на Уздзе каапературную краму, ды не паспеў схаваць тавар, міліцыя знайшла. Не іначай, Янкель падаткнуў.

Усё гэта было праўда. Мой швагер знае нават і Янкеля таго, і Янку. Дык вось, каб да гэтай праўды ды яшчэ прылгаў з гэтулькі, дык бы яно мо нішто і апавяданне выйшла. Ці варта толькі галаву ламаць? Я раіўся ўжо з адным разумным чалавекам, дык ён кажа, што тут перш за ўсё трэба б было ідэалогіі падпусціць. А як гэта тут зрабіць, дык я ўжо і не ведаю. Зрабіць, каб карова не чорная была, а чырвоная? Дык папацёмку ўсё роўна не будзе відаць. Янку зрабіць кулаком? А як ты яго зробіш, калі ў яго ўсяго адзін конь з кароваю ды жонка з траімі дзецьмі?

А можа, Янкеля пасадзіць на зямлю? Не захоча. Ён яшчэ трохі зарабляе ў кузні, а сын яго добра гандлюе мясам. Вось хіба няхай трохі мацней разаўецца сельскагаспадарчая каапераџыя. Як адаб'е ў Шмуйлы ахвоту гандляваць, то тагды — нідзе дзенуцца — самі сядуць.

Не, не буду я пісаць гэтага апавядання. Няхай ужо лепей есць мяне заўтра рэдактар. Няхай, паглядзім, як ён гэта выдыхне.

*1928*

## НА АЛКАГОЛЬНЫМ ФРОНЦЕ

Вось вы кажаце — алкаголь, п'янства і ўсё такое... Тут і гаварыць доўга няма чаго. Вядома, што гэта рэч шкодная. А калі б мне хто ў гэтым не паверыў, дык няхай запытаецца ў такога свядомага савецкага грамадзяніна, як Сымон Лында, які сам, можна сказаць, зубы з'еў на гэтым, а нядаўна чуць інвалідам не стаў на алкагольным фронце.

Прыехаў я надоечы з вёскі. (У адпуску быў.) Прыехаў, іду па вуліцы (па Савецкай, здаецца). Бачу, Лында чыкіляе з палачкаю. Усё больш на адну, на правую, нагу намагае, а левую за сабою валачэ па тратуары.

— Здароў, кажу, Лында! Што ты, кажу, лынды б'еш у той час, як людзі працуюць?

— Нічога, кажа, не зробіш, прыходзіцца біць. Нага баліць, дык і на службу не хаджу.

— А што, пытаюся, скула села ў непатрэбным месцы?

— Ды не, кажа, на алкагольным фронце пастрадаў.

— Напэўна, кажу, які-небудзь нявытрыманы хуліган, напіўшыся, дручком па галёнках залавіў?

— Каб жа, кажа, хуліган, дык бы не такая крыўда была, п то найлепшы прыяцель — Мішка Трапач — нагу выкруціў. Але і яго тут вельмі нельга вінаваціць — выпіўшы быў здорава. А пачалося гэта ўсё вось з чаго. Да гэтага часу ў газету м бадай што й не пісаў. Толькі як часамі хто рукі на сябе наложыць, ці аўтобус неасцярожна на цётку наедзе, ці яшчэ што падобнае, дык я тагды свежанькае ў рэдакцыю, і праўда — друкавалі. Ганарару, то можна сказаць, што й не плацілі і прозвішча пад нізом не прапісвалі, а друкаваць друкавалі. Артыкулаў жа ніякіх дагэтуль не пісаў. Спецыяльнасцей, як сам ведаеш, я ніякіх не прайшоў. Усякія лічбы там, планы ды перспектывы — гэта для мяне кітайская грамата, а напісаць, што «на ўсе сто працэнтаў» трэба падцягнуцца, ды індустрыялізацыя, што ваабшчэ, наогул і ўсё такое, дык гэта й без мяне любы журналіст напіша. А тут, бачу, у газетах пачынаюць асцярожна супроць алкагалізму і ўсякіх там напіткаў выказвацца. Вось, думаю, тут дык і я магу. Раней дык думаў, што пра гэта й пісаць не можна, каб часам броварнай прамысловасці не пашкодзіла. А калі так, дык гэта я магу. Сеў дый напісаў. Напісаў, панёс у рэдакцыю. Проста самому рэдактару ў рукі. Узяў рэдактар, чытае, а я гляджу і не змігну, і дыхнуць баюся. Адно ж бачу — што далей, то твар у майго рэдактара ўсё святлее, святлее. «Унаравіў, думаю. Быць не можа, каб не пайшло». І праўда,— прачытаў рэдактар артыкул, паглядзеў на мяне прыветна дый кажа: «Маладзец ты, кажа, Лында. З цябе, як відаць, людзі будуць. Толькі, кажа, памылак у цябе — страх як многа. Калі ты яшчэ правапіс трохі падвывучыш, дык вельмі проста, што з цябе чалавек можа выйсці». А артыкул, і праўда, вельмі лоўкі выйшаў. З слязою артыкул. Я чуць не штодзень яго цяпер перачытваю. Як прачытаю, колькі шкоды бывае чалавеку ад

гарэлкі ды колькі пакуты ён праз яе пераносіць, дык аж сцішна зробіцца, аж самога сябе шкода стане. «Як жа гэта, думаю, быў я дагэтуль такою цёмнаю масаю, што такой вялікай шкоды не разумеў?» І надрукавалі мой гэты артыкул. На трэцяй старонцы надрукавалі. І прозвішча спаўна далі: «Сымон, значыць, Лында». Я, прызнацца, вельмі рад быў. Зямлі не чуў пад сабою. У той жа дзень папёр у рэдакцыю па ганарар. «Так і так,— кажу рэдактару,— хацеў бы я трохі падзаняцца сам з сабою. А тут грошы выйшлі і правапісу няма за што купіць. Мажа б, вы мне ганарарчык без чаргі выпісалі, таварыш рэдактар?» — «Чаму ж не, кажа. На правапіс я, кажа, заўсёды гатоў. Каб на што другое, а на правапіс, кажа, і без чаргі можна...» Сціснуў гэта я чатыры рублі ў кішэню. Іду, паціху факстрот насвістваю, а сам думаю, куды мне гэты надкаштарысны прыбытак павярнуць. «Калі, думаю, хлопцу сандалікі купіць, дык летам ён і без сандаляў можа добра бегаць, а зімою і зусім ужо ніякай карысці няма з сандаляў. Ні да чаго хлопцу сандалі. Калі, скажам, ванначку купіць, малую купаць, дык гэта і зусім ужо ні к чаму: ванначку жонка заўсёды ў суседзяў пазычае». А тут якраз аднекуль чорт Мішку Трапача нагнаў. Здалёк яшчэ ўбачыў мяне. «Чытаў, крычыць, чытаў! Што ж ты дагэтуль свой талент хаваў? Ну, і стыль жа ў цябе! Чартоўскі стыль! Проста Карамзінаўскі. Нехаця слёзы плывуць».— «Кінь, кажу, трапацца, Мішка,— і зусім тут ніякага таленту няма. Проста ўзяў вось дый напісаў,— няхай, думаю, добрыя людзі чытаюць». А самому Мішкавы словы як маслам па душы. Аж шчокі загарэліся. Бо ведаю, што не брэша Мішка: ёсць ува мне гэты самы талент. Вось, здэцца, і чую, як ён там у мяне ўсярэдзіне варочаецца. «Дык цяпер спырснуць трэба»,— кажа Мішка. «Што спырснуць?» — пытаюся. Прызнацца, і не дагадаўся зразу. «Ды талент жа твой гэты самы. Абавязкова, кажа, трэба спырснуць, а іначай засохне, ні на сабаку не варт будзе». Я тут стаў адмаўляцца, што й нялоўка нек, і так нек яно выходзіць, як быццам сам сябе за вушы выдраў. А сам і думаю: «Чорт яго ведае, можа, Мішка праўду кажа. Усё ж такі, як-ніяк, талент — не пусцяковіна якая-небудзь. Не спырснуўшы, яно сапраўды нек чорт ведае як выйдзе. А то, думаю, яшчэ начытаюцца майго артыкула дый сапраўды прыхлопнуць усякія алкаголі. Вось тагды і пырскай, чым хочаш, калі што якое». А Мішку як чорт падтыкае: «Дадому, кажа, мы не пойдзем. Нашто. Далёка гэта, ды зноў жа ўсякія сямейныя трагізмы могуць

здарыцца. А вось тут, кажа, за вуглом ёсць у мяне адзін знаёмы, Косця Жавалкін. Слаўны хлопец, душа-чалавек. Калі спырснуць што якое, ніколі не адмовіцца. І жонка яго, кажа, слаўная — падтрымае кампанню. І агурочкі ў яе маласоленыя, храбусткія, смачныя». Нічога не зробіш — угаварыў мяне Мішка Трапач. Захапілі мы з сабою сёе-тое патрэбнае, на колькі майго ганарару хапіла, і прыперліся да Жавалкіна. Ён рад, вядома. Яна таксама рада. Спырснулі мы па адной. Нічога, добра. Прапусцілі па другой. Яшчэ лепш. Нейкая такая цёплая хваля пракацілася па вантробах. А ад яе ўсялякія шляхетныя пачуцці пачалі шаваліцца. Здэцца, так абняў бы ўвесь свет дый прытуліў да грудзей, так мне яго шкода стала. «І да чаго, думаю, людзі цёмныя і несвядомыя: п'юць, захлынаюцца ў атруце і самі не бачаць, дзе іх пагібель. А вось я, Сымон Лында, прыйшоў, каб выратаваць гэтых няшчасных. І выратую. Быць не можа, каб не выратаваў. Вось яшчэ адзін артыкул напішу і выратую». Хацеў там жа й напісаць, ды толькі чарніла ў Жавалкіна не знайшлося. А як выпілі яшчэ чарак па дзве, дык Мішка ў азарт увайшоў, кулакамі па талерках пачаў стукаць ды ўсякія страшныя лозунгі крычаць: «Ты гэта правільна, Лында, наконт гарэлкі пісануў. Дальбог, крычыць, правільна. На ўсе паўтараста працантаў! Далучаюся! Далоў яе, праклятую! Знішчым да каплі. Каб і духу яе не было, зненавіднай!» Ну, я тут таксама расчуліўся. Да гаспадыні падсеў, душу сваю пачаў выварочваць ды за пазуху лапаць. А яна нішто сабе кабеціна. Уважыцельная кабеціна. І чалавек яе, сам Косця Жавалкін, таксама нішто сабе чалавек. Адным словам — чалавек. Другі на яго месцы пачаў бы крыўды свае выказваць ды да морды дабірацца або бутэлькі і крэслы аб галаву ламаць, а гэты нічога... Больш я ўжо не памятаю, што было. Прачнуўся назаўтра рана. І то яшчэ б мо не прачнуўся, але сон пачаў сніцца. Здэцца, ляжу я на насыпе чыгункі і нага мая левая на рэйцы ляжыць. Хачу я нагу прыняць і не магу. Як дзеравянны ўвесь,— не паварушу ні рукою, ні нагою. А тут поезд падыходзіць, ляскаціць. Заплюшчыў я вочы са страху ды ляжу. А паравоз як загрукоча ды як хрусне маю нагу, дык я й прачнуўся з болю. Прачнуўся і рад, што на ложку ляжу. На вуліцы ламавікі бразгацяць, рэйкі на трамвай возяць. Побач са мною Мішка спіць, носам высвіствае. Нага мая правая ў боце, а левая толькі ў шкарпэтцы і сапраўды-такі баліць у суставе. Папрабаваў паварушыць — яшчэ горш. Што за трасца? Стаў штурхаць Мішку ў бок: «Уставай,

дадому пара». Прачнуўся той і зразу за сваю нагу хапаецца. «Вось, ліха на яго, кажа, бот цесны — намуліў, аж крануць нельга... Але што за чорт? — мне ж здаецца, я ўставаў скідаць бот. Такі я добра памятаю: нага забалела, дык я прачнуўся, сцягнуў бот дый зноў лёг».— «А я, кажу, зусім, здаецца, не прачынаўся, ды мая нага босая». «Ну, брат, гэта загадка некая»,— дзівіцца Мішка. Ды тут якраз гаспадыня прыйшла на дапамогу. «І зусім тут, кажа, Міхал Антонавіч, ніякай загадкі няма, а вы вельмі проста, памыліўшыся, ды заміж свайго іхні бот сцягнулі. Я нават і бачыла, хацела яшчэ папытацца, нашто гэта вы іхні бот з нагі цягнеце, а пасля думаю, усё роўна спрасонку нічога не дапытаешся». Тут мне ўсё стала ясна. «Бот, кажу, ліха яго бяры, але нашто ты мне, сукін кот, нагу выкруціў? Ідзі ж, кажу, чорт, цяпер па рамізніка, бо я хадзіць не магу». Пакульгаў ён, прывёў рамізніка, і мы паехалі. Калі ■ паехаў да доктара, дык той сказаў, што з сустава зрушана, а цяпер вось і цацкайся, пакуль сціхне.

Лында заклапочана паглядзеў на сваю нагу, а я паспачуваў яму ды пайшоў дадому. Шкода ўсё-такі. Такі, можна сказаць, свядомы грамадзянін на алкагольным фронце, і такое няшчасце здарылася.

*1930*

## КАБ КНІГАМ ДЫ НОГІ!

— Алё! Пісьменнікі! Дзе вы падзеліся? Ці жывы хоць?

— Жывы, здаровы, дарагі чытач, таго і вам жадаем.

— Дык што ж вы сабе думаеце? Мусіць, хочаце, каб я некультурным да бяскласавага грамадства дажыў. Чаму вы не пішаце?

— Пішам патроху. Вось і цяпер: ноч ужо, стрэлка да чацвёртай гадзіны падпаўзае, дзеткі спяць, жонка з некім праз сон сварыцца — мусіць, у размеркавальніку,— а я ўсё пішу; спяшаюся ў чарговы нумар часопіса матэрыял здаць.

— Дык вы такі пішаце? А я — чытаць хачу: па свежых літаратурных навінках, па часопісе занудзіўся. Хто ж паміж намі стаіць?

— Шмат хто стаіць: рэдакцыя — раз, выдавецтва — два, друкарня — тры, база выдавецтва — чатыры, кнігаган-

даль — пяць, Саюздрук — шэсць, пошта — сем, лістаносец — восем.

— Нішто сабе ланцужок! Але ж я думаю, што гэта ўсё створана, каб дапамагчы кнізе як найхутчэй ад пісьменніка да чытача дайсці.

— Я таксама думаў некалі.

— А часопісы ўсё ж такі выходзяць?

— Бывае, што і выходзяць.

— Чаму ж я пра гэта нічога не ведаю?

— Я сам бы нічога не ведаў, дык добра, што рэдактары знаёмыя: заўсёды скажуць, калі выйдзе нумар.

— А чаму не даць рэкламы якой-небудзь?

— Нашы кніжнікі лічаць гэта буржуазнымі забабонамі.

— Ну няхай не рэкламу, проста абвестку пра тое, што часопіс выйшаў, ды пра падпісную цану на яго. А то пайшоў я на пошту яшчэ перад Новым годам. «Падпішыце, кажу, на «Полымя рэвалюцыі».— «Няма, кажуць, такога часопіса і на свеце».— «Як няма? — дзіўлюся я.— Здаецца ж, у гэтым годзе ён выходзіў».— «Нічога, кажуць, нам пра гэта невядома».— «Дык падпішыце на «Заклік».— «І пра гэта, кажуць, нічога не ведаем». Пайшоў я другі раз, пасля Новага года ўжо. «Ёсць, кажуць, такія часопісы, але мы падпісной цаны не ведаем».

— Дык вы што?

— Дык я плюнуў ды пайшоў.

— І памагло?

— Дзе бачылі! Зноў па кнізе занудзіўся. Ніяк адвыкнуць не магу. Хачу культурным чалавекам быць.

— Дык вы зноў што?

— Дык я гвалт пачаў крычаць. Можа, думаю, пачуе хто ды хоць падпісную цану скажа.

— Павінен вам пад сакрэтам сказаць, дарагі чытач, што пра падпісную цану і ў Мінску нічога не ведаюць.

— Хто не ведае?

— Ніхто не ведае.

— А хто ў гэтым вінават?

— Рэдакцыі кажуць, што Саюздрук вінават, а Саюздрук на выдавецкі Кнігагандаль пальцам паказвае.

— А Кнігагандаль што?

— «А он украдкою кивает на Петра», г. зн. на Камітэт па справах друку.

— Наківаць бы ім усім як мае быць.

— Я так думаю, што і наківаюць нават.

— Дык скажыце ўсё ж такі, якія часопісы свежыя выйшлі?

— Вось «Полымя рэвалюцыі» № 4 выйшаў у студзені, тыдні два таму назад.

— Ого! Тэмпы. Яшчэ толькі студзень месяц, а ўжо чацвёрты нумар.

— Выбачайце, вы трохі не зразумелі: гэта ж яшчэ за мінулы год.

— ?!

— Пачаў часопіс выходзіць з паловы мінулага года і чацвёрты нумар здадзены быў у пачатку верасня, але пакуль надрукаваўся, пакуль сёе-тое, дык і другая пяцігодка надышла. А пяты нумар, які здадзены ў кастрычніку, павінен выйсці ў лютым і ўжо будзе называцца не № 5 за 1932 год, а № 1 за 1933 год.

— Па чатыры месяцы нумар друкуецца?

— З хвосцікам.

— Як жа гэта растлумачыць?

— Наконт тлумачэння будзьце спакойны: гэты абавязак узяла на сябе друкарня, і каб яна так старанна друкавала, як тлумачыць, дык бы часопісы выходзілі куды больш акуратна. Яна даводзіць, што ёсць больш тэрміновая работа, а часопісы могуць і пачакаць, над імі не капае (на друкарні, бачыце, дах цэлы).

— А выдавецтва што?

— Маўчыць.

— Дык які ж гэта, шануючы вас, перыядычны друк пры нашых тэмпах? Гэта ж эпахальны, можна сказаць, раз у эпоху нумар выходзіць.

— А яно ўсё-такі маўчыць.

— Ну добра... Як-ніяк, а ўсё ж такі выходзяць, нарэшце, часопісы з друкарні, а тады куды?

— Тады на базу Дзяржаўнага выдавецтва.

— А далей што?

— А далей вядома што: ляжаць сабе спакойна.

— Дзіўна! Чаму ж яны да чытача не даходзяць?

— Бо ног не маюць.

— А што ж вы думаеце! Каб кнігам ды ногі, шчаслівыя б мы з вамі людзі былі, таварыш пісьменнік. Няхай бы гэта хто прыдумаў такія ногі. Вы б сабе напісалі кніжку, у друкарні б яе надрукавалі тысяч дзесяць, а тады загадчык Дзяржаўнага выдавецтва ўзяў бы добры дубец, прыйшоў бы ў друкарню ды: «Кыш! Пайшлі сваіх чытачоў шукаць!» А мы тут бы іх нарасхват, як дарагіх гасцей.

— Дык тут жа ўсе кніжнікі толькі і мараць пра гэта. Прыйдзе кніжнік на базу, гляне на сцірты часопісаў і цяжка-цяжка ўздыхне: «Эх, каб кнігам ды ногі!»

— Але ж у выдавецтва, здаецца, свой орган распаўсюджвання быў?

— Быў такі орган, таварыш чытач. І цяпер ён яшчэ матляецца, сектарам Кнігагандлю завецца. Але ранейшыя функцыі ў яго адпалі, і ён цяпер у сэнсе распаўсюджвання часопісаў нешта накшталт рудыменту, ну вось, не раўнуючы, як адростак сляпой кішкі ў чалавека: карысці ад яго ніякай, а запаленне можа быць.

— Дык ведаеце што, таварыш пісьменнік? Перадумаў я: не трэба.

— Чаго? У Мінск прыязджаць?

— Ды не, ног не трэба выдумляць для кніг.

— Злітуйцеся! Вы ж адбіраеце апошнюю надзею ў нашых кніжнікаў. Яны толькі так і збіраліся на ногі стаць.

— Бачыце, як пераканаўся я з нашай размовы, дык тут справа не ў нагах: галава патрэбна.

— Кнізе? Галава?

— Не кнізе, а кніжнікам.

— Скажыце, калі ласка! А тут жа ніяк да гэтага дадумацца не маглі. Адзін кніжнік, калі глянуў раз, як у яго справа «стаіць» з друкаваннем і распаўсюджваннем часопісаў, дык аж за галаву хацеў ухапіцца, а ўхапіцца-то ў яго няма за што. Няма, дык няма — клопат вялікі! Так яно і засталося. Ніхто з кніжнікаў і не падумаў, што праз такую пусцяковіну справа можа стаць. Адно ж, дзякую вам... Але кажыце ўжо да канца, не саромейцеся: каму ж канкрэтна гэту галаву трэба? Выдавецтву? Кнігарні? Сектару кнігагандлю? Саюздруку?

— Лепш, каб у кожнага яна была. Гэта такая рэч, што нікому не пашкодзіць. Няхай будзе пра запас: не-не ды спатрэбіцца часамі. Асабліва таму, хто да кніжкі дачыненне мае.

— Ну, дык шчырае ж вам дзякуй, таварыш чытач. Прэмію б вам за вынаходства. А мы ўжо наконт галавы для кніжнікаў абавязкова паклапоцімся, паколькі гэта дэталь у іх такая дэфіцытная. А ў каго яна і ёсць, ды не ў той бок закручана, дык прыйдзецца стукнуць так, каб яна на месца стала: якраз каб тварам да чытача. Тады вы часопіс абавязкова атрымаеце: добраякасны і ў тэрмін.

*1933*

## ПАЧАТАК ШЧАСЦЯ

Паабапал дарогі старыя прысады з голым апруцянелым галлём стаяць маўклівыя і задуманыя, нібы ўспамінаюць сваю нядаўнюю летнюю прыгажосць. На шырокай прасторы па ўзгорках і нізінах параскіданы купкі шэрых будынкаў — былыя хутары. Тут людзі шукалі сабе лепшай долі, слухаючы воўчае выццё, пераймалі воўчыя законы.

За дубовымі брамамі, пад хрыплы брэх ваўкадаваў, павукі-крывасмокі ткалі тут сваю павуціну, каб мацней заблытаць вясковую беднату. І бедната гнула свой горб на кулацкім палетку, поўнілася нянавісцю і адначасна з зайздрасцю пазірала і на шырокі палетак і на дубовую браму. Гэта і быў для яе недасягальны ідэал, іншага шляху бедната не ведала.

Але прыйшла пралетарская рэвалюцыя, і не ўстаялі супроць яе дубовыя брамы, парвала яна павуціну кабалы, і крывасмокі апынуліся там, дзе ім і быць належыць. А працоўнае сялянства — беднякі і серадцякі — пераканалася, што лепшая доля зусім не на тым шляху, дзе яны яе шукалі. Цяпер яны самі ствараюць сабе лепшую долю дружнай калектыўнай працай, і толькі гэтыя параскіданыя купкі будынкаў напамінаюць аб іх ранейшым шляху.

Але дзе ж тыя Бабінічы. Я ўглядаюся ўдалечыню, ці не ўбачу дзе больш кампактную масу будынкаў? Дарэмна — гэта і ёсць самыя Бабінічы, і машына хутка спыняецца каля будынка сельсавета.

У будынку ціха і амаль пуста. У адным з пакояў знаходзім сакратара і парторга. Пытаемся пра Марыну Дзяжурную.

— Ды яна тут,— адказвае сакратар і адчыняе дзверы ў суседні пакой.

На канапе сядзела звычайная вясковая жанчына. Іменна звычайнай яна і павінна быць, бо геройства ў краіне сацыялізма становіцца масавай з'явай, бо героем у нас можа быць кожны, для каго праца стала справай гонару і славы, бо людзі ўсвядомілі, што яны працуюць цяпер не на эксплуататараў, а на сябе, на сваё савецкае грамадства.

...Невысокая, зграбная постаць, крыху шыракаваты ружовы твар, яшчэ больш ружовы ад таго, што Марына, відаць, саромеецца. Яна яшчэ не прывыкла да таго, каб ёй аддавалі столькі ўвагі.

Мне хочацца пагутарыць з Марынай у яе штодзённай хатняй абстаноўцы, і я прапаную паехаць да яе ў хату.

Марына згаджаецца, але яна крышку збянтэжана: хаты свае ў яе яшчэ няма, яна жыве ў падсуседзях у аднаго дзеда — дзядзькі яе мужа. У калгас Марына ўступіла толькі чатыры месяцы таму назад, і хата яе засталася ў лесе на былым хутары. Праўленне абяцала перавезці, ды яшчэ ўсё не выбрала часу.

Зараз старшыні калгаса, відавочна, сорамна за тыя кватэрныя ўмовы, у якіх жыве Марына. Ён заяўляе, што заўтра ж выедуць фурманкі перавозіць Марыніну хату.

Марына з мужам і чацвярыма дзецьмі займае невялікую баковачку. Старэйшай дзяўчынцы, Валі, восем гадоў, самай меншай, Веры, пяць месяцаў. Мы пазнаёміліся. Марына пачала расказваць пра сваё жыццё, а Вера, карыстаючыся зручным выпадкам, утулілася матцы ў пазуху і пачала падмацоўвацца. Час ад часу яна адрывалася ад свайго полудня і надзяляла нас шчасліваю мурзатаю ўсмешкаю. Трое астатніх з цікавасцю разглядалі незнаёмых ім людзей.

Бацька Марыны памёр яшчэ не старым чалавекам, пакінуўшы шэсць дачок і двух сыноў. Матцы даводзілася крута, і кожная з дачок памагала ёй як магла. Марыне таксама рана прыйшлося сесці за кудзелю. Зімою прала, а летам пасвіла,— вучыцца не было калі. Так і засталася малаграматнаю аж да гэтага часу. Мне крыху сумна, што Марына сама не здолее прачытаць нават гэтых радкоў, якія я пра яе пішу, але работнікі сельсавета супакойваюць мяне. Яны абяцаюць навучыць Марыну добра чытаць і пісаць. Марына і сама рада вучыцца, яе толькі крышку палохаюць цяжкасці гэтай справы. Я запэўняю, што гэта не так ужо і цяжка, ва ўсякім разе не цяжэй, як трапаць у дзень па 66 кілаграмаў ільну.

Падросткам пайшла Марына за плугам і з касою, хадзіла на падзёншчыну да кулакоў на палявыя работы і да купцоў трапаць лён, зарабляла па 20—25 капеек у дзень. Замуж выйшла на 22 годзе за Аляксандра Дзяжурнага, які толькі што дэмабілізаваўся з Чырвонай Арміі. Сям'я ў свёкра была — 16 душ, Марына прыйшла семнаццатай. Не соладка жылося ў такой сям'і маладой нявестцы. Хутка Аляксандр аддзяліўся ад бацькі на чатыры дзесяціны балоцістай пасекі. І маладыя гаспадары цвёрда рашылі стварыць сабе шчасце на гэтых чатырох дзесяцінах. Напорна ўзяліся за карчы ды за балота, пачалі патроху забудоўвацца. Каня ў іх не было, і бярвенне на хату Марына з мужам насіла на плячах.

Працавалі колькі гадоў, аглянуліся — працы шмат уложана, а шчасця таго яшчэ і не відаць нідзе. Тым часам і калгасы пачалі расці, а Марына ўсё яшчэ ўпарта дабівалася свайго шчасця на чатырох дзесяцінах. І толькі ў гэтым годзе пераканалася яна канчаткова, што не тут яе шчасце, што яно там, дзе людзі працуюць дружным калектывам, дзе, памагаючы ім, стракочуць на полі трактары і гудуць складаныя малатарні, дзе нядаўнія беднякі сталі заможнымі калгаснікамі.

Кінула тут Марына свой хутар і з усёй сваёй сям'ёй накіравалася ў калгас... На руках у яе падаваў свой голас за новае жыццё самы малады член калгаса — Вера, якая пабыла аднаасобніцай усяго толькі адзін месяц.

Прыйшоўшы ў калгас, Марына адразу не магла выходзіць на работу: бульбяное поле знаходзілася кіламетраў за пяць ад яе хаты, дзіцяці ж нельга было ні з сабою ўзяць, ні дома пакінуць. Трапаць лён — іншая справа: тут не так далёка, можна было адлучыцца дзіця пакарміць.

Да свайго рэкорда Марына часта перавыконвала норму, даючы ў дзень да 12 кілаграмаў ільну, але аб рэкордах не думала. Стаханаў, думала,— гэта іншая справа: ён жа ў шахце працуе, вугаль здабывае, а яна ж толькі лён трэпле. Трэпле яна яго ледзь не з маленства, як і яе сяброўкі, але не памятае ні аднаго выпадку, каб праз лён хто-небудзь героем стаў. Але тут хутка і пра Пярцову загаварылі, пра яе выдатны рэкорд — 56,3 кілаграма. А тым часам у сельсавеце лепшыя трапальшчыцы сабраліся на шклянку чаю. Марынінай брыгадзе ніхто нават і не намякнуў пра гэта. Тут вось і ўзяло за жывое Марыну і яе таварышак па брыгадзе. Моцна пакрыўдзіліся жанчыны: гэта яны, значыць, горшыя?! А потым рашылі,— не, давядзём, што мы не горшыя за іх. І давялі. Патрабавалі ад праўлення і ад брыгадзіра лепшай арганізацыі работы: каб траста была сухая, каб яе было ў дастатковай колькасці, каб не было перабояў, як гэта раней часта здаралася, каб паставілі чалавека, які б абцягваў жмені мятай трасты.

Марына ўважліва слухала, што ёй расказвалі пра метад Пярцовай, і для яе стала справай гонару перагнаць Пярцову. Нават Марыніна таварышка, шасцідзесяцігадовая Сцепаніда Шугаева, дае па 25 кілаграмаў, а Марына ж у самай сіле, ёй і сорам цягнуцца ў хвасце за Сцепанідай, і Марына, як па ступеньках, што ні дзень, то ўсё больш набліжаецца да рэкорда Пярцовай: 30 кілаграмаў, 43,2 кілаграма, 50 кі-

лаграмаў і, нарэшце, 1 снежня прыносіць ёй перамогу, яна абганяе Пярцову і ставіць усебеларускі рэкорд — 66,6 кілаграма. Ад Марыны стараюцца не адставаць яе таварышкі па брыгадзе: Шугаева Сцепаніда, Бальшакова Проска, Шугаева Малання. Яны хоць і не далі такой высокай выпрацоўкі, як Марына, але сістэматычна перавыконвалі свае нормы ў некалькі разоў.

— Колькі ж вы працадзён зарабілі на льне? — пытаюся я ў Марыны.

Старшыні калгаса (прозвішча яго Кудзевіч) прыйшлося тут густа пачырванець: Марына не ведае, колькі ў яе працадзён, яна кніжкі свае нават і ў вочы не бачыла. Старшыня супакойвае, што кніжка яе знаходзіцца ў праўленні і працадні запісваюцца. Ці ведае ён сам, колькі Марыне запісана працадзён? Я ў гэтым не ўпэўнен.

Марына Міхайлаўна Дзяжурная — маладая калгасніца; гэтыя яе першыя крокі ў калгасе — слаўны пачатак. Сельсавет прэміраваў яе за выдатную работу ста рублямі, райсаюз абяцаў прэміраваць нікелевым ложкам і матрацам. Гэта для Марыны, якая толькі пачынае абжывацца ў калгасе, не малое падтрыманне. Але галоўнае — гэта ўсведамленне таго, што яна — адна з лепшых жанчын краіны, якія ідуць у першых радах будаўнікоў сацыялізма.

Гэта і ёсць пачатак шчасця, якое не далося Марыне на хутары, на чатырох дзесяцінах.

*1935*

## З НОВЫМ ШЧАСЦЕМ!

З Новым годам! З новай ёлкай, дарагія грамадзяне! Якраз цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, вы, напэўна, думаеце пра гэту самую ёлку. Вас акружае шумны натоўп дзяцей. Яны тузаюць вас з усіх бакоў, не адстаюць ад вас ні на хвіліну, яны патрабуюць ёлкі.

Для іх гэта нешта невядомае і таямнічае, а разам з тым радасна-прывабнае. Вочы іх гараць нецярплівасцю, яны загадзя хочуць ведаць усё і засыпаюць вас запытаннямі. Яны глядзяць на вас, як на чараўніка — у вас жа сакрэт, вы

ж ведаеце, як зрабіць гэту цудоўную ёлку. Але я ўглядаюся ў вашы перадсвяточныя твары і бачу, што многія з вас нібы разгублены, вам як бы няёмка. І мы разумеем гэту вашу няёмкасць, бо мы ж ведаем, што многія з вас родам з былой

Пустопорожней волости,
Из смежных деревень —
Заплатова, Дырявина,
Разутова, Знобишина,
Горелова, Неелова,
Неурожайка тож...

і самі ніколі ніякай ёлкі ў вочы не бачылі. Як жа вам расказаць пра яе дзецям?

Вы чулі, што ёлкай сустракалі свята «божага нараджэння». І вы ўспамінаеце гады вашага маленства: як жа вы самі сустракалі гэта свята? Ці няма чаго пераняць адтуль для навагодняй ёлкі вашых дзяцей? І вось перад вамі паўстае знаёмая карціна з вашага мінулага.

Густы змрок запоўніў куткі хаціны. Вы прыходзіце ў хату і моўчкі залазіце на печ. Снег на вашых лапцях раставаў за дзень дваццаць разоў і дваццаць разоў набіраўся зноў. Мокрыя аборы паўядаліся ў галёнкі. Вы разуваецеся і кідаеце лапці ў кут на смаліну, дзе, пашавельваючы вусамі, таямніча шапочуць прусакі. Прыемна грэць на гарачай чарэні адубелыя ногі і марыць аб той асалодзе, якая вас сёння чакае. Вы ведаеце, што ваш тата купіў сёння селядца, а мама ўзяла ды кінула цэлага ў гаршчок. Вы насілу стрымаліся, каб не крыкнуць ад здзіўлення, але вы не крыкнулі, баючыся, што мама адумаецца і падзеліць гэтага селядца на пяць дзён. Няхай варыцца цэлы. Ото ж і квас будзе! А яшчэ ж цыбуля і грыбы сушаныя... Ваша мама запаліла газоўку і нешта ўходжваецца каля печы. Вы выцягваеце з-за коміна худую шыю, каб глянуць, чаго яна там марудзіць.

«Задаецца, думаеце вы сабе. Самой жа таксама хочацца, а прыкідваецца, што ёй і не ў галаве».

А яна не спяшаецца, асцерагаецца, каб у такі святы вечар як-небудзь не выказаць прагнасці і бога не ўгнявіць.

Вы бачыце, як яна налівае ў міску вады з вядра, дастае з паліцы знаёмую вам пушачку, бярэ на кончык нажа дробку сахарыну і кідае ў ваду. «Дарма, пацярплю, суцяшаеце вы сябе, але ж затое яшчэ адна смачная страва будзе — куцця з салодкай вадой».

Пра ёлку вы таксама марылі б напэўна, каб чулі пра яе што-небудзь. Ваш тата, можа, і чуў, што паны нейкую ёлку

спраўляюць і гасцінцамі яе ўвешваюць. Але ж тата не пан. Ды і як яе справіш? Самую ёлку то яшчэ тата мог бы ўкрасці як-небудзь у панскім лесе, але чаго ж на яе начапляць? Хіба бульбы, ды і то не густа, бо вы самі чулі, як тата казаў: «Асцярожна ты, маці, каля бульбы хадзі, бо і на насенне не застанецца...»

Не, нічога вы не можаце выкарыстаць з колішняй ёлкі для ёлкі вашых дзяцей. Але ж яны ўпэўнены, што вы наладзіце ім гэту цудоўную ёлку. І я ўпэўнен, што вы іх не расчаруеце. Вы, напэўна, звернецеся да вашага знаёмага настаўніка-літаратураведа і запытаецеся, ці няма ў класікаў чаго-небудзь пра ёлку. І вы, па яго рэкамендацыі, можаце прачытаць хоць бы наступнае:

...«Дзеці ўсе былі надзвычайна мілыя і ніяк не хацелі быць падобнымі на вялікіх, нягледзячы на ўсе ўгаворванні гувернантак і мамулек. Яны разабралі ўсю ёлку ў адзін момант да апошняга цукерка і паспелі паламаць палову цацак раней, чым уведалі, каму якая прызначана».

...«Потым я не мог не падзівіцца з мудрасці гаспадароў пры раздачы гасцінцаў. Дзяўчынка, якой прыгатавана было ўжо трыста тысяч рублёў пасагу, атрымала найбагацейшую ляльку. Потым ішлі гасцінцы, паніжаючыся паводле паніжэння рангаў бацькоў усіх гэтых шчаслівых дзяцей. Нарэшце, апошняе дзіцянё, хлопчык гадоў дзесяць, худзенькі, маленькі, з вяснушкамі, рыжанькі, атрымаў толькі адну кніжку аповесцей, у якіх гаварылася пра велічнасць прыроды, пра слёзы замілавання і інш.,— без малюнкаў і нават без віньеткі. Ён быў сын гувернанткі гаспадаровых дзяцей, адной беднай удавы, хлопчык вельмі нясмелы, запужаны. Атрымаўшы сваю кніжку, ён доўгі час хадзіў каля іншых цацак; яму страшэнна хацелася пагуляць з другімі дзецьмі, але ён не адважыўся; відаць было, што ён ужо адчуваў і разумеў сваё становішча».

Для большага ўяўлення аб калішняй ёлцы вы прачытаеце, напэўна, яшчэ і наступны малюнак.

...«Хлопчык, яшчэ вельмі маленькі, гадоў шэсць ці нават менш, прачнуўся раніцой у сырым і халодным падвале. Апранены ён быў у нейкую світачку і дрыжаў. Дыханне яго вылятала белай парай, і ён, седзячы ў кутку на скрыні, ад нуды наўмысна пускаў гэту пару з рота і забаўляўся, гледзячы, як яна вылятае. Але яму вельмі хацелася есці... Напіцца-то ён недзе дастаў у сенцах, а скрыначкі нідзе не знайшоў... «Вельмі ўжо тут холадна»,— падумаў ён, па-

стаяў крыху, потым хукнуў на свае пальчыкі, каб сагрэць іх, і раптам, абмацаўшы на нарах сваю шапачку, ціхенька, вобмацкам пайшоў з падвала».

...«Божачка, які горад! І які тут стук і гром, якое святло і людзі, коні і карэты і мароз, мароз!.. Божачка, так хочацца есці, хоць бы кусочак які-небудзь, і так пачалі раптам балець пальчыкі».

...«А гэта што? Ух, якое вялікае шкло, а за шклом пакой, а ў пакоі дрэва пад самую столь; гэта ёлка, а на ёлцы колькі агнёў, колькі залатых паперак і яблыкаў, навокал тут жа лялечкі, маленькія конікі, а па пакоі бегаюць дзеці, прыбраныя, чысценькія; смяюцца, і гуляюць, і ядуць, і п'юць нешта. Вось гэта дзяўчынка пачала з хлопчыкам танцаваць, якая харошанькая дзяўчынка!»

...«Вось зноў праз другое шкло бачыць ён пакой, зноў там дрэвы, але на сталах пірагі ўсялякія — міндальныя, чырвоныя, жоўтыя, і сядзяць там чатыры багатыя пані, а хто прыйдзе, яны таму даюць пірагі, а адчыняюцца дзверы штохвіліны, уваходзяць да іх з вуліцы шмат паноў. Падкраўся хлопчык, адчыніў раптам дзверы і ўвайшоў. Ух, як на яго закрычалі і замахалі. Адна пані падышла, хуценька сунула яму ў руку капеечку, а сама адчыніла яму дзверы на вуліцу. Як ён спужаўся! А капеечка тут жа выкацілася і зазвінела па ступеньках: не мог ён сагнуць сваіх чырвоных пальчыкаў і прытрымаць яе. Выбег хлопчык і пайшоў хутчэй, хутчэй, а куды, і сам не ведае».

Апавяданне да канца можаце не дачытваць, канец занадта сумны для нашага навагодняга настрою. Ды і без гэтага вы ўжо досыць ярка ўяўляеце, чым была калішняя ёлка. Тым больш што многія з вас і самі мелі «шчасце» бачыць яе з вуліцы праз вялікае шкло.

І цяпер вам няцяжка будзе наладзіць нашу навагоднюю ёлку. Яна будзе такая, ды не такая. Такая будзе яна таму, што будуць і яркія агні, і зялёнае дрэва, густа ўвешанае гасцінцамі, і вакол яго будуць весяліцца дзеці. Але яны будуць весяліцца без ніякіх рангаў, і ніводзін рыжанькі хлопчык з вяснушкамі ў нас не будзе пакрыўджаны, і ніводзін хлопчык не будзе глядзець з вуліцы праз шкло на гэту багатую ёлку, хукаючы на скарчанелыя пальчыкі. Каля нашай ёлкі хопіць месца ўсім дзецям нашай краіны ўсіх нацыянальнасцей.

Дык з новым шчасцем, любыя дзеці, якога ў вас ніхто ніколі не здолее адабраць!

*1935*

## ДЗЯНІС СЫРАМАХА

У той час, калі малы Дзяніс Сырамаха няньчыў сваіх яшчэ меншых братоў, выціраючы насы падоламі зрэбных сарочак і кормячы поснай заціркай самага меншага з іх (маці памерла, калі яму было паўгода), Дзянісаў бацька загадзя ламаў галаву над цяжкай геаметрычнай задачай: як гэта будзе падзяліць адну дзесяціну зямлі на чатырох сыноў, каб усім хапіла. Задача не рашалася. І ўдоўж нарэжаш — вузка выходзіць, і ўпоперак — коратка. Як ні круці, а больш як квадратны лапаць зямлі не прыходзіцца на кожнага сына. А сынам і малым ужо цесна на адной дзесяціне, і не так яшчэ цесна, як галадна. Прыйшлося ісці прасіць ласкі ў пана Нарэйкі ды ў папа Вячоркі. А яны людзі «жаласлівыя», пашкадавалі Дзянісавага бацьку:

— На табе, Рыгор, зямелькі. Працуй здароў. Мы шмат з цябе і не возьмем — два снапікі з трох.

Нічога не зробіш, пакуль не рашыў задачы, прыйшлося згадзіцца. Але ў пана і папа горлы шырокія,— і двума снапамі іх ніяк не заткнуць: пры дзяльбе яны яшчэ і з трэцяга, Рыгоравага, стараюцца ўварваць жменю-другую. А яшчэ ж цару трэба, богу таксама трэба. Гляне Рыгор — з трох нажатых ім снапоў засталася яму ўсяго толькі невялічкая жменька. Падрос крыху Дзяніс. Стаў браць яго бацька сабе на падмогу. Але і ўдвух ніяк не могуць заткнуць горла сваім «дабрадзеям».

А тым часам і гарматы загрукаталі, і паклікаў «цар-бацюшка» васемнаццацігадовага Дзяніса, і благаславіў яго поп Вячорка.

— Ідзі, Дзяніс, абараняй родную зямельку ад немца-басурмана.

Дзянісаў дзед, мікалаеўскі салдат, дваццаць год служыў «цару-бацюшку» за адну дзесяціну, а колькі прыйдзецца біцца за адну чвэрць дзесяціны, якая прыпадала на Дзянісаву долю, Дзяніс не ведаў — можа, год, а мо таксама дваццаць, а мо і зусім давядзецца палажыць сваю галаву.

Але прыйшоў Кастрычнік, і не стала ні пана Нарэйкі, ні «цара-бацюшкі». І пайшоў Дзяніс Сырамаха з шашкай у руках рашаць тую самую геаметрычную задачу, над якою ламаў галаву яго бацька. Рашаючы гэту задачу, вычэрчваў ён клінком розныя геаметрычныя фігуры на чарапах дзянікінцаў, мамантаўцаў, урангелеўцаў, пілсудчыкаў. Пад Пачаевам ён амаль пяць кіламетраў поўз з сваімі сябрамі — Ліхоткіным і Кастрыкіным,— каб падкрасціся да

польскага паста. І не паспелі паны ахнуць, як адзін з іх ляжаў мёртвым, а другі, звязаны конскімі папругамі, паслухмяна ішоў у штаб пад надзейнай вартай. За праяўлены гераізм у радах Чырвонай Арміі Дзяніс Сырамаха мае ганаровую грамату ад Рэўваенсавета 1-й Коннай арміі.

Як разведчык першага разраду артдывізіёна ён разам з слаўнай Чангарскай дывізіяй прамераў неабсяжныя прасторы Савецкай краіны — ад Арла да Баку, ад Баку да Ноўгарада-Валынскага, ад Ноўгарада-Валынскага да Перакопа і далей да Севастопаля. І ўбачыў Дзяніс, што зямелькі шмат, што хопіць яе ўсім сынам Савецкай краіны, колькі б іх ні было, і што зусім не трэба ламаць галаву, як яе падзяліць. Таму Дзяніс пачаў гаспадарыць так спакойна і ўпэўнена.

Калі ў 1930 годзе ў вёсцы Дварэц арганізаваўся калгас, яго выбралі старшынёй праўлення.

Шосты год Сырамаха — нязменны старшыня гэтага калгаса. Заслугамі сваімі хваліцца ён не любіць, нават ледзь не забыўся ў гутарцы пра тую «дробязь», што за час свайго старшынства прэміраваны быў адзінаццаць разоў, у тым ліку экскурсіяй у Азова-Чарнаморскую вобласць, якую ён калісьці памагаў вызваляць ад ворага. За ўсе шэсць год ні адзін калгаснік не выйшаў з калгаса імя 13 гадавіны Кастрычніка, якім кіруе Сырамаха. І гаспадарка ў яго такая, якая пану Нарэйку і не снілася: 87 коней, сытых і дагледжаных; малочная ферма — 107 кароў; свіная ферма — 111 штук свіней; пчол — 24 вуллі; вялікі малады сад, які ў 1935 годзе даў прыбытку 4300 рублёў. Калгаснікам у гэтым годзе калгас даў 67 парасят, замест намечаных па плану 46.

Ураджай жыта ў сярэднім па калгасе — 15,2 цэнтнера. Для Тураўскага раёна гэта не так ужо мала. А лепшы памочнік т. Сырамахі, брыгадзір першай брыгады Субат Цімох, дабіўся на ўчастку сваёй брыгады 18,3 цэнтнера з гектара.

Дзяніс Сырамаха прыехаў у Мінск на Усебеларускую нараду ўдарнікаў ураджайнасці ў ліку іншых васьмісот дэлегатаў. Яны прыехалі з розных куткоў Савецкай Беларусі, каб разам з кіраўнікамі партыі і ўрада абмеркаваць, як найлепш змагацца за 7—8 мільярдаў пудоў збожжа для Савецкага Саюза. Яны розныя па ўзросту і з выгляду, але імкненне ў іх адно. Доказам гэтаму з'яўляецца дружнае і магутнае «ўра» ў гонар партыі.

Шырокія далоні Дзяніса Сырамахі шчыльна прылягаюць адна да другой, і сусед адхіляе галаву, баючыся за свае барабанныя перапонкі. Няхай паспрабуе які-небудзь Нарэйка паткнуцца па «свае» два снапы!

*1936*

## КАБ ВЕСЕЛА БЫЛО...

*(Маленькі фельетон)*

Макар Пятровіч Цярпігораў сеў за стол, уключыў настольную лямпу з зялёным абажурам і пачаў раскладаць паперы. Нарэшце ён зможа ўзяцца за гэты даклад. Праз тры дні выступаць, а ён яшчэ і не пачынаў рыхтавацца. «Ну, цяпер жа вазьмуся як мае быць»,— падахвоціў сябе Цярпігораў і пачаў рабіць выпіскі. Але не паспеў ён скончыць і аднаго сказа, як аднекуль раптоўна грымнула:

— Слухайце! Гаворыць Мінск!..

Здавалася, што гаворыць сапраўды ўвесь Мінск, што ўсе горлы насельнікаў горада злучыліся ў адно і гэта непамернае горла раўнула Цярпігораву ў самае вуха. Гукі біблейскіх труб, ад якіх разваліліся сцены горада Іерыхона, здаліся б мышыным піскам у параўнанні з гэтым грымотным голасам. Цярпігораў закрыў вушы далонямі, але імі так можна было засланіцца ад гэтых гукаў, як газетай ад артылерыйскіх снарадаў. Здавалася, што не словы, а камені падаюць аднекуль зверху і прабіваюць чэрап:

— Скуру здавайце ў бліжэйшы кааператыў!

У суседнім пакоі прачнуўся Толік. Маці пачала ўгаворваць, каб ён спаў, і шаптала на вуха нешта вельмі цікавае, але Толік нічога не мог пачуць: нехта страшна, заглушаючы матчыны словы, крычаў аб тым, што трэба здзіраць скуру і несці яе ў кааператыў. Толік заплакаў і стаў клікаць бацьку. Цярпігораў кінуў на стол карандаш і пайшоў да Толіка. Той абхапіў яго рукамі за шыю.

— Тата, прагані гэтага Бармалея! Ён хоча маю скуру садраць,— калаціўся Толік.

— Не бойся, гэта не Бармалей,— супакойваў Цярпігораў сына.— Гэта дзядзя па радыё гаворыць. Ён хоча, каб нам весела было.

— А мне страшна,— туліўся Толік да бацькі.

— Калі хочаце, каб скура ваша была без дзірак, здымайце яе без нажа. Трымайце моцна левай рукой за край надрэзанай скуры, а правым кулаком штурхайце пад рабрыны,— грукаталі словы.

Пасля лекцыі аб тым, як здымаць скуру з свіней, якіх, між іншым, у Цярпігорава зроду не было, пачалася перадача на мове эсперанта. Потым ішла праграма перадач на наступныя дні, з якой Цярпігораў даведаўся, што ні заўтра, ні паслязаўтра, а можа, і ніколі ў жыцці болей працаваць яму дома не ўдасца.

Толік тым часам асвойтаўся і супакоіўся. Ён нават забаўляўся, хуценька затульваючы і адтульваючы вушы далонямі. Выходзіла досыць забаўна, і Толік цяпер зразумеў, што сапраўды дзядзя хоча, каб весела было.

У дванаццаць гадзін «дзядзя» сціх. Але Толік разгуляўся і не хацеў спаць. Ён усё прыставаў да бацькі, каб той яму казкі расказваў. Цярпігораў напружваў сваю загрувашчаную лічбамі і формуламі памяць. Усплывалі абрыўкі тых казак, якія некалі самому бабулька расказвала: пра разбойнікаў, пра ведзьмакоў ды пра тое, як чэрці дзеда па балоце вадзілі. Гэта для Толіка не падыходзіла. Спрабаваў сам складаць казкі, але Толік прасіў лепшых. Памірыліся нарэшце на казцы аб тым, як дзед гарошынку пасадзіў. Калі Толік утаймаваўся, было ўжо дзве гадзіны ночы. Цярпігораў прыйшоў у свой пакой, паглядзеў на раскладзеныя паперы, паківаў галавою і пачаў раздзявацца.

Назаўтра, ідучы на работу, Цярпігораў адышоў на сярэдзіну вуліцы і глянуў на верх чатырохпавярховага дома, у якім ён жыў.

Там, над самым акном яго кватэры, як ні ў чым не вінаваты, стаяў гучнагаварыцель. Цярпігораў пачаў яго ціха дакараць:

— І хто цябе, дурня, паставіў тут, над самым маім вухам? Хіба табе месца на цэнтральнай вуліцы, дзе і так шуму шмат? Паставілі б цябе на пляцы дзе-небудзь ці ў гарадскім садзе, і галёкаў бы ты там, колькі б хацеў. Хто не захацеў бы цябе слухаць, дык уцёк бы. А я хіба магу ўцячы куды-небудзь са сваёй кватэры? Дзяцей будзіш ды палохаеш, людзям працаваць не даеш — хіба ж гэта добра?

— Слухайце! Гаворыць Мінск!— зароў у адказ раззлаваны гучнагаварыцель. Цярпігораў заткнуў вушы і пабег. Ён пабег на ўскраіну шукаць кватэры. Там «дзядзя» менш клапоціцца, каб весела было.

*1936*

## ЖЫВЫЯ І МЁРТВЫЯ

*(Маленькі фельетон)*

Мы ведаем не мала казак і легенд аб людзях, якім не ляжалася ў магілах. Яны варочаліся на зямлю, каб скончыць тое, чаго не паспелі зрабіць за жыццё, альбо каб паквітацца з ворагамі, найчасцей — адпомсціць ім за сваю ўласную смерць. Але гэта ўсё было, як кажуць, «у некаторым царстве, у некаторым гасударстве, яшчэ за царом Гарохам», і ва ўсякім выпадку не за нашу памяць. З савецкімі грамадзянамі дагэтуль такога не здаралася. Ды яно і зразумела: савецкі чалавек жыве паўнацэнным разумным жыццём, працуючы на карысць сацыялістычнай радзімы, і калі памірае ўжо, дык памірае з упэўненасцю, што справу, якой ён аддаў сваё жыццё, жывыя таварышы давядуць да канца і што з ворагамі гэтай справы таксама ёсць каму паквітацца.

Але вось у жніўні гэтага года ў Мінскі політэхнічны інстытут вярнуўся студэнт 3-га курса Іван Іванавіч Валадковіч... проста з таго свету. Як жывы дакор, стаў ён перад віноўнікамі свае смерці. Наперакор усім традыцыям нябожчык зусім не падобен быў на шкілет; нават бледнасці, без якой ні адзін парадачны мярцвяк не можа абысціся, і тае не відаць было на твары. Нягледзячы на трохмесячнае прабыванне на тым свеце, нябожчык меў выгляд зусім здаровага чалавека і нават умудрыўся здорава загарэць. Праўда, людзі дасведчаныя кажуць, што «там» у некаторых месцах бывае досыць-такі горача, але ўсё ж гэта не паўднёвы бераг Крыма, каб загараць. Далейшыя паводзіны нябожчыка таксама былі досыць дзіўныя: ён не кідаўся на віноўнікаў свае смерці, не сціскаў іх у сваіх ледзяных абдымках і не правальваўся з імі скрозь зямлю,— ён ціха пасяліўся на сваёй ранейшай кватэры, а калі надышоў час заняткаў, акуратна стаў наведваць лекцыі.

Так бы і дагэтуль Іван Іванавіч Валадковіч быў выхадцам з таго свету, каб у Мінск не прыехаў яго родны брат. Ён зайшоў да знаёмага, каб распытацца, як правёў нябожчык апошнія дні перад смерцю і дзе яго магіла. Доўга не гаворачы, знаёмы апрануўся і павёў за сабой Іванавага брата. Праз некалькі хвілін той убачыў не магілу, а самога жывога Івана. Іванаў брат аслупянеў ад нечаканасці. Ён глядзеў то на Івана, то на паперку, якую трымаў у руках, быццам не ведаючы, каму больш верыць: сваім вачам ці гэтай паперцы. А ў паперцы было напісана:

«Тов. ВОЛОДКОВИЧ.

Ваше письмо на имя брата Володковича Ивана, студента торффака Политехнического института получено, но брат Ваш умер от туберкулеза легких в мае с. г., так что институт ставит Вас об этом в известность и отсылает письма.

*8/VII-36 г.* *Вербицкая».*

А Іван Валадковіч тым часам праводзіў лета ў лагерах, нічога не падазраючы аб сваёй смерці і аб вялікім горы брата і бацькоў, якім сакратар торффака інстытута Вярбіцкая вярнула іх пісьмы з паведамленнем аб смерці Івана.

Цяпер пакінем на хвіліну братоў пры іх радаснай сустрэчы, а самі кінем вокам у Політэхнічны інстытут.

Інтэрнат: цесната і бруд; умывальнікі забруджаны; бялізну памыць няма дзе. Студэнтам рыхтавацца таксама няма дзе: чытальня ў інстытуце адчынена толькі з 3-х да 9-ці гадзін вечара, ды і то ў ёй адны толькі газеты. Студэнтка Левіна ляжыць пятнаццаць дзён у бальніцы хворая на брушны тыф, але ніхто з адміністрацыі не падумаў пра яе, не пацікавіўся. Насілу камсамольская арганізацыя дамаглася, каб выдалі Левінай грашовую дапамогу... 30 руб.!

Асаблівай «чуласцю» да студэнтаў вызначаецца дэкан тарфянога факультэта Дарашэвіч. Захварэў студэнт Несцерчык (той самы, з якім пасля пераблыталі Валадковіча). Калі хворы звярнуўся да дэкана з просьбай аб грашовай дапамозе, дык гэты «добры» чалавек нешта буркнуў сабе пад нос і адмовіўся гаварыць. Атрымаўшы такую «дапамогу», Несцерчык у хуткім часе памёр. Але Дарашэвіча гэта зусім не кратае. Для яго, відавочна, лягчэй занесці чалавека ў спісы мёртвых, чым паклапаціцца аб жывым. Можна было б прывесці дзесятак фактаў бяздушных агідных адносін да студэнтаў у Політэхнічным інстытуце.

Так «клапоцяцца» кіраўнікі інстытута аб жывых людзях, аб кадрах савецкай інтэлігенцыі.

Пры такіх «уважлівых» адносінах да людзей зусім лёгка можна пераблытаць жывых з мёртвымі. Мы не здзівімся, калі Вярбіцкая як-небудзь незнарок занясе ў спісы мёртвых і ўсё кіраўніцтва інстытута. На гэты раз яна не памыліцца: кіраўніцтва сапраўды-такі не жывое.

*1936 г.*

## АПОШНЯЯ ПАСЫЛКА

Курт заўсёды быў непаваротлівы і някемлівы. Берта заўважыла гэта даўно, як толькі выйшла за яго замуж. Пяць год прасядзеў ён на адным месцы ў канторы Шмульгагена, і хоць бы табе якое павышэнне па службе. Яго падначаленыя сталі за гэты час яго начальнікамі, а ён — ні з месца. І ў фашысцкую партыю ўступіў Курт неяк бокам, нібы яго незнарок туды ўвапхнулі. Так ён і быў папіхачом у больш спрытных. Калі непрыемнае партыйнае даручэнне якое — разграміць кватэру, цяпнуць з-за вугла па галаве каму,— дык Курта пасылаюць, а калі хапнуць што, дык Курту дулю ў нос. Думалася: можа, яму сумленне не дазваляе хапаць, закон не вяліць. Курт заўсёды быў узорным выканаўцам закону.

Нарэшце пачалася вайна. Берта думала: цяпер-то ўжо Курт разгорнецца як мае быць. Бо ў вайне які ж закон — бі і хапай. Гэта закон фюрэра. За гэта не караюць, а яшчэ крыжы даюць. Чым больш ты людзей забіў і дабра нахапаў, тым большы ты герой, тым больш зрабіў на карысць «вялікай Германіі». Тут ужо хочаш — крадзь, хочаш — у адкрытую бяры, хочаш — з жывога вопратку здзірай, хочаш — забі, каб не трапятаўся, і тады спакойна вазьмі, што табе падабаецца. Дык жа не: і тут Курт аказаўся расцяпай. Пакуль ён збярэцца курыцу арганізаваць, дык другія ўжо ядуць яе, пакуль Курт нагледзіць жаночае паліто з каракулевым каўняром, дык другія ўжо ўпакуюць гэта паліто і здадуць на палявую пошту. І заўсёды так здараецца: калі другія хапаюць, дык Курт тады ў акопе мерзне або на варце стаіць ля склада боепрыпасаў. Прыслаў раз туфлі мадэльныя, стальнога колеру, дык яны Берце хіба на нос, ды і то цеснаваты. За вайну Курт, мусіць, ужо забыўся, што яго жонка родам з Баварыі і што ў яе ножка — дай божа кожнаму штурмавіку. Плацце прыслаў шарсцяное, дык зноў жа — разарванае на плячах. Відаць, гэта руская супраціўлялася. Прыйшлося зашываць. Кроў адмылася, а шво не схаваеш: на самым відным месцы. Зразу відаць, што не новае плацце. Але ж пара і Курту спрыту набрацца. Можа, на гэты раз што-небудзь і добрае арганізаваў.

Берта ўзяла са стала сінюю паперку, якую ёй прынёс паштальён, палажыла ў сумачку і пайшла на пошту.

Узяўшы з рук чыноўніка пасылку, Берта была крыху расчаравана: скрыначка была хоць і не малая, але і не

вельмі вялікая, не такая, якую хацела б трымаць у руках Берта... «Дарма, затое, напэўна, нешта каштоўнае»,— суцяшала яна сябе, ідучы дадому. «Што тут такое?» — старалася яна ўгадаць. «Шэрсць, шоўк, чарнабурая лісіца? Калі шоўк, дык у такую скрыначку шмат можна ўпакаваць».

Ёй не цярпелася хутчэй распакаваць пасылку. Яна спяшалася дадому, не заўважаючы знаёмых жанчын, якія ёй кланяліся, зайздросна паглядаючы на абшытую мешкавінай скрыначку.

Прыйшоўшы дадому, Берта, не распранаючыся, узяла кухонны нож і акуратна распарола мешкавіну. Потым зашчаміла нож пад верхнюю фанерку і асцярожна павярнула яго. Прыбітая маленькімі цвічкамі фанерка лёгка падалася, і Берта ўбачыла тое, што было ў пасылцы: у скрыначцы ляжалі акуратна зложаныя салдацкія штаны. Берта аслупянела ад нечаканасці і здзіўлення. Калі аслупяненне прайшло, яна ўзяла штаны і, падышоўшы бліжэй да акна, агледзела іх. Штаны былі новыя, зусім маланошаныя, але што азначае гэта пасылка? Гэты ёлап, мусіць, зусім ужо з глузду з'ехаў.

Берта пачала шукаць у кішэнях і ў адной з іх знайшла паперку. Там было напісана:

«Мілая Берта! Пасылаю табе свае новыя штаны. Я хадзіў у старых, падраных, і гэтых шкадаваў. Але мне яны больш не патрэбны, і буду хадзіць у трусах». «Такою парою ў трусах! — здзівілася Берта.— Здаецца, у Расіі не такі клімат. А можа, яго ў Крым паслалі, на курорт». Далей яна прачытала: «Справа ў тым, мая дарагая, што наша рота была паслана на барацьбу з беларускімі партызанамі. Мы павінны былі спаліць адну вёску і пакараць яе жыхароў за дапамогу партызанам. Я думаў, што нарэшце трапіў туды, куды трэба, і мне ўдасца арганізаваць што-небудзь каштоўнае для цябе. Але па дарозе на нас напалі партызаны, пачалі страляць з кулямётаў і кідаць гранаты. Многа нашых было забіта, а мне гранатай адарвала абедзве нагі. Я цяпер ляжу ў шпіталі, і калі папраўлюся, дык такія доўгія штаны мне будуць непатрэбны. Хопіць мне і трусоў, а гэтыя табе ў гаспадарцы спатрэбяцца. Скарыстай іх, як сама знаеш».

Прачытаўшы такое пасланне, Берта са злосцю кінула Куртавы штаны ў куток і сама кінулася тварам на падушку.

*1943*

## ЁЛКІ І ПАЛКІ

Як і мінулы, гэты год фашысты рыхтаваліся сустракаць у Маскве.

Пра гэта яны марылі яшчэ з вясны. Яшчэ ў летнюю спёку перад іх вачамі ўставалі аснежаныя вежы Крамля, залітыя электрычным святлом залы. І ёлкі... кашлатыя, багатыя, з Дзедам Марозам, з яркімі каляровымі ліхтарыкамі, з залатымі арэхамі. З чынамі, крыжамі, пасадамі, маёнткамі...

А на сталах — і кілбасы, і кумпякі, і іншыя смачныя рэчы, пры ўспаміне аб якіх фашысты ўжо тры гады слінку глытаюць.

Так уяўлялася акупантам перамога на савецка-германскім фронце, якую Гітлер абяцаў ім у 1942 годзе. Абяцанка-цацанка, а дурню радасць. Захопленыя прывідам перамогі, фашысты аж са скуры лузаліся, крывёй сплывалі і ўсё лезлі наперад. Лезлі на Сталінград, які яны лічылі ключом да Масквы і да перамогі. А Гітлер пасцёбваў іх і пакрыкваў: «Ану, мілыя! Ану, непераможныя! Ану, папніся! Яшчэ разок! Мы ўжо на парозе перамогі. Ды ну ж, воўчае мяса!..»

Бізун хадзіў па худых рэбрах. Гітлераўцы цяжка вадзілі ўзмыленымі бакамі, упадалі на калені, грызлі зямлю. Забыўшы мудрую прыказку: «Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш»,— Гітлер аб'явіў, што Сталінград ужо ўсё адно як і ўзяты. І толькі ён крыкнуў «гоп», як Чырвоная Армія так гопнула па арыйскім чэрапе, што ў фашыстаў і вочы на лоб палезлі.

Не давялося нямецкім захопнікам і ў гэтым годзе спраўляць ёлку ў Маскве. Замест ёлак на іх долю выпалі адны толькі палкі. Былі, праўда, сякія-такія ёлачныя ўкрасы і гасцінцы — напрыклад, каляровыя ліхтарыкі... Ды якія там ліхтарыкі! Добрыя ліхтары... у фашыстаў пад вачыма.

І арэхі былі... Не залатыя, праўда, свінцовыя... Але нічога, гітлераўцы кажуць, што здаволены імі па горла.

І карагод быў... Яго спраўлялі дваццаць дзве фашысцкія дывізіі, акружаныя нашымі войскамі пад Сталінградам. Кружыліся яны, кружыліся, аж пакуль з ног не зваліліся. Так пры нашай дапамозе і падохлі.

І кумпякі былі... Праўда, не свіныя і не вэнджаныя. Гэта былі кумпякі конскай падлы, якімі фашысцкія ваякі ласаваліся яшчэ перад Новым годам. К Новаму году ад падлы

асталіся хвост ды капыты. Але пасля добрага карагода і гэта прысмакі. Фашыстам было мо і не даспадобы, але нічога не зробіш. Як кажа руская прыказка — «по барину и говядина».

Наогул, да нас даходзяць чуткі, што нашы навагоднія гасцінцы фашыстам не спадабаліся. А ўжо як мы ні стараліся! Частавалі ад усяго сэрца. Вось і Новы год прайшоў, людзі ёлкі з хат павыносілі, а палкі, наадварот, дзейнічаюць. Сыплюцца нашы гасцінцы і на Паўночным Каўказе, і ў раёне Вялікіх Лук, і пад Варонежам, і пад Растовам. Так сыплюцца, што фашысты іх і глытаць не ўпраўляюцца, дарма што горла шырокае.

У нас ужо звычай такі: частаваць дык частаваць. Калі да нас прыходзіць такі «дарагі» госць, дык мы так яго частуем, каб ён век нас помніў.

*1943*

## УХ, УХ — МЫ ЎДВУХ!

Аднаму баязліўцу давялося ісці ноччу цераз лес. У небаракі аж зубы ляскалі, і сам ён калаціўся, як асіна. Яму здавалася, што вось-вось нехта выскачыць з-за хвоі і заб'е яго. Каб ніхто не асмеліўся на яго напасці, баязлівец пусціўся на хітрыкі: ён зняў з галавы шапку, надзеў яе на палку і панёс, трымаючы наводшыбе, каб некаму здалося, што ідзе не адзін чалавек, а два. У дадатак баязлівец крычаў на ўвесь лес: «Ух, ух — мы ўдвух!»

Вось так і Гітлер з Гебельсам: чым страшней ім Другога фронту, тым мацней яны крычаць аб непрыступнасці «атлантычнага вала».

Але нашы саюзнікі не дурні, каб спужацца таго вала, які наваліў Гебельс сваёй брахнёй.

*1943*

## МІХАІЛ СІЛЬНІЦКІ

Ён мала пажыў. На дваццаць першым годзе аддаў Міша маладое жыццё, бaронячы свой народ, сваю родную Беларусь ад фашысцкіх людаедаў. Міша бачыў радзіму ў крыві і пакутах, беларускія гарады ў руінах і попеле. Ён бачыў, як паміралі на фашысцкіх вісельнях і пад нямецкімі кулямі савецкія людзі, вінаватыя толькі ў тым, што яны не хочуць быць фашысцкімі рабамі. Сэрца яго не магло знесці гэтай крыўды і здзеку. Малады патрыёт пакляўся біцца з ворагам да таго часу, пакуль родная зямля не будзе ачышчана ад фашысцкай погані, калі зноў можна будзе вольна дыхаць чыстым паветрам родных палёў і лясоў.

Яго гарачая любоў да радзімы і пякучая нянавісць да нямецкіх акупантаў, яго беззапаветная храбрасць і мужнасць зрабілі тое, што просты сялянскі хлопец, калгаснік, стаў Героем Савецкага Саюза, імя якога будзе жыць вечна ў сэрцы народа. Яго подзвіг будзе натхняць людзей на новыя геройскія ўчынкі. 28 сакавіка 1942 года — дзень яго смерці — стаў днём яго славы і неўміручасці.

Міхаіл Сільніцкі нарадзіўся і пражыў дзіцячыя гады ў вёсцы Заполле Суражскага раёна Віцебскай вобласці. Хлопчык вызначаўся незвычайнай кіпучай энергіяй, цікаўнасцю і кемлівасцю. Ён хацеў сам усюды быць, усё бачыць і ўсё рабіць. Перашкод ніякіх не прызнаваў, страху ніколі не ведаў. Ён быў свавольны і гарэзны, і, пакуль не падрос, з ім шмат было клопату і бацькам, і настаўнікам.

«Гора мне з ім было,— расказвае пра яго маці Вера Мікалаеўна Сільніцкая.— Бывала, ні на адну хвіліну нельга пакінуць аднаго. Пасаджу за стол, дам есці. Еш, Міша, ды не ідзі нікуды, я зараз прыйду... Пакуль я падаю карову, дык мой Міша ўжо на Дзвіне аж на пятым плыце. Стаўлю даёнку і бягу без памяці на раку. Клічу, клічу — ды ўсё ласачкай. Пагразі, дык ён на злосць табе і ў ваду можа бултыхнуць. Выманю нарэшце як-небудзь. Бывае, распеража фартух дый паскамі пацягну са злосці. Просіцца: «Мамачка, не буду!» А праз хвіліну, як толькі адвярнуся, ужо сядзіць на страсе альбо на вяршэчку бярозы. Баялася за яго вельмі. Ён жа тады яшчэ адзін быў у мяне. Ці паверыце, мусіла да ложка прывязваць, калі трэба было адлучыцца кудынебудзь з хаты».

Мішавы прыгоды не зусім канчаліся прыемна. Аднойчы Міша з цікавасцю наглядаў, як сусед робіць цэглу. Яму вельмі хацелася самому прыняць актыўны ўдзел у гэтай цікавай вытворчасці. Вось нарэшце зручны выпадак — сусед вылажыў цэглу сушыцца, а сам адышоўся. Міша з сваім сябрам, таксама Мішам, толькі гэтага і чакалі. Яны падышлі да цэглы. Міша паставіў нагу на цагліну, і на ёй астаўся выразны адбітак яго нагі. Гэта хлопцам вельмі спадабалася, і яны ўзяліся за работу. Праз кароткі час на ўсіх дзвюх тысячах цаглін красаваліся адбіткі дзіцячых ног. Тады хлопцам захацелася яшчэ памясіць гліну. Яны накіраваліся да ямы, у якой размакала залітая вадой гліна. Але тут ім не пашанцавала. Як толькі яны ўлезлі ў яму, гліна пачала іх засмоктваць. Сільніцкі сяк-так выбраўся, а яго сябар так заграз, што не мог крануцца з месца, і пачаў крычаць і прасіць ратунку. Прыбеглі абедзве маці. Паспрабавалі выцягнуць хлопца, але дзе там! У яго аж суставы хрусцяць, а ён не падаецца. Тады адна ўзяла хлопца пад пахі, каб не ўехаў глыбей, а другая стала адкопваць рыдлёўкай. Ледзьве выратавалі.

Чым больш падрастаў Міша, тым больш кіпела ў ім энергія, тым больш складанымі і небяспечнымі станавіліся забавы хлопца. Мішаў бацька, вясковы каваль, сталы і ўдумлівы чалавек, глядзеў на хлопца з непакоем і смуткам. «Што з яго выйдзе?» — думаў ён сабе. Лавіў Фёдар Іванавіч сінявокага, гарэзнага, рухавага, як жывое срэбра, хлопчыка, прыцягваў да сябе і спрабаваў угаворваць. Але Мішу нудна было слухаць бацькавы навучанні. Ён вырываўся з рук і бег, каб дзе-небудзь зрабіць новую штуку, а тым часам і сам не заўважаў, як бацькавы разумныя і ласкавыя словы западалі яму ў душу.

Паступова забавы і гульні Мішы рабіліся больш разумнымі і мэтанакіраванымі. Ён задумваўся над тым, кім ён хоча быць.

Жывучы на беразе Заходняй Дзвіны, Міша стаў выдатным плыўцом. Аднойчы бацька стаяў на беразе і з заміраннем сэрца глядзеў на штукі, якія Міша вырабляў у вадзе. Ныраючы, ён так доўга аставаўся пад вадой, што здавалася, ніколі ўжо не вынырне. Калі Фёдар Іванавіч стаў дакараць сына, што ён так рызыкуе, Міша на гэта адказаў: «Маракоў прымушаюць гэта рабіць,

ды колькі яшчэ абучаюць, а я, гуляючы, вучуся. Калі прыйду ва флот, дык мяне і вучыць мала трэба будзе. Чаму ж ты мне не дазваляеш?» Міша марыў быць чырвонафлотцам.

З вёскі Заполле сям'я Сільніцкіх пераехала ў суседняе сяло Курына, дзе бацька ўступіў у калгас і працаваў кавалём у калгаснай кузні. Міша стаў вучыцца ў няпоўнай сярэдняй школе. Яму лёгка ўсё давалася, і ён добра вучыўся. Самыя горшыя адзнакі ў яго былі па дысцыпліне. Яго кіпучая энергія ніяк не мірылася са школьнымі правіламі. «Настаўнікі не разумеюць мяне, не ўмеюць са мной жыць»,— скардзіўся Міша бацьку. А Фёдару Іванавічу балюча было гэта слухаць. Ён ішоў да настаўнікаў і доўга раіўся з імі, што зрабіць, каб даць разумны выхад празмернай энергіі сына. Парашылі, што яму павінна дапамагчы фізічная праца. Міша стаў наведваць школу цераз дзень, а астатнія дні памагаў бацьку ў кузні. Гэта спачатку як быццам памагло, а потым усё пайшло па-ранейшаму. Толькі гульні Мішы пачалі набываць выразна вайсковы характар.

Пры школе быў гурток Асаавіяхіма, у якім былі лыжы і малакаліберныя вінтоўкі. Міша стаў самым гарачым удзельнікам гуртка. Усе грошы, якія бацькі давалі яму на яду і на прысмакі, Міша прастрэльваў у ціры. Калі маці дакарала яго за тое, што ён галодны цэлы дзень, Міша адказваў: «Чырвонай Арміі патрэбны снайперы. А што я галодны — гэта нічога. Снайпер павінен быць трывалым!»

Каля Курына ёсць высокая гара — Малінаўская. Гара гэта досыць крутая. На яе і ўлетку напрост цяжка ўзысці. А Міша катаўся з яе на лыжах. І калі ён на перапынку, ухапіўшы лыжы, узбіраўся на Малінаўскую гару, то тады ўсе вучні школы збіраліся паглядзець на выдатнае відовішча. Яны з зайздрасцю і захапленнем сачылі за ім. Кожны яго выкрутас выклікаў бурнае адабрэнне. Ніякія званкі тады не дзейнічалі, і настаўнікі павінны былі ўжыць энергічныя захады, каб сабраць вучняў у класы і пасадзіць за парты. А Мішу тым часам зніжалі адзнаку па дысцыпліне.

Калі Мішу не давалі лыж, ён арганізоўваў спаборніцтва ў бегу — ад аднаго тэлефоннага слупа да другога. Сам раздаваў узнагароды пераможцам і сароміў адсталых. Страсці разгараліся, час ішоў, пра ўрок забывалі, і настаў-

нікі зноў умешваліся, і адзнака па дысцыпліне ў Мішавым дзённіку зноў паўзла ўніз.

К 18 гадам Міша быў спрытным, стройным і дужым юнаком. На вечарынках ён быў першым танцорам і песеннікам, любіў беларускія песні і танцы і быў заўсёды душой вясёлай маладой кампаніі. На спартыўных спаборніцтвах ён звычайна заставаўся пераможцам. За работу браўся, і работа кіпела ў яго руках.

Улетку Міша працаваў сезоннікам: на цагельным заводзе, на водным транспарце, на ваенным будаўніцтве. Разам з тым ён наведваў вячэрнія шафёрскія курсы і добра вывучыў матор.

Зімою Міхась працаваў з бацькам у кузні. Ён быў ужо выдатным кавалём і добрым слесарам. За зіму ўдвух з бацькам яны прыводзілі ў парадак увесь калгасны інвентар, і вясна ніколі не заставала калгас «Шлях Леніна» непадрыхтаваным. Калі шмат збіралася работы, Міхась знімаў з галавы шапку, як толькі ён умеў гэта рабіць, і гаварыў: «Ну, стары, сёння я табе закурыць не дам» — і браўся за работу. Ды так браўся, што бацьку сапраўды не было калі закурыць. Асабліва любіў Міша коні каваць. Бацька ледзь паспяваў падрыхтоўваць яму падковы. Міша рабіў гэту работу так спрытна і хутка, што маці глядзела на яго са страхам. Яна баялася, што Міша скалечыць каню нагу. Але з ім гэтага ніколі не здаралася.

У 1938 годзе Сільніцкі ўступіў у камсамол і быў актыўным камсамольцам. У маі 1941 года ён быў прызваны ў Чырвоную Армію, а праз месяц маладому танкісту прыйшлося прымаць удзел у жорсткіх баях, адбіваючы націск гітлераўскіх орд.

У часе адной контратакі Міша быў паранены. Бой быў жорсткі і цягнуўся шэсць гадзін, але ўрэшце праціўнік вымусіў адысці нашу часць на зыходныя пазіцыі. Сільніцкага нельга было вынесці з поля бою, і ён трапіў у палон.

Тут ён упершыню ўбачыў сваімі вачыма здзекі і пакуты, якім падвяргаюць фашысцкія варвары савецкіх людзей. Сам ён цярпеў гэтыя страшэнныя пакуты.

Нягледзячы на познюю восень, палонных трымалі на дварэ, за агароджай з калючага дроту. Людзі мерлі як мухі ад прастуды, ад загніўшых ран, ад голаду. На ежу згаладалым гітлераўцы ўвалакалі ў загараду труп здохлага каня, і ашалелыя ад голаду людзі кідаліся на гэту здыхляціну. За

кожны падазроны рух, за намёк на пратэст фашысцкія звяры расстрэльвалі палонных на месцы.

З жахам і нянавісцю глядзеў Міша на зверствы гітлераўскіх бандытаў. Ён рашыў — уцяку: альбо свабода, альбо смерць.

Сільніцкі стаў асцярожна загаворваць з суседзямі і хутка знайшоў аднадумцаў. У лагеры быў адзін камандзір Чырвонай Арміі, які ўжо даўно думаў і рыхтаваўся ўцякаць. Раз яго жонцы ўдалося перадаць яму ў збанку з малаком ножны для рэзкі дроту. Ноччу ў далёкім кутку загароды, дзе менш хадзіла варта, быў прарэзан дрот і Сільніцкаму разам з вялікай групай палонных удалося ўцячы. Вартавыя, праўда, схамянуліся і адкрылі агонь. Частка ўцекачоў была забіта, але астатнія апынуліся на волі.

Пераапрануўшыся ў сялянскую вопратку, Сільніцкі пайшоў са Смаленшчыны на Віцебшчыну, у родную вёску, дзе свае людзі маглі б схаваць яго ад праследавання, дзе ён меў бы магчымасць папраўіцца і падужэць пасля перанесеных пакут і галадоўкі.

Па дарозе Сільніцкі два разы ледзь не трапіў зноў у лапы фашысцкіх катаў.

Раз на Віцебшчыне паміж вёскамі Янавічы і Тадуліна Сільніцкі нечакана сустрэўся з атрадам карацеляў. Уцякаць было позна, ісці насустрач фашыстам азначала ісці на немінучую пагібель. На шчасце, выручыла жанчына, якая ішла па гэтай жа дарозе. Бачачы, што Сільніцкі баіцца трапіць у лапы жывадзёраў, жанчына дала яму на рукі дзіця, а сама з кашолкай пайшла побач з ім, быццам яго жонка. Так яны прайшлі праз вёску, і ніхто да іх не прычапіўся.

Другі раз небяспека пагражала яму ў калгасе, у якім ён спыніўся па дарозе і нейкі час працаваў кавалём. Шукаючы палонных, у вёску прыехалі фашысты і выстраілі ўсіх мужчын.

— Хто не з гэтага калгаса, выйдзі! — скамандаваў афіцэр.

Баючыся, каб праз яго не панеслі кары калгаснікі, Сільніцкі памкнуўся быў выйсці, але старшыня калгаса ўхапіў яго ззаду за вопратку і ўтрымаў на месцы. Гітлераўцам старшыня заявіў, што гэта яго сын і што ён будзе жыць і працаваць разам з ім. Так яшчэ раз выратаваўся Сільніцкі ад смерці, дзякуючы добрым людзям, савецкім

патрыётам, якія самі рызыкавалі жыццём дзеля яго паратунку.

Прыйшоўшы ў родную вёску Курына, Міхась Сільніцкі патроху працаваў з бацькам у кузні, а тым часам звязаўся з людзьмі, якія складалі ядро партызанскага атрада. Сярод іх быў таварыш Даніла Райцаў — камандзір атрада.

Таварышы патроху выяўлялі і вербавалі кадры, бралі на ўлік зброю, якая заставалася пасля адходу Чырвонай Арміі і была закапана насельніцтвам. Але ўсё гэта рабілася патаемна, справу мелі толькі з людзьмі пэўнымі, праверанымі. Нават мацеры Міша не гаварыў пра свае справы. Маці пыталася часамі: «Дзе ты ўсё ходзіш, Міша?» Ён на гэта, не то жартуючы, не то сур'ёзна, адказваў: «Гэта ваенная тайна».

Адзін бацька дагадваўся, дзе начамі прападае Міша. Часамі ў кузні ён асцярожна пачынаў пра гэта гаворку з сынам, але Міша заўсёды адказваў:

— Пачакай, бацька, хутка ўсё будзеш ведаць.

Пры гэтым ён яшчэ энергічней біў молатам па напаленым жалезе, і залатыя пырскі разляталіся ва ўсе бакі.

Тым часам пайшлі чуткі, што Чырвоная Армія перайшла ў наступленне, што немцы пад Масквой разбіты і адступаюць. Людзі збіраліся групкамі ўпотай і падоўгу гаварылі аб тым, хто што чуў, высмейвалі фашысцкую брахню і разыходзіліся па хатах з надзеяй на хуткае вызваленне. Па начах выходзілі на двор і падоўгу прыслухоўваліся, ці не пачуюць стрэлы гармат.

Аднаго разу да Курына дакаціўся далёкі гарматны гул. Гэтыя гукі смерці і разбурэння, якія заўсёды наводзілі жах на людзей, цяпер былі ўспрыняты як вестуны доўгачаканай свабоды. Людзі падымалі вышэй галовы і весялей глядзелі на свет. Яны ўсміхаліся самі сабе, і гэта ўсмешка была кожнаму зразумела.

Вось у гэтыя дні аднаго разу Міша прыйшоў дадому з вінтоўкай на рамяні. Ён сказаў, што Чырвоная Армія зусім блізка, што ў Курына прыходзілі разведчыкі Чырвонай Арміі і наладзілі сувязь з партызанамі і што цяпер ужо няма чаго асабліва баяцца.

— Усё ж такі асцерагайся, сынок. Так і загінуць нядоўга, а табе ж яшчэ толькі жыць і жыць,— казала яму Вера Мікалаеўна.

— Усё роўна, мама: дваццаць год жыві — жыць хочацца, сто год жыві — таксама жыць хочацца. Але каб па-

людску жыць. А ў фашысцкай няволі хіба жыццё? Лепш загінуць з гонарам за сваю радзіму, чым жыць з ганьбай,— адказаў на гэта Міша.

Гаворачы, што цяпер ужо няма чаго асцерагацца і хавацца, Міша памыляўся. Пад уражаннем сустрэчы з чырвонаармейскай разведкай ён гатоў быў пераўменшыць небяспеку. На самай справе баявое жыццё партызан было цяжкім і небяспечным. Але цяга ў партызанскія атрады значна павялічылася, і атрад таварыша Райцава, які налічваў дагэтуль некалькі чалавек, хутка стаў расці і вырас у грозную сілу. Паліцэйскія і ўсе іншыя халуі фашыстаў павесілі насы. Самі акупанты таксама спахмурнелі і сталі баязліва азірацца па баках, чуючы блізкую пагібель. Але ад гэтага яны сталі яшчэ больш лютымі. Фашысты яшчэ больш жорстка сталі распраўляцца з мірным насельніцтвам і пасылалі шматлікія карныя атрады, спадзеючыся адным ударам справіцца з партызанамі.

Але партызаны карысталіся падтрымкай і дапамогай насельніцтва, і справіцца з імі акупантам было не так лёгка. Ніякія зверствы і катаванні не дапамаглі. Наадварот, чым больш лютавалі фашысцкія вырадкі, тым больш народных мсціўцаў бралася за зброю, каб адплаціць ненавіснаму ворагу за здзекі і пакуты нявінных людзей.

Аднойчы ў пасёлак Ноўкі ўварваўся атрад карнікаў. Яны сагналі ў адно месца ўсіх, хто не паспеў уцячы, і пачалі допыт.

— Камуністы і партызаны, выйдзіце! — скамандаваў афіцэр.

Ніхто з месца не крануўся. Афіцэр сціснуў зубы:

— Ага, значыць, паміж вас партызан няма? Тады скажыце, дзе яны?

Усе маўчалі, ніхто не вымавіў ні слова.

— Ах, так! Ну, вы ў мяне зараз загаворыце,— пагразіў афіцэр і аддаў загад па-нямецку.

Тады да шарэнгі людзей падышоў обер-яфрэйтар і, тыкаючы кожнаму пальцам у грудзі, пачаў з правага фланга адлічваць.

— Айн, цвай, драй, фір...

Кожнага пятага ён хапаў за грудзі і вывалакаў з шарэнгі. Няшчасных расстралялі тут жа, на вачах у астатніх, і афіцэр зноў звярнуўся да шарэнгі:

— Цяпер вы, напэўна, скажаце, дзе партызаны.

Але зноў ніводнага слова не пачуў ён у адказ, і зноў обер-яфрэйтар пачаў лічыць з правага фланга.

— Айн, цвай, драй...

Цяпер ён вывалакаў з шарэнгі кожнага чацвёртага. І іх таксама расстралялі на вачах ва ўсіх. Калі і пасля гэтага ніхто не вымавіў ні слова, раз'юшаны афіцэр крыкнуў:

— Вы ўсе партызаны! Усіх расстраляць!

Так па-геройску загінула некалькі дзесяткаў патрыётаў — мужчын і жанчын пасёлка Ноўкі. Кожны штонебудзь ведаў пра партызан, але сярод іх не знайшлося ніводнага здрадніка.

Не могучы ўзяць партызан сілай, акупанты пускаліся на ўсялякія хітрыкі. Часта яны падсылалі шпіёнаў да сваякоў і знаёмых партызан, каб што-небудзь пранюхаць пра партызанскія справы.

Раз у дом Сільніцкага зайшла жанчына.

— Ці не знойдзецца ў вас сена прадаць хоць пудоў колькі? — запыталася яна.— Кароўчыну яшчэ ўхавала ад немцаў, дык карміць няма чым.

А перад гэтым якраз партызаны адбілі ў фашыстаў склад з сенам і раздалі яго сялянам.

— Дзе тое ў нас сена,— адказала Вера Мікалаеўна.— Схадзіце вунь у тую вёску, за раку, там лугі вялікія. А ў нас якое ж сена.— А сама падумала: «Дарэмна ты, мілая, прыкідваешся сіратою. Ведаю я, чаго табе трэба».

У гэты час па вуліцы праехала фурманка, а на ёй некалькі чалавек узброеных, у сялянскай вопратцы. Жанчына так і прыліпла да акна. Адзін з тых, што сядзеў на возе, павярнуўся тварам да хаты, але, заўважыўшы ў акне незнаёмую жанчыну, хутка адвярнуўся. Усю справу ледзь не сапсаваў малы Коля.

— Мамачка, наш Міша паехаў,— крыкнуў ён у захапленні. Маці так і ўмлела.

— Які табе Міша, што ты выдумаў,— сказала яна лагодна.

— Дальбог, Міша! Я па галаве пазнаў,— стаяў на сваім Коля.

— Дурны ты, гэта табе здалося. Міша наш далёка-далёка. Ён сюды не можа прыехаць,— угаворвала Колю Вера Мікалаеўна, старючыся гаварыць як мага спакайней.

Міша забягаў дадому толькі на кароткі час, змяніць бялізну ды праведаць, ці здаровы. Цяпер ледзь не кожны

дзень адбываліся сутычкі атрада з акупантамі і дыверсійныя акты — падпалы складаў, падрывы мастоў і чыгуначнага палатна. Усё гэта не адбывалася без Мішы Сільніцкага. Усюды ён быў самым актыўным і адважным.

Уступіўшы ў партызанскі атрад, Міша адразу ж узяўся вывучаць трафейную зброю, якой больш за ўсё было на ўзбраенні атрада. Так за некалькі дзён ён дасканала вывучыў нямецкія станковы і ручны кулямёты. Пасля гэтага стаў абучаць таварышаў і падрыхтаваў аддзяленне кулямётчыкаў.

Міша страшэнна не любіў сядзець на месцы і заўсёды шукаў сустрэчы з ворагам. Калі праходзіла некалькі дзён без схваткі з фашыстамі, ён прыходзіў да камандзіра атрада і прасіў даць яму «работу». Пры гэтым ён уносіў рад прапаноў і сам вызываўся на аперацыі, якія патрабавалі вялікай адвагі і спрыту.

Такім чынам, ён аднойчы прабраўся ў занятую немцамі вёску Жалезнякі і з-пад носа ў акупантаў вынес два кулямёты і сем вінтовак, якія былі схаваны жыхарамі. Другі раз Сільніцкі разам з партызанамі таварыша Курмялёва ўварваўся ў вёску Прысушына, дзе было 40 фашыстаў, і адкрыў па іх агонь з кулямёта. Восем гітлераўцаў былі забіты, а астатнія разбегліся.

У баі Сільніцкі вызначаўся вялікай адвагай і ініцыятыўнасцю. Раз, каля вёскі Астраўное, партызаны вялі бой з атрадам фашыстаў колькасцю ў семдзесят чалавек. Сільніцкаму даручана было зайсці фашыстам у фланг і падтрымаць кулямётным агнём наступленне партызан. Міша па сваёй ініцыятыве спусціўся на лёд Заходняй Дзвіны і, прыкрываючыся высокім берагам, зайшоў фашыстам у тыл. Раптоўна адкрыўшы агонь з блізкай адлегласці, ён пасеяў паніку сярод фашыстаў, і тыя кінуліся ўцякаць, усцілаючы поле дзесяткамі трупаў.

Кулямёт сабе Міша здабыў у баі. Бой быў гарачы і ўпарты. Гітлераўцаў было значна больш, чым партызан, і яны нахабна лезлі ўперад. Асабліва дакучаў кулямёт, які паліваў свінцом пазіцыі партызан. Міша ляжаў за пнём і адну за другой пасылаў трапныя кулі ў наступаючых фашыстаў. І тут кулямётная чарга ўзвіхрыла снег побач з ім, другая прасвістала над галавой: нямецкі кулямётчык страляў па ім. Злосць узяла Мішу. Ён рашыў расквітацца з фашыстам. Скінуўшы пінжак і шапку, Міша палажыў іх

ля пня на віду ў нямецкага кулямётчыка, а сам паўзком стаў падбірацца да гітлераўца. Калі Міша непрыкметна падпоўз да гітлераўца, той усё яшчэ страляў па Мішавай вопратцы. Прыкончыўшы фашыста адным ударам, Міша захапіў кулямёт, скрынку з патронамі і вярнуўся да сваіх.

З гэтым кулямётам Міша не расставаўся да канца сваіх дзён, і нямала фашысцкіх вырадкаў лягло ад яго трапных стрэлаў. З гэтым жа кулямётам Міша быў і ў апошнім сваім баі.

Гэта было 28 сакавіка 1942 года. Для знішчэння партызанскага атрада нямецкае камандаванне выслала карны атрад колькасцю каля чатырох рот. У немцаў была адна супрацьтанкавая гармата, пяць мінамётаў рознага калібру, 13 ручных і станковых кулямётаў, 50 аўтаматаў. Рэшта фашыстаў была ўзброена вінтоўкамі. Яны збіраліся знянацку напасці на партызан у раёне гуты Ноўка і знішчыць іх.

Камандзір партызанскага атрада Даніла Райцаў загадзя ўведаў аб намерах фашыстаў. Яшчэ напярэдадні яму аб гэтым данесла яго разведка. Міша таксама ведаў пра гэта. 27 сакавіка ён ездзіў у разведку здабываць весткі пра карнікаў.

У партызанскім атрадзе было ўсяго паўтараста байцоў, чатыры кулямёты і дваццаць пяць аўтаматаў. Але таварыш Райцаў рашыў даць бой карнікам. Ён распалажыў сваіх байцоў у раёне вёскі Плоты так, каб знянацку ўдарыць па фашыстах з фронту і з флангаў. Аднаму кулямётнаму разліку ён загадаў размясціцца на ўскраіне вёскі Плоты і па сігналу «чырвоная ракета» ўдарыць у тыл карнікам. Гэта заданне было дадзена самаму стойкаму і храбраму партызану Міхаілу Сільніцкаму. Міша са сваім разлікам размясціўся на вышках крайняй хаты. Адгэтуль відаць была вёска Курына, дзе прайшлі яго юнацкія гады і хлапецкія гульні. Цяпер там асталіся бацька і маці, сястра і меншыя браты, якім пагражала страшэнная небяспека ад гітлераўскіх разбойнікаў. Крыўдна стала Мішу за сябе, за сваю сям'ю і родную вёску, за родную Беларусь, якой стаў на грудзі каваны фашысцкі бот. Ён ляжаў за кулямётам і цярпліва чакаў.

На павароце дарогі паказаўся галаўны дазор немцаў. Партызаны яго прапусцілі, не выдаючы свайго месцазнаходжання, і падрыхтаваліся да бою. За дазорам ішлі асноўныя

сілы карнікаў. Сцепаючыся ад холаду, паўбіраўшы галовы ў плечы, яны пляліся за санямі, на якіх ляжала іх зброя. Яны падышлі ўжо на сто метраў, а партызаны ўсё не адкрывалі агню. Толькі калі фашысты падышлі метраў на пяцьдзесят, партызаны раптам секанулі па калоне з кулямётаў, аўтаматаў і вінтовак.

Шмат фашыстаў лягло трупамі. Яшчэ больш курчылася ад болю, сплываючы крывёй. Астатнія кінуліся ў бакі. Але і тут іх касілі партызанскія кулі. Здагадаўшыся, што яны трапілі ў агнявы мяшок, фашысты кінуліся назад. Тады ўзвілася чырвоная ракета і загаварыў кулямёт Сільніцкага. Праз кароткі час шэсцьдзесят трупаў фашысцкіх салдат і афіцэраў валяліся на снезе. Але і становішча Сільніцкага было крытычным. Карнікам другога выхаду не было, як толькі прарвацца назад. Тут быў толькі адзін кулямёт. Фашысты гэта заўважылі і насядалі ўсё мацней. У Сільніцкага засталося ўсяго тры стужкі патронаў, і ён вёў агонь вельмі эканомна: толькі калі фашысты падымаліся на ўвесь рост, даваў па іх кароткую чаргу.

Калі ў Сільніцкага засталася толькі адна стужка патронаў, да фашыстаў падышло падмацаванне. Сільніцкі апынуўся ў агнявым кальцы.

Ён біўся да апошняга патрона і, калі больш не было чым страляць, рашыў адысці да сваіх. У час перабежкі куля прашыла яму нагу. Ён упаў і папоўз, цягнучы за сабой кулямёт. Гітлераўцы ўзрадаваліся і рашылі ўзяць адважнага партызана жывым.

Калі яны сталі падпаўзаць да яго, Сільніцкі выхапіў наган і стаў расстрэльваць фашыстаў з блізкай адлегласці. У гэты час куля прабіла яму правую руку. Сільніцкі бачыў, што яму ўжо не выратавацца, што прыйшоў яго канец, але малады патрыёт і не думаў здавацца. Ён рашыў біцца з ненавіснымі ворагамі да апошняга дыхання. Ён узяў наган у левую руку і, калі фашысты падпаўзлі на пяць метраў, выпусціў два апошнія патроны. Два гітлераўцы былі забіты напавал. Тады Сільніцкі выхапіў фінку, кінуўся на фашыстаў і закалоў яшчэ двух вырадкаў.

Зранены, сплываючы крывёй, ён біўся да апошняга дыхання, пакуль не перастала біцца яго мужнае сэрца.

Так загінуў адзін з лепшых сыноў беларускага народа, камсамолец, партызан-кулямётчык Міхаіл Сільніцкі.

Немцы адышлі, панёсшы вялікія страты ад партызан.

Яны нават не здолелі забраць усіх трупаў сваіх салдат. Назаўтра цэлы дзень над месцам бою кружыліся нямецкія самалёты. Людзі чакалі, што вось-вось фашысты прыедуць забіраць сваіх забітых. Бацькі даведаліся аб смерці Мішы 29-га зранку. Калі сцямнела, Фёдар Іванавіч крадком завёз труп Мішы да сваіх знаёмых у суседнюю вёску Заполле, дзе Міша нарадзіўся і жыў у маленстве. Сюды сярод ночы сышліся людзі з суседніх вёсак — Кулакова, Кабыльнікаў, Плотаў, каб назаўсёды развітацца з курынскім хлопцам Мішам Сільніцкім, якога яны так любілі за кіпучую натуру і чулае сэрца, за вясёлы характар, за песні, за танцы, за геройства і вернасць народу.

Людзі прынеслі ядлаўцовыя вянкі, кветкі, зробленыя з каляровай паперы. Адна дзяўчына з вёскі Плоты прынесла шырокую блакітную стужку. Як толькі маглі, прыбралі дзяўчаты Мішу ў апошняе падарожжа.

Мужчыны, нягледзячы на вялікую небяспеку трапіць пад нямецкія кулі, пайшлі ноччу на Курынскі могільнік капаць магілу.

На досвітку камякі сырога жвіру глуха ўпалі на сасновае века труны.

Цяпер над адзінокай Мішавай магілай шумяць пасаджаныя клапатлівай рукой бярозкі і кусцікі бэзу. Але недалёка той час, калі над радзімай Мішы Сільніцкага зноў будзе развявацца чырвоны сцяг. І тады ў яго роднай вёсцы, на высокім беразе Заходняй Дзвіны, будзе пастаўлены помнік Герою Савецкага Саюза Міхаілу Сільніцкаму, і падарожны з пашанай прачытае на пастаменце кароткі надпіс аб яго подзвігу. І плытагоны, зняўшы шапкі, праплывуць міма яго, і разам з імі ўніз па Дзвіне, аж да самага Балтыйскага мора, паплыве легенда аб подзвігу маладога патрыёта. Слава аб ім будзе перадавацца з пакалення ў пакаленне і будзе запальваць у сэрцах людзей гарачую любоў да сваёй радзімы, да свайго народа і яго слаўных сыноў.

*1943*

## ЧАГО Ж ЯНА «РАДА»?

У Мінску нямецкія акупанты стварылі так званую «Цэнтральную раду» на чале з заядлым фашыстам-памешчыкам Радаславам Астроўскім, якога яны прывезлі з сабой. Фашысцкія разбойнікі думаюць, што рукамі сваіх халуёў ім зручней будзе душыць беларускі народ.

Было гэта нядаўна каля Мінска. Прыйшоў у вёску нейкі злыдзень ды грукаціць кулаком селяніну ў акно:

— Гэй, спадар!

— Што там яшчэ за ліха? — адгукнуўся селянін.

— Адчыні, пусці ў хату.

— А хто ты будзеш?

— Я — Рада.

— Рада?

— Ага, Рада.

— Чаго ж ты, дурная, рада?

— Рада я! Разумееш?

— Не, не разумею. Людзей нашых вешаюць, на катаргу гоняць, и ты рада!

— Ну, годзе дурнем прыкідвацца. Я табе не жартуючы кажу: я — Рада.

— Гарады нашы разбураюць, вёскі паляць, а ты, подлая, рада.

— Я подлая! Чакай, адкажаш ты мне за такія словы.

— Ого! Нешта ты вельмі грозная.

— Бо я — Цэнтральная Рада.

— Ах, цэнтральная!

— Ну, так.

— Чакай... Дык ці не тая гэта рада, што ў 1918 годзе Вільгельму зад лізала?

— Не, другая.

— Ага, другая. Ну, яно вядома: раз зад другі, дык і рада другая. Цяпер, як я дагадваюся, ваша мосць ліжа зад Гітлеру, а не Вільгельму. Хоць я не думаю, каб гэта было смачней. Усё-такі той зад быў царскі.

— Ты адчыніш ці не?

— Чакай, дай гаворку скончыць. А хто ж у вашай Цэнтральнай Радзе самы цэнтральны лізала?

— Старшыня, ты хочаш сказаць? Радаслаў Астроўскі.

— О, гэты можа! Ён яшчэ ў Польшчы налаўчыўся. Калі ўжо Астроўскі паходзіць з языком каля панскага зада, дык зад той аж зіхаціць, не раўнуючы, як медны таз.

— Ну, годзе дурня строіць, адчыняй хутчэй!
— Я дурня не строю. Ён сам да мяне хоча прыстроіцца. А ў хату цябе пускаць не выпадае.
— Чаму?
— Ды, бачыш, у мяне ў хаце паветра не да твайго носа. Ты прывык да Гітлеравай парфумы. Кажы адтуль, што табе трэба?
— Сын у цябе ёсць?
— Ёсць.
— То няхай ідзе на зборны пункт. Рада аб'явіла мабілізацыю ўсіх мужчын ад 16 да 57 год.
— А чыё гэта войска будзе?
— Наша.
— А з кім яно будзе ваяваць?
— Вядома, з кім. З бальшавікамі і з усімі, хто ідзе супроць новага парадку.
— Ага, разумею: значыцца, наша войска будзе ваяваць з намі.
— Што ты там мармычаш?
— Я кажу — усё ясна.
— Дык прыйдзе сын?
— Уга! Дзіва што прыйдзе!
— То няхай апранаецца, разам пойдзем.
— Яго дома няма. Ты ідзі сабе. Я накажу, то ён цябе дагоніць.
— Глядзі ж, каб дагнаў.
— Наконт гэтага будзь спакоен.
Не ўспела «Рада» адысці ад вёскі і двух кіламетраў, як сын таго селяніна сапраўды дагнаў яе. Толькі яна ўжо была не «рада», бо праз мінуту вісела на высокай прыдарожнай асіне, высунуўшы даўжэзны язык, з якім яшчэ нядаўна так спрытна ўвіхалася каля фашысцкага зада.

*1944*

## «Я БЫЎ У ТРАСЦЯНЦЫ»

Аднае раніцы ў Мінску да мяне зайшоў чалавек — высокі, гадоў пад трыццаць. Левае вока яго закрывала марлевая павязка. След сукравіцы на шчацэ пад павязкай гаварыў аб тым, што рана яшчэ не зажыла.

Я падаў чалавеку крэсла і запрасіў сесці. Мне неяк няёмка было запытацца, чаго ён прыйшоў. Я сеў супроць і прыгатаваўся слухаць. На мой дапытлівы позірк чалавек адказаў: «Я быў у Трасцянцы».

— Значыць, вы з таго свету?

Чалавек кіўнуў галавой.

— Вось сюды трапіла куля...— На шыі з левага боку ён намацаў след зарубцаванай раны.— ...Выйшла пад вокам. Вока выцекла. Учора вынялі.

Я наліў чалавеку з тэрмаса кубак чаю і палажыў пячэнне. Ён паспрабаваў укусіць, але гэта каштавала яму вялікіх намаганняў: рот у яго разяўляўся крыху толькі з правага боку. Чалавек адлажыў надкусаны скрылік і, прыхлёбваючы чай, пачаў расказваць сваю страшную гісторыю.

...Зваць мяне Валахановіч Мікола Іванавіч. Пры немцах я ўвесь час працаваў у Негарэлым — дзяжурным па станцыі. Два тыдні не дацягнуў да вызвалення. Схапілі мяне 20 чэрвеня. Даведаліся, што быў агентам спецгрупы і даваў звесткі аб руху паяздоў. Білі... Страшэнна білі... Гумай і тоўстым провадам. Прасякалі мяса аж да касці. Дапытваліся, дзе ёсць партызанскія атрады і хто яшчэ з імі звязан. «Не ведаю»,— адказваў я, пакуль мог гаварыць. «Не ведаеш, дык кладзіся!» — крычалі яны і білі зноў. Калі траціў прытомнасць, адлівалі вадою і білі далей. Нікога не выдаў.

З Негарэлага мяне прывезлі ў Мінск, у засценак СД, які быў на вуліцы Астроўскага, у доме № 7. Дваццаць восьмага чэрвеня нас адтуль перавялі ў гарадскую турму. А дваццаць дзевятага ранічкой — пачалося. Нам загадалі пакінуць у памяшканні верхнюю вопратку і выходзіць у двор. На дварэ нас пачалі грузіць у машыны... Гэта былі велізарныя прычэпы. Нас у машыну не саджалі, а клалі. На дно кузава лёг адзін рад, на яго — другі, потым трэці. Калі напакавалі чалавек сто, наверх сеў фашыст з дубінкай, і машыну зачынілі наглуха. Хто спрабаваў паварушыцца, фашыст біў таго палкай па галаве.

Так нас прывезлі ў Трасцянец і выгрузілі ў лагеры, дзе перад гэтым былі яўрэі. Мы людзей ужо не засталі; асталася сякая-такая адзежа, кацялкі, рэшткі хлеба і бульбы.

Некаторыя з маіх таварышаў думалі, што нас прыгналі на работу. Яны пачалі збіраць бульбу, каб зварыць. Але я зразу сказаў, што не на добрае нас сюды прывезлі, і не

наўме мне была яда. Сапраўды, не прайшло і паўгадзіны, як скамандавалі: «Выходзь!» На гэты раз нас грузілі ў меншыя машыны — чорныя, закрытыя, з дзверцамі ззаду, і мы ўжо не ляжалі, а стаялі, трымаючыся адзін за аднаго. Я ў лагеры стаяў каля самага выхаду і трапіў у першую машыну. Калі нас напхалі, колькі магло ўлезці, дзверы зачыніліся, і машына кранулася.

Цяпер не было ніякага сумнення, што нас вязуць на смерць. Хутка машына спынілася, і дзверцы адчыніліся перад самымі варотамі вялікай калгаснай аборы.

«Пяць чалавек — выходзь!» — скамандаваў фашыст.

Як толькі яны выйшлі, дзверцы зачыніліся, і зараз жа пачуліся стрэлы. Мы пачалі развітвацца. Нехта крыкнуў: «Рві на сабе ўсё, каб праклятым фашыстам нічога не асталося!» Мы сталі рваць на сабе кашулі, штаны, а хто здужаў, парваў і чаравікі. Вывелі яшчэ адну пяцёрку, а потым сталі выводзіць па тры чалавекі, бо першыя спрабавалі разбягацца. Кожнай тройцы камандавалі: «Рукі ўгору, саскоквай!» Я быў у ліку апошніх пяці чалавек. Трое нас па камандзе злезлі з машыны і зразу трапілі ў вароты аборы. Нас узагналі на кучу расстраляных нашых таварышаў. Я ўпаў, не пачуўшы стрэлу і не адчуўшы болю. Зразу страціў прытомнасць, але, відаць, на вельмі кароткі час, бо, ачнуўшыся, чуў, як расстрэльвалі астатніх двух з нашай пяцёркі. Я нават пазнаў голас свайго земляка, які сказаў: «Нізавошта гіну».

Я здагадаўся, што застаўся жывы, толькі не ведаў, якім чынам. Нават не ведаў, ранены я ці не. Як бы там ні было, я рашыў не варушыцца. Я чуў, як ад'язджала парожняя машына. Тады салдаты пачалі закідваць трупы саломай, сухім галлём, кідаць цэлыя запальныя бомбы (я іх пасля разгледзеў). Адзін салдат наступіў мне на спіну і галаву. Я не варушыўся. Я чуў, як хвілін праз дзесяць прыйшла наступная машына. Людзей зноў пачалі выводзіць. Іх узганялі на груду трупаў, у якой я ляжаў, і тут расстрэльвалі. Я чуў, як нада мною людзі прасіліся, праклінаді. Адна жанчына крыкнула па-беларуску: «Няхай жыве Савецкі Саюз!» Фашыст з бруднай лаянкай пусціў у яе кулю. Трупы падалі проста на мяне. Цёплая кроў цякла ў мяне па плячах, па шыі. Я не варушыўся.

Так я ляжаў да самага цямна. І да самага цямна праз кароткія прамежкі пад'язджалі да аборы гружаныя людзьмі

машыны і ад'язджалі парожнія. Да самага цямна чуліся ў аборы аўтаматныя стрэлы.

Калі ля адных варот навярнулі столькі трупаў, што ўжо нельга было разгружаць машыну, іх пачалі падвозіць да другіх варот, потым да трэціх. Я ўсё ляжаў і не варушыўся. Толькі раз паспрабаваў крануць рукамі і нагамі. Яны былі як быццам цэлыя. Толькі рука, на якой я ляжаў, зацякла, адзервянела, і я яе не адчуваў. Пасля яе пабіла на раны.

Нарэшце сціхлі стрэлы. У аборы стала цёмна. Дзе-нідзе стагналі недабітыя людзі. Адзін хлапец-падростак усё прасіўся: «Паночак, дабі мяне». На яго голас доўга ніхто не адгукаўся. Нарэшце ў абору ўвайшоў вартавы, засвяціў ліхтаром і спытаў: «Дзе ты?» — «Тут»,— адказаў хлопец. «Падымі руку!» — скамандаваў салдат. Рука паднялася, салдат выпусціў чаргу з аўтамата, і хлапец сціх.

Калі вартавы выйшаў, я асцярожна рассунуў трупы і выбраўся наверх. Перш за ўсё я хацеў даведацца, куды я ранены. І пачаў сябе абмацваць, бо болю ўсё яшчэ не адчуваў. Левае вока маё не расплюшчвалася. Па гэтым я пазнаў, што рана недзе каля вока. Потым я абмацаў рану і на шыі. Вялікай слабасці я не адчуваў і рашыў уцякаць. Каб зручней было, я скінуў чаравікі. Яны ўсярэдзіне былі слізкія ад крыві. Потым я асцярожна папоўз па трупах, шукаючы выйсця. У адным месцы наткнуўся на жывога чалавека. «Братка,— піць, паміраю!» — папрасіў ён у мяне. Я сказаў, што таксама страшэнна хачу піць, але вады няма. «Вунь у тым кутку расстрэльвалі прывезеных з Мінскага лагера. У іх былі кацялкі і бутэлькі!» — сказаў мне чалавек. Я папоўз у той куток, куды ён паказаў. Абмацаў некалькі трупаў, але вады не знайшоў і вярнуўся да свайго новага знаёмага. Ён сказаў, што сам з-пад Брэста і таксама збіраецца ўцякаць, але высветлілася, што ён ранены ў руку і нагу. Уцякаць яму было цяжка. Я папоўз далей, прыслухоўваючыся, што робіцца знадворку.

Каля кожных варот хадзіў вартавы. Часамі яны перакліkаліся паміж сабою. Уцякаць было нельга. Каля адных варот над земляным токам узвышаўся памост, на якім стаяла сячкарня. Я залез пад памост, абклаўся трупамі і стаў чакаць зручнага моманту. Калі пачало віднець, мне здалося, што вартавы ад варот адышоўся. Я пачаў вылазіць з-пад памоста, але ў гэты час вартавы глянуў у абору і,

заўважыўшы варушэнне, стрэліў у мяне. Куля толькі апаліла мне нагу. Але я выпрастаўся, прыкінуўшыся забітым.

Хутка развіднела. Гэта была раніца 30 чэрвеня. У абору прыйшлі два нямецкія афіцэры. Зноў пачалі пад'язджаць машыны, пачаліся расстрэлы. Я ляжаў і чакаў. Нарэшце пад поўдзень, у часе кароткага перапынку, у абору зноў увайшлі афіцэры. Яны прайшлі па трупах уздоўж усяе аборы, гаворачы паміж сабою па-нямецку. А я за тры гады крыху навучыўся разумець іхнюю мову. «Прасмердлі, мабыць»,— сказаў адзін. «За адны суткі — не можа быць»,— адказаў другі. «Вось зараз скончым, тады запалім».

Я рашыў уцякаць, што б там ні было. Лепш ад кулі памерці, чым згарэць жывым. У гэты час да процілеглага канца аборы падвезлі чарговую машыну і пачалі расстрэльваць прывезеных. Афіцэры пайшлі туды. Я падпоўз да варот і паглядзеў праз шчыліну. Вартавога не відаць было. Я выпаўз на двор і схаваўся за створку расчыненых варот. Агледзеўся: з аднаго боку, недалёка, было азярцо і кусты, з другога, метраў за дваццаць пяць ад аборы,— жыта. Прыкрываючыся створкаю варот, і папоўз у жыта і, прапоўзшы па ім метраў трыццаць, лёг. Далей паўзці было небяспечна — месца было адкрытае і па шашы хадзіў вартавы. Не ведаю, як гэта магло стацца, толькі я зараз жа моцна заснуў. Прачнуўся ад страшнага болю. Сонца напякло рану, і ўвесь левы бок галавы распух. Яшчэ страшэнна хацелася піць. Сонца ўжо хілілася к захаду, а ў аборы расстрэлы не спыняліся: я чуў, як пад'язджалі машыны, чуў енкі і праклёны людзей і аўтаматныя стрэлы.

Адвячоркам машыны перасталі пад'язджаць. Хутка я пачуў трэск і ўбачыў агонь і дым. Абора гарэла. Адтуль даносіўся страшэнны крык, бесперапынная аўтаматная страляніна. Дабівалі тых, хто быў яшчэ жывы і стараўся выратавацца з агню. Потым усё сціхла. Дачакаўшыся, калі ад аборы ўся варта пайшла, ужо на змярканні, я цераз поле падаўся на захад. Прайшоўшы кіламетры два, я на лузе напаткаў двух сялян — бацьку з сынам. Яны паглядзелі на мяне са страхам і здзіўленнем. Ды не дзіва: я ўвесь быў у сваёй і чужой крыві. Кашуля на мне была парвана на шматкі, валасы ад запечанай маёй крыві стаялі, як дрот.

«Ты з аборы?» — спытаў нарэшце старэйшы.

Ён паказаў мне сцежку да бліжэйшай вёскі. У вёсцы мне далі памыцца, чыстую кашулю, перавязалі рану. Не заходзячы ў хату, [redacted] напіўся вады, перакусіў і пайшоў, але хутка аслабеў і лёг начаваць у жыце. Назаўтра пайшоў далей. Па дарозе два разы натыкаўся на немцаў. Хлусіў ім, што быў у Мінску, трапіў пад бамбёжку і там мяне раніла; цяпер іду дадому, у вёску. Дабраўся нарэшце да вёскі Булынкі, дзе жыў мой сувязны, стрэлачнік Лазоўскі. Ён запрог каня і завёз мяне ў мястэчка Узда, якое ўжо занялі партызаны. Там мяне палажылі ў бальніцу.

Так [redacted] выратаваўся з таго свету,— закончыў сваё страшнае апавяданне Мікалай Валахановіч.

[redacted] маўчаў. Усякія словы абурэння, здзіўлення, гневу гучалі б занадта бледна і банальна ў параўнанні з тым, што простымі словамі расказаў мне гэты чалавек, які пабыў на самым дне фашысцкага пекла і вярнуўся зноў да жыцця.

*1944*

## НАГЛЯДНАЯ ГЕАГРАФІЯ

Пасля доўгачасовай гарачай і халоднай апрацоўкі на савецка-германскім фронце обер-лейтэнант Рудольф Крохер вярнуўся нарэшце дадому.

— Дзеткі, бацька прыехаў! — крыкнула фрау Амалія і кінулася на вуліцу.

«Дзякаваць богу, жывы і здаровы»,— думала Амалія, падыходзячы да фаэтона. А Рудзі сядзеў і не кратаўся, чакаючы, пакуль жонка падыдзе да яго. Амалія кінулася яму на шыю і на момант замерла. Толькі пасля гэтага яна глянула мужу ў твар.

— Божа мой! Што гэта ў цябе?— крыкнула яна.

— Гэта Арол,— з невясёлай усмешкай адказаў Рудзі.

Страшны шрам на ўсю правую шчаку зусім не падобны быў на птушку.

— Вас іст дас — Арол? — здзіўлена глянула Амалія на мужа.

— Рускі горад.

Амалія, разумеючы, кіўнула галавою.

— Сэрца маё знnetworks па табе. Чаму ты так доўга не ехаў?

— Я да цябе на аднойназе скакаў,— горка пажартаваў Рудзі і адкрыў плед, каб злезці з воза. На возе побач са здаровай правай нагой ляжала драўляная калодка, праўда, дасканала падробленая пад левую нагу.

— І гэта Арол? — запыталася Амалія.

— Не, гэта ўжо Орша.

Амалія памагла мужу злезці, і ён, апіраючыся на яе плячо, пачыкільгаў у хату.

— І пасля гэтага цябе яшчэ не адпускалі? — з крыўдай у голасе спытала жонка.

— Фюрар лічыць, што і на такіх нагах можна дайсці да пераможнага канца,— сумна ўсміхнуўся Рудзі.

Вечарам, мяняючы Рудольфу бялізну, Амалія ўбачыла на ім, як на добрай геаграфічнай карце апрача Арла і Оршы яшчэ цэлы рад буйных і дробных населеных пунктаў — рускіх, украінскіх і беларускіх. Сярод іх быў адзін нямецкі — Шталупенен, але знаходзіўся ён на такой нязручнай мясцовасці, што Рудзі нават Амаліі саромеўся яго паказаць, пакуль яна сама не знайшла.

Цэлую ноч Рудзі і Амалія правялі ў гутарцы. Амалія абмацвала які-небудзь населены пункт, а Рудзі расказваў ёй доўгую і жаласную гісторыю, як яго ў гэтым пункце білі. Амалія пры гэтым плакала і пакрывала пацалункамі Оршу і яе ваколіцы альбо якую-небудзь партызанскую вёску Камлюкі.

На світанні так дайшлі яны да Шталупенена. Гісторыя была вельмі жаласная, і Амалія плакала, як бабрыха, але калі справа дайшла да пацалунка...

Рудзі не ведаў, што яму рабіць. Ён хацеў далікатна асцерагчы жонку. Але яна глыбока ўздыхнула і прамовіла:

— А ў Шталупенен няхай табе фюрар пацалуе.

Так яны на тым і пагадзіліся.

*1944*

## ЛОНДАН

*(Першыя ўражанні)*

### I

Туманны Альбіён... Гэта назва нездарма прыстасавалася да краіны, у якой мы цяпер знаходзімся. Лондан я ўбачыў упершыню праз разрывы воблакаў, якія шырокім патокам плылі насустрач нашаму самалёту. Велізарны горад прыкрыты быў зверху туманнай пеляной. Але гэта быў яшчэ не той туман. Ён амаль нічым не адрозніваўся ад звычайнага нашага беларускага туману і нават даў магчымасць нашаму самалёту прызямліцца. Я быў амаль што расчараваны. Затое праз два-тры дні быў я «задаволены» поўнасцю, калі апынуўся ў тым «лонданскім супе», у якім нават удзень машыны ходзяць з запаленымі фарамі і то вобмацкам. Аказваецца, дзень нашага прылёту быў адным з найбольш ясных дзён, якія так рэдка здараюцца ў Англіі ў гэту пару года.

Якім жа выдаецца Лондан, калі глядзець на яго не з вышыні птушынага палёту? Гэтага я яшчэ не разгледзеў. І не толькі таму, што мне туман перашкаджаў. Як добра вядома маім чытачам, «вялікі Лондан» — гэта вельмі вялікі горад, у якім жыве каля адной пятай часткі насельніцтва Англіі. Але «малы Лондан» (без прыгарадаў) — таксама не маленькі, калі прыняць пад увагу, што ён налічвае не менш шасці мільёнаў жыхароў. Нават для павярхоўнага азнаямлення з ім патрэбна нямала часу. Таму я не абяцаю ў гэтым маленькім нарысе даць поўны малюнак велізарнага горада. Я хачу падзяліцца з чытачамі толькі першымі сваімі ўражаннямі.

Ступіўшы ўпершыню на асфальт лонданскай вуліцы, вы адчуваеце некаторы непакой, бачачы велізарную колькасць машын розных марак, што ідуць суцэльным патокам, у якім дамінуюць двухпавярховыя чырвоныя басы (аўтобусы). Непакой гэты павялічваецца, калі вам даводзіцца пераходзіць цераз вуліцу. Справа ў тым, што тут ездзяць па левым баку і, пераходзячы цераз вуліцу, вам трэба глядзець спачатку направа, а потым налева, а не наадварот, як вы прывыклі ў сябе на радзіме. Забыццё гэтага правіла можа вам дорага каштаваць, тым больш што тутэйшыя шафёры не маюць звычкі даваць папярэднія сігналы, і вы

можаце спадзявацца толькі на добрыя тармазы англійскіх машын. Праз два дні вы прызвычайваецеся аўтаматычна паварочваць галаву ў патрэбны бок і навучаецеся пераходзіць вуліцу не горш за лонданцаў. Тады гэты занятак не займае ўсяе вашай увагі, і вы апрача машын пачынаеце заўважаць яшчэ сёе-тое. Вы заўважаеце, што ў цэнтры Лондана, побач з шырокімі магістралямі, ёсць шмат вуліц вельмі вузкіх, на якіх ледзь могуць размінуцца дзве машыны; што шматпавярховыя дамы не ўсе аднолькавыя: іх архітэктура сведчыць аб тым, што яны будаваліся ў розныя эпохі і што горад адлюстроўвае напластаванне вякоў, якія ён пражыў. Чым старэйшы будынак, чым больш пацямнеў ён ад часу, тым большай пашанай карыстаецца ён у англічан, якія ўмеюць цаніць старажытнасць.

Сярод шэрагаў каменных будынкаў вашу ўвагу прыцягвае велічны будынак сабора святога Паўла, вакол якога, дарэчы кажучы, вы заўважыце шмат слядоў разбурэнняў ад нямецкіх бамбёжак. На пэўнай адлегласці ад яго імкнуцца ў неба вежы будынка англійскага парламента, які знаходзіцца на беразе Тэмзы. Тут жа недалёка ўзвышаецца крыху пахмурны будынак Вестмінстэрскага абацтва — пантэон, у якім знаходзяцца грабніцы англійскіх каралёў і мемарыяльныя дошкі, прысвечаныя памяці вялікіх людзей Англіі, у тым ліку памяці геніяльнага Шэкспіра.

Побач — упрыгожаны нацыянальнымі сцягамі пяцідзесяці адной дзяржавы — Цэнтрал-Хол, у якім адбываюцца пленарныя пасяджэнні Генеральнай Асамблеі Аб'яднаных Нацый. І зусім недалёка адгэтуль рэзідэнцыя караля — знакаміты Букінгемскі палац з каралеўскімі казармамі і пляцам побач з ім, на якім штодзённа можна наглядаць, як пад гукі духавога аркестра адбываецца развод і змена каралеўскай варты.

Гэта тое, што кідаецца вам у вочы з першага позірку на Лондан. Шмат якія іншыя будынкі таксама прыцягваюць вашу ўвагу, але вы адкладваеце знаёмства з імі да другога разу і спяшаецеся пазнаёміцца з помнікамі, якія знаходзяцца ў розных месцах горада і з'яўляюцца як бы вехамі на шляху ў гістарычнае мінулае Англіі. У цэнтры горада, на Трафальгар-сквер, высока ўзнімаецца чорная мармуровая калона з капітэллю і на ёй — фігура героя Трафальгарскай бітвы — адмірала Нельсана. Гэта выгаднае становішча дазваляе Нельсану глядзець зверху ўніз на ўсіх іншых англійскіх адміралаў і генералаў, якія праходзяць

і праязджаюць па Трафальгарскім скверы. Пляц гэты з'яўляецца месцам масавых мітынгаў і народных гулянняў. Незразумела толькі, чаму ён называецца скверам. Назва гэта адносіцца, відаць, да далёкага мінулага. Цяпер гэта, дарэчы сказаць, вельмі невялікая сваімі памерамі плошча, застаўленая да таго ж акружаючымі Нельсана каменнымі львамі, не мае амаль ніякай расліннасці, калі не лічыць выдатных пейзажаў, што знаходзяцца ў Нацыянальнай галерэі, змешчанай на гэтай жа плошчы.

Далей спыняе на сабе вашу ўвагу вялікасны помнік каралеве Вікторыі і яшчэ далей, у Гайд-парку,— помнік, які гэта каралева паставіла свайму мужу Альберту, відаць, у прыклад усім жонкам, якія павінны цаніць сваіх добрых мужоў.

Помнік ахвярам першай сусветнай вайны і іншыя помнікі, звязаныя з важнейшымі гістарычнымі падзеямі Англіі,— гэта такія выдатнасці, ля якіх не пройдзеш, каб не спыніцца і не аддаць належнага архітэктарам і скульптарам, якія іх стварылі... Але ёсць і больш сціплыя помнікі, у выглядзе бронзавых коннікаў у капелюшах, ля якіх вы праязджаеце кожны дзень і знаёмства з якімі адкладваеце да наступнага разу. Гэта, мабыць, таксама каралі, якія чакаюць вашай увагі, і вас пачынае крыху мучыць сумленне. Але вас ужо цягне далей. Вам хочацца зазірнуць за гэтыя каменныя сцены. Вы, яшчэ выязджаючы з дому, далі сабе слова пабываць у Брытанскім музеі. Там, на жаль, яшчэ не ўсе экспанаты вярнуліся на месца пасля эвакуацыі, і вы накіроўваецеся ў Нацыянальную галерэю, дзе ўбачыце цудоўныя палотны Рафаэля, Тыцыяна, Веласкеса, Рэмбранта, Рубенса і іншых вялікіх майстроў, якія хоць і не былі падданымі англійскага караля, але цалкам заслугоўваюць таго, каб іх творы занялі пачэснае месца ў лонданскай Нацыянальнай галерэі.

Пераходзячы з залы ў залу і сузіраючы творы вялікіх мастакоў, вы нарэшце пачынаеце стамляцца ад мноства ўражанняў і адчуваеце, што ўжо не здольны скарыстаць параду дасведчаных людзей і наведаць у той жа дзень музей васковых фігур, вядомы тут над назвай музея мадам Тысо (паводле імя яго заснавальніцы). Вам бы цяпер не шкодзіла пайсці ў Гайд-парк, падыхаць свежым паветрам ды пакарміць чаек, але дождж перашкаджае вам ажыццявіць сваё жаданне, і вы адкладваеце гэту прыемнасць да наступнага разу.

## II

У мінулы раз мы з вамі хацелі заглянуць у музей васковых фігур мадам Тысо. Для гэтага лепш за ўсё праехаць на метро да станцыі Бекер-стрыт. Паколькі тут ніякіх наземных збудаванняў метро няма, дык вы проста спускайцеся па прыступках у агароджаную жалезнымі кратамі дзірку, што каля тратуара, і апыніцеся ў метро. Толькі не заблытайцеся: тут вузлавыя станцыі, адпаведна лініям метро, будуюцца часта ў два паверхі і маюць па шэсць і па восем платформ.

Спусціўшыся ў метро, вы будзеце крыху расчараваны: тут няма ні мармуру, ні роспісу, ні архітэктурных упрыгожанняў, якія вы прывыклі бачыць у маскоўскім метро. Шэравата,— скажаце вы, убачыўшы ўпершыню лонданскае метро. Але вы з павагай выслухаеце паведамленне аб тым, што агульная працягласць яго ліній мае каля пяцісот кіламетраў. У вагоне, як навічку, вам спадабаецца тое, што на сцяне, побач з вашым месцам, намалявана схема лініі, па якой вы едзеце. Паглядзеўшы на схему, вы заўсёды можаце даведацца, колькі і якія станцыі вам засталося праехаць да патрэбнага прыпынку.

Вось і Бекер-стрыт. Завярнуўшы за вугал і прайшоўшы крокаў дзвесце, вы лёгка знойдзеце музей мадам Тысо. Адчыніўшы дзверы, вы спыніцеся ў здзіўленні, убачыўшы перад сабой двух зусім аднолькавых швейцараў. Толькі пасля таго як адзін з іх зварухнецца, вы здагадаецеся, што гэты швейцар жывы, а другі, што стаіць нерухома,— яго дасканалая копія-лялька.

Калі вы ўвойдзеце ў музей, перад вамі паўстане ўся гісторыя Англіі ў ляльках. Тут вы ўбачыце ўсіх яе каралёў, пачынаючы ад Вільгельма I, які памёр каля 900 год таму назад, і канчаючы цяперашнім Георгам VI. Апрача каралёў тут прадстаўлены і іншыя выдатныя людзі Англіі: міністры, палкаводцы, пісьменнікі, артысты, лётчыкі, спартсмены.

Вы ўбачыце тут і дзяржаўных дзеячаў іншых краін, у тым ліку каралёў, якія засталіся цяпер без трона, і нават фашысцкіх верхаводаў на чале з Гітлерам, а таксама яго блізкіх сваякоў — Петэна, Лаваля, Франка ў накінутым на плечы элеганцкім плашчы. Усё зроблена вельмі дасканала, і фігуры маюць вялікае партрэтнае падабенства да арыгіналаў.

Калі вы любіце моцныя ўражанні, спусціцеся ў сутарэнне. Там вы ўбачыце лялькі вядомых забойцаў, у тым ліку Шарлоту Кардэ, якая забівае Марата, убачыце гільятыну ў дзеянні, пакаранне смерцю Людовіка XVI і Марыі Антуанеты, а таксама шмат іншых рэчаў, якія моцна дзейнічаюць на нервы.

Выйшаўшы са змрочнага сутарэння, вы нарэшце ажыццяўляеце ваш намер пабываць у знакамітым Гайд-парку. Знакаміты ён перш за ўсё сваімі памерамі, займаючы плошчу ў некалькі квадратовых кіламетраў. Цяпер парк пусты. Велізарныя старыя дрэвы стаяць голыя, хоць трава пад імі зялёная, амаль як вясной. Пасярэдзіне, як люстэрка ў зялёнай аправе, блішчыць сажалка. На ёй — велізарная колькасць чаек, сярод якіх велічна плаваюць белыя лебедзі. Чайкі тут рахманыя. Убачыўшы ежу, яны з крыкам кідаюцца на яе цэлай чарадой і хапаюць нават з рук.

Наогул, лонданцы любяць птушак і жывёлу. Часта можна наглядаць, напрыклад, як у Трафальгарскім скверы кормяць галубоў. Яны цэлымі чародамі злятаюцца сюды на баль, снуюць паміж людзей, садзяцца прахожым на плечы. Асаблівай жа любоўю карыстаюцца тут сабакі і каты. На кожным кроку вы можаце сустрэць мужчыну, а часцей даму, якія вядуць на павадку сабаку, а то і двух і нават трох. Сабакі раскатваюцца са сваімі гаспадарамі ў машынах. А каты — велізарныя, сытыя, гладкія — сустракаюцца ўсюды. На сабак уведзены адмысловыя харчовыя карткі, а таксама існуюць спецыяльныя магазіны, дзе для сабак прадаецца снараджэнне, абмундзіраванне, лякарствы і ўсё неабходнае для наладжання сабачага дабрабыту. У лонданскіх газетах часта можна сустрэць партрэты чымнебудзь знакамітых сабак і катоў. Некаторыя жаласлівыя дамы, у выпадку смерці іх улюбёнцаў, ставяць ім нават помнікі з чуллівымі эпітафіямі.

Але вернемся ў Гайд-парк, дзе апрача сабак сустрэнем таксама і коней, праўдзівей, ездакоў — джэнтльменаў і лэдзі, якія групамі і па адным прагульваюцца па дарожках парку. Самай жа галоўнай выдатнасцю Гайд-парку з'яўляюцца прапаведнікі і ўсялякія прамоўцы. Па нядзелях ідуць яны ў парк, некаторыя са сваімі паходнымі трыбунамі, становяцца ў позу і прамаўляюць, ажыццяўляючы такім чынам права на «свабоду» слова. Ім ніхто не перашкаджае, але амаль ніхто і не слухае. Калі вакол такога прамоўцы збярэцца дзесятак-другі чалавек, ён можа лічыць гэта сваім поспехам.

Але вось паліў дождж і прымусіў вас пакінуць парк. Дзіўная пагода ў пачатку лютага! І такая ўся зіма — туманы ды дажджы. Хаця, кажуць, у Лондане ёсць нават каток. Толькі знаходзіцца ён у зачыненым памяшканні, лёд на ім штучны, і канькабежцы катаюцца ў трусіках.

Амаль бесперапынныя дажджы не ўплываюць на настрой лонданцаў. Яны, як заўсёды, сур'ёзныя, дзелавітыя і нічым не парушаюць заведзенага парадку. У восем гадзін яны акуратна ядуць свой брэкфэст (снеданне), у дзевяць ідуць на работу, а першай гадзіне ядуць ленч (абед) і да шасці гадзін работу канчаюць. У іх яшчэ застаецца тры гадзіны, каб схадзіць у кіно або тэатр. У тэатрах спектаклі пачынаюцца ў 6.30 і канчаюцца ў 9 гадзін. У 10 гадзін гарадскі транспарт спыняе рух, і вуліцы Лондана пусцеюць. Асабліва ж пустыя яны па нядзелях. Канторы і магазіны зачынены, людзей і машын на вуліцах вельмі мала, і здаецца, што гэта зусім не той Лондан, у якім учора ўсё кіпела і бурліла.

Што яшчэ здзіўляе вас у цэнтры Лондана — гэта амаль поўная адсутнасць дзяцей. Тлумачыцца гэта, як відаць, тым, што лонданскае Сіці — нежылы раён горада. У ім знаходзяцца банкі, канторы, магазіны, і лонданцы прыязджаюць сюды толькі на работу. Хаця трэба сказаць, што і ў іншых раёнах горада дзяцей на вуліцах вельмі мала.

Што пакіне ў вас прыемны ўспамін аб Лондане — гэта далікатнасць у абыходжанні, якая ў лонданцаў вонкава выяўляецца галоўным чынам у слове тэнк'ю (дзякую). Ці вы зрабілі якую ласку лонданцу, ці ён вам, усё роўна, ён кажа тэнк'ю. Кандуктар у аўтобусе, выдаўшы вам білет, абавязкова скажа тэнк'ю; швейцар у гасцініцы, аддаючы вам ключ ад нумара, таксама кажа тэнк'ю. Ліфцёр, падняўшы вас на шосты паверх і адчыніўшы кабіну, кажа тэнк'ю. Вы яму адказваеце тым жа і накіроўваецеся ў свой нумар. Па лонданскаму звычаю — пара спаць. Ды і стаміліся вы за дзень у незнаёмым горадзе.

*1946*

## ЦІ БЫЛА Ў ЯГО ГАЛАВА?

*(Старая казка на новы лад)*

На гора ўсяму жывому, усяму разумнаму і светламу з'явілася неяк на свет страшэнная пачвара. Усё, што ёсць на свеце самае крыважэрнае, самае подлае, самае агіднае і смуроднае, сабралася тут у адно месца, перамяшалася, і выйшаў звер не звер, гад не гад, а нешта дагэтуль нябачанае і нячутае, пад назвай Цмок. Тут бы яго і прыдушыць адразу, але суседзі глянулі і адвярнуліся. «Ну і пачвара,— думаюць сабе.— Глядзець агідна». А некаторыя разумнікі сказалі самі сабе: «Няхай гадуецца. Я то з ім паладжу, а вось суседа ён напэўна злопае».

Пачвара тым часам аглянулася сюды-туды, разявіла зяпу дый зараўла:

— Я жраць хачу. Дайце мне Барана.

Пераглянуліся суседзі-разумнікі дый кажуць:

— Дадзім яму Барана. Ён нажарэцца ды супакоіцца, а нас чапаць не будзе.

Злопала пачвара Барана, аблізалася ды яшчэ мацней зараўла:

— Я жраць хачу! Дайце мне Казла!

Параіліся разумнікі дый вырашылі:

— Ахвяруем. На тое ён і Казёл, каб быць казлом адпушчэння. Цяпер-то мы напэўна адкупімся.

Пачвара сажрала Казла, яшчэ шырэй зяпу разявіла:

— Падавайце мне, кажа, Асла! Я жраць хачу.— Тут усе ахнулі. Асёл жа таксама разумнікам хацеў быць і нават лічыўся прыяцелем гэтай пачвары.

— Так ён і да нас дабярэцца,— сказалі разумнікі.— Трэба Асла бараніць, бо дрэнна будзе.

Але пакуль яны збіраліся бараніць, дык Асёл ужо ў пачвары ў трыбуху апынуўся. Добра падмацаваўшыся, пачвара, доўга не чакаючы, узялася за іншых разумнікаў. Таму хрыбеціну надламала, таму паўбока вырвала, за адным захадам праглынула яшчэ некалькі дробных жывёлін і ўявіла, што дужэйшага за яе ва ўсім свеце нікога няма. А навакол гаўляйтары ды паўгаўляйтары, падвывалы ды падпявалы:

— Ты вялікі, Цмок! Ты ўсемагутны, Цмок! Ты ўвесь свет пад ногі можаш падтаптаць.

Ну, у таго й зусім галава закружылася. Зубамі скрыгочучы, зямлю нагамі рые, вачамі, кроўю налітымі, зыркае. Зыркнуў на захад — дрыжыць усё, зыркнуў на поўдзень — ляжыць усё, зыркнуў на поўнач — панікла ўсё, зыркнуў на

ўсход... А гэта што такое? Чаму ніхто не дрыжыць і ніцма не ляжыць?

— А там,— дакладваюць яму падгаўляйтары,— жыве Леў, які думае, што ён таксама дужы.

— Ну што ж, на снеданне мне хопіць і Льва. Вы толькі падвывайце, я зараз.

І сунуўся Цмок да Льва ў пячору. Спачатку галаву ўсунуў, потым па плечы ўсунуўся, а пасля аж па самы азадак. Папінаецца, нагамі ў зямлю ўпіраецца, аж жылы трашчаць. А падвывалы вакол скачуць ды лямантуюць на ўсе галасы:

— Наш бярэ! Глядзіце, глядзіце ўсе! О, Цмок непераможны, слава табе!

Тут пачвара задрыгала дробненька ножкамі і сцішылася.

— Вось ён яго і ўвабраў,— рашылі гаўляйтары. (Гэта значыць Цмок Льва.) — Зараз вылезе.

Гадзіну чакаюць — не вылазіць, другую чакаюць — не вылазіць, на трэцяй гадзіне здагадаліся:

— Трэба дапамагчы, здабыча цяжкая.

Узялі яны Цмока за ногі, выцягнулі з пячоры, сталі навакол ды дзівяцца: усё ёсць, а галавы няма. Дзівіліся, дзівіліся, потым адзін і кажа:

— А ці была ў яго наогул галава, калі ён у пячору лез?

І пачалі яны ўспамінаць ды спрачацца. Адны кажуць — была нейкая, а другія сваё — ніякай не было. Аж, нарэшце, адзін стары гаўляйтар успомніў.

— Была,— кажа.— Я помню, калі ён яшчэ Барана глытаў, дык галавой матаў.

— Тады наша справа — дрэнь,— сказалі ўсе гаўляйтары, падгаўляйтары, падвывалы ды падпявалы.

Гэтым часам Леў ужо вылазіў з пячоры.

*1945*

## РАСЦІЦЕ — НЕ АГЛЯДАЙЦЕСЯ

Скажыце, людзі добрыя, ці ж я вінаваты, што вырас даўжэйшы за работнікаў швейпрома? Расці я пачаў з самага маленства і адразу набраў досыць шпаркія тэмпы. Лежачы ў калысцы і задзіраючы ногі аж да самых вушэй,

я не ведаў, што гэтыя ногі некалі трэба будзе хаваць у штаны, і штаны мне патрэбны будуць больш метра даўжынёй. Не ведаў я тады і таго, што некалі мне прыйдзецца сустрэцца з швейпромам, што работнікі швейпрома — людзі ўсё кароценькія і мераюць сваю прадукцыю на свой кароткі аршын. Не ведаў я ўсяго гэтага і рос сабе, ні на каго не аглядаючыся. Цяпер каюся, але ўжо нічога не зробіш — прыходзіцца пакутаваць праз сваю неасцярожнасць. Вось і надоечы — глянуў я — э! Дык мае ж штаны зусім павыціраліся! Бліщчаць, не раўнуючы, як люстэрка. Яно і не дзіва: на трох-чатырох пасяджэннях кожны дзень прыходзіцца сядзець, дык ужо галаве як папала, а штанам дастаецца. Глянуў я пад сонца — свіцяцца штаны. Пачухаў патыліцу і пайшоў купляць новыя. Заходжу ў магазін гатовага адзення — ляжаць на паліцы і нават нядрэнныя — чорны бастон. Папрасіў прадаўшчыцу паказаць. Падала яна, гляджу — хлапечыя.

— Большых няма? — пытаюся.

— Не, усе такія.

— Дык, можа, будуць пасля даўжэйшыя?

— І пасля не будзе, швейпром толькі такія выпускае.

Пачаў я прымяраць. Так і гэтак прыкідваў — ніяк ніжэй лытак не дастаюць.

— Чорт ведае што такое! — кажу.— Штаноў людскіх не могуць пашыць! На ліліпутаў яны шылі, ці што?

— Самі вінаваты,— спакойна адказала прадаўшчыца.— Не трэба было расці такому.

— Цяпер,— кажу,— позна гаварыць аб гэтым. Але ж на штаны я ўсё-такі маю права?

— Як гэта вы дзіўна разважаеце, грамадзянін,— аж пакрыўдзілася прадаўшчыца.— Вы думаеце толькі аб сабе, а швейпром жа думае аб прамфінплане. Вунь, яны ўжо выканалі яго на 110 працэнтаў. А чаму? А таму, што ў іх як семдзесят сантыметраў матэрыялу, дык і штаны. А цана на дарослыя штаны адна — ці яны доўгія, ці кароткія. А з такімі, як вы, хіба перавыканаеш прамфінплан? Вам жа аднаму трэба метр дзесяць, калі не ўсе метр пятнаццаць.

— Дык што ж мне ўсё-такі рабіць? — запытаў я, прыгнечаны яе доказамі.— Няёмка ж мне ў такіх штанах прыйсці на пасяджэнне хоць бы, скажам, у міністэрства легпрома. Усё ж такі я — асоба, можна сказаць, паважаная.

— А ім што да таго? Яны выконваюць свой прамфінплан, нягледзячы на асобы. А ўжо калі вы хочаце, дык я вам параю, што рабіць. Купіце зразу двое штаноў.

Адрэжце калошы ад адных ды надтачыце другія. Будзеце мець штаны ды яшчэ і трусы ў прыдачу.

Я паслухаў гэтай парады. Не таму, што яна была вельмі разумная, а таму, што без штаноў усё ж такі няёмка.

Пакутую я, можна сказаць, нізавошта. Толькі за тое, што памерам не падышоў пад швейпромаўскія стандарты. Такая мая доля, тут ужо нічога не паправіш. Але ўсё падрастаючае пакаленне я папярэджваю: расціце, дзеткі, ды аглядайцеся. А ўрэшце — не трэба аглядацца. Расціце насмелую. Пакуль вырасцеце, дык швейпромаўскія работнікі таксама падрастуць ды паразумнеюць.

*1946*

## САБАЧАНЁ

Праўду людзі кажуць: воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць. Ёсць у майго суседа сабачанё — ну, каб яно нечага здохла! Так жа ўсім у косці ўелася! Не тое каб яго хто баяўся — божа барані. Сабачанё малое, плюгавае, ад аднае пстрычкі лапы ўгару задрала б. Але звягае яно несціхана, прарэзліва, захлёбваючыся, не шкадуючы сваіх нікчэмных шчанячых сіл. Ідзе сабе чалавек па вуліцы, думае аб сваіх чалавечых справах, а яно знянацку пад ногі — а-я-я-яй! Аж канчаецца, здаецца. І гэта яно не так сабе канчаецца, не дзеля свае сабачай прыемнасці, а ўсё дзеля таго, каб гаспадару дагадзіць. Брэша, за калашыну хапае, а адным вокам усё на гаспадарова акно паглядае,— ці бачыць гаспадар яго такое старанне, а калі бачыць, дык ці ацэньвае па заслугах. Бывае, што і неўпапад зацяўкае, не на таго, на каго гаспадар хоча цяўкаць. «Тубо!» — злосна крычыць гаспадар. Сабачанё тады ўбірае хвост паміж ног і, спусціўшы морду, павольна і вінавата ідзе да гаспадара. Не дайшоўшы крокаў пяць, яно кладзецца на жывот і паўзе да гаспадаровых ног, каб прыняць заслужаную кару — дубцом па спіне.

А калі гаспадар часамі надумаецца па вуліцы прайсці, сабачанё — хвост абаранкам і памчала ўперадзе гаспадара. І ўжо тут нікога не прапусціць: на кожнага пацяўкае, у кожную падваротню загляне, ля кожнага слупка спы-

ніцца. Ужо і спыняцца няма патрэбы, а яно ўсё роўна нагу задзірае, пнецца, колькі сілы мае, у гонар свайго гаспадара. Чалавек сустрэнецца — да чалавека прыстане смалою; фурманка едзе — каню пад ногі кідаецца; барбос ля варот стаіць такі, што яму гэтага сабачаняці на адзін зуб, а яно вышчарыцца і да барбоса лезе. Той і займацца не хоча з брыдою, толькі губу крывіць пагардліва ды ікол паказвае, а сабачанё аж са скуры вылузваецца ды ўсё ззаду забягае, каб хоць за кончык хваста ўшчыпнуць. І ўсё гэта напаказ, дзеля гаспадара: «Глядзі, як я дзеля цябе стараюся! Жыцця не шкадую!»

Бывае, надакучыць другому звяга, замахнецца ён на сабачанё, а гаспадар бровы насупіць:

— Ну, ну, не чапай! Жывёліна заграпічная, грошы каштуе.

І не чапае чалавек. Ці варта праз паскуднае шчаня з суседам адносіны псаваць? Сусед яго сапраўды аднекуль з заграніцы выпісаў — не то з Галандыі, не то аж з Аўстраліі.

...Не чапае чалавек, толькі скажа, сплюнуўшы на зямлю:

— Такую брыду толькі за граніцай і можна знайсці.

*1946*

## МАЯ ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ

Вы, таварышы, заўсёды дакараеце мяне, што я чалавек непрынцыповы, асабліва калі справа даходзіць да крытыкі. Вы так часта аб гэтым гаворыце, што мне нарэшце надакучыла слухаць. Каб скончыць гэту гаворку раз і назаўсёды, я вам аўтарытэтна заяўляю, што я чалавек з цвёрдымі прынцыпамі і дарэмна вы да мяне чэпіцеся. Я, напрыклад, прынцыпова ніколі не крытыкую сваіх прыяцеляў. Як жа гэта можна — выступіць, скажам, на вялікім сходзе і гаварыць пра свайго сябра ўсё, што ты пра яго ведаеш? А можа ж, ён гультай, ці бюракрат, ці як-небудзь незнарок у дзяржаўную кішэнь залез. Дык ці абавязкова ж пра гэта перад усімі трэба плявузгаць? А дружба дзе? Можа, мне вечарам з гэтым чалавекам давядзецца за

чаркай сустрэцца. Як жа я яму ў вочы пагляджу? У мяне дружба на першым месцы, а пакасціць сваім сябрам — гэта свінства, і вы, калі ласка, мяне на гэта не падбухторвайце.

Зноў жа возьмем начальства... Хіба ж я адважуся? Ды божа барані! Старшы ёсць старшы. Мы ж нават дзяцей навучаем: не гаварыце абы-чаго на старшых. А я ж не дзіця. Я разумею, што калі, скажам, Іван Пятровіч начальнік установы, а я толькі яго намеснік, дык ён для мяне старшы, і гаварыць яму прыкрасці проста было б непрыстойна. Калі за ім водзяцца якія-небудзь грашкі, дык гэта не мая справа. Над ім таксама ёсць начальства,— няхай яно і разбіраецца, а мне чаго лезці? Вось мой другі прынцып, таксама цвёрды, і вы, калі ласка, не збівайце мяне з панталыку. Каб я калі што якое супроць начальства... Не, выбачайце, я не так выхаваны.

І наогул я чалавек разважлівы, памяркоўны і лічу, што з людзьмі не трэба сварыцца. Не чапай нікога, і цябе ніхто не зачэпіць. Гэта залатое правіла, якога я заўсёды трымаюся, і мне ні разу не прыходзілася каяцца ў гэтым. Яшчэ мяне мой дзед навучаў некалі: «Не чапайся ні з кім,— казаў ён.— Памятай, што шыбаючы на чужы лоб, трэба і свой падстаўляць». Праўда, я тады быў малады, дурны і часта прыходзіў дадому з гузамі на лбе. Але цяпер дзедава навука мне вельмі прыдалася. Ну, а калі хто мяне першы зачэпіць, тут ужо вы-ба-чай-це! Тут я за сябе пастаю. Тут я ўжо ўсё нутро яго выстаўлю напаказ людзям, навыварат выверну, як панчоху. Не толькі яго самога — усю радню яго перабяру па костачках. Начальству ўсяму парогі паабіваю і ўсё-такі давяду, што ён — сволач. Тут ужо кожны можа пераканацца, што я зусім не супроць крытыкі.

Вось яшчэ пра самакрытыку вы мне часта гаворыце. Ну, гэта я вам скажу, зусім ужо не для мяне. Дзе гэта відана, каб чалавек сам на сябе кляпаў! Вы ж ужо ведаеце, што я на свайго прыяцеля ніколі дрэннага слова не скажу. А хто ж мне найлепшы прыяцель, калі не я сам?

Дык вось які я чалавек, калі хочаце ведаць. А вы гаворыце! Павінен сказаць, што і не адзін я такі. Яшчэ не пераваліся ў нас людзі, якія прытрымліваюцца такіх самых прынцыпаў. Таму яшчэ і можна сяк-так жыць на свеце нашаму брату «стараверу», як нас часамі называюць. Праўда, бывае, што яшчэ і горш называюць. Але ж няхай сабе называюць. Ад гэтага мне нічога не робіцца. Я як быў Мікіта Самасей, так ім і застаўся.

*1946*

## ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ ДАБРАДЗЕІ

Прыйшоў раз Дабрадзей да свайго знаёмага афрыканца дый кажа:

— Ведаеш што, Такі-Сякі-Малы-Аглы... На свеце цяпер неспакойна. Разбойнікі ходзяць, людзей забіваюць.

— Чуў я пра гэта,— адказвае Сякі-Такі-Малы-Аглы, ■ сам калоціцца.

— Хто дужы,— кажа Дабрадзей,— той яшчэ можа з імі змагацца, і то згуртаваўшыся, а ты чалавек слабы, ад разбойнікаў абараніцца не можаш, сядзіш, як мыш пад венікам, ды чакаеш свае смерці.

Засмуціўся Сякі-Такі-Малы-Аглы. «Шчырую праўду кажа Дабрадзей,— думае ён.— Дзе ж мне самому абараніцца!»

— Хата твая,— кажа Дабрадзей,— пры гасцінцы, разбойнікам з рукі якраз. Шкада мне цябе. Сябар ты мне ўсё-такі... і чалавек неблагі. Ды і мне яно нявыгадна, каб разбойнікі ў тваю хату ўлезлі, бо тады і да мяне ім зручней дабрацца. Дык, можа, мы так зробім... Ты пусці мяне ў сваю хату... да часу. Я табе памагу абараніцца. А калі з разбойнікамі ўправімся і на свеце стане спакойна, тады я вызвалю табе тваю хату ды яшчэ й падзякую.

— Вось гэта па-сяброўску,— узрадаваўся Сякі-Такі-Малы-Аглы,— нездарма цябе Дабрадзеем завуць. З табой мне, вядома, смялей будзе. З-за тваіх шырокіх плячэй і я магу поўху заехаць якому-небудзь разбойніку.

Неўзабаве Дабрадзей ужо распараджаўся ў сябравай хаце, а Сякі-Такі-Малы-Аглы толькі выдыгаў перад ім, перастаўляючы гаршкі пад Дабрадзееў густ.

Тым часам сумленныя людзі згуртаваліся, сабраліся з сіламі дый спляжылі разбойнікаў,— каго забілі, каго звязалі ды ў астрог пасадзілі. Сталі ўсталёўвацца на зямлі спакой ды парадак, і людзі пачалі весялей глядзець на свет божы. Вось раз падышоў Сякі-Такі-Малы-Аглы да свайго Дабрадзея дый кажа:

— Шчыра табе дзякую, пане Дабрадзею. Я ўжо і сам не баюся.

Сякі-Такі-Малы-Аглы думаў, што Дабрадзей зараз жа развітаецца ды пойдзе сабе дадому. А той глядзіць у акно, маўчыць ды толькі цыгаркай пыхкае, быццам і не чуе, што да яго гавораць. Папыхкаў, папыхкаў, а пасля і кажа:

— А ведаеш, Сякі-Такі-Малы-Аглы, твая хата мне падабаецца. І пейзаж цудоўны за акном: пальмы, пірамiды, сфінксы...

— Ды гэта ўсё экзотыка, пане Дабрадзею,— адказвае Сякі-Такі-Малы-Аглы.— Яна табе, я думаю, надакучыла.

— Наадварот,— кажа Дабрадзей,— я так да яе прывык, што адчуваю сябе як дома. Вунь і леў бегае — якраз як мой. І мора пад акном, і караблі мае па ім плаваюць. Не, мне тут зусім не надакучыла.

Сказаў так ды зноў цыгаркай пыхкае. Сякі-Такі-Малы-Аглы аж патыліцу пачухаў, пачуўшы гэта. Не ведае, што і казаць далей. Параіўся ён з жонкаю, з дзеткамі, сабраліся яны разам ды — бух Дабрадзею ў ногі.

— У імя Озірыса і Ізіды, быка Апіса і ўсіх фараонаў просім,— кажуць,— пана Дабрадзея — ці не будзе пан так ласкаў ды ці не захоча ён пайсці дадому. Бо хатка наша маленькая, а пан Дабрадзей — дзякаваць богу! — дык нам і павярнуцца няма дзе. Дый умова такая была ў нас...

— Афрыканцы вы, а не людзі,— грэбліва кінуў ім Дабрадзей.— Не ўмееце з паважанымі людзьмі абыходзіцца. Калі захачу, дык я і без вашых напамінкаў пайду адгэтуль. А будзеце звягаць, дык я магу і зусім тут астацца.

Толькі Сякі-Такі-Малы-Аглы разявіў рот, каб нешта сказаць на гэта, а Дабрадзей бац яму па мордзе, аж у таго ў вачах Хеопсава піраміда перавярнулася.

— Я табе,— кажа,— пакажу, як бунтаваць супроць свайго Дабрадзея!

«Вось дык Дабрадзея нажыў я сабе! — думае Сякі-Такі-Малы-Аглы, выціраючы юшку, што пацякла з носа.— З хаты ніяк не выпарадзь. Баюся ўжо, хацяб ён мяне самога не выпер. І што ж мне рабіць цяпер? Кінуцца ў ногі ды прабачэння прасіць — гонар не дазваляе, размахнуцца ды ў зубы даць назад — сілы не хапае. Вось і дай тут якую раду!»

— Бываюць жа на свеце дабрадзеі,— скажам мы, гледзячы збоку.

*1946*

## НАД РАКОЙ АРЭСАЙ

А на рэчцы на Арэсе
Сталася прыгода!
Ідзе наступ на балоты
З поўначы, з усходу.

*Янка Купала*

Аб слаўных падзеях над ракой Арэсай расказаў у сваёй выдатнай паэме Янка Купала. У гэтым творы народны паэт Беларусі ўславіў гераізм савецкіх людзей, якія адважна пайшлі на штурм спрадвечнай багны, што да таго часу лічылася непрыступнай. Пад іх бальшавіцкім напорам «праклятае богам» балота, царства ліхаманкі і каўтуна, дзе, па народнаму павер'ю, раскашаліся адны толькі чэрці, пачало ператварацца ва ўраджайныя нівы. Чарцям прыйшлося пацясніцца і нехаця аддаць савецкім людзям 26 000 гектараў сваіх уладанняў. На гэтым плацдарме і замацаваліся першыя балотныя калгасы і саўгасы з тым, каб у далейшым павесці рашучы наступ на ўсю Палескую нізіну. За гады свайго даваеннага існавання яны яскрава паказалі, што ў гіблым балоце захаваны багаты скарб, які можна здабыць, калі ўзяцца за работу ўмела, арганізавана і напорыста, карацей кажучы — па-бальшавіцку. Яскравым доказам гэтага і з'яўляўся калгас імя БВА. За 11 даваенных год ім было асвоена каля 2000 гектараў тарфянікаў, на якіх калгаснікі вырошчвалі нябачаныя ў Беларусі ўраджаі. Напрыклад, у 1938 годзе на паасобных участках авёс даў 35 цэнтнераў з гектара, ячмень — 40 цэнтнераў, жыта — 28 цэнтнераў. Асабліва палюбілі беларускі тарфянік італьянскія каноплі: яны раслі такія, якіх самі італьянцы ніколі і ў вочы не бачылі — да 4 метраў увышкі.

Багатыя ўраджаі спрыялі развіццю жывёлагадоўлі. Аднае буйной рагатай жывёлы на калгаснай ферме было 650 галоў. Калгас меў свой паравы млын, цагельню, лесапілку, электрастанцыю. Калгаснікі жылі не толькі багата, але і культурна: у калгасе была сярэдняя школа, клуб, гукавое кіно, радыёвузел, яслі, радзільны дом. У 1940 годзе калгас паказваў свае дасягненні на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы і за выдатныя поспехі ў галіне паляводства і жывёлагадоўлі атрымаў узнагароду.

На ўсю Беларусь славіўся калгас імя БВА. Але гэта было да вайны, а што з ім сталася цяпер?

У калгас я прыехаў ноччу. Але гэта не была тая цёмная і глухая вясковая ноч, якая помніцца мне з дзіцячых год. У вокнах калгасных дамоў ярка свяцілі электрычныя лямпачкі. Сярод начной цішыні выразна і раўнамерна чохкаў лакамабіль, нібы гэта білася сэрца калгаснага пасёлка.

Нягледзячы на позні час, у калгаснай канцылярыі былі яшчэ людзі. Я не паспеў завесці гутарку аб калгасе, як у мяне пачалі распытваць аб літаратуры, аб беларускіх пісьменніках, пыталіся, хто над чым працуе. Успаміналі, як у 1932 годзе ў калгас прыязджаў Янка Купала. Некаторыя з прысутных у той час былі яшчэ школьнікамі. Цяпер ім ужо гадоў пад трыццаць, але яны добра памятаюць, як народны паэт расказваў дзецям аб сваім жыцці і пісьменніцкай працы. Некаторыя ўспамінаюць радкі з паэмы «Над ракой Арэсай», якая ў гэтым балотным краі карыстаецца вялікай папулярнасцю.

Пакуль мы гутарылі, у памяшканне ўвайшоў высокі светлавалосы чалавек. Прывітаўшыся са мной, ён скромна сеў убаку і амаль не ўмешваўся ў гаворку. Праз некалькі хвілін ён устаў і запытаўся, ці не хачу я адпачыць з дарогі. Тут толькі я даведаўся, што гэта старшыня калгаса Сцяпан Адамавіч Статкевіч. Аб ім я чуў ужо ў Бабруйску, як аб добрым гаспадару, у якога і рука цвёрдая, і арганізатарскія здольнасці немалыя, і спрыт ёсць у гаспадарчых справах. Усе гэтыя якасці цяжка было разгадаць пад вонкавым выглядам скромнага і негаваркога чалавека.

Абыходзячы лужыны, мы ішлі па прыціхшай калгаснай вуліцы.

— Хоць бы яшчэ крыху дарога патрымалася,— кажа заклапочаны Сцяпан Адамавіч.— Трэба вывезці тон 250 мінеральнага ўгнаення, а мы яшчэ і палавіны не вывезлі. Са станцыі Урэчча возім — за 50 кіламетраў, а машыны ўсяго дзве.

— Як жа вы ўсё ж выходзіце са становішча?

— Прыходзіцца выкручвацца.

Гэтае «выкручвацца» было сказана так, што я ўжо не сумняваўся: 250 тон угнаення будуць на полі ў сваю пару.

— Ветка побач, але што за карысць. Чыгуначнікі нешта ўсё мудруюць: нібыта няспраўная.

Між іншым, ветка мае сапраўды велізарнае гаспадарчае значэнне для ўсяго гэтага раёна. Асушаныя тарфянікі даюць належны эфект пры мінеральным угнаенні, а ўгнаенне гэта прыходзіцца вазіць за 50 і больш кіламетраў. Гэта,

аказваецца, не пад сілу калгасам, у якіх няма аўтамашын і мала коней. Ветка мае выключнае значэнне і для вывазкі лесаматэрыялаў і хлебанарыхтовак. Скаргі на тое, што ветка не працуе, я чуў не ад аднаго Сцяпана Адамавіча, але і ад іншых людзей, у тым ліку ад кіраўнікоў Любанскага раёна. Добра было б, каб гэтыя скаргі дайшлі да вушэй тых, ад каго залежыць аднаўленне руху на ветцы.

У сваім сапраўдным выглядзе калгас паказаўся мне назаўтра, пры дзённым святле,— усё ў ім гаварыла пра аднаўленне і рост. 110 новых калгасных дамоў выразна абазначылі вуліцы пасёлка. Увесь паўночны край пасёлка занялі новыя гаспадарчыя будынкі: кароўнікі, свінарнікі, стайня, птушнік, сталярня, кузня, камбінат (млын, пілорама, электрастанцыя). А над усімі будынкамі ўзвышаецца краса і гордасць калгаса — клуб на 250 месц, у якім у той дзень калгаснікі глядзелі кінакарціну «Непакароныя» і ўспаміналі цяжкія дні акупацыі, дні заўзятай барацьбы з ворагам, удзельнікамі якой былі яны самі. Калгас мае і свой цагельны завод, толькі ён знаходзіцца за 9 кіламетраў ад пасёлка, бо на месцы няма добрай гліны.

Каля лесапілкі ляжаць сцірты будаўнічага лесу. У гэтым годзе трэба пабудаваць новых 20 дамоў, дзіцячыя яслі, цялятнік, свінарнік, птушнік.

— Будуемся,— кажа Сцяпан Адамавіч, абводзячы вачыма калгасныя будынкі, нібы запрашаючы мяне ацаніць праробленую працу.

Усё, што сёння ёсць у калгасе, збудавана і набыта за пасляваенныя гады. У 1944 годзе калгаснікі вярнуліся сюды на папялішча. Усё дашчэнту было разграблена і знішчана фашысцкімі варварамі. Ад багацейшага і слаўнага на ўсю Беларусь калгаса засталіся нейкім чынам тры абадраныя домікі без акон і без дзвярэй ды адзін конь, які перабыў вайну ў лесе, у партызан.

— Знайшлі паламаную дугу і пачалі адбудоўваць калгас,— кажа стары калгаснік.

Бязмерна цяжкімі былі восень і зіма 1944 года. Прыйшлі людзі з лесу на голае месца: ні хаты, ні хлеба, ні жывёлы, ні інвентару. Рыдлёўкамі ўскапалі жанчыны 15 гектараў і пасеялі жыта. Усяго і змаглі асвоіць тады з усёй даваеннай пасяўной плошчы ў 2000 гектараў. Зямля, якая да вайны давала рэкордныя ўраджаі, выглядала дзікай і непрыветнай. Балота перайшло ў наступ. Былыя палеткі пазарасталі хмызняком і пустазеллем у рост чалавека. Здавалася, не хопіць чалавечых рук, каб зноў адолець непакорную ба-

лотную стыхію. А рукі былі слабыя, рукі старых дзядоў, жанчын і падлеткаў. Усе мужчыны, хто мог насіць зброю — каля трохсот чалавек,— з самага пачатку вайны змагаліся з ворагам у радах Савецкай Арміі, у партызанскіх атрадах. Некаторым не суджана было вярнуцца — яны аддалі сваё жыццё за свабоду і шчасце Савецкай Радзімы. Іншыя праследавалі фашысцкага звера, каб дабіць яго ў яго ж бярлозе. Сярод апошніх былі і цяперашні старшыня калгаса, артылерыст Сцяпан Статкевіч, і намеснік старшыні, яго сябра па зброі Дзмітрый Календанка, і матацыкліст танкавай часці, цяперашні брыгадзір першай брыгады Адам Кур'ян, і бортмеханік, цяперашні брыгадзір 3-й брыгады і парторг Дзмітрый Міхаленя.

Нялёгкі быў пачатак аднаўлення, але калгаснікі былі ўпэўнены, што не застануцца без падтрымкі, што родная савецкая ўлада дапаможа калгасу стаць на ногі. Так яно і было. Дзяржава дапамагла коньмі і насеннем, і калгаснікі пачалі патроху нанава асвойваць былое балота. У 1945 годзе пад пасевамі было ўжо 172 гектары. Ураджай, праўда, быў яшчэ нізкі. Але ўсё ж гэта быў паварот да жыцця: крыху хлеба і шмат надзей. А тут і падмацаванне падышло. Вярнуліся з фронту воіны Савецкай Арміі — людзі, моцныя духам і целам, вопытныя ў гаспадарчых справах.

Старшынёй калгаса быў выбраны Сцяпан Адамавіч Статкевіч, які да вайны працаваў у калгасе аграномам. Людзі яго ведалі як вытрыманага бальшавіка, добрага гаспадара і знаўцу балотнай глебы. Яму і даверылі кіраванне калгаснымі справамі і свае працавітыя рукі. Ён і яго сябры па праўленню пачалі арганізоўваць людзей і павялі іх у наступ на балота па ўсіх правілах стратэгіі і тактыкі.

— Выйшлі мы вясной з Календанкам на былое поле,— кажа Сцяпан Адамавіч,— а поля і няма: зноў балота. Праўда, нягразка, але бур'ян вышэй мяне. Сухая леташняя трава, як пасцель, усцілае зямлю. Як тут з плугам приступіцца да гэтага дзірвана? Запаліў я запалку дый кінуў у сухую траву. Ну і пайшло шугаць! Сотні гектараў ахапіў агонь, хмара дыму закрыла сонца.

Так «агнявым налётам» на пустазелле былы артылерыст Сцяпан Статкевіч пачаў наступ на балоты.

Гектар за гектарам ачышчалі людзі ад пустазелля, ад лазы і бярэзніку, які буйна ўзяўся расці на тарфянішчы, прачышчалі калектары, спускалі лішнюю ваду. На дапамогу людзям прыйшла тэхніка — трактары Палескай МТС з адмысловымі балотнымі плугамі, якія пераварочвалі

дзірваны на глыбіню да 50 сантыметраў. Зямля патроху зноў набывала ранейшы культурны выгляд і здольнасць радзіць хлеб. У 1946 годзе калгас засеяў плошчу ў два разы большую, а збожжа сабраў у пяць разоў больш, чым у 1945 годзе.

1947 год прынёс калгасу добры ўраджай. Кожны гектар даў у сярэднім 11 цэнтнераў збожжа, асобныя звенні сабралі па 22, па 25 цэнтнераў жыта з гектара. Удава-салдатка Аміля Барткевіч са сваім звяном дабілася ўраджаю па 28 цэнтнераў з гектара. Партыя і савецкі ўрад высока ацанілі сумленную працу калгаснікаў: 21 чалавек быў узнагароджан ордэнамі і медалямі. Старшыня калгаса Сцяпан Адамавіч Статкевіч, брыгадзіры Іван Шляпко, Адам Кур'ян, звеннявыя Канстанцін Бердніковіч і Аміля Барткевіч былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна.

Гэта была перамога, якая акрыліла людзей на далейшыя працоўныя подзвігі. З гэтым радасным адчуваннем перамогі і ўпэўненасці ў сваіх сілах калгаснікі ўступілі ў 1948 год.

Здаецца, усё было зроблена, каб ураджай быў яшчэ большы, чым у мінулым годзе. Радавалася Аміля Барткевіч, гледзячы на буйную азіміну, як яна дружна ідзе ў трубку, на цёмна-зялёную густую шчотку ярыны. Радавалася, што стрымае слова, якое дала Радзіме, калі атрымлівала ордэн Леніна. Не пашкадавала яна са сваім звяном ні працы, ні часу, каб выканаць узятае абавязацельства. Не адставалі ад яе са сваімі звеннямі камсамолкі Ліда Бердніковіч, Вольга Міхаленя, Таццяна Каваленя. Усе ў калгасе чакалі багатага ўраджаю.

Палілі дажджы. Багатая азотам глеба спрыяла буйному росту яравых. Пшаніца і авёс шпарка цягнуліся ўгару, але гэта не радавала вопытных калгаснікаў. Яны ў гэтым бачылі небяспеку. І нездарма. Слабая саломіна не вытрымала цяжару расліны. Шквальныя ветры і праліўныя дажджы палажылі авёс і пшаніцу, перашкодзілі нармальнаму апыленню і выспяванню. Калгас сабраў на некаторых участках шмат саломы і мала збожжа. Праўда, ураджай азімых быў высокі. Звяно Амілі Барткевіч сабрала па 28,7 цэнтнера жыта з гектара.

Але пшаніца падвяла. Калгаснікі яшчэ не знайшлі эфектыўнага спосабу змагацца з выляганнем, а гэта — сапраўдны біч балотных гаспадарак. Крыўдзяцца калгаснікі і на навуку, што не прыйшла ім на дапамогу ў гэтай справе: нашы селекцыянеры не вывелі яшчэ такіх гатункаў

збожжавых, якія не вылягалі б на балотных глебах. А вырашыць гэту праблему неабходна, бо з кожным годам асушаных балот будзе ўсё больш і больш.

Недарод пшаніцы, аднак, не збянтэжыў людзей, не адбіўся сур'ёзна на становішчы калгаса і дабрабыце калгаснікаў. Калгас усё ж сабраў у сярэднім каля 10 цэнтнераў з гектара. Калгаснікі на працадзень атрымалі больш чым па 2 кілаграмы збожжа і па 5 кілаграмаў бульбы. Частку збожжа, што падлягала размеркаванню на працадні, агульны сход рашыў аддаць на будаўніцтва, у якое ўкладзена ў 1948 годзе 158 тысяч рублёў.

Знаёмячыся з калгасным жыццём-быццём, я зайшоў у дом старэйшага калгасніка, паважанага ў калгасе чалавека Канстанціна Адамавіча Бердніковіча. Разгаварыліся аб калгасных справах, аб мінулым і будучым.

— Ужо самае цяжкае перабылі,— кажа Канстанцін Адамавіч.— А было ж, як вярнуліся з лесу!.. І ўспомніць страшна, як было. А цяпер што ж, працуй добра, дык і будзе добра. І ў хаце дастатак, і ад людзей табе пашана, і савецкая ўлада любіць працавітых. Вось і мяне, старога, уважылі: ордэнам Леніна ўзнагародзілі. Гэта за ўраджай 1947 года.

— А як сёлета з хлебам у вас?

— А вось запрацавалі ўтраіх — я, дачка ды сын — 1200 працадзён, дык і з хлебам. Нешта пудоў каля паўтараста атрымалі. Ды бульбы шэсць тон. Карову маем ды цялушку, двух кабаноў кормім, пчолы ёсць — дзесяць калод. Як бачыце — не галадаем. Цяпер бы толькі і жыць,— кажа далей Канстанцін Адамавіч, як бы падводзячы вынік сваім думкам.— Ды вось здароўе падводзіць ужо... Да леташняга года на полі працаваў, а летась мне ўжо лягчэйшую работу далі — палявым вартаўніком назначылі. Дачка мяне падмяніла на полі, звеннявая. Нічога, спраўляецца пакуль што.

Ад бацькавай пахвалы Ліда паружавела і скромна апусціла вочы.

У Канстанціна Адамавіча ёсць прычыны ганарыцца сваёй дачкой. Першы год працавала яна летась звеннявой і ўсё ж вывела звяно на адно з першых месц у калгасе. Ураджай жыта звяно сабрала па 27,5 цэнтнера з гектара на плошчы 12 гектараў.

— Як жа вы дабіліся такога ўраджаю? — пытаюся я ў Ліды.

— Працавалі дружна, рабілі ўсё, што нам аграном раіў ды Сцяпан Адамавіч.

І Ліда пачала знаёміць мяне з правіламі агратэхнікі:

— На нашай зямлі вельмі шмат залежыць ад таго, як узарэш. Пакапаеш абы-як — пустазелле парасце, усё заб'е. Араць трэба на глыбіню 40—50 сантыметраў. Нашу глебу трактары аруць адмысловымі балотнымі плугамі. Мы ў гэтым — я кажу пра сваё звяно — мала што дапамагалі. Вядома, глядзелі, каб агрэхаў не было, каб глыбіня была патрэбная, каб пры дыскаванні добра была разроблена ралля. У тры сляды дыскавалі. Гною мы на тарфяніку не возім: азоту ў торфе і так хапае. А вось мінеральнае ўгнаенне трэба класці. Восенню мы рассеялі калійнай солі па 3 цэнтнеры на гектар, суперфасфату — па 1,5 цэнтнера, попелу — па адным цэнтнеры. Попел я па хатах збірала — ездзіла з фурманкай па пасёлку. Сеялі мы ўручную: я, Дар'я Хоцька, бацька нам дапамагаў. У МТС яшчэ не было сеялак на нашу глебу. Высявалі па 1,2 цэнтнера на гектар. Вясной падкармілі мінеральнымі ўгнаеннямі і пабаранавалі рунь. Глядзелі, каб вада на полі не застойвалася, пракопвалі канаўкі, прачышчалі дрэнажы. Жалі мы рукамі. Зжалі 12 гектараў за тыдзень. У часе жніва начавалі на полі, каб не траціць часу на пераходку. Выжыналі па 2 і па 3 нормы. Звяно ў мяне дружнае; як трэба, дык і ноччу працуюць. Ноччу мы скірдавалі і малацілі. Летась нам дождж шмат пашкодзіў. У гэтым годзе спадзяёмся лепшы ўраджай сабраць. Па азімых мы ўзялі абавязацельства даць 30 цэнтнераў з гектара. Думаю, што дадзім. Рунь восенню была добрая і з зімы добра выйшла.

Клопатамі аб калгасным ураджаі, аб узняцці грамадскай гаспадаркі калгаса жывуць тут усе, ад старшыні калгаса і сакратара партарганізацыі да кожнага радавога калгасніка. У людзей укаранілася цвёрдае перакананне: калі будзе ў калгасе, то будзе і ў калгасніка. Праўленне калгаса ўзяло правільную лінію — на хутчэйшае ўмацаванне грамадскай гаспадаркі. І калгаснікі ахвотна падтрымліваюць праўленне, калі трэба, дык ад працадня адрэжуць, а грамадскую гаспадарку падтрымаюць. Нават такая важная справа, як пабудова дома, не адрывае калгасніка ад яго звычайных абавязкаў: дом будуе будаўнічая брыгада, а з калгасніка толькі вылічваюць за гэта 80 працадзён.

Ёсць у Бабруйскай вобласці калгасы і багацейшыя за калгас імя БВА. У некаторых і на працадзень больш

атрымалі і грашовы прыбытак за мільён пераваліў, але што да ўзняцця грамадскай гаспадаркі, то ў калгасе імя БВА ёсць чаму павучыцца.

Бліжэйшая мэта калгаснікаў — зрабіць калгас яшчэ больш заможным, чым ён быў да вайны.

У гэтым годзе будзе асвоена ўся даваенная пасяўная плошча. Ураджай ужо дасягае даваеннага. А вось з жывёлагадоўляй цяжэйшая справа. Праўда, на калгаснай ферме ёсць ужо 160 галоў рагатай жывёлы, але гэта ў пераважнай большасці яшчэ будучыя каровы, маладняк. Дойных кароў у калгасе толькі 24, а да вайны іх было 300. Будаваць таксама яшчэ шмат чаго трэба, хоць і пабудавана ўжо нямала.

Прабыўшы пару дзён у калгасе, я сам, непрыкметна для сябе, уцягнуўся ў яго клопаты і інтарэсы. Нават калі ехаў дадому і быў далёка ад калгаса, галава ўсё яшчэ была занята калгаснымі справамі. Над усім панавала пачуццё задавалення ад таго, што калгас ідзе ўгару, што людзі працуюць сумленна, што ўпарта ідуць да пастаўленай мэты: зрабіць калгас імя БВА слаўным на ўсю рэспубліку, якім быў ён да вайны.

* * *

Пасёлак саўгаса «Дзесяцігоддзе БССР» размясціўся на невялічкім астраўку мінеральнай глебы сярод абшараў асушаных балот. Першае ўражанне ад саўгаса такое, нібы вы трапілі на нейкую новабудоўлю: ляжаць сцірты падрыхтаванага будаўнічага лесу, радуюць вока новыя дамы рабочых, велізарныя будынкі кароўнікаў і свінарнікаў. Але ёсць яшчэ і зямлянкі; яны ўражаюць вока, як струпы зажываючых ран, як невясёлы напамінак аб перажытых цяжкіх часах. У такіх зямлянках да нядаўнага часу жылі ўсе рабочыя, што прыйшлі на папялішча і ўзяліся нанава адбудоўваць культурную савецкую гаспадарку. Цяпер у саўгасе пабудавана 120 новых дамоў. Але гаспадарка расце, рабочыя прыбываюць, і навічкам нейкі час даводзіцца яшчэ жыць у зямлянках.

Дырэктар саўгаса Цімафей Ягоравіч Смірноў, нягледзячы на свае 53 гады, чалавек рухавы і энергічны. Размаўляць з ім было лёгка і цікава, тым больш што мы аказаліся равеснікамі і ў нашых біяграфіях было сёе-тое агульнае.

У час Вялікай Айчыннай вайны тав. Смірноў — падпалкоўнік Савецкай Арміі — знаходзіўся на адказным участку і нямала папрацаваў на карысць абароны нашай Радзімы,

рыхтуючы кадры савецкіх афіцэраў. Пасля дэмабілізацыі Цімафей Ягоравіч папрасіўся, каб яго паслалі на ранейшую работу ў саўгас «Дзесяцігоддзе БССР», дзе да вайны ён працаваў дырэктарам. Тут было дзе разгарнуцца, было да чаго прыкласці кіпучую энергію і вялікі гаспадарчы вопыт. З яго прыходам савецкая гаспадарка пачала хутка расці і мацнець. За багаты ўраджай 1947 года многія ў саўгасе былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, чатыром чалавекам было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Тав. Смірноў быў узнагароджан ордэнам Леніна.

Першае, аб чым у мяне запытаўся Цімафей Ягоравіч, адказаўшы на мой «добры дзень», гэта, ці не хочу я памыцца ў лазні. Я не мог устаяць супраць такой спакусы і праз пяць хвілін ужо ляжаў на верхняй паліцы і дзякаваў у душы Цімафею Ягоравічу за яго дагадлівасць і гасціннасць.

— Ну, як лазня?— спытаў гаспадар, калі я выйшаў у прылазнік.

— Цудоўная!— адказаў я, не крывячы душой, бо лазня была сапраўды цудоўнай — светлая, чыстая, з кранамі гарачай і халоднай вады, з параю,— адным словам, з усім тым, за што гэту добрую лазню сапраўды можна было пахваліць.

— На дзве палавіны,— падкрэсліў Цімафей Ягоравіч. Ён надаваў вялікае значэнне той акалічнасці, што ў яго лазні могуць аднвачасова мыцца абедзве палавіны чалавечага роду.

— Гэта для гаспадыні зручна: уся сям'я мыецца ў адзін дзень і гаспадыня адразу мяняе ўсю бялізну.

Гэтую характэрную асаблівасць дырэктара — прадумваць кожнае гаспадарчае пытанне да канца, да апошняй дробязі — я потым заўважаў не раз.

— Саўгас наш мае жывёлагадоўчы ўхіл, і асноўнае наша багацце — жывёла. Калі не ўтаміліся з дарогі, пройдзем паглядзім,— прапанаваў Цімафей Ягоравіч.

Выйшаўшы на вуліцу, я адразу ўбачыў вялікую стракатую чараду, якая пад апекай кароўніц ішла на вадапой. Жанчыны жартаўліва называлі сваіх падапечных паненкамі. «Паненак» было штук сто — пярэстыя красуні адна ў адну. Для іх у саўгасе існуе спецыяльны рэжым. Трымаюць іх асобна ад астатняга статка і пільнуюць, каб яны раней часу не сталі каровамі. Ранні ацёл тут не дапускаецца, бо ён шкодна адбіваецца на развіцці і прадуктыўнасці каровы. «Паненкі» будуць каровамі толькі ў наступ-

ным годзе, калі ім будзе па тры гады, але затое гэта будуць паўнацэнныя каровы.

Неўзабаве мы ўбачылі і другую чараду, якая вярталася з вадапою. Гэтыя вызначаліся сваёй самавітасцю, ступалі паважна, не спяшаючыся. Ды і цяжка было б ім праявіць асаблівую рухавасць, калі кожная несла вымя з цабэрак велічынёй. Глядзіш на якую-небудзь Анамалію ці Амплітуду і аж шкада яе, небараку: як яна, бедная, і носіць такое вымя! А Анамалія, аказваецца, зусім не бедная. Яна цалкам задаволена сваім лёсам: за год дала 5808 літраў малака, за што і занесена ў племянную кнігу.

З трэцяй чарадой мы знаёміліся ў кароўніку — прасторным і светлым, з індывідуальнымі кармушкамі, з электрычнасцю і нават з «чыгункай», па якой сюды дастаўляецца корм. У памяшканні каровы здаваліся яшчэ буйнейшыя. Адны з іх ляжалі, другія стаялі, прывязаныя на кароткія ланцугі. Час ад часу шумна ўздыхаючы, яны павольна рухалі сківіцамі. А тым часам малачко прыбывала. Тады ім на дапамогу прыходзілі Яўгенія Васільеўна Літошка, Надзежда Іванаўна Куневіч і іх сяброўкі. Яны падстаўлялі пад вымя вёдры. Так паўтараецца чатыры разы ў суткі. Цімафей Ягоравіч паказаў мне лепшых прадстаўніц малочнай чарады. З іх Аквітанія дала за мінулы год 6219 літраў малака, Астраханка — 6066 літраў, Атака — 6040 літраў, Анцілопа — 5992 літры. А ўсяго ў гаспадарцы налічваецца сто кароў, якія далі за год больш чым па пяць тысяч літраў малака. Усе яны занесены ў племянную кнігу. У 1948 годзе саўгас здаў дзяржаве 433 100 літраў, надаіўшы ад кожнай фуражнай каровы ў сярэднім па 4308 літраў.

Цімафей Ягоравіч водзіць мяне ад аднаго аб'екта да другога, абменьваючыся на хаду жартамі і дзелавымі рэплікамі з кароўніцамі, даяркамі, трактарыстамі, палявымі рабочымі. Часамі гэта з'яўляецца працягам гаворкі, пачатай яшчэ ўчора або заўчора. Тут жа на хаду вырашаюцца дробныя гаспадарчыя пытанні.

У свінарніку на ўсім былі відаць адзнакі тае ж самай гаспадарлівасці і дабрабыту, якія мы бачылі ў кароўніку. У катухах, выцягнуўшыся на ўсю сваю веліч, ляжалі дзябёлыя маткі. Ля кожнай з іх, улёгшыся шчыльнай чародкай, грэлася шматлікае патомства. Кожнай такой сямейцы забяспечаны належны догляд і ветэрынарны нагляд. Для свінаматак нават ёсць свая асобная «сталоўка». Ад свінаматкі патрабуецца адно — раджаць як мага больш. Каторая з гэтым абавязкам спраўляецца дрэнна і прыво-

дзіць не дзесяць-дванаццаць, а ўсяго чацвёра або пяцёра парасят, тая плаціць сваім жыццём. Паводле заведзеных тут строгіх законаў, такую няўдзячную свінню ставяць на адкорм і рэжуць на сала, а яе месца займае другая, больш плодная.

Другая палова свінарніка прызначана для адкорму. Тут рыхтуецца таварная прадукцыя. Гэта прадукцыя пакуль што знаходзіцца ў выглядзе ладных падсвінкаў чатырох-пяцімесячнага ўзросту. Іх гладкія ружовыя азадкі і легкадумна закручаныя хвосцікі сведчаць аб тым, што жывецца ім тут нядрэнна. Калі з ладных падсвінкаў яны вырастуць у добрых кабаноў па 7—8 пудоў вагою, тады будуць адпраўлены туды, дзе з іх зробяць добрыя каўбасы, шынкі, паляндвіцы, карэйкі і ўсякія іншыя смачныя рэчы. Такім парадкам саўгас у мінулым годзе здаў па 90 пудоў свініны ад кожнай свінаматкі.

А вось і патрыярх усяго гэтага свінячага роду — велізарны кныр пудоў на васемнаццаць. Убачыўшы нас, ён хуценька, даверліва зарохкаў і падышоў да загарады. Цімафей Ягоравіч мяне своечасова папярэдзіў, каб я не вельмі з ім дружыўся і, чаго добрага, не ўздумаў гладзіць, бо так і без пальцаў можна застацца. У мяне і самога не было асаблівай ахвоты да гэтага. Я любаваўся магутным вепрам, заняўшы бяспечную пазіцыю крокаў на тры ад загарады.

Побач з свінарнікам знаходзіцца адмысловая кухня, дзе гатуецца няхітрая, але спажыўная свінячая страва. Тут Цімафей Ягоравіч вырашыў з свінаркамі і ветфельчарамі важную праблему — як на летні перыяд вывесці свіней у лагер, якім спосабам дастаўляць ім харч, як забяспечыць належныя бытавыя ўмовы людзям, што будуць іх даглядаць.

Праходзячы пасёлкам, дырэктар растлумачваў мне яго планіроўку, паказаў, дзе ў гэтым годзе будзе будавацца клуб на пяцьсот месц, дзе будзе пасаджан сад, не без гонару паказваў двухкватэрныя новыя дамы, якія ўжо выразна абазначылі вуліцы пасёлка.

Калі мы праходзілі міма вялікага дваццацікватэрнага дома, Цімафей Ягоравіча аклікнулі.

— А, Марыя Station! Усялілася ўжо?— спытаўся ён, вітаючыся з жанчынай.

— Усялілася, Цімафей Ягоравіч.

— Ну і як?

— Ой, не кажыце! Нібы нанава на свет нарадзілася. Хочам сёння з Жэняй наваселле спраўляць. Просім і вас з таварышам, Цімафей Ягоравіч. Каб абавязкова прыйшлі.

Цімафей Ягоравіч прабаваў адмовіцца, спасылаючыся на занятасць, але жанчына і слухаць не хацела.

— Вы нас страшэнна пакрыўдзіце, калі не прыйдзеце. Мы будзем лічыць, што вы пагарджаеце намі.

Марыя Браніславаўна Таргонская — лепшая цялятніца. За тры гады яна выгадавала 100 цялят, забяспечыўшы сярэднесутачную прыбаўку ў вазе па 659 грамаў на кожнае цяля. За ўвесь час у яе не было ніводнага выпадку падзяжу.

Вечарам мы пайшлі павіншаваць Марыю Браніславаўну з наваселлем. Тут я пазнаёміўся з другой знатнай жанчынай — Яўгеніяй Васільеўнай Літошка — лепшай даяркай саўгаса. За мінулы год яна надаіла ад кожнай фуражнай каровы па 5259 літраў малака, выканаўшы гадавы план на 128 працэнтаў. А ўсяго за год яна надаіла 50 229 літраў малака. У Жэні сёння вялікая радасць: яна ўсялілася ў новую кватэру. Кватэра, праўда, яшчэ сыраватая, але жанчыны не бедавалі: праз дзён колькі высахне.

Гаспадыні частавалі ад шчырага сэрца, і Цімафею Ягоравічу — чалавеку, які амаль не п'е,— прыйшлося крута: трэба было падняць чарку і за лепшых людзей саўгаса, і за тое, каб цяляткі гадаваліся і каб дамы новыя будаваліся. Марыя Браніславаўна прасіла гасцей закусваць ды не аглядацца, бо яна не апошняе на стол паставіла. І наогул няхай госці не думаюць, што яна жыве бедна. Апрача звычайнай зарплаты, яна атрымала прэміяльныя за перавыкананне плана, ды ёсць жа яшчэ гарод, ёсць і карова. Перад Новым годам кабана закалола пудоў адзінаццаць, а к маю збіраецца калоць яшчэ аднаго. Дык ім дваім з дачкою ўсяго гэтага хопіць.

У гэтых словах не было ніякай наўмыснай пахвальбы. Гаварыла перапоўненае радасцю сэрца савецкай жанчыны. У ранейшыя часы ёй бы, гаротнай удаве, гора ды крыўды не абабрацца, а пры савецкай уладзе яна — паважаны чалавек. І дом у яе — поўная чаша, і за лёс дачкі яна спакойная: перад ёю шчаслівая, светлая будучыня.

Неяк адвячоркам мы сядзелі і марылі з Цімафеем Ягоравічам аб тым, які будзе гэты балотны край праз 10—15 год. Я намагаўся ўявіць сабе асушанай усю велізарную плошчу нашых балот. 4 мільёны гектараў! 40 000 квадратных кіламетраў. Асушыўшы гэтую плошчу, мы мірнай працай адваюем у прыроды цэлую краіну,

большую па тэрыторыі за такія еўрапейскія дзяржавы, як Галандыя або Бельгія. Колькі ж можна вырасціць хлеба і выгадаваць жывёлы на такім абшары ўрадлівай зямлі! Я марыў аб тым недалёкім часе, калі наша Палессе стане жытніцай рэспублікі, фабрыкай хлеба і мяса.

У Цімафея Ягоравіча мары былі больш канкрэтныя і блізкія да ажыццяўлення. Яны складаліся ў яго галаве ў рэальныя планы развіцця гаспадаркі. А перспектывы ў саўгасе багатыя. Ужо цяпер уведзена ў севазварот 3570 гектараў даваеннай пасяўной плошчы, а ў саўгасе ёсць яшчэ вялікі запас балотнай зямлі, не поўнасцю асушанай. На ёй яшчэ пасуцца дзікія козы ды ходзяць чароды дзікіх свіней. Але ў бліжэйшыя гады гэта зямля будзе асвоена, і Цімафей Ягоравіч ужо запланаваў павялічыць пасяўную плошчу к 1954 году яшчэ на 1100 гектараў. Што да жывёлагадоўлі, дык тут Цімафей Ягоравіч мае намер змагацца за адно з першых месц у Саюзе. За пяць бліжэйшых год пагалоўе рагатай жывёлы ў саўгасе будзе павялічана амаль у тры разы. Адных дойных кароў будзе 600 штук. Каровы будуць пераведзены на стойлавае ўтрыманне, у поле выганяць іх будуць толькі на прагулку. У кароўнікі будзе праведзен водаправод, наладжана аўтаматычнае паенне і электрычная дойка. У выніку гэтых мерапрыемстваў і палепшання рацыёну ўдой павінен значна павялічыцца. Праўда, і ў гэтым годзе саўгас узяў абавязацельства надаіць ад кожнай каровы па 5000 літраў малака. Ёсць усе падставы меркаваць, што гэта абавязацельства будзе выканана.

Калі мы прыкінулі, колькі ж малака здасць саўгас дзяржаве ў 1954 годзе, беручы на карову мінімум 5000 літраў, і памножылі гэтыя пяць тысяч літраў на шэсцьсот, дык выйшла цэлае возера — тры мільёны літраў.

Так марылі і планавалі людзі саўгаса яшчэ да таго, як была апублікавана пастанова партыі і ўрада аб трохгадовым плане развіцця жывёлагадоўлі. Гэты план натхніць рабочых і кіраўнікоў саўгаса на новыя працоўныя подзвігі, і я не сумняваюся, што калектыў саўгаса перагледзіць свае мары і свае планы ў бок больш хуткага іх ажыццяўлення.

*1949*

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ[1]

Аб'ектам разгляду ў гэтым артыкуле з'яўляецца адзін з відаў вуснай народнай творчасці, для азначэння якога ў беларускай народнай мове ёсць два тэрміны: «прыказка» і «прымаўка», што адпавядае рускаму — «пословица» і «поговорка». Трэба сказаць, што ў народнай мове паміж прыказкай і прымаўкай выразнай мяжы не праводзіцца. Народ ужывае прыказкі на кожным кроку, але аб прыказках гаворыць вельмі рэдка і ўжо ва ўсякім разе не займаецца азначэннем прыказкі як віду творчасці. Але калі гэты від творчасці з'яўляецца аб'ектам вывучэння, то вынікае патрэба вызначыць розніцу паміж гэтымі двума тэрмінамі, замацаваць за імі больш сталае і пэўнае значэнне. Спробу вызначыць розніцу паміж гэтымі тэрмінамі мы і сустракаем як у рускай навуковай літаратуры, так і беларускай. Вядомы рускі збіральнік прыказак паловы мінулага стагоддзя І. Снегіроў[2] знаходзіць розніцу ў тым, што «...прымаўкі, не змяшчаючы ў сабе пэўнага сэнсу, выражаюць толькі намёк, прыстасаванне, ужыванне, параўнанне, агульнаўжываны зварот мовы, ідыятызм».

Глыбей да гэтага пытання падыходзіць вядомы тэарэтык у галіне мовы і літаратуры А. А. Патэбня[3].

---

[1] Матэрыяламі для гэтага артыкула паслужылі працы: І. І. Насовіча — «Сборник белорусских пословиц», 1874; Е. Раманава — «Белорусский сборник», т. І, вып. І, «Песни, пословицы, загадки», а таксама тая невялікая колькасць прыказак, што сабрана аўтарам гэтага артыкула.

Для таго каб кожны раз не рабіць вынасак для абазначэння крыніцы, з якой узята прыказка, пасля кожнай прыказкі ставіцца ў дужках літара, якая абазначае прозвішча збіральніка: (Н.) — Насовіч, (Р.) — Раманаў. Прыказкі, сабраныя самім аўтарам, не памячаюцца.

Прымаючы пад увагу, што пры збіранні прыказак запісчыкамі не захоўваўся ў поўнай меры фанетычны прынцып, а найчасцей запісы рабіліся паводле рускага правапісу, прыказкі падаюцца ў агульнапрынятым беларускім правапісе.

[2] И. Снегирев. Русские народные пословицы и притчи. 1848.

[3] А. А. Потебня. Из лекций по теории словесности. Басня, пословица, поговорка. Харьков, 1894.

Разгледзеўшы дакладна характар і значэнне байкі, а разам з ёю і блізкай да яе па значэнню прыказкі, ён зазначае:

«Тое, што ў нас прынята называць прымаўкай (тэрмін, штучна створаны людзьмі кніжнымі), адносіцца да прыказкі так, як эмблема да байкі. Іменна байка і прыказка, як я казаў, служаць адказам на пытанне, узнятае жыццёвым выпадкам, які можа быць разложан на адну ці некалькі дзеяў з іх адзнакамі»... «Прымаўка таксама, як і эмблема, ёсць паэтычны, г. зн. іншасказны, вобраз, не складанага счаплення асоб і дзеяў, а аднаго з элементаў гэтага счаплення, значыць, аднае асобы, якасці, дзеяння. Калі гэта так, то прымаўка ёсць элемент байкі або прыказкі, якая часткова ўтварылася з прыказкі і байкі, як рэштка, згушчэнне іх, часткова недаразвіўшыся да яе».

І, нарэшце, у А. І. Барычэўскага[1] мы знаходзім такое размежаванне паміж прыказкай і прымаўкай. «Прыказку не трэба змешваць з прымаўкай. Прыказка — выказ пэўнае думкі; яна мае сэнс не толькі як устаўка ў мове, але і ўзятая сама па сабе. Прымаўка, наадварот, узятая сама па сабе, не выражае ніякага выказу». «...Прымаўка толькі элемент мовы і толькі ў ёй набывае сэнс».

Прыглядзеўшыся да ўсіх трох вышэйпрыведзеных азначэнняў, можна заўважыць, што, нягледзячы на розную фармуліроўку, яны не пярэчаць адно другому, а характарызуюць тую ж самую з'яву, толькі з іншых бакоў. Пры гэтым апошняе азначэнне як бы падагульвае да некаторай ступені абодва першыя. Апрача гэтага, апошняе азначэнне вызначаецца большай сцісласцю і выразнасцю. Вось чаму, на мой погляд, яго і трэба лічыць найбольш дакладным. Праўда, на практыцы часамі бывае даволі цяжка вырашыць, ці можа тое ці іншае выслоўе ўжывацца само па сабе, ці не. Калі ўзяць такія, напрыклад, выразы, як:

*Дзесятая вада на кісялі,*

*Як Піліп з канапель,*

*І хвастом накрыўся,*

дык тут адразу відаць, што яны самастойна ўжывацца не могуць і такім чынам з'яўляюцца прымаўкамі. Але ёсць цэлы шэраг прымавак, якія па форме сваёй вельмі блізка стаяць да прыказак. Узяць хоць бы такую:

---

[1] А. І. Барычэўскі. Паэтыка літаратурных жанраў. Мн., 1927.

*Чорт чорта пазнаў, дый на піва пазваў* (Н.).

Тут, нават маючы перад сабой вышэйпрыведзенае азначэнне, цяжкавата вырашыць, што гэта будзе: прыказка ці прымаўка.

Вось і я хачу папрабаваць больш выразна вызначыць розніцу паміж прыказкай і блізкай да яе прымаўкай, выявіўшы прычыну, чаму прыказка мае сэнс сама па сабе, а прымаўка не мае. Мне думаецца, што справа тут у тым, як сфармулявана думка. Пакажам гэта на прыкладзе.

Скажам, чалавек, па сваёй прагавітасці або празмернай цікаўнасці, улез не ў сваю справу. За гэта ён пакараны. Гэта з'ява выклікае ў нас прыказку, скажам, такую:

*Збродлівай кошцы хвост уцінаюць* (Н.).

Відавочна, мы маем агульную фармуліроўку думкі, якая азначае, што ва ўсіх аналагічных выпадках вінаваты нясе пэўную кару. Такім чынам, гэтакая фармуліроўка думкі бярэ ў адну дужку, апрача данай канкрэтнай жыццёвай з'явы, і ўсе іншыя аналагічныя з'явы, якія адбыліся ці могуць адбыцца.

Але ў такіх выпадках часамі кажуць і так:

*Збродлівай кошцы хвост уцялі.*

Такая фармуліроўка, як відаць, не мае тэндэнцыі ахапляць сабою ўсе аналагічныя выпадкі. Яна толькі карыстаецца вобразам, каб канстатаваць дадзены факт пакарання, і гэтым абмяжоўваецца. З такой фармуліроўкі ніякага правіла яшчэ вывесці нельга.

Возьмем другі прыклад. Наглядаючы бытавую з'яву — узаемаадносіны зяця і цесця — і бачачы канкрэтны выпадак гэтага, мы гаворым:

*Зяць любіць узяць* (Н.).

Тут, відавочна, мы маем ужо вывад, які адносіцца не толькі да зяця, якога мы цяпер бачым, а да ўсіх зяцёў. Але калі чалавек, ад якога, скажам, зяць вымагае за дачкою пасагу, гаворыць:

*Наш зяць любіць узяць,*

дык гэта характарызуе толькі гэтага зяця, і ні ў якім разе нельга зрабіць вываду, што і ўсе зяці такія.

У першым выпадку абодвух прыкладаў мы маем, на мой погляд, прыказку, а ў другім — прымаўку.

Наогул жа трэба сказаць, што як прыказкі, так і прымаўкі самастойна не бытуюць. Яны ўжываюцца толькі ў мове, вуснай ці пісьмовай, і абавязкова выклікаюцца нейкай канкрэтнай жыццёвай з'явай, толькі рэагуюць на гэту з'яву па-рознаму: прыказка выводзіць правіла, якое пашыраецца на ўсе аналагічныя з'явы, прымаўка абмяжоўваецца толькі гэтаю канкрэтнаю з'яваю. Але ў далейшым, у інтарэсах эканоміі, усюды, дзе гутарка будзе ісці аб прыказках і прымаўках разам, я буду ўжываць адно слова — прыказка і размяжоўваць буду толькі ў выпадку патрэбы.

Нягледзячы на тое, што прыказкі і прымаўкі самастойна не бытуюць, яны не трацяць ад гэтага свайго велізарнага значэння. Велізарнасць гэтага значэння ў тым, што яны даюць велізарную эканомію мышлення. З'яўляючыся вынікам доўгачасовага, часта шматвяковага, жыццёвага вопыту, яны даюць гатовыя формулы жыццёвых з'яў ці гатовыя іх характарыстыкі. Апрача гэтага, убраныя найчасцей у высокамастацкую форму, яны даюць і эстэтычнае задавальненне.

Вось чаму прыказкі так пашыраны ў народзе. Яны для народа тое, што для адукаванага чалавека філасофскія цытаты, выняткі з навуковых прац і з мастацкай літаратуры. Ёсць такія аматары прыказак, якія чуць не кожны свой крок апраўдваюць прыказкаю, чуць не кожны свой выраз аздабляюць ёю. Пра такіх нават і знарочыстая прыказка ўтварылася:

*Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца* (Н.).

У літаратуры мы сустракаем цэлы шэраг поглядаў асоб высокааўтарытэтных, якія таксама адзначаюць вялікую каштоўнасць прыказкі. Так, І. Снегіроў адносна прыказкі гаворыць наступнае: «...прыказка не змоўкла, жыве ў вуснах народа, знаходзіцца ў кругу яго думак, карыстаецца яго павагаю і даверанасцю, служыць сведчаннем, парукаю, абвінавачаннем, апраўданнем і наогул вясёлым і карысным спадарожнікам у жыцці. Перад ёю, як перад законам, усе роўныя, а яна нікому непадсудна, таму што яна безыменная, безасабовая, бесстаронняя». І ў другім месцы: «Здаецца, нідзе так рэзка і яскрава не выказваецца знадворнае і ўнутранае жыццё народаў усімі яго праяўленнямі, як у прыказках».

Другі рускі збіральнік і даследчык прыказак Ілюстраў[1] падае адносна прыказак думку М. В. Гогаля: «Прыказка не

[1] И. И. Илюстров. Жизнь русского народа в его пословицах и поговорках.

ёсць якая-небудзь наперад паданая думка ці меркаванне аб справе, але ўжо падлічаны вынік справы, адсед, адстой падзей, якія перабрадзілі ўжо і скончыліся, канчатковае падагуленне справы з усіх бакоў яе, а не з аднаго».

Там жа прыведзен і погляд на прыказку праф. А. С. Архангельскага, які гаворыць, што «...прыказкі — плод народнай мудрасці і закранаюць сабою розныя бакі грамадскага жыцця; адгэтуль высокі погляд на іх самога народа, які нярэдка выказваецца ў саміх прыказках... Як вынік народнай мудрасці, як выражэнне выпрацаваных вякамі поглядаў народа на жыццё і розныя яго адносіны і ўмовы,— народныя прыказкі сваім паходжаннем заходзяць у глыбіню вякоў дагістарычнага народнага жыцця, узнікаюць разам з мовай, народнай міфалогіяй, першымі зачаткамі народнага звычаёвага права, нярэдка вельмі цесна звязаны з апошнімі, служачы для іх галоўнай, асноўнай крыніцай».

Вядома, што ўсе вышэйпададзеныя характарыстыкі не маюць на ўвазе прыказак якога-небудзь аднаго народа, гэта адносіцца ў роўнай меры наогул да ўсіх прыказак, а разам з тым і да беларускіх. Але, апрача гэтых агульных рыс, прыказкі кожнага асобнага народа, а ў тым ліку і беларускія, маюць некаторыя свае асаблівасці. Адносна беларускіх прыказак і іх значэння для простага народа цікава падаць думку вядомага збіральніка беларускага мастацкага фальклора І. І. Насовіча. У сваёй прадмове да зборніка беларускіх прыказак ён гаворыць: «Беларусы ўсе факты, усе прыгоды чалавечага жыцця, усе ўчынкі, як добрыя, так і дрэнныя, і ўсякае нават меркаванне аб чым-небудзь падводзяць пад мерку прыказак сваіх». «...Прыказкамі змагаюцца з хібамі і слабасцямі, папраўляюць недахопы, насміхаюцца, упікаюць, пагражаюць. Прыказкамі ўцяшаюць у смутку, смешаць і нават у таго, хто плача, выклікаюць усмешку. Кплівых і жартаўліва-сатырычных прыказак ёсць вельмі шмат у беларускай мове, і ўсе яны дышуць вастратой і сарказмам». «...Беларускія прыказкі ў гутарцы простых людзей з'яўляюцца хараством мовы і моцна ўплываюць на субяседнікаў. Яны, як і песні, часцей за ўсё аздабляюцца сугучнасцю. Паміж простымі людзьмі ёсць шмат такіх здольных, якія на ўсякую падзею, на ўсякі выпадак, вясёлы, спрэчны, сумны,— раптам падаюць прыказку дарэчы, як быццам яны знарок вывучалі іх, як вучні ў лацінскай мове вывучаюць на памяць дыстыхі Катонавы».

Нават пры павярхоўным знаёмстве з беларускімі прыказкамі і ўмовамі іх бытавання відаць, што вышэйпаданая

думка мае пад сабой грунт. Яшчэ больш сцвярджаецца гэта думка, калі зрабіць больш дакладны разгляд тэматыкі і фармальнага боку беларускіх прыказак.

Пачынаючы такі разгляд, я лічу патрэбным зазначыць, што загадзя згаджаюся з поглядамі тых, хто лічыць, што частка прыказак кожнага народа, у тым ліку і беларускіх, з'яўляецца запазычанай у іншых народаў. Аб праўдзівасці гэтай думкі сведчаць і словы іншых моў, якія ўжываюцца ў складзе беларускіх прыказак, напрыклад:

*Вялікі пірог, да ў сярэдзіне* плох.

Латво *прыходзіць,* латво *й сыходзіць.*

Але я не магу згадзіцца з думкай, што з гэтай прычыны прыказкі не могуць характарызаваць сабою светаадчуванне і псіхікі народа. Ужо адзін той факт, што такія прыказкі прыняліся і ўжыліся на новай глебе, сведчыць аб тым, што тут ёсць для гэтага адпаведны грунт. Частка і самабытных прыказак з'яўляюцца аднакімі ці вельмі падобнымі да прыказак іншага народа. Гэта, відавочна, тлумачыцца аднакімі эканамічнымі, прыроднымі і іншымі ўмовамі жыцця. Ва ўсякім разе пры тэматычным разглядзе я не лічу мэтазгодным строга вылучаць запазычаныя прыказкі. Тым больш што асноўны матэрыял, якім я карыстаюся[1], збіраўся пераважна запісчыкамі, якія амаль зусім не дбалі аб тым, каб запісаць прыказку так, як яна вымаўляецца. Дзеля гэтага часта немагчыма было б і адрозніць запазычаную прыказку ад самабытнай.

Тэматыка беларускіх прыказак надзвычайна багатая і разнастайная, як багатае і разнастайнае само жыццё. Надзвычайная колькасць матываў і разнастайнасць іх адценняў робяць амаль што немагчымым выяўленне і асобны разгляд усіх іх. Дзеля гэтага прыйдзецца вызначыць асноўныя катэгорыі гэтых матываў і блізкія матывы залічаць да адной катэгорыі[2].

---

[1] И. И. Насович. Сборник белорусских пословиц. 1874.

[2] Вельмі часта значэнне прыказкі мяняецца ў залежнасці ад таго, у якіх выпадках яна ўжываецца і які сэнс ёй надаецца. Калі ўзяць, напрыклад, ніжэйпаданую прыказку:

*І бог не ўкрые, калі святыя папусцяць,*

дык гэта прыказка можа сапраўды адносіцца да бога і святых, і тады яна мае падставай вераванні народа, а ў іншых выпадках яна ўжываецца ў адносінах да людзей і з'яўляецца толькі вобразам. Зноў жа тая самая прыказка ў адным выпадку мае сур'ёзнае значэнне, а ў другім набывае іранічны сэнс. Усё гэта робіць тлумачэнне гэтых прыказак, узятых асобна, спрэчным. У такіх выпадках крытэрыем для мяне служыла толькі знаёмства з народным бытам ды некаторае веданне ўмоў, пры якіх ужываецца тая ці іншая прыказка.

Прыступаючы да разгляду зместу беларускіх прыказак, мы павінны мець на ўвазе, што яны з'яўляюцца прадуктам доўгіх вякоў. Побач з прыказкамі, якія нясуць у сабе глыбокую мудрасць народа, ёсць і такія, у якіх знайшлі сваё выражэнне адсталыя погляды і перажыткі мінулага часу, а часамі (праўда, вельмі рэдка) і тэндэнцыі эксплуататарскіх класаў.

Досыць значнае месца сярод утвораных за доўгія вякі беларускіх прыказак займаюць такія, у якіх выяўляюцца рэлігійна-філасофскія погляды. Паводле гэтых поглядаў, над светам стаіць бог, які наперад вызначае тое, што павінна адбыцца, і волю якога чалавек выконвае.

*Сам не асамішся, калі бог не дасць* (Н.),—

гаворыць аб гэтым прыказка. А другая яшчэ выразней:

*Што бог прызначыць, таго ніхто не перайначыць* (Н.).

Наогул, што вызначана лёсам, таго ніякім чынам не абыдзеш:

*Суджанага й канём не аб'едзеш* (Н.).

*Што суджана, то не будзе разгуджана.*

А калі з кім здараецца няшчасце і прычыну яго нельга знайсці ў знадворных абставінах, дык кажуць:

*Яму так на раду напісана.*

Чалавек мае неўміручую душу, якая ўяўляецца, як нейкая жывая матэрыяльная істота.

*Душа ў чалавека рагатая: без пары не выйдзе* (Н.),—

кажуць, калі безнадзейна хворы доўга мучыцца і не ўмірае.

Смерць — гэта няўхільнасць для кожнага чалавека, а таму і адносіны да яе досыць спакойныя.

*Людзі мруць, нам дарогу труць* (Н.),—

заўважае спакойна беларус, бачачы чыё-небудзь пахаванне, бо

*Ад смерці не адкупішся,*—

кажа прыказка, бо ўсё роўна:

*Круці не круці, дык прыйдзецца ўмерці.*

Нягледзячы, аднак, на няўхільнасць смерці і на тое, што часамі

*Думкі за гарамі, а смерць за плячамі* (Н.),

усё ж такі —

*Жывому наўме жывое,*

і ўдавацца ў роспач асабліва не прыходзіцца, а трэба працаваць:

*Уміраць збірайся, а жыта сей* (Р.),—

радзіць прыказка.

Праца — гэта аснова жыцця, без яе жыццё не ўяўляецца, бо

*Работа і корміць, і поіць* (Н.).

Саромецца яе няма чаго:

*Работа не бясчэсціць чалавека, а крэпіць і цешыць* (Н.).

Чалавек за сваё жыццё мусіць пабачыць і добрага, і дрэннага, бо

*Шчасце пераходзячы жыве* (Н.).

Зноў жа палажэнне чалавека і яго погляды звычайна мяняюцца:

*Чалавек не вол, у адной скуры не старэе* (Н.).

Дабро і зло — паняцці адносныя, і адно без другога не пазнаюцца:

*Чалавек, пакуль у горне не пабудзе, не знае дабра* (Н.).

Тая ж самая рэч ці тое ж самае становішча могуць быць і дабром, і недабром: гэта залежыць ад таго, якую ступень дабра ў дадзеным кірунку чалавек мае. Прыказкай гэта выказваецца проста:

*Хто лепшага не мае, таму і гэта добра*

або:

*Хто новага не бачыў, і старому рад* (Н.).

Сярод прыказак, у якіх адбіліся вераванні народа, першае месца займаюць такія, дзе аб'ектам з'яўляецца бог.

Мы ўжо раней бачылі, што, паводле прыказак, над чалавекам стаіць бог, а наступныя прыказкі паказваюць, які гэты бог.

Перш за ўсё:

*Бог — вялік чалавек* (Р.).

Прыказку гэту, відавочна, трэба разумець так, што бог мае тыя ж якасці, што і чалавек, толькі ўсё гэта ў большым

маштабе, магчыма нават у бязмежным. Сапраўды, мы бачым, што ён багаты:

*Бог багат: больш мае, чым раздаў* (Н.),

ні на каго ён не забываецца пры размеркаванні дабра:

*Бог дае на ўсіх долю* (Р.).

На час ён таксама багаты, многа дзён мае:

*Больш у бога дзён, як у пана кілбас.*

Ён шмат ведае, можа, нават і ўсё:

*Бог ведае, хто як абедае* (Р.).

Ён не гуляе, бо яно, сказаць, і часу няма:

*Бог не гуляе, а дабро перамярае: у аднаго возьме, а другому дасць* (Н.).

Зноў жа:

*Бог не гуляе, многа палатна мае, ды багатым торбы прыгатаўляе* (Н.).

Бог і людзей распазнаваць умее, ён адрозніць добрага чалавека ад благога:

*Бог не цяля, бачыць круцяля* (Н.).

Ён ласкавы і добры:

*Божая ласка дасць нам хлеба і мяска* (Н.).

Але часамі на гэта глядзяць досыць скептычна:

*Няхай тое чорт есць, што бог дасць* (Н.).

Гэта прыказка можа мець двоякі сэнс у залежнасці ад таго, на якім слове зрабіць лагічны націск. Калі націск будзе на слове чорт, дык сэнс будзе такі, які тут гэтай прыказцы надаецца, а калі паставіць націск на слове тое, дык будзем мець іншы сэнс, а іменна: будзь задаволены тым, што табе бог даў, або — што табе даюць наогул.

Апрача бога, ёсць яшчэ і святыя. Яны маюць досыць-такі значную вагу, так што падчас і богу з імі цяжка справіцца:

*І бог не ўкрые, як святыя дапусцяць* (Р.).

Найчасцей з святых у прыказках сустракаюцца Мікола, Юрай, Ілья. Яны звычайна робяць якую-небудзь гаспа-

дарчую працу, часамі загадваюць цэлымі галінамі гаспадаркі:

*Юрай пасе кароў, а Мікола коней* (Н.).
*Ілья — слаўная жняя.* (Н.)

Пакровы як бы выдаюць дазвол рэзаць жывёлу на мяса:

*Святы Пакроў, благаславі на кроў* (Н.) —

так гавораць, збіраючыся рэзаць скаціну, што бывае звычайна ўвосень.

Не заўсёды паміж святымі бывае поўная згода ў працы:

*Юрай сказаў: жыта ўраджу, а Мікола: пачакай, пагляджу* (Н.).

Выпіць святыя таксама любяць, калі ёсць за што. Багацейшыя з іх — гэта асеннія Юрай і Мікола, а бедны Іван Купала, бо тады ўжо няма ні хлеба, ні скаромнага. Вось прыказка і гаворыць:

*Юрай нап'ецца, і Мікола не астанецца. Ды й Іван бы піў, каб хто купіў* (Н.).

Святыя не заўсёды могуць дагадзіць чалавеку, і тады ён выказвае сваё нездавальненне:

*Два Юр'і ды абодва дурні: адзін галодны, а другі халодны.*

Слова «чорт» у беларускіх прыказках сустракаецца вельмі часта, але больш за ўсё яно ўжываецца не ў сапраўдным яго сэнсе, а толькі замяняе сабою назву нейкай асобы [1], напрыклад:

*Чорт чорта пазнаў ды на піва пазваў* (Н.).

Тут «чорт чорта» разумеецца, як адзін другога, прыяцель прыяцеля.

Часамі слова «чорт» ужываецца замест — ніхто або — хто:

*Чорт дуду надзьме, калі дух ідзе* (Н.).

Але ёсць шмат прыказак, дзе чорт фігуруе, як такі. Ён таксама мае моц над людзьмі, а таму:

*І богу маліся, і чорта не гнявi* (Н.).

---

[1] Е. А. Ляцкий. Несколько замечаний к вопросу о пословицах и поговорках.

Сталае месца пражывання чорта — гэта балота:

*Чорт без балота, а балота без чорта не бывае* (Н.).

Чорт заўсёды стараецца зрабіць чалавеку якую-небудзь шкоду:

*Чорт дзірку знаходзіць* (Н.),—

кажуць, калі здараюцца якія-небудзь нечаканыя расходы.

Ён стараецца рабіць пакасці чалавеку тады, як бог не бачыць:

*Чым чорт не шуціць, пакуль бог спіць.*

Вось чаму небяспечна ўспамінаць чорта вечарам. Калі ў такую пару ён успамінаецца часамі, дык дадаюць:

*Не процiў ночы гаворачы.*

Відавочна, такая агаворка забяспечвае ад з'яўлення чорта.

Словы, як відаць, маюць моц і могуць выклікаць няшчасныя з'явы, калі пра гэтыя з'явы гавораць у нядобры час. А таму, калі гавораць аб якім-небудзь няшчасці, звычайна агаворваюцца:

*Дай, божа, у добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць.*

*Не ў гэтай хаце гаворачы,*

*Не пры вас казана.*

Здзіў таксама можа зашкодзіць як жывёле, так і людзям, а таму, калі хто дзівіцца з добрага, дык яму кажуць:

*Соль табе ў вочы.*

Душа чалавека па смерці трапляе ў рай, калі яна бязгрэшная, а часамі:

*Хоча душа ў рай, ды грахі не пускаюць.*

Але грэх не такая справа, якую нельга папраўіць, яго можна замаліць:

*Грэх у мех, а спасенне наверх* (Н.).

Праўда, маліцца не заўсёды ёсць магчымасць, гэтаму перашкаджае клопат аб надзённых патрэбах, недахваткі. Гэта выражана ў пародыі на малітву:

*Отча наш — хлеба нямаш; іжа ясі — ідзі прынясі* (Н.).

Наогул да бога звяртаюцца найбольш у няшчасці:

*Як трывога, тады да бога.*

У звычайных умовах асаблівага імкнення да малітвы няма, і калі часамі каму напамінаюць аб патрэбе памаліцца, дык ён жартаўліва адказвае:

*Нашто богу маліцца,— ён нас і так баіцца.*

Прававыя погляды адбіліся ў прыказках досыць слаба. Яны або выяўляюць агульны погляд на злачынствы і пакаранні, або маюць аб'ектам права ўласнасці.

Кожнае злачынства цягне за сабою кару:

*За правінку чэшуць спінку* (Н.).

*Валачыў воўк авец, павалаклі й воўка* (Н.).

Кара карысна тым, што яна служыць другім на страх:

*Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць* (Н.).

За парушэнне права ўласнасці таксама караюць, і таму:

*Не чапай нічога і не бойся нікога,*

бо

*За чужое лычка сваім раменьчыкам заплаціш* (Р.).

Да суда адносіны досыць скептычныя, бо тут праўда заўсёды на баку дужэйшага, багацейшага:

*Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася* (Р.).

*Хто дужэй, той пружэй* (Н.).

Вось чаму бывае часам і так, што

*Поп саграшыў, а дзяка вешаюць* (Н.).

Вельмі вялікі лік прыказак маральна-этычнага характару, у якіх падаюцца правілы паводзін і абыходжання з людзьмі. Прыказкі служаць і для асмяяння тых, хто гэтыя правілы парушае. Аб благім яшчэ больш гавораць, чым аб добрым:

*Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей* (Н.).

А таму трэба мець добрую славу, адмаўляючыся часамі праз гэта і ад матэрыяльных выгад:

*Што нам да барыша, была б слава хараша* (Н.).

Асабліва не трэба чапаць чужога,— лепш сваё дрэннае, як чужое добрае, але крадзенае:

*Хоць у латаным, абы не ў хватаным.*

Аб крадзеным адзываюцца з іроніяй:

*Што ўкраў, дык як бог даў* (Р.).

Аднак ёсць прычыны, якія прымушаюць красці, нягледзячы ні на якія правілы маралі, ні на якія насмешкі. Гэта голад:

*Голад і лжэ, і крадзе* (Н.).

*Голад не дзядзіна, з'ясі й крадзена* (Р.).

Працавітасць у народзе высока ставіцца, бо

*Без працы не будзеш есці коляцы.*

На бога тут спадзявацца вельмі не прыходзіцца:

*Божа, памажы, а ты, нябожа, не ляжы* (Н.).

Аб працавітых гавораць з пахвалой і спачуваннем:

*Працуе, як чорны вол* (Н.).

Яно, папрацаваўшы, і адпачыць можна, але

*Гульня, ды не штодня* (Н.),

бо

*Гулі, гулі ды ў лапці абулі* (Р.).

Ляношчы заўсёды асмейваюцца:

*Касіць бы касіў, каб чорт касу насіў* (Н.)

або:

*Скажы на маю кабылу: тпру, а мае губы пазяблі* (Н.).

Яшчэ больш асмейваюцца ляношчы, калі яны злучаюцца з жаданнем смачна з'есці ды хораша схадзіць:

*Маё дзела — хадзіць бела: памыў рукі ды за стол* (Р.).

З людзьмі трэба жыць добра і рабіць ім ласку, дык і яны адплацяць тым самым:

*Кінь за сабою, дык знойдзеш перад сабою.*

Рабіць людзям прыкрасці яно такі і нявыгадна, бо,

*Шыбаючы на чужы лоб, трэба і свой падстаўляць* (Н.).

Жывучы, трэба прыстасоўвацца да жыцця людзей, з якімі жывеш:

*З ваўкамі жыць, па-воўчы выць.*

Па людзях трэба спагадаць, асабліва калі і самому прыходзілася быць у дрэнным становішчы:

*Быў на вайне, спагадай і па мне.*

Да старэйшых трэба адносіцца з пашанаю:

*Старшых і ў пекле шануюць* (Н.).

І трэба слухаць, бо парады старых бываюць карысныя:

*Стары гаворыць — гародзіць, ды напраўду выходзіць* (Н.).

Але, як відаць, не кожны стары заслугоўвае пашаны:

*Стары сабака, ды не бацькам яго зваць* (Н.),—

гавораць часамі.

Трэба быць пакорлівым і далікатным у абыходжанні:

*З паклону галава не баліць.*

*Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся* (Н.).

Ва ўсіх сваіх учынках трэба захоўваць меру і такт:

*Што надта, таго й свінні не ядуць* (Н.).

Калі хто дазваляе сабе ў гутарцы непрыстойнасці, пра таго кажуць, што ў яго

*Па цэлым сабаку з рота скача* (Н.).

Не з усякім можна знацца, а трэба падбіраць сабе роўнага:

*Чашыся конь з канём, вол з валом, а свіння аб вугал* (Н.).

Аб памёршых дрэннага гаварыць не трэба:

*Што зямлёю пакрыта, няхай будзе забыта* (Н.).

Трэба быць праўдзівым, бо хоць

*Праўда вочы коле* (Н.),

але

*Праўда груба, ды богу люба* (Н.).

Лгуна не паважаюць і адносяцца да яго падазрона:

*Хто лжэ, той і крадзе* (Н.).

Над ім звычайна насміхаюцца.

*Праўда Сідарава: кісялём бліны памазаны,*
*на паркане сушацца* (Н.).

Языкастых людзей не любяць:

*Языком меле, як хвастом целя* (Н.).

На плёткі і лаянку лепш не звяртаць увагі:

*Сабака брэша, а пан едзе* (Р.).

Зноў жа лаянкі і плёткі к добраму чалавеку не прыстаюць:

*Смала к дубу не прыстане* (Н.).

*Тым мора не пагана, што сабакі лохчуць* (Р.).

У чужыя справы лепш за ўсё не ўмешвацца, бо часамі

*Ад чужога шалу ў галаве круціцца* (Н.).

Асабліва не варта ўмешвацца, калі ідуць спрэчкі паміж раднёй:

*Паміж дзвярэй пальца не шчамі* (Н.).

Пахвальба таксама не паважаецца:

*Аржаная каша сама сябе хваліць* (Н.),—

іранічна гавораць, чуючы чыю-небудзь пахвальбу.

Зноў жа, нечага хваліцца тым, што яшчэ не зроблена:

*Калі не пераскочыў, не кажы гоп.*

У жыцці выдвараць асабліва не прыходзіцца:

*Трэба так жыць, як набяжыць* (Н.),

хоць

*Часам з квасам, парою з вадою* (Н.).

Франтаўство наогул не паважаецца, а калі няма чаго есці, дык тады яно і зусім недарэчы, а таму бязлітасна асмейваецца:

*На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць*

або:

*Франт: салам боты вымазаў і скурку з'еў* (Н.).

Скупасць таксама асмейваецца:

*Сабака на сене ляжыць, сам не есць і другім не дае* (Н.).

Лішняя скупасць часамі бывае і нявыгадна:

*Скупы два разы гіне,*

але ўсё ж

*Хто скуп, той не глуп.*

*Лішняя дабрата — дурата* (Н.).

П'янства не лічыцца вялікай ганьбой:

*П'яніца праспіцца, а дурань ніколі* (Н.).

Усё ж такі над моцна п'яным часта насміхаюцца:

*Хваціў з дзежкі, што не відзіць сцежкі* (Н.).

Займацца з п'яным не варта, яму лепей пераступіць:

*Ад п'янага і сам бог уцякаў* (Н.).

Чалавеку не шкодзіць быць асцярожным:

*Сцеражонага і бог сцеражэ.*

Аднак не трэба быць баязлівым:

*Баючыся воўка, і ў лес не хадзіць* (Н.).

Зноў жа:

*У пужлівага купца ні грошай, ні тавару* (Н.).

Больш таго — трэба быць адважным:

*Адвага гарады бярэ* (Н.).

*Адважнаму і бог памагае* (Н.).

Але адвага добра толькі на добрую справу, а хто вельмі адважны на благое, дык усяк бывае:

*Адвага альбо мёд п'е, альбо кайданы трэ* (Н.).

Вельмі блізка да толькі што разгледжаных стаяць па свайму прызначэнню прымаўкі-характарыстыкі, вытрыманыя найчасцей у сатырычным тоне. Яны звычайна вельмі сцісла і трапна характарызуюць чалавека з адмоўнымі рысамі характару або з фізічнымі недахопамі. Так, пра бессаромнага кажуць:

*Хоць ты яму плюй у вочы, дык ён кажа: дождж ідзе.*

Пра ўпартага:

*Хоць кол на галаве чашы* (Н.).

Пра нягодніка:

*Стварыў бог, дый сам каецца* (Р.).

Пра чалавека слабахарактарнага, што паддаецца розным уплывам:

*Як дуду надзьмеш, так дуда й грае* (Н.).

Пра пыхлівага:

*Асоба — гаршкі лізаць* (Н.).

Пра нерашучага:

*Ні мычыць, ні целіцца* (Н.).

Пра далікатнага да работы і да яды:

*Нежнай псярні цюцька* (Н.).

Пра ціхага ды злога:

*Ходзіць ціхенька, ды думае ліхенька* (Н.).

Пра старога ды неразумнага:

*Галава вылезла, а вума не вынесла* (Н.).

Пра чалавека, якога хваляць за чэснасць, а ён гэтага не заслужыў:

*Трэці дзень, як перастаў красці* (Н.).

Пра хвалько:

*У яго й шыла голіць* (Н.).

Пра людзей, якія хваляцца багаццем:

*Рэшатам золата мераюць,*
*а рэшата не за што купіць* (Н.).

Пра скупога:

*У яго і ўзімку лёду не дастанеш* (Н.).

Пра неахайнага:

*Бела мыецца, ды не чыста ходзіць* (Н.).

Пра наравістага:

*Нараві, як ліхой скуле.*

Пра няўважлівага і непаслушнага:

*Яму гавары, а ён у вір дзівіцца* (Р.).

Пра небяспечнага:

*Яму не кладзі пальца ў рот* (Р.).

Пра вельмі працавітага:

*Яму і ўміраць некалі будзе* (Р.).

Пра чалавека, які навучае благому:

*Ён навучыць на сабак брахаць* (Р.).

Пра дасведчанага ў якой-небудзь справе:

*Ён на гэтым сабаку з'еў* (Р.).

Пра чалавека, які мяркуе аб тым, чаго не разумее:

*Знае ён курыныя цыцкі* (Р.).

Пра такога, што не разумее зробленага яму дабра:

*Народ! Кладзі яму ў рот,*
*дык ён яшчэ й морду адварочвае* (Р.).

Пра чалавека, які ні да чаго не здатны:

*Ні сюды ні туды, мае мілыя дуды* (Н.).

Такіх прымавак вельмі шмат, прывесці іх усе няма ніякай магчымасці, і я абмяжуюся вышэйпрыведзенымі прыкладамі.

Наступная група прыказак па сваёй колькасці з'яўляецца самай вялікай. Прыказкі гэтыя падсумоўваюць жыццёвую практыку, выводзяць тую ці іншую заканамернасць з'яў, даюць ацэнку, наколькі тая ці іншая рэч карысна з практычнага пункту погляду, ці проста канстатуюць факт. Яны ахапляюць сабою разнастайныя бакі жыцця, галоўныя з якіх мы тут і пастараемся вызначыць.

Значнае месца сярод гэтых прыказак займаюць прыказкі выразна класавага характару, у якіх адбіліся погляды на багацце і беднасць, на розныя станы і класы грамадскасці і адносіны да іх. Частка гэтых прыказак цяпер ужо з'яўляецца помнікам гістарычнага мінулага. Тут мы сустракаем прыказкі, якія характарызуюць адносіны паноў да паднявольных сялян у часы прыгону:

*Прасіў пан на талаку, а не пойдзеш —*
*за лоб павалаку* (Н.).

Паны наганялі такі страх, што нават пасля пагібелі пана яго прыходзілася нейкі час баяцца:

*Пана павесяць, тры дні перад ім шапку знімай,—*
*часам адарвецца* (Н.).

Паны паміж сабой судзяцца, а гэта цяжка адбіваецца на сялянах:

*Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.*

Часта паны даводзілі сялян да жабрацтва, што і адбілася ў саркастычнай прыказцы:

*Паздароў, божа, паноў, што ў нас ні коней, ні кароў: цяперто нам і пагуляці, як нечага заганяці* (Н.).

Асабліва даваліся ў знак селяніну падпанкі, якія мелі непасрэднае да яго дачыненне:

*Пан як пан, ды паняты, хоць уцякай з хаты* (Н.).

Пан не помніць зробленага яму дабра і шчырых адносін:

*Служы пану верна, дык пан табе...*

Далей ужываецца слова, якога прывесці тут нельга з далікатнасці, але якое вельмі яскрава характарызуе панскую няўдзячнасць за верную службу.

Ласцы панскай асабліва радавацца не прыходзіцца: яна недаўгавечная:

*Панская ласка да парога* (Н.).

Да шляхты і яе ліпавага панства адносяцца звычайна іранічна, ведаючы, што адно голае званне яшчэ не падстава для панства:

*Другі жупан не варт світкі* (Н.).

Для сапраўднага панства патрэбен сацыяльна-эканамічны грунт, якога ў шляхціца няма:

*Ты вашэць, і я вашэць, хто нам хлеба напашэць?* (Н.).

Калі селяніну ўдавалася падняцца вышэй свайго класа, дык ён, відавочна, траціў класавую салідарнасць і адносіўся да ніжэйшых не лепш за пана, а мо нават і горш:

*Не дай бог свінні рог, а мужыку панства* (Н.).

Наогул у багатых няма спогадзі да бедных:

*Сыты па галодным не спагадае.*

А беднасць — з'ява нярэдкая сярод сялянства. Шмат ёсць людзей, якія пра сябе могуць сказаць:

*Усе мае зборы — лапці ды аборы* (Н.)

і якім

*Няма за што рук залажыць.*

Такім звычайна прыходзіцца ісці ў найміты да пана ці кулака, але там не вельмі соладка:

*Добра ў найме, ды не дай божа мне* (Р.),—

кажуць людзі, бо

*Наняўся, як прадаўся* (Н.).

Вось чаму ў такіх бедакоў часамі вырываюцца поўныя горасці словы:

*Свет вялік, ды дзецца недзе* (Н.).

Але сустракаюцца прыказкі, у якіх выяўляюцца неспагадныя адносіны да беднасці і бедных»:

*Голь галіта голлю паліта* (Н.),—

гавораць часамі зняважліва пра беднякоў. Асабліва не любяць багатыя, калі бедната горача бароніць свае інтарэсы.

*Як гол, так і восцер,*—

гавораць яны ў такіх выпадках.

З парабкамі прыказкі гэтага гатунку раяць абыходзіцца строга:

*Не караючы раба, не бачыць з яго дабра* (Н.).

У багатага і па смерці больш прыхільнікаў, чым у беднага:

*Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок — толькі поп ды дзячок.*

Але і поп ідзе

*Не для Ісуса, а для хлеба куса* (Н.),

бо

*Трэбнік — папоўскі хлебнік* (Н.),

і, дзе толькі можна ўзяць, поп возьме:

*Поп і за жывога і за мёртвага бярэ* (Н.).

Наогул духоўныя асобы наконт «земных благ» маху не дадуць:

*Алтарысты і арганісты не ўсе на рукі чысты* (Н.).

Беднасць даводзіць чалавека да такога становішча, калі ён гатоў узяць патрэбнае яму гвалтам, ведаючы, што нічога ад гэтага не страціць:

*Голаму разбой не страшан* (Н.),

і яшчэ:

*Чым галей, тым смялей* (Н.).

Шмат ёсць прыказак, аб'ектам для якіх з'яўляюцца мужчына і жанчына, шлюб, сям'я, радня.

Мужчына ў жыцці вышэй ставіцца, чым жанчына.

*Мужчынка — усё мужчынка, хоць лыкам шыт* (Н.),—

гавораць пра мужчын самі жанчыны, цэнячы іх фізічную сілу і большую жыццёвую практычнасць і сталасць.

*Бабскія сенцы нідзе не стаяць* (Н.),—

гавораць пра жанчын мужчыны, адзначаючы гэтым няздольнасць жанчын паставіць грунтоўна справу.

І характарам жанчына нібыта розніцца ад мужчыны ў дрэнны бок, што і бывае прычынаю сварак і неладоў:

*Баба й чорта звядзе.*

Каханне часамі цалкам захапляе маладую асобу і прывязвае яе да каханай ці каханага:

*У каханкі смаляныя лаўкі* (Н.).

Але практычныя людзі скептычна адносяцца да кахання, калі яно не злучана з матэрыяльнымі выгадамі:

*Бусенькі, бусенькі, абое галюсенькі* (Н.).

Адносіны да шлюбу досыць сур'ёзныя, выбіраць трэба асцярожна, бо

*Жонка не лапаць, з нагі не скінеш* (Р.).

Пры выбары сабе спадарожніка жыцця мужчыны знаходзяцца ў больш выгадных умовах.

*Гэтага цвету па ўсяму свету* (Н.),—

пахваляючыся, гавораць яны пра дзяўчат.

Палажэнне дзяўчыны ў сям'і не вельмі завіднае. Яна часамі з'яўляецца лішняй, і дамашнія стараюцца тады хоць як-небудзь аддаць яе замуж:

*Хоць за вала, абы дома не была* (Н.).

Вядома, што пры такіх умовах і дзяўчыне не прыходзіцца быць вельмі пераборлівай:

*Хоць за старца, абы ў дзеўках не астацца* (Н.).

Пры выбары пары высока цэняцца фізічныя якасці:

*Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую* (Н.),—

калі

*Хоць таўкачом, дык ёсць па чом* (Н.),

як жартуюць у такіх выпадках.

Мужчыну з фізічнымі заганамі таксама цяжка прыходзіцца:

*Скарэй сабака ашчэніцца, як шалудзівы ажэніцца* (Н.).

Але жанчына часамі згодна папусціцца фізічнымі якасцямі дзеля дабраты характару свайго чалавека:

*Хоць мужык з лапаць, абы з ім не плакаць.*

Ажаніўшыся, чалавек сталее, па-іншаму адносіцца да жыцця.

*Жэніцца — пераменіцца* (Н.),—

гавораць пра гуляшчага хлопца.

Жонка на мужа мае значны ўплыў, асабліва ў інтымных абставінах. Пад гэтым уплывам ён часта перамяняе свае ранейшыя намеры:

*Начная зязюлька дзённую перакукуе* (Н.).

Але першынство ў сямейным жыцці павінна заставацца за мужам, і

*Дурная тая дамова, дзе вала бора карова* (Н.).

Уцехаю для бацькоў з'яўляюцца дзеці, калі яны ўдалыя:

*Нашто той клад, калі ў дзетках лад* (Н.).

Але не заўсёды дзеці адносяцца да бацькоў з належнай пашанай і любасцю,— ёсць і такія, якія жывёлу шкадуюць больш, чым бацькоў. Пра такіх і прыказка зложана:

*Упаў бацька з гары — «Ліха яго бяры»; кабыла здохла — «Ой, бяда!»* (Н.).

Сродкі для выхавання дзяцей прапануюцца даволі-такі дамастроеўскія:

*Гадуй хлапца, ды не шкадуй дубца* (Н.).

Лішняе пеставанне, якое дапускае часамі матка, толькі псуе дзяцей:

*Дзеці балуюцца ад матчынага блінца, а разумеюць ад бацькавага дубца* (Н.).

Хоць маці і любіць дзяцей, але становішча яе лепшае пры мужу, як без мужа, пры дарослым і асабліва жанатым сыну, калі яна ўжо не гаспадыня:

*Саламяны муж лепей залатога сына* (Н.).

Часамі бацькі да свае дачкі прымаюць у дом прымака. Становішча яго ў чужой сям'і, відаць, не вельмі добрае:

*Прымачы хлеб — сабачы.*

*Прымак — той жа парабак* (Н.).

Але і становішча бацькоў пры зяцю не такое моцнае, як пры сыну:

*З сынам бісяу ды на кут грабіся, а з зяцем мірыся, ды за парог дзярыся* (Н.).

Сваякі павінны заступацца адзін за аднаго і памагаць адзін аднаму:

*Брат брату паняволі прыяцель* (Н.).

Але часамі і ў брата сваяцкія пачуцці ўступаюць месца матэрыяльным інтарэсам:

*Брат не так рад брату, як рад яго шмату* (Н.).

Аб больш далёкай радні ўжо няма чаго і казаць,— яна радніцца да тае пары, пакуль чалавек багаты, а як збяднее, тады сваяўство забываецца:

*Радня да паўдня, а як сонца зойдзе, сам чорт не знойдзе* (Н.).

Досыць віднае месца сярод іншых прыказак займаюць і прыказкі з матывамі працы. У іх выказваецца той ці іншы погляд на працу, прапануецца той ці іншы спосаб, даюцца практычныя парады адносна той ці іншай галіны працы і г. д.

Рабіць лепш за ўсё гуртам, калектывам,— так і лягчэй і спарней:

*Калі робіш укупе, не баліць у пупе* (Н.)

і наадварот:

*Адзін і ў кашы няспорны.*

Праца павінна быць абдумана, а то бывае:

*За дурной галавой нагам небалазе.*

Кіраўнік працай павінен распараджацца з толкам, каб не было так, што

*Сямёра варот, усе ў гарод* (Н.).

Лішняя спешка, бывае, шкодзіць:

*Паспех людзям на смех* (Н.).

Зноў жа:

*Скора каты робяцца, ды сляпыя родзяцца* (Р.).

У рабоце трэба клапаціцца аб якасці, бо можна зрабіць

*Многа, ды дурнога.*

Праўда, што часамі бывае

*І мала, і няўдала* (Н.),

калі хто

*Робіць, як мокрае гарыць,*

ды разам з гэтым:

*Так-сяк, накасяк, абы не па-людску* (Н.).

Каб праца ішла з поспехам, патрэбны належныя прылады:

*Без струманту і вошы не заб'еш.*

Пры апрацоўцы зямлі не шкадуй працы і ўгнаення:

*Дай зямлі — і яна табе дасць* (Н.).

Часамі не шкодзіць і капітал затраціць:

*У гліне капейка не гіне* (Н.).

Заросшую зямлю трэба разрабляць, выкарчоўваючы кусты:

*Пакланіся кусту, ■ ён табе дасць хлеба лусту* (Н.).

Кожная праца павінна быць аплачана, бо

*Дарма пець — горла дзярэць* (Н.).

Блізкімі да гэтай катэгорыі прыказак з'яўляюцца розныя гаспадарчыя прыметы:

*Зімою конь каня з'есць* (Н.),

іначай кажучы, за зіму конь з'есць харчу больш, чым сам варты.

*Зарадзіў званец, хлебу канец* (Н.).

*Зарадзіў драсён, не будзе красён.*

Шмат якія з іх даюць парады аб тым, калі якую працу трэба рабіць, і такім чынам складаюць як бы каляндар працы, у якім час азначаецца назвамі розных свят:

*Сей пшаніцу на Сімона Зілота, будзе як злота* (Н.).

*Прыйшоў Мікола, не пытайся нікога,— бяры сявеньку ды сей памаленьку.*

*Да Ільі хоць адным зубам зямлю парні* (Н.).

Побач з календаром працы ўтвараецца і каляндар прыроды.

*Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілья — апала два, прыйшла Прачыстая — усё з поля ачысціла.*

*Ілья нарабіў гнілля.*

*Грамніцы — палавіна зіміцы.*

*Варвары ночы ўварвалі* (Н.).

Невялікую па колькасці, але досыць цікавую групу складаюць прыказкі, якія з'яўляюцца вынікамі псіхалагічных назіранняў над людзьмі і над паводзінамі жывёлы. Так, да адной і той жа самай справы людзі падыходзяць паразнаму:

*Што галава, то розум* (Н.).

Густы ў людзей таксама не аднакія:

*Хто любіць папа, а хто пападдзю, а я, дурачок, люблю паповых дачок* (Н.).

Рэчы часта здаюцца страшнейшымі, як яны ёсць у сапраўднасці:

*У страха вочы вялікія,*

але на справе

*Не так чорт страшан, як яго малююць* (Н.).

Чалавек мае нахіл да зайздрасці:

*У чужых руках пірог вялік* (Н.).

Людзі сквапны на чужое:

*Усякі гад чужому грошу рад,*

але свайго даваць не любяць:

*«Дай» ніхто не любіць, а «на» ўсякі чуе* (Н.).

Асабліва гэта адносіцца да скупога, у якога цяжка сыскаць і тое, што ён павінен аддаць:

*Як бабе цяжка радзіць, так скупому даўгі плаціць* (Н.).

Чалавек скарэй здольны зрабіць злачынства, калі для гэтага ёсць спакуса:

*Блізка ляжыць — жывот баліць* (Н.).

А, паспрабаваўшы забароненага раз, цяжка спыніцца:

*Хто чаго ўкусіць, перастаць не мусіць* (Н.).

Нават скромны і добры чалавек можа зрабіцца злым, калі яму дапячэ:

*Як даробіць ліха, прарэжуцца і зубкі* (Н.).

Ціхі характарам чалавек звычайна вызначаецца глыбінёю думкі і падыходу да справы:

*Ціхая свіння глыбокі корань рые.*

Зноў жа пад гэтай ціхасцю часта хаваюцца моцныя страсці:

*У ціхім балоце чэрці вядуцца* (Н.).

Чалавек мае нахіл хваліць тое, што яму належыць:

*Усякі цыган сваю кабылу хваліць* (Р.).

Хваліць чалавек яшчэ і таго, ад каго залежыць яго дабрабыт:

*На чыім возе еду, таму й песню пяю.*

Як маці любіць і шкадуе дзяцей, паказвае прыказка:

*Узяў дзіця за руку, матку бярэш за сэрца* (Н.).

Калі чалавек п'яны, дык ён можа выказваць тады самыя патаемныя думкі:

*Што ў цвярозага на ўме, то ў п'янага на языку* (Н.).

У якасці рэчаў ён тады разбіраецца слаба:

*П'янаму і козы ў золаце* (Н.).

Самы баязлівы робіцца тады смелым і адважным:

*Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, дык і свінні баіцца.*

Пазнаныя пры дапамозе назіранняў асаблівасці характару жывёлы пераносяцца звычайна на чалавека.

*Воўк не робіць шкоды блізка* (Н.).

*Бітаму сабаку кія не паказвай* (Н.).

*Каб свінні рогі, не саступіла б з дарогі.*

*Кабыла здыхае, а траву хапае* (Н.).

Ёсць прыказкі, падставай для ўтварэння якіх паслужылі тыя ці іншыя гістарычныя факты ці звычаі далёкага мінулага:

*Мсціслаў не аднаго сціснуў* (Н.).

*За Саса было досыць хлеба і мяса, а настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі* (Н.).

*Што гэта за торг, калі не ў шапцы* (Н.).

*Не хочаш слухаць добрых слоў, будзеш слухаць сабачай скуры* (Н.).

У апошняй прыказцы адбіліся звычаі часоў прыгону, калі непаслухмяных прыгонных аддавалі ў рэкруты. Сабачая скура — барабан.

Зусім асобна стаяць прыказкі-кленічы, якіх у беларусаў вельмі многа. Звычайна кожны ўчынак аднаго чалавека, што робіць шкоду другому, выклікае кленічы:

*Каб табе ў грудзях рабіла,*

*Каб табе зарвала ды залажыла,*

*Каб цябе ўзяло ды не адпусціла*

і г. д. у залежнасці ад таго, якім учынкам кленічы выкліканы.

Фармальна-мастацкі бок прыказкі вызначаецца яе прызначэннем і ўмовамі яе бытавання. Прыказка не з'яўляецца толькі сродкам эстэтычнага задавальнення. Яна ставіць перад сабой галоўным чынам практычныя мэты: ілюстраваць выказаную думку, выказаць жыццёвае правіла, пераканаць у правільнасці выказанага ўдалай аналогіяй, даць трапную характарыстыку рэчы ці з'яве і г. д. Такім чынам, яна не бытуе як нешта зусім самастойнае, а звычайна ўстаўляецца ў мову, у гутарку. Гэтым вызначаецца яе велічыня. Яна павінна даць найбольшую канцэнтрацыю думкі пры найменшай затраце слоўнага матэрыялу. Іначай кажучы, прыказка павінна перадаць думку так, каб гэта думка была ўспрынята дакладна, як хоча той, хто яе

выказаў, бо іначай набой прападзе дарма. Адгэтуль найвялікшая выразнасць прыказкі. Зноў жа таму, хто ўжывае прыказку, неабходна, каб яна як можна глыбей уелася ў свядомасць слухача і зрабіла такім чынам адпаведны ўплыў. Для гэтага апрача шляху мышлення існуе яшчэ шлях адчування праз органы зроку, смаку і інш. Гэта вымагае ад прыказкі вобразнасці. Нарэшце, прыказка служыць не для аднаго разу, не для аднаго выпадку. А каб быць ужытай другі раз, яна павінна быць захавана ў памяці. Тут ёй у значнай меры дапамагае апрача нязначнай яе велічыні яшчэ і рыфма, якая асабліва выпукляе сугучныя словы, ад чаго яны пакідаюць глыбейшы след у памяці. Пры дапамозе гукавой асацыяцыі адно сказанае слова лёгка выклікае другое сугучнае з ім, а разам і цэлы сказ. Я гэтым не хачу сказаць, што той, хто першы ўтварыў прыказку, меў на ўвазе мэты прыказкі і свядома ўжыў усе гэтыя сродкі. Вядома, прыказкі ў пераважнай сваёй большасці, калі не ўсе, утварыліся інтуітыўна. Зноў жа, пералічаныя сродкі служаць не толькі для дасягнення вузка практычных мэт. Але іменна дзякуючы пералічаным сродкам, тое ці іншае выслоўе становіцца прыказкай, набывае велізарную ўдзельную вагу сярод масы іншага слоўнага матэрыялу, што і дае ёй магчымасць заставацца ў памяці народнай і ўжывацца праз цэлыя вякі.

Праўда, не ўсе прыказкі задавальняюць патрабаванні, якія ім ставяцца. Усе яны задавальняюць два патрабаванні — сцісласці і выразнасці думкі, але ў некаторых з іх зусім няма сродкаў маляўнічасці, ёсць прыказкі бязвобразныя, напрыклад:

*Хто лжэ, той і крадзе* (Н.).

*Не дай убогаму, а патрэбнаму* (Н.).

*Хто дбае, той і мае.*

Таксама ёсць прыказкі не рыфмаваныя, напрыклад:

*З шалудзіваю галавою ў дух не лезь* (Н).

*Праўда вочы коле* (Н.).

*Па нітачцы клубочак знаходзяць* (Н.).

Але праўда і тое, што найчасцей і найахвотней ужываюцца тыя прыказкі, якія задавальняюць усе патрабаванні: імі дасягаецца найбольшы эфект.

Слоўнікавай асаблівасцю беларускіх прыказак з'яўляецца іх народная лексічная аснова. Разам з тым сустра-

каецца і пэўная колькасць запазычаных слоў. Найбольшая колькасць іншамоўных слоў узята з рускай мовы. Прыкладам прыказак з русізмамі могуць быць наступныя:

*Конікі — не* к р о л і к і, *штомесяц не выводзяцца* (Н.).

*Золата выцягнуў з* в о р а т а (Н.).

*Жыруецца, як* п о ч к а *ў сале* (Н.).

*Дай, божа, нашаму цяляці воўка* п а й м а ц і (Н.).

С а б а к а з л а я *і на ўладыку лае* (Н.)

і шмат іншых.

Значна менш у прыказках сустракаецца паланізмаў, але таксама ёсць, напрыклад:

*Сабачы* г л о с *не йдзе да нябёс* (Н.).

*Без працы не будзе* к о л я ц ы.

*Хадзіў бы ў* з л о ц е, *каб не дзірка ў роце* (Н.).

*І слеп і* к е п (Н.).

*Жывот з* з э г а р а м *не згаджаецца.*

Украінізмы заўважаны ў наступных прыказках:

*Жонка сына раджае, рэдзькі* б а ж а е (Н.).

*Яму гавары, а ён у вір* д з і в і ц ц а (Р.).

Ёсць некалькі прыказак з словамі, запазычанымі з яўрэйскай мовы, напрыклад:

*Усе* к а г а л а м, *і бацька з жыгалам.*

*Каму смех, а каму* г і л э х т а р.

*Госцікі, проша, а вы, дзеткі,* ш а (Н.).

*Быў* г е в е з е н, *ды выскачыў* (Н.).

К у м г э р *на клёцкі* (Н.).

Ёсць нават словы з нямецкай і французскай моў, трохі перайначаныя:

*Хоць ты мяне* к а п у т, *дык я не* а л ё м (Н.).

Гэта значыць: хоць ты мяне забі, дык я не пайду. Як відаць, яны з'яўляюцца водгукам вайны 1812 года, калі беларусам даводзілася гаварыць з рознапляменнай напалеонаўскай арміяй такім камбінаваным жаргонам.

Вялікая колькасць слоў рускіх і даволі значная польскіх у прыказках тлумачыцца сваяцтвам моў і іх суседствам. Становішча запазычаных слоў у прыказках досыць моцнае,

бо, як мы бачым з прыведзеных вышэй прыкладаў, яны найчасцей рыфмуюцца і гэтым замацоўваюцца ў прыказцы.

Другой асаблівасцю слоўніка беларускіх прыказак з'яўляецца досыць значная колькасць наватвораў. Я іншага тэрміну не знайшоў для тых слоў, якія ўжываюцца толькі ў прыказках і, на маю думку, утварыліся разам з прыказкамі і для прыказак.

Вось прыказкі з такімі словамі:

*Сам не* асамішся, *калі бог не дасць* (Н.).

*Тут табе і* спіткі *і* з'едкі (Н.).

*Ждалі, ждалі дый* жданкі *паелі* (Н.).

*Дзеля* дарагатові *і бацьку прадаць гатовы* (Н.).

*Наш Васіль на работу не* сіл *(замест нядуж)* (Н.).

*Купіў бы, ды* купіла *няма* (Н.).

*Ні годзі, ні* глодзі *(ні пад'еўшы, ні галодны.— К. К).* (Н.).

*Адплакалі і* адпакалі *(аддубасілі.— К. К.).*

*Ілья ўкінуў* лядня (Р.).

Касла *загасла (крыніца даходу знікла.— К. К.).*

*На адно* кусайла *па тры сярбайлы* (Р.).

Даволі рэдка, але часам сустракаюцца і архаізмы, напрыклад:

*Не чыні* смердзі *дабра, не любі яго жонкі* (Н.).

*На* талаку *ног не павалаку* (Р.).

Відавочна, архаізмамі трэба лічыць і славянізмы, якія сустракаюцца ў прыказках:

*Калі робіш укупе, не баліць у пупе* (Н.).

*Прыстань, божа,* ніне *к нашай сіраціне* (Н.).

Тут слова «ніне», відавочна, перайначанае «ныне».

Сінонімы ў прыказках сустракаюцца даволі часта. Як правіла, яны ўжываюцца для ўзмацнення значэння.

Сячыся, рубайся,— *чужы не мяшайся.*

Гавораць, гамоняць, *ды не знаюць, у якой царкве звоняць* (Н.).

Ні піску, ні віску (Н.).

Ні стуку, ні груку, *павезлі, як суку* (Н.).

Часамі прыказка будуецца на сінонімах так, што адно слова бярэцца з беларускай мовы, а другое з рускай ці з польскай, напрыклад:

*Не хваробу* р о б і ш — *сам* з д з е л а й (Р.).

К е п, д у р а н ь, б л а з а н, *тры штукі разам.*

П ё с *ты,* п ё с, *калі я цябе* с а б а к а м *зваў* (Н.).

Сустракаюцца таксама і амонімы, на якіх найчасцей будуюцца каламбуры, напрыклад:

*Я не арганісты, не перабіраю* (Н.).

Слова «не перабіраю» мае дваякі сэнс: перабіраць клавішы аргана і перабіраць — быць пераборлівым.

Найчасцей каламбур будуецца, калі ўжываецца слова з іншай мовы і ёсць такое ў беларускай мове, толькі з іншым значэннем, напрыклад:

*Каму* шуткі, *а мне авечкі* (Н.).

(Па-руску шуткі — жарты, а па-беларуску — авечкі.) Або:

Н у д а *горш хваробы* (Р.),—

гаворыцца тады, калі хто, заміж беларускага — «ну, так», ужывае рускае— «ну, да». (Слыхавы амонім.)

Мова прыказак вызначаецца надзвычайнай вобразнасцю. Часамі дзівіцца прыходзіцца, як гэта людзі, не чытаўшы ніякай паэтыкі, маглі дасягнуць такой высокай ступені вобразнасці. Не рэдка сустракаюцца прыказкі, у якіх амаль кожнае слова з'яўлялася тропам. Які з тропаў найчасцей сустракаецца ў прыказках, не падлічыўшы, цяжка сказаць. Бадай, што самым пашыраным відам тропаў будзе метафара з яе разнавіднасцю — алегорыяй. Вось некалькі прыказак з метафарамі:

*Двор без гаспадара* п л а ч а (Н.).

*У адной* ш к у р ы *не звякуеш* (Н.).

*Маёю* п у г а ю *ды па маёй жа* к а б ы л е (Н.).

*Ты яго* с а л а м м а ж, *а ён дзёгцем* с м я р д з і ц ь.

На благога чалавека х л е б а м к і д а й (Н.).

*На губах* м ё д, *а на сэрцы* л ё д (Н.).

С а л а м я н ы *муж лепей* з а л а т о г а *сына* (Н.).

*Няхай* з в о н я ц ь, *пакуль ахвоту згоняць* (Н.).

Часта метафара не абмяжоўваецца адным ці двума словамі, а пашыраецца на цэлы сказ, прычым часта асоба або прадмет, да якога адносіцца сказ, не называецца, а толькі маецца на ўвазе (падразумяваецца). Такая разгорнутая метафара з'яўляецца пераходнай ступенню да алего-

рыі. Е. А. Ляцкі так яе і называе: няпоўная алегорыя. Узорам такой пашыранай метафары могуць быць наступныя прыказкі:

*Высплюся я на яго шкуры* (Р.) (адпомшчу.— *К. К.*).

*З гразёю змяшаў.*

*Ад зямлі адстаў, дый к небу не прыстаў* (Р.).

*Дай, божа, замалада косці грызці, а пад старасць мяса есці.*

*Дзяржы язык на прывязі* (Н.).

*Яго шалёны поп хрысціў.*

*Знаць трэба між лыжак палонік* (Н.).

*Мякка сцеле, ды мулка спаць* (Н.).

*На сем сукоў садзіцца* (Н.).

Сюды ж трэба аднесці і такія выразы, як:

*Кораткі пяты.*

*Ляляка застрэліў.*

*Вочы колюць.*

*Галавою налажыў.*

*Хвастом накрыўся.*

*Дыхту даць.*

*Клёпкі не хапае.*

Не ў меншай колькасці сустракаецца сярод прыказак і алегорыя ў цесным сэнсе слова:

*Кошцы жартачкі, а мышцы смерць.*

*Над першым арлом і сарока з калом* (Н.).

*На пахілае дзерава і козы скачуць* (Н.).

*Не да парасят, калі свінню смаляць.*

*Карова целіцца, а ў быка зад чэшацца* (Н.).

*Не мела баба клопату, дык купіла парася.*

*Хто парася ўкраў, у таго і ўвушшу пішчыць* (Н.).

Асаблівасць большасці алегарычных прыказак тая, што яны могуць то быць алегорыямі, то не быць імі, у залежнасці ад таго, да якога выпадку яны дапасоўваюцца. Возьмем, напрыклад, вышэйпрыведзеную прыказку:

*Не мела баба клопату, дык купіла парася.*

Калі мы сапраўды маем выпадак, што баба купіла парася і набыла сабе лішні клопат, то тады прыказка не

будзе алегорыяй, а простым канстатаваннем факта. Але калі гэта прыказка дапасоўваецца да выпадку зусім з іншай галіны жыцця, калі чалавек з-за маленькай выгады набыў сабе вялікі клопат, дык тут ужо яна з'яўляецца алегорыяй.

Нярэдка прыказка карыстаецца і прыёмам увасаблення:

*Бяда хоць* мучыць, *ды жыць* вучыць (Н.).

*Варвары ночы* ўварвалі (Н.).

Казала *ліха, што не быць дабру* (Н.).

*Каша* — разганіха *наша* (Н.).

*Шчасце* пераходзячы *жыве.*

*Не плюй вясне ў* рот, *прыйдзе другая ў год* (Н.).

Прыкладаў метаніміі ў прыказках можна знайсці даволі-такі шмат:

Цэп любіць *галоднага, а* каса *сытага* (Н.).

У лені *баляць калені* (Н.).

*Служыў да* вуса, *паслужы ўжо і да* сівой барады (Н.).

*Перанёс бог цераз* сярпок, *перанясі, божа, цераз* душок *і* цапок (Н.).

*Ад лыжкі адарвалі* (Н.).

Адвага *гарады бярэ* (Н.).

*На пузе* шоўк, *а ў пузе шчоўк* (Н.).

*На* галодны зуб *і гэта добра* (Н.).

*Набытая* мазалём *капейка перацягне лёгкі заработак* (Н.)

і шмат іншых.

Не пакрыўджана прыказкай і сваячка метаніміі сінекдаха, прыкладам чаго могуць быць наступныя прыказкі:

*У* адзін *дзень* сем *перамен* (Н.).

*За свой* грош *усюды харош* (Н.).

*Калі год сухі, купляй* пчолку, *а калі мокры* — кароўку (Н.).

*Пра адны дрожджы не гавораць* трожды (Н.).

Адзін *з сошкаю, а* сямёра *з ложкаю* (Н.).

*Бачыць* вока, *дзе пячэцца кока* (Н.).

Тры чвэрці *да смерці.*

Язык *і Кіева дапытаецца* (Н.).

Радзей трохі ўжываецца гіпербала. Яе мы сустракаем у такіх прымаўках:

*І мухі не заб'е* (Н.).

*У лыжцы ўтапіў бы* (Н.).

*Вады не замуціць.*

*Кіем галавы не дастанеш* (Н.).

*Носа ўцерці некалі* (Н.).

*Пірог з'ясі, пакуль кругом абойдзеш* (Н.).

*У яго ўзімку лёду не дастанеш* (Н.).

Цікава адзначыць, што гіпербала, як відаць з пададзеных прыкладаў, ужываецца, бадай, выключна не ў прыказках, а ў прымаўках, найчасцей дзеля характарыстыкі той ці іншай асобы, у той час як алегорыя сустракаецца заўсёды ў прыказках.

З метанімічных тропаў асабліва пашанцавала ў прыказках іроніі. Аб вялікай колькасці жартаўліва-сатырычных і насмешлівых прыказак гаворыць Насовіч у прадмове да зборніка беларускіх прыказак. З ім цалкам згаджаецца і даследчык беларускіх прыказак Е. Ляцкі. І сапраўды, калі падлічыць, дык, напэўна, 30—35 працэнтаў прыказак маюць у сабе пэўную ступень іроніі, якая нярэдка пераходзіць у сарказм.

Вось некаторыя прыклады:

*Высах, як мядзведжая лапа* (Н.).

*Давялося свінні на неба глядзець* (Н.).

*Згразіў на бяду, пусціў рака ў ваду* (Н.).

*Палепшала бацьку к смерці* (Н.).

*Добры чалавек: што ўкусіць, тое з'есць* (Н.).

*Багат Аўдзей — поўна хата дзяцей* (Н.).

*Кавалер — свінні па каўнер.*

*Рад дурань, што пірог вялік* (Н.).

Параўнанне — таксама ўлюбёны прыём прыказкі. Сустракаюцца параўнанні як колькасныя, так і, часцей за ўсё, якасныя:

*Рынуў прымаўкаю,* як *гразёю ў вочы* (Н.).

Па форме сваёй, па спосабу злучэння частак параўнанні вызначаюцца вялікай разнастайнасцю, што яскрава паказваюць наступныя прыклады:

*Смяецца,* як *з гары едучы* (Н.).

*Першая чарка* калом, *а другая* сакалом (Н.).

Вось бы табе *я — войтава свіння* (Н.).

*Рассыпаецца* драбней *маку* (Н.).

*Вочы* па *яблыку, а галава з гарэх* (Н.).

*Меськае цялятка,* а *сельскае дзіцятка* (Н.).

*Слова* — вецер, *а пісьмо* — грунт (Н.).

Побач са станоўчымі часта сустракаюцца і адмоўныя параўнанні:

*Голад не цётка.*

*Чужы рот не хлеў, не зачыніш* (Н.).

Параўнанні вызначаюцца вялікай арыгінальнасцю дзеля таго, што звычайна параўноўваюцца рэчы зусім з розных сфер.

Калі параўноўваюцца дзве рэчы настолькі далёкія, што параўнанне здаецца недарэчным, дык дадаецца сказ, які і тлумачыць сутнасць такога параўнання, напрыклад:

*Бяда, як дуда: станеш дуць, самі слёзы йдуць* (Н.).

*На свеце, як у карэце: едзеш, калышашся, пакуль не вывернешся* (Н.).

*Стыд не дым — вачэй не выкурыць* (Р.).

*Бог не цяля — бачыць круцяля* (Н.).

Эпітэт у прыказцы не мае вельмі вялікага значэння. Ды яно і зразумела: эпітэты найчасцей ужываюцца тады, калі прадмет ідэалізуецца або калі выказваюцца разнастайныя і глыбокія эмоцыі. У прыказцы ж інтэлект пераважае над эмоцыямі. Бадай, часцей за іншыя віды сустракаюцца эпітэты псіхалагічныя:

*Мужык* дурань, *як умее, так і пяе* (Н.).

*Не бойся, калі я* смел (Н.).

*Усе* ласы *на чужыя прыпасы* (Н.).

Ласкавае *цялятка дзвюх матак ссе* (Н.).

Нярэдка сустракаюцца і эпітэты метафарычныя:

*У каханкі* смаляныя *лаўкі* (Н.).

*Лепей* лычны *мір, чымсі* раменная *сварка* (Н.).

*Не будзь ні* горкі, *ні* салодкі: *будзеш горкі, праплююць, будзеш салодкі, праклююць* (Н.).

Аздабляючыя і лірычныя эпітэты сустракаюцца значна радзей:

П р ы г о ж ы *на шубе й латкі ад роднага таткі* (Н.).
М і л *той куток, дзе рэзалі пупок* (Н.).

Зрэдку сустракаюцца эпітэты сталыя:

С т а р а я *баба,*
Ч о р н ы *вол,*
С а л а м я н ы *ўдавец.*

Маючы сваім заданнем перадаваць разнастайныя, часта чуць прыметныя, адценні думкі з належнай выразнасцю і разам з тым часамі мець тую ці іншую эмацыянальную афарбоўку, прыказка, нягледзячы на тое, што з'яўляецца вельмі нязначным па велічыні відам творчасці, шырока карыстаецца прыёмамі паэтычнага сінтаксісу. Аб гэтым сведчыць хоць бы той факт, што ў прыказках мы сустракаем амаль не ўсе вядомыя ў паэтыцы фігуры. Прыкладаў усіх я тут падаваць не буду, а спынюся на тых, якія ў прыказках найбольш ужываюцца.

Найчасцей з фігур сустракаюцца тыя, якія служаць у прыказцы кампазіцыйным прыёмам. Гэта наступныя: антытэза:

*Блізка відаць, ды далёка дыбаць* (Н.).
*Мы з табою родныя, а яны чэрці зводныя* (Н.).
*Мужык глядзіць, як варона, а хіцёр, як чорт* (Н.);

парадокс:

*Далей паложыш, бліжэй возьмеш* (Н.).
*Сячы крыва, будзе проста;*

кантраст:

*З гразі ды ў князі* (Н.).
*Вала з'ядуць, пакуль зайца заб'юць* (Н.);

паралелізм:

*У голад намруцца, а ў вайну налгуцца* (Н.).
*Якое дрэва, такі й клін, які бацька, такі й сын.*
*Дзе баліць, там ручка, дзе міла, там вочка* (Н.).

Вельмі часта ўжываецца яшчэ эліпсіс, як сродак сціслацці мовы:

*Ні пісаць, ні чытаць, на каралеўства садзяць* (Н.).
*Даў — дзякуй, не даў — другое.*

З фігур паўтарэння ўжываюцца:
эпізеўксіс (просты паўтор):

Ж д а л і, ж д а л і, *дый жданкі паелі* (Н.);

анафара (паўтор у пачатку):

П е р ш а я *чарка,* п е р ш а я *палка;*

цыкл (кольца):

Д а й *зямлі, і яна табе* д а с ц ь (Н.).;

эпанастрофа (стык):

*Не шукай* б я д ы, б я д а *цябе сама знойдзе* (Н.).

З рытарычных фігур часцей за іншыя сустракаюцца:
запытанне:

*Хто бабе не ўнук?* (Н.);

апострафа (зваротак):

*Паглядзі,* с а в а, *якава сама* (Н.).

Д з е т к і, *не будзьце едкі, ды не з'ешце бацьку ў лапцях* (Н.).

Паводле свае будовы прыказкі бываюць:
адначленныя:

*Багатаму чорт дзяцей калыша* (Н.).

*З кожнага сяла па сабаку* (Н.);

двухчленныя:

*Не купіў тата шапкі, няхай вушы мерзнуць* (Н.).

*Не ўрадзіў мак, пабудзем і так* (Н.);

трохчленныя:

*Не ў тым сіла, што кабыла сіва, але што воза не цягне* (Н.).

А часамі кожная частка двухчленнай прыказкі падзяляецца ў сваю чаргу яшчэ на дзве часці:

*Сабака касматы — яму ж цёпла,*

*Мужык багаты — яму ж добра* (Н.).

Наогул жа трэба сказаць, што прыказкі бываюць найчасцей двухчленныя, а прымаўкі — адначленныя.

Сугучнасць — з'ява ў прыказках вельмі частая і з'яўляецца важнай прыналежнасцю прыказкі, як зазначае гэта ў сваёй працы і Е. А. Ляцкі. Не абмежаваная ніякімі

канонамі і традыцыямі, рыфма ў народнай творчасці наогул і ў прыказках у прыватнасці мела поўную магчымасць усебакова развівацца. У выніку гэтага мы і бачым, што беларускія прыказкі вызначаюцца багаццем сугучнасці і разнастайнасцю спосабаў яе дасягнення.

Паводле месца націску ў рыфмаваным слове рыфмы сустракаюцца — мужчынскія:

*Быў* к в а с, *ды не было* в а с (Н.).

А д д а м *на святы* А д а м.

*Ліха* д а д н а, *а там дарога* а д н а (Н.).

*Усякі* г а д *на свой* л а д;

жаночыя:

*Пытаецца* л ю т ы, *ці добра* а б у т ы (Н.).

*Душа мая не* к р ы в а я,— *усё* п р ы м а е (Н.).

*Каму* г а д к а, *мне* м а т к а (Н.).

*Каму* п р ы р у п і ц ь, *дык вочы* п р а л у п і ц ь;

дактылічныя:

*Гора маё* ч у б а т а е, *ніхто мяне не* с в а т а е (Н.).

*Прыдаўся на* п р ы к а з к і, *як сабачая скура на* п р ы в я з к і (Н.).

*Дзякуй за* п о л у д з е н ь, *я й без яго не* г о л а д з е н (Н.).

*Стане* л і х е н ь к а, *не ўседзіш* ц і х е н ь к а (Н.).

Са ста дваццаці прыказак, узятых мною па парадку, 8 мелі дактылічную рыфму, а рэшта дзялілася пароўну паміж жаночымі і мужчынскімі. Пры гэтым цікава адзначыць, што закрытых рыфм сярод жаночых налічваецца 10 працэнтаў, сярод мужчынскіх, наадварот,— 70 працэнтаў. Закрытыя рыфмы сярод дактылічных сустракаюцца вельмі рэдка.

Паводле месца знаходжання рыфмы ў прыказцы мы маем самыя разнастайныя выпадкі. Найчасцей рыфмуюцца апошнія словы дзвюх частак прыказкі:

*Не глядзі* б я л а, *абы рабоча* б ы л а (Н.).

*Не ганіце бога ў* л е с, *калі ў хату* ў л е з (Н.).

*Пусці* з я ц я, *калі няма чорта ў* х а ц е (Н.).

Сустракаецца рыфма анафарычная: словы рыфмуюцца ў пачатку дзвюх частак прыказкі:

З л я с к у *даждэшся, а* з п я с к у *ніколі* (Н.).

Рыфма-кольца, калі рыфмуюцца першае і апошняе словы, сустракаецца найчасцей у адначленных прыказках:

А п у х а *дарожай* к а ж у х а (Н.).

А д к л а д *не йдзе ў* л а д (Н.).

Часамі рыфмуюцца сумежныя словы:
у пачатку:

А б я ц а н к а ц а ц а н к а, *а дурному радасць* (Н.).

А д л і х а ц і х а, *і дабра не чуваць* (Н.);

у сярэдзіне:

*На адно* в у х а г л у х а, *а на другое не чуе* (Н.);

у канцы:

*Пазнаюць нашу* д а ч к у *і ў* а н д а р а ч к у (Н.).

*Добраму малайцу і стракатая* к а б ы л а м і л а (Н.).

Часамі кожная частка ці кожная палова прыказкі мае сваю асобную рыфму:

*Часам з квасам, парою з вадою* (Н.).

*Ці аб тым тужыць, што мама ляжыць?*

*Калі бог прыстане, і бацька не ўстане* (Н.).

Ёсць прыказкі, у якіх рыфмуюцца тры словы:

*Луста ды капуста, не будзе ў жываце пуста* (Н.).

*Ад дошкі да дошкі, а ў сярэдзіне ні крошкі* (Н.).

*Паследкі дзеткі — едкі* (Н.).

Паводле свайго гукавога выяўлення ў прыказках мы сустракаем найчасцей рыфму дакладную:

*Нашы* с л у г і *пагнуліся ў* д у г і (Н.).

*Не чапай* л і х а, *пакуль спіць* ц і х а.

*На яду* м а с т а к, *а на работу* с я к-т а к (Н.).

*Прыбяруся я* м я х о м, *сорам будзе* ж а н і х о м (Н.).

Значна радзей сустракаецца прыблізная рыфма:

Н і ў к а, н і ў к а, *аддай маю* с і л к у (Н.).

*Аддай* ж о н к у, *а сам у* с а л о м к у.

Асанаваныя рыфмы ў прыказках досыць пашыраны:

*Смачна* б ы л о, *ды блізка* д н о (Н.).

*Будзе* п а р а, *вырасце* т р а в а (Н.).

*Мінулася тое* лета, *што лупілася* рэпа (Н.).

*Жыць* весела, — *ды есці нечага* (Н.).

Алітэрацыі ў прыказках таксама з'ява не рэдкая. Яны асабліва выпуклююцца ў тых прыказках, дзе няма рыфмы ў цесным сэнсе слова, у іншых выпадках яны робяць сугучнасць больш поўнай і сакавітай:

Валачыў воўк авец, *павалаклі й* воўка (Н.).

У гэтым прыкладзе асабліва дарэчы паўтор гука «в» і «ў», бо гэта стварае падабенства воўчага выцця. Вось і яшчэ прыклады:

*Дудар дудару дарма грае* (Н.).

*Вольнаму воля, шалёнаму поле* (Р.).

*Пакуль на гумне цэп, патуль на стале хлеб* (Н.).

Радзей сустракаюцца дысанансы:

*Святы божа, святы* крэпкі, *хто ў цымбалы,*
*а хто ў* скрыпкі (Р.).

*Голы, як* біч, *а востры, як* меч (Н.).

Вось некалькі камбінацый розных відаў сугучнасці:

*Паглядзі,* сава, якава сама (Н.).

*Пад* чорным лесам *спаткаўся* чорт
з бесам (Н.).

Пайшоў пасол, *дый* упаў у расол (Н.).

Наколькі высока ставіцца ў прыказцы, як і наогул у народнай творчасці, рыфма, відаць з таго, што для рыфмы часта мяняецца ў слове націск:

*Калі Мартын у вадзе, то Ражство ў лядзе* (Р.).

*Якая мая мама, такая й я сама* (Н.).

Часам для рыфмы слова ўжываецца ў іншай граматычнай форме:

*На сем* двор *адзін тапор, адзін рубіць,*
*а шасцёра ў кулак трубяць* (Н.).

А часамі, як мы бачылі пры разглядзе неалагізмаў, для рыфмы ўтвараюцца і новыя словы:

*Кепска, калі не* лепска (Н.).

*Ілья ўкінуў* лядня (Р.).

Рытміка ў прыказках не мае такога істотнага значэння, як, скажам, у песнях. Але якраз гэта паніжэнне вымаганняў рытмічнасці і з'явілася прычынай вялікай яе разнастайнасці ў прыказках. Для таго каб выявіць усю гэту разнастайнасць, патрэбна было б шмат працы і шмат часу, дзеля гэтага я абмяжуюся толькі некаторымі больш-менш агульнымі заўвагамі.

Ёсць прыказкі, якія рытмічнасцю не адрозніваюцца ад звычайнай празаічнай мовы. Гэта найчасцей прыказкі з адным лагічным націскам:

*Пара касцей не ломіць.*

Большая рытмічнасць дасягаецца, калі прыказка дзеліцца на дзве часткі і ў кожнай з іх на пэўным месцы стаіць слова з моцным лагічным націскам:

*Што па той чэсці, калі нечага есці.*

Далей праз акцэнтны верш:

*Дарога торна,*
*Ды работа не спорна* (Н.)

і праз паўзы:

*Па тры грошы на дзень —*
*Куды хочаш, туды дзень,*

прыказка даходзіць часамі да правільных вершавых размераў:

*Дай на тры дні,*
*Возьмеш злыдні* (Н.)

або:

*Не піўшы, не еўшы,*
*Скачы ашалеўшы* (Н.).

Прычым, апрача выразных двухскладовых і трохскладовых размераў, нярэдка можна сустрэць верш, які з'яўляецца пераходным ад аднаго размера да другога. Напрыклад, радкі:

*Сядзі, баба, да вечара,*
*Табе бліноў напечана* (Н.)

можна разглядаць як пеон другі

або:

*Яго доля*
*У канцы поля* (Н.)

можна разглядаць як антыспаст, які, дзякуючы моцным націскам на апошніх словах радкоў, мае нахіл да пеону трэцяга.

Паспрабуем цяпер намаляваць вобраз тварца і спажыўца разгледжаных прыказак. Вядома, што гэта не так лёгка зрабіць з тае прычыны, што нават і ў адной асобе часамі заўважаецца несуцэльнасць і супярэчлівасць светапогляду, а тут мы маем справу з цэлым народам і не ў адзін які-небудзь гістарычны момант, а на працягу цэлых вякоў. Аднак некаторыя, хоць агульныя, рысы намеціць, бадай, можна будзе.

Перш за ўсё, як уяўлялася цёмнаму, адурманенаму рэлігійнымі забабонамі чалавеку светабудова? Над сусветам нібыта стаіць бог, які і кіруе ўсімі галінамі прыроды. У адносінах да чалавека яго абавязкі — даць яму неўміручую душу і напісаць на раду, гэта значыць вызначыць яму пэўны лёс. Гэты бог мае вялікую колькасць рознага дабра, якое і размяркоўвае паміж людзьмі, час ад часу перадзяляючы раздадзенае людзям нанава. Гэта яго штодзённая праца. Уладу над светам бог падзяляе ў пэўнай меры з чортам, які карыстаецца кожным выпадкам, каб уварваць у чалавека што-небудзь і на сваю долю. Гаспадарыць богу памагаюць святыя, паміж якімі і размеркаваны розныя галіны гаспадаркі. Гэтыя святыя пры абмеркаванні розных спраў, відаць, маюць значную моц і часамі вырашаюць справы па-свойму, не згаджаючыся з поглядамі бога.

Абавязкі чалавека ў адносінах да бога не вельмі вялікія — гэта памаліцца яму, калі для гэтага ёсць вольны час. Пра гэты абавязак за рознымі клопатамі часта забываюцца і ўспамінаюць, калі здарыцца якое-небудзь няшчасце.

З чортам таксама трэба захоўваць прыяцельскія адносіны, на ўсякі выпадак.

Калі прыгледзецца бліжэй да бога, дык убачым, што гэта не хрысціянскі бог-дух, вялікасны і ўсемагутны. Значную долю вялікасці ён страціў. Гэта і не дух нават, а матэрыяльная істота, якая бачыць і чуе ў сапраўдным значэнні гэтых слоў, нават можа спаць і не спаць. Хоць спаць яму і часу вельмі няма, бо ўвесь час заняты рознымі гаспадарчымі абавязкамі. Гэта хутчэй і не бог, а беларус-селянін у сусветным маштабе, руплівы, працавіты.

Душа ў беларуса таксама матэрыяльная і ўяўляецца яму як нейкая жывая істота.

Апрача бога, чорта і святых ён нібыта яшчэ нейкая сіла, да якой забабонны чалавек адносіўся заўсёды з асцярогай і некаторым страхам. Гэта сіла слова. Праз слова можа здарыцца тое ці іншае няшчасце, калі скажаш яго ў ліхі час. Вось чаму, гаворачы пра нядобрае, такі чалавек

заўсёды лічыў патрэбным агаварыцца перад гэтай сілай і запэўніць, што гэта гаворыцца не пры гэтых людзях, не ў гэтым месцы, не ў гэты час.

Такая філасофска-рэлігійная сістэма служыла простаму чалавеку для таго, каб вытлумачыць розныя з'явы і сілы прыроды, вызначыць свае да іх адносіны і вытлумачыць усё тое, што здараецца з ім у жыцці, і рэальнай прычыны чаго ён не можа знайсці. Але ў сваё практычнае жыццё, у свае штодзённыя справы ён не любіць дапускаць вышэйшых істот. Калі здарыцца якое-небудзь няшчасце па віне самога чалавека, дык ён не звяртаецца да бога, [redacted] выводзіць правіла:

*Не дагледзіш вокам, заплаціш бокам.*

На ласку ды шчодрасць божую ў практычным жыцці ён таксама вельмі не спадзяецца, бо з практыкі ведае, што

*Калі сам не зробіш, дык і бог не дасць.*

Пераходзячы ад разгляду ўзаемаадносін з богам да разгляду ўзаемаадносін з чалавекам, да разгляду філасофіі рэальнага жыцця, мы можам з пэўнасцю канстатаваць, што ўсе правілы маралі і этыкі грунтуюцца ў простага чалавека на практычнай глебе. З людзьмі трэба жыць у ладзе і не рабіць ім шкоды. Чаму? Не ў імя якіх-небудзь вышэйшых інтарэсаў, а таму, што справа гэта, выходзіць, не вельмі выгадная, бо

*Шыбаючы на чужы лоб, трэба й свой падстаўляць.*

Людзям трэба рабіць дабро — зноў жа не для самога дабра, а таму, што людзі табе адплацяць тым жа:

*Кінь за сабою, дык знойдзеш перад сабою.*

А калі дабро робіцца для дабра ды яшчэ шкодзіць матэрыяльным інтарэсам гэтага добрага чалавека, дык гэта лічыцца дурасцю:

*Лішняя дабрата — дурата.*

Галоўныя якасці, якія высока ставяцца ў чалавеку, гэта перш за ўсё працавітасць. Мы маем некалькі дзесяткаў прыказак, якія асмейваюць ляноШчы і выслаўляюць працавітасць, але зноў жа не таму, што праца з'яўляецца маральным абавязкам кожнага чалавека, і не таму, што «бог труды любіць», а таму, што «работа і корміць, і поіць». Высока ставіцца яшчэ чэснасць, асабліва ў адносінах да чужой уласнасці.

Аднак ёсць сіла, якая можа парушыць гэтыя правілы маралі,— гэта голад, які «і лжэ, і крадзе». Зноў жа крадзеж — гэта не абсалютнае зло,— ёсць выпадкі, калі ён нават апраўдваецца. Пра крадзеж у панскім лесе, напрыклад, гаворыцца:

*Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.*

Пачуцці ў жыцці беларуса-селяніна, паводле прыказак, займаюць досыць значнае месца, але калі яны сустракаюцца з практычнымі матэрыяльнымі інтарэсамі, дык часта ўступаюць ім. Сведкамі гэтага з'яўляюцца прыказкі аб сваяцкіх пачуццях і ўзаемаадносінах: радня, браты, сёстры — ва ўсіх іх на першым месцы інтарэсы матэрыяльныя. Нават

*За грошы й бацьку роднага купіш,—*

кажа прыказка. Толькі мацярынскае пачуццё непадкупнае. Яно ставіцца вышэй за ўсякія матэрыяльныя інтарэсы:

*Няма тае крамы, дзе прадаюцца родныя мамы.*

Прыказкі аб каханні і шлюбе зноў жа гавораць, што і тут пачуццё, калі яно ідзе ўразрэз з матэрыяльнымі інтарэсамі, не заўсёды бярэ верх.

Мастацкі бок прыказак гаворыць нам аб вялікай жывасці ваабражэння стваральнікаў прыказак, аб чым сведчаць тыя надзвычайныя супастаўленні, якія мы бачым у метафарах і параўнаннях. Мастацкі густ народа выявіўся як у справе маляўнічасці, так і ў сугучнасці прыказак, якая часамі дасягае ўзроўню лепшых узораў сучаснай паэзіі. Вобразнасць скрозь вызначаецца канкрэтнасцю і пластычнасцю. Нават адцягненыя паняцці, як голад, бяда, няволя, уяўляюцца рэальнымі істотамі.

Спецыфічнымі рысамі светапогляду і характару беларускага селяніна мінулага часу, якія адбіліся ў прыказках, на мой погляд, з'яўляюцца адсутнасць рэлігійнага фанатызму, скромнасць і некаторы скептыцызм у адносінах да рэчаў і людзей, а адгэтуль іронія, якой прасякнута такая значная колькасць беларускіх прыказак.

Калі паставіць усё вышэйадзначанае ў сувязь з сацыяльна-эканамічнымі і культурна-гістарычнымі ўмовамі, дык, напэўна, удасца знайсці рад прычын, якія ў пэўнай меры і абумовілі як светапогляд беларуса, так і яго псіхіку. Перш за ўсё на філасофска-рэлігійных поглядах беларуса моцна адбіліся ўмовы культурна-гістарычныя. Мы ведаем,

што ў свой час хрысціянскі бог прыйшоў да славян багавацъ з цэлым штатам святых. Паколькі ў славян не было адзінага і галоўнага бога, дык новаму богу досыць лёгка было заняць гэту пасаду. Але са святымі справа была куды горшая. Інтарэсы іх сустрэліся з інтарэсамі тутэйшых багоў. А дзеля гэтага распачалася доўгая і ўпартая барацьба паміж хрысціянскімі святымі і тутэйшымі славянскімі багамі. Барацьба гэта вялася аж да самага апошняга часу, і вялася, трэба сказаць, не на карысць хрысціянскіх святых. Праўда, фармальна верх застаўся за імі: святыя сталі называцца іх імёнамі, але яны прымушаны былі ўзяць на сябе абавязкі старых багоў. Такім чынам, выйшаў нейкі кампраміс паміж хрысціянствам і язычаствам, што і адбілася ў прыказках.

Побач з гэтым у вераваннях беларусаў засталіся і сляды далёкай старасветчыны, рэшткі магіі, як, напрыклад, вера ў моц слова.

Далей мы бачым, што ўся рэальна-жыццёвая філасофія беларуса-селяніна наскрозь прасякнута практыцызмам і нават своеасаблівым матэрыялізмам. Беларус як бы зусім свядома, хоць і своеасабліва, падводзіць эканамічную падставу пад ідэалогію. Яскрава сведчаць аб гэтым такія прыказкі, як:

*Калі не пад'ясі, дык і святых прадасі.*

*Голад і лжэ, і крадзе.*

*На чыім возе еду, таму й песні пяю.*

Многія прыказкі з'яўляюцца ў пэўнай меры як бы перыфразам вядомай формулы матэрыялістычнай філасофіі — «Быццё вызначае свядомасць». Пастаўлены ў неабходнасць здабываць сабе хлеб сваёй працай і працай фізічнай, дзе заўсёды чалавек мае справу з рэчамі матэрыяльнымі, селянін на сабе самім дазнаўся, што гэтыя матэрыяльныя рэчы з'яўляюцца першай і галоўнай умовай яго існавання, без якога ніякая мараль немагчыма.

Сацыяльнае становішча і характар працы моцна адбіліся і на фармальна-мастацкім баку прыказак. Перш за ўсё імі абумоўлена канкрэтнасць вобразаў. Па-другое, мы бачым, што ўсе вобразы ўзяты з вясковага жыцця і з прыроды, да якой так блізка стаіць селянін.

У прыказках яскрава выявілася і класавая псіхалогія іх творцаў. Перш за ўсё па цэлым шэрагу прыказак мы бачым, што яны належаць да класа працоўных. Па-другое, тут выяўляецца псіхалогія ўласніка. Выявілася гэта асаблі-

ва яскрава ў адносінах да калектыўнай працы. Прымаючы ўдзел непасрэдна і заўсёды ў працэсе працы, селянін на практыцы дазнаўся, што калектыўна працаваць лягчэй і спарней, але яго ўласніцкая псіхалогія вельмі моцна перашкаджае такой працы, асабліва пры размеркаванні вынікаў працы.

Некаторыя прыказкі сведчаць аб тым, што яны ўтвараліся ў асяроддзі, не аднастайным па сваёй класавай сутнасці. Такія прыказкі, як

*Голь галіта, голлю паліта,*

*Як гол, так і васцёр,*

*Не караючы раба, не бачыць з яго дабра,*

гавораць аб тым, што спажыўцы іх адносяцца да бедных не вельмі прыхільна, што яны самі карыстаюцца працай бедных і прапануюць ужываць у адносінах да наймітаў строгія меры, каб атрымаць як мага больш карысці. Але куды больш сустракаецца прыказак, у якіх выказваецца спагада да бедных і якія малююць цяжкае жыццё парабкаў. Такая падвойнасць адносін да беднасці і бедных адлюстроўвае класавае расслаенне грамадства.

Наогул жа ў прыказках досыць выразна выявілася класавая сутнасць. Беларус-селянін уцяміў, што «не той піва п'е, хто варыць», і што варыць піва гэта ён, а п'е яго нехта іншы, хто жыве за кошт працоўных. Прыказкамі ж падводзіцца эканамічная падстава і пад з'явы класавай барацьбы, як бунты ды паўстанні:

*Голаму разбой не страшан.*
*Чым галей, тым смялей.*

Гэта, іншымі словамі, той самы марксісцкі лозунг: «Пралетарыю няма чаго траціць, апрача сваіх ланцугоў». І гістарычныя факты гавораць нам, што для працоўнага беларуса гэта былі не толькі словы. Часамі гэтыя «голыя», даведзеныя да адчаю нечуваным здзекам і эксплуатацыяй, сапраўды ішлі разбоем супроць сваіх прыгнятальнікаў. Гісторыя захавала імёны такіх паўстанцкіх правадыроў, як Антон Нябаба, Кастусь Каліноўскі і іншыя. Але цяжка было малаарганізаванай беднаце змагацца з пануючым класам: сілай штыкоў яе заганялі зноў у паднявольнае становішча, дзе яна знаходзілася пад падвойным уціскам — сацыяльным і нацыянальным. Гэта было такое становішча, калі «адтуль горача, адтуль боляча» і калі «б'юць і плакаць не

даюць». А раз не даюць плакаць, дык заставалася толькі... смяяцца. І працоўны беларус не плакаў, а часцей смяяўся. Хоць гэта быў такі смех, пра які кажуць:

*Смяецца, бо плакаць не даецца.*

Смяяўся ён са сваіх класавых ворагаў, смяяўся з самога сябе і са свайго жыцця. Ён смяяўся, а сам не траціў надзеі на лепшую будучыню і гаварыў:

*Засвеціць сонца і ў наша ваконца.*

*1926—1927*

## ДУМКІ ПРА САТЫРУ

Сутнасць сатыры ў тым, каб выстаўляць напаказ, на смех адмоўныя з'явы жыцця. Але адмоўнае можа быць пазнана толькі ў параўнанні з дадатным. Інакш кажучы, сатырык заўсёды мае крытэрыем нейкія пэўныя, рэгламентаваныя ці нерэгламентаваныя, нормы жыцця або ідэалы, пад якія не падыходзіць, якім супярэчыць тая з'ява, якую ён выстаўляе на смех. Ясна, што такія нормы могуць быць толькі ў чалавечай грамадзе. Па-за грамадою іх не бывае. У прыродзе ёсць пэўныя, ад веку існуючыя законы, паводле якіх усялякія змены і адбываюцца. Там можа быць гутарка толькі аб неабходным, аб немінучым, а ў плане пераробкі прыроды — аб выкарыстанні тых жа законаў на патрэбу чалавеку. Гаварыць аб нормах жыцця, аб ідэалах можна толькі ў грамадзе. І сапраўды, даволі хоць зболыпага прыгледзецца да жыцця, каб пераканацца, што аб'ектам смеху (асмяяння) ніколі не бываюць з'явы прыроды, а заўсёды людзі з іх учынкамі і характарамі.

Наогул у жыцці гэта робіцца часта несвядома, але сатырык заўсёды свядома бярэ сваім аб'ектам або з'явы грамадскія, або такія з'явы чалавечай псіхікі, якія могуць мець уплыў (шкодны, вядома) на грамадскае жыццё.

Якіх людзей і якія іх учынкі будзе браць сатырык для сваё творчасці і як ён іх будзе падаваць,— гэта залежыць ад класавай пазіцыі самога аўтара, ад таго, у якіх адносінах ён знаходзіцца да найбольш дзейных, важных па свайму гістарычнаму значэнню, сіл грамадскасці. У гісторыі сус-

ветнай літаратуры мы маем прыклады сатыры як прагрэсіўнай, так і глыбока кансерватыўнай ці нават рэакцыйнай. Вывадам з вышэйсказанага з'яўляецца, па-першае, тое, што сатырык не можа адарвацца ад грамадскага жыцця таксама, як не можа выскачыць са свае ўласнай скуры; па-другое, паколькі сатырык выстаўляе напаказ, на смех з'явы жыцця, якія не падыходзяць пад пэўныя ідэалагічныя ці этычныя нормы, дык ён павінен мець гэтыя нормы цвёрда ўстаноўленымі. Ясна, што яны могуць і не застацца нязменнымі на працягу ўсяго развіцця яго асобы, але ў кожны даны момант яны павінны быць выразнымі, інакш кажучы, павінна быць выразнай яго пазіцыя ў адносінах да асноўных дзейных сіл, якія вядуць змаганне ў грамадстве.

Для сатырыка ў нашых савецкіх умовах, калі ён хоча, каб яго сатыра была сапраўды прагрэсіўным фактарам, ёсць дзве асноўныя групы аб'ектаў. Першая — гэта тыя рэшткі старой грамадскасці, што існуюць у непрыкрытым выглядзе: кулакі, духавенства, прыватныя гандляры. Гэтыя элементы іграюць адмоўную ролю ў грамадзе, і сатырык, безумоўна, не павінен іх пакідаць без увагі. Аднак з задавальненнем можна адзначыць, што роля гэтых элементаў у нас з кожным годам змяншаецца. Кулака — дзякуючы ўзняццю самасвядомасці беднаты, дзякуючы поспехам палітыкі савецкай улады на вёсцы; духавенства — дзякуючы ўсё большаму ўкараненню ў масы пралетарскай ідэалогіі і вызваленню іх ад рэлігійнага дурману.

Маладое, выхаванае ў савецкіх школах пакаленне не можа служыць апораю рэлігіі, і за 2—3 дзесяткі бліжэйшых гадоў роля рэлігіі ў савецкім грамадстве зменшыцца да мінімуму.

Прыватнік таксама паступова траціць сваё значэнне дзякуючы ўсё большаму развіццю сацыялістычных форм гаспадаркі.

Безумоўна, з паступовым змяншэннем удзельнай вагі гэтых груп грамадства і ўвага сатырыка будзе прыцягвацца імі ўсё ў меншай меры, а пакуль што яны знаходзяцца яшчэ ў цэнтры яго ўвагі.

Другая група рэштак мінулай грамадскасці — гэта тыя элементы, якіх рэвалюцыя толькі на хвіліну збянтэжыла. Схамянуўшыся, яны спрабуюць прыстасавацца да новых форм грамадскасці і выкарыстаць гэтыя формы ў сваіх уласных інтарэсах, якія ідуць уразрэз з інтарэсамі сацыялістычнага будаўніцтва. Пралазяць такія элементы ў савецкія ўстановы, грамадскія, а часамі нават і партыйныя

арганізацыі. Панцыры іх службовых аўтарытэтаў часамі настолькі моцныя, што вастрыё сатыры можа іх даставаць да жывога толькі з вялікай цяжкасцю і... небяспекаю. Аднак гэта не павінна спыняць сатырыка, калі ён не хоча ісці па лініі найменшых перашкод і не хоча заплюшчваць вачэй на шкоднасць гэтых элементаў. Бо адмоўнае значэнне такога «элемента» прама прапарцыянальна вышыні яго палажэння ў грамадстве.

Апрача гэтых асноўных дзвюх груп аб'ектаў, ёсць яшчэ пэўная катэгорыя людзей, якія лаяльна або нават прыхільна настроены ў адносінах да савецкага ладу, але якія ў сваім быце абвешаны рознымі перажыткамі, забабонамі старога ладу, з'яўляюцца інертным, кансерватыўным элементам і вісяць цяжкімі гірамі на нагах тых, хто імкнецца ісці наперад. Сатырыку, безумоўна, грэх было б пакінуць іх без увагі.

Гэта ўсё гаварылася пра змест сатыры ў нашых савецкіх умовах. Цяпер не шкодзіць сказаць пра форму сатыры ў нашых савецкіх беларускіх умовах. Задачы формы могуць быць намечаны толькі тады, калі мы ясна ўявім сабе тую функцыю, якую выконвае форма мастацкага твора. А функцыя гэта, на маю думку, вось якая.

У мяне ёсць пэўныя думкі і пачуцці. Я хачу перадаць гэты змест мае псіхікі другому чалавеку, другім людзям. А дзеля гэтага я павінен прыдаць гэтаму зместу адпаведную форму. Інакш кажучы, форма з'яўляецца спосабам выклікаць у псіхіцы іншых людзей працэсы, аналагічныя тым, якія адбываюцца ў маёй псіхіцы. Але псіхіка «іншых людзей» далёка неаднастайная: яна розніцца ў залежнасці ад класавай прыналежнасці, культурнага ўзроўню і шэрагу іншых прычын. Дзеля гэтага і форма мастацкага твора будзе розная ў залежнасці ад таго, на якую групу чытача пісьменнік арыентуецца. А ў сваёй творчасці кожны пісьменнік іменна арыентуецца на пэўную групу чытачоў, хоць найчасцей гэта робіцца падсвядома. Дасканаласць формы вызначаецца здольнасцю мастака, характар яе — галоўным чынам асаблівасцямі псіхікі чытача пэўнай катэгорыі.

На якога ж чытача ў асноўным павінен арыентавацца савецкі сатырык? Задача сатыры, па-мойму,— выстаўляць адмоўныя з'явы жыцця на суд, на асмяянне шырокіх мас рабочых і сялян. Адгэтуль, як неабходнасць, вынікаюць некаторыя асаблівасці формы сатырычных твораў, у першую чаргу стылю, які павінен імкнуцца да адноснай

прастаты. Мова павінна набліжацца да народнай як сваім слоўным складам, так і фразеалогіяй. Сінтаксічная пабудова сказа павінна вызначацца выразнасцю. Калі лірык і можа часамі выліваць у радкі чуць прыкметныя эмоцыі, то для сатырыка[1] гэта рэч немагчымая. Сатырычны твор створыць належны эфект толькі тады, калі аб'ект асмяяння будзе абмалёван з усёю выразнасцю. Аднак прастату стылю я ні ў якім разе не разумею як спрашчэнне, г. зн. зніжэнне яго мастацкай вартасці. Я мыслю якраз наадварот.

Просты чалавек не прывык мець справу з абстрактнымі паняццямі, і да яго псіхікі лепшы доступ будуць мець прадстаўленні, вобразы. З тае ж прычыны вобразы павінны быць канкрэтныя, рэчавыя, супастаўляцца павінны не абстрактныя паняцці, а рэчы і з'явы.

Матэрыял для вобразаў належыць браць знаёмы для чытача. Багатаю крыніцаю для гэтага з'яўляецца прырода і бытавая абстаноўка, у якой жывуць працоўныя масы.

З усяго гэтага, вядома, ні ў якім разе не вынікае, што з такой устаноўкай мастацка напісаны твор не задаволіць больш культурнага чытача. Але наадварот заўсёды можа быць: нават высокамастацкі твор, дзякуючы асаблівасці свайго афармлення, можа высока цаніцца інтэлігентным чытачом і застацца незразумелым і недаступным для чытача масавага.

Што да сатырычных жанраў, дык яны выразна дзеляцца на дзве асноўныя катэгорыі. Першая катэгорыя — жанры тымчасовыя: сатырычны фельетон (прозаю і вершам), жарт. Яны з'яўляюцца выключнай спажывай сатырычных часопісаў і вельмі ўлюбёнай стравай газет. Жанры гэтыя недаўгавечныя: жывуць часамі не больш аднаго дня, але чытаюцца з ахвотаю і робяць вялікі ўплыў.

Другая катэгорыя — гэта жанры, якія прэтэндуюць на большую сталасць і даўгавечнасць. Гэта часта тыя ж самыя разнастайныя эпічныя, драматычныя і лірычныя жанры, ад паэмы і рамана да навелы і эпіграмы, толькі ў сатырычнай афарбоўцы. Найчасцей жа практыкуецца сатыра ў цесным сэнсе слова (верш-сатыра), сатырычнае апавяданне, байка. Розніцу паміж гэтымі дзвюма катэгорыямі сатырычных жанраў некаторыя бачаць у тэматыцы і азначаюць першую катэгорыю, як літаратуру надзённую, «на злобу дня».

---

[1] Процістаўленне лірыка сатырыку можа быць толькі па пераважнасці лірычнага ці сатырычнага элемента. Вельмі часта абодва гэтыя элементы зліты ў адным творы. Узорам такога сінтэзу могуць служыць творы Г. Гейнэ.

Але, на маю думку, розніца тут не столькі ў тэме, колькі ў яе афармленні. На адну і тую ж самую тэму можна напісаць газетны фельетон і сатырычны раман. Гэта другая катэгорыя жанраў адрозніваецца большай тыпізацыяй з'яў, шырынёю абагульненняў і глыбінёю псіхалагічнага аналізу. У фельетоне з'ява трактуецца як прыватны выпадак, героі ледзь намячаюцца і вызначаюцца схематычнасцю.

Якія ж жанры варта культываваць, а якія лічыць «устарэлымі»? Тут павінен быць адзін нязменны крытэрый: наколькі той ці іншы жанр можа выконваць свой службовы абавязак — перадаваць змест мае псіхікі чытачу, мае адносіны да тае ці іншай грамадскай з'явы. Калі ён выконвае сваю функцыю дасканала, я ахвотна гатоў яго культываваць. Калі ён гэта рабіць няздольны, я магу яго або зусім адкінуць, або ўнесці адпаведныя змены. Некаторыя «страшныя рэфарматары» спрабавалі, напрыклад, давесці непатрэбнасць байкі як жанру ўстарэлага, але практыка паказвае, што байка прыхільна сустракаецца чытачом (і слухачом) і стварае належны эфект. А пакуль яна здольна на такую службу, да таго часу яна можа жыць і развівацца, нягледзячы на ўсе выдумкі «страшных рэфарматараў».

Аб устарэласці таго ці іншага жанру ў беларускіх умовах нельга гаварыць часта яшчэ і таму, што шмат якія з літаратурных жанраў у нас яшчэ зусім не практыкаваліся, і кожнае мэтазгоднае ўвядзенне такога жанру з'яўляецца ўкладам у скарбніцу беларускай літаратуры.

Але адгэтуль яшчэ не вынікае, што не павінна быць імкнення да стварэння новых жанраў. Наадварот,— гонар і слава таму пісьменніку, які здолее стварыць новы літаратурны жанр. Гэта будзе каштоўным укладам не толькі ў беларускую літаратуру, але і ў сусветную.

*1928*

## ПРА КІТАЙСКІ МУР

Ці цеперся гавораць ужо пра тое, што не шкодзіла б наладзіць жывы абмен думкамі пісьменніка з чытачом; што гэта вельмі б карысна было, асабліва для пісьменніка. І сапраўды: пісьменнік дае пэўную літаратурную прадукцыю, нехта гэту прадукцыю спажывае, але хто і як

спажывае, чым спажывец задаволен і што б ён хацеў, каб было іначай, вось гэтага пісьменнік і не ведае, бо прадукцыя гэта, па тэхнічных умовах, ідзе непасрэдна ад пісьменніка да спажыўца, а праз дзесяткі пасрэдніцкіх рук, і якраз толькі рук; бо найчасцей гэтыя пасрэднікі зусім не думаюць аб збліжэнні пісьменніка з чытачом і нават не ведаюць, што ўласна яны даюць спажыўцу. А пісьменніку вельмі б хацелася, калі не бачыць, то хоць бы чуць спажыўца і прыслухоўвацца да яго запатрабаванняў. Чытачу таксама, напэўна, хацелася б выказаць свае меркаванні пра тое хоць, што яго асабліва задаволіла або не задаволіла. Але, нягледзячы на гэта жаданне з абодвух бакоў, пісьменніка і чытача раздзяляе нейкі кітайскі мур, праламаць які ґрунтоўна да ґэтага часу яшчэ, здаецца, нікаму не ўдалося. Гавораць пра гэта паасобныя літаратурныя працаўнікі, гавораць часамі і рэдакцыі, але яны сабе гавораць, а мур сабе стаіць, і голасу масавага чытача з-за яго ўсё роўна не чутна. На момант прыходзіць думка — ці не міф ужо і самы гэты масавы чытач? Можа, яго і на свеце зусім няма? Можа, яго выдумалі дасужыя літаратары для большага апраўдання свае творчасці? Але ж і праца бібліятэк і шматтысячныя тыражы кніг гавораць аб тым, што гэты чытач сапраўды ёсць. Дык у чым жа справа? Відавочна, тыя формы выказвання аб літаратурнай творчасці, якія практыкаваліся да гэтага часу, не падыходзяць для масавага чытача; ёсць, напэўна, нейкія прычыны, якія не даюць яму магчымасці карыстацца гэтымі формамі. Паглядзім жа, што мы мелі да гэтага часу.

Перш за ўсё — крытычныя артыкулы. Гэта адна з пашыраных форм выказвання аб літаратурнай творчасці. Але... тут мы сустракаемся з вельмі вялікім «але», якое не дазваляе звычайнаму чытачу выкарыстаць гэту форму. Папершае, для пісання крытычных артыкулаў патрэбна досыць высокая кваліфікацыя, патрэбна аўладаць пэўным метадам, з якім аўтар павінен падыходзіць да ўсебаковага разгляду і ацэнкі літаратурнага твора. Усё гэта пад сілу толькі тым людзям, якія спецыяльна рыхтавалі сябе да такой дзейнасці. Другая нявыгаднасць — гэта, калі можна так сказаць, некаторая нерухавасць гэтай формы выказвання.

Крытык звычайна не любіць выказвацца аб паасобных, ды яшчэ невялікіх, творах. Ён калі бярэ, дык цэлы раман або паасобны зборнік твораў, а часта ахапляе і цэлы перыяд пісьменніцкай дзейнасці. Ёсць нават і такія, што

мяркуюць, каб гэта зараз выказацца аб усёй творчасці таго ці іншага пісьменніка. Тут ужо самому пісьменніку не суджана пачуць высокааўтарытэтнага слова такога крытыка, бо крытык проста чакае, пакуль пісьменнік памрэ. Вось дзеля гэтых прычын звычайны чытач і не можа выкарыстаць гэту форму, вось дзеля таго і крытыкаў у нас можна на пальцах пералічыць, і крытычнай літаратуры — кот наплакаў. Дый з гэтага, што ёсць, немалую частку варта б было выкінуць з грамадскага карыстання, як прадукцыю людзей, пазбаўленых самай элементарнай сумленнасці, якія, пішучы, абараняюць інтарэсы вузка-гуртковыя або свае асабістыя. Такая крытыка, апрача шкоды, і грамадству і пісьменніку нічога не дае.

Што да рэцэнзій, дык яны таксама пішуцца не іначай як на цэлыя кніжкі, і таму маларухавасць іх амаль такая ж, як і крытычных артыкулаў. Апрача гэтага, разабраць цэлую кніжку і даць ёй ацэнку, хоць бы сабе і сціслую, справа таксама досыць нялёгкая. Ува ўсякім разе ў звычайнага чытача не хопіць часта ні часу, ні, можа, нават падрыхтаванасці, каб гэтай справай займацца. І пішуцца рэцэнзіі звычайна калі не спецамі, то напаўспецамі, якія ў курсе літаратурных спраў і атрымалі некаторую літаратурную адукацыю. Рэцэнзентаў у нас таксама не вельмі многа.

Некаторыя рэдакцыі, каб даведацца, чаго хоча чытач, пробавалі рассылаць адпаведныя анкеты. Але гэты спосаб, здаецца, не апраўдаў сябе ў поўнай меры. Перш за ўсё часта на запаўненне анкеты глядзяць як на лішнюю нагрузку і або зусім нічога не адказваюць, або проста адпісваюцца. Зноў жа ў анкеце шмат такіх пытанняў, якія чытача зусім не цікавяць, а яго як бы абавязваюць пра гэта думаць, і гэта адбівае ў яго ахвоту запаўняць анкету. Апрача гэтага, пытанні анкеты адносяцца галоўным чынам да агульнай пастаноўкі таго ці іншага органа, і вельмі рэдка прапануецца выказацца аб якасці мастацкага твора. А калі б такія пытанні і былі, дык выказвацца аб творы добра пад свежым уражаннем, прачытаўшы гэты твор, а калі, скажам, паўгода ўжо прайшло ад таго, як чытаўся твор, дык тады гэта значна цяжэй.

Такім чынам усе разгледжаныя спосабы сувязі пісьменніка з чытачом далёка не здавальняюць, і мур застаецца мурам. Праўда, ёсць адзін спосаб непасрэднага спаткання пісьменніка з чытачом,— гэта чытка твораў з эстрады перад аўдыторыяй. Але ж не ўсякі твор і сваім размерам, і сваім характарам падыходзіць для эстраднага чытання,

гэта раз. Другое, лік слухачоў досыць абмежаваны, ува ўсякім разе ў шмат разоў меншы, як чытачоў друкаванага твора. Каб абслужыць шырэйшыя колы, патрэбны выезды ў іншыя хоць бы гарады, а гэта адрывае пісьменніка ад штодзённай асноўнай працы ва ўстанове дый патрабуе пэўных сродкаў, якія часта невядома дзе і ўзяць. Апрача гэтага, пры чытанні з эстрады сэнс твора не заўсёды ўлоўліваецца слухачамі; тэхніка чытання можа часамі падмяніць якасць самога твора і наадварот, і добры твор, не выразна прачытаны, зробіць дрэннае ўражанне. Выказванне аб творчасці тут найчасцей таксама не практыкуецца, і аб тым, ці спадабаўся твор, можна меркаваць выключна толькі па густаце апладзісментаў. Усё гэта паказвае, што гэты спосаб можа быць адным са сродкаў сувязі пісьменніка з чытачом, але сродак гэты далёка не самы лепшы. Што ж мы павінны зрабіць, каб гэту сувязь усё ж такі наладзіць? Можа, у чытача наконт гэтага ёсць якія-небудзь свае меркаванні, і нават вельмі слушныя, але пакуль яны, на жаль, знаходзяцца на тым баку кітайскага муру, дык няхай будзе дазволена нам, пісьменнікам, зрабіць сваю прапанову. З мэтаю даць чытачу поўную магчымасць выказацца на старонках «Узвышша» аб якасці таго ці іншага твора, з наступнага нумару ўводзіцца новы аддзел пад назваю «Слова чытачу», супрацоўнічаць у якім запрашаюцца ўсе, хто толькі чытае наш часопіс. Мы прасілі б перш за ўсё выказвацца аб тых нашых творах, якія друкаваліся ў ранейшых нумарах нашых часопісаў і якія будуць друкавацца ў далейшым. Але калі чытач выкажа свае думкі адносна артыкульнай часткі нашых часопісаў або адносна агульнай пастаноўкі,— увядзенне новых аддзелаў, скарачэнне або пашырэнне тых, што існуюць і г. д.,— то гэтыя думкі таксама знойдуць сабе месца на старонках «Узвышша». Пажаданы таксама і выказванні адносна тых фактаў беларускай літаратуры, якія з'яўляюцца па-за межамі «Узвышша». Форму выказвання няхай кожны выбера сабе сам і такую, у якой ён найбольш поўна, найбольш дасканала здолее выказаць сваю думку. Магчыма, што ў адным выпадку гэта будзе ўсебаковая ацэнка на 2—3 старонкі, а ў другім — заўвага ў 5—10 радкоў, якая вынікла ў працэсе чытання твора,— усё гэта для нас важна і каштоўна. Пісьменнік тут непасрэдна ўбачыць спажыўца свае прадукцыі, уведае, наколькі ён задаволіў яго запатрабаванні і што яшчэ трэба зрабіць, каб гэтыя запатрабаванні задаволіць цалкам. Чытач задаволіць сваю патрэбу выказацца,

якая натуральна можа з'явіцца ў кожнага пад уражаннем ад прачытанага твора; разам з гэтым ён будзе адчуваць задавальненне ад таго, што і ён сваімі парадамі і заўвагамі выконвае свой абавязак у адносінах да стварэння беларускай пралетарскай літаратуры, а можа, для некаторых гэта з'явіцца і пачаткам іх сталай працы ў галіне літаратуры.

Дык слова за Вамі, дарагі чытач. Мы, пісьменнікі, спадзяемся, што ў наступным нумары наша гутарка не будзе такою аднабаковаю.

*1929*

## ШТО МНЕ РУПІЦЬ

Такая ўжо традыцыя ўсталявалася сярод пісьменнікаў: пісаць калі-нікалі пра самога сябе. Цяжкая гэта справа. Добра тут яшчэ, скажам, якому-небудзь інтымнаму лірыку, які наогул пра сябе ніколі не забываецца, зусім не дрэнна одапісару, які скарыстае зручны выпадак, каб напісаць оду пра свае дасягненні і заслугі. Адным словам, добра ўсім добрым жанрам, але што тут рабіць мне, небараку-сатырыку?

Увесь трагізм майго становішча ў тым, што прыходзіцца браць аб'ектам самога сябе. Баюся, што суб'ект і аб'ект гатовы тут не паладзіць паміж сабою. Калі ж гэты суб'ект ды возьмецца за справу «не взирая на лица», дык крута тады прыйдзецца беднаму аб'екту.

Калі ж я падумаю, што ж мне цяпер найбольш рупіць, дык, здаецца, гэта будзе пытанне «быць ці не быць»... савецкай сатыры? У адказ я чую нават галасы: быць савецкай сатыры... на правах беднай сваячкі ў літаратуры. Яна, бачыце, не дрэнна ўмее шкарпэткі цыраваць, смецце з хаты вымесці. Але ў вялікі літаратурны свет — куды яе, мурзатую! Ступіць не ўмее паводле этыкету. Дый словы ў яе ўсё такія... Ты ёй пра высокія матэрыі ды пра кволыя струны душы, а яна пра галавацяпа! Фі! Як гэта неэстэтычна!

Але пакінем убаку негрунтоўныя разважанні, паглядзім, як жа маецца сёння сама сатыра. У тэатрах — ніводнай значнай камедыі ў сапраўдным сэнсе гэтага слова.

Не расце далей сатыра, у хвасце пляцецца. А хто вінават? Кажуць, Магнітабуды ды Днепрабуды «вінаваты». Справа ў тым, што калі сатыра перад Днепрабудам апынецца, дык у яе і душа ў пяткі. Не яе гэта спажыва. Вось калі зверху міла, а ў сярэдзіне гніла, калі яно і вялікае і моцнае здаецца, а ў сярэдзіне збуцвела, гэта для сатыры самы раз, тут ёй ёсць чым пажывіцца. Нагадаем Гогаля, Салтыкова-Шчадрына. Вазьміце любы выдатны сатырычны твор, і вы заўсёды ўбачыце наяўнасць гэтай умовы: згніло, а трымаецца. Раскоша была некалі сатырыку, што ні горад, дык і Глупаў, што ні гараднічы, дык і Сквазнік-Дмуханоўскі. Бяры ўсю абшарніцкую і чыноўніцкую Расію-матухну ды ўстаўляй жыўцом у «камедыю». А нашаму брату, савецкаму сатырыку, прыходзіцца гараднічых ды хлестаковых днём з агнём шукаць, як чужаедаў, як блох тых, па адным лавіць ды на свет божы вывалакаць.

І не іначай як па адным. А часамі прыходзіцца чужаеда пашпартам надзяліць: «Не падумайце благога, грамадзяне, гэта толькі паасобны бюракрат. Зваць яго так вось і так, а пражывае ён там і там,— можаце самі пераканацца». Бо іначай выйдзе абагульненне паасобных фактаў, па сутнасці, паклёп выйдзе на савецкую ўладу. Бо ў Савецкім Саюзе няма бюракратызму ці галавацяпства як сістэмы. Бо савецкая сістэма па сваёй сутнасці не можа быць аб'ектам сатыры. Такім аб'ектам могуць быць толькі выключэнні з савецкай сістэмы, толькі аскепкі разбітай ушчэнт капіталістычнай сістэмы. А гэтыя аскепкі, гэта ашмоцце старога грамадства, якое знішчаецца намі штогадзіны і на кожным кроку, якое растае на нашых вачах, не можа быць досыць моцнай «базай» для росту вялікай сатыры. Вялікая сатыра заўсёды мела «буйныя» аб'екты, найчасцей цэлыя сістэмы дзяржаўныя.

Некаторыя разважаюць, што савецкая літаратура не можа даць ні Гогаля, ні Салтыкова-Шчадрына. Салтыкоў-Шчадрын пісаў і мог быць упэўнены, што на яго век поскудзі хопіць, а савецкія сатырыкі часамі скардзяцца, што ім «сыравіны» не хапае. Ці сумны гэты факт? Сумны, вядома: для «сыравіны», але не для сатырыка, калі ён савецкі сатырык. Калі б я к канцу другой пяцігодкі праз недахоп «сыравіны» застаўся беспрацоўным як сатырык, дык толькі рад быў бы гэтаму як грамадзянін. Ды і для савецкай улады выгадней было б мець адстаўных сатырыкаў, чым зрыўшчыкаў сацыялістычнага будаўніцтва.

«А дзе ж ты дурняў падзенеш? — могуць запытацца ў мяне мае сябры.— Гэта ж мілая катэгорыя людзей была заўсёды ўлюбёнай стравай для сатырыкаў. І, напэўна, ніколі яна не перавядзецца,— пра гэта ўжо сама прырода-матухна паклапоціцца». Аднак я не такі вялікі аптыміст наконт дурняў: перавядуцца яны калі-небудзь. Па-першае, матухна-прырода не будзе такой урадлівай на дурняў, калі не будзе на іх попыту. Па-другое, дурань не столькі прыродная з'ява, колькі сацыяльная: кожны «дурань», калі яго паставіць на сваё месца, перастае быць дурнем. Дурань, узяты сам па сабе, як з'ява прыроды, не смешны, як не можа быць смешным дрэва альбо камень. Дурань бывае смешным толькі ў сувязі з яго сацыяльнай функцыяй. Дурань таму і блішчыць здалёк, што знаходзіцца не на сваім месцы. Нашы газеты амаль штодня даюць нам прыклады і прозвішчы дурняў рознага гатунку, якія выпадкова апынуліся не на сваім месцы, і чым вышэй гэта месца, тым смяшней выглядае дурань, тым далей ён відаць. Гэта вялікая справа — паставіць чалавека ці рэч на сваё месца. Для ілюстрацыі свае думкі я прывяду тут невялікую аналогію. Аглоблі, напрыклад, калі ў іх запрэжаны конь, не выклікаюць у нас ніякіх асаблівых эмоцый, але аглобля ў руках крытыка дае ўжо значны эмацыянальны эфект. Я веру ў тое, што мы хутка зусім дасканала навучымся ўлічваць здольнасці і падрыхтаванасць чалавека да тае ці іншай працы.

Але гэта толькі разважаючы тэарэтычна, а практычна — на пенсію я яшчэ не збіраюся. Яшчэ ёсць порах у парахаўніцы, і яшчэ досыць дурняў на свеце. Ды не ў дурнях сёння галоўнае. Галоўнае ў тым, што мы з прыватнай уласнасцю спляліся загрудкі, прыпёршы яе ў апошніх яе сховах. Яна сёння ў закутку душы кулацкай, у мазгах перараджэнца і апартуніста, у «двайной бухгалтэрыі» растратчыкаў і ў спрытных руках злодзея; ірвач і разгільдзяй, лятун і прагульшчык — гэта яе пестуны. Сілы вельмі няроўныя, вынікі бойкі вядомы загадзя. Прыватная ўласнасць пабіта эканамічна і палітычна, але яе трэба выкараніць дарэшты ў свядомасці людзей, дастаць ва ўсіх шчылінах і норках. І тут сатырыкам яшчэ рана складаць ручкі ў козлы, разважаючы, што калі не Гогаль, дык і зусім не трэба.

А калі глянуць за межы Савецкага Саюза? Трухляціна, закаваная ў панцыр і ўзброеная да зубоў, намагаецца ўтрымаць у кляшчах эксплуатацыі рабочых і сялян. Увесь

капіталістычны свет счарвівеў. Сатыры ёсць тут чым пажывіцца. Праўда, ёсць тут і свае спецыфічныя цяжкасці, якіх сатырыкі яшчэ перамагаць не навучыліся: усё «чэмберлен» выходзіць.

А калі ўзяць нам саміх сябе, хіба мы ўжо такія крышталёва чыстыя? Хіба не нясём мы на сабе груз мінулага, груз старых поглядаў, звычак, забабонаў; з якімі нам нязручна будзе паткнуцца ў камуністычнае грамадства? Не, рана яшчэ сатырыкам у адстаўку падавацца.

Гэта што да сатыры, а што да мяне асабіста, дык я ніколі кантракту не падпісваў быць абавязкова сатырыкам і толькі сатырыкам. Чым больш жанравы дыяпазон пісьменніка, тым, на маю думку, лепш, тым больш у яго магчымасці рэалізаваць свае здольнасці. Але я знаў, між іншым, і такіх паэтаў, якія амаль што «прынцыпова» не чыталі прозы, і такіх празаікаў, якія не могуцьператравіць вершаў. Жанравы шавінізм — гэта смешны і шкодны забабон.

Так я развязваю для сябе пытанне літаратурнага жанру, прынамсі, на бліжэйшы час:

1. Зрабіць у сатыры тое, што можна зрабіць, і як мага лепш.

2. Не абмяжоўваць сябе сатырай, и выпрабаваць свае сілы і ў іншых жанрах. Яшчэ задоўга да таго, як развязаць гэта пытанне тэарэтычна, я пачаў развязваць яго практычна. Гэта ў апошні час выразна відаць у маёй творчасці: не пакідаючы сатыры аж да газетнага codeвершаванага фельетона ўключна, я ў той жа час працую над раманам. Гэты новы, так сказаць, агрэгат маёй творчасці знаходзіцца яшчэ ў пускавым перыядзе. Будуць, напэўна, непаладкі, можа, нават пэўны працэнт браку, але будзем спадзявацца на мой энтузіязм.

*1933*

## СЛОВА ДА МАЛОДШЫХ

Я загадзя прашу прабачэння ў чытача за тое, што мой артыкул не будзе мець ні пэўнай метадалагічнай устаноўкі, ні патрэбнай артыкулу стройнасці, бо я не збіраюся ні аналізаваць чыю-небудзь, а тым больш сваю, творчасць, ні

выкладаць тэорыю мастацтва. Я хачу толькі ў парадку гутаркі з малодшымі таварышамі, якія сёння ўзыходзяць на ўхабісты пісьменніцкі шлях, выказаць некаторыя свае думкі пра тое, што патрэбна пісьменніку ў першую чаргу, можа, перасцерагчы ад некаторых памылак, можа, даць некаторыя парады. Але, узяўшыся за работу, я бачу, што не такая гэта лёгкая справа — вучыць пісаць, калі сам яшчэ добра не ўмееш. [illegible] кажу гэта не таму, што хачу быць занадта сціплым, а таму, што, на маю думку, мала знойдзецца такіх пісьменнікаў, якія маглі б сказаць: я ўсё ўмею і ўсё ведаю, што павінен ведаць пісьменнік, мне больш нічога не дадасі і нічога ад мяне не адымеш.

Тым больш не магу так сказаць пра сябе я. Дзесяць год свае творчасці я разглядаю (у плане літаратурным) як вучобу, як пробу сваіх сіл на розных тэмах і ў розных жанрах. Мне здаецца, што пісаў я дагэтуль — так, пакуль што, а па-сапраўднаму пісаць яшчэ толькі пачну. Можа, гэта «пакуль што» так і застанецца назаўсёды, можа, яно і вызначыць мае сапраўднае месца ў літаратуры, але суб'ектыўна ў мяне такое адчуванне: пісаў я, між іншым, да часу, бо не мог не адгукнуцца на тую ці іншую грамадскую з'яву, а за сапраўдную вялікую творчую работу вось-вось зараз вазьмуся. Таму я не магу лічыць сябе «закончаным» майстрам нават у асноўным для мяне жанры — у сатыры. Можа, не раз яшчэ прыйдзецца мне, калі грунтоўна, а калі ў паасобных момантах, пераглядаць і перааацэньваць свой творчы метад і свой арсенал мастацкіх сродкаў.

Думкі, якія я збіраюся тут выказаць, я ні ў якім разе не выстаўляю як догму. Можа, пэўная частка з іх будзе памылковай ці правільнай толькі ў пэўнай меры, але гэтыя думкі ў мяне ёсць, яны вынікаюць у мяне з мае ўласнай творчай практыкі, а таксама, і галоўным чынам, калі я чытаю творы іншых пісьменнікаў.

Я, напрыклад, думаю: што патрэбна для таго, каб з'явіўся выдатны літаратурна-мастацкі твор? Шукаючы адказу, я прыходжу да выніку, што патрэбна вельмі шмат чаго, і перш за ўсё патрэбна, каб у аўтара быў вялікі пісьменніцкі талент. Што тут справа не толькі ў літаратурнай вучобе, я ў гэтым заўсёды пераконваюся, калі сустракаюся з народнай творчасцю. Якое багацце казак, былін, песень! Якая грандыёзнасць эпапей! Якая вышыня мастацкай якасці! І ўсё гэта складалі людзі зусім непісьменныя, якія ніякай адмысловай літаратурнай вучобы не праходзілі. Але я думаю далей над гэтым пытаннем і пера-

конваюся, што адна здольнасць яшчэ ўсяго не вырашае, што яна нават не з'яўляецца раз назаўсёды дадзенай велічынёй, што самі здольнасці для свайго выяўлення патрабуюць належных умоў. Мы ведаем, напрыклад, вялікага паэта Пушкіна і вялікага пісьменніка Талстога. Але мы не ведаем соцень тых Пушкіных і Талстых, якія былі ў гушчах працоўных, але не здолелі рэалізаваць сваіх здольнасцей, бо яны былі прыгоннымі сялянамі альбо рабочымі. А што ў гушчах працоўных заўсёды было і ёсць шмат людзей з вялікімі мастацкімі здольнасцямі, паказвае хоць бы развіццё савецкага мастацтва, і ў прыватнасці літаратуры, пасля вызвалення працоўных з-пад прыгнёту паноў і капіталістаў; паказваюць сотні таленавітых пісьменнікаў, што выйшлі з самых гушчаў пралетарыяту і сялянства.

Што пісьменніцкая здольнасць не з'яўляецца сталай, ні ад чаго незалежнай, велічынёй нават у аднаго пісьменніка, відаць хоць бы з таго, што часамі пісьменнік выяўляецца як таленавіты мастак, дае шэраг выдатных твораў, але адбываюцца пэўныя грамадскія зрухі, змяняюцца ўмовы, і той самы аўтар часамі дае творы не такія ўжо і выдатныя альбо і зусім слабыя.

Вельмі шкада, што наша крытыка пытаннем мастацкіх твораў вельмі мала займаецца, а пытанне пісьменніцкай здольнасці нават і не закранала. А гэта пытанне надзвычайна важнае для пачынаючага пісьменніка. Памятаю, колькі мяне самога мучыла гэтае пытанне; колькі разоў пры няўдачы трацілася ўсякая вера ў свае здольнасці, і мне хацелася стушавацца, знікнуць, замкнуцца ў сваю ракавіну, каб больш ніколі не вытыкацца са сваімі творамі.

Пачаў я забаўляцца вершамі, калі яшчэ мне было гадоў шаснаццаць і калі я вучыўся ў гарадскім вучылішчы. Вершы гэтыя былі дваякага гатунку. Для сябе і для сваіх блізкіх сяброў я пісаў часамі вершы жартаўлівыя, на злобу дня (часамі па-руску, часамі па-беларуску), але для хатняга ўжытку. Апрача гэтага, я прабаваў пісаць «сапраўдныя» вершы. Гэта была найсумнейшая лірыка найбольш пра «долю мужыка» ў стылі І. Нікіціна. Адзін з гэтых сваіх «сапраўдных» вершаў, здаецца, у 1913 годзе я паслаў у часопіс «Жизнь для всех» і з нецярплівасцю стаў чакаць адказу. Нарэшце, праз месяц, можа, які прыйшоў адказ. Звярачаліся да мяне вельмі далікатна: «Многоуважаемый Кондратий Кондратьевич». Так мяне і з роду ніхто не называў! Але тыя пяць-шэсць слоў, што ішлі ўслед за такім

далікатным зваротам, прагучалі для мяне як прысуд: мне паведамлялі, што мой верш друкавацца не будзе, бо ён не досыць мастацкі. «Ну вось,— падумаў я сабе з сумнай палёгкай,— усё і высветлілася. Няма чаго больш глупствам займацца, ніякіх здольнасцей у мяне няма». І не займаўся [redacted] «глупствам» восем год. Пачаў зноў пісаць вершы толькі ў 1921 годзе, калі быў у Чырвонай Арміі. І зноў мая творчасць падзялілася на паэзію «сапраўдную» і паэзію для штодзённага ўжытку. Першая — гэта ўсё тая ж сумная лірыка, другая — вершаваныя сатырычныя фельетоны, тэмай для якіх былі асобныя недахопы ў жыцці нашай чырвонаармейскай часці і часамі міжнародныя падзеі. Усё гэта [redacted] пасылаў у «Красноармейскую правду». Праз нейкі час у «Красноармейской правде» з'явілася рэцэнзія на маю «сапраўдную» паэзію — цэлы падвал пад гучным загалоўкам «Поэт — командир», дзе адзначалі мае здольнасці і называлі адным з мацнейшых паэтаў Заходняга фронту. Пра маю ж сатыру ў альманаху «На привале» было сказана пару слоў, што яна з'яўляецца «меткой» і «ядовитой». Але з маіх «сапраўдных» вершаў ніводзін не быў змешчаны ў друку, а сатырычныя вершы, за рэдкім выключэннем, усе друкаваліся на старонках «Красноармейской правды». Цяпер мяне ўжо мала клапаціла пытанне — сапраўднай ці несапраўднай паэзіяй з'яўляюцца мае вершы: я паверыў, што хоць якія-небудзь здольнасці ў мяне ўсё-такі ёсць і што, самае галоўнае, гэтыя мае здольнасці спатрэбіліся на справу. Гэта акалічнасць і вырашыла кірунак і жанр мае творчасці на першым этапе. Хутка [redacted] пачаў пісаць па-беларуску і друкавацца ў «Савецкай Беларусі».

Такім чынам, [redacted] лічу, што стаў пісьменнікам толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі, у прыватнасці, дзякуючы Чырвонай Арміі, якая была для мяне вялікай палітычнай школай. У старой, царскай арміі я таксама быў — амаль тры гады, з якіх большую палову на фронце. Але царскай арміі мае пісьменніцкія здольнасці былі непатрэбны: там, дзе, апрача «так точно» і «никак нет», больш нічога не дазвалялася, яны нават не маглі і выявіцца.

Гэта лішні раз сцвярджае правільнасць выказанай мною думкі, што для выяўлення і рэалізацыі тых ці іншых здольнасцей вялікае значэнне маюць: сацыяльнае асяроддзе, палітычны момант і шэраг іншых умоў. Для самога ж пачынаючага пісьменніка мае асабліва вялікае значэнне — пераканацца ў сваіх здольнасцях і трапіць на

сапраўдную дарогу. Вось чаму крытыка і ўся пісьменніцкая грамадскасць з асаблівай уважлівасцю павінны сустракаць кожнае новае імя ў літаратуры і заўсёды адзначаць найбольш удалыя спробы маладога пісьменніка. Разам з гэтым пры не зусім удалых спробах трэба падыходзіць асцярожна і ўстрымлівацца ад канчатковага прысуду.

Я думаю далей пра тыя прычыны, што абумоўліваюць з'яўленне мастацкага твора ці перашкаджаюць гэтаму з'яўленню. Я думаю пра самога сябе, і перабіраю ў памяці ўсіх пісьменнікаў, якіх я знаю і па творах і ў жыцці. Я прыглядаюся да іх твораў і да іх здольнасцей і пераконваюся, што здольнасці, нават калі яны ўжо выявіліся, гэта для пісьменніка яшчэ далёка не ўсё. Я знаю, напрыклад, людзей з бясспрэчнымі паэтычнымі здольнасцямі, якія, нягледзячы на гэта, не далі і не могуць даць ніводнага больш-менш значнага мастацкага твора. Гэта часцей за ўсё людзі, якім няма чаго сказаць, якіх нічога асабліва не захапляе, нічога моцна не абурае; іх не хвалююць вялікія пытанні сучаснасці і будучыні; а калі іх што і хвалюе і яны імкнуцца нават выказаць гэта ў мастацкім творы, дык гэта нешта такое мізэрнае, што не мае ніякай грамадскай вартасці. Гэта з'ява, бясспрэчна, класавая. Гэтыя людзі — мяшчане са здольнасцямі, якіх яны не могуць рэалізаваць, дзякуючы сваёй класавай сутнасці; гэта дробна-буржуазныя абывацелі, якія жывуць колам сваіх дробных асабістых інтарэсаў. Для гэтых людзей часамі шпілька, якая патрэбна ім, можа засланіць сабою ўсе разам узятыя Днепрабуды і Магнітабуды, патрэбныя сацыялізму.

Але значна часцей наглядаецца з'ява іншага парадку: калі чалавек не наглядае збоку, не замыкаецца ў сваю ракавіну, цікавіцца ўсімі праявамі грамадскага жыцця, і ўсё ж яго творы часта маюць вялікія заганы, бо ён не можа адрозніць у жыцці галоўнага ад другараднага, заканамернага ад выпадковага, не бачыць прычын, якія абумовілі тую ці іншую з'яву, за вонкавым механічным счапленнем з'яў не бачыць сапраўдных сувязей і ўзаемадачыненняў. Гэта таму, што пісьменнік не ведае законаў прыроды і законаў чалавечай грамады, не мае, адным словам, пэўнага акрэсленага светапогляду, пэўнай філасофскай сістэмы. Часамі ў пісьменніка з прычыны яго маладосці яшчэ не паспеў злажыцца і акрэсліцца пэўны светапогляд, а часта гэта бывае і са старымі пісьменнікамі, якія раслі ў старым капіталістычным грамадстве і светапогляд якіх фарміраваўся пад уплывам буржуазнай філасофіі, буржуазнай маралі. У такіх пісьменнікаў хібнасць іх светапогляду

выступае асабліва яскрава. Рэшткі буржуазнай і дробнабуржуазнай старой ідэалогіі і элементы новай пралетарскай ідэалогіі знаходзяцца ў такога пісьменніка ў непрымірымай супярэчнасці, і гэта адбіваецца на ўсіх кампанентах яго мастацкага твора. Звычайная рэч, што ў часе такога крызісу светапогляду пісьменнік дае творы ніжэйшыя па сваёй мастацкай якасці, чым ён наогул можа даць паводле сваіх здольнасцей. Тут для пісьменніка справа ўпіраецца непасрэдна ў пытанне вучобы і пытанне перабудовы. Чым пісьменнік хутчэй і лепш засвоіць вучэнне Маркса, Энгельса, Леніна, асновы дыялектычнага матэрыялізму, тэорыю класавага змагання, эканамічнае вучэнне і тэорыю пабудовы бяскласавага сацыялістычнага грамадства,— тым хутчэй ён цалкам зразумее тое, што робіцца наўкол яго ў Савецкім Саюзе, ва ўсім свеце, тым ясней ён будзе бачыць прычыны падзей сусветнага значэння і матывы паводзін таго ці іншага асобнага чалавека, тым хутчэй творы яго стануць больш значнымі, арганічна суцэльнымі, паўнакроўнымі. Тут шчырае жаданне пісьменніка і яго цвёрдая воля шмат што могуць зрабіць. І наадварот, бязвольнасць, мяккацеласць у дачыненні да самога сябе, нежаданне і няўменне працаваць над сабой, унутраная разбэшчанасць даводзіць да таго, што пісьменнік гіне разам са сваімі здольнасцямі. Я пальцам паказваць не буду, але такія, праўда, паасобныя сумныя факты ёсць у беларускай літаратуры.

Наогул кожнаму, хто ступіў на пісьменніцкі шлях, трэба запамятаць цвёрда, што яго падарожжа на гэтым шляху — гэта не прыемны шпацыр, а штодзённая і ўпартая праца над сабой, над сваім культурным узроўнем, над сваім светапоглядам. Вучоба для пісьменніка ніколі не можа быць скончана, і да яго ў поўнай меры дапасоўваецца правіла: хто не ідзе наперад, той ідзе назад.

Можа паказацца, што я тут упадаю ў супярэчнасць, бо на першай старонцы свайго артыкула я казаў, што аўтарамі выдатных народных твораў былі людзі нават непісьменныя. Але тут супярэчнасць толькі вонкавая. Справа ў тым, што гэтыя непісьменныя людзі мелі сваё, хоць наіўнае, але досыць стройнае і акрэсленае светаразуменне: яны былі на ўзроўні перадавых людзей свайго часу і свайго класа. Але было б вялікім абсурдам, каб хто-небудзь з савецкіх пісьменнікаў уздумаў арыентавацца на культурны ўзровень, скажам, аўтара быліны пра Ілью Мурамца. Савецкі пісьменнік павінен быць на ўзроўні перадавых ідэй

перадавога класа свайго часу, гэта значыць быць на ўзроўні філасофіі пралетарыяту.

Пісьменніку трэба надзвычай шырока і ўсебакова ведаць жыццё людзей. Чым большая ў пісьменніка жыццёвая практыка, тым больш у яго магчымасцей у сэнсе тэм, матэрыялу і вобразаў. Для савецкага пісьменніка гэта азначае тое, што ён павінен быць актыўным удзельнікам у сацыялістычным будаўніцтве.

Але практыка аднаго чалавека абмежавана часам і прасторай: ён не можа абысціся толькі сваёй практыкай, ён скарыстоўвае для сябе практыку іншых людзей, што жылі да яго, што жывуць аднačасна з ім. Гэта чалавечая практыка зафіксавана ў кнігах, у помніках мастацтва, у рэчах матэрыяльнай культуры. Пісьменнік павінен умець карыстацца ўсімі гэтымі здабыткамі чалавецтва. Ён павінен мець такі шырокі кругавід, каб магчы ахапіць зрокам увесь шлях, пройдзены чалавецтвам да гэтага часу, стан чалавецтва на розных гістарычных этапах. Ён павінен ведаць працу выдатных людзей, што рухалі наперад чалавечую думку, павінен ведаць стан чалавецтва ў сучасны момант, грамадскі лад кожнай краіны, яе эканоміку і культуру, расстаноўку класавых сіл і тэндэнцыю яе развіцця; яму таксама патрэбна ведаць, у якой меры і якім спосабам чалавек падпарадкаваў сабе прыроду, г. зн. ведаць дасягненні навукі, тэхнікі.

Баючыся, што мяне зразумеюць няправільна, я хачу тут жа растлумачыць наступнае: я зусім не хачу сказаць, што малады пісьменнік не павінен пачынаць пісаць, пакуль не дасягне такога культурнага ўзроўню, пра які я толькі што гаварыў. Павышэнне культурнага ўзроўню пісьменніка можа ісці паралельна з яго творчасцю. У кожнага, напэўна, знойдзецца шэраг пытанняў, якія ён прадумаў і вырашыў, шэраг вобразаў, якія просяцца на паперу і з якімі ён справіцца ў невялікім мастацкім творы. Але на працу пісьменніка над сабой я напіраю асабліва таму, што без гэтага не будзе расці мастацкая якасць яго твораў, не будзе ў іх належнай глыбіні ідэі і паўнаты вобразаў; малакультурнасць і абмежаванасць аўтара заўсёды вельмі адмоўна адбіваецца на яго творах.

Калі я аглянуўся назад на сваю творчасць, дык таксама бачу ў ёй шэраг недахопаў, абумоўленых, як мне здаецца, наступнымі прычынамі. Рос я ў вёсцы, у сялянскім асяроддзі, у серадняцкай сям'і, вучыўся ў старой дарэвалюцыйнай школе. Усё гэта пэўным чынам фарміравала маю

псіхіку, прышчапляла мне пэўныя погляды на свет і на людзей. У Чырвонай Арміі [redacted] шмат чаму навучыўся, але ўсё ж за кароткі час не магла змяніцца так мая псіхалогія, каб я мог выступіць як пралетарскі пісьменнік. Зноў жа, прыйшоў [redacted] ў літаратуру з невялікім культурным багажом: я скончыў толькі гарадское вучылішча, якое давала ведаў не больш за цяперашнюю сямігодку. Гэта па колькасці, не кажучы пра ідэалагічную якасць гэтых ведаў.

Пераважная большасць маіх твораў напісана на тэмы з вясковага жыцця. У іх я змагаюся з цемрай, з рэлігіяй, з усякімі забабонамі, з п'янствам, з брудам і некультурнасцю. Гэта ўсё патрэбна, але не заўсёды гэтыя пытанні ставіліся з належнай глыбінёй і, галоўнае, не заўсёды ў святле класавага змагання на вёсцы.

Не досыць высокі для пісьменніка культурны ўзровень, адсутнасць спецыяльнай падрыхтоўкі — усё гэта адбівалася на мастацкай якасці твораў, на дасканаласці паэтычнай тэхнікі.

Усіх недахопаў маёй творчасці ў той час я не бачыў, але, што мне не хапае вучобы, гэта я добра разумеў. Вось чаму пры першай магчымасці, у 1926 годзе, я паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт, які і скончыў у 1930 г. Універсітэт мне шмат даў у сэнсе афармлення майго светапогляду, асабліва такія дысцыпліны, як дыямат і палітэканомія. Але і цяпер мне яшчэ шмат чаго не хапае ў сэнсе ведаў, у сэнсе пісьменніцкай кваліфікацыі.

Падсумоўваючы ўсё вышэйсказанае, я хачу яшчэ раз падкрэсліць тыя моманты, якія лічу самымі важнымі для пісьменніка і для з'яўлення паўнакроўнага мастацкага твора, актуальнага і глыбокага па сваёй ідэі.

Перш за ўсё патрэбна наяўнасць паэтычных здольнасцей. Мне могуць сказаць, што прыродныя здольнасці ад чалавека не залежаць, таму няма чаго пра іх клапаціцца. Але я адкажу, што выявіць здольнасці і накіраваць іх развіццё ў пэўным кірунку — гэта справа грамадскасці і самога аўтара. А паколькі гэты момант мае важнае значэнне для маладога пісьменніка і паколькі ў нас часта яго недаацэньваюць, дык я асабліва тут гэты момант падкрэсліваю.

Па-другое, пісьменніку патрэбна вучоба.

1. Вучыцца яму трэба перш за ўсё ад самога жыцця. Найлепшы спосаб вучыцца ад жыцця — гэта самому тварыць жыццё. Для савецкага пісьменніка гэта значыць быць актыўным удзельнікам сацыялістычнага будаўніцтва, як

мага шырэй знаёміцца з практыкай сацбудаўніцтва ў розных яго галінах.

2. Вучыцца тэарэтычна, каб авалодаць вышынямі марксізма-ленінізма, у святле яго бачыць усю шматграннасць жыцця і правільна паказаць яго ў сваіх творах.

3. Вучыцца наогул, крытычна засвойваючы культурную спадчыну мінулага, вывучаючы дасягненні навукі і тэхнікі, каб падняць свой культурны ўзровень да вышыні, неабходнай савецкаму пісьменніку.

4. Вучыцца спецыяльна, каб набыць прафесійную пісьменніцкую кваліфікацыю, каб дасканала валодаць мастацкім словам. Гэту вучобу я лічу вельмі важным для пісьменніка момантам, але не першарадным. Пісьменніцкая кваліфікацыя дасць належны эфект толькі пры наяўнасці ўмоў, названых вышэй, бо кваліфікацыя без здольнасці — гэта, бясспрэчна, нуль; бо кваліфікацыя без жыццёвай практыкі, без удзелу савецкага пісьменніка ў сацыялістычным будаўніцтве — гэта коўзанне па паверхні, гэта звонкая пустата; бо кваліфікацыя без акрэсленага светапогляду — гэта безыдэйны тэхніцызм, гэта ідэалагічныя зрывы і палітычныя памылкі.

Тэхнічная вучоба пісьменніка пачынаецца яшчэ задоўга да таго часу, пакуль ён гэта ўсведамляе дзякуючы чалавечай здольнасці пераймаць чутае і бачанае. Ён чуе гаворку, спевы, чытае мастацкія творы: запамінаюцца звароты, інтанацыі, метрыка і рытміка, паралелізмы і антытэзы, нават кампазіцыя і сюжэтная схема. І калі пісьменнік пачынае пісаць, ён ужо мае нейкі запас тэхнічных сродкаў. Наступны этап, калі пісьменнік знаёміцца з паэтыкай па падручніках, зложаных на падставе вывучэння мастацкіх твораў. Нарэшце, чытаючы творы выдатных мастакоў, сам ён аналізуе твор, раскладае на паасобныя кампаненты і стараецца зразумець іх прыроду і паходжанне. Такая вучоба найбольш прадукцыйная. Але на ўсіх гэтых этапах ніколі не бывае, каб пісьменнік механічна і цалкам пераносіў у сваю творчасць прыёмы таго, у каго ён вучыцца. Класавая прырода і індывідуальная адаронасць аўтара заўсёды кладуць сваю пячатку на арсенал яго мастацкіх сродкаў і паэтычных прыёмаў. Чым больш здольны пісьменнік, тым больш багатая і арыгінальная яго паэтыка.

*1933*

## ПРА ПЕРАБУДОВУ І «НЕДАБУДОВУ»

*Даклад на пленуме праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР*

Гаварыць аб творчай перабудове Ц. Гартнага даюць права яго творы за апошнія пяць год. Гэта некалькі апавяданняў, сабраных у кніжцы «Гоман зарніц», і кніжка нарысаў «Наступ на горны». Пры самым павярхоўным азнаямленні з гэтымі кнігамі вы зразу заўважаеце вялікую перамену ў творчасці Ц. Гартнага: падзеі, якія там апісваюцца, адбываюцца на заводзе і ў калгасе, персанажы, выведзеныя ў гэтых творах,— не рабочыя і калгаснікі, пераважна кіраўнікі: гаспадарнікі, праф.- і партработнікі. Аднак матэрыял і тэматыка з'яўляюцца часта знадворнай адзнакай перабудовы. Маючы гэту адзнаку, мы ўправе далей паставіць пытанне, якія ж праблемы ставіць аўтар перад чытачом, якія пытанні закранае ён і як іх развязвае на канкрэтных вобразах. І трэба сказаць, што кола гэтых пытанняў у апошніх творах Ц. Гартнага вельмі невялікае. Аўтар у большасці твораў ставіць перад сабою вельмі скромную і немудрую задачу — адлюстраваць жыццё завода ці калгаса і пахваліць іх кіраўнікоў. І ўжо ў такой установцы заложаны прадпасылкі натуралістычнага апісальніцтва, якое распаўсюджваецца на ўсе элементы твора. Я не таму гавару пра натуралізм, каб прычапіць ярлык Ц. Гартнаму альбо каб напужаць каго гэтым страшным словам. Справа не ў слове, справа ў тым, што пры такой установцы звычайна няма яскрава выражанай ідэі твора, значыць, няма яго душы. Як бы аўтар старанна ні апісваў рэчы, людзей, іх знадворны выгляд і рухі, усё роўна, калі бракуе ідэі, выйдзе толькі анатомія, а не жывы мастацкі арганізм. Людзі могуць хадзіць, гаварыць, смяяцца і пець, калі хочаце, яны могуць быць нават жывымі людзьмі, але не будуць жывымі вобразамі мастацкага твора. Без выразнай ідэі ў творы няма таго магніта, які з разнастайнага матэрыялу прыцягнуў бы да сябе толькі патрэбнае, адбіваў бы важнае ад не важнага, заканамернае ад выпадковага, тыповае ад нетыповага. У такіх выпадках, асабліва калі ў аўтара яшчэ бракуе маляўнічых сродкаў, выходзіць не твор, а шэрая пустыня натуралізму, адолець якую чытач не ў сілах, падае зняможаны, не дасягнуўшы і да сярэдзіны.

Сістэма вобразаў у творах Ц. Гартнага ў адпаведнасці з узятай установкай простая да схематычнасці. У цэнтры ўвагі аўтара знаходзіцца самая шматлікая група — кірую-

чых работнікаў на заводзе і ў калгасе: сакратары ячэек, дырэктары заводаў, старшыні калгасаў, прафработнікі і г. д. Гэта ўсе людзі «без сучка, без задзёрынкі», цвёрдакаменныя камуністы. Другая група — рабочыя і калгаснікі таксама вытрыманыя і свядомыя настолькі, каб слухаць сваіх кіраўнікоў. Трэцяя група — гэта паасобныя бракаробы і шкоднікі на заводзе, кулакі ў калгасе. Першыя дзве групы змагаюцца з трэцяй і, вядома, шчасліва перамагаюць.

Вытрыманасць пераважнай большасці дадатных герояў настолькі стандартна-стопрацэнтная, настолькі яны пазбаўлены свайго натуральнага свету, сваіх індывідуальных асаблівасцей, што ўсе зліваюцца ў адну шэрую масу і адрозніваюцца толькі імёнамі, нягледзячы на тое, што Ц. Гартны стараецца апісаць часамі самыя нязначныя іх рухі і нават інтанацыю голасу. Ц. Гартны злоўжывае сваім аўтарскім правам даваць атэстацыі сваім героям і забывае даць слова ім самім. Таму іх стопрацэнтнасць нікога не пераконвае, чытач не верыць панегірыкам аўтара, калі бачыць перад сабою шэранькіх людзей, якія мітусяцца, часамі шмат гавораць без патрэбы, але геройскія ўчынкі якіх знаходзяцца недзе па-за тэкстам.

Вось «Гаспадар» — адно з першых апавяданняў у Ц. Гартнага на вытворчую тэму. Герой апавядання Якаў Гузік, рабочы, якога за яго гаспадарлівасць высоўваюць на пасаду нам. дырэктара завода. Як жа паказан гэты перадавік вытворчасці? Аўтар увесь час старанна падкрэслівае адну яго рысу — гаспадарлівасць. Гаспадарлівасць гэта канкрэтна выяўляецца ў тым, што Якаў Гузік, ідучы па двары завода, падняў кусок жалеза «цаляў пяць даўжынёй», з яго «выйдзе некалькі ручак у плузе». Выходзячы з цэха, ён, як аўтар кажа, «дбайліва азіраючы па баках, пайшоў праўцом да дзвярэй. Мінаючы варштаты, абмацваў іх, падчышчаў, падняў з падлогі некалькі кавалкаў дрэва і дроту». Застаўшыся намеснікам дырэктара, Якаў Гузік ходзіць па заводзе, аглядае станкі і таксама падымае кавалачкі жалеза і дроту (с. 18).

Размах, як мы бачым, для намесніка дырэктара не вельмі вялікі. Паказу Якава Гузіка на рабоце няма, а таму сцверджанне, што ён мае вялікія гаспадарскія здольнасці, чытача не пераконвае. Аўтар сам, напэўна, адчуваў гэта і ў адным месцы спрабуе пераканаць чытача ў здольнасцях Якава Гузіка досыць своеасабліва і арыгінальна. Старшыня заўкома сказаў Гузіку, што яго мяркуюць назначыць

намеснікам дырэктара. Гэта яго і ўзрадавала і заклапаціла: ён, відаць, не да канца быў упэўнены ў сабе. І вось, прыйшоўшы дадому, бярэ аловак і паперу і пачынае падлічваць ды правяраць свае здольнасці. Жонка напамінае, што ўжо і вячэраць пара, а ён усё падлічвае ды чэрціць.

«Яна мяльком закідала на Якавіны паперы ўзрокі і здзіўлена адварталася назад: на паперы стаялі выведзеныя Якавам замысловатыя малюнкі дамоў, баштаў, дарог»,— кажа аўтар. Урэшце: «К адзінаццатай гадзіне Якаў Гузік узважыў свае сілы і здольнасці і вывеў, што яму пара ўзысці на вышэйшую ступеню».

Усё гэта вельмі мала падобна на праўду, вельмі наіўна і сведчыць толькі аб тым, што аўтар мала ведае тое, пра што ён піша. Якаў Гузік не паказан ні адным штрыхом ні як грамадскі працаўнік, ні як рабочы ля станка да свайго намесніцтва. Але адна рыса ў Якава Гузіка паказана досыць пераканаўча — гэта яго хваравітая гаварлівасць і самалюбства.

Пра сваю асобу Якаў Гузік не забывае на працягу ўсяго апавядання. А тут яшчэ знайшліся ў цэху зубаскалы Палікар Скрынка, Дзям'ян Рашка, Сымон Кошык, якія насміхаюцца з Гузіка і нават далі яму мянушку «гаспадар», чым Гузік страшэнна абражан. Застаўшыся нам. дырэктара, Гузік думаў, што цяпер ужо Скрынка не асмеліцца яго дражніць, адно ж не паспеў Гузік аднаго разу адысціся некалькі крокаў, як да яго данесліся выразныя склады слова «гаспадар», і гэта ўжо канчаткова выводзіць Гузіка з раўнавагі. Для вырашэння ўзаемаадносін Гузіка, з аднаго боку,— Скрынкі, Рашкі і Кошыка, з другога, аўтар наладжвае аж два сходы. З першага Гузік, не дабыўшы да канца, адыходзіць пакрыўджаны, а на другі, калі ўжо справу разбірае РСІ, ён трапляе выпадкова і чуе, што за яго рабочыя заступаюцца і хваляць. Гузік зараз жа бярэ слова і дзякуе рабочым.

«Гучны ўрачысты свіст сірэны,— кажа аўтар,— падхапіў яго словы і панёс высока і далёка па-за сцены завода».

На гэтым канчаецца гэта поўная «драматызму» гісторыя.

Такім чынам Якаў Гузік па замыслу аўтара з'яўляецца новым чалавекам, вылучэнцам на вытворчасці, а тым часам некаторымі сваімі істотнымі рысамі вельмі нагадвае аднаго з герояў міргарадскіх аповесцей — Івана Іванавіча Перарэпенку. Гэта здарылася таму, што ў заводскую абстаноўку Ц. Гартны перанёс старога свайго героя з яго індыві-

дуалізмам і не здолеў надзяліць яго новымі якасцямі ўдарніка на прадпрыемстве.

Твор «Напевы сірэн», які з'яўляецца нарысам аб заводзе «Камунар» (праўда, аўтар чамусьці замаскаваў назву завода і прозвішчы людзей). Героі гэтага твора ўжо не носяць на сабе тых адзнак дробнабуржуазнай самаўлюбёнасці, якія мы бачылі ў папярэднім творы, яны не заняты так сваёю асобай, як Якаў Гузік, але затое яны наогул не маюць яркіх індывідуальных асаблівасцей. Унутраны іх свет перад чытачом не раскрыт. Гэтыя людзі не маюць трох вымярэнняў — яны пададзены ўсе ў адной плоскасці. Усе яны гавораць адной мовай і толькі пра адно — пра выкананне промфінплана. Гавораць вельмі шмат, а раскрываюць сябе ў дзеянні вельмі мала. Прычым іх дзеянні і гаворкі замкнуты ў сценах завода. Твору не хапае паветра. Аўтар не дае праекцыі ў бок тае вышэйшай мэты, для якой будуюцца ўсе заводы і выконваюцца ўсе промфінпланы. Ураджанне ад твора такое, што аўтар хадзіў па заводзе разам з сакратаром парткалектыву Шумкіным і старанна фатаграфаваў і стэнаграфаваў усё тое, што там бачыў і чуў. Фатаграфаваў без разбору і адбору, аддаючы кожнаму факту, кожнай дробязі аднолькавую ўвагу. А ў выніку рэч выйшла досыць шэрая, цяжка чытаецца і дрэнна ўспрымаецца чытачом.

Калі ў чытача хопіць цярплівасці ды ён прачытае твор другі і трэці раз, тады ён сам пачне вылучаць важнейшыя моманты, якія, дзякуючы натуралістычнай ураўнілаўцы ў падыходзе аўтара да матэрыялу, патанулі ў моры непатрэбных дэталей. Аказваецца, што заводу пагражае прарыў. Трыкутнік завода прымае меры, каб яго не дапусціць. Па цэхах праходзяць піянеры з барабанамі і лозунгамі, якія напамінаюць аб небяспецы прарыву; дырэктар на сходзе рабочых робіць даклад, і рабочыя бяруць на сябе абавязак перавыканаць план. Апартуніст, майстар кавальнага цэха Аблонскі, які дапусціў у цэху разгільдзяйства і брак, здымаецца з работы. Бракаробаў судзяць грамадскім судом. І ў выніку ўсяго гэтага завод выходзіць пераможцам.

Недахоп канкрэтнага і глыбокага паказу людзей аўтар стараецца кампенсаваць узнятай дэкламацыяй як па адрасу сваіх герояў, так і пра асобныя моманты вытворчасці. Вось, напрыклад, сакратар парткалектыву ў кабінеце разглядае паперы.

«Адна за другою паперкі перабягалі праз рукі сакратара парткалектыву. Ён лавіў іх сэнс на ляту, умоўленымі

знакамі адмячаючы прагледжаную. Было відаць, як напружаная праца думак уцягвала ў свой вадакруг дзесяткі разнастайных заданняў бягучае працы. Кожнаму з гэтых заданняў, як шрубкам у станку, Шумкін адводзіў адзначаны тэрмін, пакуль папярэдні, а пасля больш дэталёва распрацаваны. Усе гэтыя перагледжаныя паперы складалі сабою неад'емныя частачкі аднае складанае, абымаючае ўвесь завод кіпучае і пявучае працы па выпаўненні бягучых вытворчых планаў. Беленькія лісточкі з сінімі радкамі зместу былі непарыўны з выкручастымі, вёрткімі стружкамі з-пад фрэзера, з бліскучымі, вымеранымі да міліметра пазамі цяжкіх вечак камнядрабілак. Удары молатаў і букеты палкіх іскраў, бегатня пасоў і паверт свярдзёлкаў убіраліся купкамі выразных, засядаючых у галаве, як пуля ў дубе, сказаў».

Фальшывы пафас гэтай дэкламацыі адразу кідаецца ў вочы. І на гэтым фоне асабліва вылучаюцца такія карывыя па сваёй вобразнасці фразы, як апошняя фраза з пададзенай вытрымкі.

Ці ўзяць такія мясціны, як:

*«Навакола дыхала бадзёрым творным уздымам раскалыханай, расхваляванай энергіі. Абдымала нечуваным размахам нараджальных сягаючых у цёмную бяздонную высь сацыялістычных тэмпаў, пераможных дасягненняў».*

*«Дырэктар з сакратаром парткалектыву замілавана глядзелі на стройны раскалыханы працэс ударнай сацыялістычнай працы».*

*«Барацьбіт» — аграмаджанае прадпрыемства рабочага класа, як кіраўніка камуністычнай партыі, усёй савецкай краіны. Іх калектыў — адзін з атрадаў на фронце рашучага змагання за сацыялістычнае будаўніцтва. Як цэментам, зліты і з'яднаны аднымі інтарэсамі, адной воляй, аднымі імкненнямі ўсе пралетары... Яны кладуць фундамент сацыялізму.*

*Гэтыя вялікія, неасяжныя ў сваіх размахах і незмярымыя ў сваёй агромнасці зыркія, уздымныя ісціны прасякаюць нутро барацьбітоў».*

Такія прыклады мы знойдзем амаль на кожнай старонцы. Гэты «пафас» нікольві справе не дапамагае, а толькі сведчыць аб слабасці аўтара ў паказе сваіх герояў.

Можна было думаць, што недахопы разгледжаных твораў абумоўліваюцца тым, што аўтар упершыню сустракаецца з вытворчай тэмай, з заводскім матэрыялам. Але апавяданне «Зялёны шум» сведчыць аб тым, што ад

перамены тэмы і матэрыялу творчы метад аўтара не мяняецца. Тут тыя ж самыя адзнакі гэтага метаду — схематызм і натуралістычнае апісацельства. У апавяданні расказваецца пра тое, як у вёсцы Булаўка арганізоўвалі калгас. Схему мы тут бачым ужо ў самай расстаноўцы сіл: за калгас — прысланы з завода рабочы Якаў Плот, вясковыя актывісты — Юстын Плот, Тамаш Хіб, Мікола Жвыр, Гальяш Сукня і, як аўтар упэўнівае, уся вясковая ячэйка, хоць дзейнасць яе нічым не паказана; уся сялянская маса ідзе за актывам. З другога боку — тры ці чатыры кулакі. Ніякіх хістанняў у людзей няма. Кулакі змагаюцца супраць калгаса адны, самі па сябе, не робячы ні на кога ніякага ўплыву. Вядома, што пры такой сітуацыі ўсялякія цяжкасці арганізацыі калгаса знімаюцца. Выпадае самая характэрная асаблівасць гэтага моманту — цяжкасці пераходу селяніна ад індывідуальнай гаспадаркі да калектыўнай. Праўда, каб упэўніцца, што ў калгасе жывецца лепш, дэлегацыя з Якавам Плотам на чале едзе ў розгляды ў калгас «Асмінаўку». Аўтар апісвае ўсё іх падарожжа, але пакідае чытача ў няведанні, як толькі дэлегацыя пад'язджае да калгаса. Што яна там бачыла, так і засталося невядомым. Толькі з ліста Якава Плота на завод аднаму з работнікаў мы даведваемся, што:

«Але не меней суцешылі мяне і калгасы. Адзін з іх «Асмінаўка» робіць дужа выгаднае ўражанне... Гэта ўжо моцны калектыў. Людзі ў ім падабраліся адзін да другога, старанныя, памяркоўныя, даладныя, і праца ідзе на «яць»! Зараз шырока разгорнута будаўніцтва ўстаноў агульнага абслугоўвання, як школа, млын, ветэрынарны пункт. Агульныя хлявы скончаны яшчэ вясною — і ты б паглядзеў, браце, што за хараство! Адносіны да жывёлы дбайныя і гаспадарныя.

Летась калектыў выплаціў увесь падатак і яшчэ заставіў сабе значны рэзерв. Цікава, што абагуленне вельмі хутка ўспрынялося ўсімі сябрамі калектыву, які набліжаецца да камуны. У працы — звычаёвае спаборніцтва. Ніхто нікога не падганяе, ніхто нікога не ўпікае ў гультайнасці... Ну, паверыш, не хлушу, мяне ўсё гэта да таго захапіла, што я, трапіўшы да бацькоў, звязаўся з ячэйкаю і зацята павёў агітацыю за пабудову калгаса ў сваёй вёсцы. Якраз мой прыезд прыпаў на момант, калі думка пра калгасы стала азадачваць нашых сялян. Аставалася аформіць іх намеры, і перад намі новы калгас «Уздым»...» Вось як лёгка і гладка гэта ўсё робіцца.

Пра вёску Булаўку Якаў піша, што пасля агляду «настрой у бядняцка-серадняцкага сялянства — цалкам за калектывізацыю».

На гэтым месцы кулак страляе ў Якава Плота праз акно з абрэза і раніць яго ў плячо. Кулакоў арыштоўваюць. Якаў у бальніцы вылечваецца, а ў Булаўцы арганізоўваецца моцны калгас.

Такі самы схематызм мы бачым і ў абмалёўцы персанажаў. Вось Якаў Плот прыехаў да свайго бацькі Юстына Плота. Тут яшчэ трое сялян, аднадумцаў, добрых знаёмых. І вось у сваёй хаце сярод блізкіх людзей Якаў Гузік агітуе:

«Толькі адзіная калектыўная форма гаспадаркі можа падняць дабрабыт нашага бядняцкага ды серадняцкага сялянства... Калектывізацыя ёсць адзіны фактар перабудавання вясковага жыцця»...

«Рэвалюцыя, дзядзькі, не канчаецца прагонам паноў, генералаў ды фабрыкантаў. Рэвалюцыя ад гэтага, можна сказаць, пачынаецца. Па дарозе да камунізма яна мусіць змяніць усё наша жыццё... Так, так! Ад палітычнага ладу, ад агульных узаемаадносін у грамадзе — да поўнага пераіначвання кожнай адзінкі».

Відавочна, што такога характару прамова зусім не адпавядае той абстаноўцы, у якой яна гаворыцца,— выходзіць фальшыва і непераканаўча.

Часамі аўтар стараецца надаць жывыя рысы сваім героям, але нельга сказаць, каб гэта выходзіла вельмі ўдала. Юстын Плот яшчэ да арганізацыі калгаса арэ на сваёй палосцы. Ён бачыць, як у суседні саўгас варочаюцца з поля трактары. Да яго далятаюць з саўгаса розныя гукі. Юстын Плот захапляецца ўсім гэтым і самім саўгасам. І аўтар падае гэта такім чынам:

— Цягне мяне да вас, браточкі! — умільна вымавіў Юстын і расплыўся покатным смехам у адказ на густыя медныя гукі саўгаснага гонга.

Аўтар, відавочна, разважаў так: Юстын радуецца, гледзячы на саўгаснае жыццё. А калі чалавек радуецца, тады ён смяецца. А паколькі Юстын моцна радуецца, дык ён павінен бакі падрываць з рогату, у адказ на медныя гукі гонга.

Праўда, мне маглі б заўважыць, што ў адным невялічкім апавяданні нельга ўсебакова асвятліць тэму калектывізацыі. Але, па-першае, гэта «невялікае» апавяданне займае не менш чатырох друкаваных аркушаў. А, па-другое, я тут якраз не за ўсебаковасць паказу. Добрае апавяданне якраз

тады і выходзіць, калі аўтар здолее ўлавіць адзін які-небудзь, але тыповы момант і здолее яскрава і сцісла яго падаць. Ц. Гартны, наадварот, разгарнуў досыць шырока, зачапіў некалькі важных момантаў, але ніводнага з іх як належыць не раскрыў.

Цікава, што, старанна апісваючы розныя дробязі, абстаноўку, гутаркі, Ц. Гартны робіцца вельмі скупым, калі прыходзіцца паказваць вузлавыя, найбольш важныя моманты. Я ўжо гаварыў пра тое, што Гартны не паказаў нам, што бачыла дэлегацыя ў суседнім калгасе. У паказе кулака таксама ўзяты не самыя істотныя яго рысы. Ён паказан толькі як багатыр, што ён ненавідзіць калгасы. А што сваё багацце ён набыў эксплуатацыяй, гэта не паказана і пра гэта не напісана. Не паказана, што ён мае які-небудзь уплыў на беднату і серадняка, г. зн. не паказана самае небяспечнае ў кулаку. А таму хоць кулак і страляе з абрэза ў Якава Плота, ён усё ж такі не страшны кулак, паколькі застаецца ў адзіноцтве і нікога за сабою не вядзе. Змагацца з такім кулаком не цяжка. Такім чынам, дзякуючы схематызму, дзякуючы няўменню ўхапіць і паказаць найбольш істотныя моманты нашай сапраўднасці, мы тут бачым ідэалагічны зрыў у Ц. Гартнага. Далей, нягледзячы на тэму аб калектывізацыі, мы ў гэтым творы не бачым ніводнага серадняка. А між тым пытанне арганізацыі калгасаў гэта ў першую чаргу пытанне вайны з кулаком за серадняка, за тое, каб асноўную масу сялянства павярнуць да калектыўнай гаспадаркі. У апавяданні, праўда, глуха ўпамінаецца аб тым, што спачатку не ўсе былі за калгас, некаторыя думалі пра пасёлкі, але пасля агітацыі Якава Плота і пасля таго, як з горада на «буланым аўтамабілі» прыехала акруговае начальства, усё пайшло як па масле, усе беднякі і серадцякі апынуліся ў калгасе, а кулакі адлучыліся самі сабою.

Апрача «Гомана зарніц» у 1932 годзе ў выданні Акадэміі навук выйшла другая кніжка Ц. Гартнага «Наступ на горны». Гэты зборнік, як аўтар зазначае, з'явіўся ў выніку двухгадовай працы аўтара на заводзе «Камунар». Доўга спыняцца на разглядзе гэтага зборніка я не буду з тае простай прычыны, што большасць таго, што тут змешчана, нельга разглядаць як мастацкую творчасць. Гэта зборнік сыравіны, якая, напэўна, яшчэ спатрэбіцца аўтару ў яго далейшых творах.

Самая большая сваім памерам рэч у гэтым зборніку і найбольш, бадай, апрацаваная — гэта нарыс «Напевы

сірэн», які змешчаны і ў зборніку «Гоман зарніц» і які я нядаўна разбіраў. Заслугоўвае ўвагі яшчэ апавяданне «Прыкры выпадак» аб тым, як добры майстар кавальнага цэха Хвядос Сілоўскі, скампраметаваны даведкай сельсавета, што яго бацька кулак. Рвачы і бракаробы скарыстоўваюць становішча і яшчэ больш кампраметуюць Сілоўскага рознымі на яго паклёпамі. Дысцыпліна ў цаху падае. Сілоўскі балюча перажывае ўсё гэта, пачынае выпіваць, не з'яўляецца на работу. Цэхавая ячэйка прымае пастанову аб тым, каб прапанаваць адміністрацыі зняць Сілоўскага з работы, але тым часам праверыць правільнасць сельсавецкай даведкі. У хуткім часе справа аб Сілоўскім разбіраецца на бюро парткалектыву. І тут якраз атрымліваецца даведка з таго ж сельсавета, за подпісам новага старшыні, дзе сведчыцца, што Сілоўскі — сын партызана і што пра яго кулацкае паходжанне былы старшыня напісаў па злосці. Сілоўскі рэабілітуецца і ўжо, як радавы рабочы, становіцца ўдарнікам. Сітуацыя досыць цікавая і магла б быць скарыстана для таго, каб паказаць псіхалогію ўдарніка вытворчасці, які апынуўся ў такім цяжкім і фальшывым становішчы. Але аўтар, верны свайму натуралістычнаму метаду, неадступна ідзе па пятах за фактам і даносная даведкай сельсавета ліквідуе ўсякія канфлікты, знімае ўсякія калізіі. Такім чынам, «Прыкры выпадак» так і застаецца прыкрым выпадкам, а не тыповай з'явай.

У зборніку яшчэ змешчана некалькі, калі можна так назваць, нарысаў пра асобных людзей завода «Камунар» — пра двух майстроў, двух намеснікаў дырэктара, пра рэдактара шматтыражкі Раю Шыфрыну. Каб надаць гэтым нарысам больш разнастайнасці, аўтар пад загалоўкам азначае жанр амаль кожнага з гэтых нарысаў. Пад адным загалоўкам стаіць «сілуэт», пад другім — «ударныя ўзмахі» (жанр, трэба сказаць, зусім новы ў нашай літаратуры), пад трэцім — проста «Нарыс», пад чацвёртым — «скіц». Даведацца па характару самога твора, што гэта слова азначае, няма ніякай магчымасці, бо ўсе нарысы напісаны на адзін узор: даецца невялікая біяграфічная даведка аб тым ці іншым працаўніку, а пасля — яго кароценькая характарыстыка як работніка на вытворчасці. Напісаны гэтыя нарысы без асаблівай прэтэнзіі на мастацкасць, а паколькі і самыя героі ў сваёй большасці ніякім геройствам не вызначаюцца, дык выйшла досыць шэра. Нават тых цікавых момантаў, якія аўтару трапляліся ў рукі, ён як належыць не выкарыстаў. Вось, напрыклад, характарызуючы

рэдактара шматтыражкі Раю Шыфрыну, як адданага сваёй справе работніка, Ц. Гартны гаворыць аб тым, што яна не занядбала работы нават тады, калі захварэла яе дзіця. Але аўтар толькі ўпамінае пра гэта, а гэта вельмі зручны момант, каб паказаць Раю глыбей і паўней і як працаўніка, і як маці, так паказаць, каб чытач не толькі ведаў факты з яе біяграфіі, а каб ён моцна палюбіў Раю Шыфрыну.

У гэтым жа зборніку змешчана некалькі вершаў. Нічога новага ў параўнанні з прозаю ў сэнсе перабудовы Ц. Гартнага яны не даюць. Гэта той самы «пафас» захаплення будаўніцтвам, элементы якога мы бачым і ў прозе, толькі пафас гэты тут вершаваны і пададзены ў чыстым выглядзе, г. зн., што ён тут пазбаўлены і тае канкрэтнасці, якая ёсць у празаічных творах Ц. Гартнага. Усе гэтыя вершы маюць пераважна агітацыйны характар і складаюцца з горнаў, малатоў, гудкоў і абстрактных лозунгаў. На фоне гэтай лазунгоўшчыны сустракаюцца дзе-нідзе такія нядрэнныя паэтычныя радкі, як:

Мінулыя з'явы —
Іх вецер раздзьмухаў,
Ім песню адходную
Воран адкаркаў.

Разглядаць кожны з гэтых вершаў паасобку няма патрэбы, бо нічым асабліва яны адзін ад другога не адрозніваюцца. Для характарыстыкі можна прачытаць любы з іх, першы, які мне трапіцца пад руку, хоць бы верш «Ударнікам».

Чытаеш гэтыя вершы, і чамусьці не пераконвае патэтычны ўздым аўтара. Думаецца, што каб аўтар сапраўды і глыбока быў захоплен, дык знайшоў бы словы мацнейшыя і цяплейшыя, хоць і не такія крыклівыя. А так пафас выходзіць крыху паказны, навязчывы.

Недахопы, якія ёсць у творчасці Ц. Гартнага, значна ўсугубляюцца асаблівасцямі яго мовы, ад якой павявае глыбокай правінцыяльнасцю. Я маю на ўвазе не толькі слоўнік, а ўвесь склад, усе элементы мовы. У лексіцы Ц. Гартнага ёсць шмат правінцыялізмаў, як, напрыклад:

| | |
|---|---|
| Добрахаць (добраахвотна) | мэрам бы |
| убачай (выбачай) | унічышча |
| бразак (бразганне) | наператоч — упоперак |
| мітрэгна | буркліві |
| дрэнчыла | заграбяшыў |
| прабеглец | коўць — глыток |
| харангелачка (флажок) | башта — вежа |

ралкі (галінкі) — апука — мячык
пілявыя вочы — ласне
зашчэмы (арг. непаладкі) — крымінал — злачынства, беспарадак
праўздом — проста
займа здароў — нізавошта — Пелапая
мерскавуў — уверра — упэўненасць

*Разам з гэтым трапляюцца і такія русізмы, як:*

запертыя — дзверы — смірненькі
схожасць — падабенства — трэзвы
рожыца — пачасаў патыліцу
віновен — затылак
пасудзі (падумай) — передвасхіцілі
жалетка — сметліва
лісцілі

Дзе-нідзе паланізмы.

Але больш за ўсё слоў, якія б я назваў цішкізмамі. Гэта словы, якія ўтвораны самім аўтарам ад самых звычайных, вядомых усім слоў, але ўтвораныя, нягледзячы ні на якія моўныя законы. Такое слова заўсёды выпірае рубам са сказа, і, чытаючы, на яго заўсёды спатыкаешся. Сюды я залічваю і звычайныя словы, але ўжытыя не ў тым сэнсе, у якім яны ў мове бытуюць:

*Заліўны рогат, зацягнуўся ў працу (захапіўся працай), заўвага да жалеза (увага), цяглы (цягавіты), цвёрдым ступам (крокам), раз'юшаны працэс работы, гаспадарня (гаспадаранне), рог вуглавога дома, раскалыханы працэс ударнай працы, святошня (па-святочнаму), гаручыя вочы, улягалася зямля ад надаву важкіх ступаў (дрыжала зямля пад цяжкімі крокамі), выгінастая стужка, лірычная марнасць (мары, летуценні), начная цём (цемра), свяціла яшчэ ненагрэтае сонца (146), вешальніца (шыбеніца), зыск (эксплуатацыя), узгрудак (узгорак), узлёскі (паі), плюхі хваляк, падлёг сабе навуку, заслежаныя вочы, разгорненая маці (ад слова «горна»), разыдзёныя людзі (якія разышліся), трапяткія навіны, крохкія гутаркі, ліст дастаны (атрыманы) ад развосчыка, зыркія ісціны, распрэжваў каня і г. д.*

Калі Ц. Гартны не ладзіць часамі з марфалогіяй, дык ён яшчэ часцей не ладзіць з сінтаксісам. Каструбаватыя словы, злучаныя ў не менш каструбаваныя па сваёй форме сказы, з'яўляюцца для чытача непераможнай перашкодай. Вось некалькі такіх сказаў:

1. Лірычная марнасць адзінкавых энтузіястаў выраста-ла ў рэальныя вобразы набліжаючай наступнасці.

2. Яны (воплескі) насілі на сабе задаволёныя ўхмылкі зацята апладыраваўшаму кавалём прэзідыуму.

3. Яе (ухмылку) Бурэвіч падмацняў нервовым трапяханнем рук і раскіданымі паваротамі.

4. За падводай, матаючы шапкамі і рукамі, пераносіўся працяг творчага сходу з двара сельсавета да месца спынкі гасцей.

5. І кожны станок, точачы валік, ці абдзіраючы шкіў, ці раўнуючы рубы каменерубілак, адліваюць сваімі павертамі сумовыя адзінкі дадзеных цэху наметак.

Падобных прыкладаў можна было б прывесці дзесяткі. Я хачу спыніцца яшчэ на адным цікавым пытанні, а якраз на тым, як натуралістычны творчы метад Ц. Гартнага выяўляецца ў такіх дробных кампанентах стылю, як падача паасобнай дэталі. Той ці іншы жэст, рух, нават гук аўтар імкнецца перадаць шляхам яго фатаграфавання, дакладнага знадворнага апісання.

*«Ужо Шумкін разняў губы, каб перапытаць, ці маюцца тыя ці іншыя прапановы».*

*«Вока пасунулася да рамы, а на слізкім шкле лягло вуха».*

*«Брудная патрэсканая яго рука павольна паднялася ўгару, да галавы і разлажыла на бакі густыя скамечаныя валасы».*

*«Натруджаная рука Юстына выпусціла правы тронак плуга і працерла ўспацелы лоб».*

*«Юстын, як еў, палажыў неаблізаную ложку на агрызку хлеба і выйшаў на вёску».*

*«Перад тым як заварушыць языком, сакратар раёна абег у думках даўгую вычварна-завілую граніцу раёна»...*

*«Трое рук абярнуліся казырнымі над устрэмленымі ўправа пільнымі ўзрокамі шасці вачэй».*

*«Толькі праз гадзіну пачуты тупат чатырох ног агаласіў сабою спакой ціхай вуліцы».*

Такі спосаб падачы дэталі — з'ява бясспрэчна адмоўная. Ён не толькі не дапамагае канкрэтнаму ўспрыманню, а, наадварот, затрудняе яго і робіць далёка не эстэтычнае ўражанне. Пячаць натуралізму і правінцыяльнай абмежаванасці, захалусця ляжыць на маляўнічых сродках Ц. Гартнага, на яго метафарах і параўнаннях. Найчасцей гэта выяўляецца ў тым, што абстрактныя паняцці, з'явы грамадскага і псіхалагічнага парадку механізуюцца і матэ-

рыялізуюцца, асацыіруюцца ў свядомасці аўтара з рэчамі хатняга ўжытку сялянскай гаспадаркі, напрыклад:

*«Якавіна постаць выглядала сталлю, ад якое адскочыць і шрот».* (Характарызуецца цвёрдасць бальшавіка.)

*«Бліснуўшы перад ім вобраз Сымона Кошыка адцягнуў зашмаргу задумаў».*

*«І распеўшая сірэна, прыбіваючы Аблоўскага да аднаго месца, праводзіла Леміна ўправа, Лабрусевіча ўлева».*

*«Дырэктар зажмурыў левае вокае і апяразаў яго вяночкам усцешлівай тонкай ухмылкі».*

*«Заложаны пластамі старых навыкаў выбіваўся да чыннасці цвярозы класавы крытэрый. Асцярожліва, але ўверана павярнула яго лёза да разрэзу застоенага акалення».*

*«А цяпер цяжар і прыгнёт гэтае працы астаўся далёка пазадзе, за глыбокаю разораю, што падзяліла жыццё на чорны пракляты час царызму і яскравы ўрачысты час Кастрычнікавай рэвалюцыі».*

Але нідзе, мусіць, натуралізм і правінцыяльная абмежаванасць у творчасці Ц. Гартнага так не праявіліся, як у прозвішчах яго герояў. Мы ведаем, што такія выдатныя мастакі, як Гогаль, Чэхаў, Талстой надавалі вялікае значэнне выбару прозвішча для свайго героя. Ц. Гартны ніколі над гэтым не задумваецца. Трэба яму герой, ён зараз гляне ў мыцельнік альбо качарэжнік, і — калі ласка,— на некалькі раманаў хопіць. А мала — то ён можа заглянуць пад паветку альбо ў хлеў. А ў выніку выходзіць проста здзек і над героямі, якіх ён выводзіць, і над усёй мастацкай творчасцю. Вось, напрыклад, якія прозвішчы вы сустрэнеце ў яго «Гомане зарніц» і «Наступе на горны»: *Гузік, Скрынка, Кадаўбец, Рашка, Кошык, Кавадла, Тапчан, Друк, Багна, Сажан, Рошчына, Лямец, Брыль, Коўш, Міска, Плот, Світка, Хіб, Сукня, Ляшка, Брызня, Завала, Жвір, Лебяда, Абруч, Чарада, Чарон, Абутка, Матавіла, Затока, Тачыла, Біч (Прут), Атоса, Пераклад, Млён, Кубел.*

Калі мы ўспомнім яшчэ з ранейшых твораў Цішкі Гартнага такія прозвішчы, як *Бераг, Загон, Псюк, Крупнік, Стаўбун, Пуза, Чмель, Акраец, Ступа, Даўбня, Канач, Гляк, Клін, Вілка, Грэбень, Сук, Марыля Рубец, Брушка, Плеўка, Цэўка, Камель, Браварка, Слой, Плаха, Бізун, Пуга, Ложка, Парог,* дык убачым, што ў аўтара гэта сістэма, з якой ён не расстаецца да самага апошняга часу.

Ёсць у Ц. Гартнага творы, якія і не маюць усіх адзначаных недахопаў. Хоць бы ў тым жа «Гомане зарніц» — апавяданне «Круты паварот». Яно не вызначаецца асаблі-

вым майстэрствам, і тэма яго не вельмі актуальная: тут расказваецца пра тое, як адзін чалавек, бядняк-селянін, выбіваўся ў людзі; як ён марыў стаць цыркавым барцом, дасягнуў гэтага, потым расчараваўся ў сваёй прафесіі і пайшоў працаваць на завод. Прынцыпова новае ў гэтым апавяданні ў параўнанні з вышэй разгледжанымі гэта тое, што тут прысутнічае чалавек з яго марамі, надзеямі, удачамі і няўдачамі. Чытач цікавіцца лёсам героя, баіцца за яго і радуецца яго, хоць маленькімі, радасцямі. Псуюць твор паўзы, якія робіць герой, расказваючы аб сабе. Яны робяцца аўтарам для таго, каб даць магчымасць герою чым-небудзь захапіцца і сказаць патэтычную прамову. Ідуць трактары — ён захапляецца і гаворыць прамовы, праходзіць рота чырвонаармейцаў — зноў. Гэтым аўтар хоча падкрэсліць яго адданасць сацыялістычнаму будаўніцтву. Куды больш пераканаўча было б, каб аўтар паказаў свайго героя хоць адным штрыхом на працы.

Вышэй значна стаіць апавяданне «Смерць Германа Васермана» на тэму аб замежным жыцці. У чым тут рэч, вы адразу дагадаецеся, параўнаўшы толькі загалоўкі разгледжаных мною раней твораў з загалоўкам гэтага апавядання. Там «Напевы сірэн», «Зялёны шум» — тут «Смерць Германа Васермана». Там у аснову твора бярэцца працэс, тут — чалавек і яго лёс. Дзіўна крыху: рабочых і калгаснікаў я сустракаю досыць часта, ведаючы іх у жыцці, а чытаючы творы Ц. Гартнага, не магу ўявіць сабе іх, як жывыя вобразы. А вот служачы фінансавай установы ў Германіі, якога я ні разу не бачыў,— Герман Васерман устае перада мною, як жывы. Больш таго, я люблю гэтага чалавека, я абураюся разам з ім, я шкадую яго, калі ён памірае. У Васермана баліць бок пасля няўдачнай аперацыі — мне яго шкода. Адным словам, Герман Васерман жывы чалавек, а не адна толькі функцыя на дзвюх нагах, як Якаў Плот з апавядання «Зялёны шум» ці Шумкін з «Напевы сірэн». Больш таго — Васерман не толькі жывы чалавек, ён літаратурны вобраз, бо ў ім паказаны тыя істотныя рысы, якія ўласцівы камуністу ў Германіі, і паказаны ў тыповых абставінах. Гэта апавяданне, нягледзячы на шурпатасць стылю Ц. Гартнага, з'яўляецца сапраўды мастацкім творам, і аўтар смела можа залічыць яго ў актыў свае творчае перабудовы, хоць ён, напэўна, пісаў гэты твор не спецыяльна для перабудовы.

Які ж вывад адгэтуль? Што аўтар не павінен брацца за вытворчую і калгасную тэматыку, а павінен шукаць сабе мэты недзе на перыферыі нашай сапраўднасці ці за мяжой?

Наадварот, аўтар настолькі павінен зрадніцца з сацыялістычным будаўніцтвам, каб пісаць пра яго стала яго арганічнай патрэбай, унутранай неабходнасцю.

Ц. Гартны зрабіў значны крок на шляху сваёй творчай перабудовы, пачаўшы яе з свайго ідыёвага пераўзбраення. Ён уключыўся сваёй тэматыкай у сацыялістычнае будаўніцтва на найбольш адказных яго ўчастках, ён падыходзіць да сапраўднасці з савецкіх пазіцый, але ўсё ж гэта толькі першы крок. Адчуваецца яшчэ, што Ц. Гартны пісаў некаторыя творы з думкай: «Мне ж трэба перабудавацца. І хутка ж гэта трэба зрабіць». Адгэтуль — паўфабрыкат, а не паўнацэнны мастацкі твор, адгэтуль і схематызм вобразаў, які кампенсуецца патэтыкай, лобавай агітацыяй. Гэта перабудова яшчэ, калі можна так сказаць, для сябе. Для савецкага чытача з такой перабудовы карысці не так шмат; ён такія творы чытае вельмі неахвотна. Далейшая задача для Ц. Гартнага, на маю думку, гэта перагледзець свой метад паказу савецкай сапраўднасці, паставіўшы ў цэнтр увагі чалавека, а не працэс, перамагчы натуралізм, у палоне якога знаходзіцца Ц. Гартны; перагледзець увесь арсенал сваіх мастацкіх сродкаў, бо гэтыя сродкі ў аўтара, трэба проста сказаць, часамі вельмі саматужныя і прымітыўныя. З такімі сродкамі нельга стварыць высокамастацкага твора, як нельга зрабіць блюмінг пры дапамозе малатка і напільніка. Апавяданне «Смерць Германа Вассермана» сведчыць аб тым, што пры правільным падыходзе да тэмы, да вобраза і пры больш упартай і старраннай працы над творам Ц. Гартны здолее даць добрыя мастацкія творы, якія паслужаць на карысць сацыялістычнаму будаўніцтву. Пажадаем яму найлепшых поспехаў на гэтым шляху.

*1934*

## ДУХ ЗАХВАТВАЕ АД РАДАСЦІ

*(З пісьма)*

Шлю табе прывітанне з горада Ліда, дзе мы часова прыпыніліся. Гэта адзін з гарадоў Заходняй Беларусі, якую вызваліла наша слаўная Чырвоная Армія з-пад прыгнёту паноў-памешчыкаў і капіталістаў. А як часта мы з табой аб

гэтым марылі і гаварылі з хлапцамі!.. Мары нашы здзейсніліся раней нават, чым мы маглі спадзявацца. Цяпер увесь беларускі і ўкраінскі народы, не падзеленыя ніякімі межамі, будуць жыць у сям'і брацкіх народаў Савецкага Саюза.

Настрой у мяне самы найлепшы, як і ва ўсёй нашай арміі. Проста дух захватвае ад радасці ад такіх грандыёзных падзей. Падумай толькі, гэта ж сапраўды, Дзяржаўны тэатр зможа выехаць на гастролі, скажам, хоць бы ў Вільна і паказаць там «Партызаны». Раней мы гаварылі аб гэтым, як аб далёкім будучым.

Сяляне і рабочыя Заходняй Беларусі вельмі рады нашаму прыходу. Яны нам актыўна дапамагаюць і ахвотна расказваюць, дзе хаваюцца польскія бандыты. Затое панам, фабрыкантам, польскім афіцэрам наш прыход вельмі не да смаку. Гэта нашы заядлыя ворагі. Чырвоная Армія выпорвае іх з усіх нор, дзе яны пахаваліся.

Прывітанне ўсім.

*1939*

## СТЫМУЛ ДАЛЕЙШАГА РОСТУ

Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве — гэта паказ таго, як ленінска-сталінская нацыянальная палітыка спрыяе росту і росквіту культуры і мастацтва ўсіх народаў Савецкага Саюза. Дэкада падвяла вынік таму, што было дасягнута за годы савецкай улады ў галіне беларускага мастацтва. А вынік такі: там, дзе існавалі толькі самадзейныя драматычныя гурткі, за годы савецкай улады вырас Вялікі оперны тэатр, выраслі першакласныя драматычныя тэатры і — самае галоўнае — выраслі людзі, таленавітыя творчыя калектывы, якія з поўным поспехам прадэманстрыравалі свае дасягненні перад грамадскасцю сталіцы Саюза.

Беларуская савецкая драматургія таксама прарабіла вялікі шлях і высока ацэнена маскоўскай грамадскасцю. Беларуская народная песня, якую любіў і песціў народ, нават у найгоршыя часы прыгнёту і няволі, выйшла на шырокі прастор і прагучэла зараз на ўвесь Савецкі Саюз.

Масква горача вітала наш прыезд і высока ацаніла нашу работу, але гэта не павінна ўскружыць нам галовы: на дэкадзе мы ясней убачылі не толькі нашы поспехі, але і тое, чаго нам яшчэ не хапае.

Атрымаўшы вялікую творчую зарадку, мы вернемся з дэкады ўпэўненымі ў сваіх сілах і здольнасцях і з яшчэ большай упартасцю будзем працаваць, каб наша маладое мастацтва расло і квітнела яшчэ буйней.

*1940*

## БЕЛОРУССКИЙ НАРОД ЖИВЕТ И БОРЕТСЯ

Над родной Белоруссией — мрак фашистской ночи. Среди этой ночи слышится только звериный рев да собачий лай гитлеровской своры, автоматные очереди да стон истязаемых невинных людей. Ни живого слова любимых поэтов, ни родной песни из уст народных певцов не могут услышать теперь белорусские трудящиеся. Дети белорусских крестьян и рабочих не могут прочитать книжку на родном языке. Они, как тени, снуют по пустынным улицам, печально поглядывая на пепелища, что остались на месте бывших школ. По дорогам страны блуждают женщины с детьми на руках и женщины, потерявшие своих детей, и дети, потерявшие своих родителей; блуждают в поисках пристанища и крова. Мрак и ужас, издевательства и безмерные страдания принес фашизм белорусскому народу.

Но народ не умер, народ живет, и воля его к борьбе не сломлена. И не будет сломлена никакими пытками и зверствами. Чем больше свирепствует враг, тем больше славных сынов белорусского народа берется за оружие, чтобы бороться за свою жизнь, за свою свободу и независимость. Сквозь шум битвы, сквозь грохот орудий к нам из-за фронта доносятся не только стоны заживо погребенных фашистами людей, но и молва о славных подвигах белорусских партизан. Наши люди идут на смерть для того, чтобы омрачить немецким оккупантам их временное торжество, чтобы сеять среди них страх смерти, которая, как тень, ходит за ними по пятам и подстерегает за каждым кустом.

Белорусский народ в первый же день войны поклялся не выпускать оружия из своих рук до тех пор, пока хоть один

фашистский гад будет поганить нашу родную землю, будет заражать своим дыханием чистый воздух белорусских полей и лесов. Смерть за смерть, кровь за кровь! Эти священные слова партизанской клятвы стали повседневным правилом в борьбе белорусских партизан с немецкими захватчиками.

Немало черной фашистской крови пролилось на белорусской земле за невинную кровь наших братьев и сестер. Немало верных сынов белорусского народа прославили себя в борьбе с лютым врагом. Всему Советскому Союзу известны имена белорусских партизан — Героев Советского Союза Тихона Бумажкова и Федора Павловского. В отряды к ним пришли простые советские люди, большинство из которых не имело ни военных знаний, ни оружия. Зато они несли в груди жгучую ненависть к жестокому врагу и горячую любовь к своей родине. И это оружие оказалось более грозным, чем фашистские танки и самолеты. Простые люди под руководством Бумажкова и Павловского скоро стали прекрасными стрелками, гранатометчиками и подрывниками. Врага они били отнятым у него же оружием и в одном только бою уничтожили 18 танков и бронемашин, захватили 15 мотоциклов, истребили сотни ненавистных фашистских вояк. Им помогали знакомые с детства родные леса, их укрывала густая колхозная рожь. Они же с болью в сердце жгли и вытаптывали то, что сами растили и лелеяли. Жгли для того, чтобы их трудом не пользовался враг.

Белорусские женщины— женщины-мученицы, женщины-герои. Много горя и страданий принесли им фашистские варвары. Но в то время, когда они в страхе прижимают к груди детей своих, стараясь уберечь их от кровавых извергов, сердца их наполняются жаждой мести за смерть мужей, за разрушенный семейный очаг, за поруганную женскую честь. В их голубых глазах блестят не только слезы, но и молнии. Одни из них пошли в партизанские отряды и с оружием в руках наравне с мужчинами громят немецких оккупантов, как это сделала молодая комсомолка Аня Шубенок. Другие находят не менее действенные способы борьбы. О степени страданий и о силе ненависти белорусских женщин красноречиво говорит подвиг неизвестной дочери народа, взорвавшей себя и вместе с собой немецкий эшелон с горючим и боеприпасами.

А сколько таких, которые не знают, что такое динамит или тол, не умеют зарядить винтовку, а совершают геройские подвиги ежедневно, скромно и незаметно.

Вот заходит в избу человек. Он просит есть.

— Как мне вас всех накормить?— отвечает женщина.— Вон хлеб на столе,— добавляет она, помолчав.— Бери, ешь.

«Не больно ласкова»,— отрезая ломоть черствого хлеба, подумал человек.

В это время за окнами мелькнули пилотки фашистов и дула карабинов,— немцы шли в избу. Человек встал и беспокойно обвел глазами избу.

— Сиди и ешь,— сказала женщина.

Глянув ей в лицо, человек успокоился— эта не выдаст.

Когда фашисты заинтересовались пришельцем, женщина спокойно ответила, что это ее муж.

На вопрос человека, как у нее хватило духу назвать его мужем,— ведь немец мог и не поверить,— она ответила, что помогать партизанам — дело привычное, он у нее уже девятый «муж»...

Да, немец мог не поверить, и тогда эта «неласковая» женщина геройски умерла бы в муках и страданиях, как умерла в Волоколамске на виселице верная дочь белорусского народа Женя Полтавская.

Белорусские дети и подростки, воспитанники советских школ, которые несколько месяцев тому назад играли в лошадки и рубили воображаемых врагов деревянными шашками, теперь воочию увидели живого кровожадного зверя, еще более страшного и жестокого, чем могло его нарисовать их детское воображение. Всей страстью своей чистой души они возненавидели это чудовище, которое отняло у многих из них отца и мать, лишило крова и пропитания, уничтожило школы, библиотеки и дворцы пионеров, разогнало любимых учителей. Молодые патриоты являются активными помощниками своих отцов и старших братьев в борьбе с ненавистным врагом. Орден Красного Знамени украшает грудь пятнадцатилетнего партизана Пчелки, с опасностью для жизни доставившего ценнейшие сведения о противнике и даже самих живых фрицев.

Геройской смертью погиб юный патриот Саша Тышкевич. Мстя извергам за убитых мать и отца, брата и двух сестер, он бросил гранату в машину с немецкими офицерами. Уничтожив всю группу разбойников, он и сам был сражен осколком брошенной им же гранаты.

Недалек тот день, когда победоносное красное знамя будет реять над всеми областями Советской Белоруссии. Тогда белорусский народ зароет глубоко в землю фа-

шистскую падаль и примется вновь за творческий труд, так нагло прерванный коварным врагом. Мы утешим вдов и сирот и окружим их заботой и лаской. Мы возродим из праха наши села и города, и они станут красивее прежнего. И наши дети веселой гурьбой пойдут во вновь отстроенные школы. Там, где теперь скрипят виселицы, будут шуметь молодые сады. Белорусский народ осуществит свою заветную мечту и превратит непроходимые болота в сотни тысяч га плодороднейшей земли. Над широкими полями и над молодыми садами вновь будет звенеть простая задушевная белорусская песня.

Это будет.

А чтобы это было скорее, мы должны сегодня, стиснув зубы, истреблять ненавистного врага всеми средствами и на всяком месте. Уже трудящиеся Белоруссии слышат железную поступь советских полков, близких к белорусской земле. Чем больше ударов будет сыпаться на голову фашистских извергов, тем скорее придет радостный день освобождения и возрождения белорусского народа.

*1942*

## САЛЮТ ПЕРАМОГІ

Неба над Масквой расквечана каляровымі ланцужкамі трасіруючых куль. Як чародкі невядомых дзівосных птушак, якія імкнуцца ў вышыню, перакрыжоўваюцца, знікаюць. Грымяць залпы 224 гармат. У масквічоў, якія высыпалі з дамоў на вуліцы, расцвітаюць на тварах усмешкі. Гэта феерверк радасці. Гэта салют перамогі. Гэта сталіца ад імя ўсяе Радзімы вітае нашы доблесныя дывізіі, якія вызвалілі ад ворага горад Харкаў. Яшчэ адзін страшны ўдар нанесен нашаму лютаму ворагу. Курская дуга, якую Гітлер хацеў зламаць і launch ператварыць у смяротныя клешчы для нашых войск, выпрасталася з нечаканай для яго сілай і хвоснула фашысцкаму зверу па мордзе, аж ён заліўся кроўю. Хвоснула адным канцом на поўначы, выбіўшы гітлераўскіх разбойнікаў з Арла і Карачава, а другім на поўдні — хвоснула так, што фашысцкая погань з выццём і праклёнамі выкацілася з Белгарада і Харкава.

Другі раз у гэтым месяцы грыміць у Маскве салют нашай перамогі над ворагам. Гэты гром аддаецца радасцю ў сэрцы кожнага патрыёта нашай Радзімы...

Вось і зноў неба Масквы расквечана агнямі салюта ў гонар Чырвонай Арміі, вітаючы вызваленне сталіцы Савецкай Беларусі — горада Мінска.

*1944*

## П'ЕСЫ І ВОБРАЗЫ

Перад нашымі савецкімі драматургамі паўстаюць праблемы, якія вынікаюць з таго, што мы жывём у бяскласавым грамадстве. Класы старога капіталістычнага грамадства адышлі ў нябыт. Разам з імі адышлі ў нябыт і класавыя супярэчнасці, якія ў мастацтве былі прычынай бясконцых канфліктаў і драматычных калізій. Яны і жывілі драматургію мінулага. У гэтым мы лёгка пераканаемся, калі звернемся да лепшых узораў рускай і сусветнай драматургіі. А мы, апынуўшыся ў бяскласавым грамадстве, сталі перад пытаннем — на чым нам будаваць свае п'есы? Старыя, пратаптаныя сцежкі для нас ужо не падыходзяць. Новае жыццё не ўкладваецца ў старыя схемы. А між тым без супярэчнасцей, без сутычак інтарэсаў дзеючых асоб драматургія не можа існаваць.

Асабліва цяжкім з'яўляецца камедыйны жанр. Прызначэнне сатыры — бічаваць тое, што аджыло свой век, што з'яўляецца тормазам для далейшага руху грамадства наперад.

Але пры гэтым трэба мець на ўвазе, што рэзананс сатырычнага твора, пры ўсіх іншых аднолькавых умовах, залежыць ад значнасці аб'екта, на які гэты твор накіраваны. Аб'ект сатыры падобны да звона: калі па вялікім звоне ўдарыць нават маленькім малаточкам, дык гук будзе вялікі, а па маленькім звоне хоць бі вялікім молатам, гуку вялікага не будзе.

Гэта ўсё агульныя разважанні. Цяпер я хачу спыніцца канкрэтна на тым, што зрабілі нашы драматургі за апошнія пяць год. Адна з асноўных тэм, якой драматургі больш за ўсё аддалі ўвагі,— тэма барацьбы нашага народа з нямецкі-

мі захопнікамі. Гэта і зразумела: увага драматургаў была накіравана туды, куды былі накіраваны намаганні нашага народа — на барацьбу з подлымі фашысцкімі вырадкамі. Грандыёзная сутычка сіл — разбойніцкіх зграй фашысцкіх людаедаў, з аднаго боку, і гераічнага савецкага народа, які падняўся на абарону свае свабоды і незалежнасці, з другога боку,— на першы погляд з'яўляюцца вельмі ўдзячным матэрыялам для драматургаў. Але разам з тым тут ёсць і велізарныя цяжкасці для пісьменніка, якія заключаюцца ў тым, што ў драматычным творы гэту грандыёзную барацьбу трэба паказаць не ў агульным плане, а ў выглядзе барацьбы канкрэтных людзей, якія б змясцілі ў сабе ўсю веліч гэтых падзей. Вось чаму мала ўдалых п'ес на гэту тэму.

Я лічу, што наша беларуская драматургія, нягледзячы на тое, што напісана досыць шмат твораў на тэму аб гераічнай барацьбе савецкага народа з нямецкімі захопнікамі, знаходзіцца толькі на подступах да вырашэння гэтай тэмы. Што ж усё-такі зроблена ў гэтай галіне?

Бяру п'есы, якія ўжо ставіліся і друкаваліся або чыталіся і абмяркоўваліся.

Кораценька спынюся на п'есе Алеся Кучара «Заложнікі» — адной з першых п'ес, напісаных аб гераічнай барацьбе нашага народа. Напісана яна па свежых слядах падзей і на канкрэтным матэрыяле. У ёй ёсць кавалкі сапраўднага жыцця. Але я не буду спыняцца на дадатных якасцях гэтага твора, бо аб іх ужо шмат пісалі і гаварылі, а адзначу толькі некаторыя найбольш буйныя недахопы, якія вынікаюць з неспрактыкаванасці аўтара ў драматургіі. Мне думаецца, што галоўнай памылкай Кучара з'яўляецца тут тое, што ён паставіў цэнтральнага свайго героя ў нявыгаднае становішча пакутуючай, амаль пасіўнай асобы. Абставіны, у якіх аўтар прымусіў дзейнічаць Міная, не даюць яму магчымасцей быць актыўным, праявіць сябе як кіраўніка партызанскага атрада, фактычна змагаецца не Мінай. Барацьба разгортваецца навакол Міная і яго дзяцей.

Не ўсё добра і з другімі персанажамі п'есы. Брат Міная — Нічыпар, задуманы драматургам як непраціўленец злу. Ён перакананы, што калі не будзе рабіць нікому дрэннага, то і фашысты яго не зачэпяць. Але аўтар парушыў суцэльнасць вобраза Нічыпара, заявіўшы авансам, што і ён тапор можа ўзяць у рукі, калі яго пакрыўдзяць. Далей Нічыпар па сутнасці сам выдае брата фашыстам і з'яўляецца віноўнікам расстрэлу Мінаевых дзяцей. А калі

гэта так, дык апраўдання яму не можа быць, хоць аўтар як быццам і спрабуе знайсці гэта апраўданне.

У п'есе ёсць схематычныя вобразы і штучныя сітуацыі. Так, вобраз Любы, яе адносіны з камісарам Іванчанкам слаба матываваны і здаюцца надуманымі. Нават тое, што Люба ахвяруе сабою і ідзе да немца, каб выратаваць дзяцей Міная, мне здаецца, выглядае не зусім удала і занадта кампраметуе дзяўчыну. У такое становішча аўтар не павінен быў ставіць сваю гераіню.

Аднак, нягледзячы на гэта, п'еса Кучара з'яўляецца адной з лепшых п'ес, напісаных за апошні час аб барацьбе беларускіх партызан.

Яўген Рамановіч напісаў дзве п'есы на гэту ж тэму, аднак выпрабавання часам яны не вытрымалі. Сёння, калі мы маем магчымасць сустракацца з жывымі ўдзельнікамі партызанскай барацьбы, слухаць іх апавяданні і знаёміцца з дакументамі, нам гэтыя творы здаюцца шмат у чым наіўнымі, недасканалымі і нават легкадумнымі. Успомнім, напрыклад, прафесара Гаеўскага з п'есы «Палешукі», якую многія з нас бачылі ў тэатры. Фігура недарэчная, і зусім незразумела, чаму аўтар прысвоіў ёй званне прафесара. Нават з тэхнічнага боку, нягледзячы на тое, што аўтар дасканала ведае сцэну і ўсе каноны драматургіі, п'еса яго вельмі недасканалая. Сітуацыі надуманыя, вузлы завязваюцца і тут жа развязваюцца або застаюцца зусім неразвязанымі. Людзі — не людзі, а манекены, якія рухаюцца па сцэне, як персанажы лялькавага тэатра, не ў сілу сваіх унутраных матываў, а выключна па волі аўтара. П'еса «Таварыш Андрэй», мне здаецца, яшчэ слабейшая за п'есу «Палешукі». Вобразы гэтай п'есы — або звыш героі — сухія схемы, накшталт таварыша Андрэя (ён жа — цёця Зося), Пятра Кручкова, або нікчэмныя істоты, як Валя, Ляля і іх маткі, якія выдаюцца аўтарам за перадавых савецкіх жанчын.

На працягу першых двух актаў «Таварыша Андрэя» драматычная дзея зусім не разгортваецца. Увесь час гаворка круціцца каля мундзіра нямецкага афіцэра, які (мундзір) Валя мыла на рэчцы, а ён, ліха яму, узяў ды ўтапіўся. Тое, як яго шукаюць, сушаць і гладзяць, і з'яўляецца зместам амаль поўных двух актаў п'есы аб партызанскай барацьбе. А потым з'яўляецца таварыш Андрэй, ён жа цёця Зося, і пачынаюцца геройскія ўчынкі. Прыкладам такога геройства з'яўляюцца паводзіны аднае партызанкі, пра якую аўтар сур'ёзна расказвае вуснамі свайго героя.

Партызанку гэту немцы вялі на расстрэл пасля катавання. Мяса на ёй, як сведчыць аўтар, вісела «ласкутамі», і яна ішла па вуліцы і смяялася. Чаго трэба было смяяцца і як можа чалавек смяяцца ў такім стане — аднаму аўтару вядома.

Многа з таго, што тут гаварылася, сведчыць, што аўтар не досыць сур'ёзна падышоў да вырашэння ўзятай ім паважнай і адказнай тэмы. Мы можам яму сёе-тое дараваць, прымаючы пад увагу, калі і пры якіх абставінах гэтыя п'есы пісаліся, але сягоння яны нас задаволіць не могуць.

Некаторыя нашы драматургі ўдзяляюць увагу гістарычнай п'есе. Я. А. Міровіч напісаў драму «Кастусь Каліноўскі». Яна робіць на мяне ўражанне вельмі добрасумленнай работы. Асноўная цяжкасць, якую, на маю думку, прыйшлося перамагаць аўтару пры напісанні п'есы,— гэта супярэчнасць, закладзеная ў самой тэме. З аднаго боку, Кастусь Каліноўскі — нацыянальны герой, які змагаецца за інтарэсы беларускага сялянства, супроць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту; з другога боку — ён змагаецца як быццам супроць Расіі, і, такім чынам, яго барацьба нібы супярэчыць імкненням беларускага народа жыць у брацтве і дружбе з вялікім рускім народам. Але гэта супярэчнасць вонкавая. Па сутнасці, Кастусь Каліноўскі змагаецца не супроць рускага народа, а супроць царскага самаўладства, якое трымала беларускі народ на каланіяльным становішчы і супроць якога змагаўся і рускі народ у асобе лепшых сваіх прадстаўнікоў — Герцэна, Чарнышэўскага і іншых. Такім чынам, беларускае сялянства пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага змагалася не супроць рускага народа, а разам з ім, за адны і тыя ж мэты. Гэта сумесная барацьба атрымала сваё далейшае развіццё ў рэвалюцыі 1905 года і закончылася бліскучай перамогай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая і рускаму, і беларускаму народу прынесла вызваленне ад прыгнёту царскага самаўладства. Але аб гэтым лёгка сказаць больш-менш дакладна ў выступленні або артыкуле і не так лёгка паказаць у п'есе на жывых вобразах.

Справа ўскладняецца яшчэ супярэчнасцямі, якія былі паміж чырвоным і белым жондам. Вельмі хутка высветлілася, што Кастусю не па дарозе з кіраўнікамі белага жонду, якія імкнуліся паставіць барацьбу беларускага сялянства на службу інтарэсам польскіх паноў.

Відаць, гэтымі акалічнасцямі і тлумачыцца некаторая перагружанасць п'есы эпізодамі і дзейнымі асобамі. Аўтар

імкнуўся ўсё растлумачыць і ўдакладніць. Мне думаецца, што праца заслугоўвае таго, каб яе давесці да канца, гэта значыць да паказу яе гледачу.

Міхась Клімковіч напісаў дзве п'есы на гістарычную тэму. Абедзве п'есы па-свойму цікавыя і заслугоўваюць увагі нашых тэатраў. Цікавыя яны перш за ўсё тым, што Клімковічу ўдалося ўлавіць каларыт эпохі, які адчуваецца ў характары падзей і вобразаў, паводзінах, мове. П'еса «Адплата» цікава яшчэ і сваёй вострай інтрыгай, якая звязвае ў адзін моцны клубок усіх удзельнікаў. Характары асноўных дзеючых асоб выпісаны досыць выразна і досыць удала праяўляюць сябе ў дзеянні. Асноўная ідэя п'есы па задуме аўтара — гэта барацьба свядомых прадстаўнікоў беларускага народа супроць гвалтоўнай паланізацыі і акаталічвання, барацьба за права стварыць сваю нацыянальную культуру. Але гэта ідэя, на маю думку, недастаткова выяўлена ў п'есе. Захапіўшыся інтрыгай, аўтар перанёс цэнтр дзеяння ў «вышэйшыя сферы» акружэння каралевы Боны і надаў п'есе характар прыдворнай інтрыгі з усімі яе атрыбутамі — атрутай, кінжаламі, забойствамі. Галоўнага носьбіта ідэі барацьбы з паланізатарамі — князя Радзівіла мы ўжо ў самым пачатку п'есы застаём на смяротным ложку, атручаным адным з падручных каралевы. У такім стане ён, вядома, толькі намінальна застаўся носьбітам гэтай ідэі і не змог праявіць сябе ў дзеянні. Асноўным зместам п'есы засталася вострая барацьба ў прыдворных сферах, дзе яе ўдзельнікі праследуюць у першую чаргу асабістыя інтарэсы. Ды і выбар фігуры князя Радзівіла, як носьбіта заложанай у гэтым творы ідэі, з'яўляецца, на маю думку, не зусім удалым. Справа ў тым, што князь Мікола Радзівіл як гістарычная фігура не з'яўляецца фігурай выдатнай і вядомай шырокай грамадскасці. Дзякуючы гэтым акалічнасцям п'еса «Адплата» ў значнай меры траціць сваю грамадскую значнасць. Калі б аўтару ўдалося пазбавіцца ад гэтых недахопаў, магла б атрымацца каштоўная п'еса.

Значна большую гістарычную цікавасць і грамадскае значэнне мае другая п'еса, напісаная Клімковічам нядаўна — п'еса аб вялікім беларускім асветніку Георгію Скарыне. Выканана гэта тэма, па-мойму, добра.

Аднак абедзве п'есы ў тым выглядзе, у якім я іх ведаю, маюць той недахоп, што яны занадта вялікія па свайму памеру. Клімковіч хоць і не пачынаючы аўтар, але яму ўласціва хвароба пачынаючага — даражыць кожным сваім

словам і цаніць яго на вагу золата. Ён ніяк не адважыцца ахвяраваць пэўную колькасць слоўнага матэрыялу на тое, каб зрабіць п'есу больш сціслай і, галоўнае, прыдатнай для пастаноўкі.

Віталі Вольскі, застаючыся верным сабе і свайму творчаму кірунку, напісаў п'есу «Машэка», узяўшы ў аснову народнае паданне. У гэтай п'есе ёсць шмат дадатнага. Частка гэтага дадатнага ідзе ад народнай творчасці — сюжэт, асноўныя вобразы і іншае. Але што датычыцца вобраза самога Машэкі, дык ён, па-мойму, не адпавядае таму, якім мы ўяўляем яго па народнай легендзе.

Асабліва дзіўнымі з'яўляюцца яго адносіны да вясковай дзяўчыны Ганны — гэтага нізкага стварэння. Гвалтам захопленая князем, яна ў князевым палацы вельмі хутка забываецца пра Машэку, і не таму, што любіць князя, а таму, што ёй даспадобы прыйшлося князева багацце. І Машэка кахае такую не вартую кахання жанчыну за адно толькі яе хараство. Праўда, гэта пачуццё не такое моцнае, як аб гэтым гаворыцца ў п'есе, бо і тут, як у цэлым радзе іншых выпадкаў, разважлівасць бярэ верх, і Машэка лёгка прымірaецца з тым, што князь завалодаў яго каханай дзяўчынай. Але, калі пасля смерці князя Ганна варочаецца да Машэкі, ён не грэбуе тым, што яна была добраахвотнай палюбоўніцай князя, і кахае яе, як быццам нічога і не было. Такая неразборлівасць не на карысць герою, а тым больш дурная яго даверлівасць, праз якую ён гіне, будучы атручаным той жа Ганнай. Такім чынам, у вобразе Машэкі мы не бачым ні геройства, ні адвагі, ні глыбіні і сілы пачуцця, ні палымянасці, ні вострага розуму — нічога такога, за што народ любіць сваіх герояў. Гэта хутчэй прыстасаванец да абставін, разважлівы дзядзька, і наўрад ці такі Машэка стане любімым героем савецкага гледача.

Нарэшце, я павінен спыніцца яшчэ на адной п'есе, аб якой да гэтага часу ніхто не гаварыў, не жадаючы, відаць, рабіць прыкрасці яе аўтару. Я таксама не хацеў бы гэтага рабіць, бо аўтар яе — харошы чалавек і добры рэдактар часопіса «Беларусь», але ў імя справядлівасці і ў інтарэсах далейшага развіцця нашай драматургіі я павінен гаварыць аб гэтай п'есе. Я маю на ўвазе камедыю Ільі Гурскага «Свае людзі». П'еса гэта мае сваю досыць доўгую гісторыю, і я скажу адкрыта, што мне гэта гісторыя не падабаецца. Многія з нас памятаюць, што ў Гурскага некалі была аднаактовая камедыя «Сваты» на калгасную тэму. Потым, яшчэ перад вайной, гэта аднаактовая камедыя была пера-

роблена на трохактовую. Гэта была п'еса аб перадваенным калгасе. Пасля вайны аўтар зноў перарабіў гэту п'есу, і яна ўжо стала п'есай аб пасляваенным калгасе. Ужо адно такое прыстасаванне таго ж самага твора да розных умоў і да рознага часу гаворыць аб несур'ёзных адносінах пісьменніка да сваёй працы. Але гэта яшчэ можна было б даравацы, каб у выніку пераробак атрымаўся паўнацэнны мастацкі твор. На жаль, гэтага мы не можам сказаць. Ды і ад таго, што аднаактовая п'еса стала трохактовай, яна ніколькі не стала лепшай. Па-мойму, наадварот.

Да таго ж амаль усе дзейныя асобы п'есы — дзівакі і ёлупы.

Вось загадчык гаспадаркі Пушкарэвіч, які, па сведчанню аднаго з герояў, «на немцаў паляваў, як на цецерукоў». Гэта — балбатун і манюка, які на працягу ўсяе п'есы толькі тое і робіць, што меле ўсялякую лухту пра свае паляўнічыя прыгоды і перасыпае сваю ману «дасціпнымі» афарызмамі накшталт таго, што «паляўнічаму без шчасця, што рыбаку без портак».

Вось друг Пушкарэвіча — рахункавод Шпакоўскі, стары ўдавец, які прагне ажаніцца. Гэты стары ёлуп уявіў, што нявестам у жаніхах больш за ўсё падабаюцца мускулы. «Хіба цяперашнім светам ажэнішся,— разважае ён.— Бывала, на грошы гналіся, а цяпер дык больш за ўсё на мускулы. А чаму? А таму. (Займаецца фізкультурай, а потым хапаецца за нагу.) Ай! Ае-яй-ей!»

Так ён падрыхтоўвае сябе, каб стаць жаніхом, вартым лепшай дзяўчыны ў калгасе.

І вось такія людзі за кароткі пасляваенны тэрмін аднавілі калгас, зрабілі яго мільянерам, пабудавалі камяніцы, збудавалі электрастанцыю. Праўда, кіруе імі герой, партызан-мінёр. Якімі ж метадамі ён гэтага дабіўся? Пра гэта ён сам гаворыць: «Мала спусціць дырэктыву, трэба яе правярнуць. План утрэслі, а цяпер за справу. Без жывёлы, што без вады, ні туды і ні сюды». Як бачым, старшыня такі ж самы дзівак, як і яго калгаснікі.

Скажу коратка: атрымалася п'еса не такая, якую б мы хацелі атрымаць і якую аўтар хацеў напісаць. Яна нас не пераконвае, у ёй няма мастацкай праўды і мастацкага густу. Затое шмат развязнасці і нават у некаторых месцах пошласці, што прыдае п'есе непрыемную і непажаданую афарбоўку. Аўтар назваў п'есу «Свае людзі». Але людзі ў ёй свае толькі паміж сабою: яны аднолькавыя дзівакі.

А сапраўдным савецкім калгаснікам яны вельмі далёкія сваякі.

Наогул жа, наша драматургія прыйшла на гэты пленум не з пустымі рукамі і сёе-тое зрабіла нядрэнна. Аднак, прымаючы пад увагу сучаснае становішча драматургіі ва ўсёй савецкай літаратуры, я лічыў патрэбным спыніцца іменна на недахопах, якіх у нас яшчэ шмат і якія перашкаджаюць нам ісці наперад.

*1945*

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Янка Брыль, малады беларускі празаік, упершыню выступае са зборнікам сваіх апавяданняў.

Паходзячы з заходняй часткі Беларусі, Янка Брыль да 1939 года рос і выхоўваўся ва ўмовах панскай Польшчы. Там фармаваўся яго характар, там упершыню ён вучыўся пазнаваць прыроду і людзей, меў магчымасць непасрэдна пазнаёміцца з тымі цяжкімі ўмовамі, у якіх жыло беларускае працоўнае насельніцтва, знаходзячыся пад прыгнётам польскіх паноў.

У 1939 годзе, будучы салдатам польскай арміі, Янка Брыль трапіў у нямецкі палон і, такім чынам, не меў магчымасці прымаць удзел у вялікай урачыстасці — з'яднанні ўсяго беларускага народа ў адной Савецкай дзяржаве. Уцёк ён з палону ўжо тады, калі Беларусь была часова акупіравана нямецкімі захопнікамі. Хутка ён наладзіў сувязь з партызанамі і быў актыўным удзельнікам партызанскага руху.

Тэматыка і змест апавяданняў гэтага зборніка вынікаюць з жыццёвай практыкі самога аўтара і ў той ці іншай ступені з'яўляюцца адлюстраваннем жыццёвага асяроддзя, у якім ён жыў.

Янка Брыль у сваіх творах не займаецца вырашэннем вялікіх палітычных або сацыяльных праблем. Не беручыся пакуль што за шырокія абагульненні, ён пільна ўглядаецца ў навакольнае жыццё, умее падмячаць яго разнастайныя праявы, нават дробныя, і ўмее, часта з добрым гумарам, расказаць чытачу аб тым, што ён заўважыў у жыцці цікавага і вартага ўвагі.

У апавяданнях Янкі Брыля ў цэнтры ўвагі заўсёды знаходзіцца чалавек з яго складанай псіхікай, характарам, паводзінамі. А найбольш блізкі і знаёмы яму чалавек гэта — беларускі селянін, які дваццаць год пражыў ва ўмовах прыгнёту ў панскай Польшчы. Ён з'яўляецца цэнтральным героем амаль усіх апавяданняў зборніка. Але гэты герой не ва ўсіх апавяданнях аднолькавы. Раскрываючы душу селяніна, аўтар як бы непрыкметна дабіраецца да яго класавай сутнасці, ускрывае супярэчнасці, якія існуюць паміж рознымі класавымі катэгорыямі сялянства. У апавяданні «Марыля» ён яскрава малюе кулацкую сям'ю з яе побытам, звычаямі, звярынай прагнасцю і нечалавечай жорсткасцю. Цікавы і арыгінальны вобраз местачковага кулака мы бачым у апавяданні «Зладзеі» ў асобе старога скупярдзяя Петруся Грыба. Вобразы сялянскай беднаты любоўна выпісаны аўтарам у апавяданнях «Як маленькі» і «Зладзеі». Глыбока чалавечнымі і паўнакроўнымі ў гэтым апавяданні з'яўляюцца вобразы краўца-бедняка Лапінкі і яго дзяцей — Косціка і Шуркі.

Апавяданне «У сям'і» па ўсіх адзнаках мае ў значнай меры аўтабіяграфічны характар. Культурны ўзровень пасобных яе членаў і запатрабаванні, якія яны ставяць да жыцця, паказваюць на тое, што гэта не звычайная серадняцкая сялянская сям'я. Гэта людзі, якія ўжо хоць крыху паспыталі пладоў культуры і адчулі на сабе яе ўплыў. Ім знаёмы і блізкі ідэі лепшых прадстаўнікоў чалавецтва. І яны з вялікай цікавасцю прыслухоўваюцца да таго, што адбываецца ў вялікай Краіне Саветаў, дзе гэтыя ідэі ператвараюцца ў жыццё. З асаблівай цеплынёй і любасцю паказаны дзеці гэтай сям'і. Трэба сказаць, што наогул Янка Брыль любіць дзяцей і ўмее цікава і хараша расказваць аб іх чытачу.

Апошняе апавяданне Янкі Брыля «Мой зямляк» з'яўляецца, бадай, самым лепшым у сэнсе паўнаты раскрыцця характару. Героем гэтага апавядання з'яўляецца бедны селянін Паўлюк, чалавек з паэтычнай душой і багатай фантазіяй. Некаторымі сваімі рысамі ён нагадвае тургенеўскага Калініча, але разам з тым мае свае індывідуальныя і нацыянальныя рысы характару і з'яўляецца паўнакроўным мастацкім вобразам. Аматар-паляўнічы і рыбалоў — Паўлюк добра адчувае і любіць прыроду. Ён любіць расказаць сябрам пра цікавыя прыгоды, якія часта здараюцца ў яго паляўнічым жыцці, пры гэтым умее так пераўвялічыць і ўпрыгожыць, што звычайная жыццёвая

з'ява ператвараецца ў казку. Усе ведаюць, што ён маніць, але ахвотна слухаюць яго, бо гэта не звычайная шэрая карыслівая мана, а мастацкі вымысел чалавека з багатай фантазіяй. Нямецкія захопнікі, уварваўшыся ў нашу краіну, адабралі ў Паўлюка не толькі яго маёмасць, але і паэзію жыцця, пазбавіўшы яго магчымасці займацца любімай справай — паляваннем. Затаіўшы лютую нянавісць на іх, Паўлюк, нарэшце, знайшоў паэзію ў паляванні на драпежнага фашысцкага звера.

З той жа ўважлівасцю і любасцю, з якой Янка Брыль ставіцца ў сваіх апавяданнях да чалавека, адносіцца ён і да мовы. Ён не карыстаецца гатовай штампавай фразай, якая сама навязваецца аўтару. Ён шукае і ўмее знайсці патрэбнае свежае слова, каб з найбольшай паўнатой і выразнасцю давесці да чытача свае вобразы, думкі і пачуцці.

Усе гэтыя якасці даюць права сказаць, што Янка Брыль з'яўляецца адным з найбольш таленавітых маладых празаікаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру ў часе вайны і пасля яе. Гэта папаўненне вельмі патрэбна нашай беларускай прозе, якая страціла за час вайны такіх выдатных майстроў, як Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны, і іншых таленавітых празаікаў.

Беларускі чытач з прыхільнасцю сустрэне новае для яго імя маладога празаіка, які ў гэтым першым сваім зборніку выявіў бясспрэчныя здольнасці.

*1946*

## ЯНКА КУПАЛА

У адным з першых сваіх вершаў, калі Янка Купала толькі-толькі выходзіў на літаратурны шлях, цяжкі і цярністы шлях паэта-рэвалюцыянера, паэта-барацьбіта, які прысвяціў усё сваё жыццё палкаму служэнню свайму народу, нястомнай барацьбе за яго шчасце, за яго лепшую долю,— ён пісаў:

Я не паэта, о крый мяне, Божа!  
Не рвуся я к славе гэткай німала.  
Хоць песеньку-думку і высную, мoжа,  
Завуся я толькі — Янка Купала.

Славу паэтаў разносяць па свеце,
Вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай,
Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце?
Ат! ведама з вёскі — Янка Купала!

Кожны край мае тых, што апяваюць,
Чым ёсць для народа ўпадак і хвала,
А беларусы нікога ж не маюць.
Няхай жа хоць будзе Янка Купала.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шчасце так рэдка над светам усходзе;
Усё ж досыць бывае меці хоць мала,—
Долю каб бачыў у родным народзе,
А быў бы шчаслівы Янка Купала.

Незабыўныя радкі гэтага верша з'явіліся тым палітычным і паэтычным крэда, ад якога ніколі не адступаў і не адступіў паэт у сваёй творчасці і ў сваёй грамадскай і палітычнай дзейнасці. Для Янкі Купалы шчасце народа было вышэй за ўсё. Дзеля гэтага шчасця паэт пайшоў на барацьбу з усім старым, ненавісным укладам жыцця, з усім грамадскім ладам, народжаным царызмам. Старая царская Расія была велізарнай турмой народаў. Пад падвойным уціскам — сацыяльным і нацыянальным — жыў беларускі народ. Мова яго не мела правоў грамадзянства. На гэтай мове забаронена было друкавацца, вучыцца ў школе, выступаць публічна, пісаць афіцыйныя дакументы. Гэту мову называлі мужыцкай, хамскай. Беспрацоўны народ быў пад жорсткай эксплуатацыяй абшарнікаў і царскіх сатрапаў. Народ быў амаль пагалоўна непісьменны, вечнымі спадарожнікамі яго былі галеча, голад, хваробы, забабоны. Былі цэлыя раёны, якія літаральна вымiралі ад хвароб і ад голаду. Не ў інтарэсах царскага самаўладства было клапаціцца аб патрэбах беларускага народа, як, між іншым, і аб патрэбах любога іншага народа былой імперыі. «Падзяляй і ўладай» — гэты няхітры і не новы прынцып ляжаў у аснове ўсёй, з дазволу сказаць, нацыянальнай палітыкі царскага ўрада, які нацкоўваў адны народы на другія і ўсталёўваў свой дабрабыт на народнай крыві, на народных муках.

У гэтыя змрочныя гады царызму мужна прагучала першае паэтычнае слова Янкі Купалы:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

Ужо ў гэтым першым вершы, надрукаваным чатыры дзесяткі год таму назад, пачуў беларускі народ голас палкага паэта-трыбуна, якім быў і застаўся Янка Купала да апошніх дзён свайго жыцця.

У гэтых першых сваіх паэтычных радках Янка Купала выказаў сваё кроўнае, арганічнае адзінства з народам, з яго горам і жалем, з яго радасцю і шчасцем. Ён акрэслена, ясна, без ваганняў і разваг назваў той адрас, куды завернуты былі ўсе думкі, усе надзеі паэта. Гэты адрас застаўся нязменным да апошніх дзён паэта. Гэты адрас ясна відзён у любым творы, у любым слове Янкі Купалы.

Я не для вас, паны, о не,
Падняць скібіну слова рвуся
На запусцелым дзірване
Сваёй старонкі Беларусі,
Я не для вас, паны, о не!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я не для вас, паны, о не,
А я для бедных і загнаных,
Я з імі мучуся ўраўне,
Ў адных закут з імі кайданах...
Я не для вас, паны, о не!

Я не для вас, паны, о не!..
Я — для тых цёмных, нешчаслівых.
Ад іх і водгаласак мне
Прымчыцца па лясах, па нівах.
А не для вас, паны, о не! —

піша Янка Купала ў 1907 годзе. Так Янка Купала быў звязаны агульнымі кайданамі з народам, які яго нарадзіў. Выхадзец з беззямельнай сям'і, якая ўсё жыццё перабівалася на чужой зямлі абшарніка і аддавала львіную долю сваёй працы гэтаму багацею, Янка Купала з самых ранніх год адчуў усю глыбіню чалавечага бяспраўя, прыгнёту і знявагі. Ён ведаў цану чалавечаму гору, ён сам спазнаў эксплуатацыю чалавека чалавекам, страшнае зло сацыяльнай няроўнасці і нацыянальнага прыгнёту. І толькі ён, які выгадаваў у сваім сэрцы пякучую нянавісць да гвалту над чалавекам, да сацыяльнай несправядлівасці, мог напісаць такія непаўторныя, поўныя суровага хараства радкі, ад якіх вее веліччу народнага эпасу:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Гэты верш быў перакладзены на рускую мову Аляксеем Максімавічам Горкім, які бачыў у асобе Янкі Купалы вялікага паэта-рэвалюцыянера, жыццё і лёс каторага неаддзельны ад жыцця і лёсу самога народа.

Янка Купала — народны паэт у самым глыбокім, у самым сапраўдным сэнсе гэтага слова. У самыя змрочныя гады чорнай рэакцыі, у гады самаўладства ён заклікаў родны народ да рашучай барацьбы з царскімі сатрапамі, якія ўціскалі ўсё жывое, усё прагрэсіўнае ў краіне. Палкае слова паэта абуджала ў народзе чалавечую праўду, клікала назаўсёды расстацца з адвечнай «крыўдай-нядоляй». Трэба была вялікая мужнасць, трэба было валодаць сапраўды сэрцам Данко, каб у суровыя, непраглядныя ночы ліхалецця асвятляць народу шлях да свабоды і шчасця. І Купала меў гэтую мужнасць, у ім білася гарачае сэрца адданага сына беларускага народа, у ім была воля да барацьбы, у ім была невычарпальная вера ў творчыя сілы народа.

Гэта вера ў народ, у яго сілы давала паэту глыбокую ўпэўненасць у канчатковай перамозе беларускага народа над усімі нягодамі мінулых стагоддзяў, над горам, над палітычным бяспраўем. Гэта вера ў народ акрыляла яго вольнае паэтычнае слова, рабіла гэта слова мужным, глыбокім і гучным, як медзь звону.

Пачатак паэтычнай дзейнасці Янкі Купалы адносіцца да 1905 года. Рэвалюцыйныя падзеі гэтага года дапамаглі Янку Купалу ўсвядоміць жыццё, дапамаглі афарміць яго пачуцці і думкі ў пякучую нянавісць да існуючага ладу, у бязмежную любоў да прыгнечанага чалавека, да свайго народа, знясіленага пад уціскам вялікай сацыяльнай несправядлівасці, народа-пакутніка, народа-нявольніка. Імення рэвалюцыя 1905 года, якая абудзіла творчыя сілы народа, узняла на сваіх хвалях маладога, таленавітага беларускага паэта. Вялікі душой і сэрцам, чулы, адзыўчывы, чалавек вялікага розуму, Янка Купала становіцца сапраўдным трыбунам народа, выказнікам яго лепшых думак і жаданняў. Уся яго паэтычная творчасць выліваецца ў бурны сацыяльны і нацыянальны пратэст, у палкія заклікі да свайго народа на барацьбу за сваю лепшую

будучыню, барацьбу безупынную, дзейсную. Гэтым духам сацыяльнага пратэсту, гэтай жорсткай непрымірымасцю да існуючай сапраўднасці поўны кожны верш Янкі Купалы. Цяжка, амаль немагчыма знайсці такі твор Янкі Купалы, дзе б паэт аддаляўся ад зямлі, ад яе непрыгляднай сапраўднасці, ад яе горкай аголенай праўды. Ён ніколі, нават у самыя змрочныя гады чорнай рэакцыі, не будаваў сабе паэтычных замкаў, не адрываўся ад зямлі з усімі яе радасцямі, горам і нягодамі. А гора і нягод хапала. Паэзія Янкі Купалы была заўсёды зямной у лепшым сэнсе гэтага слова. Яна была шматграннай, як жыццё, праўдзівай і хвалюючай, як жыццё. З'яўляючыся выражэннем сапраўдных пачуццяў народа, яна заўсёды была народнай. Аб чым бы ні пісаў паэт — аб роднай вёсцы, аб спелай ніве, аб зменах часу года, аб каханай дзяўчыне, заўсёды і ўсюды вы сустрэнецеся з глыбокімі сацыяльнымі матывамі, якія хвалявалі душу і сэрца паэта.

Вось нявінны, здавалася б, верш «Касцу», а прыслухайцеся да яго слоў, і вы ўбачыце, якую вялізную сілу нёс ён у беларускія сялянскія масы тых год:

Быў даўней народ хітрэй,
Не знаў стрэльбаў, дык аей!
Коскі шаблямі былі,
Ваяваць з імі ішлі.
. . . . . . . . . . . . . .
Касу ў шыйцы адагне,
І пасадзіць, і махне;
Смерць таму, хто не зышоў:
Касой рэзалі ўрагоў.
. . . . . . . . . . . . . .
І гарматаў быў не страх,
Грамада — вялікі гмах:
Адзін ляжа, сто ідзе,
А хто ж роўны грамадзе?!

Верш «Захад сонца» заканчваецца палкім заклікам да сонца «распаліць агні веры ў будучнасць», веры ў тое, «што дзён лепшых мы дачакаемся». У вершы «Зіма» паэт гаворыць, што пройдзе гэты страшны час «і ўскрэсне зноў вясна». У вершы «І як тут не смяяцца», які выкрывае стракаты натоўп народных крывапіўцаў і трутняў, Янка Купала робіць намёк на пажаданы канец гэтых трутняў:

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

У вершы «Вясенняя раніца»— у звычайным, здавалася б, прыродаапісальным творы, дзе аддадзена належная даніна і сонечным праменням, і песням птушак, і лісцям, і травам, і ранішняму дыму з коміна сялянскай хаты,— мы нечакана сустракаемся з заклікам, які амаль нічога агульнага не мае з росамі і туманамі, з нявінным шчабятаннем птушак:

Куй, браце, жалеза,
Пакуль не астыла.

У вершы «Яшчэ прыйдзе вясна» паэт заклікае народ не баяцца таго, «што насільства ўсю праўду здушыла, што смерць густа капае магілы». Усё гэта пройдзе, усё гэта мінецца, і «яшчэ прыйдзе вясна».

Паэт ведаў, для якога чытача пісаў ён свае творы, ведаў жыццё свайго народа, яго патрэбы, яго імкненні. Кожнае сваё слова ён ставіў на службу народа, кожным сваім словам, кожнай песняй сваёй імкнучыся дапамагчы народу выйсці на новыя, светлыя шляхі, назаўсёды расстацца з праклятым мінулым. У адным з вершаў Янка Купала яскрава выразіў мэты і задачы сваёй паэтычнай творчасці:

Песня мая не шукае чырвонцаў,—
Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям,—
Жыць толькі хоча ў радзімай старонцы,
Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.
Пеці і з часам, у добрую пору,
Выклікаць водклік у сонным сяле...
Усю Беларусь — неабнятну, як мора,
Убачыць у ясным, як сонца, святле.

Паэт сурова асуджае творчасць, якая няздольна выклікаць водгук у родным народзе, творчасць дзеля творчасці, мастацтва дзеля мастацтва. У адным з іранічных вершаў «Каму вас, песні» Янка Купала на хвіліну ставіць сябе ў становішча паэта, творы якога не дайшлі да народа, а валяюцца на пыльных паліцах, і над імі працуюць, у меру сіл, пацукі ды ўсялякі «вучоны моль», час ад часу ператрэсваючы пажоўклыя, з'едзеныя старонкі і вывучаючы па гэтых нікчэмных рэштках мінулае Беларусі. «Спалі вас, песні, дым чырвоны, чым мае гэткі лёс спаткаць!» — да такога вываду прыходзіць паэт. Ён заўсёды разглядае сваю творчасць як высокае служэнне народу і заўсёды быў занепакоены вынікамі гэтай творчасці, яе водклікам у народзе. У выдатным вершы «Жніво», апісваючы даспелую залатую ніву, якая «ссівелы ўжо колас схінула к мяжы

у сумным шаптанні: дзе, жнеі мае, вы?» — Купала дае прыгожы малюнак жніва, адданую працу жней «пад жніўныя, вечна старыя напевы»:

Спагадная, нудная песня плыве,
Губляючы ў пушчы свае пералівы,
У шэлестах белага коласа нівы.
Плыве гэта песня ка мне і заве,
І ў сэрцы звініць, як каса ў траве:
Ты так жа, брат, сееш... [redacted] дзе тваё жніва?

Гэта былі думкі паэта-грамадзяніна, паэта, які любіў сваю зямлю, свой народ, сваю радзіму.

Янка Купала ніколі не пакідаў свайго народа. Ён быў з ім заўсёды — і ў горы, і ў радасці. І ў любых умовах ён заклікаў яго ісці толькі ўперад. Паэзія Купалы не ведала кампрамісаў, не ведала безнадзейных разважанняў, беспрасветнага песімізму. Вялікай жыццесцвярджальнай сілай напоўнена кожнае слова бяссмертнай купалаўскай паэзіі. Гэтым тлумачыцца сапраўдная народнасць твораў паэта, іх шырокая папулярнасць у чытача: рабочага, калгасніка, інтэлігента. Нават само імя паэта — Янка Купала — раскрывае перад намі ўсю існасць непаўторнай купалаўскай паэзіі, якая пранікае глыбока, глыбока ў жывыя крыніцы народнага слова, народнай творчасці. Янка Купала — сапраўдны нацыянальны паэт. У яго вершах паўстае перад намі жывая Беларусь. У іх чуецца нам зялёны шум беларускіх лясоў, шэлест каласістага жыта на палях, перазвон лугавых званочкаў, песні жней, мелодыі пастуховай жалейкі, цішыня сонечнага захаду і грозныя рокаты навальніцы. У іх ажываюць тонкія акварэльныя фарбы беларускай прыроды, васільковая сінь беларускіх азёр і рэк і квітнеючых ільняных палёў. У іх знаходзім мы гісторыю беларускага народа. І самае галоўнае — усе думкі, усе надзеі і жаданні народа,— вось чым напоўнена невычарпальная купалаўская паэзія. Беларус, яго жыццё, яго псіхіка, звычаі, традыцыі, усе своеасаблівасці быту, якія склаліся вякамі, грамадскага ладу,— усё гэта знаходзіць яркае адлюстраванне ў купалаўскім слове. І разам з гэтым творчасць Янкі Купалы, як творчасць усякага вялікага мастака, мае столькі агульначалавечых рыс, што яна даўно перарасла рамкі нацыянальнай літаратуры і стала з'явішчам агульначалавечай сусветнай культуры. Іменна Янка Купала разам з паплечнікам сваім Якубам Коласам паклалі аснову сучаснай беларускай літаратуры, вывелі гэту літаратуру з замкнёнага кола нацыянальнай абмежаванас-

ці, са становішча краявой літаратуры, літаратуры, якая мела вузка этнаграфічнае значэнне і гучанне. Вялікая і пачэсная роля Янкі Купалы ў сучаснай беларускай літаратуры. Як заснавальнік, ён шмат чаго зрабіў і для далейшага яе росту, росквіту, шмат зрабіў і для развіцця сучаснай літаратурнай мовы. Вялізны ўплыў яго на цэлае пакаленне беларускіх паэтаў, для якіх ён быў сапраўдным прыяцелем і настаўнікам. Няма ні адной галіны ў беларускім мастацтве, якая б не мела пэўнага ўплыву творчага генія паэта. Ён адчуваецца і ў драматургіі, і ў музыцы, і ў жывапісе. І не толькі мастацтва цесна звязана з імем Янкі Купалы. З яго імем звязана і наша навука і асвета народа, яго выхаванне. Янка Купала — гэта цэлая гістарычная эпоха ў жыцці беларускага народа. Вялікі паэт быў па сутнасці, адным з найвыдатнейшых асветнікаў беларускага народа, і яго імя будзе паўтарацца ў вяках такжа, як імя вядомага асветніка народа Георгія (Францішка) Скарыны. Няма той галіны грамадскай працы, якой бы не цікавіўся і ў якой не ўдзельнічаў бы Янка Купала. Ён пільна прыглядаўся да масавага калгаснага руху на вёсцы, праводзіў там цэлыя месяцы, уважліва вывучаючы тыя велізарныя зрухі, якія змянілі нават знадворны выгляд нашай вёскі, паклалі свой адбітак на беларускім пейзажы, не гаворачы ўжо аб велізарнейшых зменах у побыце вёскі, у яе матэрыяльным і духоўным жыцці, у светапоглядзе беларускага селяніна, які стаў калгаснікам. Сваімі асабістымі сувязямі з калгаснікамі, а яшчэ больш сваім паэтычным словам Янка Купала змагаўся за калгасны лад, за новае жыццё вёскі. Асабістыя сувязі, знаёмствы выліваліся ў пранікнёную дружбу паэта і калгаснікаў. Яны сустракалі яго з выключнай гасціннасцю, як самага роднага, самага блізкага сабе чалавека. Няма нічога дзіўнага, што Янка Купала добра ведаў сучасную вёску, і гэтае глыбокае веданне жыцця калгаснікаў дапамагло яму напісаць шэраг выдатных вершаў, хвалюючых, шчырых, якія адыгралі вялізную ролю ў ліквідацыі старой, беспрасветнай мінуўшчыны беларускага сялянства.

Ён чула ставіўся да ўсяго новага ў жыцці народа і з захапленнем вітаў гэтае новае сваім паэтычным словам. У выніку доўгага прабывання паэта на Палессі ў час правядзення там буйных меліярацыйных работ ім напісана была паэма «Над ракой Арэсай», якая па-новаму раскрывала перад намі Палессе і яе жыхароў, што не так даўно і людзьмі сябе не лічылі, называючыся «палешукамі».

Старая, гнілая, наскрозь рэакцыйная экзотыка Палесся назаўсёды адышла ў мінулае. У паэме Купалы перад чытачом паўстае малюнакператварэння непраходных і шкодных для жыцця чалавека балот у прыгожы ўраджайны край, дзе зніклі ўсякія чортавы вокны, плёсы русалак, завадзі вадзяных і на іх месцы зазелянелі пладавітыя нівы і пашы. Разам са шкодным балотным туманом развеяўся і туман забабонаў. Школа, клуб, бальніца, электрастанцыя сталі ўваходзіць у быт палескага жыхара. Самалёт прыносіць гэтаму жыхару штодзённую газету. Гэтакія значныя змены адбываюцца амаль усюды на Беларусі.

Паэтычным летапісцам гэтых змен, іх актыўным удзельнікам быў Янка Купала.

Старой, аджыўшай рэчаіснасці прысвячае паэт свой верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...»:

Як сон маркотны, нежаданы,
Сыходзіш, вёска, з яснай явы,
А твой народ вернападданы
Імкнецца, скінуўшы кайданы,
Да новай долі, новай славы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
З жабрацкай торбай твой патомак
Не пойдзе па сібірным шляху
Шукаць прытулку, як бяздомак:
Жудкі гісторыі абломак
Пад сказ дзён бурных згібне прахам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Бо твой народ вернападданы
Ідзе ўжо, скінуўшы кайданы,
Да лепшай долі, лепшай славы.

Шмат напісаў Янка Купала вершаў аб новай вёсцы. Лепшыя з іх — «Лён», «Вечарынка», «Песня трактарысткі», «Алеся», «Сыны», «Хлопчык і лётчык» і іншыя. Радасцю вызваленай плённай працы вее ад гэтых твораў. Вазьміце такія радкі, як «Ох, лянок, лянок мой чысты, валакністы, залацісты!». У іх жыве і будзе вечна жыць сонечная прываблівасць купалаўскага верша, які апяваў чалавечую працу на свабоднай, шчаслівай зямлі.

Неба сеяла цяпло,
Цёплы дожджык церушыў,
У думках радасна было,
Беглі песні ад душы.

Песні спяваліся ад душы, ад душы пісаліся непаўторныя купалаўскія радкі:

Сэрца ныла, бы з нуды,
Бо сама была не ўся,—
Спадабала я тады
Брыгадзіра Міхася.

Спее лянок, адцвітае, час убіраць яго, рассцілаць:

А як слала я лянок
На зялёным на лугу,
Дзе папаўся Міхасёк,
Цалавала на бягу.

А калі пасля дбайнай апрацоўкі «засвяціў, як цудны сон, лён шаўковым валакном», калі «промень ясны загуляў па страсе і па сцяне»,— «хату новую стаўляў брыгадзір мой для мяне». Так праз прыгожы лянок — «валакністы, заласісты» — перададзена складаная гама перажыванняў і пачуццяў чалавека новай вёскі: яго радаснае ўспрыманне жыцця, творчае захапленне працай, шчасце кахання. Такой жа сонечнай цеплынёй вее і ад верша «Вечарынка» і ад шмат якіх іншых купалаўскіх радкоў, якія апявалі новае, калгаснае жыццё, вызваленне жанчыны сялянкі, яе актыўнае ўключэнне ў грамадскае жыццё, стварэнне новай сям'і, новых узаемаадносін паміж людзьмі, будаўнікамі новага жыцця.

Выключна чула ставіўся Янка Купала да моладзі, да яе перадавой часткі — да камсамольцаў. У моладзі ён бачыў тых, каму належыць яшчэ больш прыгожае будучае. Ён называе яе арлянятамі.

Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай!..

Яе заклікае ён свята захоўваць здабытую свабоду, смела стаяць за яе ў цяжкую хвіліну.

Яе заклікае ён пець: «...каб вы пелі, не сціхалі ў радасці і ў горы».

Яе заклікае ён быць заўсёды бурлівай і кіпучай, каб заўсёды грымеў яе гімн «і людзей яшчэ скаваных заклікаў на волю».

Шмат прачулых слоў прысвячае Купала камсамольцам, называючы іх «нашым юнацтвам, нашай зменай».

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

Чытач знойдзе ў Янкі Купалы шмат цёплых слоў аб нашай гераічнай Чырвонай Арміі, яе перамогах, яе легендарных правадырах, яе арганічным адзінстве з шматмільённым савецкім народам.

Янка Купала глыбока разумеў вялізнае значэнне вялікай плённай працы, якая праведзена і праводзіцца ў краіне Камуністычнай партыяй. З глыбокай любоўю прысвячае ён самыя лепшыя свае, самыя задушэўныя вершы Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну:

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Гэты верш паэт заканчвае палкім заклікам да сваёй краіны, да свайго народа:

Цвіці ж, каласуйся, мой край,
Ці сонейка захад, ці ўсход!
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

У вершы «Аб Сталіну-сейбіту» Янка Купала піша:

Як песня, жыве яго імя ў народзе,
У кожным здарэнні, у кожнай прыгодзе,
Ці майскае свята ў жывым карагодзе,
Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць,—

Як песня, жыве яго імя ў народзе.
Глядзяць і ўсё бачаць яго зоры-вочы
Скрозь светлыя дні, скрозь туманныя ночы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Аб Сталіну-сейбіту песня мая,
А песня ад казак, чароўных тых сноў,
Што сталіся яваю нашага дня,
Што збавілі долю ад пут, ланцугоў.

У гэтым жа вершы ёсць некалькі радкоў, якія непаўторна перадаюць усю існасць нашай эпохі, нашай сапраўднасці:

Багата ўраджаем
Зямля расквітнела,
У будучнасць людзі
Узіраюцца смела.

З гэтым вершам пераклікаецца і другі — «А мы сабе сеем і сеем»:

З усмешкаю жыццю глядзім у вочы,
Жыццё нясе нам свой багаты дар,
Нясе, а сонцам развідняе ночы
Руплівы наш крамлёўскі гаспадар.

Янка Купала — не толькі адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры, не толькі вялікі паэт беларускага народа. Ён адзін з буйнейшых паэтаў вялікай і шматнацыянальнай савецкай паэзіі. Яго творы шырока вядомы працоўным усіх рэспублік Савецкага Саюза. Мы ведаем выпадкі, калі некаторыя вершы паэта арганічна ўрасталі ў фальклор таго або іншага народа і нараджаліся занава як песні гэтага народа.

Янка Купала быў родным, блізкім і зразумелым для ўсіх народаў Савецкага Саюза. Для рускага ён быў рускім, для ўкраінца — украінцам, для грузіна — грузінам, для казаха — казахам. Колькі пяшчотных, чулых радкоў прысвяціў Янка Купала брацкай Украіне, яе вялікаму паэту-бунтару Тарасу Шаўчэнку. І ў нашы дні прароча гучаць словы паэта, якія напісаны ім некалькі год таму назад:

Украіна! Табе вораг
Ніякі не страшан...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хто ж памкнецца табе здрадзіць,
Зноў капаць магілу,—
У Дняпры сваім патопіш
Варожыя сілы.

А вось словы Янкі Купалы аб сонечнай Грузіі:

Змераў стагоддзі народ ваяўнічы,
Люд Імерэці, Кахэці, Картвелі.
Песнямі скарбы радзімы вялічыў,
Вернасць і дружбу расціў з Руставелі.

У паэтычнай спадчыне Янкі Купалы ёсць шмат твораў, якія прысвечаны розным народам нашай радзімы, іх непарушнай дружбе, іх лепшым сынам — Джамбулу Джамбаеву, Сулейману Стальскаму і іншым паэтам.

Казах, беларус пяюць песні адны,
Радзімы аднэй арляняты-сыны.

У гэтым брацкім адзінстве народаў нашай радзімы — вялікая наша сіла, залог нашай перамогі ў гады цяжкіх выпрабаванняў.

Вялікая і даўняя дружба звязвала Янку Купалу з рускім народам і яго культурай. Мы ведаем, як высока цаніў творчасць нашага песняра Аляксей Максімавіч Горкі, ахарактарызаваўшы Янку Купалу як паэта-рэвалюцыянера.

Аб Горкім паэт гаворыць заўсёды з вялізнай душэўнай цеплынёй і яму прысвяціў адзін з лепшых сваіх вершаў:

Вачэй тваіх ясных зара-зараніца
Як ясна свяціла, так будзе свяціцца,—
Ці то сярод вёснаў, ці то сярод зім,
Усім пакаленням, народам усім.

Называючы Горкага настаўнікам і другам, паэт успамінае, як адзначыў Горкі яго песні, адзначыў і ўхваліў, уліўшы новыя сілы ў сэрца паэта:

А песня была з беларускіх загонаў,
Аграбленых, скованых царскім законам.
Былі мае словы: — А хто там ідзе?
А ты быў магутны ў сваёй барацьбе.

Сягоння іначай — не стогне, не плача
Мой край раскаваны, багаты, юначы,
І песні свабодна звіняць з краю ў край,
Ці гэта кастрычнік, ці май?!

Сябраваў Янка Купала з выдатным рускім паэтам Валерыем Брусавым, быў блізкім другам многіх сучасных яму пісьменнікаў і паэтаў — рускіх, украінскіх, грузінскіх і іншых.

Творы паэта шырока вядомы не толькі ў межах Беларусі і Савецкага Саюза. Яны перакладаліся на шмат якія мовы народаў еўрапейскіх краін і Амерыкі. Купалу як выдатнага славянскага паэта добра ведае і чытач славянскіх народаў і дзяржаў.

Вельмі многа зрабіў паэт і для азнаямлення свайго народа з культурнымі каштоўнасцямі і дасягненнямі іншых народаў. Янка Купала перакладаў на беларускую мову лепшыя творы літаратур брацкіх народаў, перакладаў некаторых еўрапейскіх паэтаў. Яму належаць лепшыя ў беларускай літаратуры пераклады вершаў вялікага ўкраінскага паэта Тараса Грыгор'евіча Шаўчэнкі.

Шырокая і шматвобразная была творчая праца Янкі Купалы. Вялізная і пладатворная была яго грамадская і дзяржаўная дзейнасць. Ён прымаў актыўны ўдзел у кіраўніцтве літаратурным рухам у сябе на Беларусі і ў літаратурным жыцці ўсяго Савецкага Саюза. Ён вёў вялікую непасрэдную работу па рэформе беларускага правапісу, рэдагаванню лінгвіністычных прац, выданню беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўных прац, выданню беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўнікаў. Янка Купала быў

у апошнія гады дэпутатам Мінскага гарадскога Савета і Вярхоўнага Савета Рэспублікі. Прымаючы непасрэдны ўдзел у навуковым жыцці краіны, ён быў акадэмікам Беларускай і Украінскай Акадэмій навук.

Палкі патрыёт савецкай радзімы, лепшы і адданейшы сын беларускага народа, Янка Купала глыбока перажываў гора свайго народа, жорсткія выпрабаванні, якія выпалі на долю шматпакутнай Беларусі, разбуранай, абрабаванай полчышчамі зверападобных вандалаў сучаснасці.

Перад яго зрокам тады праплывалі жудасныя малюнкі...

Пачырванелі ад крыві чыстыя рэкі нашай краіны; ад Брэста да Крычава, ад Турава да старажытнага Полацка закружыліся злавесныя віхуры пажарышчаў, крывавым зарывам асвятляючы наступіўшую ноч Беларусі. У руінах Мінск. Дымяцца Гомель і Віцебск, Гродна і Магілёў, вялікія і малыя гарады Беларусі. У агні вёскі і мястэчкі. Знішчаны тэатры і школы, універсітэт і Акадэмія, бальніцы і клубы. Апаганены святыні народа. Разграблена народнае дабро. Расстрэльваюцца і вешаюцца ворагам лепшыя сыны і дочкі народа. Паміраюць на пажарышчах галодныя дзеці. Зняважаны маткі і сёстры. Цень шыбеніцы распрасцёрся над беларускай зямлёй, залітай рэкамі нявіннай народнай крыві, якая праліта лютымі, адзічэлымі ў сваім чалавеканенавісніцтве праклятымі бандамі фашыстаў.

Няма ўжо на Беларусі вышэйшых навучальных устаноў, якіх было больш за два дзесяткі. Няма яе прыгожых тэатраў. Няма яе каштоўнейшых бібліятэк і музеяў. Няма яе Акадэміі навук. Усё разбурана, спалена, раскрадзена ненаеднай гітлераўскай ардой, якая прынесла ў нашу краіну ўсе жахі змрочнага сярэднявечча, вярнуўшы яе да часоў нявольніцтва, да часоў самай гнуснай кабалы.

Як жа глыбока ненавідзеў Янка Купала гітлераўскую арду, гэтыя брыдотныя адкіды сучаснага чалавецтва!

Гэта нянавісць была нязгаснай.

У адным з сваіх артыкулаў паэт пісаў:

«Калі вораг сарве яблыка, паспеўшае ў нашым садзе, яно разарвецца ў яго руках гранатай!

Калі ён сажне жменю нашых цяжкіх каласоў, зерне вылеціць і паразіць яго свінцовым дажджом!

Калі ён падыдзе да нашых чыстых, сцюдзёных крыніц, яны перасохнуць, каб не даць яму вады!»

І яблыка ўзрывалася гранатай. Каласы стралялі свінцовым дажджом. Перасыхалі сцюдзёныя крыніцы.

Народ-волат, народ-герой не стаў на калені. Народ знішчаў ворага, як знішчаюць шалёных псоў. Народ чуў вогненны заклік паэта:

Цень забітых матак, дзетак,
Дзедаў вашых і бацькоў,
Акрываўленых палетак
Клічуць мсціць крывава гэтак,
Як не мсцілі ад вякоў.
Не давайце гадам сілы
Над сабою распрасцерць,
Рыйце загадзя магілы,
Вырывайце з жывых жылы,
Кроў за кроў, а смерць за смерць!

Барацьбу не на жыццё, а на смерць вёў наш народ з азвярэлымі ордамі крыважэрных захопнікаў. Не гасла полымя партызанскай барацьбы; яно гарэла, разгаралася, перарастаючы ў вялікае народнае паўстанне. У гэтым полымі свяціла нам і купалаўскае сэрца, якое бязмежна любіла свой народ, да канца ненавідзела ворагаў, якое ведала толькі адно дачыненне да ворага:

Смерць за смерць, а кроў за кроў!

Янка Купала памёр. Бяссмертная паэзія вялікага паэта беларускага народа будзе вечна жыць у нашых сэрцах, у сэрцах нашых нашчадкаў, у сэрцах верных сыноў Беларусі, якой аддаў усё сваё жыццё і сваё палкае сэрца Янка Купала. На ўрне з прахам яго чытаем мы некалькі слоў з шчодрых багаццяў мудрай і велічнай купалаўскай паэзіі:

Мне сняцца сны аб Беларусі!

Развітваючыся з вялікім паэтам, беларускія пісьменнікі і паэты пакляліся над яго труной:

«Каб пабачыць родную Беларусь, каб змыць з роднай зямлі ўсе патокі крыві, ачысціць неба яе ад дымнага чаду пажарышчаў, мы нясем і абрушым на ворага ўсю невычарпальную нянавісць, якую ты дапамог узрасціць у нашых сэрцах. Мы клянёмся табе, што гэта нянавісць да ворага такая ж глыбокая, як наша любоў да роднай зямлі, да свайго народа, такая ж бязмежная, як бязмежна само жыццё — вечнае, радаснае, заклікаючае. Гэтакая яна і ў тваіх бяссмертных песнях.

Бывай жа, дарагі настаўнік і друг!

Да сустрэчы з песняй тваёй на роднай зямлі!»

І гэта сустрэча адбылася. Магутная Чырвоная Армія Савецкага Саюза разам з партызанамі беларускіх гарадоў

і вёсак зламала, скрышыла і выгнала нямецка-фашысцкія банды за межы Савецкай Беларусі, загнала ў іх уласнае логава і дабіла там. Беларускі народ, закасаўшы рукавы, узяўся за адбудову сваёй краіны, каб зноў бачыць яе такой, якой бачыў яе ў сваіх паэтычных снах Янка Купала.

Янка Купала жыў, жыве і будзе вечна жыць у бяссмертных творах народаў вялікай савецкай радзімы.

*1946*

## ЧАЛАВЕК — ПЕРШ ЗА ЎСЁ

Аляксея Максімавіча Горкага я зблізку бачыў адзін раз на з'ездзе пісьменнікаў у 1934 годзе. Я сядзеў у зале і слухаў яго даклад, стараючыся не прапусціць ніводнага слова. Часамі яго позірк, якім ён абводзіў зал, на момант спыняўся на мне. Тады мне рабілася страшнавата. Здавалася, што яго ўважлівыя, строгія і добрыя вочы пранікаюць у самае нутро, бачаць мяне наскрозь. Гэта ж былі тыя самыя вочы, зоркасць якіх здзіўляла мяне, калі я чытаў творы вялікага пісьменніка.

З самых ранніх гадоў ён пільна ўглядаўся ў жыццё і ўмеў яго бачыць такім, якім яно было. Ён бачыў і на сабе адчуваў жорсткасць і крыўду, бруд і пошласць жыцця, якое яго акружала, але за ўсім гэтым ён бачыў самае каштоўнае і прыгожае, што ёсць у жыцці,— чалавека. Ён умеў глыбока заглянуць у чалавечую душу і ўбачыць тыя высокія якасці, якія адрозніваюць чалавека ад жывёлы, робяць яго вянцом усяго жыцця. Нават «на дне», сярод людзей, выкінутых капіталістычным грамадствам на сметнік жыцця, ён умеў адшукаць сапраўднае золата чалавечай душы, любоўна падняць яго з бруду і паказаць людзям. І людзі станавіліся ад гэтага лепшымі, яны вучыліся паважаць сябе і сваю чалавечую годнасць.

Так адносіцца да чалавека вучыў Аляксей Максімавіч і маладых савецкіх пісьменнікаў. «Чалавек шмат у чым усё яшчэ звер,— гаворыць ён у адным са сваіх артыкулаў,— але разам з тым ён — культурна — яшчэ падлетак, і прыхарашыць яго, пахваліць — вельмі карысна: гэта падымае яго павагу да сябе, гэта спрыяе развіццю ў ім давер'я да

сваіх творчых сіл. Да таго ж пахваліць чалавека ёсць за што,— усё добрае, грамадскае творыцца яго сілай, яго воляй».

Максім Горкі, які выйшаў з самых нізоў капіталістычнага грамадства і ўзняўся да вяршынь самай перадавой у свеце — сацыялістычнай культуры — шмат пахадзіў па зямлі, шмат пабачыў на сваім вяку людзей розных грамадскіх станаў, розных прафесій і характараў. У сваіх неўміручых творах ён даў багатую галерэю чалавечых вобразаў — яскравых, непаўторных.

Але ён не быў толькі геніяльным адлюстраваннем жыцця. У сваёй творчасці і ў шматбаковай грамадскай дзейнасці ён быў нястомным змагаром супроць сацыяльнага спаду, які ганьбіў чалавечую годнасць і скоўваў творчыя сілы людзей. З'яўляючыся прапаведнікам і тварцом новага, лепшага жыцця, ён увесь час змагаўся за чалавека і для чалавека. «Для мяне не існуе ідэі па-за чалавекам,— гаварыў Аляксей Максімавіч,— для мяне іменна ён і толькі ён з'яўляецца тварцом усіх рэчаў і ўсіх ідэй, іменна ён — цудатворац і ў будучым уладар усіх сіл прыроды. Самае прыгожае ў нашым свеце — тое, што створана працаю, разумнай чалавечай рукой, і ўсе нашы думкі, усе ідэі ўзнікаюць з працоўнага працэсу, у чым пераконвае нас гісторыя развіцця мастацтва, навукі, тэхнікі»...

«Чалавек — гэта гучыць горда». Словы гэтыя дапасоўваюцца перш за ўсё да самога аўтара. Гордасць за чалавека адчуваем мы, чытаючы неўміручыя творы Максіма Горкага. І сам ён — геніяльны пісьменнік і вялікі грамадзянін — з'яўляецца гордасцю нашай савецкай краіны.

*1946*

## БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ДРАМАТУРГІЯ ЗА 1947 ГОД

Калі мы паглядзім, што адбылося ў беларускай савецкай драматургіі за 1947 год, дык павінны будзем адзначыць некаторыя новыя прыемныя для нас з'явы. Перш за ўсё нас радуе тое, што конкурс на лепшую п'есу прыцягнуў у драматургію новыя маладыя кадры. Досыць сказаць, што

на конкурс паступіла 71 п'еса. Зразумела, што не ўсе гэтыя п'есы заслугоўваюць увагі як драматургічныя і наогул мастацкія творы. Аднак жа журы конкурсу мела магчымасць адзначыць 15 п'ес прэміямі і заахвочвальнымі ўзнагародамі, прычым заслугоўвае асаблівай увагі тое, што ўсе аўтары гэтых п'ес, апрача дзвюх, прыйшлі ў драматургію ўпершыню. Трэцяя рэспубліканская прэмія прысуджана Цімоху Крысько за п'есу «На вялікай дарозе» (цяпер яна называецца «Прамень будучыні»), Вячаславу Палескаму за п'есу «Песні нашых сэрцаў» і нябожчыку Юрыю Рудзько за п'есу «Дарагі госць».

Многія таварышы атрымалі заахвочвальныя ўзнагароды.

Калі мы прылічым сюды яшчэ Аркадзія Маўзона, які незадоўга перад тым напісаў добрую п'есу «Канстанцін Заслонаў», і Леаніда Рахленку, які пасля ўжо конкурсу напісаў п'есу «Сям'я Волжыных», дык мы ўбачым, што ў драматургію працярэблівае сабе шлях досыць значны атрад новага папаўнення.

Адзначаючы такое радаснае для нас з'явішча, як прыліў свежых сіл у нашу драматургію, мы адначасова не можам прайсці міма аднаго досыць сумнага факта, які заключаецца ў тым, што нашы старэйшыя драматургі, за рэдкім выключэннем, не напісалі новых п'ес. Не напісаў новай п'есы В. Вольскі. А. Кучар, які абяцаў напісаць аж дзве п'есы, не напісаў, праўдзівей, не скончыў ні адной. Не напісаў п'есы драматург Я. Рамановіч; не далі новай п'есы ў 1947 годзе К. Крапіва і П. Глебка. Праўда, наколькі мне вядома, большасць з названых мной драматургаў працавала ў мінулым годзе над новымі п'есамі, але яны занадта доўга топчуцца на месцы перад тым, як зрабіць новы творчы крок.

Чым жа з'яўляецца драматургічная прадукцыя 1947 года паводле яе ідэйных і мастацкіх якасцей? Я не змагу спыніцца на кожнай п'есе, якія тут называў, перш за ўсё таму, што толькі адна з гэтых п'ес пастаўлена і толькі адна надрукавана. Пераважная большасць іх знаходзіцца ў працэсе дапрацоўкі.

Перш за ўсё мы павінны вітаць рашучы паварот нашых драматургаў у бок савецкай тэматыкі. Амаль усе памянёныя тут п'есы — гэта п'есы аб савецкіх людзях. Значная частка іх прысвечана героям Вялікай Айчыннай вайны: савецкім воінам і народным мсціўцам — партызанам. Не-

калькі п'ес напісана на тэму аб калгасным жыцці. Ёсць таксама п'есы, прысвечаныя аднаўленню разбураных гарадоў і ўкараненню ў будаўніцтва новых стаханаўскіх метадаў працы. Такая важнейшая тэма, як устанаўленне савецкай улады на Беларусі, таксама не забыта нашымі драматургамі. Ідэйная накіраванасць усіх гэтых п'ес сведчыць аб тым, што аўтары іх правільна разумеюць задачы, пастаўленыя партыяй перад савецкай драматургіяй. Усе драматургі, па меры сваіх сіл і здольнасцей, імкнуцца паказаць лепшыя якасці савецкага чалавека — воіна, калгасніка, рабочага, інтэлігента. Гэта мы павінны ацаніць, як бясспрэчны ідэйны рост нашай драматургіі. Аднак добрыя намеры і імкненні аўтараў не заўсёдыператварыліся ў паўнакроўныя мастацкія вобразы. Нават лепшыя з напісаных п'ес атрымалі на конкурсе толькі трэція рэспубліканскія прэміі. Гэта значыць, што і яны з'яўляюцца творамі яшчэ недасканалымі. Няўменне стварыць паўнакроўныя мастацкія вобразы, няўменне паставіць свайго героя ў такія абставіны, пры якіх ён з найбольшай паўнатой раскрыў бы свае душэўныя якасці, з'яўляецца асноўнай бядой многіх нашых драматургаў. Таму мы і наглядаем часта такую з'яву, што па сцэне ходзяць не жывыя савецкія людзі, а добрыя намеры аўтара, яго блакітныя ідэалы, надзеленыя здольнасцю выказваць правільныя думкі, запазычаныя з газет, але пазбаўленыя душы і цела, усіх тых якасцей, якія ўласцівы жывому чалавеку.

П'есай, у якой, можа, найбольш ярка выступаюць моцныя і слабыя бакі нашай драматургіі 1947 года, на маю думку, з'яўляецца п'еса Вячаслава Палескага з некалькі прэтэнцыёзнай назвай «Песні нашых сэрцаў».

У п'есе ідзе змаганне за аднаўленне аднаго з беларускіх гарадоў, разбураных нямецка-фашысцкімі варварамі. Малады драматург урываецца ў самую гушчу жыцця і імкнецца паказаць, што адбываецца вакол нас. Яго цікавяць не столькі знадворныя падзеі, якія праходзяць на нашых вачах і зусім нам зразумелы, колькі рухаючыя сілы гэтых падзей — нашы лепшыя савецкія людзі. Аўтар правільна намацвае той водападзел, які праходзіць паміж перадавымі і адсталымі людзьмі нашага грамадства. З аднаго боку стаяць людзі, якія правільна разумеюць інтарэсы савецкай дзяржавы і свае ўласныя. З другога боку стаяць людзі адсталыя, якія знаходзяцца яшчэ ў палоне старой буржуазнай маралі, дбаюць перш за ўсё аб саміх сабе, а інтарэсы дзяржавы ставяць на другое месца. Такім чынам, аўтар

правільна расставіў сілы для драматургічнай дзеі. П'еса добра і цікава задумана, у аснову яе паложана пэўная ідэя. Носьбітамі і выказнікамі яе з'яўляюцца перадавыя савецкія людзі, якія даводзяць правільнасць сваіх перакананняў на такой важнай і актуальнай справе, як адбудова горада. У супрацьлеглым лагеры выкрываюцца носьбіты старой буржуазнай маралі, іх антыдзяржаўныя тэндэнцыі, перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей. Пры такой расстаноўцы сіл можна было б чакаць цікавага і напружанага развіцця драматургічнай дзеі, у якой людзі раскрываюць свае душэўныя якасці. І, аднак жа, такой напружанай драматургічнай дзеі ў п'есе няма. Бо хоць сілы супрацьлеглых лагераў расстаўлены правільна і знаходзяцца на належных пазіцыях, але яны вельмі няроўныя. І па свайму становішчу, і па сваіх маральных якасцях Чарнуха з'яўляецца вельмі нязначным працаўніком у параўнанні з магутным фронтам на чале з Сокалавым. Такім чынам, атрымалася сутычка веласіпеда з паравозам, бой пеўня з арлом. Чарнуха занадта хутка аказваецца пераможаным. Пачынаючы з паловы п'есы, дзеянне спадае. У апошнім акце дзеючым асобам ужо няма чаго дзеяць і яны займаюцца пабочнымі гаворкамі і пабочнымі справамі, якія не маюць ніякага дачынення да асноўнага канфлікту.

Толькі ў напружаным дзеянні дзеючыя асобы поўнасцю могуць раскрыць свае душэўныя якасці. Найбольш аўтару ўдаліся тыя вобразы, якія непасрэдна сутыкаюцца паміж сабой у ходзе змагання і з'яўляюцца актыўнымі яго ўдзельнікамі. Такімі вобразамі з'яўляюцца Чарнуха, яго жонка Клава, стаханавец Корж, у значнай меры інжынер Каласкоў, у некаторай ступені — сакратар гаркома Сокалаў. Чым далей знаходзяцца дзеючыя асобы ад эпіцэнтра асноўнага канфлікту, тым цьмяней яны выглядаюць. Невыразнымі ценямі праходзяць у п'есе старшыня райвыканкома Радзін — бледная копія Сокалава, доктар Чайка, Ірына і ўсе іншыя, якім у п'есе няма чаго рабіць.

Цікавым у гэтых адносінах з'яўляецца вобраз сакратара гаркома Сокалава. Для яго Чарнуха, як я ўжо казаў, з'яўляецца вельмі нязначным працаўніком, каб Сокалаў у змаганні з ім мог напружыць усе свае сілы. Лішку сваіх сіл і часу, якія яму дадзены ў п'есе, ён траціць на безліч іншых дробных спраў, якія не даюць яму магчымасці раскрыць перад намі ўсе багацці свае душы. Аўтар не знайшоў для Сокалава такой справы, якая захапіла б яго цалкам, патрабавала б напружання ўсіх яго душэўных сіл.

Спроба аўтара ажывіць і ўзбагаціць вобраз Сокалава праз яго каханне з Ірынай яўна не ўдалася.

У п'есе ёсць і іншыя істотныя недахопы. Перш за ўсё яна занадта разбухла за кошт непатрэбнага слоўнага матэрыялу.

Такім чынам, пры ўсёй сваёй актуальнасці і пры многіх станоўчых якасцях, п'еса аказалася пакуль што непрыдатнай для пастаноўкі на сцэне. Аб гэтых недахопах мы ў свой час гаварылі пры абмеркаванні п'есы на секцыі драматургаў. Аўтар згадзіўся амаль з усімі заўвагамі таварышаў. Але пры абмеркаванні прысутнічаў крытык, які не згадзіўся з усімі, хто выступаў на сходзе, і нават з самім аўтарам. Праз некалькі дзён у газеце «Літаратура і мастацтва» з'явілася яго пахвальная рэцэнзія. Я маю на ўвазе рэцэнзію таварыша Я. Герцовіча пад назвай «Пра нашых сучаснікаў», у якой ён, на маю думку, яўна перахваліў п'есу, перабольшыў яе станоўчыя якасці і амаль нічога не сказаў аб недахопах. Рэцэнзента, у прыватнасці, цалкам задавальняе вобраз сакратара гаркома Сокалава. Таварыш Герцовіч лічыць, што гэта — паўнакроўны і шматгранны вобраз бальшавіка, партыйнага работніка. Мы таксама верым, што Сокалаў добры бальшавік і чалавек з многімі добрымі якасцямі. Але мы верым толькі аўтару на слова, бо гэтыя якасці поўнасцю не раскрыты. Таму правільна намечаны вобраз атрымаўся не досыць яркім, а ў адносінах яго асабістага жыцця — і зусім бледным.

Рэцэнзент заспакойвае і дэмабілізуе аўтара якраз у той момант, калі ён сабраўся сур'ёзна сесці за дапрацоўку п'есы.

Нягледзячы на ўсе гэтыя акалічнасці, я лічу, што п'еса В. Палескага заслугоўвае таго, каб над ёю працаваць далей.

Дзве іншыя п'есы, якія атрымалі на конкурсе трэцюю рэспубліканскую прэмію, прысвечаны калгаснаму жыццю. Гэта — п'еса нябожчыка Юрыя Рудзько «Дарагі госць» і п'еса Цімоха Крысько «Прамень будучыні».

Абодва драматургі спрабуюць на іншым матэрыяле вырашаць тую ж самую тэму, што і В. Палескі. П'есы расказваюць аб перадавых савецкіх людзях, якія разумеюць інтарэсы савецкай дзяржавы і мабілізуюць масы на барацьбу за ўздым вытворчасці, з аднаго боку, і аб людзях адсталых — з другога, якія з'яўляюцца перашкодай пераможнаму поступу наперад і таму павінны або саступіць з дарогі, або далучыцца да людзей перадавых. І ў адной

і ў другой п'есе, апрача тэмы, ёсць шмат агульнага і ў спробах яе вырашэння. І ў адным і ў другім выпадку дзея адбываецца ў калгасе, у якім шмат непаладкаў, бо старшынёй яго з'яўляецца чалавек, які ставіць свае асабістыя інтарэсы або свой уласны гонар вышэй грамадскіх інтарэсаў. Але прыязджае ў калгас дэмабілізаваны камандзір Савецкай Арміі (у абодвух выпадках гэта брат старога старшыні калгаса) і, нягледзячы на сваяцкія пачуцці, рашуча выступае супраць свайго брата — няўдалага старшыні, згуртоўвае вакол сябе калгасны актыў і ўзнімае ўсіх калгаснікаў на перамаганне цяжкасцей і непаладкаў. Пасаромлены няўдалы старшыня ўсведамляе свае памылкі і, нарэшце, сам актыўна ўключаецца ў працу пад новым кіраўніцтвам. У выніку калгас выходзіць з прарыву, становіцца перадавым і дамагаецца рэкорднага ўраджаю. Паралельна з гэтым у калгасе насаджваецца вялікі сад і будуецца электрастанцыя, таму ў канцы, калі новы старшыня жэніцца з калгасным аграномам ці настаўніцай, вяселле можна гуляць у маладым калгасным садзе і пры электрычным асвятленні. Па такому ўзору, з невялікімі адхіленнямі, напісана пераважная большасць п'ес на калгасную тэму, у тым ліку і п'еса Ільі Гурскага «Хлеб», якую мы абмяркоўвалі на секцыі.

Зусім правільна, што перадавыя савецкія людзі змагаюцца ў калгасе з адсталымі элементамі. Зусім правільна, што гэтыя перадавыя людзі ўзначальваюць масы калгаснага сялянства і дасягаюць вялікіх поспехаў. Адсталым элементам нічога іншага не застаецца, як далучыцца да агульнага руху наперад. Правільна драматургі бачаць і будучыню калгасаў — з высокімі ўраджаямі, маладымі садамі, электрастанцыямі. І супраць вяселляў таксама нічога нельга сказаць. Але ўсё гэта робіцца і будзе рабіцца не абавязкова па аднаму шаблону. У самай гэтай схеме, улюбёнай драматургамі, ёсць пэўныя заганы. Вырашальнікам лёсу калгаса з'яўляецца тут звычайна адзін чалавек — новы старшыня, якога прысылаюць зверху, а ролі сапраўднага гаспадара калектыўнай гаспадаркі — саміх калгаснікаў — амаль што не відаць; партыйнае кіраўніцтва ажыццяўляецца шляхам прыезду ў калгас сакратара райкома партыі, а што робяць мясцовыя камуністы і ці ёсць яны наогул у калгасе, нам таксама часта невядома. Чаму ж гэта схема так упарта пераходзіць з аднае п'есы ў другую? Памойму, гэта ад недакладнага ўяўлення аўтараў аб тых працэсах, якія сёння адбываюцца ў калгасах. Аўтары мала

наглядаюць гэтыя працэсы сваімі вачамі, а больш давед- ваюцца аб іх з газет ды па тых чутках, якія да іх даходзяць.

Аднак пры наяўнасці пэўнага шаблону кожная з гэтых п'ес мае і свае індывідуальныя асаблівасці. У п'есе «Дарагі госць», якая па свайму жанру набліжаецца да камедыі, у першым акце цікава завязваецца сюжэтны вузел, намячаецца востры канфлікт паміж братамі як па грамадскай, так і па асабістай лініі, намячаецца рад цікавых вобразаў.

У п'есе «Прамень будучыні» Цімоха Крысько нас вабяць яе добрыя літаратурныя якасці, вобразная, сакавітая, трапная мова, цёплае пачуццё да савецкіх людзей, якім сагрэты ўвесь гэты твор, высакароднасць думак і ўчынкаў герояў. Нам прыемна пазнаёміцца з такімі перадавымі савецкімі людзьмі, як намеснік дырэктара МТС Андрэй Саковіч, яго маці, настаўніца Вольга Рыгораўна, стары настаўнік Кузьма Кузьміч, калгасніца Домна Кракос і яе дачка Алена. На жаль, не ўсе гэтыя вобразы атрымалі належнае развіццё. Аўтар не знайшоў для іх у п'есе канкрэтнай справы, за якую б яны энергічна змагаліся, ад вырашэння якой залежаў бы лёс калгаса і іх саміх. Мы пазнаём іх не столькі ў дзеянні, колькі ў выказваннях сваіх думак і пачуццяў і ў характарыстыках іншых дзеючых асоб. Канфлікт, які намячаецца ў пачатку п'есы паміж Андрэем Саковічам і яго братам старшынёй калгаса Міколаем, не развіваецца на поўную моц, ды і не можа развівацца. Прычына для такога канфлікту вельмі нязначная. Яна заключаецца ў тым, што старшыня калгаса Мікола Саковіч, у нядаўнім мінулым лейтэнант Савецкай Арміі, не ўмее працаваць з людзьмі і не разумее ўмоў калгаснага жыцця. Ён хоча кіраваць калгасам па-ваеннаму: загадаў — і каб у ноль-ноль было выканана. Усё неабходнае для дасягнення поспеху павінна быць забяспечана зверху. Ён хоча працаваць на ўсім гатовым. Яму і ў думку не прыходзіць, што можна мабілізаваць унутраныя рэсурсы. Такім застае яго, прыехаўшы ў калгас, старэйшы брат, намеснік дырэктара МТС Андрэй Саковіч. Андрэй рашуча выкрывае заганны метад работы Міколы. Мікола гарачыцца, спрабуе супярэчыць, але гэта хутчэй пярэчанне закранутага самалюбства, чым цвёрдасць пераканання. Пазіцыя яго слабая. Ніхто ў калгасе яго не падтрымлівае, нават яго каханая дзяўчына на баку Андрэя, і ён хутка здаецца. Такім чынам, канфлікт паміж братамі і наогул усе супярэчнасці ў п'есе заканчваюцца ўжо ў чацвёртай карціне, а разам з гэтым заканчваецца і драматургічнае дзеянне.

Ілья Гурскі, як больш спрактыкаваны драматург, стараецца захаваць канфлікт да канца п'есы, але п'есе гэта не дапамагае, бо самы канфлікт з'яўляецца неарганічным. Не знайшоўшы выразнай фігуры, якая была б тыповай і сапраўды ўвасабляла адсталыя настроі паасобных калгаснікаў, Ілья Гурскі надзяліў гэтымі настроямі перадавога савецкага чалавека і гэтым паграшыў супраць праўды. Яго Анішчук перад вайной карыстаўся славай добрага калгасніка, на фронце быў сумленным і смелым воінам, за што мае не адну ўзнагароду, а вярнуўшыся ў калгас, раптам аказаўся абібокам, пашляком і нізкапаклоннікам перад Захадам. З'яўляючыся намеснікам старшыні калгаса, ён усімі сіламі стараецца зрываць мерапрыемствы старшыні Бондара, накіраваныя на падняцце калгаснай гаспадаркі. І гэта без якой-небудзь сур'ёзнай падставы.

Зусім ужо недарэчнай з'яўляецца фігура старшыні райвыканкома Гарбачэні, які пляцецца ў хвасце за Анішчуком і з'яўляецца чалавекам настолькі прымітыўным і адсталым, што любы радавы калгаснік стаіць вышэй яго. Штучна надуманы канфлікт не робіць п'есу больш моцнай з мастацкага боку, а з боку ідэйнага ён, бясспрэчна, шкодзіць ёй.

Вялікая колькасць прысланых на конкурс п'ес прысвечана героям Вялікай Айчыннай вайны і партызанскай барацьбе.

Лепшай беларускай п'есай на абаронную тэму, пастаўленай у 1947 годзе, з'яўляецца п'еса Аркадзія Маўзона «Канстанцін Заслонаў». Большасць з прысутных бачылі гэтую п'есу на сцэне тэатра імя Янкі Купалы. Гэты ўдалы спектакль з'явіўся вынікам дружнай сумеснай работы аўтара і тэатра. Рэцэнзіі на спектакль і на п'есу мы чыталі ў нашым друку, і мне няма патрэбы займацца падрабязным аналізам п'есы. П'еса з'яўляецца бясспрэчнай удачай маладога драматурга. Удача гэта заключаецца перш за ўсё ў тым, што аўтару ўдалося стварыць праўдзівы вобраз лепшага сына беларускага народа, аднаго з найбольш папулярных і любімых герояў партызанскай барацьбы на Беларусі — Канстанціна Заслонава. У гэтым вобразе мы бачым выдатныя рысы савецкіх людзей, нянавісць да ворага, бязмежную адданасць сваёй Савецкай Радзіме, гатоўнасць змагацца за яе да апошняй кроплі крыві, маральную перавагу савецкіх людзей над ворагам. Удаўся аўтару і рад іншых вобразаў.

Ёсць у п'есе і некаторыя недахопы, аб якіх таксама гаварылася ў нашым друку. Адзін з самых істотных недахопаў заключаецца ў тым, што не паказана арганізуючая і кіруючая роля партыі ў партызанскай барацьбе. Цэнтральны герой п'есы паказаны хоць і ярка, але толькі з аднаго боку — як таленавіты арганізатар дыверсійных актаў на чыгунцы. Хацелася б, каб аўтар крыху шырэй рассунуў рамкі біяграфіі героя і раскрыў перад намі ўсе багатыя якасці яго душы і розуму. П'еса развіваецца галоўным чынам па лініі знадворнага дзеяння, чаму ў значнай меры спрыяе і характар дзейнасці цэнтральнага героя. Адгэтуль і мова п'есы падпарадкуецца больш запатрабаванням інтрыгі, чым неабходнасці псіхалагічнага раскрыцця вобразаў: яна сцэнічная, але не досыць сакавітая, часта пазбаўлена неабходных фарбаў.

Гэта ж самая п'еса ў свой час была прапанавана і тэатру імя Якуба Коласа. Тэатр, аднак, адмовіўся працаваць з аўтарам. Цяпер тэатр імя Якуба Коласа, у парадку спаборніцтва, працуе над новай п'есай аб Заслонаве «Цэнтральны ход», аўтарамі якой з'яўляюцца К. Губарэвіч і І. Дорскі. Творчае спаборніцтва тэатраў можна толькі вітаць. Праўда, пры гэтым не абавязкова ставіць п'есу, прысвечаную таму ж самаму герою, а калі ўжо распачынаць такое спаборніцтва, дык абавязкова, каб у выніку яго з'явілася п'еса і спектакль, лепшы ці хоць бы не горшы за тыя, што ўжо створаны.

П'еса «Цэнтральны ход» знаходзіцца ў працэсе пастаноўкі, і сказаць сёння што-небудзь пэўнае аб яе якасцях я не маю магчымасці па той простай прычыне, што не ведаю яе апошняга варыянта. Мы некалькі разоў прапаноўвалі аўтарам абмеркаваць п'есу на секцыі драматургаў, але яны дыпламатычна ўхіляліся ад гэтага, заяўляючы, што п'еса яшчэ для абмеркавання не гатова.

У заключэнне я хачу сказаць некалькі слоў яшчэ аб адной п'есе. Гэта п'еса таксама знаходзіцца ў аўтара, як кажуць, на «варштаце», і аўтар яе дапрацоўвае. Сказаць аб ёй я лічу патрэбным таму, што яна па сваёй тэме надзвычай актуальная, і мы рады былі б бачыць яе на сцэне да 30-й гадавіны БССР. Я маю на ўвазе п'есу М. Клімковіча «Уся ўлада Саветам». У гэтай п'есе аўтар ставіць сабе мэтай паказаць Кастрычніцкую рэвалюцыю на Беларусі, ролю Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі і вобразы правадыроў рэвалюцыі. Дзея адбываецца ў Смольным, а таксама ў Мінску — у гарадскім Савеце дэпутатаў,

у штабе Заходняга фронту і непасрэдна на фронце. Зразумела, што такая адказная тэма з шырокім ахопам найважнейшых падзей, з паказам ролі правадыроў народа патрабуе асабліва сур'ёзнага падыходу і вялікай напружанай працы. П'еса ў такім выглядзе, як я яе ведаю, патрабуе дапрацоўкі.

Галоўныя недахопы п'есы заключаюцца ў тым, што некаторыя вобразы не досыць ярка выпісаны. Паказваючы варожы лагер, аўтар імкнецца паказаць ворагаў усіх масцей і адценняў, асабліва сярод беларускай інтэлігенцыі, ад гэтага іх у п'есе занадта шмат у параўнанні са станоўчымі вобразамі — прадстаўнікамі рабочых і сялян. Паказваючы варожы лагер, аўтар робіць пэўны крэн у бок меладрамы, нават дэтэктыва, што зусім не падыходзіць для п'есы на такую важную тэму.

Разам з гэтым у п'есе ёсць рад удалых сцэн і цікавых вобразаў. Такімі вобразамі з'яўляюцца салдат-беларус Пралыгін, стары рабочы Старыцкі, яго дачка Надзейка, палкоўнік Каменшчыкаў. З варожага лагера цікавымі з'яўляюцца вобразы генерала Балуева, Калатухіна і некаторыя іншыя.

Наогул жа над п'есай яшчэ трэба працаваць, і працаваць карысна было б сумесна з тэатрам. На жаль, наколькі мне вядома, да гэтага часу творчы кантакт паміж аўтарам і тэатрам яшчэ не наладжаны.

Падводзячы вынік таму, што зроблена нашымі драматургамі ў 1947 годзе ў святле пастановы ЦК ВКП(б) аб рэпертуары драматычных тэатраў і мерах па яго паляпшэнню, мы павінны адзначыць, што многія, у пераважнасці маладыя, пісьменнікі адгукнуліся на заклік партыі ўключыцца ў справу стварэння рэпертуару. У драматургію прыйшло новае папаўненне, якое прынесла з сабой і новае адчуванне нашай сапраўднасці, як гэта мы бачым, напрыклад, у п'есе В. Палескага.

Другая станоўчая з'ява, якую мы павінны адзначыць, гэта рашучы паварот нашых драматургаў у бок савецкай тэматыкі. Амаль усе п'есы, напісаныя нашымі драматургамі ў 1947 годзе, якія заслугоўваюць увагі,— гэта п'есы аб нашай савецкай рэчаіснасці.

І трэцяе, што мы павінны адзначыць як станоўчую з'яву,— гэта здаровы, правільны падыход да вырашэння савецкай тэмы, шчырае жаданне аўтараў паказаць лепшыя якасці савецкага чалавека. У гэтай частцы мы ў пэўнай меры патрабаванні партыі выканалі. Але мы далёка не

поўнасцю выканалі іх у адным важнейшым пункце, у тым пункце, дзе Цэнтральны Камітэт патрабуе ад нас стварыць яркія, паўнацэнныя ў мастацкіх адносінах творы. Нават лепшыя драматургічныя творы 1947 года ледзь дасягаюць сярэдняга ўзроўню. Я тут хачу кінуць папрок і нашым крытыкам, якія ў гэтых адносінах часта гатовы пайсці на кампраміс. Я прыводзіў ужо ў прыклад рэцэнзію Я. Герцовіча, але не адзін Герцовіч гэтым грэшны. Мы часта можам сустрэць такое разважанне: твор з мастацкага боку — не вельмі што, але ён ідэйна насычаны, а таму ўсё астатняе аўтару можна дараваць. Такая ўстаноўка зусім няправільная. Справа ў тым, што ідэйную якасць твора нельга механічна адрываць ад мастацкай якасці. Яны не існуюць у творы паасобку, а складаюць адно непадзельнае цэлае. З памяншэннем аднае якасці памяншаецца і другая. Вось чаму не можа быць высокаідэйных твораў пры нізкай мастацкай якасці.

Глыбокі змест патрабуе дасканалай формы для свайго выражэння. Я гэта гавару, не баючыся ўпасці ў фармалізм, бо дасканалая форма — гэта не фармалізм. Дасканалая форма — гэта перш за ўсё форма мэтазгодная, здольная з найбольшай паўнатой і выразнасцю данесці да чытача ідэйны змест твора.

З фармалізмам жа мы маем справу тады, калі наглядаем гіпертрафію формы і занядбанне зместу. Форма тут з'яўляецца самамэтай, а сякі-такі змест — толькі зачэпкай для таго, каб даць магчымасць аўтару распусціць свой фармалістычны павіны хвост.

Фармалізм не сумясцімы з глыбокім ідэйным зместам. Тут наўмысна ўскладнёная вычварная форма служыць не для таго, каб з найбольшай паўнатой выявіць змест, а для таго, каб прыкрыць сабою яго ўбоства.

Дасканалая форма можа быць і простай, як у апавяданнях Л. Талстога (якраз простай яна часцей за ўсё і бывае), можа быць і складанай, як, скажам, у вершах Маякоўскага, але і там і там яна выдатна нясе сваю службу, выяўляючы глыбіню зместу. А вось мы ведаем некаторых паэтаў, якія заўсёды гатовы пабажыцца Маякоўскім, іх вершы з вонкавага боку нават падобны на вершы Маякоўскага,— у іх таксама складаная, нават віртуозная форма, але гэта форма прыкрывае часамі пустату, адсутнасць сур'ёзнага зместу, і мы ў такім выпадку маем права гаварыць аб наяўнасці фармалізму.

Фармалізм у драматургіі таксама небяспечны, як і ў іншых жанрах літаратуры і мастацтва. Выяўляецца ён часцей за ўсё ў драматургаў, якія засвоілі мёртвыя каноны драматургіі, але не ведаюць жывой савецкай сапраўднасці і не імкнуцца яе вывучаць, не жывуць інтарэсамі народа, таму ім няма чаго сказаць савецкаму гледачу. Так званае драмаробства — гэта таксама разнавіднасць фармалізму. Аўтар робіць п'есу як быццам па ўсіх правілах драматургіі, але робіць не з сапраўднага жыццёвага матэрыялу, а з выдуманага і легкаважкага. Па форме атрымліваецца п'еса: тут і сюжэт, і інтрыга, і завязка, і развязка, а на самай справе — бутафорыя, гіра, зробленая з пап'е-машэ. І як бы аўтар ні прыкідваўся, што ён падымае вялікі цяжар, як бы ні крактаў пры гэтым, фокус яму не ўдасца: легкаважкасць матэрыялу для ўсіх відавочна.

Ад чаго ж залежыць не даволі высокая мастацкая якасць нашых п'ес? Першай прычынай, на маю думку, з'яўляецца тое, што аўтары не досыць добра ведаюць жыццё. Адгэтуль — схематызм, надуманасць канфліктаў і сітуацый, якія мы часам наглядаем у нашых п'есах, адсутнасць яркіх дэталей і характараў.

Другой прычынай з'яўляецца тое, што большая частка аўтараў 1947 года прыйшла ўпершыню ў драматургію, а некаторыя і наогул у літаратуру. Ім яшчэ не хапае прафесіянальнага ўмельства, яны не ведаюць спецыфікі жанру, не ўмеюць добра пабудаваць п'есу, паставіць дзеючых асоб у такія ўзаемаадносіны, якія б дапамагалі ім з найбольшай паўнатой раскрыць свае душэўныя якасці.

Трэцяй прычынай з'яўляецца адсутнасць глыбокага, калі хочаце, філасофскага абагульнення таго, што адбываецца ў п'есе, недастатковае пранікненне ў сэнс жыцця, не досыць высокі інтэлектуальны ўзровень дзеючых асоб, незалежна ад таго, да якога асяроддзя яны адносяцца.

Зразумела, што не ўсе п'есы хварэюць усімі гэтымі недахопамі, а калі хварэюць, дык не ў аднолькавай меры, але гэта, на маю думку, усё ж найбольш тыповыя недахопы, і нам трэба мець іх на ўвазе пры далейшай працы для таго, каб хутчэй ад іх пазбавіцца.

Якія задачы стаяць перад беларускімі драматургамі ў 1948 годзе? Задачы, уласна кажучы, тыя самыя — ствараць высакаякасныя ў ідэйных і мастацкіх адносінах п'есы аб жыцці нашага грамадства, аб савецкіх людзях, такія творы, якія б спрыялі развіццю лепшых рыс характару савецкага чалавека, на якіх бы выхоўвалася наша

савецкая моладзь — будучыя грамадзяне камуністычнага грамадства. Для гэтага трэба перш за ўсё, каб нас, драматургаў, было больш. Саюз савецкіх пісьменнікаў і, у прыватнасці, секцыя драматургаў павінны паклапаціцца аб тым, каб замацаваць у драматургіі маладое папаўненне, якое прыйшло ў 1947 годзе. Выяўляючы чулыя адносіны да маладога аўтара, аказваючы яму кваліфікаваную творчую дапамогу, мы павінны гадаваць новыя кадры драматургаў.

Па-другое, мы павінны замацаваць у драматургіі той рашучы паварот да савецкай тэмы, які прынёс нам мінулы год, і старацца пры гэтым яшчэ глыбей пранікнуць у нашу савецкую рэчаіснасць.

Трэцяе, за што мы сур'ёзна павінны змагацца, гэта за павышэнне мастацкай якасці нашых п'ес. Трэба пакончыць з тым нігілізмам, які наглядаецца часамі ў гэтых адносінах у паасобных драматургаў і крытыкаў. Пры гэтым драматургі і крытыкі павінны памятаць, што гутарка ідзе не наогул аб якім-небудзь літаратурным творы, а аб творы драматургічным, прызначаным для пастаноўкі на сцэне. Адным з найлепшых сродкаў павышэння аўтарскай кваліфікацыі з'яўляецца калектыўнае абмеркаванне п'есы на секцыі драматургаў, сярод сваіх таварышаў, дзе не пасаромеюцца сказаць аўтару праўду аб яго творы, аб станоўчых якасцях і аб недахопах і параіць, як гэтыя недахопы выправіць. Праўда, да гэтага часу секцыя драматургаў працавала слаба.

Мабілізуючыся на выкананне творчых задач, якія пастаўлены партыяй перад драматургамі, мы павінны памятаць і аб той вялікай даце, якую будзе адзначаць беларускі народ праз дзесяць месяцаў,— аб трыццацігоддзі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Беларуская савецкая драматургія павінна прыйсці да гэтай даты з дасягненнямі, якія б гаварылі аб яе сталасці. Дык будзем жа змагацца за ідэйную і мастацкую сталасць нашых твораў!

*1948*

## АБ ХАРАКТАРЫ БЕЛАРУСА

Яшчэ ў мінулым стагоддзі, мабыць, з лёгкай рукі нейкага заезджага пана, аб беларусах пачала распаўсюджвацца хадзячая думка як аб народзе адпетым, канчаным. Ён нібы такі забіты ды цёмны, што ад яго ўжо няма чаго чакаць: яму нібы не ўласцівы ніякія парывы, ніякія грамадскія імкненні і ідэалы. Яго нацыянальнымі асаблівасцямі з'яўляюцца лапці на нагах, каўтун на галаве ды ціхая пакорлівасць у вачах.

А ці такі ж ужо сапраўды быў забіты ды пакорны беларускі народ? Пабояў, праўда, за сваю гісторыю перанёс ён нямала. Собіла яму, бачыце, пасяліцца на бойкім месцы, на скрыжаванні вялікіх дарог, на якіх заўсёды снаўдаліся ўсялякія заваёўнікі, сквапныя на чужое дабро, што не раз спрабавалі пажывіцца за кошт Маскоўскай дзяржавы. Ці то панам карцела пасадзіць у Крамлі польскага караля, ці то швед спяшаўся пад Палтаву на сваю пагібель, ці то пыхлівы Напалеон рухаў свае полчышчы на Маскву, каб пахаваць іх там разам са сваёй славай, заўсёды першаму беларусу пападала. І заўсёды ў такіх выпадках беларус трымаў руку Масквы. Хоць і пад царом-бацюхнам не соладка жылося людзям, але, калі вырашаўся лёс роднага па крыві і па веры рускага народа, беларус заўсёды аказваў яму брацкую дапамогу.

Так, між іншым, беларускі народ пачынаў праходзіць вялікую школу партызанскай барацьбы, вопыт якой яму потым вельмі спатрэбіўся. Але не заўсёды беларус дзейнічаў такім спосабам. У рашаючыя моманты ён выступаў са зброяй у руках адкрыта і біўся насмерць. Так было ў XVII стагоддзі, калі ўкраінскі народ пад правадырствам Багдана Хмяльніцкага змагаўся супраць польскіх паноў-прыгнятальнікаў. Беларускі народ таксама падняўся тады на барацьбу супраць ненавісных паноў. Па ўсёй Беларусі палалі тады панскія маёнткі, самі паны без памяці ўцякалі ў Варшаву ад «забітага і пакорнага» беларускага мужычка, і не адзін атрад каралеўскіх войск, пасланы ва фланг Багдану Хмяльніцкаму, быў разгромлены сярод палескіх балот беларускімі паўстанцамі.

Але заезджаму пану не было часу заглядваць у гісторыю беларускага народа, так жа, як і ў душу беларуса. Яму патрэбна была экзотыка — і ён шукаў беларуса абавязкова з каўтуном. Выкапаўшы такога, ён старанна апісваў ці замалёўваў яго знадворны выгляд, заводзячы, між іншым,

гаворку аб грамадскіх ідэалах. Беларус жа хоць і з каўтуном, але не без розуму, бо ўжо не раз вучаны: памоўчвае сабе або аднекваецца. «Мялі сабе, пан. Пра ідэалы ты пяеш, але нешта вельмі да світкі прыглядаешся,— каб часам апошняй не садраў». А ў пана ўжо і думка гатова: і цёмны, і забіты, і ідэалаў ніякіх, і пра барацьбу зусім не думае.

Разумныя людзі і ў старыя часы не верылі гэтым байкам. Адзін з разумнейшых людзей мінулага стагоддзя М. А. Дабралюбаў пісаў у 1860 годзе: «Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашана: забіты канчаткова, так што нават не здатны карыстацца чалавечымі здольнасцямі. Не ведаем, у якой ступені памылковая гэта думка, бо не вывучалі спецыяльна беларускага краю, але паверыць ёй, вядома, не можам. Цэлы край вось так узялі дый забілі,— ці не занадта! Гэта так жа, як італьянцаў забілі, расслабілі, пазбавілі любві да радзімы і свабоды. Гляньце вось цяпер на іх... Ва ўсякім разе пытанне аб характарыстыцы беларусаў павінна быць хутка высветлена працамі мясцовых пісьменнікаў. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы».

І беларусы сказалі — роўна праз тры гады. Размова на гэты раз вялася з царом-бацюхнам і была настолькі сур'ёзнай, што цар-бацюхна вымушан быў падмацоўваць яе гарматамі і казацкімі шаблямі, а галоўнага «прамоўцу» — кіраўніка і арганізатара сялянскага паўстання Кастуся Каліноўскага — ён іначай не мог уціхамірыць, як толькі здушыўшы горла вераўчанай пятлёй, што па высачайшаму загаду і выканаў вядомы Мураўёў.

Беларускія пісьменнікі таксама неўзабаве сказалі сваё слова. Спачатку Багушэвіч, а потым, з яшчэ большай паўнатой і яркасцю, Янка Купала і Якуб Колас на ўвесь рост намалявалі партрэт працоўнага беларуса і паказалі яго ўсяму свету. Знадворна гэты партрэт як быццам падобны на той, што намаляваў заезджы пан: і лапці, і світка, і змрочны фон, і ўсё ж гэта зусім іншы партрэт. Справа ў тым, што праз дзіравую світку нашы народныя паэты ўбачылі жывое чалавечае сэрца працоўнага беларуса, яго спрадвечную мару аб лепшай долі, яго гарачае жаданне і гатоўнасць скінуць з сябе падвойныя ланцугі сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Ён выносіць сваю крыўду на суд чалавецтва і ўвесь свет заклікае ў сведкі. Гэты вобраз дарэвалюцыйнага беларуса ва ўсю веліч устае перад намі з выдатнага верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?».

Праз вякі прыгнёту беларускі народ пранёс лепшыя якасці свае душы, усвядоміў усю несправядлівасць і крыўду, нанесеную яму прыгнятальнікамі, і адчуў у сабе волю і гатоўнасць да барацьбы за лепшую долю, за годнае чалавека існаванне.

У гэтых пачуццях умацоўвала яго брацкая салідарнасць з вялікім рускім народам, з якім яго звязвалі агульныя мэты і агульныя ланцугі. І калі разгарнуліся вялікія падзеі 1917 года, беларускі народ паказаў, што ён варты свайго старэйшага брата. Разам з ім, пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі, ён ішоў на штурм царскага самаўладства ў лютым, пры яго дапамозе ён выгнаў памешчыкаў і капіталістаў у кастрычніку і, вольна ўздыхнуўшы, пачаў будаваць новае жыццё, выявіўшы пры гэтым не абы-якія здольнасці. Менш чым праз паўтара года, дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы, ён упершыню за ўсю сваю гісторыю стварыў сваю дзяржаву — Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, трыццатую гадавіну якой сягоння ўрачыста святкуе.

У гады грамадзянскай вайны на долю беларускага народа выпалі такія цяжкія выпрабаванні, як нямецкая інтэрвенцыя ў 1918 годзе і белапольская акупацыя ў 1919—1920 гадах. І тут у беларуса ўсё ярчэй і ярчэй выступалі рысы характару, у якіх яму было адмоўлена з лёгкай рукі заезджага пана,— высокая палітычная свядомасць, свабодалюбства і непахіснасць у барацьбе за сваю незалежнасць. На спробы інтэрвентаў заняволіць беларускі народ ён адказаў выпрабаваным спосабам — масавай партызанскай барацьбой, аказаўшы значную дапамогу Чырвонай Арміі, якая вызваляла беларускую савецкую зямлю ад чужаземных захопнікаў.

Стаўшы поўнаўладным гаспадаром свае зямлі, беларус выявіў новую якасць свайго характару, якая не магла раней праявіцца, калі ён гнуў спіну на памешчыка і фабрыканта,— незвычайны працоўны энтузіязм. Пад штодзённым кіраўніцтвам мудрай партыі бальшавікоў, пры дапамозе вялікага рускага народа і іншых брацкіх народаў Савецкага Саюза ёнператварыў сваю краіну з былой ускраіны царскай імперыі ў квітнеючую сацыялістычную рэспубліку. Ператвараючы аблічча свае краіны, мяняўся і сам чалавек, развіваліся лепшыя рысы характару нашага народа. Разам з тым працоўны чалавек паступова вызваляўся ад перажыткаў праклятага мінулага, ад усяго таго, што не адпавядала пачэснаму званню савецкага грамадзяніна. Яго больш

не прыгнятаў заўсёдны клопат аб куску хлеба і няўпэўненасць у заўтрашнім дні, не мучыла трывога за будучы лёс сваіх дзяцей, у голасе зніклі ноткі жальбы і крыўды, уласцівыя яму ў мінулым, як вынік шматвяковага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. У суровым класавым змаганні ён разграміў рэшткі эксплуататарскіх класаў і сярод іх такіх заядлых ворагаў народа, як беларускія буржуазныя нацыяналісты, якія намагаліся прадаць народ зноў у няволю капіталу.

Высокае становішча грамадзяніна сацыялістычнай краіны, роўнага сярод роўных у шматмільённай савецкай сям'і, напоўніла сэрца беларуса гонарам за сябе і за сваю вялікую Радзіму. Новыя пачуцці працоўнага беларуса — радасць творчай працы і любоў да Савецкай Радзімы — яскрава адлюстравалі ў сваіх творах нашы народныя паэты, якія самі былі сведкамі сумнага мінулага нашага народа.

Ходзіць вецер па даліне,
Ходзіць, павявае
Ды пра радасць мне, дзяўчыне,
Песні напявае.

Выйду, гляну я на поле,
Гляну — усміхнуся:
Дзе ж такое ёсць раздолле
Для цябе, Ганүся?

Дзе ж так вольна ў свеце жыці?
Ці ж не радасць гэта?
Як жа край свой не любіці,
Родны край Саветаў! —

гаворыць вуснамі Якуба Коласа маладая беларуская калгасніца.

Верш «Радасць», з якога ўзяты гэтыя радкі, напісан аўтарам у 1937 годзе. Тут вельмі дарэчы будзе ўспомніць і параўнаць, што за дваццаць дзевяць гадоў да гэтага вуснамі таго ж самага Якуба Коласа гаварыў сялянскі хлопец:

Я па свеце хадзіў,
Косці ўсюды занёс,
Я на землю праліў
Многа слёз, многа слёз.

Я — мужычы сынок,
Я не маю дарог.
Мая школа — шынок,
Маё жыццё — астрог.

Якая велізарная розніца ў светаадчуванні на карысць нашай савецкай моладзі!

У савецкага чалавека, выхаванага бальшавіцкай партыяй, развіліся выдатныя маральныя якасці, якія ставяць

яго нязмерна вышэй за чалавека капіталістычнага свету. Самай каштоўнай з гэтых якасцей з'яўляецца беззаветная адданасць сваёй сацыялістычнай Радзіме. Савецкі чалавек глыбока ўсвядоміў, што яго асабістае шчасце немагчыма без шчасця Радзімы. Таму ён гатоў аддаць усе свае сілы для яе росквіту, магутнасці і славы, а ў час небяспекі гатоў абараняць яе да апошняй каплі крыві. Гэта пачуццё непарыўнага адзінства са сваёй Радзімай з'яўляецца выдатнай рысай характару беларуса савецкай эпохі. Яно з асаблівай сілай праявілася ў нашых людзях у дні Вялікай Айчыннай вайны. Гэта пачуццё шугала ў грудзях Гастэлы, калі ён, пагарджаючы смерцю, рынуўся са смяротным грузам на галовы ворагаў. Гэта пачуццё неадступна вало-дала Канстанцінам Заслонавым, калі ён, спалучыўшы гарачую нянавісць да ворага з халоднай разважлівасцю і дакладным разлікам падпольшчыка, арганізоўваў пад носам у ворага дыверсійныя групы і пускаў пад адхон нямецкія эшалоны. Гэтым высакародным пачуццем быў ахоплен увесь беларускі народ, які ўзняўся на ўсенародную вайну з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі арганізаваў цэлыя партызанскія арміі агульнай колькасцю больш трохсот тысяч чалавек. Ужо хто-хто, а нямецка-фашысцкія вырадкі на сваёй скуры паспыталі выдатныя якасці беларускага характару.

Не менш яскрава праявіліся выдатныя якасці нашых людзей і ў мірнай творчай працы на калгасных палях, на будаўнічых пляцоўках, ля заводскіх і фабрычных станкоў. Людзі, якія ператварылі адвечныя непраходныя балоты ва ўраджайныя палі і вырасцілі на гэтых палях нябачаны дагэтуль ураджай — па сто восемдзесят і болей пудоў з гектара, як гэта зрабілі Героі Сацыялістычнай Працы тав. Калыска, Саўчык, Пайграй, Стыкут,— напэўна вызначаюцца не абы-якім характарам.

Цудоўны характар маюць і тыя людзі, якія пасля выгнання ворага з нашай зямлі засталі на месцы гарадоў руіны ды галавешкі і не апусцілі рук перад грандыёзнасцю разбурэнняў, а, закасаўшы рукавы, узяліся за цяжкую працу аднаўлення.

Сапраўднае захапленне выклікае характар людзей, якія ідуць уперадзе часу,— ударнікаў і рацыяналізатараў нашых фабрык і заводаў, што выканалі і перавыканалі гадавыя нормы ў некалькі разоў, як электразваршчык

Мінскага трактарнага завода таварыш Антонік, як токар Аршанскага дэпо Барыс Вялюгін, токар Мінскага аўтамабільнага завода таварыш Язвінскі, як дзесяткі і сотні іх сяброў у іншых галінах вытворчасці, для якіх праца стала справай гонару, справай славы, справай доблесці і геройства. Яны вось і ўвасабляюць у сабе лепшыя рысы беларускага савецкага характару. Што гэтыя рысы не з'яўляюцца выключна беларускімі, а ўласцівы перадавым людзям усіх савецкіх народаў, ад гэтага яны робяцца для нас яшчэ больш каштоўнымі.

Гонар і слава людзям, якія бадзёра, няспынна і няўхільна крочаць да вялікай мэты — да камунізма!

*1948*

## ШКОДНАЯ БЛЫТАНІНА Ў ПЫТАННЯХ МОВЫ

Мова, як сродак людскіх дачыненняў, заўсёды мела велізарнае значэнне ў грамадскім жыцці людзей. У нашых, савецкіх умовах мова з'яўляецца магутным сродкам пашырэння ідэй марксізма-ленінізма ў шырокіх масах працоўных. Камуністычная партыя, будуючы сацыялістычную дзяржаву, ствараючы неўміручую дружбу народаў, заўсёды вялікую ўвагу аддавала развіццю нацыянальных культур савецкіх народаў.

Партыя вучыць, што ўзняць культуру кожнага з народаў Савецкага Саюза можна толькі на яго роднай мове. Таму зразумела, што мова кожнага савецкага народа, як вялікі народны скарб, як сродак выхавання савецкіх людзей у духу камунізма, патрабуе пашаны і ўважлівага абыходжання. На жаль, пра гэта забылася рэдакцыя часопіса «Савецкая школа», даўшы месца на старонках часопіса, ды яшчэ ў раздзеле «У дапамогу настаўніку», блытанаму і шкоднаму артыкулу І. Матвеенкі «Развіццё беларускай літаратурнай мовы за 30 год БССР».

Шкоднасць названага артыкула ў тым, што І. Матвеенка, падыходзячы да пытанняў мовы з лявацкімі, вульгарызатарскімі ўстаноўкамі, карыстаючыся фармалістычным

метадам «даследавання», а таксама з прычыны нядобрасумленнага абыходжання з матэрыялам, дапусціў рад грубых метадалагічных і фактычных памылак.

Асаблівасцямі «метаду» І. Матвеенкі з'яўляецца тое, што ён моўныя з'явы даследуе пры дапамозе лічыльнікаў, пры гэтым аперыруе лічбамі, высмактанымі з свайго пальца. Дзе факты не хочуць служыць лявацкай тэндэнцыі І. Матвеенкі, там ён без усякага сораму прыцягвае іх за валасы.

Аднак жа возьмем лічыльнікі і паглядзім, што гавораць нам лічбы, якімі так любіць жангліраваць аўтар названага артыкула.

І. Матвеенка сцвярджае, што да Вялікага Кастрычніка ў беларускай літаратурнай мове налічвалася 22 000 слоў. Свет вялікі, можа, і праўда,— скажам мы словамі аднаго казачнага персанажа. Але што ж выходзіць далей? А далей аўтар падлічыў, што 10 000 слоў з гэтага ліку ўпершыню ўвёў у літаратурную мову Янка Купала. «Вельмі значны ўклад у справу ўзбагачэння слоўніка беларускай мовы ўнеслі Я. Колас, З. Бядуля, А. Пашкевіч (Цётка), М. Багдановіч і іншыя пісьменнікі»,— гаворыць ён далей. Колькі слоў увялі пералічаныя пісьменнікі, Матвеенка не падлічыў, але мы з поўным правам можам дапусціць, што чатыры выдатныя пісьменнікі, разам узятыя, унеслі таксама не менш за Янку Купалу. Такім чынам, на ўсю астатнюю літаратуру: на публіцыстыку «Нашай нівы» і «Нашай долі», на «Мужыцкую праўду» Каліноўскага, на Багушэвіча, Янку Лучыну, Дуніна-Марцінкевіча, на «Энеіду навыварат», «Тараса на Парнасе» і шматлікія іншыя творы, не гаворачы ўжо аб старажытнай літаратуры, прыпадае ўсяго... 2000 слоў. Ці не замала?

Але не будзем вельмі дзівіцца, бо самае дзіўнае яшчэ наперадзе. Давайце лепш пацікавімся, што гэта за мова была па свайму лексічнаму складу. Добра, што ў шаноўнага вучонага ўсё гэта паказана ў матэматычных выкладках. На старонцы 40 часопіса мы чытаем:

«На 100 старонках дарэвалюцыйнага тэксту творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі прыпадае ад 1 да 10 выпадкаў ужывання арыгінальных беларускіх лексем, ад 10 да 100 выпадкаў ужывання агульнаславянскіх значымых лексем і да 2000 агульных прыназоўнікаў і злучнікаў». Калі верыць І. Матвеенку, дык на 10 000 слоў, якія змяшчаюцца на 100 старонках, прыпадае толькі адно арыгінальнае беларускае слова і ва ўсякім разе не больш дзесяці. Іначай

кажучы, ад 0,001 да 0,01 працэнта. Але не будзем верыць Матвеенку, а заглянем у дарэвалюцыйны тэкст Я. Купалы. Разгортваем кнігу і чытаем:

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—
Ўдзірванелы курган векавечны.
Дуб галлё распусціў каранасты над ім,
Сухазелле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем глухім,—
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.
На купалле там птушка садзіцца, пяе,
У піліпаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя.

*Я. Купала* «Курган»

Не ведаю, як т. Матвеенку, а нам здаецца, што кожнае слова тут з'яўляецца арыгінальным беларускім, хоць некаторыя з іх і ўжываюцца ў іншых славянскіх мовах. Арыгінальныя яны таму, што бытуюць у беларускай мове з незапомных часоў, што кожнаму беларусу большасць гэтых слоў вядома ад самай калыскі, адным словам, таму, што яны свае, родныя. Нават калі б мы сталі на шлях Матвеенкі і пачалі выбіраць словы, якія ўжываюцца толькі ў беларускай мове, дык і такіх знайшлося б у гэтых дванаццаці радках шмат больш, чым І. Матвеенка налічыў на 100 старонках тэксту. Але такую работу мы лічым непатрэбнай і нават шкоднай.

Нашто ж патрэбен быў І. Матвеенку гэты недарэчны падзел беларускай карэннай лексікі на арыгінальную і неарыгінальную? Недарэчнасць гэта не выпадковая: яна прызначана для таго, каб прыбядніць і прынізіць беларускую мову. Гэта тэндэнцыя выразна выступае на працягу ўсяго артыкула, хоць аўтар і стараецца прыкрыць яе гучнымі фразамі аб сусветнай мове.

Ідучы далей па шляху прыніжэння беларускай мовы, забыўшыся, што ён пісаў на 39-й старонцы, І. Матвеенка на 50-й старонцы наогул адмаўляе існаванне беларускай літаратурнай мовы да рэвалюцыі. Дзіўна! Была дарэвалюцыйная беларуская літаратура, былі выдатныя паэты і пісьменнікі, былі Я. Купала і Я. Колас, якія ўзнялі беларускую паэзію на ўзровень лепшых узораў тагачаснай рускай паэзіі, а літаратурнай мовы не было. Як быццам можна стварыць выдатныя мастацкія творы і без літаратурнай мовы.

Ну, гэта, паводле сцверджанняў І. Матвеенкі, так было да рэвалюцыі. А якія ж змены адбыліся ў мове пасля рэвалюцыі? І. Матвеенка сцвярджае, што на працягу цэлых дзесяці год мова заставалася на тым жа ўзроўні: «Лексіка беларускай літаратурнай мовы першых 10 год пасля Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі мала чым адрознівалася ад лексікі дарэвалюцыйнай». Далей ён тлумачыць: «Яно і зразумела, бо жыццё беларускай вёскі да пачатку калектывізацыі сельскай гаспадаркі змянілася даволі мала для таго, каб больш-менш значна абнавіць лексіку, і старая лексіка яшчэ досыць поўна абслугоўвала патрэбы сялянскага ўжытку». Тут у адной фразе мы бачым зразу дзве грубейшыя памылкі. Грубым скажэннем сапраўдных фактаў з'яўляецца сцверджанне І. Матвеенкі, што культурны ўзровень беларускай вёскі на працягу цэлых дзесяці год пасля Кастрычніка заставаўся нязменна нізкі і не патрабаваў узбагачэння мовы. Другая грубая памылка заключаецца ў тым, што І. Матвеенка разглядае беларускую мову толькі як мову вясковую, прыгодную для абслугоўвання «патрэб сялянскага ўжытку». Гэта не выпадковая агаворка. Гэту шкодную думку І. Матвеенка праводзіць на працягу ўсяго артыкула. Па Матвеенку выходзіць, што беларуская мова гораду непатрэбна і горад ніякага дачынення не меў да яе развіцця і ўзбагачэння. А між тым у рэспубліцы ёсць Беларускі дзяржаўны універсітэт і іншыя вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы, у якіх выкладанне вядзецца на беларускай мове, у сталіцы БССР і ў іншых гарадах выходзіць шмат газет, часопісаў і кніг. Усё гэта з'яўлялася і з'яўляецца магутным фактарам развіцця не толькі мастацкай, але таксама навуковай і палітычнай літаратурнай мовы. Беларуская мова — мова ўсяго беларускага народа, як гарадскога, так і сельскага насельніцтва. І. Матвеенка не прызнае ўсяго гэтага.

Разглядаючы беларускую мову як толькі сялянскую, ён і гэту прыніжаную ім мову стараецца яшчэ больш прынізіць.

«Вайсковыя тэрміны,— піша ён,— *самалёт, танк, артылерыя, кавалерыя, лётчык, абстрэл, агонь, бліндаж, акоп, разведчык, паход, марш* і іншыя, якія да рэвалюцыі амаль не сустракаліся ў беларускай літаратуры, у 30-х гадах нашага стагоддзя сталі вельмі пашыранымі словамі». Не сустракаліся! Гэта ў той час, калі праз тэрыторыю Беларусі праходзіў фронт імперыялістычнай вайны і ўся яна была зрыта акопамі і бліндажамі, здратавана артыле-

рыяй і кавалерыяй! Я ўжо не гавару, што беларускую зямлю дратавала артылерыя і кавалерыя яшчэ і Карла XII, і Напалеона I.

Відавочнае глупства піша т. Матвеенка. Але ён на гэтым не спыняецца і далей узводзіць паклёп ужо не толькі на беларускую мову, але і на беларускі народ, сцвярджаючы, што толькі з 30-х гадоў «у беларускую мову ўваходзяць раней невядомыя ёй тэрміны, як *акцябрыны, маёўка, дэманстрацыя, абажур, патэфон, рупар, рэпрадуктар, дэзінфекцыя, санітарыя, марля, бінт, халат, аратар, дэкламатар, спектакль, канцэрт* і інш.» (с. 47). Вось, аказваецца, якімі дзікунамі былі беларусы на працягу першых паўтара дзесятка год савецкай улады: яны ніколі ў вочы не бачылі ні абажура, ні бінта, ні халата, не ведалі, што такое санітарыя, не бывалі ніколі на спектаклях і канцэртах.

Разам з нядобрасумленнасцю ў падыходзе да пытанняў беларускай мовы I. Матвеенка паказвае і сваю жахлівую непісьменнасць. Ён, напрыклад, сцвярджае, што словы *адкрыць* і *адчыніць, адправіць* і *накіраваць, адняць* і *адабраць, гатова* і *падрыхтавана, бітва* і *калатня,* узятыя папарна, маюць аднолькавае значэнне. Па Матвеенку, выходзіць, можна: *дзверы адкрыць, твар адчыніць* (калі ён закрыты), *пяць ад дзесяці адабраць, кулю ў цэль адправіць (замест накіраваць), а пісьмо на пошту накіраваць.*

Наш паважаны лінгвіст не бачыць розніцы паміж словамі *бітва* і *калатня.* Паводле яго сцверджання, можна сказаць, што свякроў з нявесткай *распачалі бітву* (сварку), а немцы на Курскай дузе *прайгралі калатню.* I. Матвеенка лічыць, што слова *блудзіць* і ў рускай і ў беларускай мовах мае аднолькавае значэнне. Ці не таму ён і блудзіць на працягу ўсяго артыкула і ў рускім і ў беларускім значэнні гэтага слова?

Падыходзячы да пытанняў мовы з лявацкіх, вульгарызатарскіх пазіцый, I. Матвеенка блытае з загадзя абдуманым намерам і наўмысна скажае як малюнак сучаснага стану беларускай мовы, так і перспектыву далейшага яе развіцця. Сцвярджаючы той бясспрэчны і выдатны факт, што беларуская і руская мовы з'яўляюцца роднымі і блізкімі, што яны маюць у сваёй лексіцы шмат аднолькавых слоў, што руская мова з'яўлялася і з'яўляецца крыніцай узбагачэння беларускай мовы, Матвеенка лічыць, што чым больш ён прынізіць беларускую мову, тым хутчэй наблізіць яе да рускай і сусветнай інтэрнацыянальнай мовы. I. Матвеенку

здаецца, што гэта набліжэнне можна паскорыць і завяршыць, седзячы ў канцылярыі, адным росчыркам пяра. Вось ён і «даводзіць», што ў беларускай мове на сто старонак тэксту толькі адно «арыгінальнае» беларускае слова, што гэта абмежаваная сялянская мова, што яна стаіць на надзвычайна нізкім культурным узроўні. Фанетычных і марфалагічных асаблівасцей І. Матвеенка зусім у разлік не прымае.

А каму патрэбна такая мядзведжая паслуга? — запытаемся мы ў Матвеенкі. Хіба рускі народ, які дапамог усім народам былой царскай Расіі скінуць ярмо сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, які клапатліва дапамагае ім развіваць сацыялістычную культуру на роднай мове, патрабуе таго, каб у імя вялікай рускай мовы прыніжалася якая-небудзь мова другога брацкага народа?

Безумоўна, не.

Сацыялістычная культура беларускага народа развіваецца на яго роднай мове. Пры гэтым развіваецца і сама беларуская мова — як на сваёй нацыянальнай аснове, шляхам выкарыстання вялікіх багаццяў і магчымасцей, закладзеных у ёй самой, так і шляхам узбагачэння за кошт багацейшай брацкай рускай мовы. Разам з тым адбываецца і збліжэнне моў — заканамернае і натуральнае, якое не мае нічога агульнага з набліжэннем згодна метаду Матвеенкі.

І. Матвеенка блытае і ў пытанні аб будучай сусветнай мове. Паводле падлікаў Матвеенкі, выходзіць, што беларуская мова ўжо напалову, а можа, і больш чым напалову, з'яўляецца мовай інтэрнацыянальнай. Такой беларуская мова стала нібыта ў выніку таго, што за гады савецкай улады (а дакладней — з часоў калектывізацыі) лексіка яе павялічылася з 22 000 да 80 000 слоў (амаль у чатыры разы). Лічбы ўзяты са столі: на самай справе ў беларускай мове налічваецца не 80 000, а шмат больш слоў. Аднак што ж гэта за новыя словы, якія складаюць $^3/_4$ усёй беларускай лексікі? Аб гэтым Матвеенка піша: «Новыя дзесяткі тысяч слоў, якія папоўнілі беларускую літаратурную лексіку за 30 год існавання Беларускай ССР, у большасці сваёй з'яўляюцца інтэрнацыянальнымі, палітычнымі і навуковымі тэрмінамі, захаванне якіх магчыма і ў будучай сусветнай мове пасля перамогі камунізма ва ўсім свеце. Гэтыя тэрміны як рускага савецкага паходжання (*бальшавік, камсамолец, савет, стаханавец, пяцісотнік* і інш.), так і сусветнага (*рэвалюцыя, сацыялізм, камунізм, электрыфікацыя, канвеерызацыя, гераізм, энтузіязм* і інш.) ужо

зараз вядомы культурнай частцы сусветнага чалавецтва і адрозніваюцца ў розных мовах толькі вымаўленнем асобных гукаў».

Вось як, дарагі чытач! Мы і не падазравалі, што больш як напалову гаворым з вамі сусветнай мовай. Праўда, Матвеенка назваў тут толькі 12 інтэрнацыянальных слоў, але ж у яго ў запасе яшчэ дзесяткі тысяч слоў, і ўсе сусветныя, і ўсе іх народ ведае. На старонцы 39-й ён так і гаворыць: «Навуковыя, палітычныя і тэхнічныя тэрміны, якія ўжо зараз складаюць першапачатковы асноўны фонд будучай адзінай сусветнай мовы, вядомы кожнаму грамадзяніну Савецкай Беларусі».

Вось які скачок! То не ведалі такіх слоў, як *бінт* і *абажур*, а то ўжо кожны беларус авалодаў асноўным фондам будучай сусветнай мовы.

І што гэта за «культурная частка сусветнага чалавецтва», з якой Матвеенка ўстанавіў агульную сусветную мову? Мы ведаем, што некаторыя паны за мяжой таксама балбочуць аб сусветнай мове, марачы пры гэтым аб сусветным панаванні амерыканскага імперыялізму. Мы ведаем, што паміж нашым вучоным і гэтымі панамі нічога агульнага няма, мы толькі хочам сказаць, што, закранаючы гэта пытанне, трэба быць асабліва дакладным, каб незнарок не аказацца іх падгалоскам, а Матвеенка толькі тое і робіць, што блытае. Ён перавялічвае і колькасць, і значэнне іншамоўных, заходнееўрапейскіх слоў у беларускай мове, абвяшчае іх словамі *сусветнага* паходжання, як быццам ужо была ці ёсць нейкая сусветная мова. На самай справе кожнае з гэтых слоў мае свой нацыянальны пашпарт. Апрача таго, далёка не кожнае замежнае слова з'яўляецца інтэрнацыянальным («сусветным»). Вядома, што некаторыя касмапаліты, працуючы ў той ці іншай навуковай галіне, гатовы былі прakланіцца перад кожнай замежнай літарай і нямала нанеслі ў рускую і беларускую мову чужаземнага смецця. Аб неабходнасці ачышчэння рускай навуковай мовы ад непатрэбнай чужаземшчыны не раз пісалася ў савецкім друку.

Матвеенка сцвярджае, што асноўны фонд сусветнай мовы ўжо ёсць. Дзеля сусветнай мовы ён і стараецца прынізіць беларускую мову, аб'явіць яе неарыгінальнай, нізкай па свайму культурнаму ўзроўню.

У галаве Матвеенкі ніяк не ўкладваецца тое, што шлях да будучай сусветнай агульнай мовы ляжыць цераз росквіт нацыянальных моў. Яго, відаць, гэта не задавальняе. Ён

рашыў: раз некалі будзе сусветная мова, дык на сваю ўжо сёння можна напляваць.

Нямала наблытаў ён і ў пытанні аб паланізмах.

Мы не мелі магчымасці спыніцца на ўсіх памылках, скажэннях і проста недарэчнасцях, якімі ўсеяны старонкі «навуковай працы» І. Матвеенкі. Але і таго, што тут прыведзена, хопіць, нам здаецца, каб мець яснае ўяўленне аб гэтай «працы».

Дрэнную «дапамогу» настаўніку аказаў часопіс «Савецкая школа». Проста скажам — мядзведжая паслуга.

*1949*

## МІР НАЛЕЖЫЦЬ ПРОСТЫМ ЛЮДЗЯМ

Чатыры гады таму назад разгромлены нямецкі фашызм вымушаны быў скласці зброю і здацца на капітуляцыю. Быў пераможаны самы моцны і самы небяспечны вораг Савецкай краіны і ўсяго чалавецтва, які намерваўсяператварыць усе народы свету ў сваіх нявольнікаў, растаптаць брудным капытом усе здабыткі чалавечай культуры, устанавіць на зямлі царства цемры і грубай сілы. Краіну за краінай таптаў ён пад ногі, заводзячы свой звярыны «новы лад». Ап'янелы лёгкімі перамогамі на Захадзе, ён рынуўся на Краіну Саветаў і тут знайшоў сваю пагібель. Аб магутную скалу савецкага ладу і савецкага нязломнага духу разбіліся саманадзейныя фашысцкія орды, а іх «бог» — крыважэрны маньяк Адольф Гітлер — здох у берлінскім падзямеллі, нібы той скарпіён ад свайго ўласнага яду. Чалавецтва было выратавана ад самай страшнай небяспекі. Сумленныя людзі ўсяго свету былі бясконца ўдзячны савецкаму народу, які ўзяў на свае плечы асноўны цяжар страшэннай вайны, яны благаслаўлялі імя найвялікшага стратэга Генералісімуса Сталіна.

Праз дзень савецкі народ урачыста і радасна адсвяткуе гадавіну вялікай перамогі, услаўляючы мудрую партыю бальшавікоў і свайго любімага правадыра. Савецкім людзям ёсць чаго радавацца і чым ганарыцца. Яны збудавалі першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву, дзе няма эксплуатацыі чалавека чалавекам; яны адстаялі сваю сацыялістычную Радзіму ад імперыялістычных драпежнікаў,

яны разграмілі самага лютага з іх — нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сваёю адданай працай на заводах, на калгасных палях, у навуковых лабараторыях яны павялічваюць багацці і магутнасць свае Радзімы, крок за крокам набліжаюць наша грамадства да вялікай мэты — камунізма.

У савецкага народа светлае аблічча і чыстае сумленне. Мы нікога не закоўваем у ланцугі, не забіваем, не хапаем за горла, каб адабраць здабыткі чые-небудзь працы. Мы не квапімся на чужыя землі і не збіраемся занявольваць іншыя народы. Да кожнага, самага невялікага, народа мы ставімся з пашанай і прызнаём за ім свяшчэннае права наладжваць сваё жыццё так, як ён сам лічыць патрэбным. У гэтым наша вялікая сіла, у страху перад якой бляднеюць імперыялістычныя завадатаі, рыцары залатога мяшка і атамнай бомбы. У бяссільнай злосці яны паклёпнічаюць на нашу краіну, іх даводзяць да шаленства нашы поспехі ўнутры краіны і нашы перамогі на міжнароднай арэне.

Так, мы не адмаўляем — ёсць у нас такія перамогі. Аб гэтым сведчыць тое, што існуюць краіны народнай дэмакратыі, народы якіх, натхнёныя нашым прыкладам, скінулі з плеч ярмо памешчыкаў і капіталістаў і, ідучы пралажаным намі шляхам, з поспехам перабудоўваюць сваё жыццё на новы, сацыялістычны лад. Перамогі гэтых народаў з'яўляюцца і нашымі перамогамі на міжнароднай арэне. Хай гэта — перамогі не нашых гармат, затое — нашых ідэй. Што да гармат, дык нашы рукі чыстыя, чаго ніяк нельга сказаць пра рукі труманаў і бевінаў, на якіх запяклася кроў не аднаго народа. Затое ідэі нашы маюць такую сілу, што супраць іх не могуць устаяць ні гаміндажаўскія генералы, ні труманаўскія мільярды, ні англійскія ваенныя караблі.

Мы ганарымся тым, што ідзём у авангардзе дэмакратычных сіл чалавецтва, радуемся, што нашы высокія ідэі перамагаюць грубую сілу драпежнікаў і гвалтаўнікоў. Але радасць наша — не бесклапотная. Мы выразна бачым на гарызонце злавесны цень сцярвятніка. Гэта родны брат таго сцярвятніка, якому мы скруцілі шыю чатыры гады таму назад і пер'е якога развеялі па ўсёй Еўропе. Новы драпежнік адрозніваецца ад старога толькі тым, што гняздзіцца не ля Брандэбургскіх варот, а на Уол-стрыце, у засені статуі Свабоды. Мы чуем яго крывважэрны клёкат, якім ён склікае сваіх пабрацімаў на крывавы баль новай сусветнай вайны. Драпежная зграя ўжо крамсае пакутнае цела народаў Грэцыі, Інданезіі, В'етнама, але кроў гэтых народаў толькі раздражняе апетыт, але не задавольвае

прагнасці драпежнікаў. Ім трэба шмат — мора чалавечай крыві. Прагнасць і боязнь таго, што здабыча можа выслізнуць з іх кіпцюроў, падганяе іх дзейнічаць як найхутчэй і надае ім надзвычайную актыўнасць. На скорую руку яны пякуць ваенныя саюзы і пакты, накіраваныя супраць краіны сацыялізма, якая з'яўляецца перашкодай на шляху ажыццяўлення іх злачынных планаў. Хто з халуёў хістаецца або, прадаючы інтарэсы свайго народа, спрабуе таргавацца, каб выгаргаваць лішні срэбранік, таго гаспадары з Уол-стрыта заганяюць у саюз выспяткамі і штурханцамі.

Урэшце, ахвотнікаў прадаць свой народ за амерыканскія долары знаходзіцца нямала. На гэта вельмі скваннымі аказаліся сацыял-здраднікі тыпу Этлі, Бевіна, Шумана, Блюма, Спаака, Ланге. Яны доўга не таргуюцца і прытрымліваюцца рыначных цэн, устаноўленых яшчэ Юдам. Гандаль ідзе так бойка, што член амерыканскага кангрэса лічыць, што народы Еўропы ўжо ў яго кішэні. У сваёй афіцыйнай прамове ён заявіў, што за амерыканцаў (чытай — амерыканскіх імперыялістаў) з Савецкім Саюзам будуць ваяваць іншыя народы. Відаць, наконт гэтага амерыканскія імперыялісты атрымалі цвёрдыя запэўненні ад тых еўрапейскіх дзеячаў, якім выплачвалі срэбранікі, але паны імперыялісты забыліся запытацца ў саміх народаў, ці згодны яны быць гарматным мясам і ці гатовы яны памерці за інтарэсы мільярдэраў.

Рашучым адказам на спадзяванні падпальшчыкаў вайны з'явіўся Сусветны кангрэс прыхільнікаў міру, які нядаўна адбыўся ў Парыжы і ў Празе. Гэты кангрэс паказаў, што фронт міру праходзіць не толькі па дзяржаўнай мяжы, якая аддзяляе Савецкі Саюз і краіны народнай дэмакратыі ад капіталістычнага Захаду. Ён пераразае кожную капіталістычную краіну, аддзяляючы кучку драпежнікаў ад масы простага народа. Шэсцьсот мільёнаў простых людзей вуснамі сваіх прадстаўнікоў заявілі на ўвесь голас, што яны не хочуць вайны і нязгодны паміраць за сусветнае панаванне амерыканскіх капіталістаў, што яны актыўна будуць змагацца за тое, каб сарваць злачынныя замыслы імперыялістычнай зграі. А калі вайна ўсё ж будзе развязана, яны не будуць у ёй удзельнічаць і прыкладуць усе захады, каб хутчэй з ёю пакончыць. На трыбуне змянялі адзін другога прадстаўнікі 72 краін, пасланцы розных народаў і рас. Рознасць моў і неаднолькавы колер скуры не перашкодзілі ім быць аднадушнымі ў сваім гнеўным пратэсце супраць падпальшчыкаў вайны. Калі на трыбуну ўзышоў выдатны

прадстаўнік амерыканскіх неграў спявак Поль Робсан, зал прывітаў яго бурнымі воплескамі, выказваючы гэтым сімпатыю да прыгнечаных народаў і гарачы пратэст супраць ілжывай амерыканскай дэмакратыі, супраць расавай дыскрымінацыі і суда Лінча.

Магутна прагучэў на Сусветным кангрэсе голас вялікай Краіны Сацыялізма. Пісьменнік Аляксандр Фадзееў, акадэмік Волгін, маці двух Герояў Савецкага Саюза Любоў Касмадзям'янская, Герой Савецкага Саюза Аляксей Марэсьеў і іншыя савецкія дэлегаты заявілі, што савецкія людзі не хочуць вайны, што мы заняты творчай працай і нам для ажыццяўлення нашых грандыёзных планаў перш за ўсё патрэбен мір, за які мы будзем змагацца ўсімі сродкамі супраць злачынных замыслаў імперыялістаў.

«Няхай ведаюць падпальшчыкі новай вайны,— сказаў глава савецкай дэлегацыі Аляксандр Фадзееў,— народы свету могуць раззлавацца і жорстка пакараць іх».

Савецкі Саюз крочыць у авангардзе ўсіх дэмакратычных сіл і міралюбівых народаў, таму аўтарытэт яго як непахіснага змагара за мір расце з кожным днём. Таму так горача віталі нашых дэлегатаў у Парыжы і ў Празе. Таму з такой злосцю паклёпнічаюць на нашу краіну прадажныя пісакі з лагера падпальшчыкаў вайны.

Удзельнікі Сусветнага кангрэса прыхільнікаў міру абвясцілі Маніфест, у якім сцвярджаецца, што народы перасталі быць пасіўнымі і маюць намер актыўна і канструктыўна змагацца за мір.

«Смеласць і яшчэ раз смеласць у змаганні за мір,— гаворыцца ў Маніфесце.— Мы здолелі згуртавацца. Мы здолелі зразумець адзін аднаго. І мы выказваем нашу гатоўнасць і нашу волю выйграць гэта змаганне за мір — змаганне за жыццё».

Святкуючы гадавіну слаўнай перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, беларускі народ выказвае сваю гатоўнасць усімі сіламі і сродкамі змагацца за мір супраць падпальшчыкаў новай вайны. Мы за мір, бо ведаем, што такое вайна для народа, які з'яўляецца яе ахвярай. На працягу трыццаці апошніх год на беларускі народ тры разы абрушвалася навала агню і жалеза, і самая страшная, якую мы нядаўна перажылі,— навала нямецка-фашысцкіх варвараў. Мы за мір, бо яшчэ свежыя магілы нашых блізкіх і родных, закатаваных фашысцкімі вырадкамі, бо яшчэ нямала трэба палажыць нам працы і сілы, каб узняць з руін нашы гарады і сёлы, знішчаныя вайной. Мы за мір,

бо ваяваць нам няма патрэбы: мы заняты творчай працай, ажыццяўляем сталінскі план аднаўлення і далейшага развіцця нашай гаспадаркі і культуры. Мы за мір, бо мы за жыццё: за тое, каб цвілі сады, каб людзі цешыліся здабыткамі сваёй мірнай працы, каб павялічваліся скарбы нашай сацыялістычнай культуры, каб шчаслівымі раслі нашы дзеці і каб над імі не вісела пагроза смерці ад рукі забойцы.

Беларускі народ, які нядаўна перажыў жахі страшэннай вайны, усёй душой ненавідзіць падпальшчыкаў новай вайны і будзе змагацца за мір усімі сродкамі. Яго не запалохае бразганне зброі новых ахвотнікаў да сусветнага панавання. Ён цвёрда верыць у магутнасць нашай сацыялістычнай Радзімы, у геній вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна, у непераможную сілу соцень мільёнаў простых людзей усяго свету, што ўзняліся на барацьбу за мір.

*1949*

## ПЯТНАДЦАТЬ ПЛОДОТВОРНЫХ ЛЕТ

Состоявшийся недавно Второй съезд писателей Белоруссии подытожил достижения белорусской советской литературы и, в частности, белорусской драматургии за пятнадцать лет, прошедших со времен Первого съезда. За этот период в жизни белорусского народа произошли важнейшие события, имеющие историческое значение.

Вместе с бурным развитием экономики страны, с ростом благосостояния трудящихся росла и развивалась национальная по форме, социалистическая по содержанию белорусская культура. В результате разгрома враждебных группировок — в первую очередь белорусских буржуазных националистов — произошло сплочение писательских сил Белоруссии вокруг родной Коммунистической партии. Это определило дальнейший идейный рост белорусской литературы.

Много было радостного за эти пятнадцать лет в жизни белорусского народа, но немало перенес он горя и страданий. Внезапным ударом враг обрушил на нашу страну шквал огня и стали, учинил над нашим народом чудо-

вищные зверства, уничтожил сотни тысяч лучших людей, разрушил многие города и села. Белорусский народ проявил неслыханное мужество и героизм в борьбе с немецко-фашистскими захватчиками. Отпраздновав славную победу над заклятым врагом, наш народ с энтузиазмом взялся за восстановление и дальнейшее развитие своего хозяйства и культуры и уже достиг в этом деле больших успехов. Поэтому, рассматривая достижения и недостатки одного из литературных жанров — драматургии, мы прежде всего должны ответить на вопрос о том, как она отображала эти важнейшие события в жизни белорусского народа, как драматурги в своих пьесах показали советских людей, их героические подвиги и самоотверженный труд.

Несмотря на несомненные успехи белорусской драматургии, все же нельзя сказать, что она стала достойной нашей великой эпохи. Но мы с полным основанием можем отметить одно ценное качество белорусской драматургии — она была вместе с народом и в дни радости, и в дни тяжелых испытаний.

Отрезок времени, отделяющий нас от Первого съезда писателей Белоруссии, был весьма плодотворным в белорусской драматургии. В эти годы с драматическими произведениями выступили лучшие писатели республики — Якуб Колас, Змитрок Бядуля, Кузьма Чорный, Эдуард Самуйленок, Петро Глебка и другие. В предвоенные годы были написаны значительные пьесы о нашей советской действительности и прошлом нашего народа.

В пьесе «Война войне» («Пламя в окопах») народный поэт Белоруссии Якуб Колас показал один из важнейших этапов революционной борьбы трудящихся — перерастание империалистической войны в войну гражданскую. Петро Глебка в пьесе «Над Березой-рекой» рассказывает о героической борьбе белорусского народа с белопольскими интервентами и воссоздает образ выдающегося большевика, одного из соратников великого Сталина — Серго Орджоникидзе. Теме борьбы с белопольскими интервентами посвящена и пьеса Якуба Коласа «В пущах Полесья», центральным героем которой является легендарный партизан дед Талаш. Кузьма Чорный в пьесе «Отечество» показывает преимущество советского строя перед строем капиталистическим и проводит мысль о том, что подлинным отечеством для трудящихся всего мира является Советский Союз. В пьесе «Гибель волка» Эдуард Самуйленок рисует яркие образы советских людей, показывает их

борьбу с классовым врагом, шпионами и диверсантами за становление колхозов в пограничной полосе. Воссоединению белорусского народа в едином Советском государстве посвящена пьеса Кузьмы Чорного «Иринка».

Пьесы на историческую тему — о крестьянских восстаниях в Белоруссии написали Михась Климкович и Змитрок Бядуля. Виталий Вольский, использовав фольклорный материал, создал веселую комедию «Нестерка», [redacted] которой здоровый рассудок и находчивость героя из народа противопоставляются тупости пана.

Все эти пьесы в свое время были поставлены лучшими театрами Белоруссии и пользовались заслуженным успехом у советского зрителя.

Драматургическому мастерству белорусские драматурги учились у русских классиков — Гоголя, Грибоедова, Чехова, Горького. Пьесы советских драматургов — Тренева, Всеволода Иванова, Билль-Белоцерковского, Погодина, Корнейчука, Симонова, с успехом шедшие [redacted] белорусских театрах, помогали нашим драматургам находить актуальные темы, требовательно относиться к своим произведениям.

Война направила творческий труд белорусских драматургов по новому пути. Нарушилась их творческая связь с эвакуированными [redacted] тыл театрами. Но, находясь в рядах Советской Армии, работая во фронтовой и тыловой печати, драматурги не забывали о своем долге перед советским зрителем. Уже [redacted] первые годы войны были сделаны попытки отобразить [redacted] драматургических произведениях героическую борьбу народа Белоруссии с немецкими захватчиками. Правда, не все эти попытки оказались удачными. Более успешно разработкой этой темы драматурги занялись после того, как героическими усилиями Советской Армии наша земля была очищена от оккупантов. В 1946 году молодой драматург Аркадий Мовзон при творческой помощи Театра имени Янки Купалы написал пьесу «Константин Заслонов». В этой пьесе автор создал правдивый образ лучшего сына белорусского народа, героя-партизана. В значительной мере удались автору и другие образы советских патриотов.

В результате упорного совместного труда театра и драматурга был показан хороший патриотический спектакль, впоследствии отмеченный Сталинской премией.

Однако наряду со значительными успехами в белорусской драматургии было и много недостатков. Появились

пьесы аполитичные и даже идейно порочные. Решение ЦК ВКП(б) о репертуаре драматических театров и мерах по его улучшению со всей остротой поставило вопрос о поднятии идейного и художественного уровня театрального репертуара. Это историческое решение и указания ЦК ВКП(б) помогли белорусским драматургам осознать недостатки своей работы и направить свои усилия на создание ярких, полноценных в идейном и художественном отношении произведений о жизни советского общества.

Было бы неправильно утверждать, что белорусская драматургия уже целиком справилась с этой задачей. Но можно с удовлетворением отметить ее решительный поворот к современной советской тематике и возросшую активность наших драматургов. За последние два года написано значительное количество пьес о героизме белорусского народа в борьбе с немецко-фашистскими захватчиками, о восстановлении городов и колхозов, о борьбе за передовые методы ведения хозяйства. Можно назвать такие пьесы, как «Песнь наших сердец» В. Полесского, «Луч грядущего» В. Витки, «Дорогой гость» Ю. Рудько, «Центральный ход» К. Губаревича и И. Дорского, «Хлеб» И. Гурского, «Свет с востока» П. Глебки, «Вся власть Советам» М. Климковича, «Это было в Минске» А. Кучера, «Зодчие» А. Мовзона, «Цветок Тянь-Шаня» М. Последовича и Н. Горцева, «Алазанская долина» К. Губаревича и И. Дорского и другие.

Знакомство с этими пьесами убеждает нас в том, что белорусские драматурги зорко всматриваются в жизнь, подмечая ведущие тенденции в развитии нашего общества, рост коммунистической сознательности советских людей, гармоническое сочетание личного и общественного в их отношении к труду. Характерной в этом смысле является пьеса В. Полесского, поставленная театром имени Якуба Коласа. На конкретном материале восстановления разрушенного немецкими фашистами города автор раскрывает основную движущую силу в развитии нашего общества — борьбу передового с отсталым.

Этот наиболее типичный конфликт, имеющий место в нашей действительности, лег в основу многих пьес.

Историческая тема тоже не была забыта белорусскими драматургами. Более других в этой области работает Михась Климкович, написавший пьесы «Катерина Жерносек», «Возмездие» и две части трилогии, посвященной Георгию Скорине.

Из пьес, написанных за последнее время, большого внимания заслуживает пьеса П. Глебки «Свет с востока», в которой автор показывает октябрьские события в Белоруссии, рисует образы великих вождей революции — В. И. Ленина и И. В. Сталина.

Как положительное явление надо отметить то, что за последнее время в белорусскую драматургию пришло значительно новое пополнение, принесшее с собой свежее ощущение нашей жизни. Среди молодых драматургов есть люди бесспорно талантливые, о чем свидетельствуют их первые произведения. Правда, не всем молодым авторам удалось целиком справиться с трудностями жанра: некоторые пьесы еще страдают рыхлостью композиции, схематизмом, недостаточно яркой обрисовкой действующих лиц. Но ценными качествами этих произведений являются горячий патриотизм, стремление показать лучшие черты советских людей. Задача наших театров и старшего поколения драматургов — систематически помогать молодым авторам в овладении трудным мастерством драматургического жанра.

Отмечая известные успехи белорусской драматургии, мы не должны забывать о тех серьезных недостатках, которые в ней имеются. Одним из таких недостатков является отсутствие пьес на индустриальную тему. Белорусские драматурги не создали еще ярких произведений о передовых людях советской промышленности — рабочих, инженерах, руководителях предприятий. Некоторые пьесы белорусских драматургов, ценные по своей идее, теряют вследствие их художественного несовершенства. Как ни странно, но на это мало обращает внимания и наша критика. Оставляя в стороне эти вопросы, критики не выполняют прямого указания партии, требующей от драматургов произведений полноценных не только в идейном, но и в художественном отношении. Нельзя представить себе высокоидейное произведение низкого художественного качества, ибо степень художественности произведения — это и есть степень воплощения его идеи в конкретных образах. Глубокое содержание требует яркого, образного выражения и совершенной формы.

Белорусская драматургия находится на верном пути. Об этом свидетельствует ее идейный рост и успешное решение актуальных творческих задач, поставленных партией и советской общественностью, пополнение ее рядов молодыми кадрами.

Белорусские советские драматурги, тесно сплоченные вокруг родной Коммунистической партии, приложат все силы к тому, чтобы создать пьесы, более совершенные в идейном и художественном отношении, способные воспитывать советских людей в духе коммунизма.

*1949*

## ПІСЬМЕННІК-БАЛЬШАВІК

Беларуская савецкая грамадскасць адзначае пяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння аднаго з выдатных беларускіх пісьменнікаў — Міхася Ціханавіча Лынькова.

За паўвека свайго жыцця Міхась Ціханавіч Лынькоў прайшоў вялікі жыццёвы і творчы шлях ад вясковага настаўніка і селькора да выдатнага савецкага пісьменніка і грамадскага дзеяча, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР.

У літаратуру Міхась Лынькоў прыйшоў не пестуном жыцця, не юнаком са школьнай лавы, а сталым працаўніком з фронту сацыялістычнага будаўніцтва, чалавекам з багатым жыццёвым вопытам. Яшчэ ў сваім раннім юнацкім узросце ён пазнаў на ўласным вопыце, што такое беднасць і нястача, прыгнёт і эксплуатацыя, што такое кусок хлеба, запрацаваны ўласным мазалём.

Як актыўны змагар за савецкую ўладу Міхась Лынькоў прайшоў суровую школу грамадзянскай вайны; як камуніст ён з'яўляецца адданым членам партыі, барацьбітом за справу сацыялізма. Партыя ўзброіла яго марксісцка-ленінскім светапоглядам і не раз пасылала на адказныя ўчасткі працы. Перад тым як стаць пісьменнікам, Міхась Лынькоў працаваў ужо адказным рэдактарам бабруйскай акруговай газеты «Камуніст».

Можа, якраз з гэтай прычыны Міхасю Лынькову як пісьменніку не давялося хадзіць у пачынаючых. Ва ўсякім разе, я не памятаю, каб хто калі-небудзь называў яго пачынаючым пісьменнікам. Ужо ў першых яго творах — «Гой», «Над Бугам» і інш.— выявіўся не толькі талент пісьменніка, але і яго грамадская сталасць. Бальшавіцкая партыйнасць была нязменным кіруючым прынцыпам у працы пісьменніка, і таму ў яго творчасці мы не наглядаем

ідэйных зрываў і хістанняў. Гэта творчасць пісьменніка-бальшавіка.

Перамога новага над старым, услаўленне людзей сацыялістычнай працы, вызваленне чалавека ад перажыткаў капіталізма з'яўляюцца асноўнымі матывамі ў творчасці Міхася Лынькова. У цэнтры ўвагі пісьменніка заўсёды знаходзіцца савецкі чалавек, якога мы бачым у працэсе яго росту. Нават калі Міхась Лынькоў малюе ў сваіх творах вобразы крымінальных злачынцаў, дык і ў іх ён знаходзіць зародкі здаровага, грамадска каштоўнага, якое пад уздзеяннем савецкай рэчаіснасці развіваецца, перамагае — і ў выніку чалавек становіцца свядомым савецкім грамадзянінам, актыўным будаўніком сацыялістычнага грамадства. У яго творах ваеннага і пасляваеннага часу знайшлі яркае адлюстраванне гарачы патрыятызм савецкіх людзей, іх высокія маральныя якасці, што з асаблівай сілай праявіліся ў часе Вялікай Айчыннай вайны.

Плённа працуючы ў галіне мастацкай творчасці, Міхась Лынькоў разам з гэтым аддае шмат сіл і часу сваёй грамадскай дзейнасці. Прыйшоўшы ў пісьменніцкае асяроддзе, ён адразу заваяваў аўтарытэт і павагу сярод пісьменнікаў. На працягу доўгага часу Міхась Лынькоў быў старшынёй праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР і паклаў шмат працы, клапоцячыся аб ідэйным і мастацкім росце нашай літаратуры.

Я ад шчырага сэрца віншую свайго сябра па працы Міхася Лынькова са слаўным юбілеем і жадаю яму доўгіх год жыцця і далейшых творчых поспехаў.

*1949*

## НЕСКАРЫСТАНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

Савецкая літаратура, узгадаваная Камуністычнай партыяй,— роднае дзіця савецкага народа. Яна непасрэдная і актыўная ўдзельніца ўсіх велічных спраў нашага народа. Партыя вызначыла ёй месца на пярэдняй лініі змагання за справу камунізма.

Вось чаму партыя так клапоціцца аб ідэйным і мастацкім росце савецкай літаратуры. Кожная пастанова партыі

па ідэалагічных пытаннях уздымае нашу літаратуру яшчэ на адну ступень у яе няспынным росце. Кожная пастанова партыі ачышчае нашу літаратуру ад усяго таго, што ўжо аджыло свой век, ператварылася ў смецце і перашкаджае рухацца наперад.

Іменна кіруючыся ўказаннямі партыі, мы раскрытыкавалі і асудзілі некаторыя ідэйна заганныя творы, якія мелі месца ў нашай літаратуры, выкрылі і асудзілі рэцыдывы нацыяналізму ў некаторых крытычных работах, нанава парагледзелі нашу літаратурную спадчыну і далі ёй больш правільнае асвятленне. У выніку творчая атмасфера ў нашай арганізацыі стала значна чысцейшай. Аб тым, што наша пісьменніцкая арганізацыя не без поспеху змагалася за далейшы рост літаратуры, гавораць і такія факты, як рост нашых маладых пісьменніцкіх кадраў.

І ўсё ж, нягледзячы на ўсе гэтыя бясспрэчныя дасягненні, мы ніяк не можам сказаць, што мы цалкам задаволены нашымі поспехамі. Не можам мы гэтага сказаць па той прычыне, што задачы, якія партыя, народ і само жыццё паставілі перад нашай літаратурай, перавышаюць гэтыя нашы поспехі. У нас яшчэ не напісаны паўнацэнныя мастацкія творы аб героях нашай прамысловасці, не адлюстраваны ў дастатковай меры тыя вялікія падзеі, якія адбываюцца ў заходніх абласцях Беларусі, на што ўказвае нам ЦК КП(б)Б. Мы яшчэ не маем падстаў для таго, каб цалкам быць задаволенымі і якасцю таго, што напісана. Калі ў нас ёсць шмат твораў, якія па праву залічаюцца ў наш актыў, то яшчэ мала твораў, якія з'яўляліся б радаснай падзеяй у нашым творчым жыцці, заваявалі б сабе ўсеагульную любоў і высокую ацэнку шырокага савецкага чытача. Усведамляючы ўсе гэтыя прабелы ў нашай творчасці, мы павінны паставіць сабе пытанне — што нам рабіць, каб з гонарам выканаць пастаўленыя перад намі задачы. Мне думаецца, што адказ на гэта пытанне мы можам знайсці ў герояў нашых твораў, у нашай сацыялістычнай практыцы. Што робяць савецкія людзі на прадпрыемстве, калі яны бачаць, што ўзровень вытворчасці або якасць прадукцыі іх не задавальняе? Яны не ставяць пытанне перад дзяржавай аб зніжэнні плана або аб зніжэнні патрабаванняў да якасці прадукцыі, яны не просяць даць ім больш рабочай сілы і станкоў. Яны перш за ўсё глядзяць, ці зрабілі яны самі ўсё для ўздыму вытворчасці, ці няма ў іх такіх рэзерваў, якія далі б ім магчымасць з гонарам выканаць і перавыканаць свой план.

Мне думаецца, што, ідучы па прыкладу перадавых людзей прамысловасці, і мы маглі б пашукаць у сябе такіх рэзерваў. Такія рэзервы ў нас, напэўна, знойдуцца, калі мы не будзем абмяжоўвацца агульнымі аглядамі літаратуры за пэўны перыяд, а падыдзем індывідуальна да кожнага пісьменніка і паглядзім, што ён зрабіў для падняцця якасці.

Сам па сабе ўзровень мастацкага твора не заўсёды з'яўляецца паказчыкам таго, наколькі пісьменнік выкарыстаў свае творчыя магчымасці. Пры аднолькавай якасці твораў двух пісьменнікаў мы пра аднаго скажам, што ён папрацаваў у сілу сваіх магчымасцей і дабіўся пэўнага поспеху, а другому скажам: «Не, брат, гэта нас не задавальняе. Мы твае магчымасці ведаем,— ты мог бы зрабіць шмат лепш». Я хачу сказаць, што неабходна ўлічваць індывідуальныя магчымасці кожнага пісьменніка, каб меркаваць, працуе ён у поўную меру сваіх сіл і здольнасцей ці не.

У нас ёсць нямала прыкладаў, калі пісьменнікі па-сапраўднаму змагаюцца за якасць літаратуры і дабіваюцца значных вынікаў. Не падкрэсліць гэта — значыць няправільна асвятліць сапраўднае становішча справы. Сярод пісьменнікаў мы знойдзем вельмі мала такіх таварышаў, якія не прыклалі б у гэтым сэнсе пэўных намаганняў і не дабіліся б пэўных поспехаў. Але нават у тых таварышаў, якія дабіліся найбольш значных вынікаў, знойдуцца яшчэ сякія-такія нявыкарыстаныя рэзервы. Каб давесці гэта сваё палажэнне, я хачу патурбаваць нашых найбольш выдатных паэтаў і пісьменнікаў. Возьмем хоць бы Аркадзя Куляшова, які, можа, найбольш плённа змагаўся за якасць у сваёй творчасці і дабіўся значных поспехаў, прымножыўшы здабыткі беларускай паэзіі. У працы Аркадзя Куляшова праявіліся дзве выдатныя якасці, неабходныя кожнаму паэту. Куляшоў узнімае важнейшыя актуальныя палітычныя тэмы, якія хвалююць усю нашу грамадскасць, і вырашае гэтыя важнейшыя тэмы паэтычнымі сродкамі. Я гэта хачу спецыяльна падкрэсліць таму што далёка не ўсе паэты знаходзяць гэтыя сродкі, калі бяруцца вырашаць палітычную тэму. Гэтыя дзве асаблівасці, гарманічна спалучаныя, абумоўліваюць высокую ідэйную і мастацкую якасць яго твораў. Ужо адно гэта спрыяе ўзняццю агульнага ўзроўню нашай паэзіі, бо на яго прыкладзе вучацца маладыя паэты, і не толькі беларускія. Аднак і ў творчасці Аркадзя Куляшова напэўна знойдуцца сякія-такія нявыкарыстаныя магчымасці або незаўважаныя ім недахопы, якія маглі б быць падказаны паэту нашай крытыкай.

Я не бяруся тут даваць якія-небудзь творчыя рэцэпты Куляшову, хачу толькі зазначыць адну асаблівасць у яго творчасці, якая мне кінулася ў вочы. Асаблівасць гэта заключаецца ў тым, што ў аснову кампазіцыі твора Куляшоў часта бярэ якую-небудзь рэч. З гэтай рэччу ён звязвае лёс герояў, праз якіх выяўляе ідэю твора. Такімі рэчамі з'яўляюцца: сцяг — у паэме «Сцяг брыгады», карандаш — у вершы тае ж назвы, ліст — у вершы «Ліст з палону» і ў «Простых людзях», цымбалы, камсамольскі білет, падкова і інш. Гэты прыём з'яўляецца адным са сродкаў паэтычнага праламлення замыслу. Куляшоў умее па-майстэрску ім карыстацца і ў большасці выпадкаў дабіваецца належнага эфекту. Але бываюць выпадкі, калі гэты прыём не зусім сябе апраўдвае і абмяжоўвае магчымасці аўтара. Гэта бывае тады, калі на ўзятую ў аснову кампазіцыі рэч ускладаецца занадта вялікая нагрузка, калі аўтару хочацца больш шырока паказаць рэчаіснасць, паўней выказаць думкі і пачуцці герояў, а рэч не дае магчымасці ўсяго гэтага зрабіць, праз яе нельга ўсяго гэтага апасрэдваць. Тады аўтар вымушаны бывае адрывацца ад жывой рэчаіснасці і пускацца разам з гэтай рэччу ў сферу ірэальнага, дзе ўжо адсутнічае логіка падзей і ўчынкаў, дзе фантазія аўтара з'яўляецца адзіным законам. Талент Куляшова дае яму магчымасць выходзіць са становішча і ў такіх выпадках, але з меншым эфектам. Наогул Куляшоў мае здольнасцьператварыць у паэзію самы, здавалася б, непаэтычны матэрыял. Можа, таму ён не асабліва задумваецца пры выбары аб'екта. З гэтага боку мяне не зусім задавальняе рэчка Пятлянка ў паэме «Новае рэчышча» ў тым сэнсе, што гэта — вельмі малы аб'ект для гераічных намаганняў людзей, а таму і ўсе хваляванні, звязаныя з упарадкаваннем Пятлянкі і з пабудовай электрастанцыі, трацяць у сваёй значнасці.

Па-сапраўднаму змагаецца за якасць у сваёй творчасці і Максім Танк. Сваімі паэтычнымі творамі ён як бы рассоўвае наша прывычнае наваколле, выводзіць чытача на шырокі прастор, адкуль далёка відаць тое, што робіцца на свеце. Яго вершы, як зарніцы, асвятляюць часамі далёкія ад нас геаграфічна, але блізкія нам па духу з'явы і факты. Гэта асаблівасць творчасці Максіма Танка сугучна шырыні нашых поглядаў, нашых інтарэсаў і нашых клопатаў аб лёсе працоўных іншых краін. Але хацелася б, каб, захоўваючы гэту сваю асаблівасць, Максім Танк часцей звяртаўся да паэтычных аб'ектаў, якія знаходзяцца побач з намі

ў нашай сённяшняй рэчаіснасці, каб промні яго паэзіі часцей азаралі вобразы нашых савецкіх людзей, на геранчныя подзвігі якіх са здзіўленнем глядзіць увесь свет. Ад гэтага паэзія Максіма Танка стала б яшчэ больш багатай і шматграннай.

Пятрусь Броўка належыць да тых нашых паэтаў, якія добра адчуваюць пульс жыцця, уважліва прыглядаюцца і прыслухоўваюцца да таго, чым жыве краіна, да яе штодзённага поступу наперад, і гэта знаходзіць непасрэднае адлюстраванне ў яго творчасці. Гэта жывіць яго творчыя замыслы і надае яго паэзіі патрэбную актуальнасць. Я памятаю, як у чэрвені месяцы 1944 года, калі амаль уся наша Беларусь была яшчэ акупіравана, Пятрусь Броўка чытаў нам на беразе Сожа сваю паэму «Ясны кут», прысвечаную аднаўленню краіны. Пасля таго ён напісаў рад значных твораў, у якіх паказаў вобразы савецкіх людзей — будаўнікоў сацыялізма. І ўсё ж Пятрусь Броўка не выкарыстаў у поўнай меры ўсіх сваіх магчымасцей. І ў яго ёсць нявыкарыстаныя рэзервы. Мне здаецца, што гэтыя рэзервы Петрусю Броўку трэба шукаць па лініі больш глыбокага псіхалагічнага раскрыцця вобразаў савецкіх людзей. Я гэта гавару ў тым сэнсе, што побач з многімі паўнакроўнымі вобразамі ў творчасці Петруся Броўкі мы часам сустрэнем і такія, якія не сагрэты ў поўнай меры цяплом паэта. Яны выглядаюць так, нібы сам аўтар толькі нядаўна з імі пазнаёміўся, паспеў пазнаць толькі некаторыя рысы іх характару, мала ведае іх біяграфію і ўсе абставіны іх жыцця. Пры агульнаправільнай і зразумелай нам лініі паводзін гэтых герояў ім часамі не хапае тых малапрыкметных рыс і рысачак, якія робяць вобраз не толькі тыповым, але і індывідуальным, канкрэтным, непаўторным. Гэта бывае не толькі ў Петруся Броўкі, а і ў многіх з нас, калі мы паказваем савецкіх людзей, недастаткова пазнаёміўшыся з імі ў жыцці.

Было б лішнім з майго боку даводзіць, што Міхась Лынькоў з'яўляецца пісьменнікам, які сур'ёзна дбае аб ідэйнай і мастацкай якасці сваіх твораў. Гэта відаць адразу пры першым знаёмстве з раманам «Векапомныя дні». Як па значнасці пастаўленай задачы, так і па важнасці падзей, якія ў ім адлюстроўваюцца, гэты твор Міхася Лынькова стаіць вышэй таго, што напісана ім да гэтага часу. Але я хачу зазначыць, што М. Лынькоў таксама не выкарыстаў усіх магчымасцей для таго, каб раман «Векапомныя дні» не меў тых недахопаў, якія ўжо цяпер мы ў ім заўважаем. Перш за ўсё я маю на ўвазе рыхласць кампазіцыі і празмер-

ную колькасць матэрыялу. Прычынай гэтага недахопу з'яўляецца не толькі тое, што твор шырока ахоплівае падзеі, а і тое, што ў Міхася Лынькова мае месца пэўная недаацэнка пабудовы твора, што ён у некаторай меры паўтарае недахопы свайго рамана «На чырвоных лядах». Перш за ўсё заканамерна паставіць пытанне, *што* аўтар ставіць у цэнтр увагі — паказ падзей, якія адбываліся на Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны, ці паказ людзей, якія былі рухаючай сілай гэтых падзей? Мне могуць сказаць, што гэта ўсё роўна, што падзеі без людзей не бываюць. На самай справе гэта далёка не ўсё роўна. Па-першае, значных і цікавых падзей можна апісаць так многа, што для пісьменніка няма тут пэўнай мяжы. Да таго, што напісана, заўсёды можна дадаць яшчэ адну падзею і працягнуць твор далей. Па-другое, паказваючы падзеі, можна ў кожным паасобным выпадку выводзіць на сцэну новых людзей, якія ўсплываюць на хвалі гэтай падзеі, а потым, што вельмі часта бывае, бясследна знікаюць. Такія персанажы мільгаюць у нас перад вачыма, як выпадковыя сустрэчныя на вуліцы, не пакідаючы глыбокага следу ў нашай душы і ў памяці. Зусім іншая справа, калі аўтар ставіць у цэнтр увагі лёс людзей, праз якіх ён хоча выказаць ідэю твора. Тут ён адразу вызначае сабе пэўныя межы, бо будзе паказваць толькі тыя падзеі, якія дапамогуць яму паўней раскрыць вобразы гэтых людзей. Мне думаецца, што ў рамане «Векапомныя дні» ёсць пэўны нахіл іменна ў бок паказу падзей як такіх. Адгэтуль шмат эпізодаў, якія непасрэдна не маюць дачынення да лёсу асноўных дзеючых асоб, і шмат эпізадычных вобразаў, якія не атрымліваюць свайго належнага развіцця.

Другой прычынай рыхласці з'яўляецца часткова і тое, што Міхась Лынькоў вельмі любіць дэталь. Гэта наогул добрая якасць: без любві да мастацкай дэталі не можа быць сапраўднага пісьменніка. Аднак жа і тут трэба захоўваць меру. Кожная мастацкая дэталь апраўдана тады, калі яна дапамагае раскрыць хоць бы ўскосна асноўны замысел твора. Калі ж яна не мае да гэтага ніякага дачынення, а падаецца толькі таму, што цікавая сама па сабе, тады яна з'яўляецца непатрэбным баластам, які толькі замаруджвае развіццё дзеі і без патрэбы адводзіць увагу чытача ў бок ад асноўнага. Міхась Лынькоў асабліва тады захапляецца дэталлю, калі з'яўляецца магчымасць паказаць тую ці іншую з'яву або асобу з боку камічнага ці, ва ўсякім разе, забаўнага. Калі яму такая магчымасць сустрэнецца па

дарозе, то ён не пашкадуе адвесці для гэтага пяць-шэсць старонак.

Падагульняючы сказанае, я хачу яшчэ раз падкрэсліць, што мы яшчэ далёка не выканалі пастаўленых перад намі задач па ўзняццю ідэйнай і мастацкай якасці нашых твораў. Не выканалі не таму, што ў нас няма больш для гэтага магчымасцей, а, галоўным чынам, таму, што мы не поўнасцю выкарыстоўваем свае магчымасці.

*1950*

## ВЫДАТНЫ ПІСЬМЕННІК І ЧАЛАВЕК

«Пісьменнік вялікай душы»,— кажуць пра Кузьму Чорнага людзі, якія добра ведаюць яго творы. А той, каму давялося сустракацца з ім у жыцці, хто бачыў яго ў часе працы і ў часе адпачынку, за пісьмовым ці за бяседным сталом, скажа яшчэ, што ён быў цудоўным чалавекам, крыштальна чыстым у сваіх адносінах да людзей і да сваіх грамадскіх абавязкаў.

Вялікі знаўца чалавечай душы, ён умеў падмячаць самыя няўлоўныя яе праяўленні і пасля, ці то ў мастацкім творы, ці ў жывым апавяданні, умеў трапна, яскрава, найчасцей з уласцівым яму гумарам, перадаць свае назіранні. Чалавек, пра якога ён расказваў, уставаў перад вамі як жывы, з усімі сваімі характэрнымі рысамі.

Але не за адну гэту, дарэчы сказаць, вельмі каштоўную для пісьменніка якасць палюбіў савецкі чытач творы Кузьмы Чорнага, а перш за ўсё за глыбокія думкі і пачуцці, якія ў іх закладзены. Нават у самых «забаўных» з вонкавага боку яго апавяданнях вы сустрэнеце тое, што вас глыбока зацікавіць і ўсхвалюе, бо пісьменнік закранае ў іх жыццёва важныя пытанні і раскрывае істотныя бакі характару і псіхікі сваіх герояў.

Дзяцінства і юнацтва пісьменніка прайшлі ў дарэвалюцыйныя часы. Сын батрака, Кузьма Чорны з малых год наглядаў гаротнае жыццё вясковай беднаты і сам зазнаў усе нягоды гэтага жабрацкага жыцця. Уражанні юнацкіх год надоўга засталіся ў яго чулай душы і сталі зместам першых яго апавяданняў.

Чалавек, пакрыўджаны і прыбіты сацыяльнай несправядлівасцю, але багаты сваім унутраным зместам, моцнымі пачуццямі і глыбокімі перажываннямі, з'яўляецца адной з цэнтральных фігур першага этапу творчасці Кузьмы Чорнага.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя вызваліла працоўнага чалавека ад прыгнёту і эксплуатацыі, але траўмы, нанесеныя звярынымі звычаямі капіталістычнага грамадства, не так хутка зажываюць, і перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей, перш за ўсё пачуццё ўласнасці, прагнасць да нажывы, не так хутка выкараняюцца.

Многія творы Кузьмы Чорнага, і ў тым ліку адзін з лепшых яго твораў — раман «Трэцяе пакаленне», прысвечаны паказу таго, як свядомасць простага чалавека паступова ачышчаецца ад смугі поглядаў і звычаяў капіталістычнага грамадства, як абломкі эксплуататарскіх класаў, нягледзячы на ўсю сваю звярыную лютасць, аказваюцца бяссільнымі перад новым савецкім чалавекам і вымушаны сысці са сцэны, каб назаўсёды адысці ў нябыт.

Поспехі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, вялікія дасягненні беларускага народа на гаспадарчым і культурным фронце адкрывалі перад пісьменнікам новыя гарызонты і перспектывы. На абноўленай роднай зямлі ён убачыў новых людзей, душу якіх не верадзілі старыя раны, нанесеныя капіталістычным ладам, не зацямнялі свядомасці людзей, узрошчаных Камуністычнай партыяй і савецкай уладай, старыя звычаі і забабоны. Творчасць пісьменніка ўзбагацілася новымі вобразамі. Гэта вобразы лепшых людзей савецкай прамысловасці, якія ўсвядомілі ўсю веліч задач сацыялістычнага будаўніцтва і для якіх праца стала справай славы, доблесці і геройства; гэта таксама вобразы перадавых людзей савецкай вёскі, якія не толькі самі пазналі ўсю перавагу калгаснага ладу, але арганізуюць і вядуць за сабой іншых, хто яшчэ хістаецца, азіраючыся на сваю аднаасобніцкую палоску.

Раскрыццю душы працоўнага чалавека ў працэсе яго росту прысвечаны шмат якія творы Кузьмы Чорнага. Разам з тым творчую ўвагу мастака прыцягваў гістарычны лёс беларускага народа, яго цяжкая мінуўшчына і светлая будучыня. Пісьменніка асабліва хваляваў лёс тае часткі беларускага народа, якая ў сілу гістарычнай несправядлівасці да 1939 года не была вызвалена ад кайданоў няволі. Непасрэдная блізкасць граніцы ад родных мясцін

пісьменніка і шматлікія іншыя факты штодзённа напаміналі яму аб тым, што побач з намі існуе іншы, драпежны і варожы нам, свет, што амаль палова беларускага народа пакутуе яшчэ пад прыгнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў. Невыпадкова першае сваё апавяданне «На граніцы» пісьменнік прысвяціў гэтаму хвалюючаму пытанню. У далейшым ён не раз, у многіх сваіх творах, так ці іначай закранаў гэту тэму. Пакуты беларускіх працоўных пад прыгнётам панскай Польшчы і радасны момант іх вызвалення найбольш яскрава паказаны пісьменнікам у глыбока прачулай п'есе «Ірынка».

Кузьма Чорны горача любіў сваю вялікую Савецкую Радзіму, радаваўся таму, што беларускі народ, уз'яднаны ў адзінай савецкай дзяржаве, з кожным днём прымнажае свае поспехі і дасягненні. І калі фашысцкія драпежнікі, раптоўна напаўшы, часова акупіравалі тэрыторыю Беларусі і залілі беларускую зямлю крывёю нявінных людзей, пісьменнік балюча гэта перажываў. З першага дня Айчыннай вайны ён аддае ўсе свае сілы і здольнасці барацьбе з заклятым ворагам. Яго выдатныя апавяданні гэтага часу — «Вялікае сэрца», «Бацька», «Маленькая жанчына» і іншыя — паказваюць мужнасць і гераізм беларускага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, прасякнуты вялікай любоўю да Савецкай Радзімы і гарачай нянавісцю да ворага.

Цяжкая хвароба ў часе вайны надламала сілы пісьменніка, але не спыніла яго творчага гарэння. Перамагаючы хваробу, ён працаваў над новымі буйнымі творамі — «Вялікі дзень», «Скіп'ёўскі лес». Пісьменнік не расставаўся са сваёй запаветнай марай — напісаць серыю раманаў і аповесцей, каб у мастацкіх вобразах адлюстраваць гісторыю беларускага народа ад паншчыны і да нашых дзён. Заўчасная смерць не дала яму ажыццявіць гэту вялікую і высакародную задуму, але і тое, што ён зрабіў за 21 год творчай працы, з'яўляецца багатым укладам у скарбніцу беларускай савецкай літаратуры і каштоўным здабыткам нашага народа.

Сёння, калі савецкая грамадскасць адзначыла пяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння Кузьмы Чорнага, мы з асаблівай цеплынёй успамінаем светлы вобраз гэтага выдатнага пісьменніка і чалавека, які ўсё сваё жыццё і талент аддаў на карысць народа.

*1950*

## ВОЙНЕ НЕ БЫТЬ!

С мыслью о жизни, а не о смерти, о мире, а не о войне ведет советский народ великое строительство, украшая жизнь героическим созидательным трудом своим.

Мне, жителю Минска, радостно видеть, как из пепла и развалин встает [redacted] новой красе столица Советской Белоруссии. Еще совсем недавно площадь перед окнами моего дома представляла заросший пустырь. И вот пустырь стал на глазах преображаться. Сначала пришли экскаваторы и вереницы самосвалов. Они вычерпали сотни кубометров земли, приготовленной для строительства. Потом другие машины заровняли ямы и взрыхлили землю, словно под посев.

А [redacted] один из воскресных дней площадь огласилась веселыми, звонкими голосами. Это советские хлопцы [redacted] дивчата-студенты, не знаю, какого из минских институтов,— вышли на воскресник. Дружно взялись они за лопаты, и комья свежей земли замелькали [redacted] воздухе. Через несколько дней здесь «вырастет» новый парк. Сбегая по бугру вниз, ряды взрослых лип устремятся к главной магистрали города — Советской улице.

Строительством охвачен весь город, каждый его квартал.

Главная магистраль! Шесть лет назад мы только мечтали о ней, пробираясь среди развалин, [redacted] которые фашистские изверги превратили столицу Белоруссии. Теперь эта магистраль существует в действительности, блистая новыми красивыми домами, асфальтом, зелеными насаждениями. Еще не законченная, она уже преобразила лицо города, придала ему подлинно столичный вид.

Рядом на одной из центральных площадей раскинулась выставка промышленности БССР. Экспонаты ее красноречиво говорят о том, как далеко шагнула промышленность Белоруссии за послевоенную сталинскую пятилетку. Здесь выставлены такие экспонаты, какими до войны Белоруссия не могла похвастать: ковры, тонкосуконные ткани, велосипеды, локомобили, автомобили. Это продукция новых заводов и фабрик, построенных в Белоруссии после войны.

Великая сталинская программа преобразования природы — ярчайшее выражение мудрости нашей партии и гения великого вождя народов товарища Сталина, мощи нашей социалистической Родины и непреклонной воли советских людей строить мир, счастье на земле.

Радуясь достигнутым успехам и вдохновляясь на новые трудовые подвиги, советские люди полны решимости отстоять дело мира во всем мире от черных сил войны и разрушения. Жаждущие крови атомщики готовы весь земной шар залить человеческой кровью, чтобы обеспечить себе возможность насилия и грабежа в мировом масштабе. Уже льется кровь. Американские бомбовозы стирают с лица земли города и села корейского народа, героически борющегося за свою свободу и независимость. Такими же зверствами американские империалисты готовы угрожать каждому народу, который строит жизнь по своему усмотрению.

Но есть на свете сила, способная надеть смирительную рубашку на буйнопомешанных. Все взрослое население Советского Союза и сотни миллионов простых людей всего мира подписались под Стокгольмским Воззванием. Дружные усилия честных людей на всем земном шаре не позволят поджигателям войны осуществить их кровавые замыслы.

*1950*

## АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У гэтым артыкуле я хачу закрануць некаторыя пытанні беларускай мовы, якія хвалююць не толькі мяне, але і іншых пісьменнікаў. Перш за ўсё мы павінны ясна ўразумець сучасны стан нашай мовы і яе будучы лёс. Не можам мы абмінуць і такога пытання, як дачыненні беларускай мовы з іншымі мовамі. Нам неабходна таксама мець больш яснае ўяўленне аб тым, як фарміравалася і развівалася наша літаратурная мова, які яе цяперашні стан і ў якіх адносінах яна знаходзіцца да агульнанароднай беларускай мовы. Гэта дапаможа нам з большым поспехам ствараць нацыянальную па форме і сацыялістычную па зместу беларускую культуру. Гэта дапаможа пісьменніку вырашаць чыста прафесіянальныя пытанні, пытанні стылю, каларыту мовы, індывідуальнай мовы персанажаў; дапамо-

жа вызначыць яго адносіны да дыялектызмаў, архаізмаў, наватвораў, запазычанняў. Мы павінны яшчэ раз паглядзець і на наш правапіс, каб высветліць, што ў ім сапраўды патрабуе ўдакладнення і ўдасканалення.

Перш за ўсё я хачу спыніцца на пытанні аб паходжанні беларускай мовы.

Калі мы звернемся да гісторыі беларускага народа, дык яна цалкам пацвярджае думку аб адзінстве паходжання ўсходнеславянскіх моў. Некалі продкі беларусаў разам з продкамі рускіх і ўкраінцаў жылі ў адной дзяржаве — Кіеўскай Русі. Яны складалі адзіную рускую народнасць з адзінай агульнанароднай мовай пры наяўнасці пэўных тэрытарыяльных дыялектаў. Аб гэтым сведчыць такі выдатны помнік старажытнай Русі, як «Слова аб палку Ігаравым». Як вядома, вучоныя нямала спрачаліся аб тым, якому народу належыць гэты помнік — рускім, украінцам ці беларусам. Кожны лічыў яго сваім. Гэта значыць, што граматычны лад і асноўны слоўнікавы фонд мовы, якой напісаны гэты твор, з'яўляецца родным для кожнай усходнеславянскай мовы. Іначай кажучы, твор быў напісаны не на якім-небудзь кіеўскім, тураўскім або полацкім дыялекце, а на агульнанароднай рускай мове, хоць пэўны дыялект і быў паложаны ў аснову гэтай мовы.

У далейшым Кіеўская Русь у сілу пэўных прычын распалася на паасобныя часткі. Палітычныя і эканамічныя сувязі паміж гэтымі часткамі парушыліся. Тэрыторыя сучаснай Беларусі трапіла ў склад Вялікага Літоўскага княства і была аддзелена дзяржаўнай мяжой ад усходніх рускіх зямель. У гэтых умовах складалася адзіная беларуская народнасць, фарміравалася адзіная агульнанародная беларуская мова. Перыяд гэты прыпадае ў асноўным на чатырнаццатае, пятнаццатае і шаснаццатае стагоддзі. Вучоныя лічаць зусім магчымым, што калі б старажытная Руская дзяржава не распалася, калі б яе насельніцтва і далей жыло разам, то замест сучасных трох моў — рускай, украінскай і беларускай — склалася б адна агульная для гэтых народаў нацыянальная мова.

Своеасаблівы стан беларускай мовы ў часы Вялікага Літоўскага княства характарызуецца тым, што яна стала афіцыйнай пісьмовай мовай. На ёй вялася дыпламатычная перапіска, пісаліся дзяржаўныя законы і грамадзянскія акты. Тлумачыцца гэта, відавочна, тым, што ў літоўцаў у той час яшчэ не было сваё пісьменнасці. Зразумела, што беларуская мова, як афіцыйная пісьмовая, не магла праслe-

давацца з боку літоўскіх князёў. Стварыліся пэўныя ўмовы для развіцця беларускай пісьменнасці. Вось гэту акалічнасць буржуазныя нацыяналісты ўзвялі ў абсалют і сталі называць літоўскі перыяд у гісторыі Беларусі залатым векам. Ідэалізуючы мінулае беларускага народа ў супрацьлегласць сучаснаму, яны свядома ігнаравалі тую акалічнасць, што простаму народу, прыгоннаму сялянству, цалкам непісьменнаму, жылося ад гэтага нікольki не лягчэй.

Які з тагачасных тэрытарыяльных дыялектаў лёг у аснову агульнанароднай беларускай мовы, сказаць напэўна нельга. Гэта пытанне не даследавана. Аднак ёсць некаторыя падставы меркаваць, што гэту ролю адыграў адзін з мясцовых дыялектаў агульнарускай мовы, у якім маглі захавацца значныя элементы мовы былога племені дрыгавічоў, якое з незапомных часоў жыло на тэрыторыі сучаснай Беларусі, насяляючы цэнтральную прастору яе ад Прыпяці да Заходняй Дзвіны.

Трэба думаць, што пісьмовая мова гэтага перыяду шмат у чым не супадала з жывой гаворкай. У пісьмовай мове захоўваліся традыцыі ранейшай агульнарускай пісьмовай мовы са значнай колькасцю элементаў стараславянскай мовы з яе непаўнагалоснымі формамі.

Элементы мясцовай жывой мовы пранікалі ў пісьмовую пастулова, але што далей, то больш.

Становішча беларускай пісьменнасці рэзка пагоршылася пасля Люблінскай уніі, калі Вялікае Літоўскае княства ўвайшло ў склад Рэчы Паспалітай і польскія магнаты сталі ў ёй кіруючай сілай. Беларуская мова не магла больш заставацца афіцыйнай пісьмовай мовай — у палякаў была свая дзяржаўная мова. Зноў жа, у беларускай мове, як і ў праваслаўі, польскія магнаты бачылі вялікую небяспеку: мова і рэлігія беларускага народа былі яркім сведчаннем яго роднасці з рускім народам. Гэта мела вялікае значэнне асабліва таму, што ў гэты час вяліся войны паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай за беларускія землі. Зразумела, што польскія магнаты ўсімі сіламі намагаліся акаталічыць і апалячыць беларускае насельніцтва, каб замацаваць гэтыя землі за сабой. Беларуская мова падвяргалася праследаванню і нарэшце была забаронена як мова афіцыйная нават у беларускіх землях. У 1697 годзе сеймам быў выдадзены закон, паводле якога дзелаводства ва ўсёй Рэчы Паспалітай павінна было весціся толькі на польскай мове. Гэтым рэпрэсіі не абмяжоўваліся. Яны былі настолькі моцнымі, што далейшае развіццё беларускай пісьменнасці

было спынена на доўгі час. Так, гвалтоўным чынам, польскія магнаты намагаліся зрабіць беларускую мову беспісьменнай, а жывую мову, на якой гаварыў беларускі народ, яны зневажалі, называючы яе хамскай.

А тым часам беларускі народ гаварыў на сваёй роднай мове. Нягледзячы на ўсе праследаванні і зневажанні, мова гэта не толькі жыла, а і развівалася. На ёй ствараліся выдатныя казкі, легенды, песні, прыказкі. Перацярпеўшы стагоддзі прыгнёту і праследавання, яна захавала свой граматычны лад і асноўны слоўнікавы фонд і таму выжыла. Праўда, за гэты час у яе слоўнікавы састаў улілася пэўная колькасць польскіх слоў, але яны не парушылі самабытнасці беларускай мовы. Развіваючыся па законах свайго ўнутранага развіцця, яна падпарадкавала гэтым законам і іншамоўныя словы.

Беларуская літаратура пачала зноў фарміравацца ў XIX стагоддзі, ужо ў новых гістарычных умовах, пад дабратворным уплывам вялікай рускай літаратуры. Зразумела, што беларуская літаратурная мова пасля двухсотгадовага перапынку не магла цяпер быць працягам старой літаратурнай мовы XVII стагоддзя. Занадта шмат часу прайшло, і жывая мова беларускага народа, захаваўшы ў цэлым сваю аснову, усё-такі перацярпела значныя змены, асабліва ў слоўнікавым саставе. Для народа старая літаратурная мова была б мала зразумелай, тым больш і раней, як ужо было сказана, яна не зусім супадала з жывой. Таму зусім зразумела, што на новым этапе базай для развіцця літаратурнай мовы паслужыла не старая літаратурная мова, а жывая гаворка беларускага народа. І гэта тым больш натуральна, што пісьмовая беларуская мова развівалася цяпер пераважна як мова мастацкай і часткова публіцыстычнай літаратуры.

Гэта мова яшчэ не мела літаратурных норм, не мела пісанай граматыкі. Пры наяўнасці агульнанароднай беларускай мовы ў той час яшчэ значнымі былі мясцовыя дыялектныя адрозненні. Зразумела, што пры адсутнасці агульнапрынятых літаратурных норм дыялекты розных мясцовасцей выразна выявіліся ў першых мастацкіх творах XIX стагоддзя. «Энеіда навыварат», напрыклад, носіць на сабе выразныя адзнакі паўночна-ўсходняга дыялекту, у той час як мова Дуніна-Марцінкевіча належыць да паўднёва-заходняга (дакладней — да цэнтральнага) дыялекту з пэўнай колькасцю не ўласцівых агульнанароднай мове паланізмаў як у лексіцы, так і ў сінтаксісе. Значныя сляды

гэтага дыялекту наглядаем мы і ў мове выдатнага паэта XIX стагоддзя Францішка Багушэвіча.

Хутка ў літаратуру прыйшлі такія волаты, як Янка Купала і Якуб Колас, якія ўзнялі беларускую літаратуру на небывалую вышыню. Яны прынеслі ў літаратуру багацце і хараство беларускай народнай мовы, якая пад іх пяром заззяла ўсімі сваімі колерамі. Абодва яны былі прадстаўнікамі цэнтральнай, мінскай гаворкі. Гэта гаворка таксама належыць да паўднёва-заходняга дыялекту, але яна знаходзіцца на мяжы з паўночна-ўсходнім дыялектам. Да гэтай жа моўнай стыхіі належыць і мова Змітрака Бядулі. Дзякуючы цэнтральнаму становішчу сярод іншых беларускіх гаворак гэта гаворка захавала ў сабе найбольш характэрныя асаблівасці беларускай мовы.

Пасля Кастрычніка, калі беларуская літаратура пачала бурна развівацца ў новых, савецкіх умовах, у яе ўлілося новае шматлікае папаўненне, асноўнае ядро якога складалі зноў-такі прадстаўнікі цэнтральнай гаворкі. Не трэба забываць яшчэ і пра тое, што ў першыя гады савецкай улады некаторыя ўсходнія вобласці і раёны не ўваходзілі ў склад Беларускай рэспублікі, а заходнія вобласці былі ўз'яднаны толькі ў 1939 годзе. Зразумела, што ў сілу ўсіх гэтых прычын цэнтральная гаворка са сваімі асаблівасцямі заняла ў літаратуры пануючае становішча і стала нормай беларускай літаратурнай мовы, праўда, ахвяраваўшы некаторымі вузка дыялектнымі асаблівасцямі.

Дарэвалюцыйная беларуская літаратурная мова мела значныя прабелы ў сваім развіцці: яна не мела развітай лексікі спецыяльнага прызначэння — палітычнай, юрыдычнай, адміністратыўна-канцылярскай тэрміналогіі. Тлумачыцца гэта тым, што беларускі народ не меў свае дзяржаўнасці. Беларусы не вялі дыпламатычнай перапіскі, не выдавалі законаў на беларускай мове, не вялі службовай перапіскі; не было і спецыяльнай навуковай тэрміналогіі, бо не было не толькі вышэйшых навучальных і навуковых устаноў, а нават пачатковых школ на беларускай мове; у жывой народнай мове была пэўная сельскагаспадарчая, тэхнічная і вытворчая тэрміналогія, паколькі людзі займаліся сельскай гаспадаркай, рамёствамі, працавалі на заводах і фабрыках. Але і гэта тэрміналогія, асабліва тэхнічная і вытворчая, слаба была прадстаўлена ў літаратурнай мове. Што да дзелавой мовы, дык яна таксама слаба развівалася, бо дакументы, напісаныя на беларускай мове, не мелі юрыдычнай сілы. Была ў народзе свая батанічная і заалагічная

тэрміналогія, але і яна слаба была адлюстравана ў літаратуры, паколькі мастацкая літаратура не мела ў ёй вялікай патрэбы.

Вынікам таго, што беларуская літаратурная мова ўтварылася на аснове жывой беларускай мовы, не прадаўжала традыцый старой беларускай пісьменнасці, з'яўляецца і тая акалічнасць, што ў нашай мове няма старaславянізмаў, слоў царкоўнаславянскай мовы, у той час як у рускай літаратурнай мове, якая развівалася няспынна, захавалася пэўная пераемнасць, і ў ёй гэты пласт лексікі досыць значны: *голова* і *глава, обнять* і *объять, огородить* і *оградить, сторож* і *стража, хоронить* і *хранить, молочный*, але *млечный* (шлях), *млекопитающие.* Гэтыя старaславянізмы ўзбагачаюць рускую мову, даюць магчымасць перадаваць дадатковыя сэнсавыя адценні. Адсутнасць у нас гэтага пласта лексікі мы адчуваем асабліва востра, калі перакладаем з рускай мовы на беларускую. Часта мы не можам знайсці патрэбнага эквіваленту. Механічна перакласці тут нельга. Не скажаш жа — гаспадыня *развалакала* гасцей замест *развлекала.*

Вызвалены Кастрычніцкай рэвалюцыяй беларускі народ упершыню за ўсю гісторыю атрымаў сваю дзяржаўнасць, стаў раўнапраўным народам сярод іншых народаў вялікага Савецкага Саюза, атрымаў неабмежаваныя магчымасці для развіцця свае гаспадаркі, навукі, літаратуры, мастацтва. Перад беларускай мовай як ніколі паўсталі пачэсныя і разам з тым цяжкія задачы: абслугоўваць патрэбы новага ўсебакова развітага сацыялістычнага грамадства. Кожнай новай з'яве ў жыцці народа яна павінна была даць сваё вызначэнне і асэнсаванне, павінна была быць праваднікам перадавых марксісцкіх ідэй у самыя гушчы народа.

Для ўсяго гэтага патрэбна было вялікае папаўненне слоўнікавага саставу беларускай мовы. І сапраўды, за гады савецкай улады ў беларускую літаратурную мову ўлілася вялікая колькасць новых слоў, прапарцыянальна значна большая, чым у рускую мову, якая і раней была ўсебакова развітай мовай. Якім жа чынам папаўняўся слоўнікавы састаў беларускай мовы? Невычарпальнай крыніцай узбагачэння з'явілася для нас мова вялікага рускага народа. Вялікая колькасць слоў, агульных для рускай і беларускай мовы, але па-новаму асэнсаваных або ўтвораных нанава ад адных і тых жа каранёў, была ўзята без ніякіх змен (*ударнік, план, задача, перадавік, серадняк, кулак).* Так-

сама без змен увайшло праз рускую мову шмат слоў іншамоўнага паходжання; сярод іх такія, як *камунізм, сацыялізм, пралетарыят, рэвалюцыя*, сталі агульнанародным здабыткам і ўвайшлі ў асноўны слоўнікавы фонд нашай мовы.

Многа слоў было ўтворана па ўзору рускіх на аснове карэннай беларускай лексікі — *сацспаборніцтва, дасягненні, поспех, вытворчасць, саматужнік, аднаасобнік, грамадскі лад.* Але пэўная частка слоў была механічна перакладзена з рускай мовы. Часамі гэта рабілася на скорую руку, пераклады выходзілі нязграбныя, малазразумелыя, нязручныя для вымаўлення, а то і недакладныя па сэнсу.

У пэўнай меры прылажылі тут сваю руку і беларускія буржуазныя нацыяналісты, якія лічылі, што яны адны маюць манапольнае права клапаціцца аб чыстаце беларускай мовы. А чыстату яны разумелі так, як падказвалі ім іх класавыя інтарэсы. Яны ставілі сабе мэту адарваць Савецкую Беларусь ад адзінай сацыялістычнай радзімы, таму намагаліся ўсялякім чынам адгарадзіць і беларускую мову ад рускай. Для абазначэння паняццяў, звязаных з рэвалюцыяй і сацыялістычным будаўніцтвам, яны бралі словы з архаічнай беларускай лексікі або выдумлялі недарэчныя словы, груба скажаючы значэнне рускіх слоў і абражаючы пачуцці савецкага чалавека. *Пралетарый* па-іхняму *злыдзень, рэвалюцыя — пярэзрынь.*

Многія агульныя словы для рускай і беларускай мовы яны намагаліся выжыць і замяніць іх няўдалымі наватворамі. Па іх слоўніках *рыбак* — гэта *вудаль, тратуар* — *ходнік, працэнт — прыспор, перспектыва — відаль, ерэтык — гарэза, зачатие (пачатак цяжарнасці)* — па-іхняму *панос.* Новыя словы яны часта ўтваралі не на базе асноўнага слоўнікавага фонду беларускай мовы, а на аснове іншамоўнай лексікі.

Увабраўшы ў сябе надзвычай вялікую колькасць новых слоў у адпаведнасці з патрэбамі сацыялістычнага будаўніцтва, беларуская мова значна ўзбагаціла свой слоўнікавы састаў. Паколькі граматычны лад беларускай мовы і яе асноўны слоўнікавы фонд засталіся пры гэтым нязменнымі, то ўся гэта маса новых слоў жыве і рухаецца па законах унутранага развіцця беларускай мовы, не мяняючы яе характару. Зразумела, што ў нашай літаратурнай мове не ўсё яшчэ падагнана, прыцёрта, адшліфавана. Як мы бачылі, у нашу мову трапіла і пэўная колькасць смецця з жарго-

ну буржуазных нацыяналістаў і за кошт няўдалых наватвораў і перакладаў.

Што да смецця, занесенага буржуазнымі нацыяналістамі, то наша мова за апошнія гады ў значнай меры ачысцілася ад яго, аднак пэўная колькасць штучных слоў, якія не так кідаюцца ў вочы і якія нават у літаратуры больш-менш прыжыліся, яшчэ ёсць. Ёсць таксама нямала і няўдалых, механічных перакладаў тых ці іншых слоў. Іх мы ў сваёй практыцы павінны пазбягаць. Перш чым ужыць такое штучнае слова, мы заўсёды павінны звярнуцца да жывой народнай мовы, і яна нас выручыць. У першую чаргу трэба вярнуць правы грамадзянства тым словам, якія здаўна бытавалі як у рускай, так і ў беларускай мове, але былі жывасілам выдалены з літаратурнай мовы. Такіх слоў ёсць шмат. Часта яны адносяцца нават да асноўнага слоўнікавага фонду як рускай, так і беларускай мовы. Мы, напрыклад, пішам *хуткі цягнік*, а народ гаворыць *скоры поезд*. І гэта ніякі не русізм. Словы *скоры, скора* — жывуць у беларускай мове ад пачатку яе ўтварэння, і *поезд* таксама існуе ў мове вельмі даўно. Гэта слова ніколькі не пярэчыць законам беларускай мовы. У нас ёсць нямала аднакарэнных слоў: *язда, пад'езд, з'езд, выезд, раз'езд* і г. д. А слова *цягнік* хоць і ўтворана ад нашага слова *цягнуць*, але асэнсаванне яго ідзе ад польскага *поцёнг*. Такіх слоў ёсць нямала. Такая ж гісторыя атрымалася і са словам *апасацца, апасна*, са словам *загатаваць*, якое скрозь замяняецца словам *нарыхтаваць*. Слова *загатаваць* — карэннае беларускае, а слова *нарыхтаваць* хоць і даўно ў беларускай мове, але яно ўтворана было ў свой час ад нямецкага слова rìchten — *накіроўваць, выраўноўваць*. Дык чаму ж гэтаму запазычанаму слову аддадзена перавага, а слова *загатаваць* пазбаўлена правоў грамадзянства? Я не кажу, што слова *нарыхтаваць* трэба выкінуць. Яно даўно запазычана, стала агульнавядомым і няхай сабе жыве, тым больш што паміж гэтымі двума словамі ёсць і сэнсавая розніца: слова *нарыхтаваць* больш адпавядае рускаму *привести в готовность, снарядить*.

Мы не прапануем выкідаць з нашай мовы іншамоўную лексіку. Тое, што прыйшло ў нашу мову натуральным шляхам, падпарадкавалася яе законам і стала агульнанародным здабыткам,— гэта наша. Выкідаць гэтыя словы — значыць растрачваць народнае дабро, абядняць мову. Мы толькі супраць тых штучных наватвораў або запазычанняў, якіх народ не прымае, бо ў народзе ёсць свае, родныя, даўно

абжытыя словы для абазначэння тых жа паняццяў. Вось за аднаўленне гэтых слоў у літаратурнай мове мы і галасуем.

Наогул ніводная мова ізалявана не жыве, бо не жыве ізалявана народ, які ёю карыстаецца. Яна знаходзіцца ва ўзаемадачыненні з іншымі мовамі. У класавым грамадстве нярэдка мае месца і гвалтоўнае ўздзеянне адной мовы на другую. Кожная мова так ці іначай убірае ў сябе значную колькасць слоў з іншых моў, але яна ад гэтага не траціць свае самабытнасці, калі захоўваецца яе граматычны лад і асноўны слоўнікавы фонд. Так і беларуская мова ўвабрала ў сябе пэўную колькасць польскіх, нямецкіх і літоўскіх слоў, некаторую колькасць лацінскіх, французскіх і іншых чужаземных слоў. Я. Ф. Карскі прыводзіць значную колькасць такіх запазычаных слоў. А хто апрача спецыялістаў скажа, што словы — *венцер, гірса, жвір, свіран*, нават *дзёгаць* — не беларускія, а літоўскія, або словы — *гуз, вапна, склеп, смажыць, трымаць* — не беларускія, а польскія, як лічыць Карскі.

Больш вылучаюцца па свайму гучанню словы нямецкага паходжання, як *гандаль, гвалт, грунт, дах, дрот, ланцуг, лейцы, рахунак*, але і яны не адчуваюцца як чужыя, бо на працягу стагоддзяў жывуць у беларускай мове па яе законах і з'яўляюцца агульнанароднымі словамі.

Гэта стары пласт запазычанай лексікі. Самая большая колькасць іншамоўных слоў прыйшла і прыходзіць у беларускую мову праз рускую, асабліва ў сувязі з распрацоўкай тэрміналогіі.

Што да рускай мовы, дык яна для развіцця беларускай мовы і для беларускай культуры мае асаблівае, выключнае значэнне. Праз рускую мову прыйшло да нас святло вялікіх ідэй марксізма-ленінізма. Праз рускую мову мы далучаемся да вялікай культуры рускага народа — культуры Пушкіна, Талстога, Бялінскага, Чарнышэўскага, Горкага, Маякоўскага. Руская мова з'яўляецца невычарпальнай крыніцай абагачэння нашай беларускай мовы. І яшчэ асаблівае значэнне рускай мовы заключаецца ў тым, што яна ў нашай сацыялістычнай краіне з'яўляецца не толькі нацыянальнай мовай рускай нацыі, яна разам з тым з'яўляецца міжнацыянальнай мовай, мовай зносін. Праз яе адбываецца абмен гаспадарчым і культурным вопытам усіх народаў Савецкага Саюза, і без яе ніводзін савецкі народ не можа абысціся. Пісьменнікі гэта вельмі добра ведаюць са свае ўласнай практыкі. Калі нам трэба перакласці творы, напрыклад, грузінскіх, армянскіх,

эстонскіх, казахскіх ці іншых савецкіх пісьменнікаў, дык мы гэта робім пры дапамозе рускай мовы. Гэтак жа абменьваюцца вопытам дзяржаўныя дзеячы нашай рэспублікі, нашы гаспадарнікі, вучоныя, мастакі. Таму руская мова стала другой роднай мовай для ўсіх народаў Савецкага Саюза і тым больш для нас, бо яна прыходзіцца роднай нам і па паходжанню. Адгэтуль нашы асаблівыя любоўныя адносіны да рускай мовы. Адгэтуль і нашы задачы — знішчыць рэшткі тых штучных перагародак, якімі спрабавалі адгарадзіць беларускую мову ад рускай буржуазныя нацыяналісты.

Але ці азначае гэта, што наогул няма ніякага размежавання паміж беларускай і рускай мовай. Не. Беспрынцыповай, бязладнай мешаніны дапускаць тут ні ў якім разе нельга. Ад гэтай мешаніны нічога добрага не атрымалася б, атрымаўся б толькі жаргон, малазразумелы як для беларуса, так і для рускага. Беларуская мова склалася гістарычна, з'яўляецца мовай беларускай нацыі. Яна мае свой адменны граматычны лад, асноўны слоўнікавы фонд і слоўнікавы састаў. Што да слоўнікавага саставу, то мы і раней папаўнялі яго за кошт больш багатай і роднай нам рускай мовы, і далей таксама будзем гэта рабіць, але не без разбору. Перш за ўсё мы будзем глядзець, ці няма ў нашай мове адпаведнага па значэнню слова. Калі няма, паспрабуем утварыць яго па ўзору рускага на беларускай аснове. А калі і гэта не ўдасца, тады можам узяць рускае слова цалкам. Так мы вельмі часта робім, калі маем справу з навуковай, тэхнічнай і іншай тэрміналогіяй.

Што да граматычнага ладу, дык тут няма патрэбы ў якіх бы там ні было запазычаннях. Граматычны лад нашай мовы настолькі дасканалы, што дае магчымасць пабудаваць любую фразу, выказаць любую думку. Парушэнне граматычнага ладу — гэта парушэнне асновы асноў мовы, і ўсякая мешаніна граматычных форм апрача шкоды нічога не можа прынесці.

Былі ў нас некаторыя гора-мовазнаўцы, якія не маглі дачакацца, каб хутчэй загаварыць ім на сусветнай мове. Яны прапанавалі меры штучнага набліжэння беларускай мовы да рускай, у тым ліку і ў галіне граматыкі. Зразумела, што гэта не мае нічога агульнага з марксізмам. Такія гора-мовазнаўцы не разумеюць сутнасці нацыянальнай палітыкі партыі ў галіне культурнага будаўніцтва, якая накіравана на тое, каб даць магчымасць народам былой царскай Расіі развіць і ўзняць сваю культуру да ўзроўню перадавой

культуры вялікага рускага народа. А культура кожнага савецкага народа можа паспяхова развівацца толькі на яго роднай мове. Адгэтуль і марксісцкая формула аб тым, што ў нас ствараецца культура нацыянальная па форме, сацыялістычная па зместу.

Такім чынам, усякае штучнае фарсіраванне сусветнай мовы, усякае ўшчамленне мовы таго ці іншага народа з'яўляецца шкодным для развіцця яго культуры і несумяшчальным з палітыкай партыі. Да агульначалавечай мовы народы прыйдуць праз росквіт нацыянальных культур і моў, праз узаемны абмен дасягненнямі і ўмацаванне дружбы, пасля таго, як паступова будзе зжыта ўсякае недавер'е паміж народамі — гэты перажытак капіталістычнага грамадства. А хіба штучныя мерапрыемствы для набліжэння да сусветнай мовы могуць спрыяць зжыванню гэтага недавер'я? Наадварот, яны б толькі спрыялі аднаўленню гэтага недавер'я, ажыўленню нацыяналістычных настрояў.

Адгэтуль вынікаюць і адносіны пісьменніка да мовы. Мова з'яўляецца вялікім здабыткам народа. На працягу многіх вякоў яна складалася, узбагачалася, шліфавалася. Без мовы нямысліма ніякая чалавечая дзейнасць. Зразумела, што з боку пісьменніка да гэтага народнага скарбу павінны быць самыя ўважлівыя і любоўныя адносіны. Не псаваць, не раскідаць гэтага народнага дабра, а па меры сіл памнажаць і ўдасканальваць. Пісьменнік не мае ніякіх падстаў заяўляць: гэта мая мова, што хачу, тое і раблю. Такой «маёй» мовы ў пісьменніка няма. Ёсць «мой» стыль, часамі яркі, самабытны, удалы, але ўдалым ён бывае толькі тады, калі не адрываецца ад агульнанароднай мовы, а ўмела выкарыстоўвае яе вялікае багацце.

Былі такія штукары, саманадзейныя людзі, якія спрабавалі стварыць сваю мову, адменную ад народнай, але гэта іх мова аказалася нікому не патрэбнай. Яна не магла абслужыць нават самога вынаходцу, бо калі ён ішоў па ганарар за свае творы, то павінен быў карыстацца агульнанароднай мовай. Са сваёй выдуманай мовай ён не здолеў бы атрымаць ні капейкі.

Былі і ў нашай беларускай літаратуры такія штукары, якія баяліся, хаця б ім не адстаць ад моды, кідаліся ў «заумь», у футурызм, у канструктывізм. Усё гэта былі людзі, якія не клапаціліся, каб тое, што яны пішуць, дайшло да народа. Яны пісалі для вузкага кола сваіх аднадумцаў, якія адны маглі разумець іх жаргон. Мы не будзем прыводзіць

тут прыкладаў і варушыць таго, што адышло ў нябыт разам з носьбітамі гэтых з'яў. Здаровая народная плынь у беларускай літаратуры змыла ўвесь гэты накіп.

Мова пісьменніка — гэта не якая-небудзь асобная мова, адрозная ад народнай. Гэта тая ж самая народная мова, але літаратурна апрацаваная. Апрацоўка патрэбна, бо не ўсё тое, што гаворыцца, можа быць унесена ў літаратуру. На гэта не раз указваў Аляксей Максімавіч Горкі.

Пісьменнік павінен пісаць такою моваю, каб яна кранала чалавечую душу, уздзейнічала на яе. «Сапраўднае хараство мовы, што дзейнічае як сіла,— пісаў Горкі,— ствараецца дакладнасцю, яснасцю, гучнасцю слоў, якія афармляюць карціны, характары, ідэі кніг... Літаратар павінен зразумець, што ён не толькі піша пяром, але — малюе словамі... спрабуе паказаць людзей у няспынным руху, у дзеянні, у бясконцых сутыкненнях паміж сабой, у барацьбе класаў, груп, адзінак».

Вельмі правільна гаварыў аб мове на адным з пісьменніцкіх сходаў народны паэт Беларусі Якуб Колас. «Тварэц мовы — народ,— гаварыў ён.— Задача ж пісьменніка — у фарміраванні, адборы лепшага, у прывядзенні мовы да літаратурных норм. Як бачым, задача не малая. Мы павінны мець мову прыгожую, гучную, простую, але гнуткую і выразную».

Прызнаючы заканамернасць наватвораў, ён казаў: «...трэба смялей ствараць новыя словы і ў патрэбных выпадках звяртацца да запазычання. Але мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе. Значыць, перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі,— а можа, і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта. Пісьменнік, які не працуе над мовай, не клапоціцца аб папаўненні сваіх моўных запасаў, можа стаць перад небяспекай апынуцца за дзвярамі літаратуры».

І ўсе пісьменнікі згодны з тым, што мова мастацкага твора павінна быць прыгожай, яркай, народнай па свайму складу, зразумелай шырокім масам. Але на практыцы не заўсёды так выходзіць. Возьмем хоць бы пытанне аб чыстаце мовы. Пытанне важнае. Мы тут зноў спашлёмся на Аляксея Максімавіча Горкага, які гаварыў: «Барацьба за чыстату, за сэнсавую дакладнасць, за вастрыню мовы ёсць

барацьба за прыладу культуры. Чым вастрэйшая гэта прылада, чым больш дакладна накіравана — тым больш яна пераможная».

Вельмі часта ў нас, гаворачы аб чыстаце мовы, клапоцяцца толькі аб тым, каб у беларускую мову не трапілі словы з іншых моў, у першую чаргу з рускай. Вядома, блытаць лексіку і ўводзіць рускае слова, калі ёсць для гэтага выпадку добрае беларускае, няма ніякай патрэбы, але дрэнна, што пры гэтым часамі забываюць пра іншыя элементы, якія псуюць мову,— архаізмы, правінцыялізмы, няўдалыя наватворы. А самае горшае тое, што пры гэтым амаль ніколі не звяртаюць увагі на граматычны лад мовы, ад якога ў першую чаргу залежыць яе нацыянальны характар. Чытаеш, бывае, той ці іншы твор — здаецца, ніводнага небеларускага слова няма,— відаць, што аўтар пастараўся ў гэтым сэнсе,— а сказ тым часам гучыць не па-беларуску. Атрымліваецца пераклад і то няўдалы, не творчы. У чым справа? Тут мы ўпіраемся ў пытанне, якой мовай чалавек думае. Мыслі чалавека, нават калі яны не выказваюцца, усё роўна набываюць канкрэтнае афармленне ў слове і фразе. А паколькі безнацыянальнай мовы няма, то зразумела, што чалавек мысліць пэўнай нацыянальнай мовай. І вось калі чалавек мысліць адной мовай, а піша другой, дык атрымліваецца прыблізна так: у галаве пісьменніка склалася, напрыклад, руская фраза: *при виде этой картины я впал в уныние.* Перакладаючы на хаду, ён піша «па-беларуску»: *пры выглядзе гэтай карціны я ўпаў у смутак.* А лепш было б сказаць проста: *мне сумна стала, калі я гэта ўбачыў.*

Яшчэ добра было б, каб пісьменнік думаў мовай, скажам, Горкага. Тады і з перакладу што-небудзь лепшае атрымалася б. Але часцей за ўсё такі пісьменнік, не адчуваючы ні адной, ні другой народнай мовы, думае мовай газетнай ці яшчэ горш — канцылярскай. І нічога дзіўнага, калі мы сустрэнем, напрыклад, такую фразу: «На зваротным шляху Галя сустрэла сваю сяброўку і паведаміла ёй, што ў прадажы маюцца булкі». Калі я прачытаю або пачую такую фразу, дык мне тых булак есці ўжо не хочацца.

Гэтыя канцылярызмы больш за ўсё псуюць нашу літаратурную мову, і ім трэба аб'явіць бязлітасную вайну. Больш за ўсё іх у публіцыстычных і крытычных артыкулах.

«Праблемы сацыяльнага неўпарадкавання грамадскіх бедстваў чалавецтва, выкліканых капіталістычным ладам, падмяняюцца ў літаратуры двудушным аплакваннем неда-

сканаласці чалавечага роду і сцвярджэннем яго біялагічнай асуджанасці»,— чытаем мы ў «Полымі», № 11 за мінулы год у артыкуле А. Рашкоўскай.

Чытаеш такую фразу, усё роўна як мякіну жуеш,— ніяк праглынуць не можаш.

Ёсць падобныя перлы і ў нарысах, і ў раманах, нават у вершах.

«Дакладнае вока токара паслужыла каштоўнай дапамогай для канструктараў»,— піша Яфім Садоўскі ў нарысе «Станкабудаўнікі».

Відаць, некаторыя пісьменнікі вывучалі беларускую мову не ў народзе, а толькі па газетах і пратаколах. Нашы часопісы слаба змагаюцца за чыстату і хараство мовы. Асабліва гэта адносіцца да нашага тоўстага часопіса — «Полымя». Надрукавана, напрыклад, у мінулым годзе на яго старонках аповесць Хадкевіча «Рэха ў гарах». Таварыш Хадкевіч здольны пісьменнік, не першы год працуе ў літаратуры і напісаў нядрэнныя творы, але што да мовы, дык трэба проста сказаць, што яна псуе яго творы. Вельмі ж ужо шмат у ёй гэтых канцылярызмаў.

«А ў галаве Паўлы стаяў сапраўдны шум ад калавароту думак. Мазгі працавалі напружана; іх работа ішла ў двух кірунках. Яны штампавалі загадзя завучаныя словы, якімі яна адказвала Фуксу і разам з тым імкнулася хутчэй асэнсаваць становішча». Хіба гэтак можна перадаваць пачуцці жанчыны, якая трапіла ў бяду? Ды ў яе ж не галава, не сэрца, а нейкі механічны цэх, дзе «мазгі штампуюць загадзя завучаныя словы».

«Яна адчула, як кожная часцінка яе істоты напружылася, гатовая да ўсяго, што выпадзе на яе долю». На чыю долю: жанчыны ці часцінкі?

Часта словы ўжываюцца не ў сапраўдным іх значэнні: *захінуўся ў куток, чацвёра жандармаў, упіўся рукамі ў абаранак руля, адштурхнуў газету.*

Я думаю, што таварышу Хадкевічу для асобнага выдання варта было б перапісаць рэч нанава. Прычым трэба кожную фразу прачытаць і падумаць: а ці нельга сказаць тут прасцей,— не па-канцылярску, а больш па-народнаму. Ад гэтага твор шмат выйграе.

Ёсць нямала канцылярызмаў і ў іншых пісьменнікаў: шмат іх у Карпава, ёсць у Мележа, у Кулакоўскага. Алена Васілевіч і Уладзімір Карпаў злоўжываюць неўласцівымі беларускай мове дзеепрыметнікавымі формамі.

*Трымаўшаеся за жыццё дрэва, плач прачнуўшагася малога сына, заіскрыўшыміся вачыма, трэск ламаемых галінак.*

Канцылярызмам трэба аб'явіць самую жорсткую вайну, але на гэтым змаганне за чыстату і хараство мовы не канчаецца. У нас павінны быць выразныя і свядомыя адносіны да такіх рэчаў, як дыялектызмы, архаізмы, наватворы. Ці мае права пісьменнік уводзіць у мову дыялектызм? З'яўляецца агульнапрызнаным, што дыялекты не маюць перспектывы на тое, каб развіцца ў самастойную мову, калі ёсць агульнанародная мова. Яны трацяць сваю самабытнасць, уліваюцца ў агульнанародную мову і знікаюць у ёй. А калі яны ўліваюцца, то зразумела, што некаторая частка слоў пераходзіць у агульнанародную мову, узбагачаючы яе слоўнікавы састаў. Ясна, што пісьменніку няма ніякага сэнсу падтрымліваць тое, што павінна знікнуць, і культываваць дыялект як такі. Але ў асобных выпадках, калі слова пашырана на значнай тэрыторыі, калі яго не хапае ў літаратурнай мове для абазначэння пэўнага паняцця або таго ці іншага адцення, можна ўзяць адпаведнае мясцовае слова і пусціць яго ў літаратурны ўжытак. Наша мова ў параўнанні з рускай яшчэ беднавата адценнямі, і калі такое слова дасць новую фарбу, новае сэнсавае адценне, дык яму можна даць пуцёўку ў жыццё. Але зусім няма патрэбы ўводзіць дыялектызм, калі ёсць адпаведныя агульнанародныя словы. Няма патрэбы пісаць, напрыклад, *махнытка*, калі ёсць *галавешка*. У некаторых мясцовасцях на Палессі пеўняў называюць *кабанамі*, дык не будзем жа мы пісаць *кабаны пяюць*, хоць там іменна так і гавораць.

Такія ж у прынцыпе павінны быць у нас адносіны і да архаізмаў. У працэсе развіцця мовы ў яе ўліваецца пэўная колькасць новых слоў і параўнаўча меншая частка за той жа самы час выпадае, паступова адмірае. Гэта і ёсць архаізмы. І паколькі яны самім ходам развіцця мовы асуджаны на знікненне, дык няма чаго пісьменніку ўпырскваць ім камфару. Але калі мы пішам твор на гістарычную тэму, дык мы без архаізмаў абысціся не здолеем, бо нам прыйдзецца апісваць рэчы і з'явы, якія адышлі ў нябыт, але якія маюць свае назвы. Ёсць і іншыя архаізмы, якія з'яўляюцца вынікам таго, што рэч або з'ява страціла сваю ранейшую назву і набыла новую. Часта гэта словы іншамоўнага паходжання, якія народ замяніў сваімі, роднымі. На нашых вачах зніклі з ужытку такія словы, як *рыды-*

*кюль, цёнгле, пардон, мерсі, стырно.* Аджываюць свой век і такія беларускія словы, як *андарак, камора, калітка* (у сэнсе кашалёк), *аловак* выцясняецца *карандашом, ліст — пісьмом, гарнітур — касцюмам* і г. д. Вядома, робіцца гэта павольна, на працягу, часамі, доўгіх гадоў. Таму і спрэчкі бываюць: аднаму здаецца, што слова памерла ўжо, а другі лічыць, што яно яшчэ жыве і мае шансы на перамогу над словам-супернікам. Бывае часам, што старыя словы ажываюць у новай якасці і выжываюць з мовы новыя словы. У рускай мове даўно вядома такое слова, як *самалёт* (кавёр-самалёт). З'явілася слова *аэраплан* і пачало ўжывацца. Здавалася, што самалёт так і застанецца толькі ў казцы. А гэта слова раптам ажыло і вельмі ўдала змяніла іншамоўнае слова *аэраплан.* Слова *самакат* — таксама з даўніх часоў было ў рускай мове (сані-самакаты), але яму не так пашанцавала, яно не змагло замяніць слова *аўтамабіль.*

Што да новых слоў, дык становішча іх у мове зусім іншае, чым становішча архаізмаў і дыялектызмаў. Большая частка новых слоў прыйшла ў нашу мову з рэвалюцыяй, з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва. Такія словы, як *партыя, рэвалюцыя, камунізм, сацыялізм, ленінізм, сельсавет, пяцігодка, калгас, стаханавец, сацспаборніцтва* і шмат якія іншыя, сталі словамі агульнанароднымі, моцна ўвайшлі ў нашу мову. За гады савецкай улады, як было сказана вышэй, слоўнікавы састаў нашай мовы папоўніўся вялікай колькасцю новых слоў. Гэта наша багацце. Але не дзіва, што сярод тысяч новых слоў знойдуцца дзесяткі няўдалых, выдуманых наспех, утвораных наперакор законам беларускай мовы. Гэтыя словы-неданоскі таксама псуюць мову. Трэба шукаць на іх месца слоў у народнай гаворцы, а калі ўтвараць новыя словы, дык на аснове агульнавядомых народных слоў.

Іншамоўныя словы ў нас не з'яўляюцца праблемай, бо цяпер яны прыходзяць да нас амаль выключна праз рускую мову, такім чынам у значнай меры апрабаванымі. Але ў мастацкую літаратуру іх трэба ўводзіць як мага менш. Уладзімір Ільіч Ленін, клапоцячыся аб чыстаце рускай мовы, пісаў: «Рускую мову мы псуём. Замежныя словы ўжываем без патрэбы. Ужываем іх няправільна. Навошта гаварыць *дефекты,* калі можна сказаць *недочеты,* або *недостатки,* або *пробелы*?.. Калі таму, хто нядаўна навучыўся чытаць, даравальна ўжываць, як навіну, замежныя словы, то літаратарам даравацъ гэтага нельга. Ці не пара

нам аб'явіць вайну ўжыванню замежных слоў без патрэбы?»

Гэтымі ўказаннямі Уладзіміра Ільіча мы павінны кіравацца ў сваёй практычнай працы. Калі ў нас ёсць магчымасць замяніць іншамоўнае слова сваім, родным, агульнавядомым, дык мы павінны гэта зрабіць.

Варта спыніцца тут на некаторых дробных, але вельмі прыкрых з'явах у нашай моўнай практыцы. Мы маем на ўвазе ляпсусы, якія трапілі ў мову праз нечую непісьменнасць і маюць тэндэнцыю замацавацца ў ёй. Часта пішуць і па радыё гавораць *дзякуем вас*, у той час, як пабеларуску спрадвеку гаварылася *дзякуем вам*. Дзеяслоў *дзякаваць* патрабуе давальнага склону, і гэта ведае кожная вясковая бабуля, а некаторыя пісьменнікі гэтага не ведаюць. Вельмі прыкра слухаць, калі гавораць *беларусы́, таварышы́*, у той час, калі трэба гаварыць *белару́сы, тава́рышы*. Гавораць *здары́лася* замест *зда́рылася, спадабаецца* замест *падабаецца*. Гавораць *апрануць кашулю, апрануць штаны*. Вельмі часта няправільна ўжываюць вышэйшую ступень прыметніка: або на польскі лад, напрыклад, *другая частка большая ад першай*, або на рускі лад: *другая частка больш першай*, а па-беларуску трэба сказаць: *другая частка большая за першую*. Такую няправільнасць дапускае і тав. Мележ, калі піша: «Ён меў за плячамі вялікі жыццёвы вопыт, многа больш, чым, напрыклад, камбрыг Ермакоў». Часта блытаюць спражэнні дзеясловаў і пішуць *носюць, косюць* замест — *носяць, косяць*. Зусім дарэмна выжываюць з літаратуры слова *палажыць* і ўжываюць толькі слова *пакласці*, а між тым паміж гэтымі двума словамі ёсць пэўная сэнсавая розніца. Палажыць можна адзін прадмет або некалькі прадметаў у адзін прыём, а пакласці — многа прадметаў, кладучы па адным або часткамі. Такім чынам, яблыкі на стол я магу палажыць, скажам, разам з мяшком і пакласці, выкладаючы па адным, па два.

У каго ж трэба вучыцца законам і хараству беларускай мовы, дзе шукаць тыя скарбы і тыя фарбы, якія патрэбны пісьменніку для стварэння паўнакроўных вобразаў? Услед за Якубам Коласам коратка адкажам — у народа. Той, хто не чуў народнай гаворкі з усім багаццем яе лексікі і фразеалогіі, хто абыякава ставіцца да гэтай найбагацейшай крыніцы, той не зможа ствараць яркіх, паўнакроўных твораў. Узорам таго, як трэба карыстацца гэтым найбагацейшым скарбам, як трэба працаваць над народнай мовай,

каб яна заззяла ўсімі колерамі, з'яўляюцца нашы народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас. У іх трэба вучыцца, як выкарыстаць слова ў сапраўдным яго значэнні, як будаваць фразу, каб яна гучала па-беларуску, была простай, зразумелай і несла ў сабе вялікую думку і пачуццё. Канстанціну Міхайлавічу спрабавалі закідаць часамі, што ў яго ёсць русізмы. Праўда, трапляюцца часамі ў яго русізмы, асабліва ў ранейшых творах. Але ніхто не скажа, што мова Якуба Коласа ад гэтага робіцца не беларускай. Справа ў тым, што запазычаныя словы падпарадкуюцца ў яго ўсім законам беларускай граматыкі і таму не адчуваюцца як іншародныя. Мова Якуба Коласа — гэта сапраўды народная мова, апрацаваная вялікім мастаком.

У творах Янкі Купалы, асабліва на першым этапе яго творчасці, сустракаецца некаторая колькасць паланізмаў. Але як толькі паэт пераканаўся, што яны не пашыраны ў беларускай мове, ён, клапоцячыся аб чыстаце мовы, замяніў іх у далейшых выданнях агульнавядомымі беларускімі словамі. У выніку гэтага адсеяліся такія словы, як *нэндза, твар, шыдэрскі, ружніца, вальчыць, зэмста, ксёнжка, захэнцаць* і інш.

Вельмі харошая мова ў Кузьмы Чорнага. Праўда, сустракаюцца ў яго часамі вузкія дыялектызмы, як *кагадзе, нябога* (у сэнсе — пляменніца) і інш., але іх нямнога, і пісьменнік ужываў іх не для любавання. Гэта былі словы, з якімі ён зжыўся змалку, і для яго яны былі зусім натуральнымі. Мы вельмі ж раілі нашым маладым празаікам, асабліва тым, хто мае нахіл да канцылярызмаў, пабольш чытаць Кузьму Чорнага.

Ёсць у нас яшчэ нямала пісьменнікаў, у якіх харошая, багатая па лексіцы і народная па свайму складу мова. Тут мы можам назваць Глебку, Куляшова, Танка, Броўку, Панчанку, Лужаніна, Брыля, Вялюгіна. Ёсць у кожнага з іх свае недахопы, тыя ці іншыя адхіленні ад літаратурнай мовы, але гэта адхіленні выпадковыя, і іх не так многа. Багатая, але ўжо з вялікай колькасцю адхіленняў ад нормы мова Міхася Лынькова. Гэты пералік можна было б і яшчэ прадоўжыць. На жаль, мы тут не маем магчымасці займацца аналізам мовы паасобных пісьменнікаў.

У заключэнне я хачу спыніцца на пытанні аб правапісе. Ён у нас ужо разы два падпраўляўся, і вось зноў другі год мы гаворым аб неабходнасці яго ўдакладнення, але не маем канкрэтных вынікаў. Гэта значыць, што недахопы ў права-

пісе сапраўды-такі ёсць, але іх не так лёгка выправіць. Асноўны недахоп заключаецца ў тым, што наш правапіс не дае правіл для ўсіх слоў, незалежна ад іх паходжання, і гэтым парушае самыя прынцыпы граматыкі. Як вядома, граматыка дае правілы аб змене слоў, маючы на ўвазе не канкрэтныя словы, а наогул словы без якой-небудзь канкрэтнасці. А наш правапіс патрабуе, каб мы да кожнага слова падыходзілі канкрэтна і ўстанаўлівалі: беларускае гэта слова ці не. Калі беларускі Аляксандр, дык трэба пісаць праз *я*, а не беларускі — праз *е*. А гэта часта і ўстанавіць немагчыма. Ну, добра, мы ведаем, што Александр Македонскі — не беларус, і тут памылкі не зробім. А калі ён не македонскі, а віцебскі або гомельскі? Тут хоць ты едзь у Віцебск ці ў Гомель ды ў пашпарт глядзі, якой ён нацыянальнасці. Тое ж самае з геаграфічнымі назвамі.

У нас іншамоўныя словы не цалкам падпарадкуюцца законам беларускай мовы,— для іх створаны асобныя законы. Гэта ўносіць вялікую блытаніну ў напісанне. Для ўсіх слоў, незалежна ад іх паходжання, павінен існаваць адзін прынцып напісання. Усе запазычаныя словы павінны падпарадкавацца законам беларускай мовы. Праўда, сам прынцып нашага правапісу — у аснове сваёй фанетычны — мае той недахоп, што ў ім на першы план ставіцца фанетыка, а марфалогія — гэты важнейшы элемент мовы — адціснута на задні план. Прычым узаконена ў правапісе нават фанетычная рыса, якая не пашырана на ўсёй тэрыторыі БССР і не ярка выражана,— яканне. А яно якраз і з'яўляецца найбольшай перашкодай для выпрацоўкі адзінага правапісу.

Такім чынам, у нас шмат ёсць моўных пытанняў, дастаткова не асветленых і не вырашаных. Нашы мовазнаўцы павінны працаваць над іх вырашэннем, а нашы пісьменнікі павінны прыкласці ўсе намаганні, каб зрабіць мастацкае слова больш дасканалым, яркім і даходчывым, каб яно спрыяла глыбейшаму раскрыццю думак і пачуццяў савецкага чалавека.

*1951*

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ

Самая старэйшая навучальная ўстанова БССР Беларускі дзяржаўны універсітэт імя Леніна спраўляе свой трыццацігадовы юбілей. Універсітэт быў заснаваны ўскорасці пасля таго, як сціхлі выбухі грамадзянскай вайны, як Савецкая Беларусь была вызвалена Чырвонай Арміяй ад белапольскіх акупантаў. Савецкая краіна толькі што прыступіла да аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі. Нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, Савецкі ўрад на чале з вялікім Леніным знайшоў сродкі для таго, каб адкрыць у Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову. Гэта з'явілася яркім праяўленнем ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, накіраванай на тое, каб узняць культуру раней прыгнечаных народаў да ўзроўню перадавой культуры вялікага рускага народа. Для Беларусі, якая да рэвалюцыі не мела ніводнай вышэйшай навучальнай установы і ніводнай школы на роднай мове, заснаванне Беларускага дзяржаўнага універсітэта з'явілася велізарным фактарам узняцця культурнага ўзроўню народа. Упершыню ў аўдыторыі універсітэта ўступілі дзеці беларускіх рабочых і сялян, маладыя будаўнікі новага жыцця, перад якімі савецкая ўлада шырока адкрыла дзверы да культуры і навукі.

За трыццаць год існавання універсітэта дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат набылі веды ў яго шматлікіх і разнастайных аўдыторыях для таго, каб несці іх у народ, прылажыць да канкрэтнай справы сацыялістычнага будаўніцтва. У які б куток Беларусі мы ні заглянулі, якую б галіну дзейнасці ні ўзялі, усюды мы знойдзем выхаванцаў універсітэта, якія аддаюць свае сілы і веды вялікай справе камунізма. Сярод іх нямала ёсць людзей, якія карыстаюцца заслужанай славай і любоўю нашага народа. Афіцэры і генералы, міністры і адказныя партыйныя работнікі, вучоныя і пісьменнікі — знатныя людзі розных прафесій з цёплым пачуццём і ўдзячнасцю ўспамінаюць сёння той час, калі яны былі студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

За гады савецкай улады беларускі народ, дзякуючы штодзённым клопатам Камуністычнай партыі і асабіста таварыша Сталіна, дзякуючы дапамозе вялікага рускага народа і іншых народаў Савецкага Саюза, дасягнуў велізарных поспехаў у галіне культурнага будаўніцтва. Здаец-

ца, стагоддзі прайшлі з таго часу, калі насельніцтва Беларусі было на 80 працэнтаў непісьменным, калі дзецям працоўных не было доступу не толькі ў вышэйшыя або сярэднія навучальныя ўстановы, калі нават у пачатковыя школы маглі трапіць далёка не ўсе з іх. А прайшлі тым часам не стагоддзі, а ўсяго толькі трыццаць чатыры гады, і сёння Беларусь з'яўляецца краінай суцэльнай пісьменнасці, мае сотні сярэдніх і дзесяткі вышэйшых навучальных устаноў. Сапраўды гіганцкі крок, магчымы толькі ў краіне сацыялізма! Вялікі ўклад у гэту высакародную справу культурнага будаўніцтва ўнёс наш юбіляр — Беларускі дзяржаўны універсітэт імя Леніна.

Які гэта яркі кантраст з тым, што робіцца ў варожым нам лагеры, дзе навука пастаўлена на службу крыважэрным імперыялістам, ахвотнікам нажываць мільёны і мільярды на чалавечай крыві і слязах, дзе рэктарамі універсітэтаў з'яўляюцца адстаўныя генералы, дзе з універсітэцкіх кафедр прапаведуецца містыка, цемрашальства, чалавеканенавісніцтва! Трупнай гніллю патыхае ад гэтай навукі, якая з'яўляецца прадуктам разлажэння аджыўшага свой век капіталістычнага грамадства.

Шчаслівыя нашы савецкія юнакі і дзяўчаты, што ім выпала на долю жыць у сацыялістычнай краіне і карыстаецца здабыткамі самай перадавой у свеце савецкай навукі. Іх навука, якой яны авалодваюць,— навука росквіту, а не заняпаду, жыцця, а не смерці, навука дружбы паміж народамі, а не варожасці і гвалту. Іх прызначэнне — служыць высакароднай справе пабудовы камунізма, да якога вядзе нас вялікі Сталін.

Свята беларускай савецкай культуры, якое мы адзначаем, з'яўляецца і маім асабістым святам. У сценах Беларускага дзяржаўнага універсітэта я, ужо ў сталым узросце, набываў вышэйшую адукацыю, якой не меў магчымасці набыць у свае юнацкія гады.

Я ад усяго сэрца віншую кіраўнікоў, выкладчыкаў і студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна са слаўным трыццацігадовым юбілеем. Жадаю ўсяму калектыву далейшай плённай працы на карысць нашай сацыялістычнай Радзімы. Жадаю вам, мае маладыя сябры — студэнты і студэнткі,— поспехаў у вашай вучобе. Выкарыстоўвайце як мага паўней вялікія магчымасці, якія дала вам савецкая ўлада. Авалодвайце ведамі, каб быць дастойнымі будаўнікамі камунізма.

*1951*

# ПЫТАННІ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

Абмен думкамі паміж людзьмі адбываецца не толькі пры дапамозе жывой гаворкі людзей, але і пры дапамозе пісьма. Пісьмовая мова непамерна расшырае магчымасці зносін паміж людзьмі ў часе і прасторы. Пры дапамозе пісьма мы можам перадаваць свае думкі за тысячы кіламетраў, можам размаўляць адначасова з тысячамі і сотнямі тысяч людзей. Праз пісьмо мы даведваемся, як людзі думалі сотні гадоў таму назад, дзякуючы пісьму думкі нашых сучаснікаў дойдуць да будучых пакаленняў. Адгэтуль зразумела, якое вялікае значэнне мае пісьмовая мова як сродак зносін паміж людзьмі. Гэта значэнне асабліва ўзрасло ў нашу эпоху, у нашай сацыялістычнай краіне — краіне суцэльнай пісьменнасці, дзе пісьмовая мова стала здабыткам кожнага чалавека, магутным сродкам уздыму культурнага ўзроўню народа.

Само сабой зразумела, што пісьмовая мова, як важнейшы сродак зносін паміж людзьмі, павінна мець пэўныя нормы, якія аблягчаюць гэтыя зносіны. Захоўваючы гэтыя нормы, людзі дакладней могуць перадаваць свае думкі на пісьме і лепш разумець напісанае іншымі людзьмі. Адным са сродкаў нармалізацыі пісьмовай мовы з'яўляецца правапіс. Даючы правілы аб напісанні слоў, абавязковыя для ўсіх, хто карыстаецца данай мовай, ён спрыяе аднастайнасці гэтага напісання, больш дакладнай перадачы думак на пісьме, аблягчае разуменне напісанага. Разважаючы аб дадатных якасцях ці аб недахопах таго ці іншага правапісу, мы павінны падыходзіць да яго іменна з гэтага боку — наколькі ён спрыяе нармалізацыі пісьмовай мовы як сродку зносін паміж людзьмі.

Нормы пісьмовай мовы ўстанаўліваюцца не адвольна, а на падставе законаў агульнанароднай мовы, якія ствараліся і ўдасканальваліся на працягу многіх вякоў. Правапіс, як збор арфаграфічных норм, таксама павінен грунтавацца на законах агульнанароднай мовы.

Правапіс — гэта ёсць дагавор пісьменных людзей, узаемнае абавязацельства трымацца пры пісьме ўстаноўленых правіл. А паколькі ў нашай краіне ўсе людзі пісьменныя, то правапіс у нас з'яўляецца справай агульнанароднай. Зацверджаны рашэннем урадавых органаў, ён становіцца абавязковым законам. Таму мы павінны аднесціся да пытання правапісу з найвялікшай адказнасцю.

Падыходзячы канкрэтна да пытання беларускага правапісу, да пытання аб унясенні ў яго тых ці іншых змен, мы перш за ўсё павінны пераканацца ў тым, што гэтыя змены сапраўды неабходны. Змена правапісу — справа складаная і адказная. Яна мае пэўныя ценявыя бакі, звязана з некатырымі накладнымі выдаткамі. Трэба мець на ўвазе, што ўсякае ўнясенне змен у правапіс на нейкі час уносіць пэўныя непаладкі ў пісьмовыя зносіны людзей. Пакуль новы правапіс усталюецца і ўвойдзе ў практыку, пакуль людзі навучацца пісаць па-новаму, непазбежны будзе пэўны разнабой.

Другая важная акалічнасць, пра якую мы не павінны забываць, гэта тое, што змены правапісу звязаны са значнай затратай дзяржаўных сродкаў: у тыраж выходзіць вялікая колькасць кніжнай прадукцыі (у першую чаргу школьныя падручнікі), і гэту прадукцыю трэба друкаваць нанава. Таму на ўнясенне тых ці іншых змен у правапіс можна ісці толькі ў выпадку крайняй патрэбы і пры той умове, калі гэтыя змены дадуць значнае паляпшэнне, калі дасягнутыя вынікі пакрыюць усе накладныя выдаткі.

Ці ёсць у нас такая крайняя патрэба ўносіць змены ў існуючы правапіс?

Матэрыялы па абмеркаванню «Праекта змен і ўдакладненняў беларускага правапісу», надрукаваныя ў «Настаўніцкай газеце», і многія вусныя і пісьмовыя выказванні, звязаныя і не звязаныя з гэтай дыскусіяй, гавораць аб тым, што такая патрэба ёсць. Выклікаецца яна тым, што некаторыя правілы нашага правапісу з'яўляюцца недасканалымі: яны не забяспечваюць аднастайнасці напісання некаторых катэгорый слоў і з'яўляюцца крыніцай разнабою ў друку, перашкаджаюць паспяховаму навучанню дзяцей у школе.

Выправіць недахопы нашага правапісу мы здолеем толькі тады, калі выявім прычыны гэтых недахопаў і здолеем іх ліквідаваць. Што да ўстанаўлення прычын, то тут амаль усе прыходзяць да аднае думкі, што асноўнай крыніцай непаразуменняў і разнабою нашага пісьма ў большасці выпадкаў з'яўляецца супярэчнасць паміж фанетычным і марфалагічным прынцыпам. Фанетычны прынцып, на якім у асноўным грунтуецца беларускі правапіс, пашыран не на ўсе катэгорыі слоў. У адным выпадку правілы беларускага правапісу пашыраюцца на ўсю лексіку, сваю і іншамоўную, без выключэння, у другім — са значнымі выключэннямі, у трэцім — на ўсю лексіку ўсходнеславянскіх моў, у чацвёртым — толькі на беларускую лексіку.

І пакольні немагчыма дакладна адрозніць усе гэтыя катэгорыі слоў адну ад другой, то нават добра пісьменныя людзі, г. зн. людзі, якія добра ведаюць існуючы правапіс, адны і тыя ж самыя словы пішуць па-рознаму.

Калі ў сэнсе ўстанаўлення асноўнай крыніцы недахопаў рознагалоссяў няма, то адносна таго, якім спосабам ліквідаваць гэтыя недахопы, існуюць самыя розныя погляды. Тут што галава, то і розум. Аднак з усіх выказванняў выразна выяўляюцца тры тэндэнцыі.

Адны прапануюць цалкам перайсці на марфалагічны прынцып пісьма. Найбольш рашучым прыхільнікам марфалагічнага прынцыпу з'яўляецца П. Я. Юргілевіч. Ён прапануе ў імя адзінага марфалагічнага прынцыпу адмовіцца ад перадачы на пісьме такіх асаблівасцей беларускай мовы, як *аканне, яканне, дзеканне, цэканне*. У карысць марфалагічнага прынцыпу П. Я. Юргілевіч прыводзіць важкія довады:

1. Пры гэтым прынцыпе слова ва ўсіх формах захоўвае ясную марфалагічную будову.

2. Марфалагічны прынцып надае правапісу ўстойлівасць.

3. Як свае, так і запазычаныя словы пішуцца аднатыпна.

Нельга не згадзіцца, што марфалагічны прынцып сапраўды мае названыя якасці. Аднак такі спосаб вырашэння пытання мае і значныя адмоўныя бакі, аб якіх П. Я. Юргілевіч не гаворыць.

*Па-першае*, пераход на марфалагічны прынцып азначаў бы карэнную ломку існуючага правапісу, пабудаванага ў асноўным на фанетычным прынцыпе. Такая карэнная ломка была б апраўдана тады, калі б мы прызналі, што існуючы правапіс нас цалкам не задавальняе. Аднак усе ці амаль усе пагаджаюцца на тым, што існуючы правапіс нас у асноўным задавальняе, а таму няма неабходнасці ламаць яго карэнным чынам.

*Па-другое*, паслядоўна праведзены марфалагічны прынцып рэзка адмежаваў бы літаратурную мову ад жывой народнай мовы, надаў бы беларускай літаратурнай мове неўласцівае ёй гучанне, бо ліквідаваў бы на пісьме істотныя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы. Народ зацікаўлен не толькі ў тым, каб устанавіць правілы аднатыпнага напісання, але і ў тым, каб слова, напісанае паводле гэтага правіла, гучала як сваё, роднае. Такое слова лягчэй вымаўляецца і лепш успрымаецца, глыбей пранікае ў душу.

Праўда, П. Я. Юргілевіч гэты непазбежны разрыў паміж пісьмовай і жывой мовай выстаўляе як дадатную якасць. Ён кажа, што марфалагічнае пісьмо «дае многа прастору для арфаэпіі». Што гэта значыць — многа прастору для арфаэпіі? Гэта значыць, што мы будзем пісаць вось так, а ты вымаўляй як хочаш, бо адлюстравання на пісьме тыповага для беларускай мовы вымаўлення ты ўсё роўна не знойдзеш.

*Па-трэцяе*, мы не можам не лічыцца і з традыцыяй. Людзі ўжо на працягу дзесяткаў год прывыклі да існуючага правапісу, і ламаць рэзка і без належных падстаў гэтыя прывычкі не такая лёгкая справа.

Нарэшце, нават паслядоўна праведзены марфалагічны прынцып не забяспечвае нас ад блытаніны. Ёсць шмат слоў, у якіх асноўны (этымалагічны) гук так захаваны пад пазнейшымі фанетычнымі напластаваннямі, што мы яго ніяк не можам праясніць. Як, напрыклад, трэба было б пісаць па гэтаму прынцыпу слова *«раўці»*? Відавочна, цераз *э* — *рэўці.* Але як бы мы ні мянялі слова, мы гэтага *э* ніяк не можам выявіць. Пад націскам мы атрымліваем не *э*, а *о (роў, зароў).*

Наогул гэты спосаб вырашэння пытання, які на першы погляд здаецца такім простым і рацыянальным, не ўлічвае таго, што мільёны людзей гавораць і пішуць іначай. А калі правапіс будзе рэзка парушаць моўныя законы і звычкі, да якіх людзі прывыклі змалку, то яны будуць пратэставаць супраць такога правапісу.

Некаторыя таварышы прапануюць іншы, процілеглы, спосаб вырашэння гэтага пытання. Таварыш Шатэрнік, напрыклад, лічыць магчымым пашырыць фанетычны прынцып на ўсю запазычаную лексіку і пісаць *пярон, сязон, ракорд, шадзеўр.* Наўрад ці можна згадзіцца і з такой прапановай. Праўда, паслядоўнае пашырэнне і гэтага прынцыпу на ўсю лексіку спрыяла б большай аднастайнасці напісання, але многія запазычаныя словы страцілі б уласцівае ім аблічча як у сэнсе напісання, так і агульнапрынятага вымаўлення. Асабліва гэта мела б месца пры спалучэнні некалькіх фанетычных асаблівасцей беларускай мовы, напрыклад, акання, дзекання, якання. Паводле гэтага прынцыпу трэба было б пісаць *Ацела, Даніель Дзяфо, Альфонс Дадзе, дзяпо, цяорыя, цяатр, равалюцыя* і інш.

Пераважная большасць таварышаў, якія выказаліся пры абмеркаванні праекта правапісу ў друку або прыслалі ў Інстытут мовазнаўства АН БССР свае заўвагі, тры-

маюцца таго погляду, што карэнная ломка правапісу непатрэбна, а трэба толькі ўдасканаліць або замяніць тыя правілы, якія з'яўляюцца крыніцай разнабою. З большымі ці меншымі адхіленнямі ў бок таго ці іншага прынцыпу яны ўносяць свае прапановы аб тым, як палепшыць існуючы правапіс без карэннай яго ломкі. Прычым часта бывае, што адны лічаць недахопам тое, што другія лічаць дадатным.

Заўвагі і прапановы, зробленыя ў сувязі з абмеркаваннем нашага праекта, указваюць на недахопы, якія ёсць у ім, арыентуюць нас на яго дапрацоўку, падказваюць, у якім кірунку трэба шукаць вырашэння пастаўленай праблемы. Аднак трэба прызнаць, што ўсе прапановы, разам узятыя, не даюць канчатковага вырашэння складаных пытанняў нашага правапісу. Таму з'явілася неабходнасць яшчэ раз паставіць гэтыя пытанні на абмеркаванне шырокай канферэнцыі з тым, каб агульнымі намаганнямі знайсці здавальняючае вырашэнне праблемы ўдасканалення нашага правапісу.

Тут я не маю магчымасці спыніцца на кожнай з унесеных прапаноў. Я лічу толькі неабходным расказаць аб тых меркаваннях, якімі кіравалася Арфаграфічная камісія Акадэміі навук БССР, складаючы «Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу». Гэтыя нашы меркаванні з'яўяцца адначасова і адказам многім таварышам на зробленыя імі прапановы і заўвагі.

Прыступаючы да працы па ўдасканаленню нашага правапісу, мы не маглі не лічыцца з тым, што складаецца ён не ўпершыню, не на голым месцы, і таму ў нас не стаяла пытанне аб выбары прынцыпу. Мы зыходзілі з таго факта, што гэты выбар ужо зроблены, што беларускі правапіс існуе, што ён угрунтаваны ў асноўным на фанетычным прынцыпе. Як і многія таварышы, мы лічым, што наш правапіс не цалкам заганны, што ён у асноўным адпавядае свайму прызначэнню. Недасканалымі з'яўляюцца толькі некаторыя яго правілы. Таму няма патрэбы рабіць карэнную ломку ў імя таго ці іншага прынцыпу, а трэба толькі замяніць ці ўдасканаліць правілы, якія з'яўляюцца крыніцай блытаніны і разнабою.

Адзін з асноўных недахопаў існуючага беларускага правапісу заключаецца ў тым, што большасць правіл, заснаваных на фанетычным прынцыпе, пашыраецца толькі на беларускую лексіку, а словы іншамоўныя пішуцца па марфалагічнаму прынцыпу. Гэты рэзкі падзел нашай лексікі на сваю і іншамоўную дрэнна адбіваецца на развіцці

літаратурнай мовы. Мова, як вядома, развіваецца па ўнутраных законах свайго развіцця, падпарадкуючы гэтым законам і запазычаныя словы. А ў нас запазычаныя словы карыстаюцца правамі экстэрытарыяльнасці. Яны падпарадкуюцца законам нашай марфалогіі, але зусім не прызнаюць законаў фанетыкі і таму, уліўшыся ў беларускую мову, не зліваюцца з ёю канчаткова, а цякуць адасобленай плынню і, пры значнай канцэнтрацыі, надаюць нашай мове неўласцівае ёй гучанне.

Правапіс трэба складаць так, каб ён не вымагаў кожны раз вызначэння канкрэтнага зместу слова або яго паходжання. А наш правапіс вымагае, каб пішучы абавязкова распазнаваў, сваё гэта слова ці іншамоўнае, а паколькі гэта задача часта аказваецца непасільнай, то пішучы застаецца бездапаможным, правапіс яго не выратоўвае. Нават словы, якія мы ўжываем кожны дзень, напрыклад, уласныя імёны — *Сяргей, Аляксандр, Дзем'ян, Валенцін* — мы не ведаем, як пісаць, бо правапіс патрабуе адрозніваць беларускага *Сяргея* і *Валянціна* ад *Сергеяў* і *Валенцінаў* рускіх, украінскіх і іншых нацыянальнасцей. А мы гэтага не можам зрабіць, не запытаўшыся ў самога Сяргея, якой ён нацыянальнасці, або не паглядзеўшы ў яго пашпарт. *Арол* — птушка пішацца з *а*, а *Орол* — горад з *о*, прыметнік *арлоўскі* зноў з *а*, прозвішча *Арлоўскі* — у залежнасці ад нацыянальнасці яго носьбіта. Перш чым напісаць тую ці іншую геаграфічную назву, скажам, *Дзярноўка* або *Цярноўка*, мы павінны раней даведацца, на якой тэрыторыі гэта Дзярноўка знаходзіцца. Калі на беларускай, дык трэба пісаць *Дзярноўка (дз, я)*, калі на рускай або ўкраінскай — *Дерноўка (д, е)*. Ясна, што гэта — нецярпімае становішча, і нам трэба шукаць з яго выхаду.

Выхад трэба шукаць у такім удасканаленні нашага правапісу, каб ён забяспечваў аднастайнае напісанне аднародных слоў незалежна ад іх паходжання. У ідэале трэба імкнуцца да таго, каб кожнаму правілу даць, як кажуць чыгуначнікі, зялёную вуліцу, г. зн., каб яно праходзіла наскрозь праз усю лексіку, як сваю, так і запазычаную.

Складаючы «Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу», Арфаграфічная камісія АН БССР старалася дабіцца таго, каб правілы абмежавальныя сталі агульнымі, скразнымі і каб пры гэтым не парушаліся найбольш характэрныя фанетычныя асаблівасці нашай мовы. Некаторых цяжкасцей, як я ўжо казаў, мы не маглі пераадолець, але становішча, на маю думку, не з'яўляецца безвыходным,

і пры далейшых пошуках пастаўленая мэта можа быць дасягнута.

Цяпер я хачу коратка пракаменціраваць тыя змены і ўдакладненні, якія прапануюцца нашым праектам.

Пачнём з *акання*. Існуючае правіла аб тым, што ненаціскное *о* заўсёды перадаецца праз *а*, мае шэраг дадатных якасцей: яно выразнае і лёгкае для засваення, адлюстроўвае адну з самых істотных асаблівасцей беларускай мовы, пашыраецца на ўсю лексіку, незалежна ад яе паходжання. Таму гэта правіла не з'яўляецца крыніцай разнабою. Разнабой выклікаецца не правілам, а выключэннем з гэтага правіла: тым пунктам існуючага правапісу ўласных імён і геаграфічных назваў, у якім гаворыцца, што пачатковае *о* ў іншамоўных геаграфічных назвах, уласных імёнах і прозвішчах не падлягае аканню. Адгэтуль — *Орол* і *арол*, *Остап* (калі ён рускі або ўкраінец) і *Астап* (калі ён беларус), *Орлоўскі* і *Арлоўскі*, *Огнёўка* і *Агнёўка*. Для таго каб ліквідаваць гэты разнабой, мы прапануем пашырыць правіла аб ненаціскным *о* (аб пераходзе яго ў *а*) на ўсе выпадкі, у тым ліку і на імёны, прозвішчы і геаграфічныя назвы незалежна ад іх паходжання. Выключэнне робіцца толькі для тых слоў, якія маюць на канцы *о* пасля галоснага: *капрычыо, трыо, Більбао, Ватэрлоо* і інш. Мы лічым, што гэта выключэнне досыць дакладнае і ніякіх непаразуменняў не выкліча.

Што датычыцца правапісу ненаціскнога *э*, то трэба адкрыта сказаць, што мы тут не дабіліся пастаўленай мэты: не стварылі скразнога правіла, якое пашырылася б на ўсю лексіку, значыць, не знішчылі і крыніцы разнабою. Паводле існуючага правапісу, *а* замест ненаціскнога *э* пішацца толькі ў сваёй лексіцы, прычым сваёй у адным выпадку лічыцца беларуская, руская і ўкраінская, у другім (у дачыненні да імён, прозвішчаў і геаграфічных назваў) толькі беларуская. Вось тут зноў пачынаецца праблема, як адрозніць сваю лексіку ад іншамоўнай, беларускія імёны ад рускіх і г. д. Зноў мы не ведаем, як пісаць: *Чэрнышэўскі, Шэўчэнка* ці *Чарнышэўскі, Шаўчэнка, Чэрняк* ці *Чарняк, Пісарэў* ці *Пісараў, Шэмякін* ці *Шамякін, Жэрноўка* ці *Жарноўка, Рэмізаўка* ці *Рамізаўка*. Гэтыя ж прозвішчы і геаграфічныя назвы могуць быць і рускімі, і беларускімі, і ўкраінскімі.

Які ж выхад з гэтага становішча раіць Арфаграфічная камісія АН БССР у сваім праекце? Яна раіць: «Ненаціскное *э* перадаваць праз *а* або праз *э* ў залежнасці ад агульнапры-

нятага вымаўлення ў беларускай літаратурнай мове». Гэта, вядома, не выхад. Справа ў тым, што ніхто не ведае, як гэтае ненаціскное *э* ў літаратурнай мове вымаўляецца. Адзін кажа *рэдактар*, а другі — *радактар*, адзін — *рэмонт*, а другі — *рамонт*; гавораць *жэтон* і *жатон*, *адрэс* і *адрас*. Узяўшы ўстаноўку на тое, каб не дзяліць лексікі на сваю і іншамоўную, камісія ў даным выпадку гэтага прынцыпу не вытрымала. Хоць пра гэта прама не гаворыцца, але з прыведзеных прыкладаў падзел на сваю і іншамоўную лексіку выступае досыць выразна. Такім чынам, ні старое, ні новае правіла нас з тупіка не выводзіць.

Тут магчымы два варыянты радыкальнага вырашэння гэтага пытання: або захаваць *э* ў ненаціскным становішчы і ў беларускай лексіцы, або пашырыць аканне на ўсю іншамоўную лексіку. Аднак гук *э*, які наогул з'яўляецца неўласцівым беларускай мове, у ненаціскным становішчы ў беларускіх словах ніколі не вымаўляецца. Пашырэнне экання на беларускую лексіку ў ненаціскным становішчы надало б нашай мове не ўласцівае ёй гучанне. Мы павінны былі б пісаць *жэнчына, жэночы, шэптун, адчэпіся, верэўчаны, кошэчка, дошчэчка*. А за напісаннем пайшло б і вымаўленне. Апрача таго, у шмат якіх выпадках мы не змаглі б дакапацца да этымалагічнага *э*, не звярнуўшыся да рускай, украінскай або польскай мовы. Мы не маглі б растлумачыць, чаму трэба пісаць *чэбор, чэрот, пачэкаць, пацэлунак* і шмат іншых слоў, якія нельга змяніць так, каб націск прыпадаў на няпэўны гук. Нават пад націскам *э* ў закрытых складах не праясняецца, а гучыць як *о*: *жоўты, роў, шоўк*. Тут зноў пачалася б блытаніна: паводле правіла аб ненаціскным *э* трэба было б пісаць *жэўцець, рэўці, шэўкавіца*, а паводле правіла аб ненаціскным *о* (ненаціскное *о* ва ўсіх выпадках перадаецца праз *а*), трэба было б пісаць *жаўцець, раўці, шаўкавіца*. Такім чынам, пашырыўшы эканне ў ненаціскным становішчы на беларускую лексіку, мы толькі замянілі б адну блытаніну другой і надалі б беларускім словам не ўласцівае ім гучанне.

Другі магчымы выхад — пашырыць аканне (на месцы ненаціскнога *э*) на ўсю іншамоўную лексіку. Пры гэтым варыянце зноў мы сустракаемся з тым недахопам, што словы набываюць неўласцівае ім гучанне (ужо не беларускія, а іншамоўныя): *равалюцыя, рамілітарызацыя, раканструкцыя, крадзіт, крацін* (крэтын) і інш. Аднак гэты варыянт лепшы тым, што пры ім мы пазбягаем блытаніны.

Зноў жа, калі пры гэтым іншамоўныя словы часткова трацяць уласцівае ім гучанне, то затое яны набываюць гучанне бліжэйшае да беларускага і такім чынам лягчэй зліваюцца з асноўнай беларускай лексікай. Таму я лічыў бы магчымым, у мэтах стварэння скразнога правіла, пашырыць і ў даным выпадку аканне на ўсю іншамоўную лексіку. (Агаворваюся, што гэта мая асабістая думка, не ўзгодненая з іншымі членамі Арфаграфічнай камісіі.) Пры гэтым, на маю думку, неабходна было б зрабіць выключэнне для слоў, якія пачынаюцца іншамоўнай прыстаўкай *рэ*, і для *э* ў непрыкрытым складзе. Паводле гэтага правіла, мы пісалі б: *Чарнышэўскі, Герцан, Шапятоўка, Чарапавец, Карачаў, Чалябінск, Ераван, Какчатаў, рака, шаптаць, цана, чамадан, цантральны, шарыф, шаўро, жатон, карапандзент.* Але: *Эсхіл, Эстонія, Элада, рэвалюцыя, рэканструкцыя, рэпатрыяцыя, рэтраспектыўны, рэтраград, рэпрадукцыя, рэмілітарызацыя, аэраплан, аэрадром, эліпсіс, экватар, актаэдр, паэтычны.*

Правіла аб яканні ў існуючым правапісе з'яўляецца крыніцай найбольшай колькасці непаразуменняў. На ім мы спатыкаемся пры напісанні ўласных імён і геаграфічных назваў, складаных слоў і слоў іншамоўнага паходжання. Тут перад намі зноў паўстае праблема *Сергея* і *Валенціна, Александра* і *Дзем'яна, Ерміла* і *Еўграфа, Егора* і *Еўціхія, Елены* і *Еўгеніі, Петроўскага* і *Леонава, Елоўкі* і *Вершылаўкі, земляробства* і *землекарыстання.* Прычым усё гэта ўпіраецца ў адзін толькі пункт, дзе гаворыцца, што «галосная *е (ё)* не пад націскам змяняецца на *я* толькі ў першым складзе перад націскам». Паўстае пытанне, ці варта праз адзін гэты склад вечна блытацца паміж Дзям'янам і Ермілам. Калі бліжэй прыгледзецца да справы, дык выходзіць, што не варта. Дарэмна некаторыя таварышы разумеюць справу так, што скасаванне гэтага правіла з'яўляецца замахам на святая святых беларускай мовы.

Некаторыя лічаць, што праблема акання і якання гэта адна праблема і што яе трэба вырашаць аднолькава. Н. Гурскі даводзіць гэта тым, што ў абодвух выпадках мы маем справу з той жа фанемай *е*, толькі ў адным выпадку ў спалучэнні з цвёрдым зычным, а ў другім з мяккім. У тым уся і штука, што лёс гэтай фанемы ў спалучэнні з цвёрдым зычным зусім іншы, чым у спалучэнні з мяккім. У спалучэнні з цвёрдым яна ў ненаціскным становішчы ніколі не вымаўляецца, а праясняецца толькі пад націскам і то не заўсёды, а ў спалучэнні з мяккім яна добра сябе адчувае ва ўсіх становішчах, апрача першага

складу перад націскам. Ды і ў гэтым складзе перад націскам мы, як правіла, не маем выразнага *я.* Яно гучыць то як *і (міне, сібе, німа, ніхай)*, то найчасцей як сярэдні гук паміж *е* і *я*. А пакольки ён сярэдні паміж *е* і *я*, то, бясспрэчна, усе правы павінны быць на баку *е* як гука этымалагічнага, сталага, а не на баку выпадковага, няўстойлівага і не ярка выражанага *я.* Вось мы і лічым, што ад перадачы на пісьме якання ў першым складзе перад націскам можна адмовіцца. Гэтым, з аднаго боку, будзе дасягнута аднастайнасць напісання ўсіх слоў — беларускіх, рускіх і іншамоўных, а з другога — гэтым не будзе нанесена ніякай страты беларускай мове, бо вымаўляцца гэта фанема будзе папранейшаму. Што датычыцца канчаткаў, то яны заўсёды пішуцца аднолькава ва ўсіх словах, праз іх разнабою не бывае, а таму іх можна і не чапаць.

Прапанова Арфаграфічнай камісіі аб правілах акання закранае і існуючае правіла аб рэвалюцыйна-інтэрнацыянальных словах. Мы прапануем не вылучаць гэтых некалькіх слоў у асобную групу, а падпарадкаваць іх напісанне агульнаму правілу аб аканні і пісаць *рэвалюцыя, савет, пралетарый, бальшавік, сацыялізм, камунізм.* Мы лічым існуючае правіла неабгрунтаваным і непатрэбным. Недарэчным з'яўляецца ўжо тое, што гэта правіла змешчана ў раздзеле «Правапіс іншамоўных слоў». У гэтым раздзеле даюцца правілы аб напісанні слоў толькі заходнееўрапейскага паходжання. Ніводнае рускае слова тут не разглядаецца, апрача слоў *совет* і *большэвік*, якія чамусьці залічаны ў іншамоўныя. Якім жа іншамоўным для беларускай мовы з'яўляецца слова *большэвік*, калі яно ўтворана ад агульнага руска-беларускага кораня *больш*? Нашто гэтыя ўсе словы, якія моцна ўвайшлі ў асноўны слоўнікавы фонд беларускай мовы, вылучаць у асобную групу і не падпарадкаваць агульнапрынятаму правапісу? Выходзіць, нібыта яны не могуць быць асвоены беларускай мовай, нібыта яны чужыя для яе, настолькі чужыя, што нават аканне, якое пашырана на ўсю рускую і іншамоўную лексіку, на гэтыя словы не пашыраецца. А між тым гэтыя словы для кожнага беларуса з'яўляюцца такімі ж роднымі, як словы: *мама, галава, душа, розум, сэрца.* Дык і пісаць іх трэба як родныя, каб яны не выглядалі па напісанню і вымаўленню не сваімі.

Існуючае правіла аб *дзеканні* і *цэканні* мы лічым нездавальняючым таму, што яно аддзяляе непраходнай мяжой іншамоўную лексіку ад беларускай. Арфаграфічная камісія прапануе пашырыць дзеканне і цэканне і на

іншамоўную лексіку. Аднак правіла гэта ў праекце недапрацавана. Там сказана: «*д, т* пры мяккім вымаўленні перадаваць праз *дз, ц*; пасля *д, т* цвёрдых пісаць галосныя *а, о, э, у*». Правіла гэта недапрацавана ў тым сэнсе, што апіраецца на вымаўленне, якое само з'яўляецца няпэўным. Да гэтага часу ў іншамоўных словах пісаліся толькі цвёрдыя *д* і *т*, а за пісьмом ішло і вымаўленне. Цяпер, пры пашырэнні мяккага *д, т* на іншамоўную лексіку, неабходна вызначыць, у якіх жа выпадках *д* і *т* застануцца цвёрдымі. У нашым праекце, як выключэнне з агульнага правіла, пералічваюцца дзесяткі два слоў. Але гэтым пытанне не вырашаецца, бо, відавочна, тут ахопліваюцца не ўсе словы, у якіх *д* і *т* вымаўляюцца цвёрда. Такім чынам, правіла яшчэ патрабуе дапрацоўкі.

Што датычыцца напісання *дз* і *ц* у спалучэнні з *і* і *ю*, то яго мы можам пашырыць на ўсю іншамоўную лексіку бадай без ніякіх агаворак і пісаць — *парція, дзірэктар, акціў, дзірыжор, цір, дзюшэс, эцюд* і г. д.

Што да спалучэння мяккага *д* і *т* з *е*, то тут справа больш складаная, паколькі яго паслядоўна праз усю іншамоўную лексіку правесці нельга, бо ёсць шэраг слоў, у якіх *д* і *т* вымаўляюцца цвёрда. Цяжкасць заключаецца ў тым, што няма ніякага прынцыпу, ніякага крытэрыю, паводле якога можна было б адрозніць адну групу слоў ад другой. І на традыцыі вымаўлення ў беларускай мове мы не можам абаперціся, паколькі ранейшую традыцыю мы ломім разам з арфаграфічным правілам.

Адзінае, што мы можам зрабіць,— гэта звярнуцца да норм беларускай мовы. А нормай тут можна лічыць тое, што ў тых выпадках, калі ў беларускай мове існуюць парныя гукі па цвёрдасці і мяккасці, *е* спалучаецца заўсёды з мяккім гукам і ніколі ці амаль ніколі не спалучаецца з цвёрдым. Заўсёды мы маем і ў сваіх і ў іншамоўных словах спалучэнне *бе, ве, ге, ле, ме, не, пе* і ніколі ці вельмі рэдка *бэ, вэ, гэ, лэ, мэ, нэ, пэ.* Гукі *д, т* у беларускай мове таксама з'яўляюцца парнымі па цвёрдасці і мяккасці. Мяккі варыянт іх мы абазначаем праз *дз* і *ц*. У беларускай незапазычанай лексіцы мы заўсёды сустракаем спалучэнне *дзе, це*, а не *дэ, тэ.* Тут няма ніякой прынцыповай розніцы ў параўнанні з *бе, ве, ге, ле, ме, не*, у поўнай меры дзейнічае той жа самы закон спалучэння *е* з мяккім зычным. Адгэтуль вынікае, што спалучэнне *дэ, тэ* ў іншамоўных словах з'яўляецца парушэннем закона нашай мовы. Таму мяккае *д, т (дз, ц)* трэба рашуча пашырыць на ўсю іншамоўную

лексіку, зрабіўшы выключэнне толькі для самай нязначнай колькасці слоў. Прычым нас у гэтых адносінах не павінна бянтэжыць тое, што ў рускай мове ў пэўнай колькасці слоў пасля *д, т* пішацца *э* або *е*, а вымаўляецца *э*. Па-першае, у рускай мове ў гэтых адносінах няма ніякіх правіл ці нават цвёрда ўсталяванай традыцыі. Пішуць *депо* і *дэпо, бекон* і *бэкон, дебош* і *дэбош, леди* і *лэди, кафе* і *кафэ*. Вымаўляюць *тема* і *тэма, профессор* і *профэссор, текст* і *тэкст, атеизм* і *атэизм, дефект* і *дэфект, интервент* і *интэрвент, кодеин* і *кодэин*. Наколькі гэта з'ява чыста выпадковая, відаць з таго, што тая ж самая іншамоўная часціна слова ў рускай мове ў розных словах вымаўляецца па-рознаму: *дэгустатор*, але *декламатор, дэзинсекция*, але *дезинфекция, дэкаграм*, але *декада, дэкаданс*, але *декаденство*.

Па-другое, напісанне з *е* ў рускай мове пашыраецца ўсё больш і больш, выцясняючы напісанне з *э*. Вось чаму ў нас ёсць усе падставы рашуча пашырыць *дзеканне* і *цэканне* і на ўсю іншамоўную лексіку, зрабіўшы выключэнне для некаторых уласных імён, для часцінкі *дэ*, калі яна стаіць асобна *(дэ Бальзак)*, ды яшчэ для невялікай колькасці слоў, напрыклад, *дэндзі, дэрбі, тэсты* і інш.

Некаторыя таварышы падымаюць пытанне аб тым, як абазначаць на пісьме мяккае *д* і *т*, прапануюць адмовіцца ад абазначэння дзекання і цэкання. Для Арфаграфічнай камісіі гэта не з'яўлялася праблемай, паколькі дзеканне і цэканне не перашкаджае аднастайнасці напісання. Прымаючы пад увагу традыцыю і тое, што дзеканне і цэканне з'яўляецца адной з характэрных рыс беларускай мовы, мы лічылі магчымым захаваць гэту асаблівасць і на пісьме.

Існуючае правіла аб *складаных словах* з'яўляецца недасканалым у тым сэнсе, што яно не дае цвёрдага крытэрыю, паводле якога можна было б распазнаваць, калі этымалагічная галосная аднаўляецца ў першай частцы слова. У напісанні першай часткі слова існуе вялікая стракатасць. Калі мы ўзаконім правіла аб тым, што яканне ў першым складзе перад націскам не абазначаецца, то гэтым у значнай меры аблегчым задачу ўдасканалення правіла аб складаных словах. У першай частцы слова *е* заўсёды будзе пісацца на сваім месцы незалежна ад другараднага націску. Для *о* і *э* наш праект прапануе крытэрый асобна ўзятага слова: калі *о* (або *э*) праясняецца ў слове, якое існуе самастойна (у форме назоўнага склону адзіночнага ліку), то гэта *о* (або *э*) праясняецца і тады, калі гэта слова

з'яўляецца першай часткай складанага слова: *мова* — *мовавед, вада — вадаправод, мэта — мэтанакіраванасць.* Гэты крытэрый, на маю думку, з'яўляецца досыць трапным, але ўсё правіла перагружана заўвагамі і пунктамі. Я лічу, што яго можна было б спрасціць, пашырыўшы вышэйназваны крытэрый на ўсе словы, незалежна ад таго, ужываецца ці не ўжываецца першая частка самастойна. Гэта правіла можна было б сфармуліраваць прыблізна так: «Першая або першая і другая часткі складанага слова пішуцца так, як гэтыя часткі пішуцца ў самастойных словах, з якіх яны ўзяты: *роўны* — *роўна*праўны, *гарад*скі — *гар*савет, *кам*уністычны — *кам*партыя, *сацы*ялістычны — *сац*спаборніцтва». Тады зусім не патрэбен быў бы пункт *б* гэтага правіла і выключэнне з гэтага пункта. Заўвагу *2* таксама можна было б скараціць, паколькі ёсць заўвага *3*, якая вырашае пытанне аб злучальных галосных для ўсіх выпадкаў без выключэння.

Нявырашаным у нас застаецца лёс *у*, якое развілося з *в*.

Асаблівасцю беларускай мовы з'яўляецца тое, што гук *в* перад зычным ніколі не вымаўляецца, а пераходзіць у *ў* (нескладовае) або ў *у* (складовае). Гэты закон дзейнічае ва ўсіх выпадках без выключэння *(праўда, ляўша, даўно, плаўна, галоўны, унук, удава, урач, усадзіць, укаціць, улада, Уладзіслаў, Усевалад, Улас, Уладзімір).* Таму мы ў нашым праекце прапануем не рабіць выключэння для ўласных імён, прозвішчаў і геаграфічных назваў, у якіх пачатковае *у* развілося з *в*, пісаць — *Уладзімір, Усевалад, Уладзівасток, Уладзікаўказ* і г. д.

У нашым праекце прапануюцца змены і ўдакладненні некаторых і такіх правіл, недасканаласць якіх не з'яўляецца вынікам супярэчнасці паміж марфалагічным і фанетычным прынцыпам. Тут мы справу маем выключна з марфалогіяй, з недасканалым вызначэннем або з парушэннем існуючых граматычных законаў беларускай мовы.

Перш за ўсё звяртае на сябе нашу ўвагу правапіс назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку. Гэта адно з самых цяжкіх і неўпарадкаваных пытанняў нашага правапісу. Існуючае правіла аб гэтых назоўніках вельмі недасканалае і з'яўляецца крыніцай вялікай блытаніны. Недахоп гэтага правіла заключаецца ў тым, што яно не дае адзінага прынцыпу, паводле якога можна было б аддзяліць адну катэгорыю назоўнікаў ад другой, не дае ніякай знешняй, фармальнай граматычнай адзнакі, якая б дапамагла распазнаць, калі трэба пісаць *а*,

*я*, а калі *у, ю.* Простыя людзі, не звяртаючыся да граматыкі, вельмі тонка адрозніваюць гэтыя дзве катэгоры назоўнікаў і гавораць: *дома, куска*, але *суму, пяску*, а вучоныя лінгвісты ніяк не ўстановяць пэўнага крытэрыю для размежавання гэтых дзвюх катэгорый назоўнікаў. Граматыка не дае ім такой магчымасці, і яны вымушаны звяртацца за дапамогай да семантыкі і адрозніваць адны назоўнікі ад другіх па значэнню слоў. Існуючае правіла абмяжоўваецца тым, што пералічвае некалькі сэнсавых катэгорый назоўнікаў, якія ў родным склоне канчаюцца на *а, я*, і дзве катэгорыі назоўнікаў, якія канчаюцца на *ў, ю.* Але паколькі сэнсавых катэгорый у лексіцы вельмі шмат і пералічыць іх усе немагчыма, то значная частка лексікі правілам не ахоплена. Не ахоплены іменна тыя катэгоры назоўнікаў, якія найбольш цяжка паддаюцца адрозненню. Мы так і не ведаем, якія канчаткі маюць у родным склоне назоўнікі *футбол, спектакль, танец, санет, сеанс, матч, катод* і сотні іншых. Словы *скачок, рывок, штуршок, лівок* як дзеяслоўныя назоўнікі, паводле правіла, павінны былі б пісацца з канчаткам *у*, а мы іх пішам (і зусім слушна) з канчаткам *а.* Словы *кісларод, барый, цынк, фасфарыт* правіла прапануе пісаць з канчаткамі *а, я* (як хімічныя тэрміны), а словы *цэмент, цукар, воск, пясок* з канчаткам *у.* На самай справе гэта назоўнікі аднае катэгорыі. Як назвы ўсіх цвёрдых, вадкіх і газападобных вяшчэстваў яны павінны пісацца з канчаткамі *у, ю.*

Задачай Арфаграфічнай камісіі пры вырашэнні гэтага пытання было перш за ўсё знайсці тую агульную размежавальную лінію, якая аддзяляе адну катэгорыю назоўнікаў ад другой. Уважлівыя нагляданні над вялікай колькасцю лексічнага матэрыялу даюць нам падставу сцвярджаць, што такая дэмаркацыйная лінія ёсць, што яна досыць выразна праходзіць праз усю лексіку як сваю, так і запазычаную. Можна лічыць нормай, што канчаткі *а, я* маюць назвы ўсяго таго, што ўсведамляецца намі як асобная адзінка. Усе іншыя назоўнікі, якія абазначаюць не адзінкавыя паняцці, маюць канчаткі *у, ю.* Сюды належаць назвы з'яў прыроды, назвы ўсякай матэрыі, не аформленай у выглядзе паасобных рэчаў, назвы якасцей, уласцівасцей, працэсаў, дзеянняў (за выключэннем разавых, якія ўспрымаюцца як адзінкі), абстрактна-разумовых паняццяў, прасторавых паняццяў з неакрэсленымі межамі, а таксама зборныя назоўнікі.

Правільна адзначаюць некаторыя таварышы, што гэта правіла ў нашым праекце недапрацавана. Мы ўсю ўвагу звярнулі на ўстанаўленне прынцыпу, на адшуканне агульнай размежавальнай лініі. Для ілюстрацыі выказанага намі палажэння прывялі вялікую колькасць розных катэгорый назоўнікаў. Гэта ўсё робіць правіла цяжкім для карыстання. Заганай правіла з'яўляецца тое, што ў ім не даецца фармальнай, знешняй адзнакі, якая давала б магчымасць лёгка адрозніваць адну катэгорыю назоўнікаў ад другой. А такія адзнакі ёсць. Яны вынікаюць з паняцця адзінкі, якую мы бяром у якасці агульнага крытэрыю. Уласцівасцю адзінак, як вядома, з'яўляецца тое, што іх можна браць па адной і лічыць. Гэта адна адзнака назоўнікаў, якія ў родным склоне маюць канчаткі *а, я.* Праўда, мы часамі лічым і тое, што не аформлена як адзінка, а з'яўляецца толькі паўтарэннем з'явы. Мы, напрыклад, гаворым: *прайшлі два дажджы*, замест таго каб сказаць: *дождж прайшоў два разы.* Тут нас выручае тое, што ёсць яшчэ больш дакладная адзнака, якая таксама вынікае з паняцця адзінкі. Справа ў тым, што калі дадзены прадмет усведамляецца намі як адзінка, то мы можам усвядоміць і паўадзінкі яго. Вось гэта *паў* служыць другой адзнакай назоўнікаў з канчаткамі *а, я.* Словы, якія можна ўжываць з часцінкай *паў*, маюць у родным склоне канчаткі *а, я, (паўдома, паўстала, паўгорада, паўспектакля, паўсеанса, паўверша*, адгэтуль: *дома, стала, горада, спектакля, сеанса, верша).* Калі спалучыць гэтыя дзве адзнакі, то пры дапамозе іх, за рэдкім выключэннем, можна дакладна адрозніць назоўнік з канчаткам *а (я)* ад назоўніка з канчаткам *у (ю).*

Такім чынам, не пералічаючы розных сэнсавых катэгорый, гэта правіла можна было б коратка сфармуліраваць так:

Канчаткі *а, я* маюць у родным склоне:

а) назоўнікі мужчынскага роду другога скланення, якія абазначаюць назвы жывых істот;

б) назоўнікі, якія можна ўжываць з часцінкай *паў* і абазначаныя імі рэчы лічыць як адзінкі.

Усе астатнія назоўнікі гэтага скланення маюць у родным склоне канчаткі *у, ю.*

Зусім зразумела і заканамерна, што, паводле гэтага правіла, і такія назоўнікі, як *камунізм, сацыялізм, дарвінізм, ідэалізм, фашызм* павінны былі б пісацца з канчаткамі *у, ю.* Толькі прымаючы пад увагу традыцыю, можна было б зрабіць для іх выключэнне і пісаць *камунізма,*

*сацыялізма, дарвінізма* і г. д. Апрача таго, трэба было б зрабіць выключэнне для некалькіх слоў (*хлеба, аўса,* а не *хлебу, аўсу; твару,* а не *твара).*

У існуючым правапісе дзеясловаў мы лічым неабходным змяніць 73-е правіла, якое парушае граматычны лад беларускай мовы ці, ва ўсякім разе, яе цэнтральнай гаворкі. Паводле гэтага правіла, у цяперашнім часе множнага ліку трэба пісаць: *бярэм, кладзем, бярэ́це, кладзе́це.* Гэта дыялектычная форма неўласціва цэнтральнай гаворцы, якая лягла ў аснову беларускай літаратурнай мовы, мовы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Для абвеснага ладу дзеясловаў у цэнтральнай гаворцы характэрнай з'яўляецца форма *бяром, кладзём, берацé, кладзяцé.* Гэта правіла тым больш заганнае, што яно блытае дзве розныя формы дзеясловаў. У цэнтральнай гаворцы *бярэм, кладзем, бярэ́це, кладзе́це* з'яўляецца формай загаднага ладу, а не абвеснага. Укладальнікі існуючага правапісу сталі на няправільны шлях, аддаўшы перавагу дыялектнай форме. Гэтак заўтра прыйдзе новы ўкладальнік правапісу, прадстаўнік другога дыялекту, скажам, палескага, і запрапануе пісаць *наеўса, напіўса, м'яса, аў'ёс, м'ёд, гаўяда.* Для таго каб літаратурная мова развівалася правільна, трэба прытрымлівацца норм аднае гаворкі — тае, якая лягла ў аснову літаратурнай мовы. Па гэтай жа прычыне мы прапануем лічэбнікі *два — дзве, абодва — абедзве* дыферэнцыраваць ва ўсіх склонах і пісаць у дачыненні да жаночага роду — *дзвюх, абедзвюх* і г. д. У цэнтральнай гаворцы форма *двух, абодвух* ужываецца выключна ў дачыненні да мужчынскага роду.

Існуючае правіла так жа катэгарычна, як і беспадстаўна абвяшчае, што гэтыя дзве формы лічэбнікаў «уніфікуюцца». З такой жа падставай, «для прастаты», можна было б уніфікаваць, скажам, спражэнні дзеясловаў і пісаць па аднаму ўзору: *пішуць, маюць, косюць, вучуць;* або уніфікаваць родавыя канчаткі прыметнікаў і пісаць: *ясны дзень, ясны думка, ясны сонца.*

З граматычнымі формамі трэба абыходзіцца вельмі асцярожна. Усякае штучнае скасаванне ці уніфікацыя граматычных форм, пакуль яны існуюць у агульнанароднай мове, з'яўляецца шкодным самаўпраўствам.

У беларускай мове шмат агульнага з роднай і блізкай ёй вялікай рускай мовай, якая аказвае магутны дабратворны ўплыў на развіццё беларускай мовы. Многія моўныя законы з'яўляюцца агульнымі для адной і другой мовы, але разам з тым у кожнай з гэтых моў ёсць і свае асаблівасці,

свае адменныя нормы ў галіне марфалогіі, фанетыкі, сінтаксіса, слоўніка. Дзякуючы гэтым асаблівасцям беларуская мова і з'яўляецца беларускай, а не якой-небудзь іншай. А таму не на правільных пазіцыях стаяць тыя таварышы, якія прапануюць дзеля прастаты або зручнасці выкладання ліквідаваць тыя ці іншыя асаблівасці беларускай мовы. Ліквідаваўшы асаблівасці, мы ліквідавалі б і самую мову як нацыянальную, беларускую. А без нацыянальнай мовы не магла б развівацца і нацыянальная беларуская савецкая культура.

Іншая справа, што не ўсе асаблівасці мовы можна і трэба адлюстроўваць у правапісе. Правапіс, які ставіў бы мэтай адлюстраваць усе фанетычныя асаблівасці мовы, быў бы занадта складаным, няўстойлівым і супярэчлівым. Калі мы прапануем некаторыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы не адлюстроўваць на пісьме, дык гэта не таму, што мы лічым гэтыя асаблівасці наогул непатрэбнымі, а таму, што гэта такія асаблівасці, якія будуць існаваць у мове і без адлюстравання іх на пісьме, і яшчэ таму, што адлюстраванне іх у правапісе не дало б магчымасці здавальняюча вырашыць задачу, якую мы сабе паставілі: ліквідаваць прычыны разнабою і дабіцца большай аднастайнасці нашага правапісу.

Імкнучыся захаваць асаблівасці беларускай мовы ў правапісе, мы не павінны забываць і на тое, што не ўсякая «асаблівасць» ёсць сапраўдная асаблівасць, угрунтаваная на законах беларускай мовы. Мы ведаем, што ў свой час у беларускім мовазнаўстве арудавалі буржуазныя нацыяналісты, якія выдумвалі «асаблівасці», каб штучна адгарадзіць беларускую мову ад рускай. Яны выжывалі з беларускай мовы словы, якія з'яўляюцца агульнымі для рускай і беларускай лексікі, і замянялі іх няўдалымі наватворамі. Каб беларуская пісьмовая мова не была падобна на рускую нават з выгляду, яны прапанавалі ўвесці лацінскі алфавіт. У галіне правапісу яны праводзілі крайнюю фанетызацыю ў дачыненні да беларускай лексікі. Для іншамоўнай лексікі яны стваралі асобныя правілы, не асмельваючыся падпарадкаваць яе законам беларускай мовы. Гэтым яны надавалі нашай мове неўласцівае ёй заходнееўрапейскае гучанне. У нас няма ніякай патрэбы захоўваць вось такія штучныя «асаблівасці» беларускай мовы.

У працы над складаннем «Праекта змен і ўдакладненняў беларускага правапісу» Арфаграфічная камісія Акадэміі навук БССР імкнулася ўдасканаліць тыя правілы, якія

з'яўляюцца крыніцай разнабою, і дабіцца большай аднастайнасці напісання. Мы стараліся абгрунтаваць удакладненні правапісу законамі беларускай мовы і захаваць яе асаблівасці. Мы ўнеслі прапанову змяніць тыя правілы, якія парушаюць граматычны лад нашай мовы. Мы прапануем змяніць тыя правілы існуючага правапісу, якія перашкаджаюць запазычаным словам жыць па законах беларускай мовы і аддзяляць непраходнай мяжой іншамоўную лексіку ад беларускай.

Праўда, не ўсё тое, да чаго мы імкнуліся, дасягнута намі ў поўнай меры. Некаторых цяжкасцей нам не ўдалося пераадолець. У адных выпадках мы не знайшлі яшчэ правільнага падыходу да вырашэння складаных пытанняў правапісу, у другіх выпадках правільна намечанае вырашэнне не даведзена да канца.

Усё, што мы зрабілі і чаго яшчэ не дарабілі, мы выносім на абмеркаванне канферэнцыі. Многія таварышы ўжо выказаліся аб нашым праекце: адны ў друку, а другія прыслалі свае заўвагі непасрэдна ў Інстытут мовазнаўства АН БССР. У гэтых выказваннях ёсць слушныя ўказанні на недахопы нашага праекта, ёсць шмат каштоўных прапаноў, і мы выказваем шчырую падзяку ўсім таварышам, якія адгукнуліся і прыйшлі нам на дапамогу. Мы спадзяёмся, што ўдзельнікі канферэнцыі, прысвечанай спецыяльна правапісу, прымуць самы актыўны ўдзел у абмеркаванні гэтага складанага і важнага пытання і мы агульнымі намаганнямі пераадолеем цяжкасці і прыйдзем да пэўных станоўчых вынікаў.

*1952*

## ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ НАРОДНАГА ПАЭТА БЕЛАРУСІ ЯКУБА КОЛАСА

Беларускі народ за гады савецкай улады дасягнуў вялікіх поспехаў у развіцці сваёй гаспадаркі і культуры. Дзякуючы штодзённым клопатам партыі і савецкай улады вырасла і расквітнела нацыянальная па форме, сацыялі-

стычная па зместу беларуская літаратура. Вырас значны атрад беларускіх пісьменнікаў, якія з поспехам працуюць у розных літаратурных жанрах. Лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў перакладзены на мовы іншых народаў нашай краіны, а таксама краін народнай дэмакратыі і карыстаюцца заслужанай любоўю шматмільённага чытача.

Самым дарагім для нас імем у беларускай літаратуры, побач з імем незабыўнага Янкі Купалы, з'яўляецца імя Канстанціна Міхайлавіча — Якуба Коласа. Неўміручыя творы гэтых двух волатаў беларускай літаратуры знайшлі шырокі шлях да сэрца працоўнага чалавека яшчэ ў змрочную пару царызму. У савецкі перыяд творы іх, узнятыя на яшчэ большую ідэйную і мастацкую вышыню, сталі здабыткам шырокіх працоўных мас не толькі Беларусі, але і ўсяго Савецкага Саюза, увайшлі ў залаты фонд сусветнай літаратуры.

Сямідзесяцігадовы юбілей Якуба Коласа — гэта свята ўсяе савецкай культуры. Гарачай любоўю ўзнагароджвае народ таго, хто, пачынаючы з першых дзён свайго свядомага жыцця, назаўсёды звязаў свой лёс з лёсам народа, хто на працягу амаль паўстагоддзя аддае народу лепшыя парывы свайго сэрца, усе свае сілы і свой вялікі талент. Яшчэ ў бурныя дні першай рускай рэвалюцыі Якуб Колас выступіў як абаронца інтарэсаў народа, як выказнік яго запаветных дум і спадзяванняў. І народ прызнаў у ім свайго сына. Узаемная любоў паэта і народа расла і мацнела з кожным годам. Яна жывіла і жывіць творчы талент паэта, надае яго творам глыбокі змест, багатыя мастацкія фарбы — усё тое, што робіць творы вялікага мастака неўміручымі.

Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч — будучы Якуб Колас — нарадзіўся 3 лістапада 1882 года ў засценку Акінчыцы цяперашняга Стаўбцоўскага раёна Баранавіцкай вобласці ў сям'і Міхаіла Казіміравіча Міцкевіча — малазямельнага селяніна, а потым панскага лесніка. Растучы на адзіноце, сярод лесу, будучы паэт рана зрадніўся з прыродай, якая ўсё больш і больш раскрывала перад ім свае таямніцы. Любоў да прыроды, адчутая з маленства, на ўсё жыццё засталася адной з чароўных асаблівасцей душы паэта і ўпрыгожыла не адзін яго твор.

Леснікову сядзібу зрэдку наведвалі людзі. Гэта найчасцей былі сваякі і знаёмыя з суседняй вёскі — Мікалаеўшчыны, якія вялі гутарку аб сваім гаротным жыцці, аб крыўдах і здзеках з боку паноў і начальства. Часамі

заязджалі да лесніка паны і падпанкі з маёнтка або з ляс-ніцтва. Ад гэтых нельга было чакаць нічога добрага, апрача пагарды і знявагі. Маламу Кастусю крыўдна было за бацьку, якому ў сілу свайго службовага становішча прыхо-дзілася дагаджаць гэтым людзям і зносіць іх абразы. Адчуванне несправядлівасці рана ўразіла душу паэта і не пакідала яго да самага таго моманту, калі ўсякая сацыяль-ная несправядлівасць была знішчана ачышчальным агнём рэвалюцыі.

Бацька Канстанціна Міхайлавіча клапаціўся аб тым, каб даць сыну асвету, а разам з ёй і кусок хлеба. З вялікімі цяжкасцямі яму ўдалося ўладзіць сына ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Там з боку семінарскага началь-ства было ўжыта нямала намаганняў, каб выхаваць юнака ў духу пашаны да цара — «памазаніка божага», умацаваць у ім веру ў непахіснасць і разумнасць існуючага ладу. Але ўрокі жыцця аказаліся мацнейшымі за ўрокі выхавальні-каў. Свежы вецер, прадвеснік надыходзячай рэвалюцыйнай буры, урываўся і ў душныя інтэрнаты настаўніцкай семіна-рыі, заносячы часамі туды і рэвалюцыйныя пракламацыі.

У 1902 годзе Канстанцін Міхайлавіч канчае семінарыю і накіроўваецца настаўнікам у глухую палескую вёску. Там, ужо вачамі дарослага чалавека, ён зноў бачыць сялянскую галечу, так добра знаёмую яму з маленства. Сяляне прыходзяць да маладога настаўніка са сваімі скар-гамі і крыўдамі. Вядома, што ў вялікай спрэчцы працоўнага сялянства з царскім самаўладствам паэт не мог застацца ўбаку, бо іх крыўда была таксама і яго крыўдай. Ён рашуча становіцца на бок пакрыўджаных. Вельмі хутка ў началь-ства складаецца пра яго думка як пра бунтара. У 1905 годзе мінскі губернатар Курлоў накіроўвае прадпісанне павято-ваму начальству аб расследаванні справы настаўніка Міц-кевіча, які дапамагаў сялянам вёскі Пінкавічы пісаць петыцыю пану Скірмунту з незаконнымі патрабаваннямі і нават падбухторваў іх захопліваць панскую маёмасць. Мясцоваму начальству прадпісвалася праверыць звесткі і, калі яны пацвердзяцца, арыштаваць «гэту асобу».

Звесткі пацвердзіліся. Крамольная асоба не была арыш-тавана на гэты раз толькі таму, што начальства баялася выклікаць яшчэ большае хваляванне сялян. Канстанцін Міхайлавіч быў пераведзены з Палесся ў Ігуменскі павет. Гэта рэпрэсіўная мера не запалохала бунтара-настаўніка. У 1906 годзе ён прымае ўдзел у нелегальным з’ездзе

беларускіх настаўнікаў і зноў трапляе пад следства, якое цягнецца цэлыя два гады.

У гэтым жа годзе ў газеце «Наша доля» Якуб Колас надрукаваў першы свой верш «Наш родны край». Невясёлымі, змрочнымі фарбамі малюе паэт прыроду роднага краю і жыццё яго насельнікаў:

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балота ды пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.
Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі жыве ён, ходзіць,
А працуе — льецца пот.
А як песня панясецца,
Колькі ў песні той нуды!
Уцякаў бы, бег, здаецца,
Сам не ведаеш куды.

Шмат горычы і болю ўкладзена паэтам у гэтыя радкі. Зразумела, што такі твор не мог не выклікаць адпаведнага настрою ў сэрцы беднага селяніна, якому ён быў адрасаваны, не мог не выклікаць гарачага пратэсту супраць такога жыцця, жадання вырвацца, пракласці сабе шлях да лепшай долі. Так з першых крокаў сваёй творчасці Якуб Колас выступае як пясняр народнай долі.

Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне,—

кажа пясняр у другім сваім вершы.

Скалыхнуць душу, прымусіць працоўнага чалавека агледзецца на сябе і на сваё гаротнае жыццё, пераканаць яго, што гэта жыццё не варта годнасці чалавека,— такое сацыяльнае прызначэнне сумных вершаў паэта. Ад адчування нездаволенасці сваім становішчам пачынаецца шуканне выхаду з яго. А выхад падказвае сама рэчаіснасць — рэвалюцыйныя падзеі, якія ўскалыхнулі народныя масы, узнялі іх на барацьбу са сваімі крыўдзіцелямі. Паэт выразна намякае на такі выхад у другім сваім вершы, у якім звяртаецца непасрэдна да крыўдзіцеляў народа:

Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі? —

пытае ён у іх.

. . . . . . . . . . . . .
Ласкаю чыёю
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?

Адказ на гэта запытанне змяшчаецца ў самім запытанні, і вывад напрошваецца сам сабой:

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

Шырокі размах рэвалюцыйных падзей даваў паэту ўпэўненасць у тым, што існуючы лад будзе зламаны і працоўнаму чалавеку адкрыецца іншы свет: «жыцце залатое будзе ў нашай старане». Толькі гэта залатое жыццё само не прыйдзе. Яго трэба здабыць, не спыняючыся перад гвалтам над гвалтаўнікамі.

Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не равешаць,—

гаворыць паэт вуснамі аднаго з сваіх герояў.

На гэты раз паны не былі перавешаны. У сілу пэўных гістарычных прычын рэвалюцыя была падаўлена. Царскія каты пачалі жорстка распраўляцца з усімі, хто меў хоць якое-небудзь дачыненне да рэвалюцыйных падзей. Не мінула царская кара і Якуба Коласа. У 1908 годзе адбыўся суд над удзельнікамі нелегальнага настаўніцкага з'езда, і паэта засадзілі на тры гады ў Мінскі астрог.

Цяжка перажываў паэт сваё зняволенне. Усім сэрцам ён ірваўся з-за крат туды, дзе пакінуў сваіх сяброў і любімую справу. Але дарэмна спадзяваліся царскія сатрапы, што пры дапамозе турэмных сцен ім удасца зламаць волю паэта-змагара. Чым больш пераносіў ён фізічных і маральных пакут, тым больш пераконваўся ў неабходнасці далейшага змагання. У вершы пад рашучым загалоўкам «Не дамся» паэт заяўляе:

Эх, не радуйся, начальства,
Не злякаўся я турмы.
. . . . . . . . . . . . . . .
Хоць навіслі густа хмары,
Хоць на змор мяне бяруць.
Не, мяне не справяць кары,
Толькі злосці паддадуць.

За кратамі ж, у самую змрочную пару рэакцыі, напісаны ім баявы верш «Мужык», у якім гэта злосць паэта-рэвалюцыянера выліваецца ў досыць канкрэтную форму:

Я мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!

З-за крат паэт кідае жорсткія дакоры тым, хто з-за скарынкі хлеба пайшоў на згоду з прыгнятальнікамі і гатоў зноў узлажыць на шыю тое ярмо, якое раней асмейваў. Да сваіх сяброў ён звяртаецца з заклікам «раскатурхаць народ» і аддаць на змаганне за яго долю ўсе свае сілы.

Адбыўшы пакаранне, Якуб Колас выйшаў з турмы, але не выйшаў з-пад апекі царскай улады, якая акружыла яго такім клопатам, што ён не мог атрымаць нават месца настаўніка. Паліцыя сачыла за кожным яго крокам. Але душа паэта не падуладна была паліцыі. Яна па-ранейшаму балела за народ, і гэты боль і гнеў выліліся ў цудоўныя паэтычныя радкі.

Якуб Колас, паэтычны дар якога з такой сілай праявіўся ўжо ў дарэвалюцыйныя часы, адначасна быў і пачынальнікам беларускай мастацкай прозы. Да рэвалюцыі выйшлі ў свет два зборнікі яго апавяданняў. У іх мы бачым выразнае адлюстраванне эпохі і таго сацыяльнага асяроддзя, у якім жылі яго героі. Рэвалюцыйныя настроі сялянства асабліва выразна выступаюць у такіх апавяданнях, як «Бунт» і «Нёманаў дар».

Як мы бачым, цэнтральнай тэмай дарэвалюцыйнай творчасці Якуба Коласа з'яўляецца тэма аб гаротнай долі працоўнага сялянства. Бядняк-селянін з'яўляецца галоўнай фігурай у яго творах гэтай пары. Мы бачым яго з розных бакоў, у розных тыповых для яго абставінах: у полі на вузкім загоне, дома ў цеснай хаце сярод брудных лахманоў, у астрозе за жалезнымі кратамі. І ўсюды неразлучна з ім горкая доля. І ўсюды неадступна сочыць за ім нядрэмнае вока «цара-бацюшкі» ў вобразе паліцэйскага стражніка. Пільна сочыць цар, каб селянін, чаго добрага, не паспрабаваў вырвацца з тых пут, якімі яго аблыталі па руках і нагах.

Куды ні глянь, адно і тое:
Усюды стрэльбы і шнуры,—

горка наракае паэт.

Гэтай накіраванасцю сваёй творчасці Якуб Колас як не трэба больш адказваў настроям і запатрабаванням самых шырокіх мас. Сялянскае пытанне было цэнтральным пытаннем эпохі, адной з найважнейшых праблем, якую павінна была вырашыць буржуазная рэвалюцыя.

Прадстаўнікі іншых слаёў грамадства фігуруюць у дарэвалюцыйнай творчасці Якуба Коласа толькі ў такой меры, у якой яны маюць дачыненне да селяніна, у якой меры яны процістаяць сялянству, з'яўляючыся яго прыгнятальнікамі і нахлебнікамі. Гэта паны-памешчыкі, царскія чыноўнікі, так званая вясковая інтэлігенцыя ў асобе папа, сядзельца ды валаснога пісара. Для іх і таго сацыяльнага ладу, апорай якога яны з'яўляюцца, у пісьменніка знаходзіцца вострае слова сатыры. Успомнім такія выдатныя яго творы, як «Асадзі назад!», «Канстытуцыя», «У судзе», «Першае знаёмства», «Верныя сябры», «Пісарскі вечар», «Злавіў», «Ворагам».

Не абышоў паэт сваёй увагай і самага галоўнага крывасмока. Поўныя сарказму вершы «Малебен» і «Мікалаю II» прысвячае ён цару, якому прадракае скорую пагібель.

Значнае месца ў паэзіі Якуба Коласа займае апісанне прыроды, якую ён так глыбока адчувае. Але і праз гэтыя прыродаапісальныя творы мы выразна бачым душу паэтаграмадзяніна. Якую б прыродную з'яву ён ні апісваў, заўсёды, па падабенству ці па кантрасту, звяртаецца ён да праяў грамадскага жыцця. Месяц у яго наглядае з вышыні, як «без хлеба і без долі працавіты люд наш гнецца», Нёман цячэ ў чужыя краі, каб расказаць пра гаротную долю сваіх сыноў, вецер стогне, «як над нівай селянін-араты», птушкі плачуць над мужычай нівою, якая «зарасла палыном, травою», у навальніцы паэту чуюцца водгукі рэвалюцыйных падзей.

Такім чынам, у сваёй дарэвалюцыйнай творчасці Якуб Колас выступае як рэвалюцыйны дэмакрат, як прадстаўнік працоўных сялянскіх мас, як прадстаўнік усяго беларускага працоўнага народа, які ўзняўся на барацьбу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. З першых крокаў свае творчай дзейнасці Якуб Колас усведамляе сябе слугою народа, барацьбітом за яго лепшую долю. Аб гэтым ён выразна гаворыць у вершы «Песняру»:

Заспявай жа ты песню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людскую,
Каб грымела, як гнеў перуна.

Гэта не выпадковая дэкларацыя, гэта крэда паэта, з якога відаць, у чым паэт бачыць сваё прызначэнне.

Рашаючым у вызначэнні кірунку літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа з'явілася само жыццё, рэвалюцыйныя падзеі, у якіх ён быў не бесстароннім назіральнікам, кроўная сувязь паэта з народам, з гушчаў якога выйшаў ён сам. Разам з тым вялікі ўплыў на фарміраванне эстэтычных поглядаў Якуба Коласа і яго мастацкага густу зрабіла перадавая руская і ўкраінская літаратура. Дэмакратычныя традыцыі Пушкіна, Гогаля, Някрасава, Шаўчэнкі трапілі на добрую глебу і знайшлі ў творчасці Якуба Коласа сваё далейшае развіццё. Хараство мастацкага слова паэт пачаў пазнаваць яшчэ ў дзяцінстве, калі яго дзядзька падарыў яму кніжку баек Крылова. У далейшым, пасучы каровы, ён чытаў ужо не толькі Крылова. У торбачцы ў яго заўсёды быў томік Пушкіна, і ён мог на памяць прачытаць ад пачатку да канца «Палтаву», «Браты-разбойнікі», «Цыганы» і іншыя творы вялікага паэта. Асабліва вялікі ідэйны ўплыў на фарміраванне светапогляду Якуба Коласа зрабіў Аляксей Максімавіч Горкі, які так любоўна сачыў за развіццём беларускай дэмакратычнай літаратуры і падтрымаў яе лепшых прадстаўнікоў — Янку Купалу і Якуба Коласа сваім цёплым словам, даўшы іх паэзіі высокую ацэнку. «У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — вельмі цікавыя хлопцы,— пісаў Аляксей Максімавіч украінскаму пісьменніку М. М. Кацюбінскаму.— Проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым бы трошкі такіх якасцей. Вось бы добра было...»

Рэвалюцыйны гуманізм вялікага пралетарскага пісьменніка знайшоў глыбокі водгук у душы беларускага паэта-дэмакрата. Аляксей Максімавіч Горкі быў для Якуба Коласа ўзорам пісьменніка-грамадзяніна, прыкладам высокага служэння народу.

«Ён вучыў нас,— кажа Якуб Колас,— што самая вялікая школа пісьменніка — жыццё, блізкая непасрэдная сувязь з народам. Хто па-сапраўднаму пачуе голас зямлі, пранікнецца яе паэзіяй, той перадасць іх шматтысячным рэхам ва ўсе далёкія куткі нашай Радзімы».

Імперыялістычная вайна, якая пашырылася і на тэрыторыі Беларусі, прынесла шмат гора беларускаму народу і выклікала ў душы паэта-гуманіста гнеўны пратэст, выказаны ім у такіх вершах, як «Ворагам», «Думкі салдата», «Люд стогне, гаруе». Сам паэт быў уцягнуты ў крывавы вір вайны. У 1915 годзе Канстанцін Міхайлавіч быў мабілізава-

ны ў царскую армію і накіраваны ў ваеннае вучылішча. Давялося яму пабыць і на фронце. У 1918 годзе ён як настаўнік быў дэмабілізаваны і пэўны час працаваў настаўнікам і школьным інспектарам у Абаяні Курскай губерні, куды была эвакуіравана сям'я паэта.

За гэты час адбыліся падзеі сусветна-гістарычнага значэння. Паўстаўшы народ скінуў ненавіснага цара і палажыў канец крываваму рэжыму самаўладства. У хуткім часе рэвалюцыйны пралетарыят у саюзе з працоўным сялянствам пад кіраўніцтвам выхаванай Леніным Камуністычнай партыі назаўсёды скінуў уладу буржуазіі і заснаваў першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Жыццё апярэдзіла мары і спадзяванні паэта. Як выказнік і абаронца інтарэсаў працоўнага сялянства, ён заклікаў народ да рэвалюцыйнай барацьбы, але не мог прадбачыць канкрэтных шляхоў, па якіх пойдзе руская рэвалюцыя. Паэт не падазраваў, што ў нетрах грамадства вырасла новая, магутная сіла, якая здольна ўзяць у свае рукі лёс велізарнай краіны з яе многамільённым і многанацыянальным насельніцтвам, здольна вырашыць усе балючыя пытанні, у тым ліку сялянскае і нацыянальнае пытанне, якія так хвалявалі паэта. Патрэбен быў пэўны час, каб усвядоміць усю веліч і значэнне падзей, якія адбыліся, убачыць іх у святле новага, марксісцкага светапогляду. Пазней паэт сам вельмі трапна гаварыў аб гэтым моманце: «У чым быў карэнны недахоп беларускай паэзіі? Недахоп, які значна паніжае яе мастацкую вартасць? Перш за ўсё і, галоўным чынам, у тым,— кажа Якуб Колас,— што самі песняры, сапраўдныя выражальнікі народнага гора, не мелі ясна акрэсленых палітычных поглядаў, не мелі таго светапогляду, не ўладалі тымі метадамі барацьбы, якія несла і прапаноўвала марксісцка-ленінская філасофія».

Гэтым, мабыць, і тлумачыцца тая акалічнасць, што ў першыя гады пасля Кастрычніка мы не бачым належнага адлюстравання рэвалюцыйных падзей у творах Якуба Коласа. У гэты перыяд паэт інтэнсіўна працуе над завяршэннем твораў, пачатых ім яшчэ да рэвалюцыі: «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі». У іх вялікае дараванне паэта раскрылася перад намі з нябачанай да таго сілай.

Такі твор, як паэма «Новая зямля», з'яўляецца сапраўднай жамчужынай у беларускай літаратуры. Асноўны герой дарэвалюцыйнай творчасці Якуба Коласа, якога аўтар у ранейшых творах паказвае нам эпізадычна, то адным, то другім яго бокам, выступае тут ва ўсёй сваёй паўнаце

і яркасці, вылеплены вялікім мастаком. У гэтым сапраўды класічным творы мы бачым жыццё бедняка-селяніна ад калыскі да магілы з усімі яго вялікімі пакутамі і скупымі радасцямі. Яркімі фарбамі намалявана сацыяльнае асяроддзе, у якім ён жыве і дзейнічае, сямейны быт, прырода, якая яго акружае. Носьбітам асноўнай ідэі твора з'яўляецца яго галоўны герой Міхал, беззямельны селянін, які зарабляе горкі кусок хлеба службай у пана на пасадзе лесніка. Міхал не хоча мірыцца са сваім лёсам і напружвае ўсе сілы, каб вырвацца з паднявольнага становішча. Паратунак уяўляецца яму ў выглядзе ўласнага кавалка зямлі.

Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,
Каб з панскіх выпутацца пут.

Усе намаганні яго самога і членаў яго сям'і накіраваны на ажыццяўленне гэтай мары. Перад намі праходзіць поўнае драматызму жыццё галоўнага героя, які так і памірае, не дасягнуўшы пастаўленай мэты. Выбраны ім шлях аказваецца ілюзорным. Адзіным шляхам да вызвалення з паднявольнага становішча з'яўляецца шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Міхал смутна здагадваецца аб гэтым ужо на смяротнай пасцелі.

Другім выдатным творам Якуба Коласа гэтага перыяду з'яўляецца паэма «Сымон-музыка». Гэта, бадай, самы задушэўны твор паэта, прасякнуты вялікай любоўю да чалавека. Цэнтральным героем твора з'яўляецца сялянскі хлопчык, надораны чулай, уражлівай душой і вялікімі музычнымі здольнасцямі. У творы паказваецца трагічны лёс таленту з народа, які са сваімі светлымі марамі і высокімі парывамі натыкаецца на суровую рэчаіснасць капіталістычнага ладу. У гэтым творы, як ні ў якім іншым, паэт выказвае свае погляды на мастацтва. Праз увесь твор праводзіцца думка, што крыніцай мастацтва з'яўляецца само жыццё, якое дае яму ідэйны змест і жывыя яркія фарбы. Высокім прызначэннем мастацтва з'яўляецца служэнне народу. Паэма «Сымон-музыка» карыстаецца заслужанай любоўю нашага чытача, асабліва нашай савецкай моладзі.

З празаічных твораў гэтага часу самымі значнымі з'яўляюцца дзве часткі палескай трылогіі — «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся», у якіх аўтар ставіць сабе мэту паказаць шлях беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі да рэвалюцыі. Сярод прадстаўнікоў апошняй у аповесці вылучаецца сваім дапытлівым розумам і высокімі маральнымі якасцямі малады настаўнік Андрэй Лабановіч, які спрабуе

асэнсаваць сваё месца і прызначэнне ў жыцці шляхам абстрактна-разумовых разважанняў, беспаспяхова намагаецца знайсці адказ на пытанне — у чым сэнс жыцця? Жыццё вымушае яго стаць на рэальную глебу і прыняць удзел у барацьбе, якую вядуць сяляне супраць пана. У працэсе гэтай барацьбы ён звязваецца з людзьмі рэвалюцыйнага падполля і тут толькі пачынае знаходзіць адказ на пытанне, якое яго мучыла.

Гісторыя Лабановіча ў першых дзвюх частках трылогіі не закончана. Цяпер аўтар працуе над трэцяй часткай — «На ростанях», у якой мае намер правесці Лабановіча праз цяжкія жыццёвыя выпрабаванні і паказаць, як ён стаў на шлях барацьбы за новы сацыяльны лад.

Гэтымі сваімі творамі Якуб Колас як бы падводзіць рысу ў паказе дарэвалюцыйнай рэчаіснасці. Разам з тым ён усё глыбей і глыбей закранае савецкую тэматыку. Гэтаму ў значнай меры спрыяе пераезд паэта ў Мінск, дзе ён апынаецца ў самым цэнтры грамадскага і культурнага жыцця рэспублікі. Гэтаму яшчэ ў большай меры спрыяюць мерапрыемствы савецкай улады, у якіх з усёй сілай праявіліся вялікія заваёвы Кастрычніка, велізарныя здабыткі, якія сацыялістычная рэвалюцыя прынесла беларускаму народу.

Па ініцыятыве Камуністычнай партыі ўтвараецца Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка,— беларускі народ упершыню за ўсю гісторыю атрымлівае сваю дзяржаўнасць. У 1921 годзе ў Мінску адкрываецца Беларускі дзяржаўны універсітэт, у арганізацыі якога Канстанцін Міхайлавіч прымае актыўны ўдзел і вядзе ў ім педагагічную работу. Прымае ён таксама ўдзел і ў арганізацыі Акадэміі навук, у якой ад пачатку яе існавання працуе ў якасці яе правадзейнага члена і віцэ-прэзідэнта, з'яўляецца ён ініцыятарам і ўдзельнікам многіх іншых культурных пачынанняў. На вачах паэта Беларусь, якая раней была адсталай ускраінай царскай Расіі, ператвараецца ў квітнеючую, перадавую, індустрыяльную рэспубліку. Камуністычная партыя, якая так любоўна расціла і выхоўвала маладыя кадры савецкіх пісьменнікаў, вельмі чула ставілася і да пісьменнікаў старэйшага пакалення, дапамагаючы ім пазбавіцца ад уплываў буржуазнай ідэалогіі, засвоіць марксісцка-ленінскі светапогляд. Партыя дапамагла і Якубу Коласу ў яго ідэйным росце. Дзякуючы партыі Якуб Колас здолеў правільна арыентавацца ва

ўмовах жорсткай класавай барацьбы. Ён не даў сябе ўцягнуць у балота буржуазнага нацыяналізму, а яшчэ больш узмацніў сваю сувязь з народам, яшчэ больш умацаваўся на пазіцыях савецкага пісьменніка, адданага савецкай уладзе і партыі. Паэт усё глыбей асэнсоўвае вялікія здабыткі, якія прынесла рэвалюцыя беларускаму народу, усё больш пранікаецца марксісцка-ленінскім светапоглядам і з яго пункту гледжання ацэньвае з'явы сучаснасці і мінулага. Ён пераконваецца, што доля народа, за якую так балела яго душа, сапраўды закрасавала на беларускай зямлі. З творчасці Якуба Коласа знікаюць ноткі жальбы і тугі, уласцівыя яго дакастрычніцкай творчасці, і ён пачынае ўслаўляць партыю і савецкую ўладу, якія далі шчасце беларускаму народу, пачынае паказваць вобразы савецкіх людзей — барацьбітоў за новае жыццё, будаўнікоў сацыялізма.

Адным з першых твораў такога характару з'яўляецца апавяданне «Сяргей Карага», у якім аўтар малюе вобраз рабочага-камуніста, што аддаў сваё жыццё ў змаганні за ўладу Саветаў.

У аповесці «На прасторах жыцця» Якуб Колас паказвае вясковых юнакоў і дзяўчат. Іх імкненне да навукі, жаданне хутчэй перабудаваць жыццё на новы лад, светлыя мары аб сваёй будучыні знаходзяць усямерную падтрымку з боку савецкай улады. Атрымаўшы ў горадзе адукацыю, яны варочаюцца ў вёску актыўнымі будаўнікамі новага жыцця, гарачымі патрыётамі свае радзімы.

Аповесцю «Адшчапенец» Якуб Колас адгукнуўся на такую велізарную падзею ў жыцці нашай краіны, як перабудова дробнаўласніцкай сялянскай гаспадаркі на новы, калгасны лад. У вобразе Пракопа Дубягі мы тут бачым прадстаўніка серадняцкай часткі сялянства з яго сумненнямі і хістаннямі, з яго дробнаўласніцкай псіхалогіяй, якая толькі пад напорам неабвержных фактаў і яскравых доказаў уступае месца новым поглядам і настроям.

Аповесць «Дрыгва» і п'еса «Вайна вайне» запаўняюць у творчасці Якуба Коласа той прабел, які быў у паказе імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў.

Аповесць «Дрыгва» з'яўляецца выдатным творам беларускай савецкай літаратуры, прысвечаным барацьбе беларускага народа і Чырвонай Арміі з белапольскімі акупантамі, за спіной якіх стаялі імперыялісты Францыі, Англіі, Амерыкі. У вобразе цэнтральнага героя гэтай аповесці

дзеда Талаша, яго сяброў і паплечнікаў па партызанскай барацьбе — Мартына Рыля, Цімоха Будзіка, Балука, камандзіра ўзвода Букрэя, камандзіра батальёна Шалёхіна, камуніста-падпольшчыка Нявіднага — Якуб Колас паказвае высокі патрыятызм савецкіх людзей, гатовых ахвяраваць жыццём за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы, за вялікія заваёвы Кастрычніка. Гэты высокапатрыятычны твор карыстаецца заслужанай любоўю савецкага чытача. На ім выхоўвалася савецкая моладзь — беларускія юнакі і дзяўчаты, якія ў дні Айчыннай вайны праславілі сябе гераічнымі подзвігамі ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Твор гэты перакладзены на мовы іншых савецкіх народаў, а таксама на польскую мову, на якой выдадзены ў народна-дэмакратычнай Польшчы.

У п'есе «Вайна вайне» адлюстроўваецца адзін з важнейшых момантаў рэвалюцыйнай барацьбы — перарастанне імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую. У ёй перакануўча паказана, як бальшавіцкія ідэі глыбока пранікаюць у масы салдат-франтавікоў, як пад іх уплывам прадстаўнікі рабочага класа, працоўнага сялянства і дэмакратычнай інтэлігенцыі пачынаюць рашуча выступаць супраць крывавай бойні і накіроўваць зброю супраць сваіх прыгнятальнікаў — памешчыкаў і капіталістаў.

Перамога сацыялізма ў нашай краіне абумовіла новы ўздым усяе савецкай літаратуры. Метад сацыялістычнага рэалізму даў пісьменнікам новы магутны сродак у адлюстраванні савецкай рэчаіснасці. Ліквідацыя РАПП, арганізацыя Саюза савецкіх пісьменнікаў, у якім аб'ядналіся ўсе пісьменнікі нашай краіны, што стаялі на платформе савецкай улады, спрыялі кансалідацыі пісьменніцкіх сіл, больш цеснаму згуртаванню іх вакол Камуністычнай партыі. Усё гэта зрабіла дабратворны ўплыў на развіццё беларускай савецкай літаратуры, на чале якой стаялі вялікія песняры беларускага народа Якуб Колас і Янка Купала. Яны знаходзіліся ў першых радах самай перадавой у свеце савецкай літаратуры побач з такімі выдатнымі рускімі савецкімі пісьменнікамі, як Аляксандр Фадзееў, Міхаіл Шолахаў, Аляксей Талстой.

У савецкі перыяд вялікі талент Якуба Коласа дасягнуў свайго поўнага росквіту і праявіўся ва ўсіх жанрах яго шматграннай творчасці. Паспяховае авалоданне метадам сацыялістычнага рэалізму дае пісьменніку магчымасць пранікнуць глыбей у сутнасць з'яў нашай савецкай рэчаіснасці. Значна пашырыўся кругагор пісьменніка, а разам

з ім і круг яго тэматыкі, павысіўся ідэйны і мастацкі ўзровень яго твораў. Асноўнай тэмай яго творчасці з'яўляецца, як і раней, тэма народнай долі, але тэма гэта асвятляецца па-новаму, бо і доля народа стала зусім іншай. У дружнай сям'і брацкіх народаў беларускі народ знайшоў сваё доўгачаканае шчасце. З натхненнем і радасцю будуе ён сваё новае жыццё. У розных сферах дзейнасці выяўляюцца ўсё новыя і новыя народныя таленты, якім савецкая ўлада забяспечыла ўсе магчымасці расці і развівацца. У адпаведнасці з гэтым і песня паэта аб народным шчасці набывае іншае гучанне. Яна ўся прасякнута сонечным святлом і цеплынёй. Само аблічча роднай зямлі з'яўляецца новым у вачах паэта і замест ранейшага смутку выклікае ў яго душы радасць і замілаванне:

Шумяць па-новаму дубровы —
На край свой люба мне зірнуць...
Цябе, зямля, ў адзенні новым
Хацеў бы к сэрцу прыгарнуць.

Новыя пачуцці працоўнага чалавека — радасць свабоднай творчай працы, упэўненасць у заўтрашнім дні і ў сваім шчасці, любоў да Савецкай Радзімы — ярка адлюстраваны ў творах народнага паэта, які сам быў сведкам сумнага мінулага нашага народа.

Паэта вельмі засмучала тое, што не ўвесь беларускі народ жыў шчасліва, што значная частка яго яшчэ знаходзілася пад прыгнётам панскай Польшчы. Думкі паэта, як і яго натхнёнае слова, пранікалі за калючы дрот, за пагранічныя кардоны і знаходзілі жывы водгук у сэрцы спакутаваных людзей. Творы Якуба Коласа перадаваліся там з рук у рукі, чыталіся на падпольных сходах, за кратамі Лукішак. Яны ўсялялі працоўным беларусам надзею на блізкае вызваленне, узнімалі на барацьбу з прыгнятальнікамі. І калі ў 1939 годзе, дзякуючы мудрай палітыцы нашай партыі, гістарычная несправядлівасць была ліквідавана і ўвесь беларускі народ уз'яднаўся ў адзінай савецкай дзяржаве, паэт горача прывітаў вялікую падзею ў вершы «Свайму народу».

Якуб Колас не забывае і пра тое, што вялікія поспехі краіны сацыялізма выклікаюць лютую нянавісць нашых ворагаў за мяжой, якія не расстаюцца з думкамі аб тым, каб павярнуць кола гісторыі назад, якія рады былі б зноў запрэгчы ў ярмо працоўных нашай краіны. Паэт узнімае свой гнеўны голас супраць імперыялістычных драпежнікаў, якім само існаванне нашай краіны з'яўляецца бяльмом на

воку. Іх авантурным планам ён процістаўляе рэальную сілу нашай краіны — палітыка-маральнае адзінства савецкіх людзей, непарушную дружбу народаў:

Ніхто гэткай сілай яшчэ не валодаў,
І сілы такой не было.
Імя ёй свабода і дружба народаў,
Друг верны праслаўленых нашых паходаў
Варожаму свету назло.

Самае пачэснае месца ў сям'і брацкіх народаў адводзіць паэт вялікаму рускаму народу, які не раз падаваў руку брацкай дапамогі беларускаму народу, які дапамог усім народам былой царскай Расіі скінуць ярмо сацыяльнай і нацыянальнай няволі і сёння дапамагае ім будаваць новае, шчаслівае жыццё, які вынес на сваіх плячах галоўны цяжар вайны з фашысцкай Германіяй.

Здрадніцкі напад гітлераўскіх полчышч прынёс беларускаму народу шмат гора і пакут. Фашысцкія варвары залілі крывёй абшары Беларусі, разбурылі гарады і вёскі, знішчылі матэрыяльныя і культурныя здабыткі нашага народа. Знішчылі яны і дом Канстанціна Міхайлавіча, а разам з домам і рукапісы паэта, яго архіў і бібліятэку, якія складалі вялікую культурную каштоўнасць. Сам паэт вымушан быў пакінуць родныя мясціны і шукаць прытулку ва ўсходніх раёнах краіны. Паэт балюча перажываў часовую акупацыю Беларусі. Яго чулае сэрца глыбока ранілі весткі аб фашысцкіх зверствах над мірным савецкім насельніцтвам. Як гарачы патрыёт Якуб Колас усю сваю творчасць і грамадскую дзейнасць аддае справе вызвалення радзімы. У сваіх мастацкіх творах і публічных выступленнях ён выкрывае звярынае аблічча фашызму, услаўляе гераізм савецкіх людзей. Напісаная ў гэты час паэма «Адплата» з'яўляецца адлюстраваннем гераічнай партызанскай барацьбы беларускага народа з нямецкімі акупантамі, паказам яго высокіх маральных якасцей і нязломнай волі да перамогі над ненавісным ворагам. У думках паэт неразлучны са сваім народам і яго лепшымі сынамі, якія вядуць гераічную барацьбу ў тыле ворага:

У кожны міг, у кожны час
Душою, сэрцам я між вас,
Браты мае, байцы-сябры,
Зямлі сваёй багатыры!

Паэт ні на адзін момант не сумняваецца, што савецкі народ пераможа ў гэтай крывавай барацьбе, што родная зямля будзе вызвалена ад варожай навалы.

Якуб Колас у гэты ж час працуе над заканчэннем аднае з лепшых сваіх паэм «Рыбакова хата». Гэты выдатны твор пачаты аўтарам яшчэ да вайны. У ім Якуб Колас паказвае барацьбу працоўных Заходняй Беларусі за сваё вызваленне з-пад прыгнёту панскай Польшчы. У вобразе цэнтральнага героя гэтай паэмы — Данілы мы зноў бачым прыгнечанага бедняка-селяніна, над якім з усялякімі прыладамі прымусу і здзеку стаяць усё тыя ж, толькі па-іншаму апраненыя, злавесныя фігуры: пан, кулак, жандар, дзяржаўны чыноўнік. Але ў параўнанні з ранейшым ёсць і вялікая розніца ў становішчы працоўных. Яна заключаецца ў тым, што на ўсходзе існуе і квітнее вялікая краіна сацыялізма. Ясныя зоры Крамля свецяць братам у няволі і натхняюць іх на барацьбу за сваё вызваленне. І няма ў паноў-прыгнятальнікаў ніякіх сродкаў, якімі б яны маглі перагарадзіць доступ камуністычных ідэй у шырокія працоўныя масы. Ідэі гэтыя пранікаюць нават праз мураваныя сцены і жалезныя краты. Іменна ў турме сустракаецца Даніла з носьбітамі гэтых ідэй — камуністамі-падпольшчыкамі, якія паказваюць яму правільны шлях да вызвалення. Надзеі працоўных спраўдзіліся: савецкая краіна падала руку дапамогі братам у няволі. Паэма заканчваецца паказам хвалюючага моманту вызвалення.

У лірычных вершах пасляваеннага часу Якуб Колас услаўляе мірную працу савецкіх людзей, радуецца, гледзячы на тое, як пад іх працавітымі рукамі ўстаюць з руін і папялішчаў нашы калгасы і гарады, як будуюцца новыя гіганты-заводы, як расце і з кожным днём прыгажэе сталіца нашай рэспублікі.

Як паэт і выдатны грамадскі дзеяч Якуб Колас прымае самы актыўны ўдзел у барацьбе за мір. Яго выступленні на канферэнцыях прыхільнікаў міру, яго палымяныя вершы выкрываюць подлыя намеры падпальшчыкаў вайны, якія будуюць свой дабрабыт на чалавечай крыві і слязах. Паэт заклікае ўсіх сумленных людзей стаць пад слаўныя сцягі абаронцаў міру.

Услаўляючы подзвігі савецкіх людзей у творчай працы і ў змаганні з ворагам, апяваючы іх шчаслівую долю, Якуб Колас выказвае пачуцці гарачай любві і глыбокай падзякі Камуністычнай партыі, якая вядзе краіну да новых перамог.

Творчасць Якуба Коласа з'яўляецца не толькі вялікім здабыткам беларускай савецкай літаратуры, але і вялікім

укладам у скарбніцу ўсяе савецкай літаратуры. Выдатнай якасцю Якуба Коласа як мастака з'яўляецца яго глыбокае пранікненне ў жыццё, уменне ўбачыць у ім самае істотнае, чым жыве народ у дадзены гістарычны момант, уменне паказаць гэта самае істотнае ў паўнакроўных мастацкіх вобразах. Якуб Колас паказаў сябе вялікім майстрам ва ўсіх літаратурных жанрах. Ён з'яўляецца заснавальнікам беларускай мастацкай прозы, выдатныя ўзоры якой мы бачым у палескіх аповесцях, у «Дрыгве» і шматлікіх апавяданнях. Ён упершыню ў беларускай літаратуры стварыў вялікія эпічныя рэчы ў вершаванай форме, такія, як «Новая зямля», «Сымон-музыка», «Рыбакова хата». Калі мы чытаем яго творы, перад намі праходзіць цэлая галерэя незабыўных вобразаў — яркіх, праўдзівых, выпісаных вялікім мастаком, у распараджэнні якога знаходзіцца, здаецца, неабмежаваная колькасць выяўленчых мастацкіх сродкаў.

Творчасць Якуба Коласа з'яўляецца крыніцай асалоды і пазнання жыцця для мільёнаў савецкіх чытачоў.

*1952*

## АБ САТЫРЫЧНАЙ КАМЕДЫІ

Усім нам вядома марксісцкае палажэнне, што мастацкая літаратура з'яўляецца адлюстраваннем рэчаіснасці. Што датычыць прынцыпаў адлюстравання савецкай рэчаіснасці, дык нам партыя ясна сказала: пішыце праўду.

Здавалася б, справа ясная: пішы праўду і будзе ўсё ў парадку. Углядаючыся ў савецкую рэчаіснасць, пісьменнікі бачылі вялікія справы нашага народа, выдатных савецкіх людзей, цудоўныя з'явы нашага жыцця. Але побач з гэтым яны бачылі і дрэнных людзей, і адмоўныя з'явы. Усё гэта яны спрабавалі ў меру сваіх сіл адлюстраваць у мастацкіх творах. Але тут некаторыя мудрацы кінуліся іх ратаваць ад гэтай згубнай памылковасці. «Не,— крычалі яны,— праўда гэта не тое, што вы бачыце. Адна справа праўда ў рэчаіснасці і зусім іншая справа — у мастацтве. У мастацтве праўда абагульненая».

Што ў мастацтве праўда абагульненая,— з гэтым ніхто не збіраўся спрачацца. Аднак, выказаўшы гэту правільную

думку, запазычаную ў класікаў марксізма-ленінізма, некаторыя тэарэтыкі пачалі развіваць яе далей і сапсавалі ўсю справу.

Абагульняць трэба не ўсё, указвалі яны, а толькі тыповае. А тыповым у нашым сацыялістычным грамадстве з'яўляецца толькі тое, што найбольш для яго характэрна, гэта значыць станоўчае. Што датычыць адмоўнага, дык яно з'яўляецца характэрным для ўсякага іншага грамадства, толькі не для нашага. Таму абагульняць адмоўнае — значыць узводзіць паклёп на нашу савецкую рэчаіснасць.

Гэтым сафізмам быў зведзены да самага нікчэмнага становішча і асуджаны на гібенне выкрывальны жанр у нашай літаратуры. Сатыры было адмоўлена ў праве абагульняць. Яна стала літаратурай прыватнай з'явы, адзінкавага факта, інакш кажучы, літаратурай трэцяга гатунку.

З падобных разважанняў нарадзілася, па сутнасці, і тэорыя бесканфліктнасці, якая нарабіла нямала шкоды ў нашай літаратуры. Як ні дзіўна, гэта тэорыя вельмі хутка знайшла сабе значную колькасць прыхільнікаў. Поспех яе тлумачыцца, відавочна, тым, што для многіх яна аказалася вельмі зручнай. Непатрабавальных да сябе драматургаў яна спакусіла тым, што вызваляла іх ад неабходнасці авалодваць майстэрствам. Сапраўды, калі няма канфлікту, дык няма неабходнасці клапаціцца аб кампазіцыі, аб сюжэце, аб сцэнічнасці дзеяння. Можна абмежавацца дыялогамі на ўзятую тэму, разбавіўшы іх пэўнай дозай увесяляльнага гумару, які не мае ніякіх адносін да сутнасці справы. Крытыкаў і некаторых іншых работнікаў літаратурнага і тэатральнага фронту яна задавальняла тым, што вызваляла іх ад трывог і апасенняў. Калі ў п'есах паказваецца толькі добрае і лепшае, дык нам баяцца няма чаго,— разважалі яны. Калі хто і перабярэ меру ў паказе добрага — бяда невялікая. За гэта нас не б'юць і з пасад не знімаюць. А вось паказ адмоўнага пагражае ўсялякімі нечаканасцямі. Так стварылася ў нашай літаратуры і тэатры бесканфліктнае «благополучие», якое задавальняла вынаходцаў і прыхільнікаў шкоднай тэорыі, але далёка не задавальняла савецкага чытача і гледача.

Партыйны друк выкрыў шкодную тэорыю бесканфліктнасці. Яе прыхільнікам было ўказана на тое, што савецкае грамадства развіваецца і рухаецца ўперад шляхам пераадолення супярэчнасцей, у якіх новае сутыкаецца са старым,

аджыўшым і перамагае яго. З гэтага вынікала, што для нашага грамадства адмоўнае, аджыўшае з'яўляецца не выпадковасцю, а заканамернасцю, што адмоўнае, такім чынам, можа быць тыповым.

Пасля гэтага нашай крытыцы прыйшлося прызнаць за сатырай некаторыя правы. Ёй была аб'яўлена амністыя. Пачуліся нават галасы: дарогу сатыры!

І вось яна пляцецца па гэтай дарозе, хістаючыся на нетрывалых яшчэ нагах, а ёй ужо забягаюць наперарэз. Некаторых таварышаў узяў страх, як бы яна не стала бушаваць і не нарабіла бяды. А раптам яна навaліцца не на таго, на каго трэба! Пачалі шукаць сродак, які засцярог бы савецкае грамадства ад эксцэсаў з боку сатыры, сатырыка — ад непапраўных памылак, а крытыка — ад трывогі і апасенняў за іх абодвух. І такі сродак нібыта знойдзен. Такім сродкам з'яўляецца нібыта выратавальная формула, у якой дакладна ўказваюцца суадносіны станоўчага і адмоўнага і якой неабходна строга прытрымлівацца пры стварэнні, скажам, сатырычнай камедыі. Дастаткова паласцы ўказаную колькасць таго і другога, пабоўтаць — і патрэбны мастацкі твор з'явіцца сам сабою. Але на сцэне мы чамусьці часцей за ўсё бачым не хімічнае злучэнне, а механічную сумесь са станоўчага і адмоўнага, хоць прапорцыі як быццам захаваны. Закрадваецца падазрэнне, а ці няма якой-небудзь заганы ў самой выратавальнай формуле. Пры бліжэйшым разглядзе выяўляецца, што формула сапраўды заганная. Яна патрабуе, каб у сатырычнай камедыі станоўчае і адмоўнае знаходзілася ў такіх жа суадносінах, як гэта мае месца ў нашай рэчаіснасці.

Прычым разважанне ідзе прыкладна такім чынам. Наша літаратура з'яўляецца адлюстраваннем савецкай рэчаіснасці. Яна павінна адлюстроўваць гэту рэчаіснасць правільна па часці паказу станоўчага і адмоўнага, захоўваючы адпаведныя прапорцыі. Гэта датычыць кожнага літаратурнага твора, у тым ліку і сатырычнай камедыі. Калі ў жыцці мы маем, скажам, дзевяноста працэнтаў станоўчага і дзесяць працэнтаў адмоўнага, дык такая ж прапорцыя павінна быць захавана і ў сатырычнай камедыі.

Гэта правіла зрабілася ў некаторых крытыкаў амаль што меркай пры вызначэнні ідэйнай якасці сатырычнай камедыі. А між тым у гэтай формуле ёсць сур'ёзная памыл-

ка. Справа ў тым, што тэарэтыкі, якія вынайшлі яе, уяўляюць сабе нашу рэчаіснасць у выглядзе нейкай сумесі, у якой станоўчае і адмоўнае размеркаваны раўнамерна. Дзе б ні ўзялі пробу, усюды акажацца дзевяноста працэнтаў станоўчага і дзесяць працэнтаў адмоўнага. На самай жа справе станоўчае і адмоўнае ў нашай рэчаіснасці сустракаюцца ў розных камбінацыях і ў розных прапорцыях. Пры агульнай перавазе станоўчага нярэдка ўзнікаюць ачагі, у якіх канцэнтрацыя адмоўнага можа быць значна вышэйшай за сярэдняе арыфметычнае. Вось гэтыя ачагі адмоўнага і павінны ў першую чаргу цікавіць камедыёграфа, сюды і павінен быць накіраваны агонь сатыры.

В. В. Ярмілаў у сваёй працы «Некаторыя пытанні тэорыі савецкай драматургіі» многа ўвагі аддае сатырычнай камедыі. Ім выказана па гэтаму пытанню нямала цікавых і справядлівых думак, але што датычыць высвятлення, якія абставіны з'яўляюцца тыповымі для камедыйнага канфлікту, дык тут яго адказ не можа нас поўнасцю задаволіць. Тыповасць гэтых абставін тав. Ярмілаў бачыць у тым, што адмоўныя персанажы дзейнічаюць у неспрыяльным і варожым для іх грамадстве. Але гэта вельмі агульна, недакладна, неканкрэтна, а таму мала што дае для высвятлення пытання, якое нас цікавіць. Тут бярэцца наша рэчаіснасць наогул, а не тое канкрэтнае асяроддзе, у якім праяўляецца адмоўнае.



Тыповым для канфлікту, прыгоднага для сатырычнай камедыі, з'яўляецца, на мой погляд, наяўнасць ачага адмоўнага. Характэрным для яго з'яўляецца тое, што носьбіт зла трапляе ў адносна спрыяльнае для яго асяроддзе, у якім калі не ўсе, дык частка людзей з яго акружэння не знаходзяцца на належнай вышыні з пункту гледжання савецкіх патрабаванняў. Толькі ў такім асяроддзі варожы пачатак можа развіцца, выявіцца з дастатковай паўнатой і паказаць усе свае якасці. Крадзеж можа быць там, дзе савецкае дабро дрэнна ўлічваецца і ахоўваецца. Авантурыст можа з поспехам дзейнічаць там, дзе ён мае справу з разявакамі або нават проста з людзьмі, якія не валодаюць дастатковымі ведамі ў дадзенай галіне. Мне могуць пярэчыць, што разявакі — гэта таксама адмоўнае. Зразумела, але трэба адрозніваць адно адмоўнае ад другога і не валіць у адну кучу людзей суб'ектыўна сумленных, але не пазбаўленых тых ці іншых слабасцей і недахопаў, з людзьмі свядома варожымі савецкаму грамадству і яго маралі.

Такім чынам, ачаг адмоўнага ўключае ў сябе не аднаго носьбіта зла, а і спрыяльнае для яго акружэнне. Карыстаючыся мовай агратэхнікі, можна было б сказаць, што зло плодзіцца гнездавым спосабам. Выкрываючы ў сатырычнай камедыі галоўнага носьбіта зла, мы непазбежна будзем ускрываць і недахопы тых, можа, суб'ектыўна і сумленных савецкіх людзей, якія былі яго пасобнікамі.

Гэта адносна адмоўнага. Ну, а як жа быць са станоўчым? Як яно можа супрацьстаяць адмоўнаму і ці з'яўляецца гэта неабходным? Так, станоўчае ў сатырычнай камедыі абавязкова павінна прысутнічаць. Толькі разуменне станоўчага ў нас часта звужваецца: не бярэцца пад увагу тая акалічнасць, што ўжо само выкрыццё зла ёсць дабро, што адмаўленне адмоўнага з'яўляецца сцверджаннем станоўчага. Калі аўтар знаходзіцца на вышыні сваёй задачы, дык праз выкрыццё адмоўнага заўсёды будзе відаць той высокі ідэал, у імя якога гэта робіцца. Але гэтым справа не абмяжоўваецца. У драматычным творы наогул, у тым ліку і ў сатырычнай камедыі, звычайна сутыкаюцца дзве супрацьлеглыя сілы. Гэта з'яўляецца неабходнай умовай для таго, каб ідэя п'есы была раскрыта з найбольшай глыбінёй праз яркія пераканаўчыя вобразы. Адна з гэтых сіл звычайна з'яўляецца станоўчай. Аднак суадносіны іх спачатку такія, што станоўчы пачатак не можа перамагчы. Толькі ў працэсе барацьбы ён мабілізуе сілы, каб нанесці сакрушальны ўдар. Толькі пры такой умове канфлікт можа атрымаць сваё неабходнае развіццё і паслужыць асновай для сатырычнай камедыі.

А што было б у тым выпадку, калі б з самага пачатку мы ўзялі станоўчае і адмоўнае ў той прапорцыі, у якой яно знаходзіцца ў нашай рэчаіснасці наогул, г. зн. узялі б сярэдняе арыфметычнае? Тады на аднаго носьбіта зла прыпадала б, скажам, дзевяць прадстаўнікоў станоўчага, г. зн. дзевяць савецкіх грамадзян — прынцыповых, сумленных, разумных, пільных. Пры такой умове кожная спроба носьбіта зла развіць сваю шкодную дзейнасць была б неадкладна выкрыта і абясшкоджана. Канфлікт не атрымаў бы развіцця. Пасля завязкі неадкладна адбывалася б развязка, і ніякай бы камедыі не атрымалася. І вось самая, здавалася б, тыповая камбінацыя станоўчага і адмоўнага, адпаведная таму, што ёсць у цэлым у нашай рэчаіснасці, аказваецца непрыгоднай для сатырычнай камедыі, бо яна не дае магчымасці злому пачатку развіцца і выявіць свае шкодныя

якасці. А раскрыццё якраз гэтых якасцей і з'яўляецца галоўнай задачай камедыёграфа-сатырыка. Адсюль вывад: нельга патрабаваць, каб у сатырычнай камедыі з самага пачатку станоўчае было супрацьстаўлена адмоўнаму, як магутная вырашальная сіла.

Іншы раз драматурга дакараюць за тое, што ў яго адмоўныя вобразы напісаны залішне ярка. Такі дакор гучыць даволі дзіўна. Нібы яркае адлюстраванне адмоўнага ідзе яму, г. зн. адмоўнаму, на карысць. Наадварот, чым ярчэй паказана адмоўнае, тым мацнейшы ўдар, нанесены яму. Калі ж адмоўныя вобразы атрымаліся бледнымі, значыць, зло не раскрыта да канца, значыць, драматург не выканаў свае асноўнай задачы, значыць, сатырычнай камедыі не атрымалася.

Наогул я лічу, што камедыёграфа трэба вызваліць ад дробязнай апекі і не навязваць яму наспех прыгатаваных рэцэптаў. Такія рэцэпты толькі скоўваюць яго ініцыятыву і часта падказваюць няправільнае рашэнне творчай задачы. На самай справе, што атрымліваецца? З аднаго боку, крытыка настойліва гаворыць аб тым, што ў нас павінны быць свае Гогалі і Шчадрыны, а з другога боку — яна мнагазначна ківае пальцам на камедыёграфа: ты, Гогаль, глядзі ў мяне — пішы, ды і меру ведай. Вось табе гатовы рэцэпт, якога ты павінен строга прытрымлівацца, каб самому не памыляцца і мяне не падводзіць. А рэцэпт на самай справе непрыгодны, бо ён складзены без уліку творчай практыкі, шляхам абстрактных разважанняў.

Падводзячы вынікі ўсяму сказанаму вышэй, я дазволю сабе ў сціслым выглядзе паўтарыць асноўныя палажэнні свайго выказвання.

Добрае і злое ў нашай рэчаіснасці размеркавана нераўнамерна. На фоне агульнага станоўчага ў асобных месцах узнікаюць ачагі адмоўнага.

Ачаг адмоўнага з'яўляецца тыповай умовай для развіцця канфлікту, прыгоднага для сатырычнай камедыі.

Характэрным для яго з'яўляецца тое, што асноўны носьбіт зла трапляе ў акружэнне людзей, якія аказваюцца не на належнай вышыні. Дзякуючы іх пасобніцтву або слепаце ён атрымлівае магчымасць развіць сваю шкодную дзейнасць.

Канфлікт, у якім з самага пачатку станоўчае значна пераважае над адмоўным, з'яўляецца непрыгодным для сатырычнай камедыі.

Становучае мабілізуе свае сілы ў працэсе барацьбы, каб пад канец яе нанесці сакрушальны ўдар супрацьлеглай старане.

Адмоўнае павінна знаходзіцца ў цэнтры ўвагі камедыёграфа-сатырыка, як у цэнтры ўвагі хірурга знаходзіцца нарыў на здаровым целе чалавека.

Вось тыя думкі, якія ўзніклі ў выніку практычнай работы і разважанняў аб шляхах развіцця савецкай камедыі і якімі я хацеў падзяліцца з таварышамі па прафесіі.

*1953*

## КАНФЛІКТ — АСНОВА П'ЕСЫ

Наша савецкая грамадскасць прад'яўляе драматургам законныя прэтэнзіі. Глядач хоча, каб на сцэне тэатраў савецкія людзі і іх выдатныя справы былі паказаны больш поўна і, галоўным чынам, больш ярка.

Чаму іменна драматургіі наша грамадскасць прад'яўляе больш за ўсё прэтэнзій? Ці то нашым драматургам не хапае таленту? Ці то іх мала хвалююць вялікія справы савецкіх людзей? Відавочна, не ў гэтым справа. Трэба думаць, што і талентам нашы драматургі не пакрыўджаны, і хвалююць іх справы нашага народа не менш, чым прадстаўнікоў іншых жанраў.

Дык у чым жа справа? Ці не хаваецца прычына такога становішча ў тым, што мы, драматургі, не ўлічваем некаторых спецыфічных асаблівасцей нашага жанру. Калі падысці да пытання з гэтага боку, дык перш за ўсё прыцягвае да сябе ўвагу тая асаблівасць, што для драматургіі першараднае значэнне мае канфлікт, на падставе якога толькі і магчыма развіць драматургічнае дзеянне. Калі ў іншых жанрах слабасць канфлікту можа быць у пэўнай меры кампенсавана непасрэдным умяшаннем аўтара — павестваваннем, апісаннем, аўтарскай характарыстыкай дзеючых асоб, лірычнымі адступленнямі, у якіх аўтар можа выказаць свае пачуцці,— то ў драматычным творы ўсё гэта выключаецца, і слабасць канфлікту дае сябе адчуваць самым катастрафічным чынам. Яна звычайна цягне за

сабой слабасць кампазіцыі, вяласць сюжэта, схематызм і бледнасць у паказе дзеючых асоб.

Тэорыя бесканфліктнасці разбіта. Аднак нельга сказаць, што ў пытаннях драматургічнага канфлікту мы ўжо разабраліся да канца. Перш за ўсё нічога не сказана выразна аб тым, што прырода канфлікту ў класавым і бяскласавым грамадстве не аднолькавая. Вядома, што і класавае і бяскласавае грамадства рухаецца наперад шляхам пераадолення супярэчнасцей, але характар гэтых супярэчнасцей і спосаб іх пераадолення розныя. У класавым грамадстве сутыкаюцца антаганістычныя сілы. Супярэчнасці там выступаюць больш рэзка, канфлікт развіваецца больш бурна, а гэта кладзе свой адбітак і на драматургію. Аб гэтым пераканаўча сведчыць уся класічная драматургія, у якой крыніцай канфлікту звычайна з'яўляюцца класавыя супярэчнасці і сацыяльная няроўнасць. Аб гэтым жа сведчаць і п'есы савецкіх драматургаў аб грамадзянскай і Айчыннай вайне, аб барацьбе з кулацтвам і іншымі элементамі, прынцыпова варожымі сацыялістычнаму ладу. Успомнім такія п'есы, як «Любоў Яравая», «Вогненны мост», «Нашэсце», «Рускія людзі», «Чужы цень». З беларускай драматургіі можна назваць у гэтай сувязі такія п'есы, як «Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага, «Вайна вайне» Якуба Коласа, «Над Бярозай-ракой» П. Глебкі, «Мост» Я. Рамановіча, «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Гэта было ў Мінску» А. Кучара, «Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча і іншыя. Усе гэтыя п'есы маюць у сваёй аснове сутыкненне варожых, антаганістычных сіл. У іх ярка выяўлены глыбокі канфлікт, і развязваецца ён так, што разам з гэтым вырашаецца і лёс людзей, якія ў ім удзельнічаюць.

Але як жа быць драматургам тады, калі яны спрабуюць адлюстраваць у сваіх творах наша мірнае будаўніцтва? Антаганістычных класаў і груп у нас няма, сацыяльная няроўнасць знішчана. Тым не менш і ў нашым сацыялістычным грамадстве існуюць супярэчнасці, і яно рухаецца наперад шляхам іх пераадолення. Праўда, супярэчнасці гэтыя не так выразна выступаюць, як гэта мае месца ў антаганістычным грамадстве, але яны, бясспрэчна, ёсць, на нейкай глебе зараджаюцца, нейкім спосабам (трэба думаць, адменным ад таго, які мы наглядаем у класавым грамадстве) вырашаюцца. Драматург павінен глыбока ведаць законы, па якіх развіваецца наша грамадства, і мець

зоркае вока, каб у жыцці бачыць тыя супярэчнасці, якія могуць легчы ў аснову драматургічнага канфлікту.

Мы часта не ўлічваем, што не кожнае сутыкненне, хоць сабе і вострае, з'яўляецца сапраўдным канфліктам, вартым увагі драматурга. Калі працаўнікі стаяць на адных і тых жа самых ідэйных пазіцыях, кіруюцца аднолькавымі маральнымі прынцыпамі, то ў такім выпадку мы, відавочна, маем справу не з глыбокім канфліктам, які можа ахапіць усю істоту чалавека і сур'ёзным чынам адбіцца на яго лёсе, а з разыходжаннем прыватнага парадку. П'еса, пабудаваная на такім канфлікце, наўрад ці можа глыбока ўсхваляваць чытача. Часцей за ўсё ў такіх выпадках атрымліваецца тое, што мы называем бесканфліктнай п'есай, прычым для гэтага зусім не абавязкова, каб аўтар свядома прытрымліваўся тэорыі бесканфліктнасці. Ён можа быць шчыра перакананы, што яго твор пабудаваны на вострым канфлікце, ды бяда ў тым, што гэты канфлікт не грунтоўны, не дзейсны. І як часта савецкія драматургі спатыкаюцца іменна на гэтым месцы!

Каб далёка не хадзіць за прыкладамі, возьмем такую беларускую п'есу, як «Неспакойныя сэрцы» Алеся Кучара. Галоўны недахоп яе заключаецца іменна ў тым, што ў аснове п'есы няма глыбокага канфлікту, на якім можна было б разгарнуць скразное драматургічнае дзеянне. Сутычка паміж галоўным інжынерам завода Курневым — з аднаго боку, і дырэктарам, парторгам і маладзёжнай брыгадай, якая змагаецца за асваенне аўтаматычнай лініі,— з другога боку, не можа адыграць ролю такога канфлікту. Па-першае, гэты так званы канфлікт адбываецца ў вузкай сферы тэхналогіі вытворчасці, па-другое, сама сітуацыя з'яўляецца нежыццёвай, вобраз галоўнага інжынера непераканаўчы. Нам невядомы карэнні яго настрояў, матывы яго паводзін, няясная яго ідэйная пазіцыя. Не то гэта ідэйны працаўнік, не то беспрынцыповы кар'ерыст. Ніводная з гэтых якасцей у ім пераканаўча не паказана, а таму і ўчынкі яго здаюцца нам неапраўданымі, і чым актыўней і напорысцей ён дзейнічае, тым больш недарэчнымі здаюцца нам яго паводзіны.

Па-трэцяе, і гэты канфлікт займае ў п'есе не такое ўжо значнае месца. У п'есе ёсць шмат іншага матэрыялу, які да гэтага канфлікту ніякага дачынення не мае. Тут людзі сыходзяць з правільнага шляху, парушаюць законы савецкай маралі і этыкі і зноў варочаюцца на правільны шлях, тут некалькі пар кахаюцца, разыходзяцца, зноў сыхо-

дзяцца,— і ўсё гэта незалежна ад асноўнага канфлікту. У выніку п'еса распадаецца на асобныя кускі, у якіх мы бачым часамі жывыя сцэнкі, цікава намечаныя характары, але цэльнага твора не атрымалася.

У аснову драматургічнага канфлікту, на маю думку, можа легчы толькі такое сутыкненне, у якім праціўнікі стаяць на розных ідэйных пазіцыях, па-рознаму адносяцца да савецкай маралі і этыкі, да свайго грамадскага абавязку, да перадавога і адсталага ў нашым жыцці. Такія сутыкненні, калі яны належным чынам абгрунтаваны, не могуць не хваляваць савецкага гледача, бо яны закранаюць яго перакананні, яго грамадскія ідэалы, за якія ён на месцы дзеючых асоб і сам бы заўзята змагаўся. Можна было б назваць нямала савецкіх п'ес, розных па жанру, па сваёй значнасці і мастацкай вартасці, але такіх, якія маюць у сваёй аснове востры канфлікт іменна такога характару.

Выбар сацыяльна значнага канфлікту з'яўляецца адным з важнейшых момантаў у рабоце драматурга над п'есай. Аднак не менш важнай і цяжкай задачай з'яўляецца рэалізацыя намечанага канфлікту ў сюжэце. Неабходна знайсці такую жыццёвую сітуацыю, у якой бы ўзятая ў аснову канфлікту супярэчнасць праявілася з найбольшай паўнатой і пераканальнасцю. Дзеючыя асобы павінны быць пастаўлены ў такія ўзаемаадносіны, каб яны без нацяжкі, без штучных сітуацый выяўлялі тыя свае якасці, якія з'яўляюцца неабходнымі для раскрыцця аўтарскага замыслу.

Калі фундаментам п'есы з'яўляецца канфлікт, глыбіня і правільнае вырашэнне якога вызначыць ідэйны змест твора, то добра распрацаваны сюжэт надае п'есе тую жыццёвую пераканальнасць, без якой самы найлепшы канфлікт можа застацца мёртвай схемай.

Надуманыя сітуацыі, дрэнна пабудаваныя ўзаемаадносіны людзей, адсутнасць тае спружыны, якая прывяла б у рух усіх дзеючых асоб, могуць загубіць самы найлепшы аўтарскі замысел. У выніку замест яркага мастацкага твора часта атрымліваецца схема, у якой усё правільна пададзена, але непераканаўча паказана ў жывых чалавечых вобразах.

Як слабасць сюжэта адбіваецца на якасці п'есы, гэта можна бачыць на прыкладзе п'есы А. Маўзона «Наталля Крыўцова». На першы погляд тут як быццам ёсць і канфлікт, у якім чалавеку несумленнаму, дробнаму кар'ерысту,

распусніку і цыніку Віктару Крыўцову і яго акружэнню проціпастаўлены сумленныя і высокамаральныя савецкія людзі: яго жонка Наталля Крыўцова, таленавіты канструктар Галай і іншыя. Бяда толькі ў тым, што, размясціўшы свае баявыя сілы на зыходных пазіцыях, аўтар не прывёў іх у дзеянне. Яны супрацьстаяць адна другой, але вельмі слаба дзейнічаюць. Атрымалася гэта па той прычыне, што механізм сюжэта прымітыўны і слаба прыгнаны. Калёсікі яго часамі круцяцца самі па сабе, не прыводзячы ў дзеянне іншых частак сістэмы. І перш за ўсё не дзейнічае асноўная спружына — тая справа, вакол якой заварваецца ўся каша. Справай гэтай намінальна з'яўляецца пабудова нейкага важнага станка, але што гэта за станок, для якой справы ён патрэбны,— мы не ведаем. Не ведаем таксама, чаму гэта стварэнне таленавітага канструктара не хоча рухацца, якая шкода наносіцца гэтым народнай гаспадарцы і хто за гэта хварэе. Асноўным сюжэтным ходам у п'есе з'яўляецца тое, што галоўны канструктар Крыўцоў спраўаджвае Галая ў Маскву, а сам жульніцкім спосабам спрабуе прысвоіць аўтарства станка. Але гэта не выклікае ніякага дзеяння з боку Галая па той прычыне, што ён нічога нават не ведае аб гэтым жульніцтве і па-ранейшаму лічыць Крыўцова сваім сябрам. Няўдалую махінацыю Крыўцова выкрываюць па чарзе: спачатку, як і належыць, сакратар парткома Захарава, потым другарадны персанаж — інжынер Грыгор'еў, потым жонка Крыўцова. У выніку пытанне аб Крыўцове ставіцца на бюро парткома, пасяджэнне якога павінна адбыцца... пасля закрыцця заслоны.

Што датычыцца сямейных адносін, то гэта лінія яшчэ больш бяздзейная. З першай жа сцэны, нават з першай фразы мы бачым Крыўцова як пашляка, распусніка і цыніка, які, не задумваючыся, ганьбіць сваю сям'ю. Нам нават незразумела, як такая чыстая жанчына, як Наталля, магла стаць жонкай Крыўцова. Цяпер гэта чужыя людзі. Наталля ведае, што муж ёй здраджвае, але яна не змагаецца ні за яго, ні супраць яго. Яна забірае сына і ідзе ад яго. Яна не дабіваецца свайго шчасця і з іншым чалавекам, якога, відаць, кахае.

Такім чынам, аўтар паставіў сваю гераіню ў такія ўмовы, што яна не магла ў поўнай меры раскрыць у дзеянні выдатныя якасці савецкай жанчыны.

І вось, калі мы параўнаем апошнія п'есы А. Маўзона і А. Кучара з іх ранейшымі п'есамі — «Канстанцін Заслонаў» і «Гэта было ў Мінску», то ўбачым, што перавага

застаецца за ранейшымі. І прычына, мабыць, заключаецца ў тым, што тады яны мелі не толькі гатовы канфлікт, які прынесла вайна, але ў значнай меры і гатовы сюжэт, які ім дала біяграфія нявыдуманых, сапраўдных герояў. Тут жа ім нічога гэтага жыццё ў гатовым выглядзе не дало.

Значна лепш абстаіць справа ў А. Макаёнка ў яго камедыі «Выбачайце, калі ласка!». У аснову канфлікту палажана тут жыццёвая супярэчнасць паміж грамадскім і асабістым, паміж дзяржаўнымі інтарэсамі — з аднаго боку, і паміж асабістымі кар'ерысцкімі мэтамі — з другога. Вастрыня канфлікту павялічваецца яшчэ ад таго, што гэтыя кар'ерысцкія, антыдзяржаўныя тэндэнцыі праяўляюцца ў дзейнасці адказнага работніка, які сам павінен з'яўляцца ўзорам высокай савецкай маралі і прынцыповасці, для якога інтарэсы дзяржавы павінны быць свяшчэннымі. Канфлікт гэты паказваецца на такой важнай і канкрэтнай справе, як здача хлеба дзяржаве. Рад удала знойдзеных сюжэтных хадоў і камедыйных сітуацый дае магчымасць паказаць носьбітаў зла іменна тым бокам, які больш за ўсё выклікае асуджэнне і асмяянне.

Ці ёсць слабыя бакі ў гэтым творы? Бясспрэчна, ёсць. Перш за ўсё кідаецца ў вочы пэўная ўмоўнасць фігуры Каліберава. Каліберaў як бы штучна вырваны з тых тыповых абставін, у якіх прыходзіцца працаваць людзям яго становішча. Ён цалкам ізаляваны ад партыйнага асяроддзя. Ніякіх метадаў і адзнак партыйнай працы, хоць бы па форме, мы не заўважаем. З такой умоўнасцю цяжка пагадзіцца, нават прымаючы пад увагу асаблівасці жанру сатырычнай камедыі. У сэнсе распрацоўкі сюжэта таксама не ўсё здавальняюча. Слабым момантам з'яўляецца тое, што Каліберaву і Моцкіну не проціпастаўлена такая фігура, якая па ходу дзеяння сама магла б адолець іх. Для калгасніцы Ганны Чыхнюк у сілу яе грамадскага становішча такая задача з'яўляецца непасільнай. І тут аўтар вымушаны звярнуцца да пракурора, які не па ходу сюжэта, а ў парадку выканання сваіх службовых абавязкаў умешваецца ў справу збоку і тым канчаткова вырашае канфлікт. Часам аўтару здраджвае мастацкі густ, і замест тонкіх і вострых штрыхоў сатырычнага пісьма мы бачым грубыя плакатныя мазкі, сустракаем банальныя жарты і недарэчы ўжытыя прыказкі.

Слабасць сюжэта, як я ўжо казаў, з'яўляецца недахопам многіх нашых п'ес, і папрокі, накіраваныя мной у адрас маіх сяброў па жанру, маглі б быць адрасаваны і мне

самому ў дачыненні, скажам, да такой п'есы, як «Зацікаўленая асоба». Мне тут таксама не ўдалося ўсё, што адбываецца ў п'есе, звязаць у адзін моцны сюжэтны вузел, паставіць дзеючых асоб у такія ўзаемаадносіны, каб яны з найбольшай паўнатой і з розных бакоў раскрываліся ў працэсе ўзаемадзеяння.

Схематызм з'яўляецца сапраўднай бядой нашай драматургіі. Дрэнна, калі драматург прывыкае мысліць у працэсе творчасці не канкрэтнымі вобразамі, а абстрактнымі катэгорыямі. Ён тады пераскоквае цераз матэрыяльную прыроду чалавека і апеліруе непасрэдна да грамадскай свядомасці дзеючай асобы, забываючы пра тое, што гэта свядомасць дзесьці месціцца, што змясцілішчам яе з'яўляецца жывы чалавек, з целам і кроўю, які есць, п'е, працуе, адпачывае, любіць, ненавідзіць, радуецца і сумуе. І робіць гэта кожны на свой лад, чым і абумоўліваецца бясконцая разнастайнасць чалавечых жыццяў і характараў. Без гэтага ўсе людзі аднае сацыяльнай катэгорыі выглядалі б аднолькава, што мы, на вялікі жаль, і сустракаем у некаторых п'есах, у якіх замест людзей ходзяць па сцэне правільна выпісаныя сацыяльныя катэгорыі. Такі бесцялесны дух не можа выклікаць жывой рэакцыі гледача іменна таму, што ён — бесцялесны.

Наўрад ці ёсць неабходнасць гаварыць аб тым, якое вялікае значэнне для мастацкай пераканаўчасці п'есы мае яе мова. Слова ў п'есе служыць не толькі сродкам выказвання пачуццяў і думак дзеючых асоб, яно яшчэ нясе на сабе і канструктыўную нагрузку. Таму яно павінна быць у вышэйшай меры мэтанакіраваным. Дзеючыя асобы павінны гаварыць не тое, што яны наогул могуць гаварыць пры даных акалічнасцях, а толькі тое, што з'яўляецца неабходным для раскрыцця аўтарскага замыслу. У п'есе не павінна быць выпадковых рэплік. Кожная фраза павінна быць нечым абумоўленай і ў сваю чаргу нешта абумоўліваць у сэнсе развіцця драматургічнага дзеяння. Толькі пры такой умове мова п'есы будзе дзейснай, сцэнічнай. Лішні слоўны матэрыял у п'есе гэтак жа перашкаджае развіццю дзеяння, як пясок, які трапіў у машыну, перашкаджае яе правільнай і безадмоўнай рабоце.

У размове аб драматургіі асабліва месца займае пытанне аб сатырычнай камедыі.

Наша крытыка наогул вельмі насцярожана ставіцца да кожнага сатырычнага твора. У гэтым у пэўнай меры

адлюстроўваюцца раўнівыя адносіны савецкіх людзей да ўсяго таго, што мы здабылі за гады савецкай улады. Зразумела, што і крытык, як сапраўдны савецкі патрыёт, пільна сочыць за тым, каб хто-небудзь па непаразуменню ці па злому намеру не зганьбіў таго, што дарага савецкаму чалавеку, у першую чаргу не зганьбіў бы без дай прычыны самога савецкага чалавека. Але няма чаго скрываць, што некаторыя работнікі, якім практычна прыходзіцца вырашаць пытанне аб тым, прапусціць ці не прапусціць сатырычны твор, кіруюцца яшчэ і меркаваннямі самастрахоўкі. Часамі яны трымаюцца таго погляду, што лепш зградзіць, чым завастрыць. Але зградзіць вастрыню сатырычнага твора — гэта часцей за ўсё значыць загубіць яго. Прыгладжаная, абцякаемая сатыра — гэта з'ява антынатуральная. Вастрыня сатыры — адна з асноўных яе вартасцей. Добры сатырычны твор — гэта заўсёды актыўнае ўмяшанне ў жыццё з мэтай нанесці ўдар таму, што перашкаджае ажыццяўленню грамадскіх ідэалаў аўтара. У сатыры можа найбольш ярка праяўляцца грамадзянскі пафас пісьменніка. Але сатырык павінен добра ўсведамляць сабе, куды ён накіроўвае свой удар і ў імя чаго. Інакшай ён будзе біць па сваіх, а тым самым па самім сабе.

Заганныя п'есы, напісаныя за апошні час і асуджаныя савецкай грамадскасцю, шкодныя не вастрынёй выкрыцця, якой у іх па сутнасці і няма, а тым, што яны б'юць не ў тую цэль, што яны чэрняць у імя чарнаты, не процістаўляючы адмоўнаму выразнага станоўчага ідэалу.

Што датычыцца сатырычнай камедыі, то для яе з'яўляюцца абавязковымі ўсе тыя патрабаванні, якія прад'яўляюцца сатыры наогул. Толькі тут становішча ўскладняецца тым, што аўтар не можа непасрэдна выказаць свае адносіны да з'явы, якую ён паказвае, а робіць гэта пры дапамозе драматычнага дзеяння, у якім звычайна станоўчае сутыкаецца з адмоўным.

Пытанне аб паказе станоўчага і адмоўнага ў літаратуры наогул і ў дачыненні да сатырычнай камедыі ў прыватнасці не раз абмяркоўвалася на старонках нашага друку. Шкада, што разважанні пры гэтым часта вядуцца наогул, без уліку спецыфікі жанру, без глыбокага пранікнення ў сутнасць справы. Разважаючы аб станоўчым і адмоўным, некаторыя таварышы ўяўляюць сабе справу так, нібы ў нашай рэчаіснасці станоўчае і адмоўнае існуюць кожнае само па сабе, і калі паказваць станоўчае — гэта святы абавязак кожнага савецкага пісьменніка, то паказ адмоўнага —

справа другарадная, ва ўсякім разе мала пачэсная, а можа, нават і непахвальная. А дзе ж у такіх выпадках месца савецкім Гогалям і Шчадрыным? І хто з паважаючых сябе савецкіх пісьменнікаў дазволіць сабе ўхіліцца ад выканання святога абавязку — паказу станоўчага і пойдзе на літаратурныя задворкі калупацца ў адмоўным?

Зусім іначай будзе выглядаць пытанне аб станоўчым і адмоўным, калі мы будзем уяўляць сабе нашу рэчаіснасць не ў статыцы, а ў выглядзе жывога працэсу, у якім мае месца пастаянная барацьба станоўчага з адмоўным, прычым станоўчае не без цяжкасцей, але няўхільна бярэ верх над адмоўным. Адлюстроўваючы такую рэчаіснасць, мы не можам пазбегнуць паказу адмоўнага, бо барацьба мае на ўвазе наяўнасць двух пачаткаў. Тут станоўчае па-ранейшаму з'яўляецца галоўным, пераважаючым, але побач з пераможным станоўчым мы бачым і адмоўнае, якое гэтым станоўчым перамагаецца. Пры паказе такой рэчаіснасці знойдзецца пачэснае месца кожнаму жанру, у тым ліку і сатырычнаму, і ніводзін з іх не застанецца на задворках.

Зыходзячы з таго, што літаратура з'яўляецца адлюстраваннем рэчаіснасці і што ў нашай савецкай рэчаіснасці станоўчае пераважае над адмоўным, некаторыя крытыкі патрабуюць, каб станоўчае і адмоўнае паказвалася ў кожным літаратурным творы ў такой жа прапорцыі, як гэта мае месца ў рэчаіснасці. Прад'яўляць такія патрабаванні кожнаму твору — гэта значыць не адрозніваць гімна ад памфлета, забываць аб тым, што кожны літаратурны жанр мае свае асаблівасці і свае спецыфічныя задачы. Ды і адмоўнае ў нашай рэчаіснасці не разбаўлена раўнамерна, як некаторыя сабе ўяўляюць. Пры агульным вялікім пераважанні станоўчага ёсць ачагі, дзе канцэнтрацыя адмоўнага значна вышэй сярэдняга арыфметычнага. Такія ачагі ў першую чаргу і прыцягваюць увагу сатырыка-камедыёграфа. Тут ён часцей за ўсё і сутыкаецца з жыццёвай сітуацыяй, якая можа легчы ў аснову сатырычнай камедыі.

Часамі драматурга ўпікаюць у тым, што ў цэнтры яго сатырычнай камедыі стаіць адмоўны персанаж. Гэта падобна на тое, калі б мы ўпікалі хірурга ў тым, што ў цэнтры яго ўвагі знаходзіцца нарыў, які ён збіраецца ўскрыць, клапоцячыся аб здароўі чалавека. Прызначэнне ж сатырычнай камедыі — выкрываць зло ў імя дабра. У драматычным творы можна гэта зрабіць, толькі паказаўшы зло ў дзеянні, прычым так, каб яно ў дастатковай меры праяві-

лася і паказала ўсе свае шкодныя якасці. Але як жа гэтага можна дасягнуць, калі не паставіць носьбіта зла ў цэнтр увагі, а пакінуць недзе ў цяні. У такім выпадку зло ў поўнай меры не будзе выкрыта і мэта драматурга не будзе дасягнута. Паказ таго, што ў нас станоўчае перамагае, а адмоўнае асуджана на пагібель, заключаецца зусім не ў тым, каб у сатырычнай камедыі ставіць у цэнтр увагі станоўчага героя замест адмоўнага. Станоўчы эфект у сатырычнай камедыі дасягаецца ўжо самім пафасам выкрыцця, пераканаўчай матывіроўкай учынкаў дзеючых асоб, паказам абстаноўкі і прычын, у сілу якіх адмоўнае на пэўны час можа актывізавацца, і, вядома, паказам станоўчага, якое, урэшце, бярэ верх. Але іменна ўрэшце, бо калі з самага пачатку станоўчае будзе пераважаць і падаўляць адмоўнае, то зло не зможа сябе праявіць з дастатковай паўнатой, яно будзе ліквідавана, але не выкрыта мастацкімі сродкамі, і добрай сатырычнай камедыі з гэтага не атрымаецца.

Такія, на маю думку, асаблівасці жанру сатырычнай камедыі.

Само сабой зразумела, што для п'есы любога жанру, як і для кожнага літаратурнага твора, найважнейшае значэнне мае ідэйны змест. Але мы не павінны забываць пра тое, што ідэя ў мастацкім творы патрабуе спецыфічнага спосабу выражэння — праз мастацкія вобразы. Толькі ў такім выглядзе, дзейнічаючы не толькі на свядомасць, але, у першую чаргу, на пачуцці чалавека, яна становіцца найбольш даходлівай, пакідае глыбокі след у чалавечым успрыманні. Прычым у дачыненні да драматургіі гаворка павінна ісці аб стварэнні сістэмы чалавечых вобразаў. І тут на першае месца выступаюць такія моманты, як выбар канфлікту і распрацоўка сюжэта, з чым мы часта спраўляемся нездавальняюча. Карацей кажучы, справа ўпіраецца ў авалоданне майстэрствам стварэння п'есы. Калі мы не прыложым у гэтым кірунку вялікіх намаганняў, дык не здолеем узняць нашу драматургію на больш высокую ступень, не задаволім тых законных патрабаванняў, якія прад'яўляе нам глядач.

*1954*

## ВЯЛІКАЯ ДРУЖБА

Шырока і вольна раскінуліся прасторы Савецкай Украіны ад Закарпацця да Дона, ад Прыпяці да Чорнага мора. Багаты і слаўны сёння ўкраінскі народ. Багаты пшаніцай і цукрам, вугалем і рудой, магутнай прамысловасцю і высокай культурай. Увесь з'яднаны ён сёння ў адзінай Савецкай дзяржаве, і ніводная пядзя зямлі яго не знаходзіцца больш пад чужаземным уладаннем. З вышыні сённяшніх дасягненняў ён з гордасцю можа аглянуцца на пройдзены гістарычны шлях, адзначаны многімі выдатнымі падзеямі. І адной з самых вялікіх падзей на гэтым шляху з'яўляецца ўз'яднанне Украіны з Расіяй, трохсотую гадавіну якога святкуюць сёння ўсе савецкія народы.

Пераяслаўская Рада назаўсёды застанецца ў памяці народаў як выдатны гістарычны момант, як мудры гістарычны акт, з якога пачалася вечная дружба двух вялікіх народаў — рускага і ўкраінскага. Гэта дружба адыграла выключную ролю ў лёсе ўкраінскага народа. Гэта дружба ўратавала Украіну ад чужаземнай няволі. Яна ўмацавала і Расійскую дзяржаву, даўшы ёй яшчэ большую сілу і стойкасць у змаганні са шматлікімі знешнімі ворагамі. На гэту дружбу, на дапамогу вялікага рускага народа апіраліся ўсе іншыя народы былой царскай Расіі ў сваёй барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Дружба гэта аказалася такой моцнай, што яе не маглі зламаць ніякія выпрабаванні багатай падзеямі гісторыі народаў, якія яе стварылі. Ні польскім магнатам, ні турэцкаму султану, ні Карлу XII, ні Напалеону I не ўдалося зламаць гэту дружбу. Аб непрыступную цвярдыню не раз разбіваліся полчышчы чужаземных захопнікаў, сквапных да чужых зямель і чужога дабра.

Свайго найвышэйшага росквіту дружба нашых народаў дасягнула ў Савецкай дзяржаве. Выкаваная Камуністычнай партыяй, асветленая геніем Леніна і Сталіна, угрунтаваная на моцным фундаменце сацыялістычнага ладу, у якім няма месца для варожасці паміж народамі,— дружба гэта стала непарушнай навекі. І краевугольным каменем у гэтай дружбе савецкіх народаў з'яўляецца дружба найбольш даўняя — дружба двух найбольш магутных народаў Савецкага Саюза — рускага і ўкраінскага. Вось чаму трохсотгоддзе ўз'яднання Украіны з Расіяй з'яўляецца вялікім святам для ўсіх народаў Савецкага Саюза.

Для беларускага народа гэта свята мае асаблівае значэнне, бо ён і сам быў непасрэдным удзельнікам барацьбы за вызваленне з-пад прыгнёту польскіх магнатаў. Паўстанцкія атрады Нябабы, Галоты, Крывашапкі, Гаркушы не раз грамілі шляхецкія палкі, якія польскі кароль пасылаў ва фланг войскам Багдана Хмяльніцкага. Беларускаму народу не ўдалося тады назаўсёды скінуць з сябе панскае ярмо, і Беларусь падзяліла лёс Правабярэжнай Украіны, застаўшыся яшчэ на доўгія гады пад прыгнётам панскай Польшчы, але Пераяслаўская Рада з'явілася для беларускага народа вялікім натхняючым прыкладам, які яскрава даводзіў, што запаветная мара нашага народа аб уз'яднанні яго са сваім старэйшым братам — вялікім рускім народам можа быць здзейснена. І яна сапраўды здзейснілася.

Сёння, пад слаўным савецкім сцягам, з кожным днём мацнее дружба ўсіх савецкіх народаў, галоўнай апорай у якой з'яўляюцца веліч, сіла, высакародная брацкая дапамога вялікага рускага народа. Аб гэту дружбу ў Вялікай Айчыннай вайне разбіліся мутныя хвалі фашысцкай навалы. Аб яе разаб'юцца і ўсе ліхія намеры новых прэтэндэнтаў на заваяванне свету — крывавых драпежнікаў імперыялізма.

*1954*

## ЧЫМ ВЯЛІКІ МАЯКОЎСКІ?

Чым вялікі Маякоўскі? Такое пытанне заканамерна можа паўстаць не толькі перад крытыкам, якому ў сілу яго прафесіі прыходзіцца аналізаваць літаратурныя з'явы і адрозніваць вялікае ад дробнага, але і перад кожным пісьменнікам. Некаторым перш за ўсё кідаецца ў вочы арыгінальная манера Маякоўскага. Наіўныя пераймальнікі Маякоўскага думаюць, што даволі стаць у яго позу, каб іх паэзія таксама загрымела на ўвесь свет. Пры лёгкаважкасці зместу іх твораў такія паэты часта становяцца падобнымі да «асілкаў», якія падымаюць папяровыя гіры. Гэтым яны даводзяць як не трэба лепш, што не манера Маякоўскага з'яўляецца першапрычынай яго велічы. Веліч гэта

складваецца з двух галоўных кампанентаў: страснага грамадскага тэмпераменту паэта і яго вялікага паэтычнага таленту, пастаўленага на службу народу. І не народу ў расплывучатым разуменні гэтага слова, а канкрэтна — «атакуючаму класу» ў самы адказны момант яго гісторыі, калі гэты атакуючы клас пачаў ламаць і крышыць устоі старога свету. Адгэтуль сіла грому ў паэтычным слове Маякоўскага, адгэтуль агнявыя маланкі яго сатыры, якія бязлітасна хвасталі ўсё, што стаяла на шляху пераможнага поступу рэвалюцыі. Для выканання гэтай місіі паэту мала было паэтычных сродкаў, абжытых яго папярэднікамі, і ён знайшоў новыя сродкі, выпрацаваў сваю манеру размаўляць з рэвалюцыйным народам.

Маякоўскі з'явіўся ў нашу паэзію як навальніца, праліўшыся дабратворным даждждом на яе ніву і ачысціўшы паветра ад запляснелых поглядаў і паняццяў, якіх яшчэ так было многа ў гады яго бурнай дзейнасці.

*1957*

## ПРАМОВА НА ЧАЦВЁРТЫМ З'ЕЗДЗЕ СП БССР

Дарагія таварышы! Ад Трэцяга з'езда пісьменнікаў Беларусі прайшло чатыры гады. За гэты час беларуская літаратура панесла вялікія страты. Няма сярод нас незабыўнага, любімага ўсімі намі Канстанціна Міхайлавіча — Якуба Коласа, Міхася Клімковіча, Алеся Стаховіча, Георгія Шчарбатава, Грыгорыя Камянецкага, Уры Фінкеля, Міколы Засіма. Прашу ўшанаваць памяць іх устаннем.

Дарагія таварышы! Пісьменнікі Беларусі сабраліся на свой Чацвёрты з'езд у знамянальны час, калі савецкі народ уступае ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства. Працоўныя нашай краіны, натхнёныя гістарычнымі рашэннямі XXI з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, захопленыя велічнымі перспектывамі, разгорнутымі ў дакладзе Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, прыступілі да выканання грандыёзных задач.

Нашу будучыню мы рэальна бачым не толькі ў кантрольных лічбах сямігадовага плана, але і ў канкрэтных справах, у грандыёзных будоўлях, якія паводле сямігадовага плана пачалі ўжо ажыццяўляцца, у брыгадах і цэхах камуністычнай працы, якія арганізуюцца па ўсёй краіне.

Рашэннямі з'езда вызначаны галоўныя задачы партыі і савецкага народа ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры, у справе ўздыму дабрабыту народа і магутнасці нашай Радзімы.

Водгулле таго, што гаварылася з высокай крамлёўскай трыбуны, разнеслася па ўсёй планеце, выклікаўшы бурную радасць нашых сяброў і бяссільную злосць нашых ворагаў, якія, сцяўшы зубы, вымушаны прызнаць рэальнасць нашых планаў і іх сусветнае значэнне.

У выніку рэалізацыі сямігадовага плана на вышэйшую ступень узнімецца не толькі народная гаспадарка нашай краіны, не толькі матэрыяльны дабрабыт народа, але і свядомасць савецкага чалавека. У свядомасці людзей усё менш будуць праяўляцца перажыткі капіталізма і ўсё выразней будуць выступаць якасці грамадзяніна камуністычнага грамадства. У высакароднай справе выхавання савецкіх людзей, асабліва маладога пакалення, у духу камунізма пачэсная роля належыць савецкай літаратуры.

Сабраўшыся на свой з'езд, мы, беларускія пісьменнікі, павінны падумаць аб тым, як узняць узровень нашай літаратуры да ўзроўню велічных спраў савецкага народа, да ўзроўню запатрабаванняў перадавога нашага чытача — будаўніка камуністычнага грамадства.

Спецыфіка пісьменніцкай працы не дазваляе нам нашы намеры і творчыя планы выразіць у лічбах. Не можам мы прымяніць для падняцця сваёй вытворчасці і навейшыя дасягненні навукі і тэхнікі — атамную энергію, аўтаматыку, тэлемеханіку. Увесь тэхнічны прагрэс пісьменніцкай працы з часоў Пушкіна абмяжоўваецца тым, што гусінае пяро замянілася аўтаручкай. Такое тэхнічнае ўдасканаленне не гарантуе нам напісання лепшых мастацкіх твораў, чым пісалі нашы слаўныя продкі. А тым часам гэтай недасканалай прыладкай, па сутнасці, тым жа дзедаўскім спосабам, нам прыходзіцца пісаць пра новую рэчаіснасць, пра рэчаіснасць эпохі атамных электрастанцый і касмічных ракет, пра стваральнікаў гэтай фантастычнай тэхнікі — будаўнікоў камуністычнага грамадства. Аднак адчайвацца нам няма падставы. Ёсць даступная нам і самая важная

ў нашай справе вобласць — душа чалавека. Недарэмна Аляксей Максімавіч Горкі назваў літаратуру чалавеказнаўствам.

Гэта чалавеказнаўчая сутнасць з найбольшай паўнатой праявілася іменна ў нашай савецкай літаратуры. Няма на свеце другой літаратуры, якая б з такой глыбінёй адлюстравала самыя высокія ідэалы чалавецтва, расказала аб самых гераічных подзвігах, здзейсненых дзеля іх ажыццяўлення, выразіла самыя высакародныя думы і пачуцці перадавых людзей нашай эпохі — будаўнікоў камунізма. За гэтыя якасці якраз і апалчаюцца на савецкую літаратуру нашы ідэйныя праціўнікі — буржуазныя ідэолагі і рэвізіяністы розных масцей. Ім больш за ўсё колюць вока прынцыпы, на якіх грунтуецца савецкая літаратура, дзякуючы якім яна паспяхова выконвае ролю вернага памочніка партыі ў выхаванні мас. Яны злосна нападаюць на творчы метад сацыялістычнага рэалізму, іх даводзяць да белай гарачкі партыйнасць і сапраўдная народнасць, якімі прасякнуты творы савецкіх пісьменнікаў.

Але гэтыя злосныя нападкі якраз і пераконваюць нас у тым, што савецкая літаратура знаходзіцца на правільным шляху. Яна і далей будзе ісці па гэтым шляху. Гарантыяй натаму — пастаянныя клопаты аб савецкай літаратуры нашай роднай Камуністычнай партыі, якая заўсёды асцерагала нас ад памылковых крокаў, на ўсіх этапах указвала нашай літаратуры самы верны напрамак, накіроўваючы яе на служэнне народу. Указанні партыі аб цеснай сувязі літаратуры і мастацтва з жыццём народа паказваюць савецкаму пісьменніку той адзіны шлях, на якім яго чакае поспех і прызнанне народа.

Кроўная сувязь пісьменніка з народам — гэта жыватворная крыніца, якая заўсёды жывіць талент пісьменніка, надае мастацкую сілу і глыбіню яго творам. Яркім доказам гэтага служаць неўміручыя творы Горкага, Маякоўскага, Купалы, Коласа і многіх другіх выдатных прадстаўнікоў савецкіх літаратур.

Беларускім пісьменнікам на сваім з'ездзе прыйдзецца абмеркаваць шмат розных пытанняў, якія па сутнасці зводзяцца да аднаго галоўнага: да пытання аб тым, як пісаць добрыя творы. Праўда, мы ўсе ведаем, якім патрабаванням павінен адпавядаць добры твор у нашым разуменні. Ён павінен быць высокаідэйным па зместу і высокамастацкім па яркасці адлюстравання рэчаіснасці. Мы павінны пісаць праўду аб нашай рэчаіснасці, асвятляючы яе з марк-

сісцка-ленінскіх пазіцый. Здаецца, усё ясна. Садзіся і пішы. Але на справе гэта выходзіць далёка не так проста. Бывае, напіша пісьменнік твор і гатоў паклясціся, што напісаў чыстую праўду. Нават можа дакументальна пацвердзіць, што ўсё іменна так і было ў жыцці. Паглядзіш дакументы: праўда, былі такія факты. Пачытаеш твор: няпраўда, а то і горш — паклёп. Гэта значыць, што праўда фактаў і мастацкая праўда не тое самае. Гэта значыць, што пісьменнік павінен бачыць не толькі факты, але і іх узаемасувязь, ведаць заканамернасці жыцця, тады толькі факты саслужаць яму добрую службу.

Бывае і іначай. Пісьменнік напісаў твор, здавалася б, і бездакорны ў ідэйных адносінах. І ўсё ж ён не дасягае мэты. Здараецца гэта тады, калі ідэя выражана ў творы абстрактна, калі правільныя думкі і погляды падмацоўваюцца толькі бледнымі ілюстрацыямі, калі пісьменнік забывае пра непахісны закон мастацтва, у якім агульнае выражаецца праз індывідуальнае, праз канкрэтнае, праз жывыя фарбы жыцця, праз яскравыя чалавечыя вобразы. Калі гэтага няма, ідэя застаецца мёртвай догмай, не здольнай закрануць струны чалавечай душы.

Наогул, праблема напісання добрага твора з'яўляецца для пісьменніка пастаяннай. Яна не можа быць ім вырашана раз і назаўсёды. Нават той шчаслівец, якому ўдалося напісаць дасканалы твор, не можа аўтаматычна паўтарыць гэта другі раз. Працуючы над наступным творам, ён вымушаны вырашаць праблему нанава. Сталай тэхналогіі ў пісьменніцкай працы няма. Мы, у адрозненне ад прамысловасці, не можам наладзіць серыйную вытворчасць. Кожны сапраўды мастацкі твор з'яўляецца унікальным. А калі пачынаецца серыйны выпуск, значыць, трэба даваць трывожныя гудкі: пайшоў брак.

Як няма ў нас шаблону для вытворчасці мастацкай прадукцыі, так яго не павінна быць і ў творчых ацэнках. Кожны твор, як з'ява унікальная, патрабуе асаблівага, індывідуальнага падыходу з боку крытыкі. Але гэта не азначае, што ў нас наогул няма ніякіх крытэрыяў, што ў справе творчых ацэнак пануе поўны суб'ектывізм. Ёсць агульная марксісцка-ленінская метадалогія, якая з'яўляецца надзейнай апорай для ацэнкі любога мастацкага твора.

Кіруючыся гэтай метадалогіяй, удзельнікі нашага з'езда змогуць даць правільную ацэнку творам беларускіх пісьменнікаў, таму, што было зроблена намі ў мінулым,

чаго нам яшчэ не хапае і як нам у далейшай працы ад гэтых недахопаў пазбавіцца, каб з поспехам выканаць вялікія задачы, пастаўленыя перад савецкай літаратурай партыяй і народам.

Таварышы! Я рад паведаміць, што для ўдзелу ў рабоце нашага з'езда да нас прыехалі дарагія госці: дэлегацыя Саюза пісьменнікаў СССР у складзе Валянціна Катаева, Уладзіміра Піменава, Тэафіліса Цільвіціса, Міхаіла Гарбачова, дырэктара Дзяржлітвыдавецтва Грыгорыя Уладыкіна; з Украіны — Юрый Збанацкі, Мікола Нагнібеда і Тэрэнь Масэнка; з Ленінграда — Вадзім Шэфнер, Павел Кабзарэўскі, Арсен Астроўскі; з Арменіі — Геворк Эмін; з Літвы — Альгірдас Поцюс; з Латвіі — Адольф Талцыс; з Туркменіі — Какалі Бярдыеў; з Малдавіі — Мікалай Раманенка.

Дазвольце ад вашага імя сардэчна прывітаць нашых дарагіх гасцей.

Таварышы! На з'ездзе прысутнічае 153 члены СП БССР. Сярод іх ёсць таварышы, якія на з'ездзе прысутнічаюць упершыню. Гэта тыя, каго мы прынялі ў саюз пасля Трэцяга з'езда пісьменнікаў БССР. А прынялі мы за гэты час каля 60 чалавек.

Дазвольце мне ад імя ўсіх прысутных прывітаць маладое папаўненне нашых радоў і пажадаць яму добрых поспехаў у творчай працы.

Чацвёрты з'езд пісьменнікаў БССР аб'яўляю адкрытым.

*1959*

## ПРАМОВА НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Таварышы дэпутаты! Першая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пятага склікання адкрываецца ў абставінах велізарнага палітычнага і працоўнага ўздыму савецкага народа, выкліканага гістарычнымі рашэннямі XXI з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. З'езд азнаменаваў уступленне нашай

краіны ў новы важнейшы перыяд у яе развіцці — у перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства, намеціў велічную праграму далейшага ўздыму эканомікі, культуры і матэрыяльнага дабрабыту працоўных.

Зацверджаная XXI з'ездам партыі грандыёзная праграма камуністычнага будаўніцтва радуе і глыбока хвалюе ўсіх савецкіх людзей, усіх сапраўдных сяброў Савецкага Саюза, змагароў за вялікую справу камунізма. У велічных лічбах народнагаспадарчага плана мы бачым сваё прамяністае заўтра, сваю магутнасць, свае неабмежаваныя творчыя магчымасці. Ажыццяўленне сямігадовага плана прадугледжвае стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, выкананне асноўнай эканамічнай задачы нашай дзяржавы — дагнаць і перагнаць найбольш развітыя капіталістычныя краіны па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва.

Велічныя задачы сямігодкі выклікалі небывалы прыліў творчай ініцыятывы савецкіх людзей, іх гарачае імкненне і жаданне папрацаваць на славу для дасягнення пастаўленых мэт.

Беларускі народ, як і ўсе народы Савецкага Саюза, горача і аднадушна адобрыў рашэнні XXI з'езда партыі, успрыняў сямігадовы план як сваю кроўную справу, як баявую праграму дзеяння. У рэспубліцы ўсё шырэй разгортваецца ўсенароднае сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне сямігадовага плана.

Сваю згуртаванасць вакол роднай Камуністычнай партыі, сваё аднадушнае імкненне ажыццявіць велічную праграму пабудовы камуністычнага грамадства беларускі народ з велізарнай сілай яшчэ раз прадэманстраваў у час выбараў, якія нядаўна адбыліся, у Вярхоўны Савет Беларускай ССР і ў мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных.

Выбары вышэйшага і мясцовых органаў дзяржаўнай улады рэспублікі ўвянчаліся поўнай перамогай народнага блоку камуністаў і беспартыйных і выліліся ў магутную дэманстрацыю непарушнага адзінства партыі і народа.

Таварышы дэпутаты! Прайшло чатыры гады з таго часу, як адбыліся выбары Вярхоўнага Савета Беларускай ССР чацвёртага склікання, а якіх велізарных поспехаў за гэты час дабіўся савецкі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ва ўсіх галінах гаспадаркі, навукі і культуры!

Праведзеныя пасля XX з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза мерапрыемствы па далейшаму развіццю савецкай дэмакратыі і ўмацаванню сувязі дзяржаўнага апарату з масамі, па развязванню актыўнасці і творчай ініцыятывы працоўных далі плённыя вынікі ва ўсіх галінах дзяржаўнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Расшырэнне правоў саюзных рэспублік і мясцовых Саветаў, рэарганізацыя кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам, мерапрыемствы па далейшаму развіццю калгаснага ладу і рэарганізацыя машынна-трактарных станцый далі магчымасць дабіцца яшчэ большых поспехаў у развіцці народнай гаспадаркі БССР.

У гэтым годзе беларускі народ разам з усімі народамі нашай Радзімы ўрачыста адзначыў знамянальную дату ў сваёй гісторыі — 40-годдзе Камуністычнай партыі Беларусі і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

За паспяховае аднаўленне разбуранай у перыяд вайны народнай гаспадаркі і буйныя дасягненні беларускага народа ў далейшым развіцці прамысловасці, будаўніцтве, сельскай гаспадаркі і культуры рэспубліка была ўзнагароджана другім ордэнам Леніна.

Працоўныя нашай рэспублікі ведаюць, што сваімі дасягненнямі, сваім свабодным і шчаслівым жыццём яны абавязаны Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і яе баявому штабу — ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту, які ўпэўнена вядзе савецкі народ да камунізма.

У адказ за высокую ўзнагароду, на ўсе клопаты Камуністычнай партыі беларускі народ будзе яшчэ больш настойліва змагацца за выкананне гістарычных рашэнняў XXI з'езда КПСС, за перамогу камунізма ў нашай краіне.

Таварышы дэпутаты! Выбіраючы Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, працоўныя аказалі нам вялікае давер'е і ўсклалі на нас вялікія і адказныя задачы. Гэта аказанае нам выбаршчыкамі высокае давер'е абавязвае нястомна працаваць на карысць народа, добрасумленна выконваць свае дэпутацкія абавязкі.

Дазвольце мне выказаць упэўненасць у тым, што дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларускай ССР з гонарам апраўдаюць высокае давер'е народа і аддадуць усе сілы пабудове камуністычнага грамадства ў нашай краіне.

Няхай жыве вялікі савецкі народ — будаўнік камунізма!

Няхай жыве Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве Камуністычная партыя Савецкага Саюза — натхніцель і арганізатар усіх нашых перамог!

*1959*

## ПРАМОВА НА З'ЕЗДЗЕ НАСТАЎНІКАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Дарагія таварышы!

Дарагія браты настаўнікі!

Шчырае прывітанне вам і ў вашай асобе ўсёй шматтысячнай арміі працаўнікоў на ніве народнай асветы ад беларускіх пісьменнікаў.

Ваша высакародная праца, якая карыстаецца ўсеагульнай пашанай і павагай, вельмі блізкая нам, пісьменнікам. У нас розныя сродкі, але агульная мэта — выхаванне савецкага чалавека — грамадзяніна і працаўніка камуністычнага грамадства. Калі вы ўпершыню нахіляецеся над партай навічка, мы тут жа, побач з вамі, са сваімі кніжкамі, са сваім мастацкім словам.

У сувязі з перабудовай школы ў вас прыбавіўся яшчэ адзін нялёгкі, але пачэсны абавязак — навучыць давераных вам маладых грамадзян навыкам працы, дапамагчы ім выявіць схільнасць да тае ці іншае прафесіі і, што яшчэ больш важна, выхаваць у іх любоў і павагу да працы і да працоўнага чалавека.

У вялікай справе выхавання савецкага чалавека мы, вашы верныя саюзнікі, заўсёды адчуваем сваю адказнасць перад вамі, перад савецкай школай. З належнай павагай мы адносімся да запатрабаванняў, а часам і папрокаў, якія вы накіроўваеце ў наш адрас. Папрокі гэтыя таксама бываюць справядлівыя, бо не ўсе нашы творы адпавядаюць высокім запатрабаванням.

Вядома, выхаванне савецкага чалавека не канчаецца ў школе або нават у ВНУ. У нашай краіне чалавек выхоўваецца ўсюды. Усе сферы нашага жыцця прасякнуты ідэямі

высокай чалавечай маралі, ідэямі камунізма. На ўсе сферы пашыраюцца бацькоўскія клопаты нашай партыі аб савецкім чалавеку, аб яго ідэйным росце. Аднак аснова добрых якасцей чалавека і грамадзяніна закладваецца ў школе. Таму і назваў М. С. Хрушчоў народнага настаўніка галоўнай апорай партыі ў змаганні за ўздым культуры народа, самым блізкім памочнікам партыі ў выхаванні новага чалавека на слаўных рэвалюцыйных традыцыях, у духу высокай камуністычнай свядомасці.

Важнасць задач, якія стаяць перад савецкай літаратурай, мастацтвам, перад усёй савецкай інтэлігенцыяй, нашу з вамі вялікую адказнасць перад народам, перад партыяй за выхаванне маладога пакалення мы асабліва ўсвядомілі ў час нядаўняй сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада з творчай інтэлігенцыяй, удзельнікам якой і я меў шчасце быць. У яркай прамове Мікіты Сяргеевіча на гэтай сустрэчы, у выступленнях членаў Прэзідыума ЦК КПСС, у выступленнях усіх яе ўдзельнікаў гучала адна галоўная нота: адзінства партыі і народа, адзінства народа і народнай інтэлігенцыі, абавязак якой — дапамагаць народу ажыццяўляць вялікую справу — пабудову камунізма. Мы, пісьменнікі, ганарымся, што наша родная Камуністычная партыя лічыць нас, як і вас, сваімі надзейнымі памочнікамі ў справе выхавання новага чалавека. Але гэта не толькі гонар, а і наш агульны высокі абавязак.

Мы цесна звязаны з вамі агульнымі задачамі, і гэта цесная сувязь літаратуры са школай дае свае плённыя вынікі. Вы ведаеце, што народны паэт Якуб Колас працаваў доўгі час настаўнікам, што ён, будучы пісьменнікам, не парываў са школай, складаў для яе чытанкі і падручнікі па мове. Са школы прыйшлі ў літаратуру Міхась Лынькоў, Янка Маўр, Іван Шамякін, Пімен Панчанка і іншыя нашы пісьменнікі. Я таксама пачынаў сваю працоўную дзейнасць у якасці настаўніка пачатковай школы. І, з другога боку, напэўна, не адзін юнак ці дзяўчына, прачытаўшы цудоўны твор Якуба Коласа «На ростанях», вырашылі аддаць свае сілы і здольнасці высакароднай справе народнай асветы.

Мы з глыбокай зацікаўленасцю сочым за вашай працай і радуемся вашым поспехам, таму што гэта і нашы поспехі. Па той жа прычыне нас засмучаюць недахопы і прыкрыя з'явы, калі яны маюць месца ў вашай працы. Зразумела, што нас асабліва цікавіць тое, як вы падаеце вучням нашы творы, як вы выхоўваеце ў іх любоў да мастацкага слова, да роднай мовы. Пра гэта вельмі хораша гаварыў на Усерасій-

скім з'ездзе настаўнікаў Аляксандр Твардоўскі. Вы ўсе, напэўна, чыталі яго выступленне, і мне няма патрэбы яго пераказваць. Я толькі скажу, што нам бывае сапраўды прыкра, калі нашы творы прэпарыруюць раней, чым іх прачытаюць. А тым часам не сакрэт, што ў школе часта разбіраюцца па костачках творы, якіх вучні не чыталі, а часам і ў вочы не бачылі. А то, чаго добрага, і сам настаўнік не чытаў іх. Такі выкладчык нагадвае мне дзівака, які замест таго, каб любавацца вобразам каханай дзяўчыны, пачаў бы разбіраць, з чаго яна складаецца. Зразумела, што анатомію чалавека таксама карысна вывучаць, але ні лёгкія, ні селязёнка, якімі б яны дасканалымі ні былі, не могуць выклікаць тае асалоды, якую мы атрымліваем, бачачы хараство жывога чалавека. Элементы мастацкага твора таксама трэба вывучаць, але дайце ж спачатку адчуць хараство жывога твора. Вядома, калі гэтае хараство там ёсць.

Ёсць, на жаль, і такія творы, што як ты яго ні спажывай, у цэлым ці разабраным выглядзе, вялікай асалоды не атрымаеш. Гэта творы, якія трапілі ў школьную праграму па непаразуменню, і не пра іх тут гаворка. Я маю на ўвазе сапраўды мастацкія творы, якія варты таго, каб на іх вучылася маладое пакаленне.

Асобна я хацеў бы спыніцца на пытаннях мовы, да якой мы павінны адносіцца з належнай павагай. І не толькі таму, што гэта вялікі скарб, створаны народам на працягу вякоў гістарычнага развіцця, а яшчэ і таму, што гэта самая важнейшая прылада нашай вытворчасці. Толькі дасканала валодаючы мовай, пісьменнік зможа напісаць сапраўды мастацкі твор з яркімі, паўнакроўнымі вобразамі, з праўдзівым і глыбокім адлюстраваннем рэчаіснасці. Нездарма творы выдатных паэтаў і пісьменнікаў захапляюць нас не толькі глыбокімі ідэямі і яркімі чалавечымі вобразамі, але хараством і багаццем мовы. І наадварот, добры па задуме твор часта выходзіць няўдалым ад таго, што ён напісаны каравай мовай. А настаўнік, які дрэнна валодае мовай,— хіба можа паспяхова перадаць свае веды вучням, запаліць іх пачуцці, выклікаць жывую зацікаўленасць да свайго прадмета?

Каго народ лічыць знаўцай мовы? Настаўніка і пісьменніка. Гэты аўтарытэт заваяваны нашымі папярэднікамі на працягу вякоў, і мы, савецкія пісьменнікі і настаўнікі, павінны ўзняць яго яшчэ вышэй. На жаль, не ўсе гэта разумеюць. А таму ёсць і кнігі, напісаныя каравай мовай,

ёсць і настаўнікі, якія нядбайна адносяцца да мовы. Ясна, што такі выкладчык не можа прышчапіць сваім вучням любоў да мастацкага слова, да слова наогул.

Дарагія таварышы! На гэтым з'ездзе гаварылася і аб нашай пісьменніцкай працы. Сур'ёзныя патрабаванні паставілі перад беларускімі пісьменнікамі таварыш Ільюшын і таварыш Максімаў у сваіх дакладах. Мы ганарымся, што нам была ўдзелена такая ўвага. Разам з тым мы адчуваем сваю адказнасць перад школай, перад вучнямі і настаўнікамі. Мы яшчэ мала напісалі кніг, у якіх адлюстроўваюцца велічныя справы нашага народа. Асабліва мала кніг для дзяцей, і якасць іх не заўсёды здавальняючая. Дазвольце запэўніць вас, што беларускія пісьменнікі аднясуцца з поўнай сур'ёзнасцю да вашых справядлівых запатрабаванняў і пастараюцца напісаць больш твораў і лепшых.

Канчаючы сваю прамову, я хачу яшчэ раз пажадаць вам, браты настаўнікі, вялікіх поспехаў у вашай працы, у выхаванні маладога пакалення, якое будзе мець шчасце жыць у камуністычным грамадстве.

*1960*

## ВІНШУЮ ТАЛЕНАВІТЫ КАЛЕКТЫЎ

Споўнілася сорак год з дня заснавання Дзяржаўнага драматычнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Ужо адна гэтая доўгая, але пачэсная назва гаворыць аб тым, якое месца займае тэатр у развіцці беларускага драматычнага мастацтва, аб яго заслугах перад савецкім гледачом. А пачаў гэтую добрую справу невялікі малады калектыў, група энтузіястаў, у якіх за плячыма не было ніякага багажу, апрача таленту і шчырага жадання працаваць на карысць свайго народа.

З гэтага зерня, дзякуючы клопатам Камуністычнай партыі і савецкай улады, вырас багаты плён — першакласны драматычны тэатр, якім з поўным правам ганарыцца наша рэспубліка. У ім выраслі выдатныя майстры сцэны, якія сваёй таленавітай працай заслужылі любоў народа і ўдастоены высокага звання народных і заслужаных артыстаў СССР і БССР.

За сорак год тэатрам пастаўлены сотні спектакляў па п'есах класікаў рускай і сусветнай драматургіі, па п'есах беларускіх, рускіх і ўкраінскіх савецкіх драматургаў і многіх іншых братніх рэспублік. Многія з гэтых спектакляў далі сапраўдную асалоду сотням тысяч савецкіх гледачоў, паслужылі вялікай справе выхавання людзей у камуністычным духу.

Вялікую ролю адыграў тэатр і ў развіцці беларускай савецкай драматургіі. Пад уражаннем яркіх спектакляў з'яўлялася жаданне паспрабаваць свае сілы ў галіне драматургіі нават у тых пісьменнікаў, якія працавалі ў іншых жанрах і не мелі намеру стаць драматургамі. Устанаўліваліся творчыя сувязі і асабістыя кантакты, нараджаліся новыя арыгінальныя п'есы і спектаклі, у тым ліку такія выдатныя, як «Бацькаўшчына», «Салавей», «Пагібель воўка». Яркае сцэнічнае ўвасабленне атрымала на сцэне «Паўлінка» Янкі Купалы.

Мы сёння маглі б назваць шмат беларускіх драматургаў, творчая сувязь якіх з тэатрам імя Янкі Купалы прынесла добрыя вынікі. На працягу доўгага часу я таксама быў цесна звязаны сумеснай творчай працай з гэтым таленавітым калектывам. Першым спектаклем на беларускай мове, які я ўбачыў у пастаноўцы гэтага тэатра, быў спектакль «На Купалле». Ён мяне зачараваў, зрабіў сталым гледачом і гарачым прыхільнікам тэатра. Жаданне напісаць п'есу ў мяне з'явілася пасля таго, як я ўбачыў пастаўленую гэтым тэатрам камедыю «Недарасль» у маім перакладзе. У выніку з'явіліся п'еса і спектакль «Канец дружбы», галоўную ролю ў якім выконваў незабыўны У. М. Крыловіч. З таго часу я надоўга «заграз» у драматургіі, перажываючы разам з тэатрам радасць поспехаў і горыч няўдач.

З дзесяці напісаных мною п'ес дзевяць (уключаючы аднаактовую «Валодзеў гальштук») пастаўлены тэатрам імя Янкі Купалы. Вялікае задавальненне меў я ад творчых сустрэч з такімі выдатнымі майстрамі сцэны, як Г. П. Глебаў, Б. В. Платонаў, Л. І. Ржэцкая, П. С. Малчанаў, Л. Р. Рахленка, К. М. Саннікаў, У. І. Уладамірскі, Г. Ю. Грыгоніс, У. В. Дзядзюшка, В. М. Пола, А. А. Бараноўскі... На жаль, я не магу пералічыць тут усіх таварышаў і сяброў, з якімі мне даводзілася сустракацца за творчай працай, дзякуючы таленту якіх персанажы маіх п'ес станавіліся паўнакроўнымі сцэнічнымі вобразамі, наколькі дазваляў гэта драматургічны матэрыял.

Саракагоддзе тэатра імя Янкі Купалы — гэта свята ўсёй беларускай культуры. Я ад душы віншую таленавіты калектыў, сваіх старэйшых і маладых сяброў па сумеснай працы, і шчыра жадаю тэатру вялікіх творчых поспехаў на радасць савецкаму гледачу.

*1960*

## ПАЧЭСНЫ АБАВЯЗАК — БЫЦЬ САЛДАТАМ ВЯЛІКАГА ПАХОДУ

Чытаючы ў часопісе «Камуніст» артыкул М. С. Хрушчова «Да новых поспехаў літаратуры і мастацтва», я знаходзіўся пад уражаннем незабыўнай сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада з прадстаўнікамі савецкай інтэлігенцыі. Зноў паўсталі ў памяці і цёплы сонечны летні дзень, і сардэчная цеплыня пачуццяў, якой была сагрэта ўся атмасфера гэтай сустрэчы.

Вялікае ўражанне зрабіла на ўсіх прысутных яркая і мудрая прамова М. С. Хрушчова, прасякнутая бацькоўскімі клопатамі аб шчасці і дабрабыце народа, аб росквіце навукі, літаратуры і мастацтва, добразычлівыя ў адносінах да творчых работнікаў.

Мікіта Сяргеевіч вельмі трапна ахарактарызаваў рух нашай краіны да камунізма, як вялікі ленінскі паход. У гэтым слаўным паходзе Савецкая краіна пераадолела крутыя горы і ўзнялася на вялікую вышыню.

Слухаючы прамову Мікіты Сяргеевіча, мы як быццам самі ўзняліся на вышыню вялікай будоўлі, і перад намі разгарнуліся неаглядныя ясныя далі і цудоўныя перспектывы нашага заўтра.

Мікіта Сяргеевіч, дарэчы, напомніў нам аб добрым правіле камуністаў — не заспакойвацца на дасягнутым, бо гэта не апошняя вышыня: наперадзе яшчэ больш высокія рубяжы, якіх мы павінны дасягнуць.

Нам, работнікам літаратуры і мастацтва, вельмі прыемна было пачуць з вуснаў таварыша Хрушчова, што партыя лічыць нас сваімі вернымі памочнікамі ва ўсіх яе справах. Мы з гонарам усвядомілі, што з'яўляемся ўдзельнікамі

вялікага паходу, у якім на нашу долю выпала адказная і пачэсная задача — камуністычнае выхаванне працоўных, фарміраванне новага чалавека. З усведамленнем вялікай адказнасці перад партыяй і народам мы ўспрымалі ўказанні Мікіты Сяргеевіча на тое, што нашы творы павінны выхоўваць у савецкіх людзей новыя, камуністычныя маральныя якасці. Патрэбны творы, якія б абуджалі захапленне ўсім выдатным і цудоўным у нашай сацыялістычнай рэчаіснасці і выклікалі непрымірымасць да ўсяго антыграмадскага, адмоўнага ў жыцці.

Я і мае сябры па зброі (я маю на ўвазе сатыру) былі задаволены тым, што і гэта зброя лічыцца патрэбнай і дзейснай у слаўным паходзе за камунізм пры ўмове, вядома, што яна будзе вострай і накіраванай дакладна ў цэль.

Указанне на тое, што крытыка павінна служыць самаачышчэнню нашага грамадства, павінна быць першай запаведдзю для кожнага савецкага сатырыка і камедыёграфа.

Вельмі каштоўнымі з'яўляюцца парады Мікіты Сяргеевіча нашым літаратурным крытыкам, якія, не замоўчваючы недахопаў, павінны чула і ўважліва адносіцца да кожнага мастацкага твора, да кожнага творчага работніка, які шчыра імкнецца адлюстраваць нашу цудоўную рэчаіснасць. Але крытыка павінна быць бязлітаснай і непрымірымай, калі яна бачыць перад сабой спробу працягнуць варожыя нам буржуазныя погляды.

Сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада з творчымі работнікамі сталі ў нашай краіне добрай традыцыяй. Яны пашыраюць наш кругагляд, дазваляюць глыбей уразумець свае задачы і сваю адказнасць перад партыяй і народам, натхняюць на творчую працу. Яны служаць выражэннем таго новага, што адрознівае становішча вучоных і мастакоў у сацыялістычным грамадстве.

І сапраўды, хіба мы можам уявіць сабе нешта падобнае ў капіталістычнай краіне, хоць бы ў той жа Амерыцы. Хіба можна ўявіць сустрэчу, скажам, прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі з лепшымі пісьменнікамі і мастакамі сваёй краіны? А калі б такая сустрэча ўсё ж адбылася, дык чым бы натхніў амерыканскі прэзідэнт сваіх пісьменнікаў на творчы подзвіг? Якія высокія ідэі запалілі б іх творчую фантазію, выклікалі б высакародны творчы парыў?

Ідэя ўдушэння кубінскай рэвалюцыі, падаўлення вызваленчай барацьбы каланіяльных народаў? Ці ненавісная

ўсяму свету ідэя гонкі атамнага ўзбраення і распальвання халоднай вайны?

У сапраўднага мастака, які думае аб шчасці народа (а сапраўдны мастак не можа не думаць пра гэта), такія ідэі выклікаюць толькі агіду і абурэнне.

Мы, савецкія пісьменнікі, шчаслівыя, што ў нас ёсць невычэрпныя крыніцы высокіх ідэй, якія натхняюць нас на творчую працу — наша родная Камуністычная партыя. Мы шчаслівыя, што ў нас ёсць мудрыя кіраўнікі гэтай партыі на чале з Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым, якія па-бацькоўску клапоцяцца пра нас і пра нашы творчыя поспехі.

Наш абавязак адказаць на клопаты партыі канкрэтнымі справамі, новымі мастацкімі творамі, у якіх бы праўдзіва і ярка былі адлюстраваны велічныя справы нашага народа.

*1961*

## ПРАДМОВА

Беларуская літаратура займае пачэснае месца ў шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў, перакладзеныя на мовы народаў Савецкага Саюза і шмат якія замежныя мовы, сталі здабыткам сусветнай культуры.

Паэзія была на працягу доўгага часу і сёння застаецца найбольш развітым жанрам беларускай літаратуры. Яе вытокі хаваюцца ў сівой мінуўшчыне, у літаратуры Кіеўскай Русі.

Узнікненне ў Беларусі так званай вершаванай паэзіі адносіцца да пачатку XVII стагоддзя. Першыя вершы звычайна распрацоўвалі царкоўна-рэлігійныя тэмы. Да вершаў звяртаўся Францішак Скарына, а затым Памва Бярында, Афанасій Філіповіч і іншыя пісьменнікі і культурныя дзеячы XVI—XVII стагоддзяў. Прыкметны след пакінуў у вершавай паэзіі Беларусі Сімяон Полацкі (1629—1680).

Побач з вершамі на царкоўна-рэлігійныя тэмы ў беларускай старажытнай літаратуры існавала панегірычная паэзія, найбольш тыповым прадстаўніком якой быў Андрэй Рымша. Да XVI і пачатку XVII стагоддзяў адносяцца

таксама і першыя спробы «грамадзянскай» лірыкі — вершы на грамадска-гістарычныя тэмы.

Аднак, ледзь толькі нарадзіўшыся, беларуская паэзія сутыкнулася з перашкодамі, якія надоўга затрымалі яе развіццё. Вядома, што на працягу стагоддзяў беларускі народ знаходзіўся пад моцным сацыяльным і нацыянальным прыгнётам. Асабліва ўзмацніўся гэты прыгнёт пасля Люблінскай уніі. Польскія паны ўсяляк намагаліся прыпыніць нацыянальна-гістарычнае развіццё беларусаў як асобнай народнасці, апалячыць і акаталічыць беларускае насельніцтва. У 1696 годзе пастановай Польскага сейма беларуская мова была афіцыйна забаронена. Гэта адмоўна адбілася на развіцці беларускай літаратуры. «Беларуская літаратура,— пісаў аб гэтым часе Я. Колас,— пасля многіх вякоў нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту нашага народа прыйшла ў заняпад» («Советская Белоруссия», № 100, 4 ліпеня 1949 г.). Адным з вынікаў гэтага заняпаду была адсутнасць друкаваных кніг на беларускай мове.

Больш чым на працягу стагоддзя беларуская літаратура развівалася павольна. Гэты змрочны перыяд разгулу панска-каталіцкай рэакцыі не пакінуў колькі-небудзь значных помнікаў беларускай мастацкай літаратуры наогул і ў галіне паэзіі ў прыватнасці. З тых часоў захавалася і дайшла да нас невялікая колькасць гумарыстычных вершаў і пародый на «набожныя» вершы («Лаўрыя», «Стары Восіп...», «Воскресение Христово...» і інш.). У канцы XVIII стагоддзя Беларусь увайшла ў склад Расіі. Царскае самаўладства таксама імкнулася пазбавіць беларускі народ права на развіццё сваёй нацыянальнай культуры, забараняла яго мову, літаратуру. Царскім указам у 1840 годзе забаранялася ўжываць нават тэрмін «Беларусь», а загадвалася называць яе «Северо-Западным краем». І ўсё ж далучэнне да Расіі мела вялікае прагрэсіўнае значэнне. Яно адкрывала перад беларускім народам і яго краінай куды больш шырокія магчымасці эканамічнага і культурнага развіцця, спрыяла ўмацаванню брацкіх сувязей з вялікім рускім народам, рабіла больш дзейсным уплыў рускай перадавой думкі на развіццё беларускай культуры.

Пасля часовага заняпаду працягваецца развіццё беларускай літаратуры ў новых гістарычных умовах. Перш за ўсё абуджаецца паэзія. Ужо ў 20—30-я гады XIX стагоддзя ў сувязі з агульным патрыятычным уздымам, выкліканым Айчыннай вайной 1812 года, з'яўляюцца першыя самабытныя паэтычныя творы, узрослыя на нацыянальнай глебе.

Гэта ананімныя літаратурныя вершы («Багач», «Праўда»), гутаркі («Скажы, вяльможны пане!»), вершаваныя апавяданні («Чортава сіла»), парадыйныя паэмы («Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»). У гэтых творах мастацкі ўвасабляюцца асобныя з'явы сялянскага жыцця, побыту і народнага светапогляду.

Найбольш значным з ананімных твораў, якія стаяць ля вытокаў новай беларускай літаратуры, з'яўляецца паэма «Тарас на Парнасе». У гумарыстычнай і жартоўнай форме ў паэме малююцца паасобныя адмоўныя з'явы феадальна-прыгонніцкага грамадства, трапна высмейваюцца густы і высокі стыль арыстакратычнай літаратуры. Аўтар паэмы добра валодаў майстэрствам вершаскладання.

Сацыяльна-бытавыя гутаркі дарэформеннай пары «Панская ласка», «Гутарка Данілы са Сцяпанам» і многія іншыя гутаркі дэмакратычнага напрамку накіраваны супроць прыгону і выяўляюць настроі прыгоннага сялянства.

К сярэдзіне XIX стагоддзя беларуская літаратура з рукапіснай пастулова становіцца друкаванай, яна траціць сваю безымяннасць. Адным з першых беларускіх паэтаў быў Паўлюк Багрым (1816—1891). Вядомы нам адзіны яго верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы» яскрава адлюстроўвае антыпрыгонніцкія настроі сялянства. У 40-я гады піша лірычныя вершы Ян Чачот. У гэты ж час пачынае літаратурную дзейнасць В. Дунін-Марцінкевіч. На фальклорных матывах ім напісаны вершаваныя аповесці «Вечарніцы», «Купала» і іншыя. Яму належыць таксама паэма «Гапон» і рад драматычных твораў.

У мэтах рэвалюцыйнай агітацыі да вершаў звяртаецца выдатны беларускі рэвалюцыянер Кастусь Каліноўскі.

Але найбольш выразныя нацыянальныя рысы і ярка выяўленую дэмакратычную накіраванасць беларуская паэзія набывае ў творчасці Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны, Адама Гурыновіча, Фелікса Тапчэўскага. Самым выдатным з іх з'яўляецца Ф. Багушэвіч. Цесная сувязь з сучаснасцю, ярка выяўленае пачуццё грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці, страсная абарона інтарэсаў працоўнага сялянства, глыбокая нянавісць да самаўладства і рэшткаў прыгонніцтва — такія найбольш характэрныя рысы грамадзянскай паэзіі Багушэвіча, сабранай у яго зборніках «Дудка беларуская» (1891) і «Смык беларускі» (1894). Багушэвіч як бы падвёў вынікі развіцця беларускай паэзіі за ўсё XIX стагоддзе і намеціў яе далейшы шлях.

«Новы перыяд у гісторыі беларускай літаратуры,— як справядліва адзначыў М. Багдановіч,— мае зыходным пунктам 1905 год, які зрабіў глыбокі пераварот у псіхіцы народных мас...» (Творы, т. II, Мінск, 1928 г. С.24).

Рэвалюцыя 1905—1907 гг. дала моцны штуршок развіццю беларускай нацыянальнай літаратуры і вызначыла яе кірунак. Яна ўзняла з народных глыбінь самабытныя мастацкія таленты. Іменна ў гэты час на арэну літаратурнай і грамадскай дзейнасці выйшлі славутыя песняры беларускага народа Янка Купала і Якуб Колас, Элаіза Пашкевіч (Цётка). Услед за імі прыйшлі ў літаратуру Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Максім Багдановіч, Канстанцыя Буйло, Янка Журба, Алесь Гурло і многія іншыя пісьменнікі. Яны прынеслі ў літаратуру гарачы подых сучаснасці, пашырылі яе далягляды, напоўнілі новым рэвалюцыйным зместам, узбагацілі яе новымі формамі і жанрамі.

У цяжкіх умовах сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту і паліцэйскіх рэпрэсій перадавыя пісьменнікі рухалі наперад развіццё роднай літаратуры. Яны ў сваёй літаратурна-мастацкай дзейнасці абапіраліся на дасягненні сваіх папярэднікаў і традыцыі нацыянальнага фальклору, творча выкарыстоўвалі выдатныя здабыткі братніх славянскіх літаратур і ў першую чаргу літаратуры вялікага рускага народа.

Нягледзячы на перашкоды, якія ставіў царызм беларускай літаратуры і друку, у гэты час адна за другой выходзяць кнігі беларускіх паэтаў «Хрэст на свабоду» Цёткі, «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця» Я. Купалы, «Песні жальбы», «Родныя з'явы», «Апавяданні» Я. Коласа, «Вянок» М. Багдановіча, «Абразкі» Зм. Бядулі, «Курганная кветка» К. Буйло і творы іншых пісьменнікаў.

У прадкастрычніцкія гады пачынае больш паспяхова развівацца беларуская проза і драматургія. Але паэзія паранейшаму застаецца вядучым жанрам. Дзякуючы плённай дзейнасці перадавых беларускіх паэтаў, і ў першую чаргу выдатных майстроў мастацкага слова Я. Купалы, Я. Коласа і М. Багдановіча, беларуская паэзія ў сваіх найлепшых праявах узнялася на такі ідэйна-мастацкі ўзровень, што стала сапраўдным люстрам нацыянальнага жыцця, выражэннем настрояў, патрэб і спадзяванняў шырокіх народных мас, магутным сродкам рэвалюцыйнай барацьбы. Тагачаснай паэзіі пад сілу было паказаць шырокія пласты народнага жыцця, раскрыць духоўны свет працоўнага беларуса,

стварыць чалавечы характар у яго жывых сувязях з навакольнай рэчаіснасцю. Яе асноўны герой — гэта чалавек, што выйшаў з самай гушчы народа, змагар за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне.

Беларуская паэзія гэтага часу вызначаецца і пэўнай стылявой і жанравай разнастайнасцю. Рэалізм становіцца ў ёй асноўным напрамкам. Моцна адчуваецца ў ёй і рамантычны струмень; яна вызначаецца цяпер больш глыбокім і праўдзівым успрыманнем свету, высокай мастацкай культурай, тэхнікай вершаскладання.

Беларуская паэзія была заўважана і прызнана брацкімі суседнімі народамі і перш за ўсё вялікім рускім народам, падтрымку і дапамогу якога заўжды адчувалі беларускі народ і яго пісьменнікі. «Я звяртаю ўвагу скептыкаў,— пісаў А. М. Горкі,— на маладую літаратуру беларусаў — самага забітага народа ў Расіі, на працу людзей, якія групаваліся вакол газеты «Наша Ніва» («О писателях-самоучках». Часопіс «Современный мир», 1911, № 2). М. Горкі даў высокую ацэнку творчасці Я. Купалы і Я. Коласа і ў іх асобе беларускай паэзіі.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя накіравала па новаму рэчышчу жыццё беларускага народа, як і ўсіх іншых народаў Расіі, аказала магутны ўплыў на развіццё духоўных сіл і творчых здольнасцей працоўнага чалавека. Беларуская літаратура перажыла сваё сапраўднае другое нараджэнне. Прынесеныя Кастрычнікам новыя ідэі і тэмы, матывы і вобразы, рытмы і інтанацыі ўладарна ўваходзілі ў беларускую літаратуру. Перад ёй паўсталі новыя складаныя і важныя задачы. Рэвалюцыйная сучаснасць нарадзіла новага чытача. Гэта — нядаўні салдат рэвалюцыі, што прайшоў агнявыя рубяжы грамадзянскай вайны, а цяпер — салдат мірнай працы. Ён настойліва шукаў у літаратуры адказу на самыя надзённыя пытанні часу, хацеў бачыць у ёй сябе, свой народ, свайго сучасніка. Вось такія надзённыя творы аб сучаснасці і заклікана была даць маладая савецкая літаратура.

Ужо ў першыя гады савецкай улады Янка Купала ў сваіх узнёслых вершах выказвае гарачую веру ў хуткае набліжэнне тае пары, калі «зазвініць залатаструнна родны Край адной камунай». Ён заклікае савецкую моладзь — арлянят быць першымі ў барацьбе за ўсталяванне новага, савецкага ладу жыцця. У 1924 годзе Купала стварае сваю вядомую паэму «Безназоўнае» — твор вялікай мастацкай сілы, у якім паэт так шчыра апеў і апаэтызаваў светлую до-

лю маладой Савецкай Беларусі. Якуб Колас побач з вершамі і апавяданнямі на савецкую тэматыку працуе над завяршэннем сваіх манументальных паэм «Новая зямля» (1923) і «Сымон-музыка» (1925). Новая рэвалюцыйная рэчаіснасць дапамагае народнаму паэту больш выразна ўсвядоміць велічную гістарычную перспектыву развіцця роднай краіны. Мусіць, таму ў гэтых цудоўных паэмах так моцна адчуваецца жыццесцвярджальны пафас, цвёрдая ўпэўненасць у стваральных магчымасцях працоўных мас. Змітрок Бядуля выступае з вершамі, у якіх услаўляецца вялікая будучыня беларускай зямлі. «Барабаншчыкам рэвалюцыі» называлі Цішку Гартнага.

Рэвалюцыйная эпоха ўзняла, акрыліла і маладыя таленты. Гэта перш за ўсё ўчарашнія ўдзельнікі грозных паходаў, таленавітыя маладыя людзі ад станка, ад плуга, з рабфакаўскай аўдыторыі.

Глыбока адчуваючы сябе дзецьмі Кастрычніка, маладыя паэты з юнацкім запалам услаўляюць «раніцу новага жыцця», радасна і натхнёна апяваюць веліч перамогі Кастрычніка.

Вядучым паэтам «першага прызыву» стаў Міхась Чарот — аўтар урачыстых гімнаў сацыялістычнай рэвалюцыі. Яго паэма «Босыя на вогнішчы» (1921) была ўспрынята сучаснікамі як услаўленне Кастрычніка на Беларусі, як узор новай рэвалюцыйнай савецкай паэзіі. М. Чарот з'явіўся таксама ініцыятарам творчага аб'яднання літаратурнай моладзі. На працягу некалькіх год ён быў на чале кіраўніцтва першай у Беларусі літаратурнай арганізацыі «Маладняк», куды ўваходзілі пераважна маладыя і пачынаючыя пісьменнікі.

Услед за М. Чаротам у паэзію прыходзяць К. Крапіва, У. Дубоўка, А. Александровіч, А. Дудар, Я. Пушча, а крыху пазней у яе ўліваецца новае папаўненне — П. Трус, П. Глебка, П. Броўка, М. Лужанін, З. Астапенка, Ю. Таўбін, А. Куляшоў, А. Звонак, У. Хадыка, М. Хведаровіч і інш. Кожны з маладых паэтаў імкнуўся ўнесці ў маладую беларускую савецкую літаратуру свой пасільны ўклад, па-свойму адлюстраваць і ўславіць «вясну чалавецтва». І ўсё ж пры ўсёй адметнасці і разнастайнасці мастацкіх талентаў, якія прыйшлі ў беларускую паэзію, іх творчасці былі ўласцівы і агульныя, тыповыя рысы. А іменна: з самага пачатку свайго слаўнага шляху беларуская савецкая паэзія вызначалася рэвалюцыйным пафасам, аптымізмам і бадзёрасцю; у ёй пераважала на гэтым першапачатковым

этапе яе развіцця чыста эмацыянальнае ўспрыняцце векапомных рэвалюцыйных падзей; рамантызацыя і паэтызацыя новай рэчаіснасці выступалі як асноўныя, дамінуючыя прынцыпы мастацкага адлюстравання і тыпізацыі жыццёвых з'яў. Нельга тут не адзначыць таксама і найбольш характэрныя недахопы беларускай паэзіі тых год. Гэта не заўсёды глыбокае пранікненне ў сутнасць сацыяльных працэсаў і пераўтварэнняў, якія несла з сабой рэвалюцыя, схільнасць некаторых паэтаў да гучнай фразы, да абстрактных «маштабна-касмічных» вобразаў, рытарычнасць, лазунговасць, плакатнасць.

Шлях да паэзіі сацыялістычнага рэалізму ляжаў праз пераадоленне «хвароб» росту, праз больш цесную сувязь з жыццём, праз усведамленне ўсёй складанасці тых грандыёзных рэвалюцыйных з'яў і падзей, сведкамі і непасрэднымі ўдзельнікамі якіх з'яўляліся пісьменнікі. Барацьбу за новыя, большыя вышыні ў паэзіі вялі сумесна як старэйшыя, так і маладыя мастакі слова. З кожным днём шчыльнелі іх рады, а значыць — лягчэй было пераадольваць і трудныя перавалы на шляху стварэння новай літаратуры — літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

Да дзесяцігоддзя БССР таленавіты паэт Паўлюк Трус напісаў паэму «Дзесяты падмурак». У ёй увасоблена страсная мара паэта і яго народа бачыць абноўленай сваю родную беларускую зямлю, наблізіць той час, калі Беларусь — «край балот, адвечных песень-казак» — стане «краем фабрык дымных і машын». А неўзабаве Янка Купала ў вершы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы» ўславіў светлую будучыню новай беларускай вёскі, якая стала на шлях калектывізацыі.

Ішлі гады, беларуская літаратура заваёўвала адзін рубеж за другім, уздымалася ўсё вышэй і вышэй. У 30-я гады беларуская паэзія яшчэ бліжэй становіцца да жыцця, больш рашуча паварочваецца да сучаснасці. У ёй вельмі выразна адчуваюцца моцныя подыхі эпохі бліскучых перамог сацыялістычнага пераўтварэння краіны. Галоўным аб'ектам мастацкага адлюстравання беларускай паэзіі становіцца і «хада падзей» рэвалюцыйнай сучаснасці, і «цэхавыя будні», і жыццё новай калгаснай вёскі. Асноўны пафас нашай паэзіі гэтага часу ў мастацкім увасабленні і ўслаўленні пераўтваральнай працы свабоднага ад путаў эксплуатацыі і прыгнёту працоўнага чалавека, у паэтызацыі таго новага, сацыялістычнага, што так упэўнена ўваходзіла ў жыццё савецкага народа. Аб тым, «як на край балотны

ішоў сацыялізм», яскрава расказаў у сваёй паэме «Над ракой Арэсай» (1933) Я. Купала. Радасныя і хвалюючыя, звонкія і задушэўныя «песні будаўніцтва» складаюць Я. Колас, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, А. Звонак, А. Александровіч, М. Лужанін і многія іншыя пісьменнікі. Нельга назваць паэта, які б не адгукнуўся сваім мастацкім словам на грандыёзныя сацыялістычныя перамены ў жыцці беларускага народа, Савецкай краіны.

Аднак трэба заўважыць, што адлюстраванне велічы сацыялістычных пераўтварэнняў, рашучых тэмпаў карэннай ломкі старога ўкладу ў беларускай літаратуры гэтага часу не заўсёды спалучалася з глыбокім паказам унутранага свету нашага сучасніка, у творах асобных пісьменнікаў падзеі засланялі жывога чалавека. І яшчэ адна хіба, якая характэрна была для многіх твораў паэтаў 30-х гадоў: хоць значна расшырыўся і ўзбагаціўся змест паэзіі, паглыбілася яе праблематыка, вырасла культура верша, аднак у паэзіі яшчэ не была цалкам пераадолена дэкларацыйнасць, празмерная абагульненасць паэтычнага малюнка, знешне рамантычнае захапленне імклівай хадой падзей. Рухацца ўперад, да новых вышынь — значыла даць у паэзіі самыя шырокія правы грамадзянства простаму чалавеку — будаўніку і творцу сацыялізма, у паўнакроўных мастацкіх вобразах увасобіць усю веліч і прыгажосць яго гераічных спраў, высакародных дум і пачуццяў. У гэтым вось напрамку і ішоў далейшы паступовы рух беларускай паэзіі наперад.

З кожнай перамогай сацыялізма ўсё выразней акрэсліваліся, усё паўней выяўляліся высокія маральныя якасці, багацце інтэлектуальнага свету, духоўнага аблічча чалавека новага, сацыялістычнага грамадства. Зусім натуральна, што і ў паэзію яе асноўны герой прыйшоў як непасрэдны творца новага жыцця — рабочы чалавек, удзельнік мірных будоўляў, заняты штодзённымі вялікімі справамі. Вельмі паказальна, што гэты новы герой увайшоў у нашу паэзію не як «маленькі чалавек», заклапочаны толькі чыста асабістымі інтарэсамі. Ён паўстаў у літаратуры ў арэоле вялікіх спраў, у абстаноўцы гераічных будняў і высакародных імкненняў. У славутым «ляўкоўскім» цыкле вершаў (1935) Я. Купалы, творах Я. Коласа, у паэмах «Кацярына» П. Броўкі і «У зялёнай дуброве» А. Куляшова, у лірыцы маладога П. Панчанкі і многіх іншых пісьменнікаў апаэтызавана багатая, цудоўная душа чалавека працы, раскрыты яго творчыя здольнасці і шырокія магчымасці. Не адры-

ваючы героя ад жывой рэчаіснасці, ад канкрэтных спраў, не пазбаўляючы яго звыклага асяроддзя, наша паэзія з асаблівай увагай і настойлівасцю выяўляла выдатныя рысы новага савецкага чалавека ў яго побыце, умовах працы, псіхалогіі, думках, пачуццях, сцвярджала і паэтызавала іх як тыповыя, характэрныя праявы новага ладу жыцця. Таму, напэўна, у паэзіі перадваеннага часу так арганічна сплаўлены, так арганічна зліліся рэалістычныя і рамантычныя прынцыпы тыпізацыі. Таму ж, напэўна, светлая атмасфера, урачысты настрой, аптымістычнае светаўспрыманне, бадзёрыя інтанацыі так характэрны для лірыкі паэтаў розных творчых індывідуальнасцей, для ўсёй беларускай паэзіі.

Важна адзначыць, што іменна ў 30-я гады асабліва ўзмацніліся сувязі беларускіх пісьменнікаў з рускімі, украінскімі, грузінскімі і іншымі пісьменнікамі брацкіх народаў. Разам з умацаваннем дружбы паміж савецкімі народамі расла і ўмацоўвалася дружба савецкіх літаратур, плённае ўзаемадзеянне паміж імі.

Пасля гістарычных вераснёўскіх падзей 1939 года рады нашай паэзіі папоўніліся: заходнебеларускія паэты — М. Танк, В. Таўлай, П. Пестрак, М. Васілёк, М. Машара, Н. Тарас, М. Засім і інш. уліліся ў дружную сям'ю савецкіх літаратараў.

Ва ўмовах буржуазнага ладу, паліцэйскага рэжыму, які панаваў у панскай Польшчы, беларуская рэвалюцыйная паэзія не мела спрыяльных умоў для развіцця. Тым не менш, дзякуючы самаахвярнай працы перадавых пісьменнікаў, яна жыла, развівалася, паступова набіралася сіл, загартоўвалася. Гэта паэзія наскрозь прасякнута пафасам барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа, за ўз'яднанне з Савецкім Саюзам. Пасля вераснёўскіх падзей заходнебеларускія паэты аддаюць свой талент вялікай справе сацыялістычнага будаўніцтва, складаюць песні радасці аб свабодным жыцці.

Аддаючы «агонь душы і сэрца жар» сцверджанню і ўслаўленню сацыялістычнай рэчаіснасці, беларускія паэты з асаблівай пільнасцю сачылі за развіццём падзей ва ўсім свеце. І чым больш азмрочваўся небасхіл, тым больш настойліва і шырока гучала ў паэзіі абаронная тэма. Быць пільным, цвёрда стаяць на варце заваёў Кастрычніка — такі заклік чуецца ў творах нашых народных паэтаў Я. Купалы і Я. Коласа, у паэмах П. Броўкі, П. Глебкі, А. Куляшова і іншых беларускіх паэтаў. З самага пачатку Айчын-

най вайны беларускія паэты сталі ў рады абаронцаў Радзімы, падпарадкаваўшы ўсю сваю творчасць інтарэсам барацьбы з ворагам.

У суровыя ваенныя гады беларуская паэзія ўзбагацілася шэрагам твораў, якія ўвайшлі ў залаты фонд нашай літаратуры. Галоўная вартасць паэзіі ваенных год — у гарачым патрыятызме, у высокім грамадзянскім пафасе, у вялікай сіле мастацкага ўздзеяння. Вершы Я. Купалы і Я. Коласа, П. Панчанкі, П. Глебкі, паэмы «Сцяг брыгады» А. Куляшова, «Янук Сяліба» М. Танка, «Беларусь» П. Броўкі — гэта яскравы мастацкі летапіс ратных і працоўных подзвігаў нашага народа ў суровыя гады Айчыннай вайны, яркае ўвасабленне гераізму і мужнасці савецкіх людзей — салдат, партызан, працаўнікоў тылу.

Для кожнага паэта, як і для ўсіх савецкіх людзей, вайна з'явілася суровым выпрабаваннем. І з радасцю можна адзначыць, што беларускія паэты высока пранеслі сцяг вернасці савецкай Радзіме, самаадданага служэння народу. За час вайны беларуская літаратура панесла вялікія страты: не стала Янкі Купалы, Змітрака Бядулі, не вярнуліся з франтоў А. Жаўрук, А. Ушакоў, Л. Гаўрылаў, А. Коршак, А. Гейнэ, У. Рагуцкі, А. Дубровіч.

Разам з народам франтавымі дарогамі і партызанскімі сцежкамі прайшла вайну беларуская паэзія. Гэта ўзбагаціла яе, узбагаціла не толькі тэматычна, ідэйна, але і новымі талентамі, культурай творчасці. Новымі фарбамі заіскрылася наша паэзія. Узмужнеў і загартаваўся талент паэтаў больш маладых, такіх, як А. Русак, К. Кірэенка, А. Вялюгін, А. Бялевіч, А. Зарыцкі, М. Аўрамчык, В. Вітка, А. Астрэйка, М. Калачынскі, У. Корбан, А. Бачыла.

Свята перамогі беларуская паэзія сустрэла натхнёнымі і ўрачыстымі песнямі радасці. Аднак тэма гераізму нашага народа ў барацьбе з азвярэлым фашызмам гучыць у ёй і на сённяшні дзень. І для тых паэтаў, што самі прымалі ўдзел у Айчыннай вайне, і для тых, што тады дзіцячымі вачыма сачылі за ходам барацьбы і пазней прыйшлі ў літаратуру, тэма вайны не адышла ў гісторыю. Натуральна, што ва ўмовах мірнага будаўніцтва савецкія паэты варочаюцца да падзей ваеннага часу, імкнуцца асэнсаваць іх з вышыні нашага сёння, глыбей раскрыць крыніцы масавага гераізму, ярчэй паказаць веліч подзвігу савецкага народа.

Пасляваенны перыяд — час адбудовы народнай гаспадаркі, час разгорнутага будаўніцтва камунізма — паставіў перад літаратурай, і ў прыватнасці перад паэзіяй, новыя

адказныя задачы. Савецкі народ, які выстаяў і перамог у Вялікай Айчыннай вайне і на фронце мірнай стваральнай працы, паказаў і паказвае выдатныя прыклады працоўнага гераізму, высокі патрыятызм, настойлівасць у здзяйсненні грандыёзных планаў пабудовы камуністычнага грамадства. Яго рукамі створаны такія гіганты прамысловасці, такія цуды тэхнікі, што выклікаюць захапленне ўсяго свету. І наша паэзія, калі яна хоча ісці ў нагу з жыццём, павінна паказаць нашага сучасніка ва ўвесь яго рост, услaвіць яго стваральны геній, раскрыць яго багаты інтэлектуальны свет.

М. С. Хрушчоў адзначаў, што галоўная лінія развіцця заключаецца ў тым, каб літаратура і мастацтва былі заўсёды непарыўна звязаны з жыццём народа, праўдзіва адлюстроўвалі багацце і разнастайнасць нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, ярка і пераканаўча паказалі вялікую пераўтвараючую дзейнасць савецкага народа, высакароднасць яго імкненняў і мэт, высокія маральныя якасці. Вышэйшае грамадскае прызначэнне літаратуры і мастацтва — узнімаць народ на барацьбу за новыя поспехі ў будаўніцтве камунізма.

Беларускія паэты добра зразумелі тыя велічныя задачы, якія паставіла наша партыя перад літаратурай у новых гістарычных умовах. Здзяйсняючы гэтыя задачы, яны напісалі шмат высокамастацкіх твораў аб гераічных справах савецкіх людзей, аб барацьбе Камуністычнай партыі за ўздым дабрабыту народа.

Яшчэ ў грозныя дні Айчыннай вайны Янка Купала прарочa пісаў:

Загоім раны, адбудуем
Свае сялібы зруйнаваны,
Сваю краіну маладую
Святлом асвецім нечувалым.

Зірнуць зноў нашы ўвысь палацы,
Святочна прыбяруцца людзі,
Як красаваўся, красавацца
Чырвоны сцяг над намі будзе.

Гэтым высокім стваральным пафасам, пафасам барацьбы за мір, справядлівасць і чалавечнасць напоўнена ўся пасляваенная беларуская паэзія. На жывым матэрыяле нашай рэвалюцыйнай сучаснасці паэты яскрава паказалі, як праца і розум народа ўзнялі з руін і папялішчаў родную Беларусь, накіравалі яе па шырокім шляху да вяршынь камунізма.

На рубяжы саракавых — пяцідзесятых гадоў з'явіліся паэма «Рыбакова хата» Я. Коласа, зборнік «Камуністы» і паэма «Толькі ўперад» А. Куляшова, паэмы «Хлеб» і «Родныя берагі» П. Броўкі, «Залатое дно» А. Зарыцкага, зборнікі «Каб ведалі» М. Танка, «Гарачыя вятры» П. Панчанкі, «Негарэльская арка» А. Вялюгіна, «Мая рэспубліка» К. Кірэенкі, «Пярэдні край» М. Аўрамчыка, «Поўдзень» В. Віткі і многія, многія іншыя творы, якія складаюць сур'ёзныя заваёвы беларускай паэзіі пасляваеннага часу.

Яшчэ больш актыўнай, дзейснай, мэтанакіраванай стала беларуская паэзія ў апошнія гады. Узмацніліся яе сувязі з жыццём народа, паглыбілася пранікненне ў грамадскія працэсы, рассунуліся далягляды. Штодзённыя справы будаўнікоў камунізма, пачуцці, думкі і настроі чалавека-тварца знаходзяць сваё яскравае паўнакроўнае мастацкае асвятленне. Усё больш шырокае гучанне набывае ў паэзіі тэма камунізма, тэма сонечнай будучыні, рэальныя рысы якой так прыкметна выяўляюцца ў нашы дні.

Поруч з творамі аб гераічных буднях народа, аб узмацненні «пачуцця сям'і адзінай» савецкіх народаў, аб духоўным абліччы сучасніка ў кніжцы любога нашага паэта шырокае месца займае тэма абароны міру, дэмакратыі і прагрэсу, тэма выкрыцця падпальшчыкаў вайны.

Ёсць у паэме Максіма Танка «Дзённік міру» радкі:

Той, хто дружбу шукае,
У нас знойдзе яе,
Той, хто праўду шукае,
У нас знойдзе яе,
Той, хто песню шукае,
У нас знойдзе яе,
А хто вецер пасее,
Той буру пажне!

Гэта лейтматыў многіх і многіх твораў беларускай паэзіі на тэму абароны міру, хоць кожны з паэтаў увасабляе ідэю міру, ідэю дружбы ўсіх народаў зямлі па-свойму, непаўторна.

У апошнія гады нашы паэты пабывалі за рубяжамі савецкай краіны. І ў выніку — беларуская паэзія атрымала цікавыя творы аб жыцці замежных краін, аб настроях і імкненнях працоўных. Дастаткова прыгадаць выдатны цыкл М. Танка «Вершы з дарогі», паэму П. Панчанкі «Патрыятычная песня» і яго ж зборнік «Нью-йоркскія малюнкі», кніжку П. Броўкі «Далёка ад дому» і іншыя. Савецкія пісьменнікі выкрываюць капіталістычны свет;

з натхненнем апавядаюць яны аб росце класавай свядомасці працоўных, аб актыўнай барацьбе народаў за сваю свабоду і незалежнасць, за мір і дэмакратыю.

Савецкі час і асабліва нашы дні — гэта пара новага сапраўднага ўзлёту беларускай паэзіі, шырокага выхаду яе на міжнародную арэну. Талентамі заўсёды была багата беларуская зямля. Але толькі ў савецкіх умовах пад руплівым доглядам нашай партыі змаглі яны расквітнець на поўную сілу, даць вялікія эстэтычныя здабыткі. Асабліва радуе тое, што кожны год прыносіць паэзіі новыя поспехі, што з кожным годам расце атрад беларускіх паэтаў. Паглядзіце, колькі новых імён паявілася ў нас за апошні час. У адным шэрагу з паэтамі старэйшага пакалення ўпэўнена крочаць У. Караткевіч і Р. Барадулін, С. Гаўрусёў і Н. Гілевіч, А. Лойка і У. Нядзведскі, Е. Лось і Д. Бічэль, М. Арочка і К. Цвірка. Гэта змена таленавітая, надзейная, а значыць, і будучыня беларускай паэзіі — шматабяцаючая.

На некалькіх старонках нельга больш-менш поўна расказаць пра шляхі беларускай паэзіі, раскрыць яе эстэтычнае багацце і хоць бы ўвогуле вызначыць індывідуальныя асаблівасці нават вядучых паэтаў. Трохтомная анталогія дазволіць чытачу грунтоўна азнаёміцца з беларускай паэзіяй, скласці ўяўленне аб яе асаблівасцях і поспехах, аб яе мастацкай каштоўнасці.

*1961*

## АД МАЛЕНСТВА ДА СТАЛАСЦІ

*Аўтабіяграфія*

Нарадзіўся я яшчэ ў мінулым стагоддзі — 22 лютага (5 сакавіка) 1896 года ў вёсцы Нізок Уздзенскай воласці Мінскай губерні Ігуменскага павета. У сям'і майго бацькі, Кандрата Міхайлавіча Атраховіча, гэта была выдатная падзея: нарадзіўся наследнік. Спадчына, праўда, была не такая ўжо вялікая. Яна складалася з шасці дзесяцін прыдатнай і непрыдатнай зямлі ды таго не бог ведае якога набытку, што на гэтай зямлі можна было нажыць. Але

бацьку не даваў спакою клопат — каму застанецца гэты нажыты цяжкай працай набытак. З васьмярых братоў і сясцёр, што нарадзіліся раней за мяне, у жывых засталіся дзве сястры. Адна з іх хутка памерла. Каб застрахаваць мяне ад такога ж лёсу, бабулькі параілі даць мне імя майго бацькі. Так і стаў я на ўсё жыццё Кандратам Кандратавічам. Як бы ўзрадаваліся бабулькі на тым свеце, калі б даведаліся, што я пражыў на свеце ўжо больш за шэсцьдзесят гадоў! І, вядома, палічылі б страшэннай няўдзячнасцю мае сатырычныя вершы пра ўсялякія забабоны.

Такім чынам, самае важнае для мяне адбылося — я з'явіўся на свет. Далей усё пайшло сваім парадкам: насілі мяне ў калысцы на поле, пасля я сам хадзіў, ухапіўшыся за матчын падол, а ў калысцы насілі другога, потым пасвіў свіней, потым кароў.

У чатырнаццаць гадоў пайшоў за плугам і за касой. У сялянскай гаспадарцы заўсёды было шмат работы — цяжкай і лягчэйшай — і асноўным работнікам заўсёды патрэбны былі памочнікі. Прыходзілася і цяжка часамі, але я з удзячнасцю ўспамінаю сваіх бацькоў, якія навучылі мяне працаваць яшчэ ў маладым узросце, навучылі цаніць працу і паважаць людзей з мазольнымі рукамі. Урэшце, у іх не было загадзя выпрацаванай праграмы працоўнага выхавання. Гэта рабілася само сабою, у сілу неабходнасці.

У сем гадоў я пачаў вучыцца ў царкоўнапрыходскай школе і за чатыры гады паспяхова яе скончыў. Бацька вырашыў, што гэтай прамудрасці аж занадта для таго, каб кіраваць гаспадаркай, у якой і да ста няма чаго лічыць. Але лёс распарадзіўся іначай. У сям'і здарылася вялікае гора — памерла мая маці. Старэйшая сястра збіралася выходзіць замуж. Бацька разважыў, што без гаспадыні ніяк нельга, і ажаніўся другі раз.

Каб не было лішняй калатні ў сям'і, а галоўнае, каб захаваць у цэласці гаспадарку, якая прызначалася цяпер для новай сям'і, ён вырашыў мяне «вывесці ў людзі». І вось, пасля гадавога перапынку, я зноў пайшоў у школу. На гэты раз у апошні клас (тады называлася аддзяленне) народнага вучылішча ў мястэчку Узда. У наступным годзе я паступіў у другі клас чатырохкласнага гарадскога вучылішча ў мястэчку Стоўбцы Мінскай губерні. Вучыўся я нядрэнна, але гэтым і абмяжоўваўся мой культурны рост. Чытаць не было чаго, бібліятэка была вельмі бедная. Па гэтай прычыне я праз два гады перавёўся ў такое ж самае вучылішча

ў мястэчка Койданава (цяпер Дзяржынск). Там вучыўся мой аднавясковец і сябар П. П. Герасімовіч, які спакусіў мяне расказамі аб прачытаных кнігах. На працягу навучальнага года разы два-тры прыязджаў да мяне бацька, прывозіў мяшок бульбы, кілаграмы два круп і крыху сала — з такім разлікам, каб хапіла да наступнага яго прыезду. На апетыт я не скардзіўся, і аднастайнае меню не вельмі мне надакучала. Толькі потым, калі ў мяне пачалі псавацца зубы, я скеміў, што яно было занадта аднастайным.

Да гэтага часу адносіцца і мая першая проба пяра. Помніцца, што з-пад гэтага неспрактыкаванага пяра, відаць, пад уплывам прачытаных твораў Лермантава, з'явіліся на свет лірычныя вершы з налётам «сусветнай тугі». Так, мне здавалася, павінна была выглядаць сапраўдная паэзія. Побач з гэтым, для хатняга ўжытку, я папісваў і эпіграмы на сваіх знаёмых. Заахвочаны добрай думкай выкладчыка літаратуры аб маіх літаратурных здольнасцях, я рызыкнуў паслаць адзін з твораў «высокага класа» ў часопіс, калі не памыляюся, «Жизнь для всех». Хутка я атрымаў адказ, што мой верш не можа быць надрукаваны, бо ён не мае дастатковай мастацкай каштоўнасці.

Вырашыўшы, што мае літаратурныя практыкаванні — марная справа, я пасля гэтага не браўся за пяро цэлых восем гадоў.

Гарадское вучылішча я скончыў у 1913 годзе. Бацька заявіў, што на гэтым яго клопаты аба мне скончыліся і што мне пара ісці на свой хлеб. Ён ужо і так вымушан быў прадаць карову, каб заплаціць за маю адукацыю і справіць мне гарадскі касцюм. Але «свой хлеб» не так лёгка было здабыць. Гарадское вучылішча ніякай спецыяльнасці не давала. Лета я працаваў на гаспадарцы, а восенню, пазычыўшы ў суседа тры рублі, паехаў у Мінск здаваць экзамен на званне народнага настаўніка. На экзамене я ледзь не праваліўся, бо мне прыйшлося рашаць геаметрычную задачу на правіла, якога ў праграме гарадскога вучылішча не было. Усё ж я вярнуўся дадому з пасведчаннем у кішэні. Але быў ужо кастрычнік месяц, і месца настаўніка я ў тым годзе не атрымаў.

Зімой я ездзіў з бацькам у заработкі, а вясной, пакуль тое месца, пайшоў працаваць на цагельню. Асноўным маім абавязкам было закідваць у мясілку размокшую гліну. За лета я нажыў ладныя мазалі, якія сваёй цвёрдасцю маглі паспрачацца з конскім капытом, і сорак рублёў грошай.

Гэта быў першы «свой хлеб». З такой сумай у кішэні я адчуў сябе зусім незалежным чалавекам.

Тым часам і назначэнне прыспела — у земскае народнае вучылішча ў вёску Мнішана Пяршайскай воласці Мінскага павета. Але нядоўга мне прыйшлося сеяць «разумное, доброе». Ужо з усёй сілай лютавала імперыялістычная вайна, і ў жніўні 1915 года мяне папрасілі пастаяць «за веру, цара і айчыну». К гэтаму часу рады кадравых афіцэраў ужо значна парадзелі, і начальства вырашыла, што я з'яўляюся зусім прыдатнай фігурай для таго, каб заткнуць адну з дзірак у афіцэрскім складзе. Пасля першапачатковай апрацоўкі ў палкавой вучэбнай камандзе, дзе старанныя служакі унтэр-афіцэры знялі з мяне першы слой вясковай шурпатасці, я быў накіраваны ў Гатчынскую школу прапаршчыкаў. Выявілася, што і мая невялікая адукацыя нешта значыла. Яна давала права на паступленне ў школу прапаршчыкаў. Праз тры месяцы я быў гатоў. Аб гэтым сведчылі не столькі мае вайсковыя веды, колькі новае афіцэрскае абмундзіраванне, рэвальвер у кабуры і шашка пры баку, якая з непрывычкі замінала мне хадзіць.

Вясну і лета 1916 года я праслужыў у 38-м запасным батальёне ў горадзе Асташкаве. У якасці ўзводнага афіцэра я выходзіў на заняткі са старымі апалчэнцамі, якіх рыхтавалі для пасылкі на фронт. Некаторыя з іх былі разы ў два старэйшыя за мяне, і мне спачатку было няёмка, калі прыходзілася камандаваць: «В цепь! Ложись! Встать! Бегом!» — і да т. п. Урэшце, гэта часцей і лепш за мяне рабілі ўсё тыя ж служакі унтэр-афіцэры.

У вольны час я шмат чытаў, карыстаючыся тым, што ў горадзе была нядрэнная бібліятэка. Гэтаму спрыяла і маё знаёмства з асташкаўскімі гімназісткамі, якія часта дзяліліся са мной сваімі ўражаннямі ад прачытаных кніг.

З асаблівым пачуццём я ўспамінаю сясцёр Абакшыных. Гэтыя мілыя дзяўчаты, з якіх дзве ўжо настаўнічалі, былі дочкамі няўдачлівага заняпалага купца, чалавека грубага і непісьменнага. Ён рабіў уражанне чалавека, зусім разгубленага ад таго, што на яго галаву звалілася «няшчасце» ў выглядзе пяці дачок, кожнай з якіх трэба было прыдбаць пасаг. Але самі дочкі ставіліся да гэтага гумарыстычна, цалкам спадзеючыся на атрыманую адукацыю і яшчэ ўпотай, бадай, на сваю прыгажосць, бо некаторыя з іх былі сапраўды прыгожыя. З цёплым пачуццём і з засмучэннем я ўспамінаю і гарачыя спрэчкі аб прачытаных кнігах, і ціхія

задушэўныя гутаркі. З засмучэннем таму, што некаторых з тых, хто быў мне асабліва дарагі, ужо няма на свеце.

У кастрычніку 1916 года я з маршавай ротай быў адпраўлены на фронт і апынуўся ў Румыніі, у 494-м Вярэйскім стралковым палку, у той момант, калі нашы патрапаныя часці пад націскам праціўніка адыходзілі з Дабруджы.

Там я ўпершыню атрымаў баявое хрышчэнне, не раз бываў у сур'ёзных пераплётах, зусім не ведаючы, што гэта толькі кветачкі і што наперадзе яшчэ не адна вайна і не адзін пераплёт.

Звяржэнне самадзяржаўя для далёкага Румынскага фронту было нечаканай і тым больш хвалюючай падзеяй. Салдаты і большасць афіцэраў, асабліва афіцэраў ваеннага часу, узрадаваліся, чакаючы блізкага канца абрыдлай вайны. Але ішлі тыдні і месяцы, а канца вайны ніхто не аб'яўляў. Наадварот, хадзілі ўпартыя чуткі аб тым, што рыхтуецца новае генеральнае наступленне. Аднак прымусіць салдат ісці ў наступленне ўжо ніякая сіла не магла. Лозунг «Далоў вайну!» быў самы папулярны сярод салдат. Усё выразней выступалі на першы план палітычныя пытанні, якія горача абмяркоўваліся ў акопах і на шматлікіх мітынгах. Усё больш рэзка выяўляліся класавыя супярэчнасці ў арміі. Шматлікія выпадкі непадпарадкавання начальству гаварылі аб тым, што ранейшая палачная дысцыпліна больш не дзейнічае.

Без дастатковай інфармацыі аб тым, што адбываецца ў сталіцы і іншых цэнтрах краіны, цяжка было арыентавацца ў палітычных падзеях. Не было ў мяне і такога блізкага чалавека, які мог бы ўсё растлумачыць. Аднак адчувалася, што такое няпэўнае становішча доўга не можа існаваць, што нехта недзе павінен зрабіць рашучы крок. Настроі салдат былі мне блізкія і зразумелыя. Гэта ж у пераважнай большасці былі тыя самыя сяляне ў шынялях, з якімі мяне звязвала кроўнае сваяцтва і агульныя класавыя інтарэсы. З салдатамі свае роты ў мяне былі добрыя адносіны. Помню нават, што я быў выбран імі ў нейкі камітэт, але ў які іменна, не помню.

Тым часам наш полк, значна патрапаны ў зімніх баях, быў адведзены ў тыл, і лета прайшло ў чаканні далейшых падзей. Восенню я захварэў брушным тыфам.

Вярнуўся я ў полк ужо пры савецкай уладзе. Старой царскай арміі і маёй службе ў ёй прыйшоў канец. Хутка выйшаў загад галоўнакамандуючага Крыленкі аб дэмабілізацыі з арміі настаўнікаў, якія павінны былі вярнуцца да

свае працы. Гэта было якраз тое, аб чым я марыў. Зняўшы афіцэрскія пагоны (да таго часу я ўжо быў паручнікам, бо за кожныя тры месяцы прабывання на фронце ў старой арміі прыбаўляўся новы афіцэрскі чын), я стаў прабірацца дадому і праз паўтара месяца, у лютым 1918 года, быў ужо ў родным Нізку.

Апынуўшыся на роднай бацькаўскай зямлі, якая тады здавалася мне самым надзейным прыстанішчам, я адчуў сябе больш упэўнена. Аднак немцы дагналі мяне і тут.

Праз некалькі дзён імі была акупіравана Беларусь па Днепр. Вясну і лета я працаваў на гаспадарцы разам з бацькам. Толькі пасля выгнання акупантаў, у лістападзе 1918 года, зноў змог вярнуцца ў школу. На гэты раз настаўнічаў у пачатковай школе ў вёсцы Каменка Уздзенскай воласці. Тут давялося перажыць і другую акупацыю — белапольскую. У ліпені 1920 года белапалякі былі выгнаны, а ў жніўні я як камандзір запасу быў ужо зноў у арміі, на гэты раз у Чырвонай. Служыў у якасці камандзіра ўзвода ў 16-м запасным палку, у 28-м стралковым, на паліткурсах 10-й брыгады па падрыхтоўцы малодшага камсаставу і даўжэй за ўсё ў школе па падрыхтоўцы малодшага камсаставу 4-й дывізіі.

У гэты час у мяне ўжо былі жонка і сын. Ажаніўся я ў 1919 годзе з дзяўчынай з свае вёскі Аленай Канстанцінаўнай Махнач, з якой пражыў у добрай згодзе ўжо сорак тры гады і маю намер працягваць далей.

Ратуючыся ад праследавання свекрыві, жонка прыехала з малым сынам да мяне ў Мінск, дзе знаходзілася школа, у якой я служыў. Жылі мы ў вельмі цяжкіх умовах. У нас быў пакой у нейкім паўжылым памяшканні, у якім і намёку не было на якую-небудзь мэблю. Сядзелі мы на сасновых калодках, спалі на падлозе, а дзіцяці замест калыскі служыла збітая з грубых дошак скрынка. За драўлянымі перагародкамі заўсёды скрэбліся і грызліся пацукі. Ноччу яны выходзілі з сваіх сховішчаў, знішчалі ўсё, што знаходзілі прыдатнага для яды, завалаквалі ў свае норы дзіцячыя шапачкі і нават пялёнкі. Адзінай уцехай для нас была прыказка, што з мілым і ў шалашы рай. Затое сапраўдным раем здаўся нам пакой, які праз некаторы час атрымалі мы ў папоўскім доме.

У гэты перыяд адбылася падзея, якая вызначыла мой далейшы жыццёвы шлях: пасля васьмігадовага перапынку я зноў узяўся за пяро. На гэты раз я не ставіў сабе задачы пісаць высокамастацкія творы. Мною валодала не «сусвет-

ная туга», а простае жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць. Пачаў я з простай газетнай карэспандэнцыі. Напісаў некалькі фельетонаў на бытавыя і палітычныя тэмы. Пісаў на рускай мове. Некаторыя з гэтых фельетонаў былі надрукаваны ў газеце «Красноармейская правда». У рэдакцыю гэтай газеты я паслаў сшытак сваіх вершаў, і праз некаторы час у газеце быў змешчан спрыяльны артыкул пад назвай «Паэт-камандзір».

Такая ўвага мяне нават крыху здзівіла, але галавы не закружыла. Я не думаў стаць калі-небудзь сапраўдным пісьменнікам.

Пераехаўшы ў Мінск (гэта было ў 1922 годзе), я ўпершыню ўбачыў наклееную на сцяну беларускую газету «Савецкая Беларусь». У ёй надрукаваны падпісаны ініцыяламі сатырычны верш. Прачытаўшы яго, я падумаў, што і сам, бадай, змог бы напісаць такі. Падумаў і паспрабаваў. Па-беларуску я, праўда, да гэтага часу не пісаў, але жывую беларускую мову ведаў добра. Праз ноч верш (фельетон на злабадзённую палітычную тэму) быў гатоў.

Раніцай я занёс яго ў рэдакцыю і, здаўшы супрацоўніку, хуценька пайшоў, баючыся, каб не пачалі чытаць пры мне. Назаўтра з заміраннем сэрца я падыходзіў да таго рога вуліцы, дзе на сцяне звычайна наклейвалася газета «Савецкая Беларусь». І як жа я рад быў, калі ўбачыў свой твор надрукаваным без ніякіх паправак! З таго часу мае сатырычныя вершы часта з'яўляліся на старонках «Савецкай Беларусі».

Разам з гэтым расла і мая папулярнасць паэта-сатырыка.

У Мінску я стаў паступова далучацца да літаратурнага жыцця, пазнаёміўся з некаторымі маладымі беларускімі пісьменнікамі. З асалодай чытаў творы і тады ўжо слаўных беларускіх паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Раней у мяне не было такой магчымасці. Знаёмства з беларускімі класікамі канчаткова пераканала мяне, што добрыя творы можна пісаць і на беларускай мове. А ёю я валодаў лепш, чым рускай.

Тым часам скончылася мая служба ў Чырвонай Арміі. У кастрычніку 1923 года я дэмабілізаваўся і разам з жонкай і сынам паехаў у Нізок да бацькі, не маючы яшчэ пэўных намераў адносна далейшага. Па праўдзе кажучы, мне страшнавата было адрывацца ад зямлі. На літаратурны заработак я разлічваць не мог. (За ўсе мае вершы пры ад'ездзе з Мінска мне выплацілі акордам — трыццаць

рублёў.) Зарплата настаўніка — дваццаць тры рублі ў месяц — таксама здавалася мне недастатковай, каб пражыць з сям'ёй. І я вырашыў застацца на гаспадарцы.

Трыццаць рублёў ганарару аддаў на пакупку лесу і стаў з бацькам сеч і вывозіць яго, каб пабудаваць новую хату. Але вельмі хутка прыйшлося пераканацца, што ў бацькоўскім доме я цяпер лішні. У бацькі была новая сям'я. Другая яго жонка — слабая і хваравітая — памерла, пакінуўшы дзяўчынку. Бацька ажаніўся трэці раз і ўзяў сяброўку жыцця, якая не магла паскардзіцца на сваё здароўе. Ранейшы бацькаў намер — пакінуць гаспадарку для малодшых дзяцей — застаўся ў сіле, і новая мачаха з усёй рашучасцю пачала яго ажыццяўляць, карыстаючыся для гэтага кожным зручным і нязручным выпадкам.

Восенню 1924 года я пакінуў бацькаўскі дом і пераехаў з сям'ёй у суседнюю вёску Астравок, куды мяне назначылі настаўнікам.

Тым часам успомнілі пра мяне ў Мінску, дзе ўжо існавала пісьменніцкая арганізацыя «Маладняк». Не бачачы больш на старонках газеты маіх вершаў і баючыся, каб я зусім не заглух у вёсцы, сябры пачалі клікаць мяне ў Мінск, абяцаючы падшукаць прыдатную работу.

Пасля доўгага роздуму я ў маі 1925 года пераехаў у Мінск і стаў працаваць інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры. Працуючы на гэтай пасадзе, я часта выязджаў у мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі. Гэта спрыяла больш грунтоўнаму азнаямленню з прыродай розных куткоў Беларусі, бытам насельніцтва, выдатнымі асаблівасцямі беларускіх гарадоў.

Разам з тым я стаў больш пісаць, і мае вершы часцей, чым дагэтуль, пачалі з'яўляцца на старонках беларускіх газет. Між іншым, у гэты перыяд я стаў авалодваць новым для мяне літаратурным жанрам — байкай.

Паступова я ўсё больш уцягваўся ў літаратурнае жыццё, прыслухоўваўся і прыглядаўся да таго, што адбывалася ў пісьменніцкім асяроддзі.

У беларускую літаратуру прыйшло маладое паслярэвалюцыйнае пакаленне. Арганізацыя «Маладняк» налічвала каля пяцісот чалавек. У пераважнай большасці гэта былі не стваральнікі літаратуры, але гарачыя яе прыхільнікі і нястомныя папулярызатары. Былі, вядома, і па-сапраўднаму таленавітыя людзі, якія ў далейшым унеслі значны ўклад у развіццё беларускай савецкай літаратуры. У працэсе гэтага не толькі літаратурнага, але і агульнакультурнага

ўздыму не абышлося і без «бурапены», як некаторыя іранічна называлі тады крыклівыя дэкларацыі, пагоню за знешнім эфектам і ўсялякія фармалістычныя выкрутасы. Нялёгка мне, навічку, ва ўсім гэтым было разабрацца, але здаровая сялянская развага часта дапамагала адрозніваць важкае зерне ад мякіны і пустазелля.

У 1926 годзе, калі мне было ўжо трыццаць гадоў, я паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Гэта дало магчымасць запоўніць вялікі прабел у маёй адукацыі.

Праз некаторы час я быў ужо не толькі слухачом і сведкам гарачых спрэчак у сценах універсітэта, але і сам прымаў у іх актыўны ўдзел. А спрэчкі ўсё разгараліся. Яны прывялі ўжо ў 1926 годзе да расколу «Маладняка» і выхаду з яго складу групы пісьменнікаў, якія аб'ядналіся ў літаратурнай арганізацыі «Узвышша». У ліку іх быў і я.

Я не магу тут падрабязна спыняцца на ідэйных пазіцыях кожнай з гэтых арганізацый, на іх творчых прынцыпах. Гісторыкі беларускай літаратуры зробяць гэта лепш за мяне. Што да прычын, якія падштурхнулі мяне выйсці з «Маладняка», то асноўным было тое, што такая масавая арганізацыя, як мне здавалася, не стварала ўмоў для сур'ёзнай творчай працы, што пагоня за колькасцю членаў прыводзіла да зніжэння запатрабаванняў, якія прад'яўляліся членам арганізацыі. Не падабаліся мне і багемскія настроі, якія мелі месца сярод маладнякоўцаў.

Аднак не знайшоў я задавальнення і ў арганізацыі «Узвышша». У ёй было шмат таленавітых паэтаў і пісьменнікаў, сярод іх Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Уладзімір Дубоўка, Максім Лужанін, але атмасфера ва «Узвышшы» не спрыяла творчаму росту. Давалі сябе адчуваць налёт фальшывага акадэмізму, што мне асабліва не спадабалася, адарванасць ад масавага культурнага руху, ад надзённых задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Хутка выявілася, што гучнымі фразамі аб стварэнні высокамастацкіх твораў некаторыя члены «Узвышша» наўмысля прыкрывалі адыход ад рэчаіснасці. Нацыяналістычныя тэндэнцыі, якія праяўляліся і ў творчасці некаторых членаў «Маладняка», ва «Узвышшы» праявіліся яшчэ больш выразна. Ідэйныя скажэнні і памылкі «Узвышша» былі жорстка раскрытыкаваны грамадскасцю і ў першую чаргу членамі існаваўшага ўжо ў той час БелАППа. Пры гэтым не абышлося і без вульгарызацыі ў ацэнцы творчасці паасобных пісьменнікаў з «Узвышша», але ў цэлым крытыка пайшла на карысць. Яна памагла большасці членаў

«Узвышша» ўсвядоміць свой творчы шлях і шукаць выхаду з фальшывага становішча, у якім яны апынуліся. У выніку вострых рознагалоссяў з «Узвышша» была выключана група членаў, якая асабліва ўпарта абараняла старыя пазіцыі, а ў 1931 годзе «Узвышша» аб'явіла аб самаліквідацыі.

У выніку пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» і стварэння адзінага Саюза савецкіх пісьменнікаў была знойдзена новая арганізацыйная форма, якая спрыяла кансалідацыі і творчаму росквіту ўсіх пісьменнікаў, што стаялі на платформе савецкай улады.

Адчуваць сябе не «папутнікам», а паўнапраўным членам пісьменніцкай сям'і было для мяне вялікім маральным задавальненнем.

У 1930 годзе я скончыў універсітэт (літаратурнае аддзяленне педфака) і вырашыў далей жыць літаратурнай працай.

На працягу чатырох год, з 1932 па 1936-ты, я працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі часопіса «Полымя рэвалюцыі».

Паступова я звыкся з думкай, што пісьменніцкая праца будзе асноўнай у маім жыцці. К часу стварэння Саюза савецкіх пісьменнікаў ужо было выдадзена некалькі зборнікаў маіх сатырычных вершаў і баек, напісана першая (і адзіная) кніга рамана «Мядзведзічы» і першая мая п'еса «Канец дружбы», пастаўленая тэатрам імя Янкі Купалы. Пасля пастаноўкі гэтай п'есы я грунтоўна «заграз» у драматургіі на шкоду іншым жанрам. Драматургія патрабуе шмат напружанай працы і нерваў. Часта цяжэй за ўсё драматургіі прыходзіцца тады, калі п'еса ўжо напісана. Тым не менш жанр гэты мае асаблівыя прывабныя ўласцівасці і моцна трымае пісьменніка ў палоне, так што нават пасля цяжкіх расчараванняў з ім нялёгка расстацца.

У 1937 годзе мною была напісана другая п'еса — «Партызаны», прысвечаная партызанскай барацьбе беларускага народа з белапольскімі акупантамі. Яна была пастаўлена тэатрам імя Янкі Купалы і некаторымі іншымі тэатрамі.

Самы вялікі поспех выпаў на долю трэцяй п'есы — сатырычнай камедыі «Хто смяецца апошнім», напісанай у 1939 годзе. За яе ў 1941 годзе мне была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

У 1939 годзе я быў прызваны ў армію і ў якасці камандзіра стралковай роты прымаў удзел у паходзе за вызваленне Заходняй Беларусі, а потым у вайне з Фінляндыяй. На лініі Манергейма, у надзвычайна суровых умовах зімы 1939/40 года, я ўпершыню пазнаёміўся з такімі навінкамі сучаснай вайны, як доты, з якіх гэта праславутая лінія і складалася.

У красавіку 1940 года я быў выбраны ў члены-карэспандэнты Акадэміі навук Беларускай ССР, і гэта накладвала на мяне абавязак прымаць больш актыўны ўдзел у рабоце Акадэміі. Да гэтага часу я прымаў толькі некаторы ўдзел у рэдагаванні руска-беларускага слоўніка, які з-за вайны і не ўбачыў свету.

У чэрвені таго ж года ў Маскве адбылася дэкада беларускага мастацтва і літаратуры, у час якой тэатр Янкі Купалы паказаў дзве мае п'есы — «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім». Шмат удзельнікаў дэкады было адзначана ўрадавымі ўзнагародамі. І я атрымаў першую сваю высокую ўзнагароду — ордэн Леніна.

Праз год мне зноў прыйшлося апрануць шынель, каб удзельнічаць у чацвёртай «маёй» вайне, якая прынесла незлічоныя беды маёй роднай Беларусі і ўсёй Савецкай краіне.

У першы ж дзень вайны я знаходзіўся ўжо ў часці, да якой быў прыпісаны — на гэты раз у рэдакцыі франтавой газеты «Красноармейская правда». Мне давялося быць сведкам варварскай бамбардзіроўкі Мінска фашысцкімі выродкамі, у выніку якой быў разбураны і дом, у якім я жыў. 25 чэрвеня з болем у сэрцы я пакінуў ахоплены полымем родны горад, не ведаючы нічога пра лёс сям'і, якая знаходзілася ў шасцідзесяці кіламетрах ад Мінска, з трывогай думаючы аб старшым сыне Барысе, які быў у арміі і к пачатку вайны знаходзіўся на савецка-польскай граніцы. Месяцы праз тры я даведаўся, што мая сям'я з некалькімі іншымі сем'ямі пісьменнікаў на выпадковай грузавой машыне паехала на Усход. Пасля кароткага прабывання ў Новых Бурасах Саратаўскай вобласці яна выехала ў Уральск, дзе ў той час знаходзіўся беларускі тэатр імя Якуба Коласа.

Разам са звесткай пра сям'ю прыйшла і сумная вестка аб смерці выдатнага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі, які памёр у цяплушцы па дарозе ў Уральск.

У рэдакцыі «Красноармейской правды» я быў усяго некалькі дзён. Па рашэнню Палітупраўлення арміі пачала

выдавацца франтавая газета «За Савецкую Беларусь», адказным рэдактарам якой быў Міхась Лынькоў, а супрацоўнікамі — многія беларускія пісьменнікі і паэты. Апрача Лынькова і мяне, тут былі І. Гурскі, П. Глебка, П. Панчанка, А. Стаховіч, В. Барысенка. Пазней да нас далучыліся П. Броўка, М. Танк, А. Кучар. Газета гэта прызначалася для беларускага насельніцтва і закідвалася ў нямецкі тыл на самалётах.

У снежні 1941 года я быў прыняты ў рады ВКП(б).

У канцы 1941 года ўся наша група была адклікана ў Маскву. Некаторы час мы яшчэ выпускалі газету «За Савецкую Беларусь», а ў канцы 1942 года я з некаторымі іншымі таварышамі быў дэмабілізаваны і знаходзіўся ў распараджэнні ЦК КП(б)Б. У гэты час наша сям'я панесла вялікую страту: пад Сталінградам загінуў сын Барыс. Уцехай у гэтым цяжкім горы было толькі тое, што сын мой аддаў жыццё за святую справу вызвалення ад фашысцкай няволі.

Пасля разгрому немцаў пад Сталінградам у хуткай і канчатковай перамозе над ворагам ніхто не сумняваўся. У мяне і маіх таварышаў з кожным днём расла і мацнела надзея на тое, што мы хутка вернемся ў родную Беларусь. Ужо зімой 1943 года надзея гэта стала рэальнасцю, калі разам з іншымі таварышамі я пабываў у вызваленым Гомелі.

З сакавіка 1943 года і да канца вайны я быў адказным рэдактарам сатырычнага выдання — газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», якая да вызвалення Беларусі таксама закідвалася ў нямецкі тыл на самалётах. Вясной 1944 года рэдакцыя пераехала ў Гомель, а 7 ліпеня я ўжо быў у толькі што вызваленым Мінску. Відовішча было жахлівае. Цяжка было тады ўявіць, колькі сіл і часу спатрэбіцца працоўным Беларусі, каб узняць з руін сваю сталіцу і многія іншыя гарады і сёлы рэспублікі. Але творчы дух народа не памёр, як не была зломлена яго воля да барацьбы з нямецкімі захопнікамі. Аднаўленне пачалося з першага ж дня пасля вызвалення, і сёння перад маімі вачамі новы Мінск — прыгожы, узняты з папялішча намаганнямі савецкіх людзей.

У час вайны я зноў вярнуўся да сатырычнага жанру. Сатырычныя вершы, фельетоны, памфлеты, эпіграмы, подпісы пад карыкатурамі — вось тая зброя, якою я па меры маіх сіл наносіў удары ворагу.

Пасля сканчэння вайны пачаў выходзіць сатырычны часопіс «Вожык», адказным рэдактарам якога я быў на працягу двух год. Адначасова я прымаў удзел у працы Акадэміі навук, якая, вярнуўшыся з эвакуацыі, пачала разгортваць сваю дзейнасць. З 1947 года загадваў сектарам мовазнаўства ў Інстытуце літаратуры і мовы. У 1950 годзе быў выбран у правадзейныя члены Акадэміі навук БССР, што накладала на мяне яшчэ большыя абавязкі. Пасля стварэння ў 1952 годзе Інстытута мовазнаўства быў яго дырэктарам на працягу чатырох год. У 1956 годзе быў выбраны віцэ-прэзідэнтам АН БССР. Апрача навукова-даследчай, прыйшлося шмат часу ўдзяліць арганізацыйнай і адміністрацыйнай працы.

Пад маёй рэдакцыяй выйшла некалькі прац у галіне мовазнаўства, у тым ліку «Беларуска-рускі слоўнік», які змяшчае больш за 90 тысяч слоў.

За ваенны і пасляваенны час мною напісана некалькі п'ес. За адну з іх «Пяюць жаваранкі» мне ў 1951 годзе другі раз прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. Я з'яўляюся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і членам Мінскага абкома КПБ.

У сувязі з шасцідзесяцігоддзем мне ў 1956 годзе прысвоена званне народнага пісьменніка БССР.

Я зрабіў яшчэ мала, каб апраўдаць высокае давер'е партыі і народа, а часу, мяркуючы па гадах, засталося не так многа. Але спадзяюся яшчэ папрацаваць.

*1958—1962*

## КВЕТКА ШЧАСЦЯ

80 год таму назад у хаце беззямельнага беларускага селяніна нарадзіўся чалавек, якому суджана было стаць гордасцю беларускай літаратуры, выказнікам дум і пачуццяў свайго народа.

З думкай аб шчасці паэт выбіраў сабе літаратурнае імя. На Купалле, паводле народнага павер'я, расцвітае чароўная кветка, якая робіць шчаслівым таго, хто яе знойдзе. Толькі не аб сваім асабістым шчасці марыў паэт. Сваё

шчасце ён бачыў у шчасці народа. Аб гэтым ён марыў, дзеля гэтага жыў, за гэта змагаўся сваім натхнёным паэтычным словам.

Шчасце так рэдка над светам усходзе;
Усё ж досыць бывае меці хоць мала,—
Долю каб бачыў у родным народзе,
А быў бы шчаслівы Янка Купала.

Перад тым як выйсці ў паэтычны паход за лепшую народную долю, будучы паэт пазнаў яе, горкую, на сваім жыццёвым вопыце. Дзесяць разоў параязджаў бацька паэта з аднаго месца на другое, шукаючы прытулку і працы на памешчыцкай зямлі. І разам з ім, часта босым ідучы за павозкай, вандраваў будучы паэт. Яго душа чула адгукалася на людскія жальбы і скаргі, поўнілася народным гневам супраць прыгнятальнікаў, прагна ўбірала хараство народных песень і казак, у якіх адлюстроўваліся гістарычны лёс народа і яго спрадвечныя мары аб лепшай долі. І калі паэту прыйшла пара сказаць сваё слова ад імя народа, а пара гэта супала з магутнай рэвалюцыйнай хваляй, слова гэта было важкім, гарачым, поўным высокага грамадзянскага пафасу і сацыяльнага зместу.

Гэты пачынаючы паэт быў мудрым сталым чалавекам, які ведаў, куды яму ісці і за што змагацца. У першым жа сваім вершы «Мужык» Янка Купала заяўляе, што ён ганарыцца сваім працоўным паходжаннем, што ён век застанецца мужыком, гэта значыць верным працоўнаму народу, абаронцам яго інтарэсаў. І гэта сваё ўрачыстае абяцанне стрымаў вялікі паэт.

У многіх сваіх творах Янка Купала малюе яркі вобраз гэтага мужыка — чалавека з мазольнымі рукамі і высакароднымі пачуццямі, пастаўленага ў нечалавечыя ўмовы. Гэты мужык усіх корміць і адзявае, будуе касцёлы і палацы, а сам гібее ў нястачы, ходзіць у падранай сярмязе і жыве ў курнай халупе.

Такога здзеку больш нельга цярпець — рабіў вывад працоўны чалавек, убачыўшы сябе ў чыстым і праўдзівым люстры купалаўскай паэзіі.

У выдатным вершы «А хто там ідзе?» паэт з вялікай мастацкай сілай выказаў, чаго хоча яго калектыўны герой — беларускі народ, як усвядоміў ён сваё бяспраўнае становішча. Ён хоча «людзьмі звацца» і гатоў на барацьбу за свае чалавечыя правы.

Складаючы свае цудоўныя песні-думы, свае выдатныя паэмы, такія, як «Курган» і «Бандароўна», у якіх гучыць

усё той жа пратэст супраць сацыяльнай несправядлівасці, Янка Купала адрасаваў іх не кожнаму аматару паэзіі. Ён накіроўваў свае творы толькі ў пэўны адрас, знаходзячы верны шлях да сэрца працоўнага чалавека.

Я не для вас, паны, о не!
А я для бедных і загнаных,
Я з імі мучуся ўраўне,
У адных закут з імі кайданах...
Я не для вас, паны, о не!

Дарэвалюцыйная паэзія Янкі Купалы — гэта згустак болю і крыўды за працоўны народ, гарачы заклік на барацьбу за волю і долю.

Зусім на іншы лад настроіў паэт сваю ліру, калі ўбачыў свой народ вольным ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, роўным сярод роўных у брацкай сям'і савецкіх народаў.

Тэма шчасця па-ранейшаму займае асноўнае месца ў яго творчасці, толькі шчасце, якое было марай, стала рэальнасцю. Замест песень жальбы і пакуты загучалі песні шчасця для працоўных, гімны стваральнай працы. Паэт услаўляе веліч спраў, якія здзяйсняе савецкі народ, мудрасць нашай Камуністычнай партыі.

Сягоння з народам шчаслівым
Я свята святкую ўрачыста,—

гаворыць паэт у адным са сваіх вершаў.

У савецкі перыяд паэзія Янкі Купалы сягнула далёка за межы Беларусі. Сам паэт адчувае сябе сынам і гарачым патрыётам не толькі беларускага народа, але ўсяе Савецкай краіны. Усё большае месца ў яго творчасці займае дружба народаў. Ён жыва цікавіцца гаспадарчымі і культурнымі здабыткамі брацкіх рэспублік. Глыбока прачулыя творы прысвячае ён вялікім сынам брацкіх народаў — Шата Руставелі, Тарасу Шаўчэнку, Максіму Горкаму, Джамбулу, Сулейману Стальскаму.

Магутны талент Купалы развіваўся і мужнеў пад дабратворным уплывам вялікай рускай літаратуры, пад уплывам слаўнага песняра ўкраінскага народа Тараса Шаўчэнкі. Асаблівае значэнне для маладога Янкі Купалы мела маральная падтрымка, цёплы водзыў аб яго паэзіі Аляксея Максімавіча Горкага, якому Купала быў удзячны ўсё сваё жыццё.

Цяжка ў поўнай меры ацаніць усё тое, што Янка Купала і яго друг народны паэт Якуб Колас зрабілі для развіцця

беларускай літаратуры, беларускай літаратурнай мовы, для абуджэння класавай і нацыянальнай свядомасці працоўных Беларусі.

Разам з мільёнамі чытачоў за межамі нашай рэспублікі, разам з іншымі народамі нашай краіны беларускі народ ушаноўвае памяць свайго вялікага паэта, глыбока ўдзячны яму за ўсё добрае, што ён зрабіў для народа, за яго неўміручыя творы, за вялікі ўклад у развіццё беларускай і ўсяе савецкай літаратуры.

*1962*

## О БЕЛОРУССКОЙ ДРАМАТУРГИИ

Белорусская драматургия по сравнению с дооктябрьским периодом неизмеримо выросла.

Этот рост объясняется не столько заслугами самих драматургов, сколько теми условиями, которые создали советская власть и Коммунистическая партия для развития всей белорусской культуры — национальной по форме, социалистической по содержанию.

Октябрьская революция пробудила невиданную творческую активность масс, создала все необходимые условия для выявления и роста талантов из народа. Кроме этих общих условий советской властью созданы и те специфические условия, которые для развития белорусской советской драматургии имели и имеют огромное значение. Я подразумеваю профессиональные театры с их постоянными творческими коллективами, мощной материальной базой, техническими возможностями.

В самом деле, как могла успешно развиваться белорусская драматургия в дореволюционные годы, когда в стране не было, по сути, ни одного профессионального театра? На что могла опираться и ориентироваться, скажем, драматургия Дунина-Марцинкевича? На крепостной либо любительский театр помещичьих имений? В дальнейшем белорусская драматургия могла ориентироваться на любительские кружки немногочисленной белорусской демократической интеллигенции и на такой полупрофессио-

нальный, с небольшими материальными и творческими возможностями коллектив, как театр Игната Буйницкого.

Понятно, почему белорусская драматургия дооктябрьской поры представлена главным образом одноактными пьесами, рассчитанными на любительский кружок. Когда же появилось более значительное драматическое произведение, требующее для раскрытия богатого содержания серьезной работы театра, то оно не могло быть должным образом поставлено на сцене, как это и произошло, например, с «Разоренным гнездом» Янки Купалы.

Положение коренным образом изменилось после Октября, когда благодаря заботам советской власти были созданы белорусские профессиональные театры. Одновременно начала выходить на широкую дорогу и белорусская драматургия.

Начиная с 20-х годов белорусскими драматургами написано несколько десятков пьес, в которых нашли отражение многие существенные явления в жизни нашего народа. Это пьесы о гражданской войне, о борьбе белорусского народа с белопольскими оккупантами, о хозяйственном восстановлении нашей страны, об индустриализации и борьбе с кулачеством, о положении трудящихся западных областей Белоруссии под гнетом польских помещиков и капиталистов, о борьбе народа с немецко-фашистскими захватчиками, о мирном строительстве в послевоенные годы.

Как видим, нельзя сказать, что наша драматургия стояла в стороне от жизни народа или что она не стремилась отобразить важнейшие события нашей действительности. Многие пьесы на большие темы современности были поставлены профессиональными театрами и пользовались успехом у советского зрителя. Некоторые из них вышли и на всесоюзную сцену. Однако наша общественность продолжает предъявлять драматургам совершенно законные претензии. Зритель желает, чтобы на сцене театров советские люди и их выдающиеся дела были показаны более полно и, главное, более ярко. Это значит, что, несмотря на успешное развитие белорусской драматургии в годы советской власти, она все же отстает от культурного роста народа. Сказанное вполне может быть отнесено ко всей белорусской литературе, но требования общественности, предъявленные драматургам, звучат особенно настойчиво. Это обстоятельство должно встревожить наших драматургов и заставить их призадуматься.

Почему же именно драматургии предъявляет общест-

венность больше всего претензий? То ли нашим драматургам не хватает таланта? Или их мало волнуют великие дела советских людей? Нет сомнения, что это не так. Надо полагать, что и талантами наши драматурги не обижены, и дела народные волнуют их не меньше, чем представителей других жанров. Не таится ли причина такого положения в том, что мы, драматурги, не учитываем некоторых специфических особенностей нашего жанра? Если подойти к вопросу с этой стороны, то прежде всего нужно иметь в виду, что для драматургии первостепенное значение имеет конфликт, на основе которого только и возможно развить драматургическое действие. Если в других жанрах слабость конфликта может быть в какой-то степени компенсирована непосредственным вмешательством автора — повествованием, описанием, авторской характеристикой действующих лиц, лирическими отступлениями, то в драматическом произведении все это исключается и слабость конфликта сказывается самым катастрофическим образом. Она обычно тянет за собой невыразительность идей произведения, слабость композиции, вялость сюжета, схематизм и бледность в показе действующих лиц.

Теория бесконфликтности разбита и похоронена. Однако нельзя сказать и теперь, что в вопросах драматургического конфликта мы уже разобрались до конца. Еще очень мало сказано о том, что природа конфликта в классовом и бесклассовом обществах не одинакова.

Известно, что классовое и бесклассовое общества движутся вперед путем преодоления противоречий, но характер этих противоречий и способ их преодоления разные. В классовом обществе сталкиваются антагонистические силы. Противоречия там выступают более резко, конфликт развивается более бурно и разрешается обычно физическим или моральным уничтожением одной из сторон. Об этом убедительно свидетельствует классическая драматургия, в которой источником конфликта обычно являются классовые противоречия и социальное неравенство. Об этом же говорят и пьесы советских драматургов о гражданской и Великой Отечественной войнах, о борьбе с кулачеством и другими элементами, принципиально враждебными социалистическому строю. Вспомним такие советские пьесы, как «Любовь Яровая», «Огненный мост», «Нашествие», «Русские люди», «Чужая тень». Из белорусской драматургии можно назвать в этой связи такие пьесы, как «Отчизна» Кузьмы Чорного, «Война войне»

Якуба Коласа, «Над Березой-рекой» П. Глебки, «Мост» Е. Романовича, «Гибель волка» Э. Самуйленка, «Константин Заслонов» А. Мовзона, «Это было в Минске» А. Кучера, «Брестская крепость» К. Губаревича и некоторые другие. В основе этих пьес лежат столкновения враждебных, антагонистических сил. В них мы имеем ярко выраженный глубокий конфликт, который разрешается таким образом, что вместе с этим решаются и судьбы людей, участвующих в нем.

Но как же быть драматургам тогда, когда они пытаются отобразить наше мирное строительство? Ведь антагонистических классов и групп у нас нет, социальное неравенство уничтожено. Все это так. И тем не менее в нашем социалистическом обществе тоже существуют противоречия, и оно движется вперед путем их преодоления.

Драматург должен глубоко знать законы, по которым развивается наше общество, и иметь зоркий глаз, чтобы увидеть в жизни те противоречия, которые могут лечь в основу драматургического произведения.

Мы часто не учитываем, что не каждое столкновение, пусть даже и острое, является настоящим конфликтом, достойным внимания драматурга.

Когда противники стоят на одних и тех же идейных позициях, руководствуются одинаковыми моральными принципами, то в таком случае мы, очевидно, имеем дело не с глубоким конфликтом, который в состоянии охватить все существо человека и серьезным образом сказаться на его судьбе, а с расхождением частного порядка. Пьеса, построенная на таком конфликте, вряд ли сможет взволновать зрителя. Чаще всего в таких случаях получается то, что мы называем бесконфликтной пьесой, причем для этого вовсе не обязательно, чтобы автор сознательно придерживался теории бесконфликтности. Он может быть искренне убежден в том, что его произведение построено на остром конфликте, беда только, что этот конфликт не глубокий, не действенный. И как часто советские драматурги спотыкаются именно на этом месте, особенно когда пытаются показать наше мирное строительство!

Чтобы далеко не ходить за примерами, возьмем такую белорусскую пьесу, как «Неспокойные сердца» Алеся Кучера. Главный ее недостаток заключается именно в том, что в основе ее нет глубокого конфликта. Столкновение между главным инженером завода Курневым, с одной стороны, и директором, парторгом и молодежной бригадой, борющейся за освоение автоматической линии,— с другой, не яв-

ляется таким конфликтом. Во-первых, этот так называемый конфликт происходит [redacted] узкой сфере технологии производства. Во-вторых, сама ситуация является нежизненной, а образ главного инженера — неубедительным. Нам неизвестны корни его настроений, мотивы его поведения, неясна его идейная позиция. То ли это идейный противник, то ли беспринципный карьерист. Ни одно из этих качеств [redacted] нем убедительно не раскрыто, а потому и поступки его кажутся нам неоправданными, и чем активнее и напористее он действует, тем более странным выглядит его поведение. В-третьих, и этот конфликт занимает в пьесе не такое уж значительное место. В пьесе имеется много другого материала, никакого отношения к данному конфликту не имеющего. В результате пьеса распадается на отдельные куски, в которых мы иногда видим живые сценки, интересно намеченные характеры, но цельного произведения не получилось, и все стремления автора заинтересовать зрителя удачными (а порой и неудачными) остротами, отдельными острыми ситуациями цели не достигают.

В основу драматургического конфликта, мне кажется, может лечь лишь такое столкновение, [redacted] котором противники стоят на разных идейных позициях, по-разному относятся к советской морали и этике, к своим общественным обязанностям, к передовому [redacted] отсталому в нашей жизни. Такие столкновения, если они должным образом оправданы, не могут не волновать советского зрителя, так как они затрагивают его убеждения, его общественные идеалы, за которые он, будучи на месте действующих лиц, и сам бы решительно боролся. Можно было бы назвать немало советских пьес, разных по жанру, по своей значимости и художественной ценности, которые имеют [redacted] своей основе конфликт именно подобного рода.

Выбор социально значительного конфликта является одним из важнейших моментов [redacted] работе драматурга над пьесой. Однако не менее важной и трудной задачей является реализация намеченного конфликта [redacted] сюжете. Необходимо найти такую художественную ситуацию, [redacted] которой бы положенное в основу конфликта противоречие проявилось с наибольшей полнотой и убедительностью. Действующие лица должны быть поставлены в такие взаимоотношения, в которых бы они без натяжки и искусственной ситуации проявляли свои качества, необходимые для раскрытия авторского замысла.

Надуманные ситуации, плохо построенные взаимоотношения людей, отсутствие той пружины, которая привела бы в движение всех действующих лиц, могут погубить самый лучший авторский замысел. В результате вместо яркого художественного произведения часто получается схема, в которой все правильно изложено, но неубедительно показано в живых человеческих образах.

Надо сказать, что разработке сюжета мы уделяем очень мало внимания. Даже наши лучшие пьесы обычно не блещут интересным сюжетом, который бы захватывал зрителя, заставляя с интересом следить за развитием событий, показывал то или иное действующее лицо с неожиданной стороны.

А сколько есть пьес не лучших, и не лучших потому или в значительной мере потому, что автор не справился с сюжетом. Возьмем, к примеру, недавно опубликованную в журнале «Полымя» пьесу Аркадия Мовзона «Наталия Кривцова». На первый взгляд здесь как будто есть и конфликт, в котором человеку нечестному, мелкому карьеристу, развратнику и цинику Виктору Кривцову и его окружению противопоставлены честные и высокоморальные советские люди: его жена Наталия Кривцова, талантливый конструктор Галай и другие. Беда лишь в том, что, расположив свои боевые силы на исходных позициях, автор не привел их в движение. Они стоят друг против друга и почти бездействуют. Получилось все это потому, что механизм сюжета весьма примитивен и плохо сложен. Колеса его подчас вертятся сами по себе, не приводя в действие другие части системы. Самый существенный недостаток заключается в том, что не действует главная пружина, то конкретное дело, вокруг которого должны разгореться страсти. Этим делом номинально является сооружение станка, имеющего важное значение, но что это за станок, для чего он нужен, мы не знаем. Не знаем также, почему это создание талантливого конструктора бездействует, какой урон наносится этим государству. Основным сюжетным ходом в пьесе является то, что главный конструктор завода Кривцов выпроваживает конструктора Галая в Москву, а сам жульническим способом пытается присвоить авторство в изобретении станка. Однако это не вызывает никаких ответных действий со стороны Галая, так как он даже ничего не знает об этом жульничестве и продолжает считать Кривцова своим другом. Жульничество Кривцова разоблачают поочередно сперва секретарь парткома Захарова,

затем второстепенный персонаж, инженер Григорьев, и, наконец, жена Кривцова. В результате разоблачения вопрос о Кривцове ставится на бюро парткома, заседание которого должно состояться после занавеса. Что же касается семейных отношений, то эта линия еще более бездейственна. С первой сцены, даже с первой фразы мы видим Кривцова как пошляка, развратника и циника, который, не задумываясь, позорит свою семью. И нам непонятно, каким образом такая достойная женщина, как Наталия, могла стать женой Кривцова. Теперь это чужие люди. Наталия знает, что муж изменяет ей, но она не борется ни за, ни против него. Она забирает сына и уходит от мужа. Наталия не добивается своего счастья и с другим человеком, которого, как это явствует из пьесы, она любит.

Автор поставил свою героиню в такие условия, что она не смогла в полной мере раскрыть в действии замечательные качества советской женщины. Образ, который, по замыслу автора, должен был быть центральным (его именем названа пьеса), получился недейственным, пассивным, бледным.

Если мы сравним последние пьесы А. Мовзона «Наталия Кривцова» и А. Кучера «Неспокойные сердца» с их предыдущими пьесами — «Константин Заслонов» и «Это было в Минске», то увидим, что преимущество остается за предыдущими. И причина, очевидно, кроется в том, что авторы тогда имели не только готовый конфликт, принесенный войной, но в значительной мере и готовый сюжет, который им дали биографии не придуманных, а подлинных героев. Теперь же ничего этого жизнь им в готовом виде не преподнесла, пришлось самим придумывать конфликт, создавать сюжет. С этой задачей они справились неудовлетворительно. Быть может, причину неудач А. Мовзона за последние годы и следует искать как раз в том, что в основу своих пьес он кладет нежизненные, надуманные ситуации.

В этом отношении значительно лучше обстоит дело у А. Макаенка в его комедии «Извините, пожалуйста». В основу конфликта здесь положено жизненное противоречие между общественным и личным, между государственными интересами, с одной стороны, и личными, карьеристскими целями — с другой. Острота конфликта усиливается еще оттого, что эти карьеристские, антигосударственные тенденции проявляются в деятельности ответственного работника, который сам должен являть пример высокой

советской морали и принципиальности, для которого интересы государства должны быть священны. Конфликт развертывается в ходе такого важного и конкретного мероприятия, как сдача хлеба государству. Ряд удачно найденных сюжетных ходов и комедийных ситуаций дает возможность показать носителей зла именно той стороной, которая более всего вызывает осуждение и осмеяние.

Есть ли слабые стороны в этом произведении? Безусловно, есть. Прежде всего бросается в глаза некоторая условность фигуры Калиберова. Калиберов искусственно вырван из тех типических обстоятельств, в которых приходится работать людям с его положением. Он целиком изолирован от партийной среды. Никаких методов и признаков партийной работы, хотя бы по форме, мы не замечаем. С такой условностью трудно согласиться, даже принимая во внимание особенности жанра сатирической комедии. В смысле разработки сюжета также не все может нас удовлетворить. Слабым моментом является то, что Калиберову и Мошкину не противопоставлена фигура, которая по ходу действия могла бы одолеть своих противников. Для колхозницы Анны Чихнюк такая задача явно непосильна. И здесь автор вынужден обратиться к прокурору, который и вмешивается в дело не по ходу сюжета, а со стороны, в порядке выполнения своих служебных обязанностей. Иногда автору изменяет художественный вкус, и вместо тонких и острых штрихов сатирического письма мы видим грубые, плакатные мазки, встречаем банальные шутки и некстати примененные поговорки.

Слабость сюжета, как я уже сказал, является недостатком многих пьес белорусских драматургов, и упреки эти в адрес моих товарищей по жанру могли бы быть адресованы и мне в отношении, скажем, такой пьесы, как «Заинтересованное лицо». Мне не удалось связать все происходящее в пьесе в один крепкий сюжетный узел, поставить действующих лиц в такие взаимоотношения, чтобы они с наибольшей полнотой и с разных сторон раскрывались в процессе взаимообщения. Отсюда некоторые образы, показанные лишь одной стороной, получились схематическими.

Схематизм является подлинным бичом нашей драматургии. Нехорошо, когда драматург привыкает мыслить в процессе творчества не конкретными образами, а абстрактными понятиями, социальными категориями. Он тогда перескакивает через материальную природу человека и апеллирует к общественному сознанию действующего

лица, забывая о том, что это сознание где-то обитает, что обиталищем его является живой человек, во плоти и крови, который ест, пьет, работает, отдыхает, любит, ненавидит, радуется и печалится. И делает это каждый на свой лад, чем и обусловливается бесконечное многообразие человеческих жизней и характеров. Без этого все люди одной социальной категории были бы одинаковыми, что мы, к сожалению, и встречаем в некоторых пьесах, [redacted] которых вместо людей ходят по сцене правильно выписанные социальные категории. Такой бесплотный дух не может вызвать живую реакцию зрителя по той простой причине, что он бестелесен. Живой контакт между сценой и зрительным залом устанавливается лишь тогда, когда зритель видит на сцене существо, похожее на него самого, со всеми чертами, присущими человеку.

Вряд ли есть необходимость говорить о том, какое большое значение для художественной убедительности пьесы имеет ее язык. Слово в пьесе служит не только средством выражения чувств и мыслей действующих лиц, оно еще несет на себе [redacted] конструктивную нагрузку. Поэтому оно должно быть [redacted] высшей степени целенаправленным. Действующие лица должны говорить не то, что они вообще могут говорить при данных обстоятельствах, а лишь то, что является необходимым для раскрытия авторского замысла. В пьесе не должно быть случайных реплик. Каждая фраза должна быть чем-то обусловленной и, в свою очередь, что-то обусловливать [redacted] смысле развития драматургического действия. Лишь при этом условии язык пьесы будет действенным и сценическим.

Лишний словесный материал в пьесе также мешает развитию действия, как песок, попавший в машину, мешает ее правильной и бесперебойной работе.

Есть еще немало вопросов, которые волнуют всех нас, драматургов, но в этой статье нет возможности их затронуть. Однако на одном из них я все же хочу остановиться, поскольку он близко касается меня как драматурга. Я имею в виду вопрос о сатирической комедии. По этому вопросу уже немало сказано в советской печати, но и после всех этих высказываний для комедиографа-сатирика не все ясно.

Приходится признать, что наша критика вообще очень настороженно подходит к каждому сатирическому произведению. В этом в какой-то степени отражается ревнивое отношение советских людей ко всему тому, что добыли мы

за годы советской власти. Понятно, что критик, как настоящий советский патриот, внимательно следит, чтобы кто-нибудь по недомыслию или по злому умыслу не опорочил того, что дорого советскому человеку, в первую очередь не опорочил зря самого советского человека. Но не надо скрывать и того, что некоторые работники, которым практически приходится решать вопрос — печатать или не печатать то или иное произведение, руководствуются еще и соображениями самостраховки. Они считают порой, что лучше сгладить, чем заострить. Но сгладить остроту сатирического произведения — это чаще всего означает погубить его. Приглаженная, обтекаемая сатира — это явление противоестественное. Острота сатиры — одно из основных ее качеств. Хорошее сатирическое произведение — это всегда активное вмешательство в жизнь с целью нанести удар тому, что мешает осуществлению общественных идеалов автора. В сатире ярко проявляется гражданский пафос писателя. Но, приветствуя остроту сатиры, мы не должны забывать и второе ее качество: она должна быть обязательно целеустремленной. Сатирик должен хорошо знать, куда он направляет свой удар и во имя чего. Иначе он будет бить по своим.

Серия пьес, написанных за последнее время и осужденных советской общественностью, вредна не остротой разоблачения, которой, по существу, в них и нет, а тем, что они бьют не в ту цель, что они чернят во имя черноты, не противопоставляя отрицательному ярко выраженного положительного идеала.

Что же касается сатирической комедии, то для нее обязательны все те требования, которые предъявляются сатире вообще. Здесь положение усложняется только тем, что автор не может непосредственно высказать свое отношение к явлению, которое он показывает, а делает это при помощи драматического действия, в котором обычно положительное сталкивается с отрицательным.

Вопрос о показе положительного и отрицательного в литературе вообще и в сатирической комедии в частности неоднократно обсуждался на страницах нашей печати. К сожалению, разговоры на эту тему часто ведутся без учета специфики жанра, без глубокого проникновения в существо вопроса. Рассуждая о положительном и отрицательном, некоторые товарищи представляют себе дело так, будто в нашей действительности положительное и отрицательное существуют сами по себе, порознь, и если показы-

вать положительное — это святая обязанность каждого советского писателя, то показ отрицательного — дело второстепенное, во всяком случае, мало почетное... а может быть, даже и предосудительное. Но где же в таком случае место для советских Гоголей и Щедриных?

Каждый уважающий себя советский писатель при таком взгляде на вещи будет ковыряться в отрицательном. Но вопрос о положительном и отрицательном будет выглядеть совсем по-иному, если мы будем рассматривать нашу действительность не в статике, а как живой процесс, в котором имеет место постоянная борьба положительного с отрицательным, причем положительное не без трудностей, но неуклонно берет верх над отрицательным. Отображая такую действительность, мы не можем избегнуть показа отрицательного, так как само понятие борьбы обязательно предусматривает наличие двух начал. Положительное является главным, побеждающим, но рядом с положительным мы видим и отрицательное, побеждаемое положительным. При таком показе действительности найдется место для каждого жанра, в том числе и для сатирического, и ни один из них не останется на задворках.

Исходя из того, что литература является отображением действительности и что в нашей советской действительности положительное преобладает над отрицательным, некоторые критики требуют, чтобы положительное и отрицательное показывалось в каждом литературном произведении в такой же пропорции, как это имеет место в жизни. Предъявлять такие требования каждому произведению — значит не отличать гимна от памфлета, забывать о том, что каждый литературный жанр имеет свои особенности и свои специфические задачи. Да и отрицательное в нашей действительности не распределено равномерно, как некоторые себе представляют. При общем огромном преобладании положительного имеются очаги неблагополучия в первую очередь и привлекают внимание сатирика-комедиографа. Здесь он чаще всего и встречается с жизненной ситуацией, которая может лечь в основу сатирической комедии.

Иногда драматурга упрекают в том, что в центре его сатирической комедии стоит отрицательный персонаж. Это похоже на то, как если бы мы упрекали хирурга в том, что в центре его внимания находится нарыв, который он собирается вскрыть, заботясь о здоровье человека. Ведь назначение сатирической комедии — вскрывать зло во имя

добра. В драматическом произведении это можно сделать, лишь показав зло в действии, причем так, чтобы оно в достаточной степени проявилось и обнаружило все свои зловредные качества. Но как же можно этого достичь, если не поставить носителя зла в центре внимания, отодвинуть его куда-то в тень? В таком случае зло в полной мере не будет вскрыто, цель драматурга не будет достигнута. Утверждение, что у нас положительное побеждает, а отрицательное обречено на гибель, вовсе не требует, чтобы в сатирической комедии ставить в центре внимания положительного героя вместо отрицательного. Положительный эффект в сатирической комедии достигается уже самим пафосом разоблачения, убедительной мотивировкой поступков действующих лиц, показом обстановки и причин, в силу которых отрицательное на определенное время может активизироваться, и, понятно, показом положительного, которое в конце концов побеждает. Но именно в конце концов, так как если с самого начала положительное будет подавлять отрицательное, то зло не сможет себя проявить с достаточной полнотой, оно будет пресечено, но не разоблачено художественными средствами, и хорошей сатирической комедии не получится.

Таковы, как мне кажется, особенности жанра сатирической комедии. Понятно, что для пьесы любого жанра, как и для каждого литературного произведения, определяющее значение имеет его идейная насыщенность. Однако мы никогда не должны забывать, что идея в художественном произведении требует специфического способа выражения — через художественные образы. Только в таком виде, действуя не только на рассудок, но и в первую очередь на чувства человека, она становится наиболее доходчивой, оставляет глубокий след в человеческом восприятии. В драматургии речь должна идти о создании системы человеческих образов. Здесь на первый план выступают такие моменты, как выбор конфликта и разработка сюжета, с чем часто мы справляемся неудовлетворительно. Короче говоря, дело упирается в овладение мастерством создания пьесы. Если мы не приложим в этом направлении больших усилий, мы не сможем поднять нашу драматургию на более высокую ступень, не удовлетворим тех законных требований, которые предъявляет нам советский зритель.

Мы обязаны глубже познать законы драматургии, чтобы с большим успехом преодолевать трудности нашего жанра.

*1967*

## ЁН ДАРЫЎ ЛЮДЗЯМ РАДАСЦЬ

Яшчэ не апамяталіся мы ад нядаўняй цяжкай страты, як спасцігла нас новае бязмернае гора. Перастала біцца гарачае сэрца вялікага мастака сцэны Глеба Паўлавіча Глебава, аднаго са слаўнай кагорты купалаўцаў, з імем якога звязан не адзін яркі спектакль, не адно дасягненне беларускага тэатральнага мастацтва.

Яркім талентам надарыла прырода Глеба Паўлавіча Глебава, але толькі дзякуючы штодзённай нястомнай і ўпартай працы талент гэты заіскрыўся ўсімі сваімі гранямі, раскрыў усё сваё багацце і глыбіню. Усё сваё жыццё аддаў Глеб Паўлавіч народу, савецкаму мастацтву, дорачы людзям радасць і эстэтычную асалоду.

Вялікі чараўнік сцэны, вялікі знаўца чалавечай душы — ён умеў глыбока і праўдзіва раскрыць сутнасць чалавечага характару, паказаць гледачу самыя яркія і істотныя яго рысы.

Горка ўсведамляць, што ён не выйдзе больш на сцэну, што хваля гарачых пачуццяў перапоўненай залы не рванецца яму насустрач бурнымі воплескамі. Той, хто заўсёды дарыў людзям радасць, выклікаў іскрысты смех, упершыню засмуціў усіх нас, засмуціў мільёны паклоннікаў свайго цудоўнага таленту.

Агорнуты тугою і смуткам, схіляю я сёння галаву над свежай магілай вялікага мастака і з глыбокай удзячнасцю ўспамінаю шчаслівыя для мяне дні нашых творчых сустрэч.

Хто ж нам цябе заменіць, дарагі Глеб Паўлавіч?

*1967*

## «ЛЮДЕМ ПОСПОЛИТЫМ К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ»

Пачатак кожнай добрай справы належыць добрым людзям, якіх мы ўспамінаем з удзячнасцю і пашанай за тое, што яны зрабілі для грамадства.

Вялікае свята беларускай культуры, якое мы сёння адзначаем, таксама мае свой слаўны пачатак, 450 год назад

у Празе выйшла кніжка — Псалтыр, цiснутая, як сказаў яе выдавец, «русскими словами, а словенским языком». Так пачалося беларускае кнігадрукаванне. Пачынальнікам гэтай вялікай справы быў слаўны сын беларускага народа, выдатны дзеяч сваёй эпохі, асветнік, гуманіст Францыск (Георгій) Скарына.

У біяграфіі нашага першадрукара яшчэ многае не высветлена. Даследчыкам яшчэ не ўдалося ўстанавіць год яго нараджэння, год смерці. Ёсць толькі меркаванні, што нарадзіўся ён не пазней 1490 года, а памёр каля 1540 года. Не высветленымі засталіся значныя перыяды яго жыцця і дзейнасці за мяжой і на радзіме.

Нямала спрэчак выклікае само імя Скарыны. Сам ён называў сябе Францыскам. Гэта імя побач з прозвішчам Скарына стаіць на ўсіх яго працах. А што ў яго было яшчэ і другое імя — Георгій, наконт гэтага бясспрэчных доказаў няма. Тым не менш ёсць некалькі друкаваных прац, прысвечаных Скарыне, дзе ён называецца толькі Георгіем. Таму, відаць, мэтазгодна, побач з імем Францыск, ставіць у дужках і імя Георгій, каб відаць было, што Францыск і Георгій Скарына гэта адна гістарычная асоба.

Даследчыкам яшчэ нямала прыйдзецца папрацаваць, каб у біяграфіі нашага першадрукара засталося як мага менш белых плям. Але тое, што мы ўжо ведаем пра яго, пра вялікі ўклад, які ён унёс у развіццё культуры славянскіх народаў, дае падставу лічыць Францыска Скарыну выдатным дзеячам свайго часу, носьбітам і правадніком гуманістычных ідэй, якія ў эпоху Рэнесанса ламалі і крышылі аковы сярэдневяковай схаластыкі, пабуджалі людзей да пазнання навакольнага свету, да актыўнай грамадскай дзейнасці, пракладвалі шлях навуцы і мастацтву.

Свежы вецер Адраджэння дасягаў, відаць, і слаўнага града Полацка, які быў вялікім культурным цэнтрам. Гэтаму, напэўна, спрыяла і гандлёвая дзейнасць бацькі Францыска, да якога прыязджалі дзелавыя людзі з розных гарадоў і краін, які і сам не раз бываў за мяжой у вялікіх культурных цэнтрах. Натуральна, што Францыску прыходзілася чуць апавяданні пра тое, што робіцца на белым свеце, і ў душы таленавітага юнака нараджалася жаданне ісці насустрач новым павевам, узбагачацца ведамі, рабіць дабро людзям.

Першым дакладным фактам з біяграфіі Скарыны з'яўляецца тое, што ў 1504 годзе ён быў залічан у Кракаўскі універсітэт. Такім чынам, трэба меркаваць, што

ў Полацку Скарына здолеў атрымаць такую падрыхтоўку, якая дала яму магчымасць паступіць у адзін з праслаўленых універсітэтаў Еўропы. Скончыўшы праз два гады універсітэт са ступенню бакалаўра філасофіі, Скарына гэтым не задаволіўся. Лічыў, відаць, што для таго, каб рабіць «доброе людем посполитым», набытых ведаў мала.

Як вынік гэтага даследчыкі называюць другі даставерны факт, засведчаны дакументамі. У 1512 годзе Скарына ўжо ў Падуанскім універсітэце, у якім тады, па тагачаснай мерцы, на высокім узроўні выкладаліся медыцына, батаніка, астраномія. Ён бліскуча вытрымлівае патрэбныя экзамены, і яму прысуджаецца высокая навуковая ступень доктара лекарскіх навук.

Цяпер малады вучоны быў узброены ўсімі ведамі для таго, каб прыступіць да ажыццяўлення пастаўленай задачы. Пяць наступных гадоў, аб якіх, што датычыцца дзейнасці Скарыны, даследчыкам нічога не вядома, пайшлі, напэўна, на арганізацыю справы. У 1517 годзе ён ужо ў Празе за працай, якой аддаў лепшыя гады свайго жыцця. Пасля выдання Псалтыра ён узяўся за пераклад з чэшскай мовы і друкаванне іншых кніг Біблії, працу над якой скончыў у 1519 годзе, надрукаваўшы 23 кнігі. І тут у поўнай меры выявілася тая жыццёвая мэта, якую ставіў сабе вялікі гуманіст і да ажыццяўлення якой ён рыхтаваўся, набываючы ўсебаковую адукацыю. Перакладаючы і друкуючы рэлігійныя кнігі, ён не імкнуўся ўсяліць у душу чалавека страх божы, каб чалавек адчуў сваю нікчэмнасць перад тварцом сусвету. Ён хацеў зрабіць чалавека пісьменным, даць яму веды, якія дапамаглі б яму ў жыцці, у вырашэнні асабістых і грамадскіх спраў. У прадмове да Псалтыра Скарына гаворыць, што друкуе гэту кніжку на карысць добрым людзям «наиболей с тое причины, ижэ мя милостивый бог с того языка на свет пустил». Са шматлікіх прадмоў, пасляслоўяў, каментарыяў да выдадзеных ім кніг выстаўляецца светапогляд Скарыны і грамадскае значэнне тае працы, якую ён лічыў для сябе самай важнай. Выдатны асветнік свядома і акрэслена ставіў сабе мэту зрабіць добрую справу на карысць людзям. І людзі гэтыя былі ў яго не абстрактныя. Ён ніколі не парываў духоўнай сувязі з народам, з якога выйшаў. Падпісваючы свае працы, не забываў падкрэсліць, што ён сын Скарыны з слаўнага града Полацка. Шырока вядома яго выслоўе аб любві кожнай істоты да роднай мясціны. «Тако ж и люди,— гаворыць ён,— где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому

месту великую ласку имають». Гэтай «ласкай» да роднай краіны і яе людзей прасякнута ўся дзейнасць вялікага асветніка. Сваю выдавецкую дзейнасць ён накіроўвае «к научению людем посполитым русского языка», з замілаваннем думаючы аб родным краі, «дзе жыве братия моя Русь».

У адпаведнасці з пастаўленай мэтай — каб яго кнігі служылі «людем посполитым к доброму научению», Скарына клапаціўся аб тым, каб мова яго кніг была зразумелаю гэтым людзям а паспалітым. А зразумелай яна будзе тады, калі будзе блізкай да тае мовы, на якой людзі штодзённа гавораць паміж сабой. Вось чаму, друкуючы Псалтыр, перакладаючы Біблію з чэшскай мовы на старажытнаславянскую, ён незразумелыя словы замяняе ў тэксце беларускімі або дае пераклад гэтых слоў «на боцех» кнігі. Тут жа дае тлумачэнні тых мясцін тэксту, якія могуць быць незразуметы. Такім чынам, не ставячы спецыяльнай лінгвістычнай задачы, а зыходзячы з чыста практычных меркаванняў, клапоцячыся, каб яго кнігі былі зразумелымі простым людзям, Францішак Скарына зрабіў значны ўклад у развіццё беларускай літаратурнай мовы, скарыстаўшы словы жывой гаворкі для перакладу рэлігійных кніг, чаго да яго ніхто не рабіў. Такое вальнадумства выклікала варожасць з боку царкоўнікаў. Яны ўбачылі ў гэтым злоснае парушэнне ўстаноўленых канонаў, якімі забаранялася мяняць не толькі словы, а нават літары кананічных тэкстаў.

Часам у людзей паўстае пытанне: чаму Скарына, паставіўшы сабе высакародную задачу, вырашаў яе шляхам выдання рэлігійных кніг? Адказ на гэта дае сам першадрукар. У дачыненні да Псалтыра ён гаворыць, што гэта кніга служыць для малых дзяцей пачаткам усякай добрай навукі (іначай кажучы, ён лічыць яе прыдатнай для першапачатковага навучання пісьменнасці), а дарослым прымнажае веды. Біблію ён перш за ўсё цэніць як багатую крыніцу разнастайных ведаў, якія могуць прыдацца чалавеку ў яго практычнай дзейнасці. З гэтай мэтай ён устанаўлівае ў тэкстах біблейскіх кніг сем «вызваленных», г. зн. не звязаных з рэлігійнымі канонамі, навук: граматыку, логіку, рыторыку, музыку, арыфметыку, права і гісторыю.

Для таго каб зразумець такую, на першы погляд, дзіўную пазіцыю вялікага гуманіста, трэба перанесціся ў сучасную яму эпоху, калі ідэалагічная барацьба, як на гэта ўказвае Ф. Энгельс, ахіналася часта ў рэлігійную

вопратку. Апрача таго, свецкай літаратуры ў той час амаль не было. Сярод вядомых Скарыне адзінкавых твораў ён, відаць, не бачыў такога, які мог бы проціставіць Бібліі ў сэнсе аб'ёму разнастайных, карысных, як ён лічыў, ведаў.

Закончыўшы пражскі перыяд свае выдавецкай дзейнасці, Скарына перабіраецца бліжэй да родных мясцін, у сталіцу Вялікага княства Літоўскага — Вільню, дзе з дапамогай сваіх высокапастаўленых прыяцеляў таксама наладжвае друкарскую справу і ў 1525 годзе выпускае «Апостал» і «Малую падарожную кніжыцу», прызначаную для задавальнення духоўных патрэб тых людзей, якіх справы прымушалі вандраваць па свеце.

На гэтым выдавецкая дзейнасць Скарыны скончылася ці абарвалася. Па якой прычыне, гэтага даследчыкам яшчэ не ўдалося дакладна ўстанавіць.

Пад канец свайго жыцця Скарына зноў пераехаў у Прагу, дзе працаваў на пасадзе садоўніка-батаніка ў каралеўскім батанічным садзе.

Тут і скончыў сваё жыццё першы беларускі друкар, першы ў Беларусі доктар медыцынскіх навук, вялікі асветнік-гуманіст, які горача любіў народ і паставіў мэтай свайго жыцця — даць гэтаму народу ў рукі ўпершыню надрукаваную на роднай мове кнігу «к доброму научению».

Слаўнымі прадаўжальнікамі асветніцкай справы Францыска Скарыны былі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Сцяпан і Лаўрэнцій Зізаніі, якія нямала зрабілі для развіцця беларускай кніжнай культуры. Аднак у сілу пэўных гістарычных умоў кніжная справа ў Беларусі не атрымала ў мінулыя стагоддзі належнага развіцця. Прычынай таму быў цяжкі нацыянальны і сацыяльны прыгнёт, які падаўляў усякае праяўленне нацыянальнай самасвядомасці. На працягу цэлых стагоддзяў, у часы Рэчы Паспалітай і потым царскага самадзяржаўя, беларускае слова было пад забаронай.

Каля 80 працэнтаў беларускага насельніцтва да рэвалюцыі было непісьменным. Натуральна, што пры такіх умовах аб нармальным развіцці культуры і кнігадрукавання не магло быць і гутаркі.

Такую магчымасць беларускі народ атрымаў толькі пасля таго, як Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя назаўсёды разбіла ланцугі нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, адкрыла нашаму народу шырокае поле дзейнасці ў сферах грамадскага жыцця, і ён стаў паўнапраўным членам вялікай сям'і савецкіх народаў.

Рэвалюцыя вызваліла кнігу ад неабходнасці служыць нямногім, зрабіла яе магутным сродкам духоўнага ўзбагачэння народа. Кнігавыдавецкая дзейнасць у Беларусі пачалася адразу ж пасля Кастрычніка, нягледзячы на цяжкія ўмовы, звязаныя з нямецкай і белапольскай акупацыямі. У 1924 годзе ў Мінску ўжо было выдадзена больш 150 назваў кніг, сярод іх творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Беларусы атрымалі магчымасць прачытаць на сваёй роднай мове творы Маркса і Энгельса. У 1929 годзе пачалося выданне Збору твораў У. І. Леніна. А ў мінулым, 1966 годзе ў БССР убачыла свет 1741 кніга і брашура, тыраж якіх перавышае 21 мільён экземпляраў.

Далёкі нашчадак скарынінскага друкарскага станка — Мінскі паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа дае больш за 170 тысяч экземпляраў кніг і брашур у суткі, працуючы не толькі на Беларусь, але і на ўсю краіну.

Кніга і цяпер, як сказаў некалі Скарына, служыць «людем посполитым к доброму научению», але людзей паспалітых, якім даступна кніжная мудрасць, сёння не дзесяткі і не сотні, а мільёны, і «доброе научение», азаронае святлом марксісцка-ленінскай тэорыі, робіць іх свядомымі будаўнікамі камуністычнага грамадства.

*1967*

# КАМЕНТАРЫІ

Другі і трэці тамы Збору твораў Кандрата Крапівы склала празаічная спадчына пісьменніка. У другі том выдання ўключаны творы малых празаічных формаў: зборнікі «Апавяданні» (1925), «Людзі-суседзі» (1928), іншыя апавяданні, а таксама нарысы, фельетоны, памфлеты і артыкулы. Фізічныя памеры тома не дазволілі ўключыць у яго ўсю «маламетражную» прозу пісьменніка, таму значная яе частка ўвойдзе ў наступны том выдання. У другі том адабраны тыя матэрыялы, якія друкаваліся ў ранейшых Зборах твораў пісьменніка, а дададзены тыя, якія блізкія ім тэматычна.

## Зборнік «АПАВЯДАННІ»

*Здаў «акзамінт»* (с. 6)

Упершыню надрукавана ў газ. «Сав. Беларусь» 13 верас. 1923 г. Датуецца 1923 г.

*Вясна* (с. 10)

Упершыню пад загалоўкам «Весна в деревне» надрукавана ў газ. «Красноармейская правда» 10 жн. 1922 г. на рус. мове. Датуецца 1922 г.

*На пасёлкі* (с. 12)

Упершыню надрукавана ў газ. «Беларус. вёска» 10 ліп. 1925 г. Датуецца 1925 г.

*Споведзь* (с. 19)

Упершыню надрукавана ў газ. «Сав. Беларусь» 4 кастр. 1923 г. Датуецца 1923 г.

*Як ён стаў бязбожнікам* (с. 21)

Упершыню надрукавана ў газ. «Сав. Беларусь» 3 лют. 1924 г. Датуецца 1924 г.

*Каровін мужык* (с. 23)

Упершыню надрукавана ў газ. «Сав. Беларусь» 27 верас. 1923 г. Датуецца 1923 г.

*Недарэчная штука* (с. 28)

Упершыню надрукавана ў зб. «Апавяданні». Датуецца 1925 г.

## Зборнік «ЛЮДЗІ-СУСЕДЗІ»

*Клас* (с. 32)

Упершыню надрукавана ў часоп. «Маладняк», 1925 г., № 8. Датуецца 1925 г.

*Пад грукат колаў* (с. 35)

Упершыню надрукавана ў часоп. «Маладняк», 1926 г., № 1. Датуецца 1926 г.

*Падарожнае* (с. 39)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Чырвоны сейбіт», 1926 г., № 5. Датуецца 1926 г.

*Смерць* (с. 42)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Чырвоны сейбіт», 1927 г., № 6—7. Датуецца 1927 г.

*Гарэлік і яго жонка* (с. 45)
Упершыню надрукавана ў зб. «Людзі-суседзі». Датуецца 1928 г.

*Ідэі* (с. 48)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 4. Датуецца 1927 г.

*Доўг* (с. 56)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 5. Датуецца 1927 г.

*Вайна* (с. 61)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 3. Датуецца 1927 г.

*Пальчык* (с. 65)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 3. Датуецца 1927 г.

*Певень* (с. 70)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 5. Датуецца 1927 г.

*Ліха яго разбярэ* (с. 75)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Маладняк», 1926 г., № 3. Датуецца 1926 г.

*Мой сусед* (с. 79)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 2. Датуецца 1927 г.

*Аднае раніцы* (с. 85)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 3. Датуецца 1926 г.

*Снег ідзе* (с. 87)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 3. Датуецца 1927 г.

*Людзі-суседзі* (с. 91)
Упершыню пад назвай «Ну й людзі! Ну й суседзі!» надрукавана ў часоп. «Маладняк», 1925 г., № 9. Датуецца 1925 г.

## ТВОРЫ МАЛЫХ ПРАЗАІЧНЫХ ФОРМАЎ

### Апавяданні, фельетоны, нарысы

*Хвост* (с. 96)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1928 г., № 1. Датуецца 1928 г.

*Вось тут і пішы* (с. 104)
Упершыню надрукавана ў часоп. «Узвышша», 1928 г., № 3. Датуецца 1928 г.

*На алкагольным фронце* (с. 111)
Упершыню надрукавана ў зб. «Жывыя праявы», 1930 г. Датуецца 1930 г.

*Каб кнігам ды ногі!* (с. 115)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 18 лют. 1933 г. Датуецца 1933 г.

*Пачатак шчасця* (с. 119)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 16 снеж. 1935 г. Датуецца 1935 г.

*З новым шчасцем!* (с. 122)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 1 студз. 1936 г. Датуецца 1935 г.

*Дзяніс Сырамаха* (с. 126)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 27 студз. 1936 г. Датуецца 1936 г.

*Каб весела было...* (с. 128)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 5 крас. 1936 г. Датуецца 1936 г.

*Жывыя і мёртвыя* (с. 130)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 9 снеж. 1936 г. Датуецца 1936 г.

*Апошняя пасылка* (с. 132)

Упершыню пад псеўданімам Астапчук надрукаваны ў газ. «Партызанская дубінка», 1943 г., студз., № 1. Датуецца 1943 г.

*Ёлкі і палкі* (с. 134)

Упершыню пад псеўданімам Астапчук надрукаваны ў газ. «Партызанская дубінка», 1943 г., студз., № 1. Датуецца 1943 г.

*Ух, ух — мы ўдвух!* (с. 135)

Упершыню пад псеўданімам Астапчук надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943 г., № 107. Датуецца 1943 г.

*Міхаіл Сільніцкі* (с. 136)

Упершыню надрукаваны асобнай кніжкай пад назвай «Герой Савецкага Саюза Міхаіл Сільніцкі» ў 1943 г. Датуецца 1943 г.

*Чаго ж яна «рада»?* (с. 148)

Упершыню пад псеўданімам Астапчук надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944 г., красав. № 127—128. Датуецца 1944 г.

*«Я быў у Трасцянцы»* (с. 149)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 6 верас. 1944 г. Датуецца 1944 г.

*Наглядная геаграфія* (с. 154)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944 г., лістап., № 135. Датуецца 1944 г.

*Лондан* (с. 156)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.», 16 сак. 1946 г. Датуецца 1946 г.

*Ці была ў яго галава?* (с. 162)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Вожык», 1945 г., № 5. Датуецца 1945 г.

*Расціце — не аглядайцеся* (с. 163)

Упершыню пад псеўданімам Мацей Доўгі надрукаваны ў часоп. «Вожык», 1946 г., № 11. Датуецца 1946 г.

*Сабачанё* (с. 165)

Упершыню пад псеўданімам Мацей Доўгі надрукаваны ў часоп. «Вожык», 1946 г., № 12. Датуецца 1946 г.

*Мая прынцыповасць* (с. 166)

Упершыню пад псеўданімам Мацей Доўгі надрукаваны ў часоп. «Вожык», 1946 г., № 13—14. Датуецца 1946 г.

*Ёсць на свеце дабрадзеі* (с. 168)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Вожык», 1946 г., № 15. Датуецца 1946 г.

*Над ракой Арэсай* (с. 170)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 24 і 30 крас. 1949 г. Датуецца 1949 г.

## АРТЫКУЛЫ, ІНТЭРВ'Ю, ПРАМОВЫ

*Беларускія прыказкі* (с. 184)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Узвышша», 1927 г., № 6. Датуецца 1926—1927 гг.

*Думкі пра сатыру* (с. 230)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Узвышша», 1928 г., № 3 (9). Датуецца 1928 г.

*Пра кітайскі мур* (с. 234)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Узвышша», 1929 г., № 1. Датуецца 1929 г.

*Што мне рупіць* (с. 238)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 10 лют. 1933 г. Датуецца 1933 г.

*Слова да малодшых* (с. 241)

Упершыню надрукаваны ў кн. «Заклік», кн. 2, 1933 г. Датуецца 1933 г.

*Пра перабудову і «недабудову»* (с. 250)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1934 г., № 9. Датуецца 1934 г.

*Дух захватвае ад радасці* (с. 264)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.», 3 кастр. 1939 г. Датуецца 1939 г.

*Стымул далейшага росту* (с. 265)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Чырвоная змена» 20 чэрв. 1940 г. Датуецца 1940 г.

*Белорусский народ живет и борется* (с. 266)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Известия» 14 сак. 1942 г. Датуецца 1942 г.

*Салют перамогі* (с. 269)

Друкуецца ўпершыню па рукапісе, які захоўваецца ў асабістым архіве пісьменніка (аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, ф. 22, воп. 1, адз. зах. 91). Датуецца 1944 г.

*П'есы і вобразы* (с. 270)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 10 студз. 1946 г. як урывак з прамовы на пленуме Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, які адбыўся ў канцы снежня 1945 г. Датуецца 1945 г.

*Замест прадмовы* (с. 277)

Упершыню надрукаваны ў кн. «Апавяданні» Я. Брыля. Мн., 1946 г. Датуецца 1946 г.

*Янка Купала* (с. 279)

Упершыню надрукаваны ў кн. «Выбраныя творы» Я. Купалы. Мн., 1946 г. Сааўтары — Ц. Гарбуноў, М. Лынькоў. Датуецца 1946 г.

*Чалавек — перш за ўсё* (с. 294)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 18 чэрв. 1946 г. Датуецца 1946 г.

*Беларуская савецкая драматургія за 1947 год* (с. 295)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 6 сак. 1948 г. як урывак з даклада на рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў, які адбыўся ў канцы лютага 1948 г. Датуецца 1948 г.

*Аб характары беларуса* (с. 308)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Беларусь», 1949 г., № 1. Датуецца 1948 г.

*Шкодная блытаніна ў пытаннях мовы* (с. 313)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 15 сак. 1949 г. Датуецца 1949 г.

*Мір належыць простым людзям* (с. 320)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 7 мая 1949 г. Датуецца 1949 г.

*Пятнадцать плодотворных лет* (с. 324)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Советское искусство» 6 верас. 1949 г. Датуецца 1949 г.

*Пісьменнік-бальшавік* (с. 329)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 26 лістап. 1949 г. Датуецца 1949 г.

*Нескарыстаныя магчымасці* (с. 330)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 11 сак. 1950 г. Датуецца 1950 г.

*Выдатны пісьменнік і чалавек* (с. 336)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 24 чэрв. 1950 г. Датуецца 1950 г.

*Войне не быть!* (с. 339)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Известия» 15 кастр. 1950 г. Датуецца 1950 г.

*Аб некаторых пытаннях беларускай мовы* (с. 340)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя», 1951 г., № 6. Датуецца 1951 г.

*Свята беларускай сацыялістычнай культуры* (с. 359)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 27 кастр. 1951 г. Датуецца 1951 г.

*Пытанні беларускага правапісу* (с. 361)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Весці Акадэміі навук БССР», 1952 г., № 2. Артыкул быў прачытаны як даклад 25 студз. 1952 г. на навуковай канферэнцыі па пытаннях беларускага правапісу, скліканай Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Датуецца 1951—1952 гг.

*Жыццё і творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа* (с. 378)

Упершыню надрукаваны як урывак з даклада на юбілейным вечары, 15 лістап. 1952 г., прысвечаным сямідзесяцігоддзю з дня нараджэння Якуба Коласа, у часоп. «Полымя», 1953 г., № 1. Датуецца 1952 г.

*Аб сатырычнай камедыі* (с. 394)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 31 кастр. 1953 г. Датуецца 1953 г.

*Канфлікт — аснова п'есы* (с. 400)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 11 снеж. 1954 г. Датуецца 1954 г.

*Вялікая дружба* (с. 410)

Артыкул прысвечаны трохсотгоддзю ўз'яднання Украіны з Расіяй. Друкуецца па рукапісе, які захоўваецца ў асабістым архіве пісьменніка (аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, ф. 22, в. 1, адз. зах. 115). Публікацыя не выяўлена. Датуецца 1954 г.

*Чым вялікі Маякоўскі?* (с. 411)

Упершыню надрукаваны ў кн. «Маякоўскі ў Беларусі». Мн., 1957 г. Датуецца 1957 г.

*Прамова на Чацвёртым з'ездзе СП БССР* (с. 412)

Упершыню надрукавана ў газ. «Літ. і маст.» 13 лют. 1959 г. Датуецца 1959 г.

*Прамова на сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР* (с. 416)

Упершыню надрукавана ў газ. «Звязда» 8 крас. 1959 г. Датуецца 1959 г.

*Прамова на з'ездзе настаўнікаў Беларускай ССР* (с. 419)

Упершыню надрукавана ў газ. «Літ. і маст.» 16 жн. 1960 г. Датуецца 1960 г.

*Віншую таленавіты калектыў* (с. 422)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 23 снеж. 1960 г. Датуецца 1960 г.

*Пачэсны абавязак — быць салдатам вялікага паходу* (с. 424)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 23 мая 1961 г. Датуецца 1961 г.

*Прадмова* (с. 426)

Упершыню надрукавана ў кн. «Анталогія беларускай паэзіі»: У 3 т. Мн., 1961, т. 1. Сааўтар — В. В. Барысенка. Датуецца 1961 г.

*Ад маленства да сталасці* (с. 438)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя», 1962 г., № 12. Датуецца 1958—1962 гг.

*Кветка шчасця* (с. 450)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 6 ліп. 1962 г. Датуецца 1962 г.

*О белорусской драматургии* (с. 453)

Упершыню надрукаваны ў кн. «Советские драматурги о своем труде», М., 1967. Датуецца 1967 г.

*Ён дарыў людзям радасць* (с. 465)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і маст.» 7 сак. 1967 г. Датуецца 1967 г.

*«Людем посполитым к доброму научению»* (с. 465)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 15 жн. 1967 г. Датуецца 1967 г.

## ЗМЕСТ

## АРТЫКУЛЫ, ІНТЭРВ'Ю, ПРАМОВЫ

**Крапіва К.**

**К78** **Збор твораў у 6 т. Т. 2. Апавяданні, фельетоны, памфлеты, артыкулы /Прадм., камент. С. Лаўшука.— Мн.: Маст. літ., 1997.— 479 с.**

ISBN 985-02-0372-2 (т. 2).

Другі том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Кандрата Крапівы (1896—1991) склалі апавяданні, фельетоны, памфлеты і артыкулы.

**ББК 84(4Беи)6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

КРАПІВА КАНДРАТ

(Кандрат Кандратавіч Атраховіч)

*Збор твораў у шасці тамах*

**Том 2**

*Апавяданні, фельетоны, памфлеты, артыкулы*

Рэдактар *Г. В. Роліч*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктары *Л. А. Дзядзюля, Л. М. Маслоўская, Я. А. Бебель*

Здадзена ў набор 04.11.97. Падп. да друку 11.12.97. Фармат $84\times108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 25,20. Ум. фарб.-адб. 26,04. Ул.-выд. арк. 27,36. Тыраж 3300 экз. Заказ 2488.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 15.01.93. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.